# HOMO HISTORICUS 2022

## The Annual of Antropological History

Edited by Aliaksandr Smalančuk
Doctor in History

Minsk
Zmicier Kolas Publisher
2022

# HOMO HISTORICUS 2022

## Гадавік антрапалагічнай гісторыі

Пад рэдакцыяй
доктара гістарычных навук Аляксандра Смаленчука

Мінск
Выдавец Зміцер Колас
2022

УДК 572+94(476)



Выдаецца пры падтрымцы *Orsa-Romano Cultural and Educational Foundation Inc.*

**Homo Historicus 2022.** Гадавік антрапалагічнай гісторыі / Пад рэд. д-ра гіст. н. А. Смаленчука. — Мінск : Выдавец Зміцер Колас, 2022. — 324 с., іл.

Homo Historicus 2022 працягвае традыцыі пяці папярэдніх тамоў (2008, 2009, 2012, 2016 і 2019 гг.) з іх арыентацыяй на пашырэнне антрапалагічнага стылю мыслення ў аналізе мінулага. Апублікаваныя тэксты датычаць суадносін біяграфіі навукі з біяграфіяй навукоўца, асвятляюць многія важныя і малавядомыя старонкі айчыннай гісторыі, працягваюць вывучэнне праблематыкі «краёвай ідэі» ды інш. Сярод аўтараў – вядомыя даследчыкі з Беларусі, Польшчы і Украіны.

**УДК** 572+94(476)

ISSN 2424-5216

# ЗМЕСТ

## Віленскі сшытак
## Vilna's notes



## Case study



## Дыялогі
## Dialoques



# НАВУКОВАЕ ЖЫЦЦЁ
# SCIENTIFIC LIFE

## Рэцэнзіі
## Reviews

ISSN 2424-5216

# ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ «МЫ ЗАКЛІКАНЫЯ ДА СВАБОДЫ…»

Падзеі лета і восені 2020 г. непазбежна вяртаюць гісторыка да Студзеньскага паўстання 1863–1864 гг. і яго славутага лозунга «За вольнасць нашу і вашу!». Героі паўстання вярнуліся да нас магіламі на Замкавай гары, каб яшчэ раз нагадаць пра Свабоду як найважнейшую ўмову жыцця чалавека і пра тое, што за яе трэба змагацца. Развітанне з імі ў форме ўрачыстага пахавання на славутых віленскіх Росах (22 лістапада 2019 г.), у якім удзельнічалі прэзідэнты Літвы і Польшчы, а таксама духоўныя іерархі розных веравызнанняў з гэтых краін, а таксама з Беларусі, між іншым засведчыла актуальнасць паўстанцкага лозунга ў першую чаргу для беларусаў. Менавіта ўдзел беларусаў пад нацыянальным сцягам надаў гэтай урачыстасці сапраўды масавы характар. Убачанае ў Вільні ў той халодны лістападаўскі дзень напаўняла радасцю і гонарам за свой народ і яго памяць.

Тэма Свабоды дамінавала таксама ў афіцыйных прамовах. Асабліва моцнае ўражанне зрабілі выступы кіраўнікоў каталіцкага касцёла Літвы і Беларусі Мітрапаліта Віленскага арцыбіскупа Гінтараса Грушаса і Мітрапаліта Менска-Магілёўскага арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.

## *Прамова Мітрапаліта Віленскага арцыбіскупа Гінтараса Грушаса падчас урачыстага пахавання парэшткаў паўстанцаў 1863 г.*

Дарагія браты і сёстры!

«За вольнасць нашу і вашу!» – такім быў лозунг удзельнікаў Паўстання. У Божым плане няма месца выпадку. Варта задумацца, якое актуальнае пасланне нясуць знойдзеныя два гады таму парэшткі паўстанцаў і сённяшняе пахаванне.

Паўстанне, якое выбухнула ў 1863 г., было змаганнем за нашу свабоду не толькі для літоўцаў, палякаў, беларусаў, але для ўсіх тых, хто не прызнаваў царскага ярма. Гэта была барацьба за роўнасць з іншым людзьмі, створанымі тым самым Богам, і за свабоду мець уласны голас. 22 студзеня 1863 г. літоўская версія Маніфеста Цэнтральнага нацыянальнага камітэта ў Польшчы абвясціла мэты Паўстання, менавіта «што ад гэтага дня ўжо няма няволі, бо няма ні пана, ні шляхціца, ні селяніна, ні жыда, а ўсе мы браты, цалкам роўныя як у вачах Пана Бога, так і нашай дарагой Айчыны». Гэта гучыць як парафраз слоў апостала Паўла ў лісце да Галятаў: «Няма ўжо Юдэя, ні язычніка; няма раба, ні вольніка; няма мужчынскага полу, ні жаночага: бо ўсе вы адно ў Хрысьце Ісусе» (Галатаў 3:28). Сапраўды, як апостал далей сцвярджае ў лісце: «Дык стойце ж у свабодзе, якую даў нам Хрыстос, і ня схіляйцеся зноў пад ярмо рабства» (Галатаў 5:1). Таксама ў другім лісце да Карынфянаў Павал піша: «Гасподзь ёсьць Дух; а дзе Дух Гасподні, там свабода» (2 Карынфянаў 3:17).

Мы бачым, што вольнасць і роўнасць з'яўляюцца не толькі спрадвечна чалавечымі, але таксама адвечна хрысціянскімі каштоўнасцямі. Гэта каштоўнасці, якія паходзяць з глыбіні чалавечай прыроды, і таму не толькі варта, але неабходна за іх змагацца. Касцёл заўсёды цаніў свабоду: свабоду сумлення, свабоду рэлігіі, свабоду выбару. Толькі свабодны чалавек можа любіць, і толькі свабодны чалавек можа ствараць.

У першым чытанні з Кнігі Макавейскай ёсць малітва за жаўнераў, якія загінулі ў бітве. Часы Макавеяў – гэта часы паўстанняў Ізраіля, калі ізраільцяне выступілі супраць законаў, звычаяў і рэлігіі, навязаных ім чужымі дзяржавамі. Падобна было ў той гістарычны перыяд, які зараз прыгадваем. Ужо ў Старым Запавеце мы сустракаем веру ва ўваскрашэнне памерлых, якая пацвярджае інтуіцыю, што не ўсё заканчваецца разам з канцом жыццёвага падарожжа, а барацьба за свабоду ніколі не бывае бессэнсоўнай. У Псалме рэспансерыйным мы чуем: «Ад Госпада выратаваньне праведнікам». У другім чытанні апостал Павал прыгадвае нам, што наш прыход у гэты свет не быў выпадковым. Там часта прагаворваецца, што ніхто не з'яўляецца самотным востравам. «Бо ніхто з нас не жыве дзеля сябе і ніхто не памірае дзеля сябе» (Рымлянаў 14:7). Бог прызначыў кожнаму з нас адметную місію, якая належыць толькі нам і якая ніколі не рэалізуецца ў ізаляцыі. Жыццё, дзеянні і смерць кожнага чала-

века датычаць таксама іншых. Мы нясем адказнасць за тое, які след пакідаем у гісторыі і ў сэрцах іншых людзей.

Кожнаму з нас адведзена ў Божым плане месца і місія, якія не з'яўляюцца лёгкімі. У Евангеллі чуем суровыя словы Ісуса Хрыста: «Сапраўды, сапраўды кажу вам: калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, то застанецца адно, а калі памрэ, то прыносіць шмат плоду» (Яна 12:24). Ісус найлепш зразумеў кошт місіі і паслугі: каб атрымаць плод, трэба нечым ахвяраваць. Часам нават уласным жыццём. Ведаючы, што яго чакае, Ісус казаў: «Цяпер душа Мая ўстрывожана; і што Я скажу? Ойча, збаў Мяне ад гэтае гадзіны; але ж дзеля гэтае гадзіны Я і прыйшоў» (Яна 12:27). Падобна адрэагаваў Зыгмунт Серакоўскі, калі сябра камітэта паўстанцаў Аляксандр Аскерка прыехаў да яго ў Пецярбург і прасіў стаць вайсковым начальнікам Ковенскага ваяводства. Ён сказаў: «Ты прыносіш мне смяротны прысуд». Але з просьбай пагадзіўся. «Хто любіць душу сваю, загубіць яе; а той, хто ненавідзіць душу сваю ў гэтым сьвеце, захавае яе ў жыцьцё вечнае» (Яна 12:25). Маючы адукацыю і добрую падрыхтоўку ў вайсковай справе, Серакоўскі выдатна разумеў, чым усё можа закончыцца. Серакоўскі ўсведамляў, што Паўстанне не падрыхтаванае, бо адсутнічае зброя. Ён нядаўна ажаніўся, распачаў сямейнае жыццё… Шмат чым рызыкаваў. Але шматгадовая прага да годнага жыцця ў дзяржаве, дзе пануе мір і роўнасць, была мацнейшай за імкненне да асабістага шчасця.

Мы закліканыя да свабоды. Мы створаныя па вобразу Бога і закліканыя да святасці. Калі забываем пра аснову стварэння, то спрабуем іншых заняволіць і перамагчы. У гісторыі гэта праяўляецца ў рознай форме – нацыянальнай, тэрытарыяльнай і нават рэлігійнай. Калі ўлада не бачыць чалавека як Божае стварэнне і падаўляе належныя яму правы, адчыняюцца дзверы для зла, якое нарастае, як снежная лавіна, і ператвараецца ў таталітарныя сістэмы і жахлівыя войны.

Сёння мы бачым настойлівыя і смелыя дзеянні Папы Францыска ў абароне найбяднейшых, эксплуатаваных, бежанцаў, людзей-маргіналаў. Бачым, як Папа хутка рэагуе яснымі і адназначнымі заявамі на вайсковыя аперацыі, на тэрарыстычныя атакі, заклікаючы апамятацца моцных гэтага свету. Святы Папа Ян Павал II у часы «Салідарнасці» казаў: «Не будуць баяцца вашай зброі, але будуць баяцца вашых слоў». Пра магутную сілу слова сведчаць таксама ўспаміны пра ксяндза Антонаса Мацкявічуса, яшчэ аднаго кіраўніка Паўстання, які хоць і не быў забіты ў Вільні, але стаіць у адным шэрагу з Каліноўскім і Серакоўскім. Варта прыгадаць, як падчас следства ў адказ на пытанне пра спосаб рэкрутавання паўстанцаў кс. Антонас адказаў: «Я абяцаў ім толькі свабоду Айчыны». Адзін з кіраўнікоў паўстання Якуб Гейштар, характарызуючы Каліноўскага, пісаў: «Пры сваёй незвычайнай вытрымцы і асабістай ахвярнасці ён быў самым выдатным і чыстым прадстаўніком непараўнальнага змоўшчыка; гэты чалавек адзін быў варты сотняў, бо ўмеў працаваць, ахвяра-

ваць сабою і хавацца». Ён вельмі глыбока адчуваў справядлівасць, быў не толькі кіраўніком, але перш за ўсё моцным інспіратарам Паўстання.

Хрысціянскі тэолаг першых стагоддзяў Тэртуліян сцвярджаў: «Кроў мучанікаў ёсць насеннем хрысціян». Арыштаваны і паранены Серакоўскі казаў пра забітых паўстанцаў, якіх назвалі «няўдачнікамі»: «Яны не няўдачнікі, яны – насенне Літвы, якое ў будучыні заквітнее чыстай свабодай!». І яшчэ адна станоўчая візія Каліноўскага: «Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толька зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе». Гэтыя словы – сведчанне моцнай веры ў сэнс змагання; сведчанне надзеі, якая перамагае тое, што пануе навокал; сведчанне ўмення зазірнуць у будучыню, якую яны не ўбачаць, але забяспечаць будучым пакаленням.

«[...]калі пшанічнае зерне [...] памрэ, то прыносіць шмат плоду». Мы часта падкрэсліваем заслугі славутых правадыроў паўстання, аднак не павінны забываць іншых людзей, якія змагаліся і загінулі або былі дэпартаваны. Усе яны сталі краевугольным каменем нашай свабоды. І ўсіх іх можна ў пэўным сэнсе назваць паўстанцамі. Іх смерць мела сэнс, і сёння мы павінны падзякаваць ім за нашу вольнасць.

Напрыканцы трэба нагадаць, што надзея з’яўляецца трансцэндэнтнай, Божай цнотай. Яна дапамагае захаваць уласную пазіцыю, нягледзячы на ўсе цяжкасці, пераслед і нават пагрозу смерці. У лісце да Піліпянаў чытаем: «А нашае грамадзянства – у небе, адкуль мы і чакаем Збаўцу, Госпада Ісуса Хрыста, Які зьменіць выгляд цела паніжэньня нашага, каб яно сталася падобным да цела славы Яго, дзеяньнем, якім Ён можа падпарадкаваць Сабе ўсё» (Піліпянаў 3:20-21). Дзякуючы гэтым жаўнерам за тое, што аддалі сваё жыццё «за нашу [...] вольнасць», сёння падчас урачыстага пахавання будзем маліцца пра літасць Божую для іх.

*Пераклад з польскай мовы Аляксандра Смаленчука*

## *Прамова арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча падчас урачыстага пахавання парэшткаў паўстанцаў 1863 г.*

Глыбокапаважаныя спадары
Прэзідэнт Літвы Гітанас Наўседа і Прэзідэнт Польшчы Анджэй Дуда,
Ваша Эксцэленцыя арцыбіскуп Гінтарас Грушас, Мітрапаліт Віленскі,
шаноўныя Эксцэленцыі,
паважаныя кіраўнікі афіцыйных дэлегацый Беларусі, Латвіі і Украіны,
прадстаўнікі дзяржаўных улад,
духоўныя асобы, вернікі, умілаваныя браты і сёстры, у тым ліку пілігрымы з Беларусі!

Божы Провід дазваляе нам браць удзел у перапахаванні парэшткаў удзельнікаў паўстання 1863–1864 гг. Гара Гедыміна – сімвал Вільні – два гады таму

адкрыла нам сваю таямніцу. Нарэшце скрытыя на працягу паўтараста гадоў парэшткі герояў паўстання былі адшуканы і сёння з пашанай пераносяцца на месца вечнага спачыну на могілкі Роса ў Вільні.

У Бога няма выпадковасці. Магчыма, так трэба было, каб мы зноў узгадалі пра тых, хто аддаў сваё жыццё ў трагічных абставінах, імкнучыся здабыць волю.

Паўстанцы былі прадстаўнікамі розных народаў і веравызнанняў. Але ўсе яны змагаліся з царызмам за свабоду сваіх народаў і за іх агульную свабоду – змагаліся «за нашу і вашу свабоду».

Сярод іх Кастусь Каліноўскі, сын беларускага народа, лідар нацыянальнага вызваленчага руху, публіцыст і паэт, высакародны чалавек, які вызначаўся надзвычайнаю сілаю духа і з'яўляўся адным з кіраўнікоў паўстання. Таму сённяшняя падзея мае вялікае значэнне таксама і для Беларусі.

Кастусь Каліноўскі належыць нашай гісторыі як той, хто заклаў аснову самасвядомасці беларусаў як асобнай еўрапейскай нацыі, якая мае права на самавызначэнне.

У ім і яго паплечніках мы бачым узор альтруізму, самаахвярнасці, усведамлення ўласнае годнасці.

Хоць у жыцці і барацьбе паўстанцаў былі разнастайныя аспекты, якія цяжка ахапіць у некалькіх сказах, і хоць само паўстанне не прынесла жаданага плёну, тым не менш яно пакінула свой след у гісторыі.

Узгадваючы тыя далёкія гістарычныя падзеі, мы не імкнёмся раздзіраць загоеныя раны і пасыпаць іх соллю. Наадварот, мы хочам яшчэ раз асэнсаваць, да чаго можа прывесці адсутнасць любові да бліжняга і павагі да яго правоў, якія ён атрымаў ад Бога, каб падобнае больш ніколі не паўтарылася.

Мы таксама жадаем маліцца за паўстанцаў-мучанікаў, магілы якіх яшчэ зусім нядаўна не былі вядомыя, і аднавіць братэрскія адносіны з суседнімі народамі і вернікамі розных веравызнанняў. Нішто так не аб'ядноўвае, як пралітая за агульныя ідэалы кроў.

Сімвалічна, што перапахаванне парэшткаў паўстанцаў адбываецца ў Вільні – горадзе Божай Міласэрнасці. Сваімі малітвамі мы спадарожнічаем загінулым паўстанцам і даручаем іх душы міласэрнаму Богу.

Вечны адпачынак дай ім, Пане, а святло вечнае няхай ім свеціць. Няхай адпачываюць у супакоі. Амэн[1].

***

Тэматыка Свабоды і Несвабоды належыць да дамінуючых у томе VI гадавіка *Homo Historicus*.

---

[1] [Рэжым доступу] https://catholic.by/3/news/belarus/10722-slova-artsybiskupa-tadevusha-kandrusevicha-padchas-tsyrymonii-perapakhavannya-kastusya-kalino-skaga-vilni Дата доступу: 10.05.2021

© HOMO HISTORICUS 2022
ISSN 2424-5216

# БІЯГРАФІЯ НАВУКІ І НАВУКОЎЦА
# BIOGRAPHY OF SCIENCE AND SCIENTISTS

## НАВУКА ПРА ЧАЛАВЕКА АБО ЧАЛАВЕК У НАВУЦЫ: ЛЯ ВЫТОКАЎ АНТРАПАЛАГІЧНАЙ НАВУКІ Ў БЕЛАРУСІ

***Алег Яноўскі,***
*канд. гіст. навук (Менск)*

***Валянціна Яноўская,***
*канд. гіст. навук (Менск)*

***Summary***

*This article, relying on archival documents, shows the complex and contradictory process of the formation of anthropological science in the BSSR in the 1920s – 1930s, which was often accompanied by the collapse of plans and the breaking of fates of researchers. Two stages are highlighted and characterized, completely different in their essence, character and scientific significance: 1) 1920s; 2) the first half of the 1930s. And, if the work of one group of scientists, taking into account the share of convention, can be called constructive, then others destroyed everything that researchers of different generations and scientific schools tried to «build». As a result, anthropological science in the BSSR was curtailed, without having time to develop, until the mid-1960s.*

Беларуская антрапалагічная навука да яе інстытуцыяналізацыі – адкрыцця аспірантуры ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (1965) па спецыяльнасці «антрапалогія» для падрыхтоўкі кваліфікаваных нацыянальных кадраў – прайшла складаны і супярэчлівы шлях. А калі прадстаўляць гэты шлях праз лёсы тых, хто стаяў ля вытокаў гэтага працэсу, то яго можна назваць нават трагічным, бо суправаджаўся ён не толькі крушэннем планаў і навуковых перспектыў, але нярэдка і самога фізічнага існавання – жыцця.

Наогул, антрапалагічныя даследаванні ў Беларусі распачаліся напрыканцы XIX ст. і праводзіліся яны расійскімі і польскімі навукоўцамі. Што тычыцца характарыстык бела-

русаў, то адным з найважнейшых пытанняў, якія закраналіся ў гэты перыяд, было пытанне аб іх этнічным паходжанні. Асноватворным пасылам канца XIX – пачатку XX ст. у дадзеным пытанні з'яўлялася сцвярджэнне, што беларусы з'яўляюцца складовай часткай рускага народа.

Класічны выклад такой тэзы прадстаўлены ў працы вядомага рускага антраполага, географа і этнографа-ўсходазнаўца Яўхіма Міхайлавіча Чапуркоўскага. У ліпені 1918 г. у Беларускім народным універсітэце ў Маскве ён прачытаў лекцыю пад назвай «Антропология белоруссов», якая пазней была апублікавана[1]. Абвясціўшы на пачатку, што «беларусы ёсць складовая частка рускага народа», навуковец пабудаваў лекцыю на доказе гэтага тэзіса. Ён адкінуў класіфікацыі шэрагу іншых тагачасных даследчыкаў і, як прыхільнік тэорыі геаграфічнага размеркавання антрапалагічных прыкмет, прапанаваў уласны падыход. Паводле Я. Чапуркоўскага, адзінай прыкметай, якая дазваляе вызначыць рэальнае генетычнае сваяцтва паміж тыпамі, з'яўляецца форма галавы, «якой яна нам уяўляецца зверху». Менавіта гэта прыкмета, адзначаў ён, паказвае, што беларус – блізкі сваяк вялікароса. І дадаваў, што гэта выснова, хаця і патрабуе дадатковых даследаванняў, але адпавядае высновам іншых навук, галоўным чынам гісторыі рассялення рускага народа.

Першыя спробы стварэння ўласна беларускай (нацыянальнай па змесце) антрапалогіі былі распачаты яшчэ ў 1920-я гады ў перыяд станаўлення і разгортвання палітыкі беларусізацыі. Але доўгі час дадзеная прабленматыка заставалася практычна па-за ўвагай беларускіх гісторыкаў і антраполагаў. І толькі ў апошнія гады ў ходзе падрыхтоўкі да друку калектыўнай працы[2] былі знойдзены раней невядомыя архіўныя дакументы, якія праліваюць святло на самыя першыя і, мабыць, самыя цяжкія крокі станаўлення антрапалагічнай навукі ў Беларусі.

У гістарычнай літаратуры, прысвечанай пачатковаму перыяду станаўлення і развіцця антрапалагічных ведаў у БССР, як правіла, звяртаецца ўвага толькі на фармаванне арганізацыйных структур. Так, адзначаецца, што Антрапалагічная камісія ў складзе Медыцынскай секцыі Інстытута беларускай культуры (ІБК) была ўтворана ў 1926 г., а пасля рэформы структуры Інбелкульта ў 1927 г. была пераўтворана ў кафедру антрапалогіі. Аднак больш уважлівае прачытанне матэрыялаў Цэнтральнага навуковага архіва Нацыянальнай

[1] Чепурковский Е. М., *Антропология белоруссов* // Курс белоруссоведения: лекции, читанные в Белорусском народном университете в Москве летом 1918 года: с библиографическим указателем по каждому вопросу и с приложением этнографической карты белорусского племени акад. Е. Ф. Карского. Москва, 1918–1920, с. 145–151.

[2] *Антропология Беларуси в исследованиях конца XIX – середины XX в.* / сост. О. В. Марфина [и др.]; авт. ист. коммент. В. В. Яновская; науч. ред. И. И. Саливон, О. В. Марфина. Минск, 2017.

акадэміі навук Беларусі (ЦНА НАНБ) сведчыць, што Антрапалагічная камісія ў складзе Медыцынскай секцыі ІБК пачала працаваць з лістапада 1924 г. Пацвярджэннем гэтай даты служыць шэраг дакументаў, якія захоўваюцца ў фондзе № 67 ЦНА НАН Беларусі: пратакол пасяджэння Антрапалагічнай камісіі ад 12 лістапада 1925 г.; пратаколы агульнага сходу Медыцынскай секцыі ІБК ад 13.02.1925 г. і ад 23.02.1925 г. (абмяркоўвалася дзейнасць Антрапалагічнай камісіі); пратакол пасяджэння Антрапалагічнай камісіі, выдзеленай Медсекцыяй Інбелкульта ад 20 лютага 1925 г.; шэраг іншых дакументаў.

Ініцыявалі разгортванне антрапалагічных даследаванняў беларусаў менскія лекары Юльян Лютынскі[1] (старшыня камісіі), Сямён Валачковіч[2] і Герман Гольдблат[3]. Падтрымку і зацікаўленасць у дзейнасці новай структуры ў складзе Медыцынскай секцыі дэманстраваў яе старшыня Іван Іванавіч Цвікевіч[4].

---

1 Дадзеныя пра лёс Юльяна Лютынскага, акрамя яго дзейнасці ў структурах Інбелкульта, не выяўлены.

2 Валачковіч Сямён Іванавіч (нарадз. у 1878 г.) у верасні 1921 г. быў арыштаваны па справе антысавецкай арганізацыі «Зялёны Дуб». У той час ён быў вядомым у Менску псіхіятрам, загадваў гарадской дэзінфекцыйнай камерай і пражываў у кватэры, перададзенай яму Адамовічамі. Падчас следства ён паказаў, што год таму Вячаслаў Антонавіч Адамовіч (у мінулым рэдактар газеты «Паўночна-Заходні тэлеграф») са сваім сынам Вячаславам з’ехаў у Польшчу. У выніку Валачковіч быў абвінавачаны ў неданясенні і асуджаны на два гады зняволення. Адбываў пакаранне ў Менскім працоўным лагеры. У далейшым С. І. Валачковіч – першы кіраўнік «псіхіятрычнай калоніі» (да 1930 г.), на базе якой быў створаны Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр псіхічнага здароўя («Навінкі»).

3 Гольдблат Герман Восіпавіч (Аскаравіч, Асеравіч) (1878–1937) – псіхіятр, доктар медыцынскіх навук, прафесар. Вучыўся на медыцынскім факультэце Юр’еўскага ўніверсітэта, працягнуў вучобу ў Кіеўскім універсітэце. З 1923 да 1927 г. быў загадчыкам псіхіятрычнага аддзялення 2-й Савецкай бальніцы ў Менску. У 1927 г. выязджаў у навуковую камандзіроўку на два месяцы ў Швецыю і Данію. З 1927 да 1929 г. – галоўны лекар Палтаўскай псіхіятрычнай бальніцы, па сумяшчальніцтве асістэнт псіхіятрычнай клінікі пры медыцынскім факультэце БДУ. У 1929–1934 гг. – загадчык кафедры псіхіятрыі Томскага ўніверсітэта (з 1931 г. – Томскага медыцынскага інстытута), у 1934–1937 гг. – загадчык кафедры псіхіятрыі Менскага медыцынскага інстытута.

4 Цвікевіч Іван Іванавіч (1891–1938) – лекар, публіцыст, грамадскі дзеяч. Скончыў медыцынскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта (1914). Разам з братам Аляксандрам быў сярод кіраўнікоў Беларускай сацыялістычнай грамады, працаваў у складзе Цэнтральнага беларускага бежанскага камітэта. У 1921–1923 гг. быў супрацоўнікам савецкага пасольства ў Германіі, падтрымліваў сувязі з дзеячамі Беларускай Народнай Рэспублікі. У 1922 г. у часопісе ўрада БНР «Беларускі сцяг» апублікаваў нарыс «Канстанцін Каліноўскі» пад псеўданімам Іван Трызна. У 1924 г. пераехаў у Менск. Быў сябрам калегіі Наркамата аховы здароўя, працаваў загадчыкам аддзела ў Белдзяржвыдавецтве. У 1924 г. узначаліў Медыцынскую секцыю ў ІБК і Тэрміналагічную

Сярод архіўных дакументаў захоўваецца ліст за подпісамі Ю. Лютынскага і С. Валачковіча, адрасаваны ў Інстытут беларускай культуры, у якім зроблена спроба апісаць і абгрунтаваць псіхічны тып беларуса. Пры гэтым апрача ўласных лекарскіх назіранняў аўтары звярталіся да гісторыі Беларусі і разглядалі праблему ў гістарычным кантэксце. У аснову даследаванняў была пакладзена найноўшая для таго часу канцэпцыя нямецкага прафесара Э. Крэчмера пра тое, што душэўны ўклад, воля і характар чалавека знаходзяцца ў біялагічнай сувязі з цялесным абліччам, знешнасцю і фізічным развіццём.

Тэорыя Э. Крэчмера[1] і асабістыя лекарскія назіранні сталі падставай для пэўных высноў. Заключаліся яны ў наступным: а) што пераважны беларускі тып, насуперак геаграфічным апісанням, – шызатэмічны; б) пад шызатэмічнай паверхняй, а ў дадзеным выпадку пад празмернай гістарычнай цярплівасцю і ўяўнай эмацыйнай абыякавасцю, можна знайсці значную глыбіню, менавіта вернасць прынцыпам і схільнасць да адукацыі моцна-валявых індывідаў. Аўтары сцвярджалі, што нягледзячы на атачэнне значна больш моцнымі фізічна і эканамічна арганізмамі (Украіна, Польшча, Вялікаросія), Беларусь вельмі слаба асімілявалася. У якасці доказу прыводзіліся наступныя факты: а) узмацненне нацыянальнага тыпу ў паветах на мяжы з суседнімі дзяржавамі; б) вонкава ўкраінізаваны Мазырскі павет захаваў беларускі ўклад; в) рэдкая жывучасць і нацыянальная чысціня некаторых станіц на Доне, складзеных з беларускіх уцекачоў з-пад «панскай няволі» ў XVI–XVII стст. І, нарэшце,

---

камісію пры ёй. У 1930 г. І. Цвікевіч быў арыштаваны па сфабрыкаванай справе Саюза вызвалення Беларусі. Асуджаны на пяць гадоў лагера. Пасля вызвалення пасяліўся ў г. Усць-Канску Алтайскага краю. У 1938 г. быў паўторна арыштаваны і асуджаны Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР да расстрэлу. У 1960 г. рэабілітаваны Судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР.

[1] У аснову класіфікацыі Эрнста Крэчмера пакладзена наяўнасць сувязі паміж псіхатыпам чалавека і канстытуцыяй яго цела (астэнічны від – худыя і высокія, з падоўжанымі рукамі і нагамі і слабаразвітай мускулатурай; атлетычны від – дужыя, з добра развітай мускулатурай, сярэдняга або вышэй сярэдняга росту; пікнічны від – схільныя да паўнаты, са слаба развітымі цягліцамі і апорна-рухальным апаратам, сярэдняга або невялікага росту; дыспластычны від – зборны тып, ён аб’ядноўваў усе магчымыя адхіленні ад нормы і быў абумоўлены, галоўным чынам, парушэннямі нармальнай дзейнасці залоз унутранай сакрэцыі). Э. Крэчмер супаставіў псіхатып асобы са схільнасцю да той ці іншай псіхапаталогіі і згрупаваў іх у два тыпы асобы. Шызатымікі – псіхічна здаровыя людзі атлетычнага або астэнічнага целаскладу, аддалена нагадваюць хворых на шызафрэнію. Уласцівыя ім рысы характару: артыстычнасць, адчувальнасць, адчужанасць, эгаістычнасць, уладарнасць. Цыклацімікі – псіхічна здаровыя людзі пікнічнага целаскладу, якія нагадваюць хворых маніякальна-дэпрэсіўным псіхозам. Гэта вясёлыя, аптымістычныя, таварыскія, легкадумныя людзі. Тэорыя Э. Крэчмера паслужыла асновай для наступных больш складаных тыпалогій характару. Пазней навукоўцы прыйшлі да высновы, што канстытуцыя цела сапраўды ўплывае на характар.

высновы аўтараў ліста: «Насуперак сцвярджэнням большасці гісторыкаў і антраполагаў, што нязмешаныя нацыі з'яўляюцца нацыямі заняпаду, Беларусь дае сімптомы жывучасці і прагрэсу, доказ чаго можна бачыць у вялікім імкненні да ведаў, паляпшэнні зямельнай гаспадаркі і хуткім фармаванні нацыянальнай інтэлігенцыі» (гл. Дадатак 1).

Гэты ліст, як сцвярджалі аўтары, быў напісаны з мэтай прыцягнуць увагу і прасіць садзейнічання ІБК у даследаваннях нацыянальнага тыпу. Разуменне неабходнасці ажыццяўлення падобных пошукаў з боку кіраўніцтва Медыцынскай секцыі прасочваецца ў тым, што літаральна праз тры дні пасля атрымання згаданага ліста адбылося пасяджэнне секцыі, на якім заслухалі інфармацыю Ю. Лютынскага аб антрапалагічных даследаваннях, што праводзіліся ў Беларусі. І тут высветлілася, што калі лекары паразумеліся ў асэнсаванні галоўнай мэты сваёй працы, а менавіта ў вызначэнні антрапалагічнага тыпу беларуса, што было цалкам зразумела ва ўмовах палітыкі беларусізацыі, то ў дачыненні да выбару методыкі даследаванняў меліся рознагалоссі. Так, Юльян Лютынскі і Сямён Валачковіч вялі антрапалагічныя даследаванні на аснове тэорыі прафесара Э. Крэчмера, а Герман Гольдблат прапаноўваў займацца антрапалагічнымі вымярэннямі і на гэтай падставе ахарактарызаваць антрапалагічны тып беларуса[1].

Старшыня Медыцынскай секцыі Іван Цвікевіч падтрымаў лекараў. Ён звярнуўся ў прэзідыум Інбелкульта з просьбай абраць Лютынскага і Валачковіча «сябрамі-супрацоўнікамі ІБК» па Медыцынскай секцыі, што дазволіла ў сакавіку 1925 г. камандзіраваць Ю. Лютынскага ў Ленінград для кансультацый, а таксама атрымання антрапалагічнай літаратуры і неабходных для даследаванняў прылад[2].

Пра дзейнасць Антрапалагічнай камісіі ў першы год яе існавання захавалася няшмат звестак, якія ўтрымліваюцца галоўным чынам у пратаколах пасяджэнняў. Абагулена яны прадстаўлены ў «Пратаколе гадавога пасяджэння Антрапалагічнай камісіі ад 12 лістапада 1925 г.»[3]. Пералік зробленага невялікі, але з улікам мізэрных фінансавых магчымасцей (адзначаецца, што камісіяй было атрымана 150 руб., з якіх 100 руб. выдаткавана на двухтыднёвую камандзіроўку ў АН СССР) уражвае працоўны энтузіязм яе сяброў. У дакладзе адзначалася, што за год было праведзена «шырока пастаўленае» псіхафізічнае даследаванне сялян (400 чал.), а таксама даследаванні крыві (500 чал.); рабіліся вымярэнні навабранцаў; прымалі ўдзел у экспедыцыі ў Сібір і г. д. Акрамя таго, сябры камісіі падрыхтавалі даклады для ўключэння ў праграму меркаванага Усебеларускага кангрэса. Так, Лютынскі прапанаваў тэму: «Псіхафізіч-

1 Цэнтральны навуковы архіў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (далей: ЦНА НАНБ). Ф. 67, воп. 1, спр. 37, арк. 1.

2 Тамсама, арк. 2, 4.

3 Тамсама, спр. 11, арк. 2–4.

нае аблічча і характарыстыка Беларускага селяніна»; праф. Лявонаў – «Біялагічная каштоўнасць Беларускай моладзі»; Аляксееў – «Расава-біялагічны індэкс беларускіх сялян»[1].

Спрэчкі па дакладзе засведчылі цяжкія ўмовы, у якіх праводзіліся антрапалагічныя даследаванні: адсутнасць грошай, неабходных інструментаў і памяшкання для лабараторыі. Адзначалася, што меркаваная экспедыцыя на Палессе не адбылася па прычыне адсутнасці фінансавання. Кіраўніцтва ІБК неаднаразова звярталася то ў Інстытут эксперыментальнай біялогіі (Масква), то ў Ваенна-медыцынскую акадэмію (Ленінград) з просьбай пра бясплатную перадачу сываратки «для расавага біялагічнага даследавання беларускіх сялян»[2]. Але гэтага відавочна не хапала. У выніку дзейнасць камісіі паступова стала запавольвацца, а потым і зусім згасла. І першае гадавое пасяджэнне Антрапалагічнай камісіі было скончана прыняццем даволі песімістычнай рэзалюцыі: «Антрапалагічная камісія [...] паказвае прэзідыуму Інбелкульта, што без памяшкання, інструментаў і лабараторыі ніякая праца не можа працягвацца. Старшына Камісіі Ю. Лютынскі»[3].

Магчыма, гэта рэзалюцыя, якая была крыкам адчаю, стала прычынай роспуску Антрапалагічнай камісіі. Канкрэтных дакументаў пра прыняцце такога рашэння не знойдзена, але захаваўся пратакол пасяджэння Медыцынскай секцыі ад 30 лістапада 1925 г., у якім адзначалася: «Пастанавілі: заслухаць даклад старшыні антрапалагічнай падсекцыі, выявіць яе працаздольнасць і высвятліць пытанне аб перадачы яе ў Этналагічную камісію»[4].

Храналагічны разрыў, які існуе ў даступнай нам базе крыніц, дазваляе выказаць меркаванне, што Антрапалагічная камісія спыніла дзейнасць, а затым яе прыйшлося ствараць зноўку. Як і ў першым выпадку, дакументаў аб стварэнні камісіі выявіць не ўдалося. Але сярод архіўных матэрыялаў была знойдзена «Запіска да плану працы І.Б.К. на 1926/27 год», у якой адзначалася: «Антрапалагічная камісія заснавана толькі ў 1926/27 акадэмічным годзе і толькі цяпер разгортвае сваю працу»[5]. Узначаліў яе Аляксандр Карлавіч Ленц[6], які яшчэ

---

1 Тамсама, арк. 3 адв.

2 Тамсама, спр. 37, арк. 38, 40.

3 Тамсама, спр. 11, арк. 4.

4 Тамсама, арк. 39.

5 Тамсама, спр. 24, арк. 170.

6 Аляксандр Карлавіч Ленц (5.05.1882–16.06.1952) – доктар медыцынскіх навук, прафесар, скончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта (1907), Ваенна-медыцынскую акадэмію (1913). Пасля абароны дысертацыі на званне вучонага спецыяліста па неўралогіі і псіхіятрыі (доктар медыцыны) быў абраны лектарам-выкладчыкам (прыват-дацэнтам) Ваенна-медыцынскай акадэміі (Ленінград). У Менск

раней, згодна з пратаколам пасяджэння Медыцынскай секцыі ад 24 снежня 1925 г., быў прыняты ў склад секцыі[1].

Новая Антрапалагічная камісія будавала сваю працу на навуковай аснове. Была складзена праграма даследаванняў адпаведна міжнародным стандартам антрапалагічных вымярэнняў і праграме АН СССР. Дзеля разгортвання дзейнасці камісіі былі вылучаны сродкі: 700 руб. – на закупку інструментаў і 200 руб. – на апрацоўку матэрыялаў па антрапалагічных даследаваннях. Ужо ў 1926 г. былі праведзены даследаванні беларусаў-прызыўнікоў Менскай акругі (760 чал.). Вынікі гэтай працы знайшлі адлюстраванне ў артыкуле А. Смірнова, апублікаваным у зборніку «Этнографія. Антрополёгія. Псыхолёгія. Псыхотэхніка і навуковая організацыя працы. Гісторыя мастацтва». Былі праведзены антрапалагічныя вымярэнні дзяцей школьнага ўзросту ў Менску і Гомелі. Улетку 1927 г. адбылася антрапалагічная экспедыцыя на Палессе (раён Князь-возера), у ходзе якой было праведзена абследаванне 436 сялян-беларусаў. Усе дадзеныя былі апрацаваны па метадзе варыяцыйнай статыстыкі. Пашырэнню дыяпазону дзейнасці паспрыяла складанне табліц для вылічэння індэксаў твару і чэрапа. Распачалося камплектаванне лабараторыі для вывучэння вышэйшай нервовай дзейнасці па метадзе ўмоўных слюнааддзяляльных рэфлексаў акадэміка І. Паўлава, перанесенага на чалавека прафесарам А. Ленцам і А. Смірновым.

У выніку рэфармавання ІБК (1927) камісія была пераўтворана ў кафедру, якую ўзначаліў А. Ленц. У дакументах аб дзейнасці кафедры адзначаецца,

---

Аляксандр Ленц, як ужо прызнаны спецыяліст у галіне псіхіятрыі і неўралогіі, прыехаў па запрашэнні дэкана медыцынскага факультэта БДУ Міхаіла Барысавіча Кроля. Захаваўся пратакол пасяджэння праўлення БДУ ад 14 красавіка 1925 г., на якім было заслухана пытанне аб зацвярджэнні А. Ленца «прафесарам кафедры псіхіятрыі». У кастрычніку 1926 г. ён быў абраны старшынёй Антрапалагічнай камісіі пры Медыцынскай секцыі ІБК, затым – загадчыкам кафедры антрапалогіі, дырэктарам Інстытута вышэйшай нервовай дзейнасці Беларускай акадэміі навук. А. Ленц стаў заснавальнікам першых сістэмных антрапалагічных даследаванняў беларусаў, якія выявілі іх несумненныя адметныя характарыстыкі – фізічныя і псіхічныя. Працуючы ў Беларусі, вучоны шмат зрабіў для папулярызацыі сярод насельніцтва рэспублікі ведаў пра чалавека. У першую чаргу гэтаму спрыяла яго праца ў якасці прафесара двух факультэтаў БДУ – медыцынскага, права і гаспадаркі. Яго высокапрафесійныя лекцыі дазволілі падрыхтаваць сотні спецыялістаў-медыкаў, дзясяткі экспертаў і практыкаў у галіне судовай псіхіятрыі. Уся выкладчыцкая і навуковая дзейнасць А. Ленца грунтавалася на выніках яго сістэмных даследаванняў, якія мелі вялікае значэнне ў тэарэтычных і практычных адносінах. У Беларусі вучоны выдаў некалькі фундаментальных прац, у якіх між іншым адлюстраваліся вынікі экспедыцыйных пошукаў і лячэння пацыентаў.

[1] ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 11, арк. 35.



*Прафесар А. Ленц са студэнтамі медыцынскага факультэта БДУ. Канец 1920-х гг. З фондаў Музея гісторыі медыцыны Беларусі*

што даследаванні праводзіліся ў двух напрамках: у галіне антрапаметрыі і вывучэння вышэйшай нервовай дзейнасці. У якасці сваіх першачарговых задач кафедра вызначыла: «а) выявіць расавы і біялагічны тып беларуса, выявіць характэрныя рысы беларусаў, якія аддзяляюць іх ад іншых родственных народнасцяў; б) вызначыць як змяняецца функцыянальны тып беларуса ад уплыву ўмоў жыцця; в) даследаваць мазгавую дзейнасць; г) устанавіць асноўныя тыпы вышэйшай нярвовай дзейнасці беларусаў»[1].

План навуковай дзейнасці ўключаў ажыццяўленне антрапалагічных даследаванняў, якія павінны былі ахапіць усе раёны Беларусі. Меркавалася правядзенне экспедыцый, а таксама наладжванне сувязі з антрапаметрычнымі пунктамі ў розных гарадах. Мэтай працы з'яўлялася ўсталяванне пераемнасці фізічнага тыпу насельніцтва ад старажытных часоў да сучаснасці. Таксама ставілася задача вызначэння на падставе вывучэння груп крыві, вымярэння артэрыяльнага ціску паказчыка тонусу шкілетнай мускулатуры і спіраметрыі функцыянальнага тыпу абследаваных. Сабраны матэрыял дазволіў упершыню ахарактарызаваць фізічнае развіццё і фізіялагічныя паказчыкі крыві і абмену рэчываў у абследаваных дзяцей, моладзі і дарослага насельніцтва.

[1] Тамсама, спр. 3, арк. 132.

Улетку 1929 г. кафедрай антрапалогіі была запланавана экспедыцыя па вывучэнні сялянскага насельніцтва ў Полацкім і Слуцкім раёнах. Асаблівасцю экспедыцыі стаў яе комплексны характар: спецыялісты кафедры павінны былі акрамя антрапалагічнага даследавання сялян праводзіць па дамоўленасці з кафедрай гісторыі беларускай мовы вывучэнне моўных асаблівасцей, а паводле дамоўленасці з кафедрай этнаграфіі – вывучэнне вядзьмарства і замоў. Матэрыялы, сабраныя ў гэтай і папярэдніх экспедыцыях, былі апрацаваны і часткова апублікаваны А. Ленцам і супрацоўнікамі кафедры[1].

Іншыя вынікі даследаванняў былі згублены падчас Другой сусветнай вайны. Што тычыцца даследаванняў, заснаваных на прымяненні метаду класіфікацыі па крыві, то, абапіраючыся на ўспаміны Яўхіма Кіпеля, можна выказаць здагадку: менавіта гэтыя даследаванні, а дакладней іх вынікі, якія сведчаць аб тым, што кроў беларусаў адрозніваецца ад крыві рускіх, сталі прычынай забароны прымянення дадзенага метаду. Матэрыялы былі адпраўлены ў Маскву і ў ІБК ужо не вярнуліся[2].

У ходзе згортвання палітыкі беларусізацыі і правядзення так званай «чысткі» апарату Беларускай акадэміі навук кафедры антрапалогіі было пастаўлена ў віну, што яна нічога не рабіла дзеля сацыялістычнага будаўніцтва, а толькі выконвала заказ «нацдэмаў па вышуканьню антрополёгічнага тыпу беларуса». Шальмаванне кафедры і яе кіраўніка атрымала шырокі розгалас. Гэтаму, відаць, паспрыялі рашэнні Першага Усесаюзнага з'езда па вывучэнні паводзін чалавека, які адбыўся 25 студзеня – 1 лютага 1930 г. Як паведамлялася пра яго

1 Ленц А. К., Матар'ялы да організацыі антрополёгічных дасьледванняў на Беларусі // Этнографія. Антрополёгія. Псыхолёгія. Псыхотэхніка і навуковая організацыя працы. Гісторыя мастацтва. Менск, 1928, с. 55–69; ён жа, Аб метадзе дасьледвання вышэйшай нэрвовай дзейнасці чалавека, як складанай частцы антрополёгічных дасьледванняў // «Запіскі аддзелу прыроды і народнай гаспадаркі Беларускай Акадэміі навук». Менск, 1929. Т. 3, с. 67–70; ён жа, Антропологічні досліди на Білорусі // «Антропологія. Річник кабінету ім. Ф. Вовка». Київ, 1929. Т. 3, с. 26–28; Ю. М. Верамецкая, Разьмеркаванне груп крыві сялян беларусаў Магілёўскай і Менскай акругі // «Запіскі аддзелу прыроды і народнай гаспадаркі Беларускай Акадэміі навук». Менск, 1929. Т. 3, с. 77–82; Смірноў А. А., Антрополёгічная характарыстыка групы беларусаў Менскае акругі (рэкруты нараджэння 1904 г.) // Этнографія. Антрополёгія. Псыхолёгія. Псыхотэхніка і навуковая організацыя працы. Гісторыя мастацтва. Менск, 1928, с. 71–87; ён жа, Новыя даныя аб чарапох курганнага перыяду // «Запіскі аддзелу гуманітарных навук» / Ін-т беларус. культуры. Менск, 1930. Кн. 11: Працы катэдры археолёгіі. Т. 2, с. 379–381; Эйнгорн Д. Л., Матар'ялы да антропомэтрычнага вывучэньня беларусаў і яўрэяў г. Менску ўва ўзросце 6–14 год // Этнографія. Антрополёгія. Псыхолёгія. Псыхотэхніка і навуковая організацыя працы. Гісторыя мастацтва. Менск, 1928, с. 109–129 ды інш.

2 Кіпель Я., Эпізоды. Нью-Ёрк, 1998, с. 87.

ў часопісе «Комуністычнае выхаваньне», з'езд «больш-менш аднадушна прышоў да вываду, што трэба прасякнуць марксысцкай методолёгіяй псыхонэўролёгічныя навукі». Сутнасць гэтага «прасякнення» бачылася аўтару ў наступным: «Марксысцкая псыхолёгія абапіраецца на рэзультаты вывучэньня законамернасьці грамадзкага разьвіцьця, г. зн. на гісторычны матэрыялізм»[1].

Праз два месяцы пасля з'езда ў Менску ў Доме асветы адбыўся дыспут па пытаннях паводзін чалавека, на якім прафесара Ленца прымусілі публічна пакаяцца і адрачыся «ад сваіх памылак адносна псіхікі». Але гэтага прыхільнікам марксізму было недастаткова. Тым больш што ў пачатку 1931 г. у ходзе падрыхтоўкі да «першай у СССР і першай у свеце» канферэнцыі па планаванні навукі (красавік 1931 г.) ідэалагізацыя навукі яшчэ больш узмацнілася. Так, у артыкуле пад назвай «Наука о человеке в период ожесточенных классовых боев» адзначалася неабходнасць з найвялікшай пільнасцю падысці да асноўных ідэалагічных установак, якімі дагэтуль кіраваліся цэлыя галіны навукі. Падкрэслівалася, што «пільнасць» асабліва важная ў антрапалогіі[2].

У тагачаснай атмасферы неабходна было даць негатыўную характарыстыку ўсім навуковым напрамкам работы кафедры, каб абгрунтаваць аднагалосныя высновы камісіі Рабоча-сялянскай інспекцыі (РСІ) аб яе нежыццяздольнасці. Сваімі сіламі абвергнуць справы і навуковыя высновы кафедры антрапалогіі, дзе працавалі высокакласныя спецыялісты[3], Менская гарадская кантрольная камісія РСІ не магла. Прааналізаваўшы 100 анкет пазаштатных інспектараў, мы вызначылі наступнае: а) 56 % з іх былі па нацыянальнасці беларусамі, 42 % – габрэямі, 1 – татарын, 1 – «турчанка»; б) па ўзроўні адукацыі толь-

---

1 Панкевіч П., Псыхонэўролёгічныя навукі ў СССР і марксізм // «Комуністычнае выхаваньне». 1930, № 3, с. 48.

2 Дьяков П., Наука о человеке в период ожесточенных классовых боев // «Фронт науки и техники». 1931, № 6, с. 60.

3 Усе супрацоўнікі, з якімі працаваў А. Ленц як ва ўніверсітэце, так і на кафедры антрапалогіі, былі вядомымі спецыялістамі ў галіне псіхіятрыі і неўралогіі. Што тычылася падбору спецыялістаў, то тут, як сведчаць дакументы, галоўным крытэрыем для прафесара Ленца быў прафесіяналізм супрацоўніка. Улічваліся таксама і яго беларускія карані. Так, выбіраючы асістэнта на кафедру псіхіятрыі БДУ з двух прэтэндэнтаў (супрацоўнік псіхіятрычнай клінікі 1-га МДУ С. Г. Жыслін і дацэнт Саратаўскага ўніверсітэта Н. В. Зандэр), Ленц зрабіў стаўку на першага. У якасці асноўных матываў выбару адзначалася, што ён малады, але разам з тым «ужо заявіў пра сябе» ў прафесіі, мае апублікаваныя навуковыя працы па спецыяльнасці (у т. л. на нямецкай мове) і жаданне «прысвяціць усе свае сілы медыцынскаму будаўніцтву яго радзімы – Беларусі». Думаецца, падобныя якасці (прафесіяналізм і любоў да роднай зямлі) сталі падставай для А. Ленца, каб запрасіць і С. Валачковіча. Актыўна супрацоўнічалі з А. Ленцам не толькі ў БДУ, але і ў камісіі (затым на кафедры) антрапалогіі ІБК (пазней БАН) А. Смірноў, Р. Раскіна, Г. Гольдблат і інш.

кі 8(!) чалавек мелі сярэднюю адукацыю, 41 – пачатковую, 33 – хатнюю. Супраць прозвішчаў астатніх пазначана: «малапісьменны», «ніякая», «няма»; в) крыху больш за палову складалі беспартыйныя (53 чалавекі), астатнія – члены КП(б)Б або ЛКСМБ[1]. Такім чынам, тыповым пазаштатным інспектарам быў беларус або габрэй з пачатковай адукацыяй, беспартыйны або сябра КП(б)Б ці ЛКСМБ.

Тэрмінова прыйшлося шукаць адукаванага спецыяліста. Гэта роля выпала на долю ўраджэнца Беларусі, арганізатара сістэмы медыцынскай адукацыі ў рэспубліцы (адзін з першых дэканаў медфака БДУ) і першага рэктара Медыцынскага інстытута доктара медыцынскіх навук прафесара Міхаіла Барысавіча Кроля. 1930 год быў пераломным у яго навуковым і кар’ерным лёсе. Сітуацыя, якая склалася вакол яго прызначэння на пасаду кіраўніка інстытута, грамадска-палітычнае становішча ў краіне заахвоцілі прафесара стаць у 1930 г. кандыдатам у члены партыі (членам ВКП(б) ён стаў у 1932 г.)[2]. Жорсткае выступленне на сходзе «па чыстцы кафедры антрапалогіі БАН», верагодна, стала праверкай яго палітычнай лаяльнасці. Трэба адзначыць, што давер партыі ён цалкам апраўдаў.

У дакладзе прафесара Кроля выразна прасочваліся дзве лініі: ідэалагічная і навуковая. Хоць, як адзначаў сам аўтар, ідэалагічная характарыстыка кафедры (ці, як тады казалі, «политическое лицо») і ацэнка навуковай каштоўнасці яе дзейнасці цесна звязаныя. І менавіта дэманстрацыя гэтай сувязі была асноўнай задачай дадзенага выступу. Гэта мэта, мяркуючы па дакладзе і яго наступствах, была дасягнута.

З навуковых напрамкаў працы кафедры найбольшыя нападкі прыйшліся на распрацоўку методыкі вызначэння расава-біялагічных індэксаў крыві. Прычым крытыцы падвергліся не толькі высновы, якія сведчылі аб тым, што кроў беларусаў адрозніваецца ад крыві рускіх, але і арганізацыйныя моманты. Кафедру папракалі ў тым, што яна адмовілася ад сумеснай працы з антраполагамі Масквы, якія планавалі правесці антрапалагічныя даследаванні ва ўсіх саюзных рэспубліках. Праўда, кіраўніцтва кафедры заключыла дамову з ленінградскімі навукоўцамі, аднак, як адзначыў М. Кроль, «праф. Ленц у сваёй справаздачы скромна змаўчаў, што ліст быў падпісаны махровым чорнасоценцам Карскім, вялікадзяржаўным шовіністым». І дадаў, што падобная «пераклічка ў пытаньнях самабытнасьці паміж нацдэмамі і вялікадзяржаўным шовіністым вельмі характэрна. Яны саюзьнікі ў барацьбе супроць ленінскай нацыянальнай палітыкі»[3]. У цэлым навуковая дзейнасць кафедры была аха-

---

1 Дзяржаўны архіў Менскай вобласці. Ф. 36п., воп. 1, спр. 162, арк. 36–137.

2 ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 365, арк. 2 адв., 10.

3 Кроль М. Б., «Навука» на службе ў нацдэмаў // «Комуністычнае выхаваньне». 1931, № 3–4, с. 14.

рактарызавана Кролем як «ілжэнавука», а ад Аляксандра Ленца ён патрабаваў яе рашучага асуджэння.

Цяжка паверыць у шчырасць гэтых слоў. Пяць гадоў таму гэты чалавек настойліва запрашаў А. Ленца на працу ў БДУ і быў перакананы ў яго прафесійнай падрыхтоўцы. Больш таго, М. Кролю як дэкану медыцынскага факультэта была добра вядомая навуковая дзейнасць прафесара Ленца. Навуковы складнік таксама займаў вялікае месца ў працы прафесара са студэнтамі. Апошняе тычылася не толькі кіраўніка псіхіятрычнай клінікі БДУ, але і ўсіх яе супрацоўнікаў. Тым больш што многіх з іх А. Ленц прыцягваў да навуковых даследаванняў у галіне антрапалогіі. Так, падчас навучальнага працэса доктар А. Смірноў праводзіў адмысловыя заняткі па вывучэнні ўмоўных рэфлексаў і па методыцы антрапалагічных даследаванняў. Для студэнтаў 5-га курса медфака, як адзначыў у справаздачы аб навукова-педагагічнай дзейнасці псіхіятрычнай клінікі за 1926–1927 акадэмічны год яе кіраўнік, кожная лекцыя па псіхіятрыі «суправаджалася дэманстрацыямі хворых і на некаторых лекцыях дэманстраваліся метады даследавання ўмоўных рэфлексаў». А вынікі навуковых даследаванняў, як правіла, публікаваліся ў навуковых часопісах і зборніках, якія выдаваліся ў Менску, Маскве, Ленінградзе, Кіеве, а таксама за мяжой. Напрыклад, за 1926–1927 навучальны год імі было падрыхтавана і апублікавана 28 навуковых артыкулаў, з іх 5 (аўтары А. Ленц і Г. Гольдблат) на замежных мовах. Найбольшая колькасць работ (11, у тым ліку адна ў суаўтарстве з А. Смірновым) была падрыхтавана А. Ленцам, 6 артыкулаў – Г. Гольдблатам (тры ў суаўтарстве) і інш.[1]

Больш таго, за год да азначаных падзей прафесарам Кролем у артыкуле «Аб навуковай рабоце медфака БДУ за ўвесь час яго існавання (1921–1928 гг.)», апублікаваным у часопісе «Беларуская мэдычная думка» (1929, № 1), былі падведзены вынікі навуковай дзейнасці за першыя гады існавання БДУ. У ёй была дадзена выключна станоўчая ацэнка працы псіхіятрычнай клінікі пад кіраўніцтвам А. Ленца. У якасці дасягненняў клінікі адзначалася паспяховае выкарыстанне методыкі ўмоўных складаных рэфлексаў І. Паўлава, а таксама сцвярджалася, што прафесар А. Ленц і доктар А. Смірноў атрымалі каштоўныя вынікі пры даследаванні эпілептыкаў.

Імкнучыся хоць часткова захаваць кадры і тыя напрамкі, якімі займалася кафедра, яшчэ ў верасні 1930 г. А. Ленц падаў у Прэзідыум БАН заяву з просьбай даць былой кафедры антрапалогіі назву «Інстытут па вывучэнню паводзін і мазгоў чалавека» з дадаткам спіса штатных супрацоўнікаў меркаванага

[1] Яновская В. В., Яновский О. А., Александр Карлович Ленц // Интеллектуальная элита Беларуси. Основоположники белорусской науки и высшего образования (1919–1981) / Под науч. ред. О. А. Яновского. Минск, 2020, с. 85.



*Заява А. Ленца ў Прэзідыум ІБК наконт супрацоўнікаў Інстытута вывучэння паводзін і мазгоў чалавека. 1930 г. З фондаў ЦНА НАНБ*

інстытута[1]. У гэты ж час Беларуская акадэмія навук шукала новыя падыходы да фармавання навуковых планаў. На пасяджэнні Прэзідыума БАН 8 верасня 1930 г. было прынята рашэнне аб неабходнасці «ўвязкі» работы ўсіх устаноў Акадэміі адзінай навуковай праблемай. Было распрацавана і прапанавана некалькі тэм: а) крытыка буржуазных і нацыяналістычных поглядаў у навуцы і палітыцы; б) нацыянальная культура і пралетарыят; в) Польшча і Заходняя Беларусь; г) барацьба з рэлігіяй; д) тэорыя і практыка правага апартунізму

1 ЦНА НАНБ. Ф. 1, воп. 1, спр. 6, арк. 78.

ў БССР. Кафедра антрапалогіі абавязвалася браць удзел у двух тэмах: «крытыка буржуазных і нацыяналістычных поглядаў у навуцы і палітыцы» і «барацьба з рэлігіяй»[1].

Але пачалася рэарганізацыя, і на базе кафедры быў створаны Інстытут вышэйшай нервовай дзейнасці, які ўзначаліў А. Ленц. Аднак вельмі хутка ўстанова была перайменавана ў Псіханеўралагічны інстытут, які ўзначаліў М. Кроль. Даследаванні ў інстытуце праводзіліся ў галіне фізіялагічнага вывучэння псіхозаў, сацыяпатыі і іншых пытанняў псіхіятрыі[2]. А між тым супрацьстаянне А. Ленца і М. Кроля працягвалася. У лістападзе 1931 г. прафесар Кроль апублікаваў артыкул у навуковым часопісе «Журнал невропатологии и психиатрии», дзе ў чарговы раз падвергнуў зневажальнай крытыцы дзейнасць ужо зліквідаванай кафедры антрапалогіі і яе былога кіраўніка прафесара Ленца[3].

Неабходнасці ў публікацыі гэтага артыкула не было. Ён быў здадзены ў рэдакцыю яшчэ ў студзені 1931 г., «па гарачых слядах». Больш за тое, у крытычнай ацэнцы дзейнасці кафедры гэты артыкул паўтараў толькі што апублікаваны іншы артыкул М. Кроля ў рэспубліканскім часопісе «Комуністычнае выхаваньне». Магчыма, менавіта паўторнае вынясенне «смецця з хаты», прычым на саюзны ўзровень і з узмацненнем палітычнага складніка, абурыла да таго вытрыманага і спакойнага А. Ленца, тым больш што падставы для абурэння былі. Прывядзём толькі адну вытрымку з гэтага артыкула, якая характарызуе канцэптуальны падыход яе аўтара да ацэнкі дзейнасці кафедры: «Працу кафедры антрапалогіі БАН можна зразумець толькі з аналізу шляхоў беларускай нацыянал-дэмакратыі. Палітычная яе праграма цалкам адпавядала праграмам буржуазіі іншых нацый: вялікарускай, украінскай, грузінскай і г. д., пра якія У. І. Ленін пісаў, што яны гатовыя былі прадаць Расію каму заўгодна, абы задушыць, знішчыць савецкую ўладу»[4].

У пошуках праўды прафесар Ленц звярнуўся ў Прэзідыум БАН з просьбай разгледзець сітуацыю, якая склалася. Пазней у камісію ім быў пададзены разгорнуты аналіз артыкула М. Кроля з каментарыямі. Гэты цікавы дакумент утрымліваў як ацэнку навуковага складніка тэксту прафесара Кроля, так і каментарыі да прыведзенай характарыстыкі «политического лица» прафесара Ленца. Менавіта гэты, апошні аспект, як сцвярджаў сам А. Ленц, і падштурх-

---

[1] Тамсама, арк. 150–151.

[2] Макаревич В. С., Михаил Сергеевич Кроль // Интеллектуальная элита Беларуси. Основоположники белорусской науки и высшего образования (1919–1941) / Под науч. ред. О. А. Яновского. Минск, 2017, с. 95.

[3] Кроль М. Б., «Наука» о поведении на службе у националистов (По материалам бригады РКИ по чистке кафедры антропологии Белор. акад. наук) // «Журнал невропатологии и психиатрии». 1931, № 1, с. 25–34.

[4] Тамсама, с. 25.

нуў яго звярнуцца ў Прэзідыум БАН з просьбай разгледзець артыкул М. Кроля з удзелам прадстаўнікоў секцыі навуковых работнікаў пры Беларускім прафсаюзе работнікаў асветы[1].

Цалкам гэты дакумент прыведзены ў Дадатку. Звернем увагу толькі на адказы А. Ленца на абвінавачанні ў палітычнай «недальнабачнасці». У прыватнасці, у дакуменце чытаем: «Па канструкцыі артыкула не дасведчаны чытач можа падумаць, што Ленц у красавіку 1918 г. «коленопреклоненно» прасіў Вільгельма ўзяць беларускі народ пад абарону (у той час як Ленц да канца 1918 г. знаходзіўся ў Чырвонай Арміі далёка ад БССР); што Ленц друкаваўся ў газеце «Звон» у Менску ў 1919 г. (а Ленц у гэты час працаваў у Ваенна-Медыцынскай Акадэміі ў Ленінградзе); далей гэты ж «нацдемовский герой» запрашаў Пілсудскага, вёў перамовы з Дзянікіным, Скарападскім і г. д. Паводле Кроля, Ленц падчас акупацыі Беларусі даказваў, што «бальшавікі псіхічна хворыя». Насамрэч Ленц заняў кафедру псіхіятрыі па настойлівым запрашэнні дэкана Медыцынскага факультэта праф. Кроля ў 1925 г., а раней не меў аніякага дачынення да спраў Беларусі»[2].

10 студзеня 1932 г. адбылося пасяджэнне камісіі «па справе праф. Ленца»[3], на якім было прынята рашэнне даручыць члену камісіі Гершэльману азнаёміцца з артыкулам М. Кроля і прадставіць інфармацыю па сутнасці справы на разгляд камісіі 13 студзеня 1932 г.[4].

У прызначаны дзень камісія ў прысутнасці А. Ленца і М. Кроля прыняла адпаведнае рашэнне. Прыводзім гэты дакумент цалкам на мове арыгіналу з захаваннем арфаграфіі: «Камісія азнаёміўшыся з артыкулам пр. Кроля, заявай пр. Ленца, матэрыяламі і пастановай па чыстцы БАН, а таксама з дадатковым тлумачэннем пр. Ленца і Кроля канстатуе, што 1) артыкул пр. Кроля зьмешчаны ў часопісу «Нэўропатолёгія і псіхіатрыя» супадае з матэрыя-

---

[1] ЦНА НАНБ. Ф. 1, воп. 1, спр. 410, арк. 170.

[2] Тамсама, арк. 165.

[3] У яе склад былі ўключаны: акадэмік, сябар Прэзідыума БАН Павел Якаўлевіч Панкевіч; акадэмік, сябар Прэзідыума БАН Віталь Андрэевіч Сербента; акадэмік, сябар Прэзідыума БАН Езекіім Ісаакавіч Рыўлін і Гершэльман. Далейшы лёс абышоўся сурова з сябрамі камісіі. Так, Е. Рыўлін быў арыштаваны ў 1933 г. і высланы ў Казахстан. Пасля адбыцця тэрміну з 1938 г. працаваў у педінстытуце ў г. Алма-Ата. В. Сербента быў арыштаваны ў 1937 г., у 1956 г. рэабілітаваны, працаваў у Інстытуце філасофіі АН БССР. Пра П. Панкевіча вядома, што ён быў арыштаваны органамі НКУС БССР у снежні 1937 г., асуджаны як «сябар нацыянал-фашысцкай арганізацыі і шкоднік», расстраляны ў чэрвені 1938 г., а ў 1956 г. рэабілітаваны [Электронный рэсурс]. База дадзеных Мемарыяла. Рэжым доступу: https://base.memo.ru/person/show/2831621. Дата доступу: 01.07.2021). Ідэнтыфікаваць асобу Гершэльмана не атрымалася.

[4] ЦНА НАНБ. Ф. 1, воп. 1, спр. 410, арк. 161.

лам па чыстцы БАН, дае правідловую політычную ацэнку дзейнасці катэдры антраполёгіі БАН, на чале якой стаяў пр. Ленц, ніякіх элемэнтаў асабістай беспадстаўнасьці і шальмаваньня пр. Ленца ў сабе не мае. 2) Заява Ленца і яго тлумачэньне ў камісіі, у якіх груба скажае сэнс артыкула Кроля з усёй яскравасьцю сьведчыць аб тым, што а) пр. Ленц не разумее палітычнай сутнасці сваіх памылак, б) па сутнасьці нязгодзен з пастановай камісіі па чыстцы БАН, хаця фармальна ў свой час ён прызнаў іх правідловым, в) зусім не разумее характару і ролі пролетарскай крытыкі і самакрытыкі і змаганьня з варожымі плынямі ў тэорыі. 3) Камісія лічыць, што выступленьне тав. Ленца супроць артыкула Кроля, у якім выкрываецца нацдэмаўскі характар дзейнасьці катэдры, у поўнай адпаведнасьці з матэрыяламі і пастановай камісіі па чыстцы БАН адлюстроўвае спробы нацдэмаўскіх элемэнтаў «узяць рэванш» і рэвізаваць правадзімую партыяй барацьбу з нацдэмамі»[1].

Нягледзячы на суровае рашэнне камісіі, як сведчаць архіўныя дакументы, прафесар Ленц яшчэ спадзяваўся знайсці прымяненне сваім ведам і вопыту ў Беларусі, хоць і не ў рэчышчы папярэдніх антрапалагічных даследаванняў. Тэматычны план работы Псіханеўралагічнага інстытута на 1933 г. засведчыў, што яму была запланавана тэматыка па вывучэнні неўрозаў: «Класіфікацыя неўрозаў у сувязі з вывучэннем вегетатыўнай нярвовай сістэмы» і «Крытыка існуючых сістэм псіхатэрапіі»[2].

Але ўжо ў наступным годзе пад ціскам абставін Аляксандр Ленц быў вымушаны вярнуцца ў родны Ленінград на пасаду загадчыка кафедры Вышэйшых медыцынскіх курсаў пры бальніцы імя прафесара Нячаева (пазней – Трэцяга дзяржаўнага Ленінградскага медыцынскага інстытута). Адначасова ён стаў акруговым псіхіятрам Ленінградскай ваеннай акругі, а з 1940 г. узначальваў кафедру псіхіятрыі Ваенна-марской медыцынскай акадэміі. У гады Другой сусветнай вайны палкоўнік медыцынскай службы Аляксандр Ленц быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

У 1932 г. пераехаў у Маскву ўжо акадэмік М. Б. Кроль. Характэрна, што ў аўтабіяграфіі і розных справаздачных дакументах Міхаіл Барысавіч ніколі не згадваў вышэйапісаныя падзеі ўласнага навуковага жыцця. А вось у характарыстыцы, якая захавалася ў асабовай справе акадэміка, сцвярджаецца наступнае: «У 1931 г. пасля разгрому нацыянал-дэмакратычных элементаў Беларускай акадэміі навук быў (М. Б. Кроль – *аўт.)* абраны членам БАН і членам яго Савета. Пры БАН ён арганізаваў Псіханеўралагічны інстытут, першым дырэктарам якога быў прызначаны»[3].

[1] Тамсама, арк. 159.

[2] Тамсама. Производственный план Белорусской академии наук на 1933 г. Минск, 1933, с. 68.

[3] Тамсама. Ф. 67, воп. 1, спр. 365, арк. 7.

Пасля гэтых поўных драматызму падзей згадка пра антрапалагічную навуку ў сценах БАН (а затым і АН БССР) сустракаецца толькі ў сувязі са спробамі стварэння першай у гісторыі Беларусі энцыклапедыі, якая атрымала ў айчыннай гістарыяграфіі назву «расстраляная энцыклапедыя». Большасць яе аўтараў і кіраўнікоў былі рэпрэсаваныя і панеслі розныя пакаранні. Рашэнне аб стварэнні энцыклапедыі было прынята 21 красавіка 1934 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б. Меркавалася выдаць 10 тамоў БелСЭ, а выхад першага тома планаваўся ўжо да кастрычніка 1934 г. Выкананне ўскладалася на БАН[1].

Першым этапам падрыхтоўкі энцыклапедыі стала распрацоўка беларускамоўных тэрміналагічных слоўнікаў для наступнага напісання па іх артыкулаў паводле ўсталяваных лімітаў. Праекты слоўнікаў друкаваліся асобнымі выпускамі, адзін з якіх уключаў прапанаваныя да падрыхтоўкі назвы артыкулаў па антрапалогіі[2]. У якасці складальніка «антрапалагічнай» часткі гэтага выпуску значыўся Бейлін Ілья Аронавіч[3]. Слоўнік антрапалагічных тэрмінаў, складзены І. Бейліным, уключаў 213 меркаваных артыкулаў з паказанай колькасцю знакаў – ад 40 да 6 080. Да гэтай колькасці артыкулаў былі далучаны яшчэ

---

[1] Селицкая В., Селеменев В., Расстрелянная энциклопедия [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://www.sb.by/articles/entsiklopediya-kotoroy-ne-bylo.html. Дата доступу: 26.01.2021.

[2] Праект слоўніка. Выпуск VIII. Антрапалогія. Археалогія. Этнаграфія. Міфалогія. Менск, 1935.

[3] У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца падрабязны «жыццяпіс» Ільі Аронавіча, у якім ён апісвае свае дзіцячыя і наступныя гады жыцця. Выклікае захапленне яго ўменне прыстасавацца да рэзкіх жыццёвых паваротаў, але разам з тым і пастаяннае імкненне змяніць сітуацыю. У гады Першай сусветнай вайны ён быў кантужаны і патрапіў у нямецкі ваенны лазарэт у Прусіі, дзе прыняў актыўны ўдзел у арганізацыі школы граматы для расійскіх палонных. Пасля няўдалых спроб пабегу з палону быў адпраўлены спачатку ў Бельгію, затым у Францыю, быў у Дрэздэне, Лейпцыгу і г. д. У Менск вярнуўся толькі ў 1919 г. Перажыў польскую акупацыю, смерць бацькі. Затым – Чырвоная армія. У 1921 г. перахварэў тыфам, быў дэмабілізаваны, паступіў на працу на Менскую водаправод-электрастанцыю, з якой неўзабаве быў накіраваны на медфак БДУ. У 1925 г. прыняў прапанову праф. Кроля працаваць па даследаванні вегетатыўнай нервовай сістэмы. Яшчэ будучы студэнтам пераклаў з французскай мовы артыкул праф. Мартыне пра арытмію. У 1926 г. скончыў медфак БДУ і быў зацверджаны на пасадзе ардынатара ў нервовай клініцы БДУ. З красавіка 1933 г. працаваў ст. навуковым супрацоўнікам у Інстытуце эксперыментальнай фізіялогіі БАН (паводле іншых дакументаў – пачаў працаваць у якасці мал. навуковага супрацоўніка ў 1932 г.). На працягу шасці гадоў абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. У 1939 г. прызначаны выконваючым абавязкі загадчыка кафедры нервовых хвароб у Хабараўскім медыцынскім інстытуце. Яўрэй па нацыянальнасці, сваёй роднай мовай лічыў рускую. Валодаў таксама беларускай, нямецкай, французскай, лацінскай мовамі, са слоўнікам чытаў па-англійску.

пяць без пазначэння колькасці знакаў: «Дарвін Чарльз», «зубы», «нага», «нос», «чэрап». Калі казаць пра важнасць артыкулаў, грунтуючыся на колькасці знакаў, то яны размеркаваліся наступным чынам: «Чалавек, паходжанне» (14 000 знакаў); «Расы» (6 080); «Антрапалогія» (5 200); «Выкапнёвыя людзі» (4 000); «Расы выкапнёвыя» (2 800); «Неандэртальскі чалавек» (2 060); «Выміранне» (2 000); чатыры артыкулы па 1 000 знакаў, гэта «Сінантрап», «Расавая тэорыя», «Валасатасць», «Антрапаметрыя». 85 артыкулаў атрымалі найменшы рэйтынг – 40 знакаў.

Таксама трэба адзначыць даволі вузкае кола прозвішчаў, якія мелі дачыненне да развіцця антрапалагічнай навукі за ўвесь час яе існавання. У слоўнік было ўключана ўсяго 18 прозвішчаў. Сярод іх сем прадстаўнікоў французскай антрапалагічнай школы, чатыры – нямецкай, два – расійскай і нідэрландскай, па адным – англійскай, бельгійскай, украінскай. І ніводнага(!) навукоўца, які б вывучаў антрапалагічны тып беларусаў або быў беларусам па паходжанні[1].

Такім чынам, антрапалагічная навука ў БССР прайшла нялёгкі шлях станаўлення. У ім выразна вылучаюцца два этапы, розныя па сваёй сутнасці, характары і навуковай значнасці: 1) 1920-я гг.; 2) першая палова 1930-х гг. І, калі працу адной групы вучоных, з пэўнай ступенню ўмоўнасці, можна назваць стваральнай, то другія па сутнасці разбурылі ўсё тое, што стварылі даследчыкі розных пакаленняў і навуковых школ. У выніку антрапалагічная навука ў БССР была згорнута аж да сярэдзіны 1960-х гг.

[1] Праект слоўніка. Выпуск VIII. Антрапалогія. Археалогія. Этнаграфія. Міфалогія, с. 1–14.

## Дадатак 1[1]

### *Ліст Юльяна Лютынскага і Сямёна Валачковіча ў Інстытут беларускай культуры. 12 студзеня 1925 г.*[2]

Инбелкульту
Врачей белорусов Волочковича и Лютынскаго.

В течение нескольких месяцев нами производится антропологическое исследование белорусов. Исследования велись попутно, при психоневрологическом обследовании белоруссов для целей клинической психиатрии во 2-ой Сов[етской] больнице[3], это в деревне, при сельской мед-работе.

В основу своих исследований мы положили с известными ограничениями новейшее учение германского профессора Кречмера о том, что душевный уклад, воля и характер стоят в тесной биологической связи с телесным обликом, внешностью, физическим развитием.

Уже предварительные наблюдения дают возможность делать предположения:

1. Преобладающий тип белорусский вопреки географическим описаниям – шизотимический.

2. Под шизотимической поверхностью в данном случае под излишней исторической терпеливостью и кажущимся эмоциональным безразличием можно найти значительную глубину – верность принципам и наклонность к образованию сильно-волевых индивидуумов.

3. Окруженная значительно более сильными физически и экономически организмами, как Украина, Польша, Великороссия, Белоруссия очень мало ассимилировалась. Даже более: следующие факты – а) усиление национального типа на граничащих с соседними государствами уездах, кое мы вправе рассматривать как реактивное (не реакционное); в) тот факт, что внешне украинизированный Мозырский уезд сохранил белорусский уклад; с) редкая живучесть и национальная чистота некоторых станиц на Дону, составленных из бежавших из под панской неволи в XVI и XVII веках белорусов, – все это говорит не только за противодействие ассимиляции, но и за упорное желание сохранить чистый национальный тип наподобие ирландцев, буров, канадских французов и т. п.

---

[1] Дакументы публікуюцца з захаваннем арфаграфіі і пунктуацыі арыгіналаў. Таксама пры публікацыі перададзены ўсе іншыя асаблівасці дакуметаў, напр., падкрэсліванні і г. д.

[2] ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 11, арк. 6–6 адв.

[3] Губернская бальніца была адкрыта ў Менску ў 1799 г. У пачатку XX ст. – Менская губернская земская бальніца, пры якой існаваў прытулак для псіхічнахворых. У 1921 г. яна перайшла ў падпарадкаванне горздрава і пераназвана ў 2-ю Савецкую, з 1922 г. – у складзе медыцынскага факультэта БДУ. Сёння – 2-я гарадская клінічная бальніца.

4. Вопреки утверждениям большинства историков и антропологов, что не смешивающиеся нации являются нациями упадка, Белоруссия даёт симптомы живучести и прогресса, доказательство чего можно видеть в резкой тяге к знанию, улучшению земельного хозяйства и быстром формировании национальной интеллигенции. С этим состоит в связи слабо разработанная функция авангардных наций.

5. Связь между экономикой, природой и биологическим типом.

К сожалению исследования наши произведены на небольшом сравнительно материале, что заставляет нас обратиться к Вам и за содействием, и с целью привлечь Ваше внимание к затронутым положениям в разгадке национального типа.

12 января 1925 года
гор. Минск

## Дадатак 2

### *Каментарыі праф. А. К. Ленца да артыкула праф. М. Г. Кроля (гл.: Кроль М. Б. «Наука» о поведении на службе у националистов (По материалам бригады РКИ по чистке кафедры антропологии Белор. акад. наук) // Журнал невропатологии и психиатрии». 1931, № 1, с. 25–34). 9 снежня 1931 г.*[1]

1. Автор статьи, перечислив главарей нацдемовской организации БАН, непосредственно переходит к характеристике работ кафедры Антропологии, чем вызывает впечатление будто бы кафедра Антропологии являлась <u>самой главной</u> нацдемовской позицией БАН, что не верно.

2. Ни в одной из моих работ не проводится <u>РЕФЛЕКСОЛОГИЧЕСКАЯ</u> (Бехтеревская) установка. Здесь автор статьи обнаруживает отсутствие точных представлений в области поведенческх наук, в которых он не специалист.

3. Все «крепкие» площадные выражения, которыми насыщена статья, являются отражением личности самого автора статьи, не являются отражением мнения Комиссии по чистке БАН; последняя, установив ряд ошибок по деятельности кафедры Антропологии и отметив признание и активное выправление этих ошибок руководителем кафедры, поставила их ему на вид.

По конструкции статьи не знающий детали читатель должен подумать, что Ленц «в апреле 1918 г. коленопреклонённо просил Вильгельма взять белорусский народ под защиту» (а Ленц да конца 1918 г. далеко от БССР работал в Красной Армии); что Ленц писал в газете «Звон» в Минске в 1919 г. (а Ленц в это время работал в Военно-Медицинской Академии в Ленинграде); далее этот же «нацдемовский герой» призвал Пилсудского, перекликался с Деникиным, Скоропадским и т. п. Можно думать, по Кролю, что Ленц в пору окку-

[1] ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 410, арк. 165–171.

пации Белоруссии доказывал, что «большевики психически больны». Между тем Ленц занял кафедру Психиатрии (по настойчивому приглашению проф. Кроля – декана Медицинского факультета) в 1925 г. и никакого касательства до этого времени к делам Белоруссии не имел; родился же и большую часть жизни и научной деятельности провел в Ленинграде.

4. Явная передержка Кроля: в моей статье (сборник арт. ИБК 1928 г.)[1] я указывал на необходимость для антропологии исследования конституции, социально-экономических условий и предполагал включить исследование поведения (стр. 60). Что касается химического состава мозга, то я говорю о нем в связи с влиянием социально-экономических условий (голоданием) и ни в какую связь с самобытностью белорусов не ставлю. Разумеется, в моей статье нет и намека на «интеллектуальное и моральное превосходство сытых буржуев», что мне услужливо приписывает «соавтор» Кроль.

5. К исследованиям Янчука[2] я отнесся в своей статье критически, правда, не вскрыв до конца их нацдемократической основы, и в этом я ошибку свою признавал и признаю.

Кроль однако не упоминает о том, что экспедиция в Полесье была нами проведена, но данные ее отнюдь не установили особенностей, свидетельствующих о чистоте белорусского типа. Если бы я (как изо всех сил старается установить Кроль) действительно являлся нацдемом высшей марки, то мог бы использовать данные этой экспедиции для подтверждения взглядов Янчука и Чепурковского об особой «славянской» чистоте полесского типа. Но так как наши исследования не подтвердили, а наоборот опровергли такую самобытность (см. итоги Полоцкой[3] экспедиции, мой и Смирнова доклады на Всебелорусской Антропологической Конференции и др.), то о фактическом «выполнении» заказа говорить не приходится.

6. Новая передержка: исследование поведения предположено мною в целях динамизации антропологии и только Кроль «решил» за меня связать изучение поведения с нацдемовской контрреволюцией.

---

1 Маецца на ўвазе артыкул: А. К. Ленц, Матар'ялы да арганізацыі антраполёгічных дасьледванняў на Беларусі // Этнографія. Антраполёгія. Псыхолёгія. Псыхотэхніка і навуковая арганізацыя працы. Гісторыя мастацтва. Менск, 1928, с. 55–69.

2 Янчук Мікалай Андрэевіч (17(29).11.1859–6.12.1921) беларускі, украінскі, рускі вучоны-славіст (этнограф, фалькларыст, літаратуразнавец, антраполаг), пісьменнік. Пасля 1917 г. чытаў курс беларускай і ўкраінскай літаратур у Маскоўскім універсітэце, удзельнічаў у дзейнасці камісіі па арганізацыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, у 1921 г. прафесар кафедры беларускай літаратуры і этнаграфіі. Адстойваў самастойнасць беларускай і ўкраінскай культур і народаў. Цікавіўся беларускім нацыянальным Адраджэннем, падтрымліваў кантакты з рэдакцыяй «Нашай Нівы».

3 Думаецца, тут мае месца апіска: размова ідзе пра Палескую экспедыцыю.

7. Для особой убедительности Кроль выдернул и присоедил сюда цитату из моей статьи, касающейся слюно-отделительных рефлексов и совершенно не относящейся к антропологии и к нацдемам. Это не мешает придать цитате следующий финал:

8. «Нацдэмы из БАН»а оценили нашу «решимость и не жалели средств на антропологическую экскурсию». В последних словах Кроля содержится уже двойная ложь, так как не только цитата не относится к экспедиции, но и нацдемы очень плохо относились к кафедре Антропологии и в частности мало ассигновали на нее денег. Об этом имеются документальные данные в материалах по чистке БАН, известные и Кролю.

9. Полное непонимание Кролем экспериментальной методики, нами употребляемой, сказалось в том, что он причисляет к бутафории употребляемый нами измерительный прибор который устанавливает силу двигательного акта. По его мнению, очевидно, всякий элемент измерения есть бутафория. Далее – снова передержка: отказавшись от критики «самой техники» экспериментов, Кроль никак не отказывается от перевирания выводов и подсовывает мне «выдачу паспортов» – тормозного и безтормозного типа нервной системы. Между тем дело идет о констатировании полного отсутствия у определенных групп реакций на тормозные раздражители; такие типы реакции условно названы безтормозными; противополагаются же им отнюдь не «тормозные», а более или менее приближающиеся к адекватному типу реагирования, при котором процессы возбуждения и торможения находятся в состоянии уравновешивания друг друга. Как и в других местах статьи Кроля, его свирепость комбинируется с непониманием предмета.

10. Называя мои конструкции в области суперрефлексов[1] «чушью», «нелепыми», Кроль добавляет, что за эти конструкции меня и мне подобных «не раз били в печати и в особенности на 1-м съезде поведения в Ленинграде». Приведу еще сильное выражение, характеризующее установку Кроля: «надо думать, что били еще не достаточно. Ибо после Ленинграда он ездил вторично с докладом для вторичной экзекуции на Харьковский съезд физиологов».

В разъяснение могу сказать, что марксистская (но не Кролевская) критика, которая (например, в лице тов. Розенцвейга) оценивала мои воззрения, как механистические, не отвергая наряду с этим основных моих положений, ни разу не превращалась «в битье» или «экзекуцию, столь милые садистически настроенному Кролю. Для меня марксистская критика была чрезвычайно

---

[1] У першай палове 1920-х гг. у сферу навуковых інтарэсаў А. К. Ленца ўваходзілі праблемы ўмоўных рэфлексаў і вышэйшай рэфлекторнай дзейнасці. Шмат часу ён надаваў распрацоўцы тэорыі суперрэфлексаў (асаблівых умоўных рэфлексаў, якія надбудоўваюцца над іншымі ўмоўнымі рэфлексамі). У якасці прыкладу суперрэфлекса ён называў служэнне чалавецтву. Праўда, пазней, пад ціскам крытыкі, вучоны публічна адмовіўся ад гэтай гіпотэзы, аб чым не мог не ведаць праф. Кроль.

полезна; она заставила меня пересмотреть мои взгляды, многое выбросить, многое коренным образом переделать или развить.

В заключительном слове на поведенческом съезде, а также на последующем за ним диспуте в Минске я указал на то, что за последние годы в моих научных воззрениях произошел значительный перелом. Гипотезы суперрефлексов в настоящее время я не придерживаюсь и заявлял об этом на указанном диспуте в присутствии Кроля. Об этом он, конечно, постарался позабыть и снабдил статью рядом цитат из моих работ 1922–1924 гг. (стр. 31 и пр.). Признавая активность психики и особое качество сознания я говорю о недостаточности для исчерпывающего объяснения психики человека одной теории условных рефлексов и физиологических процессов вообще. Об этом я говорил, между прочим, на физиологическом съезде в Харькове, где делал доклад по приглашению Орг. Комитета съезда и где, вопреки Кролю, я вовсе не был бит, и кроме замечаний по методике моих опытов, никаких методологических возражений не встретил.

Взгляды меняются. Кроль приглашал меня на кафедру в Минск в 1924–1925 гг. и расточал комплименты как раз по поводу тех работ, которые теперь им расцениваются употребляемыми им сочными выражениями. Гипертрофированный физиологизм был для меня, да и для многих русских психологов, определенным этапом развития, стоя на котором я уже искал особого «качества», что и выразилось в гипотезе суперрефлексов, как характерного факта поведения. Очерк моих теперешних теоретических воззрений на психику человека я в скором времени представлю печати и критике.

11. Если процессы внутреннего торможения с возрастом частично ослабевают, как это явствует из работ сотрудников И. П. Павлова и моих, то отсюда отнюдь нельзя вывести, как это снова подсовывает мне Кроль, что к 50-ти годам люди теряют свою рабочую и психическую ценность. Но Кроль «тонко» намекает, что т.т. Сталин и Ворошилов достигли этого возраста. Отсюда и вывод готов: вот к чему-де ведет нас Ленц. Здесь уже ясно прорывается желание Кроля политически ошельмовать меня.

12. Мне осталось только остановиться на последнем предмете нападок Кроля – работе по изогемоаглютинации (о расово-биологическом индексе), вышедшей из кафедры Антропологии. Здесь ошибка кафедры Антропологии в том, что без надлежащей критики расовых теорий и указания на их контрреволюционность исследовался вопрос о группах крови белорусского населения. Правда, автор статьи (Ю. М. Веремецко[1]) оговаривается, что

---

[1] Верамецка (Верамецкая) Юлія Міхайлаўна нарадзілася 9 жніўня 1903 г. у мястэчку Пухавічы Ігуменскага пав. Менскай губ. у сям'і медыцынскіх работнікаў. У 1921 г. Юлія закончыла курс Менскай чыгуначнай школы № 17 і стала адной з першых студэнтак факультэта грамадскіх навук БДУ. Але ў 1922 г. пакінула БДУ і паступіла ў Петраградскі (з 1924 г. Ленінградскі) дзяржаўны інстытут фізічнай адукацыі імя П. Ф. Лесгафта,

его данные можно рассматривать только как предварительные, и ни к каким окончательным выводам не приходит, но это не слагает с кафедры указанной ответственности. В передаче деталей этой работы Кролем снова не обошлось без «неточностей». На стр. 33 Кроль говорит, что жители деревни Железняки, – индекс крови которых отличается от индексов жителей соседниих деревень, – имеют польское происхождение, между тем как автор статьи указывал, что по историческим данным, это – колонисты, переселенные поляками, причем происхождение их неизвестно. При вопросе об индексе такая разница может иметь решающее значение, но Кроль и далее строит свои соображения на том, что переселенцы были поляки.

Подводя итоги оценки произведения Кроля, нашедшего себе место на страницах важнейшего органа психоневрологической мысли РСФСР, я должен сказать, что научная его аргументация в этой статье настолько поверхностна и неубедительна, что сама по себе она не нуждалась бы в ответе. Иное дело – политическая сторона. Если сравнение меня с контрреволюционерами и вожаками нацдемов правильно, то, конечно, мне нет места в рядах деятелей социалистического строительства.

Иными словами, статья Кроля есть политическое шельмование А. К. Ленца. В виду того, что я деятельно и искренне принимал и принимаю участие в социалистическом строительстве, я не считаю достаточным простой диалог с Кролем и потому прошу рассмотреть статью Кроля Президиум БАН с участием представителей РКИ и СНРаб. БССР[1].

Проф. А. К. Ленц
9. XII. 1931 г.

---

які скончыла ў 1927 г. У гэтым жа годзе яна звярнулася ў праўленне БДУ з просьбай аб залічэнні на медыцынскі факультэт. У якасці галоўнага аргумента адзначыла жаданне «прадуктыўна працаваць у галіне, да якой прывыкла і якая цікавіць з дзяцінства». Яе залічылі на II курс факультэта. Магчыма, менавіта ў гэты перыяд і адбылося знаёмства студэнткі Верамецкі з прафесарам Ленцам. Прафесар заўважыў мэтанакіраванасць, працавітасць і энергію студэнткі, якая валодала да таго ж разнастайнымі ведамі і вопытам, і запрасіў яе ў склад камісіі (у хуткім часе кафедры) антрапалогіі Інбелкульта. З кастрычніка 1927 г. яна працавала асістэнтам кафедры антрапалогіі ІБК, з 1 верасня 1930 г. – навуковым супрацоўнікам кафедры антрапалогіі БАН. У 1934 г. Ю. Верамецка, грамадзянская жонка А. Ленца, разам з дачкой (1932 г. н.) пераехала ў Ленінград. У гады Другой сусветнай вайны яна ўдзельнічала ў арганізацыі Батальёна для выздараўліваючых Балтыйскага флоту ў блакадным Ленінградзе, за што была ўзнагароджана ордэнам Чырвонай Зоркі.

[1] Маецца на ўвазе Рабоча-сялянская інспекцыя і Секцыя навуковых работнікаў пры прафсаюзе работнікаў асветы БССР.

ISSN 2424-5216

# МАТЭРЫЯЛЫ ДА БІЯГРАФІІ ІСАКА АБРАМАВІЧА СЕРБАВА (1871–1943)

***Вольга Лабачэўская,***
*д-р мастацтвазнаўства (Менск)*

***Summary***

*May 25, 2021 marked the 150th anniversary of the birth of the famous Belarusian ethnographer and archaeologist Isak Serbau. However, in his personal and scientific biography there are many episodes and even periods about which we know almost nothing. The article uses new information, which was introduced by the publication of documents from the personal files of the scientist, found in the archives of the Belarusian State University and the Central State Archives of Moscow. Based on the documents submitted for the first time from the Manuscripts Department of the Vilnius University Library, the State Archives of Lithuania and the information received from the descendants of I. A. Serbau, the issue reveals episodes related to the photoethnographic heritage of his Polesie expedition in 1913, expresses views on the reasons that saved the scientist from repression in the 1930s, facts from his family history. The author makes a conclusion about the need for further searches for materials on the biography of I. A. Serbau and the preparation of a monograph dedicated to his scientific work.*

Імя Ісака Абрамавіча Сербава – этнографа, фалькларыста і археолага – стаіць у першым шэрагу імёнаў беларускіх вучоных. Лёс даследчыка склаўся так, што ён пакінуў пасля сябе невялікую колькасць апублікаваных прац, але іх навуковая каштоўнасць істотна пасунула наперад даследаванне традыцыйнай культуры беларусаў у першыя дзесяцігоддзі XX ст. Навуковы даробак вучонага і яго фотаэтнафатаграфічная спадчына актуальны і запатрабаваны і ў наш час.

Разам з тым у біяграфіі І. А. Сербава нямала эпізодаў і нават перыядаў, аб якіх нам амаль нічога не вядома.

Біяграфічныя артыкулы ў працах па гісторыі этнаграфіі Васіля Бандарчыка і кароткія звесткі ў энцыклапедычных даведніках сцісла інфармуюць пра навуковы ўнёсак даследчыка. Аб некаторых перыядах яго дзейнасці пісалі Івана Цішчанка[1] і Марыя Алейнікава[2]. Калекцыя фотаздымкаў этнографа і дакументы аб яго супрацы з Паўночна-заходнім аддзелам Расійскага геаграфічнага таварыства (РГТ) у Вільні, якія захоўваюцца ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта, былі мною апублікаваны ў выданні «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911–1912 гг.»[3] і шэрагу артыкулаў.

У Цэнтральным навуковым архіве НАН Беларусі адсутнічае асабістая справа І. А. Сербава, хоць ён працаваў у Акадэміі навук БССР з 1922 г. да часу эвакуацыі ў Тамбоў у 1941 г. Архіў вучонага загінуў у Менску ў першыя дні вайны. Невядомы падрабязнасці яго жыцця ў эвакуацыі, працы ў Тамбоўскім педагагічным інстытуце, таксама невядома і месца пахавання ў 1943 г. у Тамбове.

Апошнім часам з'явіліся публікацыі, якія ўвялі ў навуковы зварот новыя архіўныя матэрыялы, датычныя біяграфіі этнографа. Сцяпан Захаркевіч апублікаваў асабістую справу І. А. Сербава з архіва БДУ, у якім з 1922 г. ён чытаў курсы па этнаграфіі, а з 1933 г. загадваў кафедрай[4], а таксама яго перапіску з этнолагам Майсеем Грынблатам 1941–1943 гг.[5] Напярэдадні 150-гадовага юбілею з дня нараджэння І. А. Сербава ў суполцы «Запіскі беларусаведа» на *Facebook* расійскі гісторык Ігар Барынаў размясціў заметку «Исаак Сербов: как школьный учитель стал большим учёным (к 150-летию со дня рождения)», у якой упершыню апублікаваў матэрыялы асабістай справы Сербава перыяду

---

1 Цішчанка І., *Акрылены Палессем (125 гадоў з дня нараджэння І. А. Сербава)* // Мастацтва. 1996. № 7, с. 65–73.

2 Алейникова М., *Из истории становления музейного дела в Гомельской губернии в первые годы Советской власти (по документам Государственного исторического архива Гомельской области).* «Все произведения искусства и памятники старины стали достоянием народа» [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.palacegomel.by/index.php?newsid=1206. Дата доступу: 08.04.2021.

3 *Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911–1912 гадоў = The Belarusians in the photos of by Isaac Serbau = Baltarusiai Isako Serbovo metų fotografijose* / склад., аўт. уступ. артыкула В. А. Лабачэўская; рэдкал. : Т. У. Бялова (гал. рэд) [і інш.]. Мінск, 2012.

4 Нацыянальны архіў РБ (НАРБ). Ф. 205, воп. 3, спр. 7480. Личное дело Сербова Исаака Абрамовича.

5 Захаркевич С. А., *Исаак Абрамович Сербов (27.05.1871 – 21.01.1943) // Интеллектуальная элита Беларуси. Основоположники белорусской науки и высшего образования (1919–1961)* / А. Д. Король [и др.]; под общ. ред. А. Д. Короля, науч. ред. О. А. Яновский. Минск, 2019, с. 192–205; Ён жа. *Як гартавалася сталь: Станаўленне беларускага савецкага этнолага Маісея Якаўлевіча Грынблата* // Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні / Зб. навук. прац. Мінск, 2017. Вып. 3, с. 505–518.



Ісак Сербаў. 1916 г. ЦДА Масквы

настаўніцкай працы (да 1919 г.) і партрэтны фотаздымак 1916 г., якія захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Масквы (ЦДА Масквы)[1].

Гэты артыкул мае на мэце абагульніць новыя дадзеныя пра дзейнасць і біяграфію Ісака Сербава, прадставіць неапублікаваныя раней архіўныя матэрыялы, якія дазваляюць удакладніць некаторыя факты асабістага жыцця вучонага, ахарактарызаваць яго як асобу, ацаніць навуковыя і ідэалагічныя пазіцыі, уявіць яго ўнёсак у развіццё беларускай навукі. У прыватнасці асветлены раней невядомы эпізод працы Сербава ў Інбелкульце, звязаны з вяртаннем у Менск фотаэтнаграфічнай спадчыны яго Палескай экспедыцыі 1913 г.; выказаны меркаванні аб яго ідэйных поглядах і прычынах, якія ўратавалі даследчыка ад рэпрэсій 1930-х гадоў, прыведзены факты з сямейнай гісторыі Сербавых. У гэтым годзе адзначаецца 150-годдзе з дня нараджэння Ісака Сербава, і публікацыя павінна паказаць перспектывы грунтоўнага біяграфічнага даследавання, прысвечанага вядомаму беларускаму навукоўцу.

### *Ісак Сербаў – настаўнік, савецкі дзеяч на ніве культуры і адукацыі, правадзейны член Інбелкульта*

Вядома, што Ісак Абрамавіч Сербаў нарадзіўся 25 мая 1871 г.[2] у сям'і малазямельнага селяніна-беларуса ў в. Кульшычы Прапойскай вол. Быхаўскага пав. Магілёўскай губ. Пры хрышчэнні паводле праваслаўнага абраду ён, як і яго бацька Абрагам, атрымаў біблейскае імя, адпаведнае царкоўнай форме яго напісання – Ісаакій. Да рэвалюцыі і ў першыя гады савецкай улады ён падпісваўся «Исаакий Аврамович Сербов». У савецкі час зацвердзілася іншае напісанне яго імя – «Ісак Абрамовіч Сербаў».

[1] Цэнтральны дзяржаўны архіў Масквы (ЦДА Масквы). Ф. 376, воп. 1, спр. 3528. Дакументы апрацаваў І. Барынаў.

[2] Дата нараджэння І. Сербава патрабуе ўдакладанення. У публікацыях сустракаецца таксама дата 27 мая 1871 г.

У 1892 г. Ісак Сербаў паспяхова скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю, куды прымалі для навучання дзяцей мяшчан і сялян праваслаўнага веравызнання і дзе рыхтавалі настаўнікаў для пачатковай школы. Ён быў рэкамендаваны дырэктарам магілёўскіх народных вучэльняў на месца настаўніка ў Хоцімскае народнае вучылішча, дзе пачаў службу з 1 верасня таго ж года. Пасля адзінаццаці гадоў настаўніцкай працы 1 жніўня 1903 г. Сербаў быў перамешчаны на аналагічнае месца ў Гомельскае двухкласнае прыходскае вучылішча. 2 лістапада 1907 г. ён атрымаў чын калежскага рэгістратара.

29 лютага 1908 г. у Гомельскай мужчынскай гімназіі Ісак Сербаў паспяхова здаў спецыяльны экзамен на званне хатняга настаўніка рускай мовы. 1 жніўня 1909 г. па распараджэнні папячыцеля Віленскай навучальнай акругі ён быў пераведзены ў Стоўбцы, дзе пачаў працаваць у 4-класным гарадскім вучылішчы, а 1 верасня 1910 г. атрымаў прызначэнне ў губернскі цэнтр пазаштатным настаўнікам 2-га Менскага гарадскога вучылішча. 1 студзеня 1913 г. адбыўся яго перавод у сталіцу навучальнай акругі Вільню на пасаду штатнага настаўніка 3-га Віленскага гарадскога мужчынскага вучылішча. 10 траўня таго ж года ён здаў экзамен на званне хатняга настаўніка геаграфіі і праслухаў кароткатэрміновыя курсы для настаўнікаў вышэйшых пачатковых вучылішч.

Настаўніцкая кар'ера сялянскага сына Ісака Сербава была паспяховай і дзякуючы імкненню да ведаў уздымала яго на новыя прафесійныя і сацыяльныя прыступкі кар'еры. За выдатныя заслугі на ніве адукацыі 1 студзеня 1912 г. ён быў узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава 3-й ступені, які даваў уладальніку пры наяўнасці ў яго чыну калежскага рэгістратара права прэтэндаваць на ганаровае грамадзянства, а за выслугу гадоў – і на асабістае дваранства[1].

15 чэрвеня 1914 г. Ісак Сербаў быў пераведзены на пасаду інспектара Трокскага пачатковага вучылішча. Улетку 1915 г. у сувязі з наступленнем нямецкай арміі разам з служачымі Віленскай навучальнай акругі яго сям'я эвакуіравалася ўглыб краіны. Звесткі пра яго жыццё і дзейнасць з другой паловы 1915 па 1922 г. фрагментарныя.

У 1916 г. ён быў прыняты на вучобу ў Маскоўскі археалагічны інстытут. Не звальняючыся з працы, ён удасканальваў адукацыю ў галіне археалогіі, этнаграфіі і мастацтва ў Смаленскім аддзяленні гэтай установы. З дакументаў студэнцкай справы Ісака Сербава вынікае, што ён аплаціў трохгадовы курс навучання і атрымаў дыплом інстытута ў 1918 г., хоць выпуск павінен быў адбыцца ў 1919 г.[2] На той момант Ісак Сербаў меў ужо 45 гадоў.

Уяўляюць цікавасць факты біяграфіі Ісака Сербава савецкага часу. У першыя паслярэвалюцыйныя гады ён апынуўся ў шэрагах савецкай эліты, займаў

---

[1] Баринов И., *Исаак Сербов: как школьный учитель стал большим учёным (к 150-летию со дня рождения)* [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://www.facebook.com/groups/zapisybelarusaveda/permalink/503515257463923/. Дата доступу: 8.06.2021.

[2] Тамсама.

значныя пасады ў органах кіравання і быў цалкам лаяльны ў адносінах да савецкай улады.

Кастрычніцкі пераварот Ісак Сербаў сустрэў у г. Сальцы Наўгародскай губ., дзе з кастрычніка 1917 г. працаваў начальнікам аддзела народнай адукацыі. У пачатку 1919 г. «вследствие тяжелой нужды и голода» ён разам з жонкай пераехаў у Магілёў, дзе жыў на вул. Левае Завалле, 14.

З 1 студзеня па 16 лютага 1919 г. ён выконваў абавязкі загадчыка Магілёўскага губернскага аддзела народнай адукацыі (ГУБАНА); у сакавіку 1919 г. узначаліў пададдзел па справах музеяў, архіваў і аховы помнікаў мастацтва і даўніны Магілёўскага ГУБАНА, якое з красавіка 1919 г. перамясцілася ў Гомель[1]; з верасня 1920 г. працаваў старшынёй Надзвычайнай губернскай камісіі па ліквідацыі непісьменнасці, адкуль быў звольнены 21 лютага 1921 г. Яго жонка Марфа Пракопаўна Сербава таксама працавала ў Магілёўскім ГУБАНА, потым была захавальніцай музея імя Троцкага. У Гомелі Сербавы жылі ў камяніцы па вул. Замкавай, 37, дзе таксама размяшчаўся гомельскі Цэнтральны музейны фонд[2].

У пачатку 1921 г. з-за абвінавачанняў у яго адрас І. Сербаў пачаў працаваць у аграрнай службе Заходняй чыгункі, а ў траўні 1922 г. перайшоў на пасаду інструктара-арганізатара ў Губернскі саюз сельскагаспадарчых і саматужна-прамысловых кааператываў[3].

Дакументы аб дзейнасці Ісака Сербава ў Магілёве і Гомелі захоўваюцца ў Дзяржаўным архіве Гомельскай вобласці і патрабуюць далейшага ўважлівага даследавання.

Захапленне даследчыцкай і збіральніцкай дзейнасцю, вопыт, назапашаны настаўнікам І. А. Сербавым у якасці этнографа і археолага ў перыяд плённай супрацы з Менскім царкоўным гісторыка-археалагічным камітэтам і Паўночна-заходнім аддзяленнем Расійскага геаграфічнага таварыства (РГТ) у Вільні ў 1910-я гг., навучанне ў 1916–1919 гг. у археалагічным інстытуце абумовілі характар яго дзейнасці вучонага ў наступныя гады жыцця, якія былі цалкам прысвечаны навуцы.

У другой палове 1922 г. Ісак Сербаў абіраецца правадзейным сябрам Інстытута беларускай культуры (Інбелкульт) і пераязджае ў Менск. Да пачатку 1930-х гадоў гэта, бадай, самы насычаны працай і плённы на навуковыя падзеі перыяд біяграфіі вучонага. Адначасова з працай у Інбелкульце, затым у Акадэміі навук БССР, Ісак Сербаў выкладаў у БДУ. Гэты перыяд яго дзейнасці адлюстраваны ў дакументах Цэнтральнага навуковага архіва НАН

---

1 Алейникова М., *Из истории становления музейного дела в Гомельской губернии…*

2 Дзяржаўны архіў Гомельскай вобласці. Ф. 60, воп. 1, спр. 1255. Звесткі атрыманы ад Валянціны Міхайлаўны Лебедзевай (Мятліцкай).

3 Захаркевич С. А., *Исаак Абрамович Сербов (27.05.1871 – 21.01.1943)…*, с. 198.

Беларусі (ЦНА НАНБ), а таксама ў яго асабістай справе ў архіве БДУ і публікацыях.

На пачатковым этапе разгортвання этнаграфічнага кірунку працы Інбелкульта голас Ісака Сербава як сталага і вопытнага даследчыка гучаў вельмі заўважна. Ён быў задзейнічаны ў пераважнай большасці навуковых і грамадскіх ініцыятыў: з'яўляўся сакратаром этнаграфічнай секцыі (з 1924 г.), узначальваў камісію па вывучэнні быту і матэрыяльнай культуры пры кафедры этналогіі (з 1927 г.); быў сябрам прэзідыума гісторыка-археалагічнай секцыі, што засведчана на фотаздымку 1926 г., бібліяграфічнай камісіі гісторыка-археалагічнай секцыі, бібліятэчнай камісіі, камісіі мастацтва; займаў пасаду навуковага сакратара камісіі па ахове помнікаў (1926–1927 гг.). Акрамя таго ўдзельнічаў у працы наступных камісій: фальклорна-дыялекталагічнай, музыкі, гісторыі старажытнага Менска. Сербаў быў сябрам Цэнтральнага краязнаўчага бюро, дэлегатам I і II краязнаўчых з'ездаў (1926, 1927), рэцэнзаваў артыкулы ў часопісе «Наш край». Пры тым у 1924–1925 гг. ён працаваў у навукова-экспертнай камісіі Наркамасветы БССР, якая займалася выяўленнем на тэрыторыі рэспублікі помнікаў старажытнасці, ставіла іх на ўлік, стварала сістэму аховы і г. д. Пасля рэарганізацыі Інбелкульта ў Беларускую акадэмію навук ён займаў пасаду навуковага сакратара кафедры этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі (з 1929 г.).

Таксама Ісак Сербаў працягваў археалагічныя даследаванні, быў удзельнікам Першага з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі (1926), дзе зачытаў даклад аб археалагічных даследаваннях у Новым Быхаве летам 1925 г. з дэманстрацыяй калекцый знаходак[1]. У 1925 г. ён даследаваў курганы пад Менскам, сутарэнні Клімавіцкай турмы – будынка былога кляштара, стаянку першабытнага чалавека на беразе Дняпра ў Новым Быхаве[2]. Вучоны працягваў этнаграфічныя даследаванні, распачатыя ў 1910-я гг., выязджаў у экспедыцыі. У 1925 г. па даручэнні тэатральнай і музычнай секцыі Інбелкульта ён збіраў матэрыялы па беларускіх народных танцах на Лепельшчыне і Магілёўшчыне[3], запісаў на фанограф 50 каляндарных і бытавых песень, мелодыі на дудцы, пастухоўскай трубе, збіраў узоры народнага адзення, тканін[4]. У 1926–1927 гг. даследчык здзейсніў этнаграфічныя паездкі на Віцебшчыну і Смаленшчыну[5]. Разам з Вацлавам Ластоўскім і Мікалаем Каспяровічам

---

1 «Наш край». 1926, № 1, с. 57.

2 «Полымя». 1925, № 6, с. 210.

3 Тамсама, с. 21.

4 *Інстытут беларускай культуры* / М. П. Касцюк і інш. Мінск, 1993, с. 118–119.

5 Цэнтральны навуковы архіў НАН Беларусі (ЦНА НАНБ). Ф. 67, воп. 1, спр. 22, арк. 104.

у 1929 г. удзельнічаў у экспедыцыі на Мазыршчыну (дэльта Дняпра і Прыпяці), дзе даследаваў матэрыяльную і духоўную культуру, археалагічныя помнікі ў Юравіцкім, Хойніцкім, Брагінскім, Лоеўскім, Рэчыцкім раёнах[1].

У адпаведнасці з планам працы кафедры этналогіі на 1927 г., на Ісака Сербава ўскладаліся наступныя абавязкі: прывесці ў сістэму і апрацаваць сабраныя за мінулыя гады матэрыялы (фотаздымкі, чарцяжы, замалёўкі), скласці фотаальбом па матэрыяльнай культуры і падрыхтаваць вопіс беларускай народнай вопраткі. Як вядома, беларускім народным касцюмам даследчык цікавіўся падчас сваіх палескіх экспедыцый 1911–1913 гг., збіраў экспанаты для стварэння музея касцюма ў Вільні. Яго можна лічыць першым даследчыкам у гэтай галіне беларускай этнаграфіі і народнага мастацтва[2]. У 1928 г. ён павінен быў закончыць даследаванне «Прычоска і галаўныя ўборы беларускага народа» аб'ёмам 10 аркушаў[3]. У іншым дакуменце гэта праца мае назву «Беларускія старажытныя галаўныя ўборы»[4]. У 1928–1929 гг. Ісак Сербаў распрацоўваў навуковую тэму і рыхтаваў даклад «Перажыткі даўніны ў матэрыяльнай культуры беларускага народа»[5].

Пералічаныя даследаванні не былі выдадзены і, на вялікі жаль, не захаваліся. З запланаваных да друку манаграфій Ісака Сербава ў 1927 г. убачыла свет толькі праца «Вічынскія паляне: матэрыяльная культура. Этнаграфічны нарыс Беларускага Палесся», падрыхтаваная на матэрыялах, сабраных даследчыкам у 1910-я гады.

Навуковец клапаціўся аб лёсе помнікаў культуры беларусаў. Так, падчас археалагічных раскопак у Новым Быхаве ён выканаў даручэнне прывезці для тэатральнага музея Інбелкульта тэатральны рэквізіт, вопратку ды інш., што захавалася ад памешчыцкага тэатра прыгонных часоў, у якім гралі артысты-сяляне[6]. На пасяджэнні гісторыка-археалагічнай камісіі 12 кастрычніка 1925 г. была заслухана інфармацыя аб вывазе ім у Маскву з Гомеля ў 1920 г., у час наступу войскаў генерала Дзянікіна і Войска польскага, архіваў і музейных рэчаў. Была прынята пастанова паведаміць аб гэтым у камісію па звароце вывезеных з Беларусі архіваў з просьбай прыняць належныя меры па іх

---

1 Няміга Г., *Інстытут беларускай культуры – Беларуская акадэмія навук – Акадэмія навук Беларускай ССР* // Доследи й матар'ялы (Серыя 2-я, вып. 63). Мюнхен, 1957, с. 57.

2 Лабачэўская В. А., *І. А. Сербаў – першы даследчык беларускага народнага касцюма* // Першы міжнародны навуковы кангрэс беларускай культуры: зб. матэрыялаў (Мінск, Беларусь, 5–6 мая 2016 г.) / гал. рэд. А. І. Лакотка, Мінск, 2016, с. 622–626.

3 ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 22, арк. 59.

4 Тамсама, арк. 104.

5 Тамсама, спр. 18, арк. 13.

6 «Полымя». 1925, № 6, с. 211.

вяртанні[1]. На нарадзе секцый гісторыка-археалагічнай, этнаграфіі і мастацтва 25 кастрычніка 1925 г. пры абмеркаванні падрыхтоўкі выставы падчас Першага беларускага навуковага кангрэсу І. Сербаў настойваў на тым, каб матэрыялы, вывезеныя з Беларусі ў архівы і музеі Масквы і Ленінграда, былі вернуты назаўсёды[2]. У рашучай форме рэстытуцыйныя прэтэнзіі да РСФСР выказалі ўдзельнікі І з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі ў Менску 17–18 студзеня 1926 г., сярод якіх быў Ісак Сербаў[3].

Таксама засяродзім увагу на адным раней невядомым факце дзейнасці вучонага ў інбелкультаўскі час, які раскрываюць архіўныя дакументы, выяўленыя ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы (LCVA) і аддзеле рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта (VBU RS).

### *Калекцыя фотаздымкаў з Палесся 1913 г.: спроба вяртання ў БССР*

У 1927 г. пры кафедры этнаграфіі была створана камісія па вывучэнні быту і матэрыяльнай культуры пад кіраўніцтвам Ісака Сербава. Сярод іншага камісія планавала прывесці ў сістэму і апрацаваць сабраныя за мінулыя гады матэрыялы і падрыхтаваць альбом па матэрыяльнай культуры, куды меркавалася ўключыць каля 1 000 фотаздымкаў, зробленых Ісакам Сербавым у мінулыя гады[4]. Аднак большая частка этнаграфічных матэрыялаў, сабраных у 1911–1913 гг., засталася ў Вільні пасля вымушанай эвакуацыі даследчыка ў глыб Расіі ў жніўні 1915 г. у сувязі з наступленнем нямецкай арміі[5].

Навуковец намагаўся вярнуць іх, пра што сведчыць афіцыйны запыт Інбелкульта ў Беларускае навуковае таварыства (БНТ) у Вільні, датаваны 9 мая 1928 г., за подпісамі кіраўніка кафедры этнаграфіі Вацлава Ластоўскага і самога Ісака Сербава як навуковага сакратара. З тэксту ліста вынікае, што ў 1914–1915 гг. этнограф аддаў на часовае захаванне Віленскаму цэнтральнаму музею свае ўласныя альбомы фатаграфічных картак у колькасці 1 500 штук «выключна этнаграфічнага зместу», а таксама іх негатывы і дыяпазітывы. Кафедра прасіла БНТ звярнуць увагу на гэтыя матэрыялы па этнаграфіі Беларусі і паведаміць, дзе яны знаходзяцца і як захоўваюцца[6].

---

1 ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 6, арк. 74.

2 Тамсама, арк. 77–78.

3 Гужалоўскі А. А., *З гісторыі фарміравання фондавага збору Беларускага дзяржаўнага музея ў 20-я гг. ХХ ст.* // Крыніцазнаўства і спецыяльныя гістарычныя дысцыпліны. Вып. 1 / рэдкал.: С. М. Ходзін (адк. рэдактар) [і інш.]. Мінск, 2002, с. 192.

4 ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 23, арк. 58–59.

5 Захаркевич С. А., *Исаак Абрамович Сербов (27.05.1871 – 21.01.1943)…*, с. 197.

6 Цэнтральны дзяржаўны архіў Літвы (ЦДАЛ). F. 281 / 10, p. 2. Дакумент выяўлены А. Смаленчуком.

Не выключана, што росшукам фотаматэрыялаў у Вільні займаўся непасрэдна старшыня ўправы БНТ Антон Луцкевіч. Справа рухалася досыць хутка. Ужо ў чэрвені 1928 г. фотаздымкі, негатывы і клішэ краязнаўчага і этнаграфічнага характару аўтарства Ісака Сербава былі выяўлены ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта. У пратаколе агляду калекцыі за подпісам дырэктара бібліятэкі Стэфана Рыгля ад 9 чэрвеня засведчана, што яны трапілі туды невядомым чынам пасля эвакуацыі расіян у 1915 г.[1] З дакументаў вынікае, што ў наяўнасці мелася 233 фота: з Кобрынскага павета – 66, Пружанскага – 41, Наваградскага – 5, Слонімскага – 2 – і 100 негатываў (9х12 – 81 адз.; 13х18 – 19 адз.). Прыведзеная лакалізацыя фотаздымкаў супадае з маршрутам экспедыцыі



этнографа па Палессі ў 1913 г., здзейсненай па заданні Аддзялення рускай мовы і славеснасці Расійскай акадэміі навук у паўночную частку Пінскага Палесся (поўнач Пінскага і паўночна-заходняя частка Мазырскага пав., а таксама Кобрынскі, Пружанскі і Слонімскі пав. Гродзенскай губ.)[2].



*Сяляне в. Кульшычы. 1911 г. Фотаздымкі І. Сербава. Нацыянальны гістарычны музей Рэспублики Беларусь*

[1] Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта, аддзел рукапісаў (БВУ АР). F. 52–308, p. 5. Аўтар удзячна супрацоўніцы аддзела рукапісаў Валянціне Карпавай, якая выявіла гэтыя дакументы.

[2] БВУ АР. F. 52–308, p. 3.

Перадача калекцыі адбылася 24 лістапада 1928 г., аб чым сведчыць прыёма-здатачны акт, складзены бібліятэкай і варшаўскім прадстаўніцтвам спецыяльнай польска-савецкай рээвакуацыйнай камісіі ў г. Ленінградзе, створанай у межах адмысловага пагаднення паміж Польшчай і СССР (1927) аб абмене польскіх прафесарскіх бібліятэк, якія не былі вывезены з Расіі, на навуковыя расійскія бібліятэкі, што засталіся на тэрыторыі Польшчы ў 1914–1915 гг. У канчатковым акце перадачы пазначана 239 фота і 260 негатываў[1].

З дакументаў вынікае, па-першае, што фотаздымкі Ісака Сербава 1913 г. заставаліся ва ўласнасці даследчыка, у адрозненне ад фотаматэрыялаў экспедыцый 1911 і 1912 гг., якія разам са справаздачамі былі перададзены ў Паўночна-заходняе аддзяленне РГТ, і захаваліся да нашага часу ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта[2]. Па-другое, у 1914–1915 гг. ён пакінуў іх на захаванне ў Цэнтральным музеі пры ўніверсітэцкай публічнай бібліятэцы. Па-трэцяе, напрыканцы 1928 г. калекцыя з Вільні была перададзена ў Ленінград, дзе знаходзілася польская дэлегацыя рээвакуацыйнай камісіі. Матэрыялы Сербава павінны былі вярнуцца ў Менск. Аднак далейшы лёс гэтага збору невядомы. Запланаваны на 1929 г. альбом узораў народнай матэрыяльнай культуры з 1 000 фотаздымкаў, якія этнограф таксама намагаўся вярнуць, так і не быў выдадзены. У фондах аддзела рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта адсутнічаюць фотаздымкі экспедыцыі 1913 г. Ісака Сербава[3]. Некалькі фотаздымкаў з рысамі сербаўскага стылю этнаграфічнага фатаграфавання і лакалізацыяй, адпаведнай маршруту яго Палескай экспедыцыі 1913 г., захаваліся ў фотаархіве Інстытута этналогіі і этнаграфіі РАН (Кунсткамера) у Санкт-Пецярбургу. Яны трапілі туды ад беларускага этнографа Еўдакіма Раманава і памылкова пазначаны яго аўтарствам.



*Вяселле ў двары Якава Кудлая. 1920-я гг. Фотаздымак І. Сербава. Нацыянальны гістарычны музей Рэспублики Беларусь*

1 БВУ АР. F 47–856/10, p. 11.

2 Тамсама. F. 34.

3 Падрабязней пра гэта гл.: *Беларусы у фотаздымках Ісака Сербава 1911–1912 гадоў…*, с. 28.

Цалкам верагодна, што Сербаў перадаў іх Е. Раманаву ў 1913–1914 гг., калі абодва знаходзіліся ў Вільні і супрацоўнічалі з Паўночна-заходнім аддзяленнем РГТ.

## *Становішча Ісака Сербава ў перыяд рэпрэсій 1930-х гг.*

Адзін з неасветленых перыядаў жыцця і дзейнасці Ісака Сербава – 1930-я гг. Вучоны пазбегнуў рэпрэсій вясной і летам 1930 г., калі была разгромлена секцыя этнаграфіі па справе контррэвалюцыйнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі», названы «ворагамі пралетарскай дыктатуры» і арыштаваны Вацлаў Ластоўскі, Аляксандр Шлюбскі, Міхаіл Мялешка, Мікола Каспяровіч ды іншыя этнографы і археолагі, якія былі калегамі Ісака Сербава па працы ў Інбелкульце і Акадэміі навук БССР. Натуральна паўстае пытанне: што ўратавала навукоўца ад рэпрэсіўнага молаху?

Становішча Ісака Сербава ў 1930-я гг. было няпэўным, нягледзячы на яго багатую навуковую біяграфію дарэвалюцыйнага часу і дзейнасць у паслярэвалюцыйныя гады на кіруючых савецкіх пасадах у Магілёве і Гомелі. Вядома некалькі эпізодаў, калі дзейнасць вучонага атрымлівала адмоўную ацэнку як «непрафесійная» і «нацдэмаўская».

У газеце «Савецкая Беларусь» ад 6 лістапада 1930 г. (№ 233) быў надрукаваны фельетон нейкага П. Шчамеля пад назвай «Раскопкі», дзе высмейваліся вынікі навуковай экспедыцыі на Аршаншчыну і Магілёўшчыну па пошуках метэарыту, на чале якой быццам бы стаяў Ісак Сербаў. Паводле аўтара фельетона, экспедыцыя знайшла камень з пахабным надпісам, які датавалі X–XI–XVII стст., і збіралася даставіць яго ў Менск для навуковых доследаў. Але ў гэты момант падвярнуўся пастушок і растлумачыў экспедыцыі, што ён сам летась надрапаў на камені саромны надпіс. У фельетоне ставілася пытанне: якую каштоўнасць даюць раскопкі пахабных анекдотаў? Адказам на абвінавачанне стала заява Сербава ў прэзідыум Акадэміі навук, у якой ён з абурэннем пісаў: «На працягу сваёй 37-летняй навуковай працы я зрабіў да 40 экспедыцый па этнаграфічных і археолёгічных матар'ялаў, але-ж у мэтэорытных экспэдыцыях я ніколі ня прымаў удзелу і ня знаю, дзе і калі яны адбываліся»[1].

Другі раз адмоўная ацэнка яго навуковай дзейнасці была публічна выказана ў сувязі з публікацыяй у 1931 г. у часопісе «Савецкая краіна» (№ 8) складзенай ім «Інструкцыі аб вывучэнні быту і культуры лесарубаў і плытагонаў», якая была прызнана «нацдэмаўскай». У адказ на абвінавачанне ў 10-м нумары часопіса была змешчана наступная пастанова рэдакцыйнай калегіі: «1. Змяшчэнне інструкцыі, паданой навуковым супрацоўнікам секцыі этнаграфіі Інстытуту гісторыі І. Сербавым нібы ад секцыі этнаграфіі прызнаць

[1] ЦНА НАНБ. Ф. 67, воп. 1, спр. 12, арк. 1.

грубейшай палітычнай памылкай; 2. Інструкцыя адбівае нац.дэмакратычныя установкі ў этнаграфіі, а ігнаруе клясавую ўстаноўку»[1].

Рэпрэсіі закранулі Ісака Сербава ў 1933 г. 21 лютага разам з шэрагам навукоўцаў, абвінавачаных у трацкізме і «недастатковым марксізме», ён быў звольнены з Інстытута гісторыі. Нам невядомы палітычныя погляды вучонага. Ён належаў да старэйшага пакалення беларускіх этнографаў, фалькларыстаў, археолагаў, гісторыкаў. Як можна меркаваць, яго патрыятычная пазіцыя склалася ў рэчышчы кансерватыўна-ліберальнага руху беларускай інтэлігенцыі па збіранні і вывучэнні помнікаў старажытнасці, згуртаванай вакол Менскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта і Царкоўна-археалагічнага музея ў Менску, Паўночна-заходняга аддзела РГТ у Вільні. Не выяўлены факты зносін у 1913–1914 гг. настаўніка І. Сербава, калі той працаваў у Вільні і захапляўся этнаграфіяй, з віленскім беларускім нацыянальным асяродкам, згуртаваным вакол газеты «Наша Ніва». У гэты час яго навуковыя погляды грунтаваліся на пазіцыях тэорыі паходжання беларускай народнасці, распрацаванай філолагам і гісторыкам Аляксеем Аляксандравічам Шахматавым і іншымі расійскімі вучонымі, якія выводзілі этнагенез беларусаў непасрэдна ад старажытных усходнеславянскіх плямён[2]. Адказ на пытанне, наколькі І. Сербаў падзяляў пастулаты тэорыі заходнерусізму, паводле якой Беларусь з'яўлялася культурнай і палітычнай часткай Расіі, а беларусы – адгалінаваннем рускага этнасу, патрабуе ўважлівага тэксталагічнага аналізу этнаграфічных прац вучонага, што пакуль не зроблена беларускімі этнолагамі. Зыходзячы з вядомых фактаў біяграфіі І. Сербава, можна выказваць толькі пэўныя меркаванні аб ідэалагічных падставах яго навуковых поглядаў і той пазіцыі, якой ён прытрымліваўся ў савецкі час.

У паслярэвалюцыйныя гады, займаючы кіруючыя пасады ў органах асветы і культуры, Сербаў лаяльна ставіўся да савецкай улады. Працуючы ў Інбелкульце ў асяроддзі нацыянальна арыентаванай генерацыі маладых беларускіх этнографаў, ён у поўнай меры не падзяляў іх поглядаў на будучыню Беларусі і ключавыя пытанні паходжання беларускай нацыі. Пацвярджэнне гэтаму знаходзім у працы «Інстытут беларускай культуры – Беларуская акадэмія навук – Акадэмія навук Беларускай ССР» Гіпаліта Нямігі (псеўданім Гіпаліта Паланевіча).

Аўтар належаў да беларускай ваеннай эміграцыі і ў 1950-я гг. супрацоўнічаў з Інстытутам вывучэння СССР у Мюнхене. Гісторык па адукацыі, ён быў рэпрэсаваны ў 1936 г., і яго сведчанне заснавана на асабістым досведзе і ве-

---

1 Няміга Г., *Інстытут беларускай культуры – Беларуская акадэмія навук – Акадэмія навук БССР*. Мюнхен, 1957, с. 69–70.

2 *Беларусы*. У 8 т. Т. 3: *Гісторыя этналагічнага вывучэння* / В. К. Бандарчык. Мінск, 1999, с. 230.

данні сітуацыі ў менскім навуковым асяродку ў 1930-я гг. Гіпаліт Няміга пісаў аб Ісаку Сербаве, «які хоць і працаваў у Інбелкульце пры «нацдэмах», як спецыяліст[ы], але ніколі ня быў іхнім прыхільнікам, таму й прайшоў праз усе праверкі й «ачысткі» апарату БАН»[1].

Тое, што этнограф востра разыходзіўся з паплечнікамі па Інбелкульце ў нацыянальных пытаннях, у падыходах да вырашэння праблемы этнагенезу беларусаў, сведчыць яго ліст да Міхаіла Грынблата ад 10 жніўня 1942 г., у якім ён заўважае: «Между прочим, в газетах промелькнули заметки, что немецкие фальсификаторы выдвигают чисто нацдемовские теории о том, будто бы белоруссы не имеют этнических связей с русскими. Следовало бы сейчас же бить по морде этих фальсификаторов историко-этнографическими материалами…»[2].

Аб кансерватыўных пазіцыях Ісака Сербава сведчаць таксама ўспаміны гісторыка Міколы Улашчыка, які вучыўся ў БДУ: «[…] Этнаграфію чытаў Сербаў. Гэта быў нудны чалавек, чытаў ён так, што праз пяць хвілін ужо хацелася спаць. Ён ведаў шмат, але па кавалках, у сістэму прывесці нічога не мог. Думаю, што да самой смерці ён застаўся праваслаўна-рускім чалавекам, якім быў у 1912 г., калі ездзіў па Беларусі і знайшоў, што насельніцтва гавораць на чыстай рускай мове, заганаю было тое, што ў нядзелю заміж таго, каб у царкве маліцца, сядзяць на вуліцы і кураць люлькі»[3]. Ацэнка студэнта засведчыла не толькі асаблівасці манеры выкладання настаўніка, а таксама рознасць нацыянальных пазіцый прадстаўнікоў розных пакаленняў. «[…] Сербаў […] гэты нудны чалавек к 4 курсу страціў для нас усю вартасць», – пісаў М. Улашчык[4]. Ускосна гэтыя ўспаміны сведчаць пра тое, што ў гады нацыянальнага Адраджэння Ісак Сербаў трымаўся кансерватыўных поглядаў, не падзяляў пэўны рамантызм маладога пакалення беларуска арыентаваных калег і студэнтаў.

Разам з тым менавіта Ісак Сербаў, практычна адзіны на той час прадстаўнік старэйшага пакалення дарэвалюцыйных вучоных, знаёміў будучых навукоўцаў з этнаграфіяй беларусаў, быў першым настаўнікам славутага беларускага гісторыка М. Улашчыка, этнографа і фальклားрыста М. Грынблата, з якім у 1930-я гг. яму давялося працаваць разам у секцыі этнаграфіі Інстытута гісторыіі АН БССР. У 1922–1924 гг. ён чытаў курс «Этнаграфія Расіі і Беларусі» на

[1] Тамсама.

[2] Цыт. па: Захаркевич С. А., *Исаак Абрамович Сербов (27.05.1871 – 21.01.1943)…*, с. 205.

[3] Цыт. па: Захаркевіч С., *Як гартавалася сталь: Станаўленне беларускага савецкага этнолага Маісея Якаўлевіча Грынблата…*, с. 512.

[4] Тамсама.

гісторыка-эканамічным аддзяленні педагагічнага факультэта, выкладаў курс этнаграфіі з ухілам у этнаграфію народаў Беларусі. На яго практычных занятках вывучаліся пытанні антрапагеаграфіі, духоўнай і матэрыяльнай культуры Беларусі, беларускай міфалогіі, фальклору і мовы ды інш. У 1927–1928 гг. Ісак Сербаў выкладаў «Этнаграфію Беларусі» на 1-м курсе і рэкамендаваў студэнтам у якасці асноўнага падручніка курс лекцый В. М. Харузінай «Этнаграфія», а як дадатковую літаратуру – этнаграфічныя зборнікі П. В. Шэйна, М. Я. Нікіфароўскага, Е. Р. Раманава, А. К. Сержпутоўскага, а таксама ўласную працу «Беларусы-сакуны», выдадзеную ў 1915 г.[1]

Заслугоўвае ўвагі пытанне аб характары адносін І. А. Сербава з Мікалаем Міхайлавічам Нікольскім, які быў загадчыкам кафедры этнаграфіі Інстытута гісторыі АН БССР, у складзе якой вучоны з 1930 па 1933 г. займаў сціплую пасаду старшага навуковага супрацоўніка. У 1935 г., як можна меркаваць, не без хадайніцтва М. М. Нікольскага, ён вярнуўся на працу ў секцыю этнаграфіі Інстытута гісторыі[2].

Акадэмік Нікольскі, шчыры прыхільнік кіруючай савецкай ідэалогіі, у 1930-я гг. стаў рупарам крытыкі «нацдэмаўскай» этнаграфіі, навуковых пазіцый і метадаў «вялікадзяржаўных этнографаў» Паўла Шэйна, Еўдакіма Раманава, «перавярнуўшыхся вучоных» Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка, Аркадзя Смоліча, Аляксандра Цвікевіча, «нацдэмаўскіх этнографаў» Аляксандра Шлюбскага, Івана Фурмана, Міколы Каспяровіча, разам з імі Аляксандра Сержпутоўскага. Пры тым варта адзначыць, што ў сумна вядомай працы «Устаноўкі і метады нацдэмаўскай этнаграфіі» (1933)[3] акадэмік не згадаў імя Ісака Сербава.

Безумоўна, М. Нікольскі з павагай ставіўся да навукоўца, цаніў яго даследчыцкі вопыт у галіне этнаграфіі, у якой сам ён не быў спецыялістам. У манаграфіях аб міфалогіі валачобнага абраду (1931), аб жывёлах у звычаях і абрадах беларусаў (1933) ён неаднаразова з падзякай спасылаўся на працы Ісака Сербава, на рукапісныя запісы і вусныя звесткі, якія атрымаў ад «знаўцы беларускай этнаграфіі і фальклору». Можна меркаваць, што пры садзейнічанні акадэміка ў 1934 г. І. Сербаву па сукупнасці навуковых прац была прысуджана навуковая ступень кандыдата гістарычных навук.

У 1930-я гг. Сербаў працягваў навуковую дзейнасць, аднак яе вынікі не былі такімі плённымі, як у інбелкультаўскі перыяд. Нягледзячы на ўзрост, ён прымаў удзел у этнаграфічных і археалагічных экспедыцыях. Аднак патрабаванні савецкай ідэалогіі прымусілі яго змяніць тэматыку даследаванняў

---

1 Захаркевич С. А., *Исаак Абрамович Сербов (27.05.1871 – 21.01.1943)…*, с. 198.

2 Тамсама, с. 202.

3 Нікольскі Н. М., *Пытанне аб вывучэньні матываў клясавай барацьбы ў фальклоры*. Менск, 1933.

па этнаграфіі і фальклоры. У 1931 г. кафедра этнаграфіі была рэарганізавана ў секцыю этнаграфіі і фальклору Інстытута гісторыі АН БССР, а ў план яе работы была ўключана навуковая тэма «Матывы класавай барацьбы ў беларускім фальклоры». Фальклор разглядаўся як прадукт і зброя класавай барацьбы, таму яго вывучэнне лічылася адной з самых важных задач савецкай этнаграфіі[1]. У 1937 г. Ісак Сербаў разам з Міхаілам Грынблатам склаў зборнік «Прыгон у фальклоры (песні, казкі, апавяданні)»[2]. Ён працягваў збіраць фальклорныя матэрыялы. Яго запісы, зробленыя ў 1936 г. у Пухавіцкім, Лёзненскім, Шумілінскім раёнах, у 1937 г. у Бялынічах, увайшлі ў выданне «Жанчына ў беларускай народнай творчасці» (1940).

Як этнограф Ісак Сербаў у 1933 г. падрыхтаваў рукапіс працы «Юродзівыя на Беларусі», матэрыялы якой выкарыстаў у сваіх манаграфіях М. Нікольскі. У 1936 г. ён распрацоўваў тэму «Талака ў сельскагаспадарчай вытворчасці ў дарэвалюцыйныя часы»[3]. У канцы 1930-х гг. разам з М. Грынблатам падрыхтаваў два альбомы «Беларускае народнае мастацтва», якія ўбачылі свет толькі ў 1951 г.

## *Асоба Ісака Сербава і яго сямейная гісторыя*

Нам амаль нічога не вядома аб асобе Ісака Сербава. Некаторыя звесткі аб яго характары можна знайсці ў перапісцы 1911–1913 гг. са Зміцерам Даўгялам, кіраўніком спраў і рэдактарам «Запісак» Паўночна-заходняга аддзела РГТ, якая захоўваецца ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Віленскага ўніверсітэта[4]. З адрасатам І. Сербава звязвалі не толькі дзелавыя адносіны. З лістоў даведваемся пра некаторыя бытавыя падрабязнасці, напрыклад, пра змаганне з зубным болем і пра тое, як шмат яго часу займала праца настаўніка, праверка вучнёўскіх сшыткаў, перашкаджаючы рыхтаваць справаздачы па летніх этнаграфічных экспедыцыях.

Сербаў уяўляецца чалавекам сумленным, які ў жыцці трымаўся высокіх маральных прынцыпаў. Пра гэта можна меркаваць таксама па сітуацыі, звязанай са стратай у паездцы 1911 г. зробленых негатываў. На вакзале ў Смаленску этнографа прымусілі здаць фотаапарат і ўсе фатаграфічныя прылады ў багажнае аддзяленне цягніка, дзе яны ў выніку былі раструшчаны. Грошы на вандроўку І. Сербаў атрымаў ад Паўночна-заходняга аддзела РГТ і быў вельмі занепако-

---

[1] Нікольскі Н. М., *Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераньнях беларускага сялянства* // Працы секцыі этнаграфіі Бел. Акад. навук / Інстытут гісторыі імя М. Н. Пакроўскага. Вып. 3. Менск, 1933, с. 225.

[2] ЦНА НАНБ. Ф. 1, воп. 1, спр. 41, арк. 5.

[3] Тамсама, арк. 4.

[4] БВУ АР. F. 52–308, p. 1–5.

ены тым, што не мае магчымасці прадставіць для справаздачы этнаграфічны фотаматэрыял. Урэшце ён вярнуў атрыманыя грошы Таварыству[1].

Пра прыватнае жыццё навукоўца таксама мала што вядома. Ісак Сербаў быў жанаты з дачкой святара Матронай Пракопаўнай (дзявочае прозвішча Кастрыцкая)[2]. У 1930-я гг. Сербавы жылі ў Менску па адрасе: вул. Чырвонаармейская 3, кв. 6, – дзе цяпер размешчаны гістарычны факультэт БДУ. У гэтай кватэры 24–25 чэрвеня 1941 г. падчас бамбардзіроўкі Менска нямецкай авіяцыяй загінуў у пажары архіў даследчыка – даробак усяго жыцця.



*Сваякі І. Сербава ў в. Кульшычы (у цэнтры пляменніца Лукер'я, яе свякроў і свёкар). 1920-я гг. Фотаздымак І. Сербава. З сямейнага архіва Н. К. Кашковай*

У 1930-я гг. у доме Сербавых у Менску жылі сваячніцы – Фаліна і Таццяна Сербавы, якія вучыліся ў педтэхнікуме. Для іх маці Лукер'і Лявонаўны, дачкі роднага брата вучонага, якая мела вялікую сям'ю, было, напэўна, значнай палёгкай, што сталічны сваяк узяў дзяўчат на сваё ўтрыманне. Фаліна, якая ўсё жыццё была ўдзячна Ісаку Абрамавічу за тое, што даў ёй адукацыю, распавядала сваёй дачцэ Надзеі Кашковай пра побыт у сям'і Сербавых: «Ён быў вельмі набожны і пры гэтым надзвычай асцярожны. Для малітваў у сям'і Сербавых быў асобны пакой, уваходзіць у які дзяўчынкам строга забаранялася, і ніякіх крамольных размоў пры іх ніколі не вялі»[3].

---

[1] Падрабязнасці аб сітуацыі гл.: *Беларусы у фотаздымках Ісака Сербава 1911–1912 гадоў…*, с. 29.

[2] Звесткі падае Ілья Барынаў у згаданай публікацыі. Паводле Валянціны Лебедзевай (Мятліцкай), імя Марыі Пракопаўны Сербавай згадваецца ў дакументах Дзяржаўнага архіва Гомельскай вобласці (ф. 60, воп. 1, спр. 1255). У згаданым артыкуле С. Захаркевіча на с. 205 прыведзены тэкст ліста жонкі Сербава з Тамбова, напісаны пасля яго смерці, пад якім стаіць подпіс «А. П. Сербава».

[3] Завадская И., *Удастся ли когда-нибудь восстановить полную фотоколлекцию Исаака Сербова, оставившего около 5 тысяч кадров старинного Полесья?* // «СБ Беларусь сегодня», 2017, 26 мая [Электронны ресурс] Рэжым доступу: https://www.sb.by/articles/otpechatok-na-stekle.html. Дата доступу: 5.04.2021.



*Лявонцій Сербаў, родны брат І. Сербава. З сямейнага архіва Н. К. Кашковай*



*Лукер'я Сербава, пляменніца І. Сербава. 1938 г. З сямейнага архіва Н. К. Кашковай*

Сваіх дзяцей у Ісака Абрамавіча не было. У роднага брата Лявонція былі дзве дачкі. У выніку род Сербавых перарваўся па мужчынскай лініі. Сербавы паходзілі з в. Пчэльня каля Кульшычаў (Слаўгарадскі раён Магілёўскай вобл.), займаліся пчалярствам і прадавалі мёд. Ісак Сербаў нарадзіўся ў в. Кульшычы, куды перабраліся яго бацькі. Сям'я жыла бедна, была вельмі набожнай, прытрымлівалася пастоў. Дзецям давалі імёны па святцах. Сваё імя Ісак Сербаў атрымаў у гонар святога Ісаакія Далмацкага, у дзень ушанавання якога (30 мая 1871 г.) ён быў ахрышчаны[1].

І. Сербаў часта наведваў родную вёску, якая доўгі час захоўвала традыцыйны лад жыцця, аб чым сведчаць яго здымкі мясцовых сялян, апранутых у традыцыйныя строі 1911 г. і 1920-х гг., у зборы Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі[2]. Паводле сямейных успамінаў, у Кульшычах Ісака Абрамавіча любілі і чакалі. Ён абавязкова прывозіў пачастункі сваім шматлікім пляменнікам і рабіў сямейныя фотаздымкі. У нашчадкаў Сербава захаваліся фотаздымкі 1930-х гг., на якіх сфатаграфавана вялікая сям'я яго пляменніцы Лукер'і, яе свёкар і свякроў, дзеці Марфы – другой дачкі брата Лявонція. Да роду таксама належала сям'я роднай цёткі Ісака Абрамавіча – Васілісы.

1 Захаркевич С. А., *Исаак Абрамович Сербов (27.05.1871 – 21.01.1943)...*, с. 193.

2 Лабачэўская В., Саўчанка Н., *Аб фатаграфічнай спадчыне І. А. Сербава: зборы ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта і Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь* // «Музейны веснік». Вып. 5 / укл. Н. У. Калымага, А. І. Ладзісаў, М. А. Плавінскі. Мінск, 2011, с. 71–77.

Увядзенне ў навуковы зварот новых архіўных матэрыялаў адкрывае перспектыву падрыхтоўкі манаграфіі аб Ісаку Абрамавічу Сербаве. Патрабуе вывучэння яго дзейнасць на савецкіх пасадах у Магілёве і Гомелі ў 1919–1922 гг., перыяд жыцця ў эвакуацыі ў Тамбове ў 1941–1943 гг. і праца ў Тамбоўскім педінстытуце. Варта распачаць пошук архіва навукоўца ваеннага перыяду, які мог ацалець, а таксама месца пахавання вучонага. Грунтоўнае даследаванне ўнёску Сербава ў развіццё беларускай этнаграфіі, фалькларыстыкі, археалогіі, аб'ектыўная ацэнка яго навуковых дасягненняў, а таксама хібаў навуковых канцэпцый і ідэалагічных поглядаў даўно наспела. Гэта дазволіць аддаць належнае даследчыку, які сваёй нястомнай і ахвярнай працай назапасіў каштоўныя палявыя этнаграфічныя і археалагічныя матэрыялы, фотаздымкі, фальклорныя запісы. Яны ўяўляюць вялікую дакументальную каштоўнасць для вывучэння традыцыйнай культуры беларусаў і з'яўляюцца бясцэннай крыніцазнаўчай базай для будучых пакаленняў беларускіх этнолагаў, археолагаў, фалькларыстаў, даследчыкаў народнага касцюма. Ацэнка навуковага даробку і ўнёску Ісака Сербава ў развіццё беларускай навукі з сучасных пазіцый, з улікам супярэчнасцей гістарычнага часу, у які яму давялося жыць і працаваць, будзе садзейнічаць далейшаму развіццю навук аб этнагенезе, гісторыі і культуры беларусаў, мэта якіх – адкрываць перспектывы жыццядзейнасці нацыі – не страціла сваёй актуальнасці.

ISSN 2424-5216

# У ЛЕЩАТАХ РАДЯНСКОЇ ПАРАДИГМИ: ПОМІЩИЦТВО У ДОСЛІДЖЕННЯХ АНДРІЯ АНФІМОВА (1916–1995)

***Надія Темірова,***
*доктор істор. наук (Вінниця)*

***Summary***

*The present paper aims to highlight the significant aspects of a prominent Soviet agrarian historian Andrew Anfimov's research. The turmoil of the twentieth century shaped the researcher's life. Embodied in dispossession, he experienced restrictions on civil rights, war, persecution for the critical views. The figure of the scientist is considered in the context of strategies of professional survival of historians who had to work in a limited paradigmatic space. It is shown, that the future researcher, coming from a peasant family, which suffered Soviet dekulakization, spent fourteen years in military service. After graduating from the Faculty of History of Moscow State University and postgraduate research he had being working as an employee of the Institute of History of the USSR Academy of Sciences / Institute of Russian History for forty years.*

*Anfimov's academic persecution is a vivid example of a historian's fate in a totalitarian state. A special role in his research activity, which began on the eve of the «thaw» period, was preoccupied by the landlord economy, in respect of which he studied a wide range of issues, namely: the social nature of the landlord ownership, the material and production base of the landlord economy, land tenure, land use and the organization of the landlord economy, trade and industrial activity, loans etc. Andrew Anfimov came to the conclusion about the predominance of the skills-training system until 1917, which transformed the landed estates into semi-feudal. At the same time, he singled out the regions where the capitalist system dominated: the Right Bank and South Ukraine, the Baltic States and South Russia. Under the pressure from the political establishment in the 1970s the historian was forced to give up his own beliefs about the backwardness*

*of landlords' farms and the impossibility of leading a «socialist» revolution out the maturity of the Russian capitalism. However, he later returned to his assumptions which led to heated polemics with his colleagues.*

У посталінський період, незважаючи на певні послаблення, організація науки в СРСР здійснювалася за допомогою жорстко централізованої системи її організації, контролю за комунікативними практиками, суворої цензури інтелектуальної продукції. Водночас відмова від фізичних репресій як засобу упокорення інтелігенції та надання ширших матеріальних і творчих можливостей заохочували професійних істориків до консенсусу з владою. Як влучно зауважив Віталій Яремчук, у добу «еволюційного тоталітаризму» відбувалася імплантація офіційного бачення у професійне історіописання. Партійно-державний апарат в СРСР не тільки визначав зміст і тлумачення історичного процесу, він же керував організацією втілення офіційного бачення історії в наукових історичних текстах і домагався обов'язкового дотримання панівних догм[1]. У таких умовах розпочав наукову діяльність радянський історик Андрій Матвійович Анфімов.

На початку 1980-х рр. авторка цієї статті, тоді студентка історичного факультету Донецького державного університету, за порадою наукового керівника Романа Ляха (1929–2002 рр.), фахівця з аграрної історії, взяла до рук монографію «Крупное помещичье хозяйство европейской России в эпоху капитализма» авторства А. Анфімова. Праця привернула увагу, по-перше, проблематикою, адже в університетському курсі історії акцент робився на робітничому класі та селянстві, сором'язливо згадувалася інтелігенція, але про поміщиків / дворян годі було й думати. По-друге, захоплення викликала масштабність джерельного підґрунтя монографії, в якому чільне місце посіла статистика, котру авторці вдалося «розговорити». Третє, що підкупило, – поєднання конкретики з доволі масштабними узагальненнями.

З того моменту минуло чимало часу, вітчизняна історична наука здійснила кардинальний розворот, змінилася проблематика досліджень, внаслідок чого радянська історична наука здобула чимало критичних оцінок сучасних дослідників. Всі вони сходяться на надзвичайній протирічливості тогочасного історіописання. Вивчення стратегій професійного виживання істориків, яким довелося працювати в обмеженому парадигмальному просторі, дозволяє поглибити розуміння місця історичної науки у суспільстві та її дослідницький потенціал. Серед покоління, на плечах якого піднялися сучасні науковці, – постать Андрія Анфімова, у наукову творчість якого пропонуємо зануритися.

---

1 Яремчук В., *Минуле України в історичній науці УРСР після сталінської доби*. Острог, 2009, с. 106, 462.

Діяльність і погляди цього дослідника здобули оцінку, передусім, у середовищі російських авторів. Авенір Корелін та Ігор Слепньов, які працювали з істориком, підсумовуючи його творчий шлях, зауважили, що наукова спадщина вченого значуща не тільки як історіографічний факт, але й з огляду на глибину її джерельного підґрунтя, найцінніші спостереження на основі використання різних матеріалів[1]. На думку Артура Берлова, поява наукових праць Андрія Анфімова органічно вкладається в загальний вектор еволюції радянської історіографії селянського господарства, який може бути представлений як перехід від соціально-класових концепцій 1930-х рр. до широкої аграрно-економічної проблематики. На його погляд, незважаючи на окремі ідеологічні перекоси, праці Андрія Анфімова становлять інтерес для сучасних дослідників, оскільки аналіз зібраного ним фактичного матеріалу дозволяє на якісно новому рівні обговорювати актуальні проблеми сучасного аграрного розвитку[2].

Українські науковці, зокрема Ігор Кочергін, Юлія Константинова, Наталія Проць та інші зверталися до наукового доробку Андрія Анфімова в контексті вивчення історії дворянства, але лише дотично, загалом характеризуючи здобутки радянських істориків повоєнних поколінь[3]. Спеціальну увагу поглядам науковця приділила Світлана Бараненко. Зокрема вона дійшла висновку про те, що Андрій Анфімов не уникнув притаманних епосі стереотипів у зображенні поміщицтва – він доводив, що сільське господарство опинилося в кризі, яку могла вирішити лише революція[4].

Отже, діяльність науковця частково опрацьована у межах досліджень соціально-економічної історії. Зважаючи на особливий внесок Андрія Анфімова, новаторський для свого часу характер його робіт, дана стаття має на меті проаналізувати внесок науковця у вивчення поміщицтва пореформеної доби на тлі монопольної радянської парадигми. Задля досягнення її звернімося до історіографічних джерел, зокрема праць Андрія Анфімова.

---

1 Константинова Ю. В., *Дворянство Південної України в другій половині XIX – на початку XX ст.:* автореф. дисер. канд. іст. наук. Донецьк, 2012.

2 Берлов А. В., *Творческое наследие А. М. Анфимова и классовые подходы в оценках крестьянского хозяйства* // «Вестник Екатерининского института». 2016, № 4 (36), с. 6.

3 Константинова Ю. В., *Дворянство Південної України в другій половині XIX – на початку XX ст.*, с. 5; Кочергін І. О., *Соціальна трансформація катеринославського дворянства (друга половина XIX ст. – початок XX ст.).* Дніпропетровськ, 2015, с. 38; Проць Н. В., *Дворянство Харківської губернії другої половини XIX – початку XX ст.:* автореф. дисер. канд. іст. наук. Харків, 2015, с. 7.

4 Бараненко С. М., *Дворянство в радянській історіографії другої половини 1960-х – першої половини 1980-х рр.* // «Історичні і політологічні дослідження». 2017, № 1 (60), с. 210.

Андрій Анфімов народився 28 жовтня 1916 р. в селянській родині в с. Полтеві Пенькі Тамбовської губернії (нині с. Восход Рязанської області). Хлопчик рано втратив батька і зростав під опікою старших братів, яким вдалося відновити господарство після революційно-воєнних подій. У 1933 р. господарство Анфімових потрапило під розкуркулення, а члени сім'ї були позбавлені виборчих прав.



Андрій Анфімов. 1980-я рр.

До цього часу Андрій Матвійович закінчив сім класів школи колгоспної молоді і, пропрацювавши рік у початковій школі, вступив до ФЗУ в м. Горькому. Однак у зв'язку з розкуркуленням сім'ї юнак мусив повернутися в свій район, де працював бухгалтером дорожнього відділу райвиконкому. У 1936 р. сім'я була відновлена в правах, що зняло перешкоду для продовження навчання. Юнак екстерном склав іспит за курс середньої школи та продовжив навчання в Московському дорожньо-механічному технікумі. Після його закінчення пропрацював кілька місяців начальником вишукувальної партії Рязанського обласного дорожнього відділу. Але у жовтні 1939 р. молодий фахівець був покликаний в армію. Служив на Далекому Сході, в Бурятії. У 1944 р. А. Анфімов вступив у лави ВКП(б). У квітні 1945 р. по закінченні курсів молодших лейтенантів він продовжив службу на другому Українському фронті, в складі залізничних частин брав участь у бойових діях на території Угорщини, Чехословаччини, Австрії та Румунії.

По завершенні війни Андрій Анфімов продовжував службу в залізничних військах на Уралі, Північному Кавказі, Балтиці, завершивши її лише в 1953 р. Але ще в 1947 р. вступив на заочне відділення історичного факультету Московського державного університету. Під час навчання визначився провідний напрям його наукової роботи – в якості теми дипломної роботи була обрана роль Селянського поземельного банку в здійсненні Столипінської аграрної реформи. Історія Селянського банку і Столипінська реформа пройшли лейтмотивом всієї дослідницької творчості науковця. У 1953 р. Андрій Анфімов вступив до аспірантури при кафедрі історії СРСР періоду капіталізму історичного факультету Московського держуніверситету імені М. В. Ломоносова. Під керівництвом професора Аркадія Сідорова підготував і успішно захистив кандидатську дисертацію.

З 1956 р. і до кінця життя (1995) Андрій Матвійович працював співробітником Інституту історії АН СРСР (з 1992 р. – Інститут Російськоїісто-

рії РАН). Свою наукову діяльність він розпочав у Комісії з історії сільського господарства і селянства СРСР, а згодом – у секторі історії СРСР періоду капіталізму. Прийшовши в науку в зрілому віці, зумів за короткий час здобути авторитет глибокого фахівця з аграрної історії дореволюційної Росії. Він був автором вузівського підручника і багатотомного академічного видання «История СССР с древнейших времен», учасником низки знакових наукових конференцій за межами СРСР[1]. Результатом наполегливої роботи стала підготовка на початку 1960-х рр. монографій «Земельная аренда в России в начале ХХ века» (1961) і «Российская деревня в годы первой мировой войны (1914 – февраль 1917 г.)» (1962).

Узагальнивши великий матеріал, Андрій Анфімов у праці «Земельная аренда в России в начале ХХ века» показав співвідношення продовольчої, дрібнотоварної і капіталістичної оренди в сільському господарстві Росії, змалював соціально-економічне становище села на початку ХХ ст. Автор наголосив на масштабності процесу фактичного відмежування землі від її власників, який на початку ХХ ст. досяг відчутних масштабів – понад 38 % землі приватні власники, головним чином поміщики, здавали в оренду селянам[2]. Він відзначив паралельне розгортання двох тенденцій: одні власники все менше вдавалися до оренди, а селяни навпаки, збільшували орендовані площі. Скорочення передання землі в оренду стало наслідком розвитку власного господарства у маєтках. Причому, до передавання землі в оренду вдавалися як великі землевласники, так і збанкрутілі дрібні землевласники. З одного боку, цей процес був виявом розвитку капіталізму, але з іншого, визначальний вплив на розвиток оренди справляло гостре селянське малоземелля. Ці роботи початку 1960-х рр. знаменували етапний поворот від однобічного показу аграрного ладу Росії до розкриття складної сукупності аграрних відносин, що включали в себе поряд з капіталістичними і пережиткові до- та ранньокапіталістичні форми.

На межі 1950-х – 1960-х рр. історик звернувся до теми, що на той момент практично не досліджувалася, – історії поміщицького господарства, адже йшлося про економічну характеристику класу, який був примусово, заради політичної доцільності зведений з історичної арени. Одна за одною з'явилися його статті, присвячені різним аспектам функціонування великого поміщицького господарства на зламі XIX–XX стст.[3]

---

1 Корелин А. П., Слепнёв И. Н., *Памяти Андрея Матвеевича Анфимова* // Россия сельская. XIX – начало ХХ века. Москва, 2004, с. 7–8.

2 Анфимов А. М., *Земельная аренда в России в начале ХХ века*. Москва, 1961, с. 13, 17, 18.

3 Анфимов А. М., *Карловское имение Мекленбург-Стерлицких* // Материалы по истории сельского хозяйства и крестьянства СССР. Москва, 1962, с. 348–376; он же, *Некоторые вопросы организации и экономики крупного помещичьего хозяйства в России (конец XIX – начало ХХ в.)* // «Вопросы истории». 1967, № 3, с. 160–168; он же,

У процесі збору історичного матеріалу відбувалося розширення кола джерел, зокрема Андрій Анфімов проаналізував ніким до нього не вивчений документ, якому дав умовну назву «Свод по России», що являє собою первісні матеріали сільськогосподарського перепису 1916 р.[1] Ці публікації підготували ґрунт для фундаментальної роботи «Крупное помещичье хозяйство Европейской России (конец XIX – начало XX в.)», що вийшла у 1969 р. То була перша в радянській історіографії монографія, спеціально присвячена поміщицькому господарству, що вимагало від автора певної дослідницької сміливості.

Для розуміння останнього твердження наведу власний спогад. Під час захисту мною у 1993 р. кандидатської дисертації у Запорізькому державному університеті у дискусії взяв участь знаний український історик Петро Гарчев (1923–2001), на той момент доктор історичних наук, професор кафедри російської історії Сімферопольского держуніверситету. У виступі Петро Іванович виклав власну історію входження у науку: на початку навчання в аспірантурі в якості теми майбутньої дисертації він запропонував порівняльну характеристику господарської діяльності колгоспу у його рідному селі та поміщицького маєтку, що функціонував там попередньо. На це його науковий керівник відповів, що якщо він прагне зробити певну наукову кар'єру, то цю ідею варто відкинути і зосередитись на більш актуальній проблемі, наприклад історії Червоної гвардії, а вже потім займатися поміщиками.

Майбутній професор Гарчев дослухався поради, захистив спочатку кандидатську дисертацію («Борьба рабочих Одессы за установление Советской власти и роль в этой борьбе профсоюзов и фабзавкомов (февраль 1917 – январь 1918 гг.», 1953 р.), потім докторську («Червона Гвардія України у Жовтневій революції», 1970 р.), здобув майже всі можливі наукові титули, а коли це все відбулося, часу повернутися до давнього інтересу не залишилося[2]. Тому тоді, майже тридцять років тому Петро Іванович мене підтримав у прагненні «розібратися з поміщиками», але доволі красномовно описав ситуацію у радянській науці, в якій дослідницька проблематика піддавалася жорсткій селекції. До речі, монографія Андрія Анфімова та докторська монографія Петра Гарчева побачили світ одночасно.

Андрій Матвійович, як того вимагала радянська парадигма, значущість вивчення великого поміщицького господарства пов'язував із необхідністю роз-

---

*Помещичье хозяйство России в годы I мировой войны* // «Исторические записки». 1957, т. 60, с. 124–175; он же, *Хозяйство крупного помещика в XX в.* // «Исторические записки». 1962, т. 71, с. 43–72.

[1] Анфимов А. М., *«Свод по России» как источник для изучения помещичьего хозяйства XX века* // «Проблемы источниковедения». 1959, Т. VIII, с. 31–49.

[2] Елисеева Н., *Петр Гарчев (1923–2001) – украинский историк из Малого Буялыка* // Дриновський збірник. 2019, т. 12, с. 90.

криття характеру аграрного ладу дореволюційної Росії в контексті історичних передумов «Великої Жовтневої соціалістичної революції»[1]. Монографія складається з дев'яти розділів, у яких послідовно розглянуті поміщицьке землеволодіння, матеріальні основи організованого на них господарства, землекористування, сільське та лісове господарство поміщиків, торговельно-промислове підприємництво, кредит, застава та мобілізація землі. В центрі уваги перебувала проблема співвідношення відробіткової та капіталістичної систем. Проаналізувавши величезний корпус джерел, дослідник показав поєднання в панському господарстві прогресивних і таких, що гальмували аграрний розвиток, рис – при значній перевазі останніх. Водночас він виділив регіони, де капіталістичні риси поміщицького господарювання проявилися виразніше: Прибалтика, Правобережна та Південна Україна, Південна Росія. У підсумку Андрій Анфімов дійшов висновку, що поміщицькі латифундії в Росії не стали основою капіталістичного господарства, а темпи і форми їхньої капіталістичної еволюції не задовольняли потребам буржуазного перетворення аграрного ладу. На його погляд, сільське господарство Російської імперії на початку XX ст. заходило все далі у глухий кут[2].

Слід узяти до уваги, що такого висновку автор досяг на основі дослідження великих господарств поміщиків (площею понад 500 дес.). Що стосується ширшого кола маєтків, провести узагальнені підрахунки не було можливості, але він навів приклади та думки дослідників і власне поміщиків щодо домінування кабально-відробіткової системи у центральних губерніях Європейської Росії. Висновок Андрія Анфімова обережний: «[…] Ми виходимо з припущень, що поміщицьке господарство після кризи 80-90-х років, можливо, відновило попередні позиції й пішло далі. Можна очікувати, що розробка масового матеріалу підтвердить переважання капіталістичних форм ведення власного поміщицького господарства. Але з цієї умови не усувається той факт, що розміри капіталістичного господарства порівняно з відробітковим плюс кабально-орендним був незначним»[3].

До того ж, висновок про панування напівкріпосницьких відносин, здійснений на основі аналізу поміщицьких господарств (але з 28 тис. цих господарств 10 тис. уже були придбані особами інших станів, в основному селянами і не належали дворянам-поміщикам), науковець не зовсім обґрунтовано поширив на весь аграрний лад Російської імперії. Адже критикуючи поміщицьке землеволодіння як реакційну форму господарювання, Андрій Анфімов відзначив чимало прогресивних явищ в аграрних відносинах кінця XIX – початку XX ст., що про-

1 Анфимов А. М., *Крупное помещичье хозяйство Европейской России (конец XIX – начало XX в.)*. Москва, 1969, с. 3.

2 Там само, с. 381.

3 Там само, с. 87.

явилися в механізації праці на землі, використанні нових прийомів тваринництва, застосуванні хімічних добрив, вдосконаленої агротехніки тощо[1].

Вихід монографії «Крупное помещичье хозяйство Европейской России (конец XIX – начало XX в.)» припав на час згортання відносної свободи наукової діяльності, коли вільне вираження наукових поглядів ставало неможливим навіть у тих досить обмежених рамках, які мали місце в 1960-ті рр. Безпосереднім приводом до «наведення порядку» в історичній науці стала публікація в 1972 р. матеріалів свердловської конференції (1969) з проблем багатоукладності. Персональній атаці піддалися представники так званого «нового напряму» (Костянтин Тарновський, Павло Волобуєв, Володимир Адамов та ін.), у приналежності до якого було звинувачено і Андрія Анфімова.

«Провина» історика полягала у висновку щодо неможливості виводити соціалістичну революцію зі зрілості російського капіталізму, оскільки в аграрному секторі модернізаційні процеси відбувалися уповільненими темпами через збереження кріпосницьких пережитків. Звідси випливав підсумок про неприродність і стихійність аграрної революції 1917 р. Такі міркування були негативно сприйняті офіційною історіографією у липні 1972 р.

Бюро відділення історії АН СРСР прийняло постанову, що засуджувала «новий напрям». А в березні 1973 р. відбулася нарада у відділі науки ЦК КПРС, на якому такі погляди були охарактеризовані як «ревізіонізм марксизму», що вважалося одним із найбільших «гріхів»[2]. У 1974 р. в одному з провідних історичних журналів була опублікована розгромна рецензія на статтю 15-річної давності Андрія Анфімова «До питання про характер аграрного ладу Європейської Росії на початку XX ст.». Його було звільнено з посади завідувача сектору історії Росії періоду капіталізму, яку займав з 1970 р., на нього було поширено негласний статус «невиїзного». В умовах шаленого тиску науковець розпочав роботу над монографією про селянське господарство (як антипода поміщицького), яку розділив на два тексти: «Крестьянское хозяйство Европейской России. 1881–1904» та «Экономическое положение и классовая борьба крестьян Европейской России. 1881–1904».

У роботі «Крестьянское хозяйство Европейской России. 1881–1904» Андрій Анфімов дійшов висновку, що про жодну провідну роль поміщицького господарства говорити не доводиться. Більше того, його значущість незупинно падала. А домінування «буржуазно-консервативного, поміщицького» шляху пояснювалося не міцністю поміщицького господарства, а концентрацією у по-

1 Берлов А. В., *Творческое наследие А. М. Анфимова и классовые подходы в оценках крестьянского хозяйства* // «Вестник Екатерининского института». 2016, № 4 (36), с. 3–6.

2 *Аграрная история XX века: историография и источники* / под ред. Н. Н. Кабытовой, П. С. Кабытова, В. В. Кондрашина. Самара, 2014, с. 17.

міщиків великої маси землі і потужною підтримкою з боку держави[1]. Звідси випливав висновок про визрівання передумов революції на початку ХХ ст.

Уже у вступі автор визнав «помилковість» своєї тези про повсюдне поширення напівкріпосницьких відносин у російському селі і зазначив, що «панування капіталістичного укладу, який пронизував усі пори економічного життя села [...] цілком доводиться усім матеріалом, поданим у пропонованій читачеві роботі». А суспільство він охарактеризував як таке, що «всім ходом розвитку йшло не тільки до буржуазної, але і до соціалістичної революції». Можливо, таке зауваження Андрій Анфімов зробив для порятунку цих книг і з метою власної реабілітації. Науковець досліджував, зокрема, поземельний устрій селян, основні структурні складові їх господарства, баланс доходів і витрат, що дозволило глибше розкрити внутрішній економічний лад селянського господарства, виявити причини, форми селянських виступів, методично обґрунтувати й уточнити їх статистику. Щодо поміщицтва автор наполягав, що поміщицьке господарство при всіх його досягненнях в агротехнічній галузі було економічно реакційним і залишалося опорою кріпосництва. Прогресивна ж тенденція була представлена винятково селянським господарством. Боротьба між ними заповнила собою весь пореформений період і розпалювалася від десятиліття до десятиліття[2].

У 1990-ті рр., коли впали обмеження наукової творчості, російські дослідники продовжили вивчення поміщицтва, вже у нових умовах прагнучи розв'язати дискусійні проблеми, які визрівали протягом кількох останніх десятиліть. Провідне місце серед них посідало питання про рівень розвитку капіталізму в сільському господарстві. У циклі статей «Неоконченные споры» Андрій Анфімов опонував Івану Ковальченку, керівнику авторського колективу монографії «Социально-экономический строй помещичьего хозяйства Европейской России в эпоху капитализма»[3]. У ході полеміки було порушено дві проблеми: про питому вагу пережитків кріпацтва в аграрному секторі та про ступінь розвитку капіталістичних відносин. Андрій Анфімов повернувся до тези про панування відробітків у поміщицьких господарствах, незважаючи на те, що їхнє скорочення доводив у попередніх монографіях, простеживши на матеріалах сільськогосподарського перепису 1917 р. зростання грошової оренди та її абсолютне переважання над відробітками[4].

---

1 Анфимов А. М., *Крестьянское хозяйство Европейской России. 1881–1904*. Москва, 1980, с. 233.

2 Анфимов А. М., *Крестьянское хозяйство Европейской России...*, 1980, с. 228.

3 Ковальченко И. Д., Селунская Н. Б., Литваков Б. М., *Социально-экономический строй помещичьего хозяйства Европейской России в эпоху капитализма*. Москва, 1982.

4 Анфимов А. М., *Неоконченные споры* // «Вопросы истории». 1997, № 5, с. 49–72; № 6, с. 41–84; № 7, с. 81–99; № 9, с. 82–113.

Іван Ковальченко вважав, що гніт відробітків не був настільки тяжким для селян, як це зображувалося в радянській літературі. Натомість прес викупних платежів, купівля та оренда поміщицьких земель надзвичайно тисли на селян, що відбувалося внаслідок привілейованості поміщицького землеволодіння. Він наполягав, що на початку XX ст. буржуазні відносини домінували і в поміщицькому, і в селянському господарствах[1]. Обидва історики залишалися в полоні ленінської парадигми щодо «двох шляхів» розвитку капіталізму у сільському господарстві.

Далеко не з усіма твердженнями Андрія Анфімова можна погодитися. Передусім, викликає неприйняття методологія. Поміщицьке господарство показане винятково з позиції селянства, а не перспектив загального економічного поступу. Не дивно, що присвячена поміщицькому господарству монографія завершується висновком про усвідомлення трудящого селянства Росії, «що лише в союзі з робітничим класом, у спільній з ним боротьбі» можуть бути здійснені «вікові прагнення». Автор зосередився на соціально-економічних і політичних сюжетах, не взявши до уваги, наприклад, доброчинно-меценатську діяльність. Не можна прийняти висновок про повний провал столипінської аграрної реформи, яку спеціально досліджував історик практично протягом усього творчого життя.

Але незважаючи на критичні зауваги, аналіз аграрної системи дореволюційної Росії з економічних, а не класових позицій і визначення в ній місця поміщицького господарства були новим явищем для радянської науки. У процесі опрацювання проблеми було виявлено, систематизовано та узагальнено великий обсяг інформації, вилученої з джерел. Не менш важливою для історичної науки 1960-х рр. стала демонстрація перспектив вивчення історії великих землевласників, прочитання тієї самої епохи, але з іншого боку. Можна без перебільшення сказати, що свого часу Андрію Анфімову, не зважаючи на пильне око партійно-державних функціонерів, вдалося започаткувати новий напрям у вітчизняній історичній науці, який повноцінне наповнення зміг здобути лише в 1990-ті – 2000-ні рр., в умовах свободи дослідницької творчості.

---

1 Ковальченко И. Д., *Аграрное развитие России и революционный процесс // Реформы или революция? Россия в 1861–1917:* Материалы международного коллоквиума историков. СПб., 1992, с. 246–263.

© HOMO HISTORICUS 2022
ISSN 2424-5216

# КАБ НАПІСАНАЕ ЗАСТАЛОСЯ: ДА ГІСТОРЫІ СТВАРЭННЯ КНІГ АПАНАСА ЦЫХУНА ПРА АКАДЭМІКА ЯЎХІМА КАРСКАГА

***Віталь Карнялюк,***
*канд. гіст. навук (Гродна)*

**_Summary_**

*The article deals with an episode of the activity of the famous Hrodna teacher Apanas Tsyhun, associated with the process of publishing the book «Academician from the village of Lasha. Auchim Karsky». Based on the preserved correspondence between the author of the book and employees of various publishing houses and scientists, the article shows the difficulties that researchers of Belarusian history often had to overcome during the Soviet times. The history of publishing the book about academician A. Karsky, shown in the article, depicts the circumstances in which the name of the famous Belarusian linguist went to the broad masses of readers.*

Кнігу мала напісаць. Хоць насамрэч, каб напісаць, то трэба пражыць з ёй жыццё. Але кнігу трэба яшчэ і выдаць. Наша даследаванне прысвечана гісторыі выдання кнігі Апанаса Пятровіча Цыхуна (1910–2005) *Акадэмік з вёскі Лаша* (1992) пра выбітнага беларускага мовазнаўца акадэміка Яўхіма Фёдаравіча Карскага (1860–1931).

Асноўны корпус крыніц, які стаў падставай для нашага пошуку, – гэта тэчка рукапісаў, зычліва перададзеная музею Яўхіма Карскага ў Першай гродзенскай гімназіі дырэктаркай Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі Лідзіяй Мальцавай.

Сярод шэрагу вельмі цікавых і нават унікальных дакументаў дадзеная тэчка ўтрымлівала стос папер пад асобнай вокладкай з надпісам: *«Перапіска Апанаса Пятровіча Цыхуна з вучонымі па пытанню выдання кніжкі «Акадэмік з вёскі Лаша Я. Ф. Карскі. Краязнаўча-біяграфічны нарыс». Водгукі, рэцэнзіі»*.

Паводле дат, якімі пазначаны пераважна машынапісныя тэксты, з часу гэтага ліставання прамінула амаль паўстагоддзя. Найдаўнейшы ліст датуецца 1976 годам. З фігурантаў той перапіскі на сённяшні дзень сярод жывых засталіся адзінкі. І гэта людзі сталага веку – Мікалай Макаравіч Акаловіч (нар. 1926 г.) і Генадзь Апанасавіч Цыхун (нар. 1936 г.).



*Апанас Цыхун. 1970-я гг. Музей Яўхіма Карскага (Гродна)*

Што прымусіла звярнуцца да гэтага эпізоду жыцця Апанаса Цыхуна, які на працягу амаль двух дзесяцігоддзяў спрабаваў надрукаваць тое, што назбіраў, надумаў і напісаў пра свайго славутага земляка? Напэўна, жаданне паказаць мэтанакіраванасць даследчыка, яго настойлівае імкненне данесці да людзей вынікі свайго пошуку, які стаў часткай жыцця. Таксама хочацца паказаць значэнне тых гістарычных перамен пачатку 1990-х гг., калі Рэспубліка Беларусь абвясціла незалежнасць.

Кніга *Акадэмік з вёскі Лаша* выйшла ў 1992 г. і заняла пачэснае месца ў гістарыяграфіі. Гэты краязнаўчы нарыс на сямідзесяці чатырох старонках стаў першым дасягальным для масавага чытача жыццяпісам даследчыка-энцыклапедыста, з якім вельмі пашчасціла беларусам на пачатку XX ст., калі адбываліся першыя крокі нацыянальнай дзяржаўнасці. Прамінуў час, і цяпер пра Яўхіма Карскага існуе багатая гістарыяграфія, якая нядаўна папоўнілася двухтомным даследаваннем яго праўнука Аляксандра Карскага[1]. Таксама трэба прыгадаць шэраг змястоўных артыкулаў Андрэя Блінца[2]. Апрача таго з 1995 г. у Гродне існуе і развіваецца на новым гімназічным этапе музей акадэміка Яўхіма Карскага.

Прэзентацыя постаці заснавальніка беларускага мовазнаўства Яўхіма Карскага магла быць іншай, каб тагачасныя савецкія кіраўнікі выдавецкай справы

---

[1] Карский А. А., *Академик Е. Ф. Карский. Биография*. Т. 1–2. Минск, 2019.

[2] Блінец А., *Будчанскі след акадэміка Карскага* [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.gants-region.info/publ/andrehj_blinec/sjam_ja_navickikh/25-1-0-146. Дата доступу: 02.03.2020; Блінец А., *Лічбы «Беларусаў»*. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.kimpress.by/index.phtml?page=2&id=5318&mode=print. Дата доступу: 14.08.2021; Блінец А., *Сям'я Навіцкіх*. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.gants-region.info/publ/andrehj_blinec/sjam_ja_navickikh/25-1-0-146. Дата доступу: 14.08.2021; Блінец А., *Брат акадэміка Карскага лічыў сябе рускім, а яго дачка падтрымала БНР*. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://history.nn.by/?c=ar&i=237814. Дата доступу: 14.08.2021.

і шэраг навукоўцаў мелі шырэйшы кругагляд у дачыненні да з'яў і асоб нашай беларускай гісторыі і культуры і імкнуліся гэтую мінуўшчыну данесці да людзей.

Справа ў тым, што перш чым прапанаваць да выдання ўласны рукапіс *Акадэмік з вёсі Лаша*, гродзенскі педагог-краязнавец Апанас Цыхун выступіў з ініцыятывай выдаць вялікі ілюстраваны навукова-папулярны альбом *Яўхім Карскі. Жыццё і дзейнасць*, аднак двойчы атрымаў катэгарычную адмову. Аргументы адмовы былі розныя, а пра сапраўдныя прычыны адмаўлення можна толькі здагадвацца, ведаючы ідэалагічныя ўстаноўкі ў БССР 1970-х гг.

Першая адмова была ў лісце журналіста і пісьменніка, галоўнага рэдактара выдавецтва «Навука і тэхніка» Мікалая Акаловіча, датаваным 4 ліпеня 1975 г. Там наўпрост сцвярджалася, што невядома, «каму можна адрасаваць гэтую (А. П. Цыхуна) працу?» Галоўны рэдактар ставіў пад сумненне яе карысць для вучнёўскай моладзі. «Наўрад ці гэтаму кантынгенту (г. зн. студэнтам) чытачоў патрэбны альбом школьнага тыпу. А ў сярэдняй школе прац Я. Ф. Карскага не вывучаюць,» – сцвярджаў М. М. Акаловіч[1].

Адказ кіраўніка выдавецтва насіў дэмагагічны характар. Разважаючы пра адсутнасць напісанага пра Я. Ф. Карскага ў Беларусі, ён згадваў патрэбу ў навуковых, навукова-папулярных і белетрыстычных (накшталт ЖЗЛ) даследаваннях. Але кожны даследчык разумее, што з'яўленню такога характару выданняў папярэднічае працяглая архіўная праца, шэраг апрабацый у перыядычным навуковым і масавым друку. Мікалай Акаловіч зрабіў выснову, што ініцыятыва Цыхуна – гэта «выданне дзеля выдання», якое «наўрад ці прынясе прыкметную карысць». Адзначым, што рукапіс гэтага «выдання дзеля выдання» складаў пяць тэчак.

Атрымаўшы адмову, Апанас Цыхун звярнуўся да прадстаўніка вышэйшай інстанцыі. Ім стаў старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтва, паліграфіі і кніжнага гандлю Міхаіл Дзялец (1918–2000). Існуе ліст А. П. Цыхуна ад 26 ліпеня 1976 г., у якім праз год пасля адмоўнага адказу М. М. Акаловіча аўтар рукапісу альбома паслядоўна і грунтоўна тлумачыць чыноўніку перадгісторыю напісання і характарызуе ўласны твор. Цыхун апеляваў да станоўчых водгукаў на рукапіс. Падтрымка была з боку загадчыка Сектара беларускай дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР прафесара Юльяна Пшыркова, загадчыка кафедры беларускага мовазнаўства Менскага педінстытута, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства АН БССР Барыса Лапава, доктара філалагічных навук Фёдара Яноўскага[2].

---

1 Музей Я. Ф. Карскага гімназіі № 1 г. Гродна, спр. 330. *Ліст М. М. Акаловіча Г. А. Цыхуну ад 04.07.1975.*

2 Тамсама, адз. зах. 331. *Ліст А. П. Цыхуна М. І. Дзяльцу ад 26.07.1976.*

Але галоўным наборам аргументаў Апанаса Цыхуна быў падрабязны пералік тых дзеячаў культуры і навукі Беларусі, звесткі пра якіх, у т. л. з ілюстрацыямі, былі прадстаўлены ў матэрыялах кнігі. Гэты пералік звяртае на сабе ўвагу ўжо таму, што ў сярэдзіне 1970-х гг., калі беларуская культура існавала ва ўмовах «паказной» нацыянальнай палітыкі КПБ, такая падкрэсленая згадка і тым больш папулярызацыя дасягненняў у беларускім мовазнаўстве балансавала на мяжы прызнання нацыянальнай культурнай адметнасці[1]. Адзначым, што апошняе выклікала незадавальненне ідэолагаў і абарочвалася забаронамі. Так, з 1968 па 1989 г. толькі ў фармаце самвыдата хадзіла па руках кніжка Міколы Ермаловіча «Па слядах аднаго міфа». Дваццаць два гады праляжаў на паліцы зняты ў 1967 г. фільм «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». А пра тое, каб да чытача дайшлі разважанні Вітаўта Тумаша пра акадэміка Карскага, напісаныя да 100-годдзя яго нараджэння (1961), і гаворкі быць не магло[2].

Гістарычныя факты і асаблівасці жыцця Я. Ф. Карскага, вобраз беларускага акадэміка, якія прапаноўваў Апанас Цыхун, выклікалі цікавы роздум пра лёс беларускай культуры і навукі. Падкрэслім, што Апанас Цыхун у сваім лісце да М. І. Дзяльца ўказаў гістарычныя крыніцы, знаёмства з якімі ў той час было сапраўдным адкрыццём Яўхіма Карскага для масавага чытача. Гэта ўспаміны дачкі і ўнучкі акадэміка, зяця Віктара Баркоўскага, тагачаснага дырэктара Інстытута рускай мовы АН СССР, лісты з перапіскі Яўхіма Карскага з Янкам Купалам і Якубам Коласам[3].

Адзначым, што аўтар складаў матэрыял для альбома на падставе ўласнай плённай краязнаўчай працы. У 1957 г. у Лашанскай базавай школе па ініцыятыве і намаганнямі Апанаса Цыхуна адкрыўся музейны куток Я. Ф. Карскага. У 1964 г. ён быў пératвораны ў музей акадэміка Яўхіма Карскага[4]. Стварэнню музея папярэднічала вялікая даследчая і краязнаўчая праца, усталяванне кантактаў са сваякамі акадэміка. Спрабуючы ўпэўніць чыноўніка ў вартасці кнігі пра Карскага, Апанас Цыхун абапіраўся на цікавасць да кнігі з боку бліжняга кола знакамітага навукоўца – яго дачкі Наталлі Яўхімаўны Баркоўскай-Карскай, унучкі Таццяны Сяргееўны Карскай і зяця В. І. Баркоўскага[5].

---

1 Шыбека З., *Нарыс гісторыі Беларусі (1795–2002)*. Мінск, 2003. с. 383.

2 Тумаш В., *Яўхім Карскі*. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.gants-region.info/publ/paleskaja_pamylka_jawkhima_karskaga/3-1-0-201. Дата доступу: 14.08.2021.

3 Музей Я. Ф. Карскага гімназіі № 1 г. Гродна, спр. 331. *Ліст А. П. Цыхуна М. І. Дзяльцу ад 26.07.1976.*

4 Цыхун А. П., *Акадэмік Яўхім Фёдаравіч Карскі // Нёман*. Пад рэд. А. Д. Коласа [і інш.]. Ч. 2. Гродна, 1958, с. 187.

5 Музей Я. Ф. Карскага гімназіі № 1 г. Гродна, спр. 331. *Ліст А. П. Цыхуна М. І. Дзяльцу ад 26.07.1976.*

Альбом утрымліваў надзвычай цікавы і грунтоўна апрацаваны матэрыял. Гэта быў вынік шматгадовай працы. А. Цыхун у згаданым лісце прыгадаў публікацыю фрагмента альбома на старонках часопіса «Маладосць» у 1966 г. Пра змест і маштаб прапанаванага альбома можна меркаваць па артыкуле «Акадэмік Яўхім Фёдаравіч Карскі», які Апанас Цыхун надрукаваў яшчэ ў 1958 г. у зборніку твораў пісьменнікаў Гродзенскай вобл.[1] Артыкул утрымліваў інфармацыю, якая была вынікам працяглай руплівай даследчай працы з выкарыстаннем самага шырокага кола крыніц.

Адзначым, што напрыканцы 1950-х гг. па праблеме жыццяпісу Яўхіма Карскага амаль не было публікацый, а тыя, што былі, закраналі толькі навуковыя дасягненні акадэміка. Як адзначаў старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства АН БССР Іван Крамко ў сваёй ацэнцы кнігі Міхаіла Булахава *Евфимий Фёдорович Карский. Жизнь, научная и общественная деятельность*, «жыццёвы шлях асветлены вельмі скупа, схематычна»[2]. Той жа І. Крамко з веданнем справы адзначаў, што «да апошняга часу не было больш-менш добрага нарыса пра яго жыццё, дзейнасць, акрамя кароткіх артыкулаў, прысвечаных юбілейным датам».

Заўважым, што ніхто да Апанаса Цыхуна не звяртаў увагі на такія важныя для разумення жыцця і дзеянняў Яўхіма Карскага факты, як наведванне вёсак Жукі, Мігова, Панямунь Гродзенскай губ., падрабязнасці візітаў Карскага ў 1924 і 1926 гг. у Чэхаславакію, Югаславію і Польшчу[3]. Лагічны, напоўнены цікавымі фактамі і прыкладамі артыкул А. П. Цыхуна сведчыць пра грунтоўны падыход аўтара да выдання ілюстраванага альбома.

Аднак ні змест рукапісаў, ні аргументацыя аўтара на мелі ўплыву на чыноўніка, які ў адказе ад 18 жніўня 1976 г. адназначна адмовіў у выданні, адзначыўшы, што «альбом разлічаны на вузкае кола чытачоў [...]. Занадта складаны для паліграфічнага выканання. Страты ад яго выпуску складуць некалькі тысяч рублёў. Да таго ж выдавецтва і паліграфічныя прадпрыемствы рэспублікі ў цяперашні час вельмі перагружаны планавымі работамі»[4].

Тут варта працытаваць вядомага французскага гісторыка Люсьена Феўра, які быў перакананы, што «гісторыкі павінны весці дыялог з кожным з буйных сектараў навук пра чалавека», і сцвярджаў, што лепей адзін раз убачыць, чым

---

[1] Цыхун А. П., *Акадэмік Яўхім Фёдаравіч Карскі*, с. 183–188.

[2] Музей Я. Ф. Карскага гімназіі № 1 г. Гродна, спр. 333. *Водгук старшага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР Івана Крамко аб рукапісе кнігі А. П. Цыхуна «Акадэмік з вёскі Лаша».*

[3] Цыхун А. П., *Акадэмік Яўхім Фёдаравіч Карскі...*, с. 186–187.

[4] Музей Я. Ф. Карскага гімназіі № 1 г. Гродна, спр. 332. *Ліст М. І. Дзяльца А. П. Цыхуну ад 16.08.1976.*

дзесяць раз прачытаць[1]. Багаты досвед вопытнага настаўніка дапамог А. Цыхуну зразумець вялікае значэнне вобраза асобы. Сучасны даследчык упэўнены, што вобраз асобы, у адрозненне ад яе навуковага партрэта, утрымлівае эмацыйныя характарыстыкі, а значыць, уздзейнічае на сферу ментальнасці. Тым больш што мова вобраза больш зразумелая, насычаная метафарамі, яна можа запамінацца на ўсё жыццё[2].

Вось так была перакрэслена ініцыятыва Апанаса Цыхуна данесці да грамадства ў навукова-папулярнай форме постаць аўтара «Беларусаў». Не дачакаліся выдання і сваякі Яўхіма Карскага – дачка Наталля (памерла ў 1981 г.) і зяць Віктар (пайшоў з жыцця ў 1982 г.). Можам толькі здагадвацца пра матывы адмовы. Але больш важна, што прыкры вынік хаджэнняў па рэдакцыях не знішчыў веру аўтара ў слушнасць справы. Апошняму моцна спрыяла шчырая падтрымка сапраўдных аўтарытэтаў беларускай культуры. Так, Кандрат Крапіва ў лісце ад 14 кастрычніка 1976 г. да А. П. Цыхуна пісаў: «Думаю, што сабраны Вамі багаты матэрыял у яго цяперашнім ці іншым выглядзе з часам стане здабыткам грамадскасці»[3].

У пачатку 1980-х гг., як сведчыць ліст Апанаса Цыхуна да галоўнага рэдактара выдавецтва «Навука і тэхніка», краязнавец падрыхтаваў новую кнігу Акадэмік з вёскі Лаша[4]. У гэтым лісце аўтар прыводзіць структуру кнігі, якая павінна была складацца з 11 раздзелаў: 1) З гісторыі радзімы Я. Ф. Карскага – вёскі Лашы; 2) Ятра – другая радзіма Я. Ф. Карскага; 3) Вучоба і першыя крокі ў навуку; 4) Этнографы і Я. Ф. Карскі; 5) Да вялікіх здзяйсненняў; 6) Беларусы і этнаграфічная карта; 7) Прызнанне. Выказванні вучоных аб працах Я. Ф. Карскага; 8) Выказванні сучасных вучоных аб працах Я. Ф. Карскага; 9) Сувязь Я. Ф. Карскага з вядомымі вучонымі і яго выказванні аб іх працах; 10) У памяці нашчадкаў; 11) Бібліяграфія навуковых прац Я. Ф. Карскага.

Да тэксту дадавалася амаль сотня ілюстрацый. Дзеля параўнання: у выданні 1992 г. – 6 раздзелаў і 52 ілюстрацыі. У прыватнасці, звяртае на сябе ўвагу асобная частка, прысвечаная дзейнасці музея Яўхіма Карскага ў сямігадовай Лашанскай школе, у якой «за час існавання было больш за 12 тыс. наведвальнікаў»[5]. Кожны, хто мае ўяўленне пра школьны музей, можа ацаніць гэту ліч-

---

1 Цытата паводле: Бродель Ф., *Очерки истории*. Москва, 2015, с. 209.

2 Марков В. И., *Формирование образа исторического деятеля в культуре: методологические заметки.* // Вестник культуры искусств. 2016, № 4 (48), с. 60.

3 Музей Я. Ф. Карскага гімназіі № 1 г. Гродна, спр. 338. *Ліст А. П. Цыхуна І. Я. Навуменку ад 16.05.1987.*

4 Тамсама, спр. 339. *Ліст А. П. Цыхуна да галоўнага рэдактара выдавецтва «Навука і тэхніка»*. Б. д.

5 Тамсама.

бу, тым больш датычна музея вясковай школы. На жаль, у выдадзенай кнізе аўтар быў вымушаны пакінуць толькі адзін абзац пра дзейнасць музея.

Паводле зместу ліста дырэктара Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа члена-карэспандэнта АН БССР Аркадзя Жураўскага ад 28 чэрвеня 1983 г., Апанас Цыхун папярэдне звярнуўся да тагачаснага віцэ-прэзідэнта АН БССР Івана Навуменкі, а той перадаў рукапіс кнігі ў акадэмічны Інстытут мовазнаўства. Іван Крамко напісаў станоўчы водгук[1], але прапанаваў скараціць апісанне побыту дарэвалюцыйнай Беларусі, прыбраць звесткі і фотаздымкі тых навукоўцаў і пісьменнікаў, якія не мелі непасрэдных кантактаў з Карскім ды інш. Пры гэтым Іван Крамко тактоўна падкрэсліў, што не лічыць свае заўвагі абавязковай умовай выдання кнігі. Рэцэнзент назваў кнігу «патрэбнай і неабходнай» і, па сутнасці, даў «зялёнае святло» гэтаму рукапісу Апанаса Цыхуна.

Да станоўчага водгуку Івана Крамко дадаліся водгукі Таццяны Карскай, якая на правах унучкі акадэміка і з пазіцыі кандыдата філалагічных навук дала разгорнутую станоўчую характарыстыку новаму твору А. П. Цыхуна. У фондах гімназічнага музея Яўхіма Карскага захоўваюцца два экзэмпляры падобных па змесце водгукаў Т. С. Карскай – ад 7 мая і ад 20 лістапада 1984 г. Першы мае асабісты подпіс рэцэнзента[2]. У абодвух водгуках Таццяна Карская падкрэслівала наяўнасць «арыгінальных дадзеных» і значэнне, якое выходзіла за межы краязнаўства.

Здавалася б, рэкамендацыя знакамітага беларускага пісьменніка, грунтоўны пазітыўны водгук акадэмічнага навукоўца і прыязная рэакцыя дасведчанага ў навуковай дзейнасці сваяка Я. Ф. Карскага стануць пропускам рукапісу ў друк. Але ішоў час, а кніга не выдавалася. У студзені 1985 г. Апанас Цыхун ізноў звярнуўся да Івана Навуменкі. Якія аргументы прыводзіў ён у сваім лісце, мы не ведаем, але ўжо 18 лютага аўтар атрымаў чарговы ліст ад Аркадзя Жураўскага. Краязнавец даведаўся, што яго кніга не ўключана ў выдавецкі план Інстытута мовазнаўства на 1986 г., і ёсць шанцы выдання толькі ў 1987 г.[3]

Прайшлі яшчэ два гады. Ні ў план 1987 г., ні ў план 1988 г. рукапіс Цыхуна так і не патрапіў. У 1986 г. прамінулі чарговыя юбілейныя ўгодкі славутага акадэміка, да якіх калісьці і планавалася выдаць кнігу.

---

1 Тамсама, спр. 333. *Водгук старшага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР Івана Крамко аб рукапісе кнігі А. П. Цыхуна «Акадэмік з вёскі Лаша».*

2 Музей Я. Ф. Карскага гімназіі № 1 г. Гродна, спр. 335. Карская Т. С., *Отзыв на рукопись книги: Цыхун А. П. Акадэмік з вёскі Лаша.* 7 а.л. с иллюстрациями. На белорусском языке. 7.05.1984; спр. 336. Карская Т. С., *Отзыв на рукопись книги: Цыхун А. П. Акадэмік з вёскі Лаша.* 7 а.л. с иллюстрациями. На белорусском языке. 20.11.1984.

3 Тамсама, спр. 337. *Ліст А. І. Жураўскага А. П. Цыхуну ад 18.02.1985.*

Ізноў 77-гадовы заснавальнік музея Я. Ф. Карскага звярнуўся да Івана Навуменкі[1]. Яго ліст ад 16 мая 1987 г. – сведчанне крыўды аўтара, якую ён ужо не хаваў. «Абяцанка-цацанка, а дзіцяці радасць», – знаходзіць сілы жартаваць Апанас Цыхун. Ён вырашыў патлумачыць матывы ўласнай дзейнаці: «Жаданне было ўвекавечыць памяць свайго земляка, можна сказаць, аднавяскоўца, выдатнага вучонага, заснавальніка беларускага мовазнаўства і беларускай філалогіі [...] Вельмі сумна будзе, калі [...] сабраны мною багаты ілюстрацыйны і тэкставы матэрыял бясследна загіне». 2 чэрвеня 1987 г. быў напісаны яшчэ адзін ліст да Івана Навуменкі. Пра яго краязнавец згадаў у перапісцы з Іванам Крамко[2]. Таксама паведамляў, што атрымаў адказ І. Навуменкі, які, спасылаючыся на словы дырэктара выдавецтва «Навука і тэхніка» Фадзея Савіцкага, напісаў пра ўключэнне яе ў выдавецкі план 1989 г.

Але ў верасні 1987 г. Апанас Цыхун атрымаў ад выдавецтва бандэроль з рукапісам, суправаджальнымі дакументамі і рэцэнзіяй[3]. Гэта была г. зв. «чорная» рэцэнзія. І яе змест быў без перабольшвання чорны. На сямі старонках, датаваных 7 верасня 1987 г., невядомы рэцэнзент ушчэнт разбіваў дасланую ў выдавецтва працу. Адзначым адразу, што пра недасведчанасць рэцэнзента ў праблематыцы сведчыць яго тэзіс аб тым, што ў жыцці Карскага не было знешніх «кідкіх» момантаў, незвычайных падзей, здарэнняў, якія б «ажыўлялі» падаваемы матэрыял»[4]. Можна толькі канстатаваць, што рэцэнзент вельмі павярхоўна ведаў жыццё і дзейнасць акадэміка Яўхіма Карскага, якое ўвабрала ў сябе шмат драматычных і трагічных старонак (змена прозвішча, супрацьстаянне міністру Л. А. Касо, напоўненае хваляваннямі студэнцтва рэктарства ў Варшаўскім універсітэце, актыўны ўдзел у Першым Усебеларускім кангрэсе, педагагічная дзейнасць у Менску ў 1918 г., намаганні па стварэнні БДУ, нападкі ў сувязі з навуковымі паездкамі ў Еўропу, удзел сыноў у грамадзянскай вайне і знікненне ў яе полымі сына Яўгена. І гэта далёка не ўсё, што робіць жыццё і дзейнасць вучонага своеасаблівым люстэркам гістарычных падзей пачатку XX ст.

Аўтар ананімнага водгука чапляўся да самых розных момантаў. Яму не падабалася «газетнае» апісанне дарогі і навакольных вёсак, згадка пра адмену прыгону, апісанне вечарыны ў Варшаве з удзелам трупы Ігната Буйніцкага. Важны раздзел кнігі Прытокі і крынічкі рэцэнзент ацаніў як «не цікавы, не глыбокі, аднастайны». Раздзел Да вялікіх здзяйсненняў, паводле рэцэнзента,

---

[1] Тамсама, спр. 338. *Ліст А. П. Цыхуна І. Я. Навуменкі ад 16.05.1987.*

[2] Тамсама, спр. 351. *Ліст А. П. Цыхуна да І. І. Крамко ад 4.10.1987.*

[3] Музей Я. Ф. Карскага гімназіі № 1 г. Гродна, спр. 341. *Ліст В. У. Ляшчынскага А. П Цыхуну ад 17.09.1987.*

[4] Тамсама, спр. 340. *Водгук на працу А. П. Цыхуна «Акадэмік з вёскі Лаша. Краязнаўча-біяграфічны нарыс».* 87 стар. тэксту, 50 ілюстр. 07.09.1987.

«перанасычаны цытатамі», а вось характарыстыка шматтомнага даследавання «Беларусы» падалася занадта «сціслай і кароткай». Раздзел *Я. Ф. Карскі – акадэмік* быў крытыкаваны за «празмерна доўгія цытаты родных Я. Ф. Карскага» і неадпаведнасць зместу назве раздзела. Не спадабалася рэцэнзенту і наяўнасць цытат у апошнім раздзеле *Прызнанне і ўдзячнасць*.

Рэцэнзент сцвярджаў, што «рукапісу, які можна было б рэкамендаваць да выдання, няма», а «з напісаных старонак магутнай фігуры Карскага-вучонага не паўстае». Заключэнне ананімнага рэцэнзента было катэгарычным: «Рукапіс патрабуе сур'ёзнай дапрацоўкі, а месцамі поўнай перапрацоўкі».

У выніку Апанас Цыхун павінен быў усё пачынаць ад пачатку. У лісце да Івана Крамко ад 4 кастрычніка 1987 г. ён распавёў пра сітуацыю з рукапісам, звярнуў увагу на змест «чорнай рэцэнзіі» і папрасіў параіць, «з якімі заўвагамі трэба згадзіцца з рэцэнзентам, а з якімі заўвагамі і прапановамі не згадзіцца»[1]. Разам з лістом А. П. Цыхун даслаў і саму рэцэнзію. Змест ліста сведчыць, што надзея на выхад кнігі ў выдавецтве «Навука і тэхніка» ў 1989 г. у аўтара яшчэ заставалася.

Адказ Івана Крамко не прымусіў доўга сябе чакаць. Ён параіў Апанасу Цыхуну «прыняць большасць заўваг і выправіць недахопы»[2]. Сваю пазіцыю навуковец патлумачыў тым, што ведае, у якое выдавецтва патрапіла кніга. У іншай частцы свайго ліста Іван Крамко паўтарыў: «Амаль з усімі дробнымі заўвагамі трэба згаджацца». Адначасова Іван Крамко адзначыў непрымальнасць для яго заўвагі пра вечарыну ў Варшаве, пра адсутнасць вылучэння асноўных этапаў працы і напрамкаў навуковай дзейнасці Я. Ф. Карскага. Напрыканцы разважанняў пра слушнасць і няслушнасць заўваг «чорнага» рэцэнзента І. Крамко параіў аўтару пры нагодзе пісьмовага адказу падкрэсліць, што ён не ставіў задачу навуковага даследавання, а імкнуўся стварыць краязнаўча-біяграфічны нарыс, які б вызначыў унёсак Карскага ў канкрэтныя галіны філалагічнай навукі, што да гэтага часу яшчэ не зроблена. Падкрэсліваючы, што ён «на баку» аўтара, Іван Крамко таксама параіў апошняму прызначыць яму афіцыйную ролю рэцэнзента або рэдактара. Як бачна з афармлення выдання 1992 г., Апанас Цыхун пазначыў яго ў якасці рэдактара. Рэцэнзентамі кнігі, якая нарэшце выйшда з друку, былі Таццяна Карская і Іван Германовіч[3]. Напрыканцы ліста Іван Крамко падбадзёрыў краязнаўца высокай ацэнкай зборніка вершаў *Краю мой, Нёман*, дзе таксама публікаваліся вершы Апанаса Цыхуна.

Распавядаючы пра ўсе гэтыя падзеі, нельга не згадаць сына Апанаса Цыхуна Генадзя, які актыўна дапамагаў бацьку ў ягонай справе. У лісце ад 2 лістапа-

---

1 Тамсама, спр. 351. *Ліст А. П. Цыхуна да І. І. Крамко ад 4.10.1987.*

2 Тамсама, спр. 342. *Ліст І. І. Крамко да А. П. Цыхуна ад 15.10.1987.*

3 Цыхун А. П., *Акадэмік з вёскі Лаша. Я. Ф. Карскі. Краязнаўча-біяграфічны нарыс.* Мінск, 1992.

да 1987 г. Генадзь Цыхун паведаміў бацьку, што па яго прапанове рэцэнзію на рукапіс кнігі *Акадэмік з вёскі Лаша Я. Ф. Карскі* падрыхтаваў кандыдат філалагічных навук дацэнт БДУ Іван Германовіч[1].

Рэцэнзія І. К. Германовіча была сціслай, але звяртала ўвагу на галоўнае, а менавіта на насычанасць нарыса многімі новымі, невядомымі дагэтуль звесткамі, на публікацыю фрагментаў з раней невядомых архіўных дакументаў, з успамінаў дачкі і ўнучкі славутага навукоўца. Ён таксама адзначыў першасную публікацыю шэрагу фотаздымкаў і заўважыў, што больш глыбокай характарыстыкі навуковых прац нельга патрабаваць ад краязнаўча-біяграфічнага нарыса. Паводле рэцэнзента, «выклад матэрыялу вельмі даступны і нават займальны»[2]. Іван Германовіч не меў аніякіх сумненняў у неабходнасці выдання кнігі.

Напрыканцы 1987 г. Апанас Цыхун зрабіў чарговы крок. Ён інтэнсіўна рэдагаваў рукапіс, перапрацоўваючы раздзелы, кіруючыся ўсім наборам заўваг і парад, і ўжо 6 лютага 1988 г. напісаў ліст да кіраўніка выдавецтва Фадзея Савіцкага[3]. Да ліста дадаў аўтарскую даведку аб дапрацоўцы рукапісу, сам рукапіс, водгукі Івана Германовіча і Таццяны Карскай. Здавалася, што Апанас Цыхун улічыў усё, каб рукапіс задаволіў самых патрабавальных выдаўцоў.

Але гісторыя паўтарылася. У фондзе музея Яўхіма Карскага гродзенскай гімназіі № 1 захоўваецца заключэнне загадчыка рэдакцыі філалогіі выдавецтва «Навука і тэхніка» Георгія Юрчанкі[4]. Сярод усіх водгукаў на рукапіс Цыхуна заключэнне Г. Ф. Юрчанкі найвялікшае. На дзевяці старонках гэты працаўнік выдавецтва паслядоўна перакрэсліў літаральна ўсе раздзелы рукапісу. На кожную станоўчую характарыстыку папярэдніх водгукаў Георгій Юрчанка знаходзіў адмоўны прыклад у рукапісе. «Дзіўны жанр», – ацаніў ён вызначэнне «краязнаўча-біяграфічны нарыс». І здзекліва запытаў: «Ці можна напісаць краязнаўчы нарыс пра адну асобу?».

Звяртаюць на сябе ўвагу рытарычныя абароты рэцэнзента: «Ці ёсць такі матэрыял у першым раздзеле? – Так, штоʼнішто ёсць». Альбо: «Няўжо там жывуць людзі ва ўзросце 137–145 год». Ці такі: «А. П. Цыхун усур'ёз мяркуе, што такое «даследаванне» можна выпускаць асобнай кніжкай?». Рэцэнзенту не спадабаліся ацэначныя меркаванні А. П. Цыхуна, датычныя

[1] Музей Я. Ф. Карскага гімназіі № 1 г. Гродна, спр. 343. *Ліст Г. А. Цыхуна А. П. Цыхуну ад 2.11.1987.*

[2] Тамсама, спр. 344. Германовіч І. К. *Водгук на працу А. П. Цыхуна «Акадэмік з вёскі Лаша. Краязнаўча-біяграфічны нарыс»*, 87 стар. тэксту, 50 ілюстр.

[3] Тамсама, спр. 345. *Ліст А. П. Цыхуна да Ф. І. Савіцкага ад 6.02.1988.*

[4] Тамсама, спр. 346. Юрчанка Г. Ф. *Водгук на рукапіс А. П. Цыхуна «Акадэмік з вёскі Лаша. Краязнаўча-біяграфічны нарыс»*. 79 стар. тэксту, 50 іл.

навукоўцаў, блізкіх да Яўхіма Карскага. Пры гэтым рэцэнзент патрабаваў ад аўтара «заглыбленасці», напрыклад, у сказе: «На працягу дзесяці год [...] падтрымліваў сувязь з Е. Р. Раманавым» – ці ў згадцы, што Карскі «ахвотна выкарыстоўваў працы А. К. Сержпутоўскага». Насуперак Івану Германовічу, Юрчанка сцвярджаў, што пра навуковую дзейнасць Яўхіма Карскага ў рукапісе гаворыцца «сумна і невыразна, штампаванымі зваротамі».

Вядома, што змест нарыса не прадугледжваў аналізу навуковых твораў. Але Юрчанка ўпарта шукаў і аналіз там, дзе яго не павінна было быць, і крытыкаваў метад даследавання. Г. Ф. Юрчанка нібыта знарок насміхаецца з унікальнага матэрыялу пра кабінет вучонага, звычкі і інтарэсы акадэміка. Непрымальным для яго быў эпіграф да кнігі, а таксама верш Апанаса Цыхуна.




*Вокладка кнігі*

Выснова Георгія Юрчанкі выразна сведчыць пра выкананне ім пэўнай замовы на адмоўную рэцэнзію: «А. П. Цыхун не ў стане сказаць пра Карскага нешта цікавае, арыгінальнае, сказаць жыва, прачула, свежа». Таксама ён услед за «чорным рэцэнзентам» паўтарыў думку пра адсутнасць у жыцці Яўхіма Карскага яркіх момантаў, што выявіла яго ўласную недасведчанасць адносна жыцця акадэміка.

Пра замову на падобнае «заключэнне» найбольш сведчыць тэзіс наконт нейкіх нібыта «абыходных шляхоў» Апанаса Цыхуна. Відавочна, што галоўныя матывы адмоўнага водгуку хаваліся ці ў асабістых крыўдах чыноўнікаў ад навукі і выдавецтва, ці ў тым ідэалагічным сіце, праз якое праходзілі ўсе працы па гісторыі Беларусі. Варта дадаць, што пры гэтым Юрчанка імкнецца паказаць сабе яшчэ і прыхільнікам «галоснасці і дэмакратызацыі». Дарэчы, гэтая згадка «галоснасці» па-свойму засведчыла, што гісторыя ацэньвання рукапісу А. П. Цыхуна закранула цэлыя эпохі – ад «застою» да «перабудовы».

Выдавецтва катэгарычна адмовіла ў выданні кнігі[1]. У тым жа 1988 г. Апанас Цыхун звярнуўся з рукапісам у выдавецтва «Полымя». Ён шмат ужо не тлумачыў, толькі агаварыўся, што «з рукапісам азнаёміліся ў Гродзенскім абкаме

[1] Тамсама, спр. 347. *Ліст Ф. І. Савіцкага А. П. Цыхуну ад 07.04.1988.*

партыі»[1]. Палітычныя і грамадскія павевы былі ўжо новымі, але і такі аргумент мог спрацаваць. Аднак не спрацаваў.

У тым, што кніга выйшла з друку ў Гродне ў 1992 г. фінансавымі намаганнямі кіраўніцтва СПК імя Дзеньшчыкова і выканкама Гродзенскага раённага Савета народных дэпутатаў, шмат сімвалічнага. Знакавым стала і тое, што мастаком кнігі быў Юры Кубараў, сучасны знакаміты гродзенскі дызайнер-мастак, аўтар сімвала рэспубліканскага фэстывалю нацыянальных культур. Вокладку, якую ён прыдумаў, аўтар прыняў без заўваг, пагадзіўшыся на дызайн спецыяліста: валошкі і бела-чырвона-белая стужка вакол іх спалучылі традыцыйную і дзяржаўную беларускую сімволіку.

Час, сапраўды, змяніўся. Уласна беларускае сёння стала больш запатрабаваным. І тое, што структуры мясцовай улады знайшлі магчымасць выдаць кнігу пра славутага земляка, сведчыла пра паварот да прыняцця ўласнай беларускай мінуўшчыны і культуры. А ўся гісторыя «хаджэнняў па муках» Апанаса Пятровіча Цыхуна стала сведчаннем яго сапраўднага падзвіжніцтва.

---

[1] Тамсама, спр. 348. *Ліст А. П. Цыхуна дырэктару выдавецтва «Полымя» М. А. Івановічу ад 25.11.1988.*

© HOMO HISTORICUS 2022
ISSN 2424-5216

# ПАД ЗНАКАМ АРНАМЕНТУ: ДА ГІСТОРЫІ СТВАРЭННЯ ДЗЯРЖАЎНАГА СЦЯГА

***Вольга Лабачэўская,***
*доктар мастацтвазнаўства (Менск)*

***Summary***

*The article, on the basis of archival materials, argues with the popular and widespread version of the origin of the Belarusian state flag ornament, which was created in 1951. The authenticity of the testimony of art critic Mikhail Katsar about the prototype of the ornament is denied. The path of the uprising of the mythologeme is traced, approaches to decode the ornament are disclosed, which were conditioned by the ideological constructs of the Soviet time, the amateur attitude of M. Katsar to the study of the semantics of ornament and the facts of his personal biography.*

Дзяржаўнаму сцягу Рэспублікі Беларусь і яго арнаменту прысвечана безліч публікацый. Першыя артыкулы з’явіліся яшчэ ў пачатку 1990-х гг. пасля ўтварэння суверэннай і незалежнай Беларускай дзяржавы, калі на змену чырвона-зялёнаму сцягу з арнаментам прыйшоў гістарычны бел-чырвона-белы сцяг. Пасля рэферэндуму 1995 г. І вяртання ў дзяржаўную сімволіку сцяга БССР з невялікай карэкціроўкай у сродках масавай інфармацыі актыўна асвятлялася гісторыя яго стварэння і тлумачылася сімволіка арнаменту. Падзеі апошняга часу зноў актуалізавалі гэтую тэму. У медыйнай прасторы ўзнаўляюцца сюжэты папярэдніх публікацый і з’яўляюцца новыя, у т. л. фэйкавыя гіпотэзы аб паходжанні сімволікі сцяга.

Лічу неабходным на навуковай аснове і з прыцягненнем архіўных крыніц вярнуцца да тэмы сімволікі арнаменту дзяржаўнага сцяга, аспрэчыць міфы і стэрэатыпы, прывесці факты і выказаць меркаванне даследчыка.

## *«Бацька» беларускага сцяга*

Сцяг БССР з арнаментам быў зацверджаны пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі 25 снежня 1951 г. Ён быў распрацаваны мастаком Мікалаем Іванавічам Гусевым (1899–1965), які кіраваў мастацкім аддзелам Белдзяржвыдавецтва. Але сапраўдным «бацькам» беларускага сцяга прынята лічыць мастацтвазнаўца прафесара Міхаіла Сяргеевіча Кацара (1906–1995). У той час ён быў супрацоўнікам Інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР і рыхтаваў да абароны доктарскую дысертацыю па беларускай архітэктуры.

Праўда, у сваёй аўтабіяграфіі, якая захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі краіны, гэтага факта М. Кацар не згадаў[1]. Ён толькі ў 1989 г. апісаў акалічнасці стварэння сцяга БССР на старонках часопіса «Политический собеседник»[2]. У 1991 г. У рукапісе кнігі пра ўзоры народнага ткацтва М. Кацар больш падрабязна распавёў пра гэта: «В 1951 г. меня пригласил пред. АН БССР Гращенков[3] и сказал, что Верховный Совет БССР поручил АН БССР создать эскиз флага БССР, и что Академия наук поручает это сектору изобразительного искусства. При этом было сказано, что флаг должен быть оригинальным, отличаться от флагов других республик, чтобы флаг выражал основную идею народа и государства Белоруссии. И вот в старых архивах был обнаружен орнаментальный узор, означающий Восходящее солнце. Он был вышит на полотенце кр[естьянки] Маркевич М. из дер. Костелище Сенненского р[айона]. Вот этот узор и был положен за основу орнаментального узора флага»[4].

З зацвярджэннем сцяга БССР яго выразны і запамінальны арнамент пачаў жыць уласным жыццём сімвала і актыўна выкарыстоўваўся ў візуальных кантэкстах савецкага часу. Яго змяшчалі на вокладках выданняў, творах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, ужывалі ў архітэктуры. Так, на пачатку 1950-х гг. быў папулярны плакат «Няхай жыве Савецкая Беларусь» з выявай хлопца ў вышыванай сарочцы з узнятым сцягам БССР. Цэнтр кампазіцыі займаў узбуйнены арнамент, які прыцягваў да сябе ўвагу.

Яшчэ адзін яскравы прыклад – помнік Іосіфу Сталіну (1952), які стаяў на цэнтральнай плошчы сталіцы да 1961 г. І быў створаны калектывам скульпта-

---

[1] Кацер М. С., *Автобиография*: Ч. 1. [1906–1950 гг.]. Минск, 1977. Нацыянальная бібліятэка Рэспублікі Беларусь, аддзел рукапісаў (НББ). 11Рк371к, машынапіс, 50 с.

[2] Кацар М., *Герб і флаг БССР* // «Политический собеседник». 1989, № 5, с. 44. Аўтар дзякуе за спасылку на гэтую публікацыю гісторыку Зміцеру Крымоўскаму.

[3] Акадэмік Мікалай Іванавіч Грашчанкоў быў прэзідэнтам АН БССР з лістапада 1947 па люты 1951 г. (*заўвага рэд.*).

[4] Кацер М. С., *Образы-узоры белорусского народного художественного ткачества*. Минск – Крыжовка, 1991. Ксеракопія рукапісу. Арк. 150 (Архіў аўтара).

раў у складзе Заіра Азгура, Андрэя Бембеля, Аляксея Глебава і Сяргея Селіханава. П’едэстал помніка ў ніжняй частцы быў абвіты рэльефнай стужкай арнаменту са сцяга, якая ўспрымалася як беларускі вянок ля ног «правадыра».




*Вокладка альбома «Беларускі народны арнамент». 1953 г.*




*Плакат «Няхай Жыве Савецкая Беларусь!». 1950-я гг. П. В. Калінін*



У найноўшай гісторыі суверэннай Беларусі пасля рэвіталізацыі сцяга БССР у 1995 г. не пералічыць усіх прыкладаў выкарыстання яго арнаменту: ад дызайну формы беларускіх алімпійцаў і атрыбутыкі дзяржаўных урачыстасцей – да афармлення гандлёвай упакоўкі.

*Помнік Сталіну ў Менску. 1952–1961 гг. З. І. Азгур, А. А. Бембель, А. К. Глебаў, С. І. Селіханаў*

## *Крыніца і аўтарства арнаменту*

Успаміны Міхаіла Кацара аб стварэнні сцяга БССР, а таксама інфармацыя, што арнамент для яго быў узяты з ручніка сялянкі Матруны Маркевіч, з сярэдзіны 1990-х гг. пачалі з'яўляцца ў шматлікіх публікацыях. Сенненскія журналісты адшукалі звесткі пра аўтарку ручніка і яе нашчадкаў. У выніку ў Сенненскім гісторыка-краязнаўчым музеі з'явіўся каштоўны экспанат – ручнік, вышываны гэтай жанчынай, які перадалі яе ўнукі. Дзякуючы шырокаму розгаласу ў раённай і цэнтральнай прэсе, Матруна Маркевіч стала знакамітай асобай, гонарам Сенненшчыны.

Разам з тым аналіз рукапіснай спадчыны Міхаіла Кацара вымушае паставіць пад сумнеў факт выкарыстання ў якасці прататыпа для арнаменту сцяга БССР ручнік Матруны Маркевіч.

У рукапісе артыкула аб арнаменце народнага ткацтва і вышыўкі 1969 г. вучоны пісаў, што ўзорам арнаменту стаў ручнік з Сенненскага раёна, змешчаны ў альбоме «Белорусский народный орнамент». У спісе альбомных ілюстрацый не пазначана паходжанне ручніка. Адсутнічае там таксама імя Матруны Маркевіч. Хоць для большасці ілюстрацый такія звесткі прыведзены[1].

У артыкуле 1989 г. пра герб і сцяг БССР М. Кацар апісаў акалічнасці распрацоўкі сцяга і згадаў крыніцу запазычання ўзору для арнаменту: «[...] начались интенсивные поиски необходимого материала. Были просмотрены старые гербовники, прочие книги, изучены фонды белорусских архивов и музеев. Наконец в заброшенным довоенным архиве Белпромсовета был найден рисунок орнаментального узора, вышитого на полотенце крестьянкой Матреной Маркевич из д. Костелище Ульяновского сельского совета Сенненского района. Назывался этот орнаментальный узор: «Восходящее солнце». Год создания – 1917»[2].

У пазнейшым па часе напісання рукапісе кнігі «Образцы-узоры белорусского художественного ткачества» на адной старонцы аўтар змясціў дзве розныя версіі знаходжання ручніка з узорам, што стаў прататыпам арнаменту. Першая – «был обнаружен в д. Костелище у кр. Маркевич М.» (і апублікаваны ў альбоме Белпрамсавета); другая – «и вот в старых архивах был обнаружен узор Восходящее солнце»[3].

Варта адзначыць, што гэты рукапіс з'яўляецца асноўнай крыніцай версіі з ручніком Матруны Маркевіч, якая сёння шырока транслюецца. Вядома, што ў пачатку 1990-х гг. прафесар Міхаіл Кацар, імкнучыся апублікаваць рукапіс, прыносіў свае рукапісныя папкі з уклеенымі ілюстрацыямі ў розныя інстыту-

---

1 *Беларускі народны арнамент* / Савет прамысловай кааперацыі БССР. Мінск, 1953, с. 27.

2 Кацар М., *Герб і флаг БССР*, с. 44.

3 Кацер М. С., *Образы-узоры белорусского народного...*, арк. 150.

цыі. У выніку рукапіс быў ксеракапіраваны і разышоўся ў асяроддзі даследчыкаў і аматараў беларускай традыцыйнай культуры. На яго аснове ўжо пасля смерці аўтара ў 1995 г. выйшла з друку кніга «Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка»[1], якую рыхтаваў да публікацыі Яўген Сахута.

Трэба зазначыць, што Матруна Сяргееўна Маркевіч – гэта родная сястра Міхаіла Кацара. Цікава, што ў аўтабіяграфіі 1977 г. вучоны распавёў пра ўсіх сваіх братоў і сясцёр, але абмінуў Матруну, якая нарадзілася ў 1886 г.[2] Прычына бачыцца ў тым, што гісторыя сям'і сястры на той час кампраметавала біяграфію навукоўца і члена КПСС. Муж сястры Матруны Аляксей Маркевіч быў рэпрэсаваны ўжо ў 1933 г., а ў 1937 г. быў расстраляны[3]. На сям'і ляжала кляймо «кулакоў» і «ворагаў народа».

У той перыяд, калі распрацоўваўся і зацвярджаўся сцяг БССР, адносіны паміж братам і сястрой, як можна меркаваць, не падтрымліваліся. Святло на гэта пралівае тэкст ліста Матруны Маркевіч, якая звярталася да Міхаіла Кацара 16 жніўня 1951 г. Ён быў прыведзены ў нядаўна апублікаваным артыкуле гісторыка і даследчыка дзяржаўнай сімволікі Сяргея Рассадзіна. Ліст сведчыць аб гаротным стане жанчыны, якая жыла ў зямлянцы і моцна хварэла. У роспачы яна звярнулася па дапамогу да брата, які жыў у сталіцы і якраз тады ўдзельнічаў у стварэнні сцяга БССР: «Здравствуйце, дараги мой Брацицъ я решила табе написаце письмо нешта вы брацицъ на мяне совсем забыли не хочаш паслаць мне письма. Брацицъ я решила попросицъ у вас [не]много дених сама не могу работацъ усё нужно наняцъ у мяне рам[а]цизам у нагах хацела купицъ сабе што небуцъ на ноги босая не магу хадзицъ совсем. Гарод мой плохой, позний не давали мне сеицъ картошка плохая д[о]бро плохо жыву адна у землянке землянка плохая уже, бур[ы]тся. [...] Дар[а]гой Брацицъ прашу не одк[а]ж[и] мой прзбы хоця не много»[4].

Матруна Маркевіч памерла ў 1957 г. Дакумент аб рэабілітацыі яе мужа Аляксея Маркевіча родныя атрымалі ў 1986 г.[5]. Небяспека ўзгадваць гэтую «антыса-

---

1 Кацар М. С., *Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка*. Навук. рэд. Я. М. Сахута. Мінск, 1996.

2 Кацер М. С., *Автобиография : Ч. 1. [1906–1950 гг.]*. Минск, 1977.

3 Бараноўскі А. В., *Матруна Маркевіч – аўтар узору, узятага за аснову арнамента на дзяржаўным сцягу Беларусі* // Віцебскі край: матэрыялы II Міжн. навук.-практ. канферэнцыі, прысв. 385-годдзю выхада ў свет «Буквара» Спірыдона Собаля, 24 ліст. 2016 г., Віцебск. Рэдкал.: Т. М. Адамян (гал. рэд.) і інш.]. Мінск, 2017, т. 2. с. 22.

4 Рассадин С., *Орнамент судьбы: человека, народа, государства* // «Беларуская думка». 2019, № 11, с. 72.

5 Якаўлева А., *Внучка Матрёны рассказала о своих родных, которые участвовали в Великой Отечественной войне* // «Голас Сенненшчыны». 2020, 8 ліпеня [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://www.senno.by/?p=35478. Дата доступу: 12.11.2020.

вецкую» акалічнасць у гісторыі сям'і Кацараў мінула з пачаткам гарбачоўскай эпохі галоснасці ў канцы 1980-х гг. Гэтым тлумачыцца факт, што імя Матруны як аўтаркі ручніка, арнамент якога быў узяты для сцяга БССР, публічна было згадана толькі ў 1989 г.[1] Нагодай для публікацыі былі ўсё больш гучныя прапановы Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» наконт абвяшчэння незалежнасці Беларусі, адраджэння беларускай мовы і культуры, вяртання гістарычных сімвалаў. Таксама М. Маркевіч згадвалася ў апошнім рукапісе прафесара ў раздзеле «Узор восходящего солнца – узор флага Белорусской ССР»[2].

Можна меркаваць, што канструяванне факта з ручніком Матруны сталася для Міхаіла Кацара актам прабачэння і сімвалічнага адкуплення віны перад сястрой і яе нашчадкамі. Яно ж дазваляла рэабілітаваць сямейную гісторыю. Фактычна, прыпісаўшы сястры аўтарства ручніка-прататыпа для арнаменту беларускага савецкага сцяга, Кацар праславіў гэтую жанчыну – адну з многіх таленавітых беларускіх сялянак з гаротным лёсам. У 2015 г. віцебскім скульптарам Іванам Козакам у г. Сянно ў гонар Матруны Маркевіч быў усталяваны памятны знак «Родны край» у выглядзе разгорнутага легендарнага ручніка і дзяржаўнага сцяга з арнаментам, якія злучаны паміж сабой



*Памятны знак «Родны край» у г. Сянно. 2015 г. Фота І. Казак*

## *Мастацка-стылістычныя адметнасці арнаменту*

З дапамогай мастацтвазнаўчых працэдур аналізу паспрабую рэканструяваць «біяграфію» арнаменту і гісторыю яго з'яўлення на сцягу БССР. Гэтага прафесійнага навыку якраз не хапае шматлікім інтэрпрэтатарам яго гісторыі.

У публікацыях сустракаюцца дзве версіі наконт тэхнікі выканання прататыпа для сцяга: вышыты і тканы ручнікі. Версія з ткацтвам прыведзена ў артыкуле ў Вікіпедыі[3]. Разыходжанні спарадзіў сам Міхаіл Кацар. У згаданым

---

1 Кацар М, *Герб і флаг БССР*, с. 44.

2 Кацер М. С., *Образы-узоры белорусского народного…*, арк. 150.

3 *Сцяг Беларусі* [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://www.wikiwand.com/be/%D0%A1%D1%86%D1%8F%D0%B3_%D0%91%D0%B5%D0%BB%D0%B0%D1%80%D1%83%D1%81%D1%96. Дата доступу: 12.11.2020.

альбоме беларускага арнаменту ручнік, з якога малявалі арнамент сцяга, змешчаны ў раздзеле «Ткацтва». А ў 1990-я гг. Кацар сцвярджаў, што арнамент быў узяты з ручніка, які вышыла яго сястра ў 1917 г.[1]

Характар арнаменту выразна сведчыць, што прататып быў выкананы ў тэхніцы ткацтва. Бардзюрная кампазіцыя, якая на сцягу змешчана ў вертыкальную пазіцыю, прыступкавасць абрысаў арнаментальных фігур, спалучэнне буйных і дробных элементаў, – усё гэта сведчаць на карысць таго, што першаўзор быў выкананы ў тэхніцы бранага ткацтва на кроснах.

Калі прыняць версію М. Кацара пра выкарыстанне канкрэтнага ручніка ў якасці ўзору арнаменту для сцяга БССР, то ён павінен быў быць захаваны як эталон або музейны экспанат. Але легендарнага ручніка з узорам «Узыходзячае сонца» ніхто не бачыў. Хутчэй за ўсё, мастак Мікалай Гусеў карыстаўся не арыгіналам тканага ручніка, а яго маляванай копіяй, якую змясцілі ў альбоме беларускага арнаменту ў 1953 г. Ілюстрацыі для альбома былі выкананы мастакамі Цэнтральнай эксперыментальнай лабараторыі Белпрамсавета (у перыяд з 1946 па 1950 г. Лабараторыі мастацкіх промыслаў Упраўлення прамысловай кааперацыі пры Савеце Міністраў БССР), якія збіралі ўзоры народнага ткацтва і вышыўкі і на іх аснове распрацоўвалі эскізы вырабаў для мастацкіх арцеляў рэспублікі.



*Замалёўка ручніка, які паслужыў узорам для арнаменту дзяржаўнага сцяга ў 1951 г. З альбома «Беларускі народны арнамент», 1953 г.*

Замалёўка ручніка выканана недасканала, што праявілася ў занадта буйным памеры ўступаў арнаменту, суцэльнай заліўцы чырвоным колерам кручкоў ромба без прамалёўкі дробных дэталяў і белых прамежкаў паміж арнаментальнымі фігурамі. Пры выкананні ў браным ткацтве гэта абавязкова прывяло б да правісання нітак узорнага ўтку. З гэтай прычыны ў традыцыйных браных бардзюрах кампазіцыі заўсёды больш шчыльныя і маюць фонавыя прасветы ўнутры элементаў. Відавочна, што замалёўка ручніка выконвалася на паперы ў клетку, што абумовіла вялікі памер уступаў. Аб тым, што згаданная копія ўзята за ўзор для сцяга, сведчыць узбуй-

[1] Кацер М. С., *Образы-узоры белорусского народного…*, арк. 150.

ненне арнаменту, суцэльныя, не дэталізаваныя чырвоныя «круччa» ромбаў, адсутнасць дробных прамежкавых элементаў. Павелічэнне маштабу элементаў арнаменту выклікана і тым, што мастак вымушаны быў улічваць тэхніку выканання сцяга спосабам друку на тканіне, а таксама патрабаванне яго выразнага ўспрымання з аддаленасці.

Аналіз дэкаратыўнай кампазіцыі і стылістыкі арнаменту ручніка-прататыпа сведчаць пра тое, што ён не мог паходзіць з Сенненскага раёна і ўвогуле з Віцебшчыны. Традыцыйны тэкстыль беларусаў мае выразныя прыкметы рэгіянальных традыцый і адметныя лакальныя асаблівасці. Яны склаліся ў старажытнасці і трывала захоўваліся да канца XIX – пачатку XX ст., калі пачаўся працэс іх разбурэння праз запазычанні з друкаваных крыніц уніфікаваных узораў.



*Ручнік з арнаментам «круччa». 1970-я гг. Бранае ткацтва. В. Неглюбка, Веткаўскі р-н, Гомельская вобл.*

Аналагі арнаменту знаходзім у Падняпроўі, дакладней – у ручніках Чачэрскага, Гомельскага і Веткаўскага раёнаў. Буйная фігура ромба з кручкамі («круччa»), трохі выцягнутая па гарызанталі, фіксуецца ў названых мясцінах у шматлікіх варыянтах тканых у бранай тэхніцы ручнікоў[1]. Напрыклад, падобны арнаментальны матыў сустракаецца ў в. Неглюбка Веткаўскага раёна Гомельскай вобл. Ручнікі такога тыпу зусім не характэрныя для Віцебшчыны і не прадстаўлены ў музеях[2]. А вось ручнік М. Маркевіч, вышываны крыжыкам, які быў у 2013 г. перададзены на захаванне ў Сенненскі гісторыка-краязнаўчы музей яе ўнучкай Дзінай Кацар, сапраўды па сваёй стылістыцы адносіцца да паазёрскай традыцыі. На канцах ручніка паўторана традыцыйная схема кампазіцыі шырокага рамбічнага бардзюра, якая з'яўляецца характэрнай прыкметай ручнікоў рэгіёна.

---

1 *Арнаменты Падняпроўя*. Аўт. тэкстаў Г. Р. Нячаева [і інш.]; навук. рэд. Я. М. Сахута. Мінск, 2004, с. 472–493, іл. 43, 89, 95, 96, 108.

2 Лабачэўская В., *Повязь часоў – беларускі ручнік*. Мінск, 2009, с. 179, 185–216.

Варта адзначыць, што традыцыйны падняпроўскі арнамент на сцягу БССР зазнаў істотную мастацкую інтэрпрэтацыю. Ёе быў пададзены ў палажэнні рэверса – белым на чырвоным фоне (замест чырвонага на белым), у вертыкальнай пазіцыі замест гарызантальнага бардзюра, сціснуты па шырыні і выцягнуты ў даўжыню. Такая карэкціроўка надала яму некаторыя сярэднеазіяцкія рысы, а выразная і распазнавальная адметнасць беларускага тэкстыльнага арнаменту была знівеліравана.

Мастак Мікалай Гусеў, які стварыў сцяг БССР, быў па паходжанні рускім, нарадзіўся ў Мсцёрскай воласці Уладзімірскай губ., у рускім іканапісным цэнтры, і выхоўваўся на іканапіснай традыцыі Мсцёры і Палеха. У 1920-я гг. ён вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме, калі там выкладалі нацыянальна арыентаваныя беларускія мастакі. Пазней атрымліваў жывапісную і паліграфічную адукацыю ў Ленінградзе і Маскве. У Менску ён жыў з 1932 г., працаваў у Белдзяржвыдавецтве, у Сектары выяўленчага мастацтва Упраўлення па справах мастацтва пры СНК БССР. У спісе сваіх асноўных прац у 1951 г. мастак не прыгадаў распрацоўку сцяга[1]. Мікалаю Гусеву нельга адмовіць у высокім прафесіяналізме. Але разам з тым трэба адзначыць, што ўнутранае пачуццё роднасці беларускаму арнаменту не было яму ўласціва, своеасаблівая гармонія арнаментальнага рытму і прапорцыі не рэзаніравала з яго асабістым успрыманнем прыгажосці.

Адчувальная «чужароднасць» арнаменту сцяга БССР двойчы (1995 і 2012 гг.) выклікала яго «рэдагаванне» ў якасці сцяга Рэспублікі Беларусь. Урэшце малюнку арнаменту былі вернуты традыцыйныя беларускія спалучэнні чырвонага колера на белым фоне.

### *Расшыфроўка арнаменту*

Факт стварэння арнаментаванага сцяга БССР у 1951 г. быў свайго роду палітычным актам савецкага варыянта суверэннасці рэспублікі – «роўнай сярод роўных» у СССР. Яго таксама можна разглядаць як мастацкі акт пераасэнсавання аўтэнтычнай арнаментальнай традыцыі, яе кампазіцыйнай і колеравай трансфармацыі, якія меў наступствы для развіцця айчыннай мастацкай практыкі і мастацтвазнаўства як навукі.

Міхаіл Кацар пісаў, што аўтарка згаданага ручніка Матруна Маркевіч дала тлумачэнне «кожнай дэталі ўзору»[2]. На гэтай падставе арнамент сцяга быў расшыфраваны ім наступным чынам: цэнтральная ромбападобная фігура сімвалізуе ўзыходзячае сонца; рогападобныя фігуры злева і справа ад яе – багацце і дабрабыт; фігура ўнутры ромба – «ключ да шчасця»; прамавугольная фігура з меншымі прамавугольнікамі, далучанымі злева і справа, – гэта

---

[1] *Герб 1997 – герб і сцяг Беларускай дзяржавы*, склад. Э. М. Скобелеў. Мінск, 1997.

[2] Кацер М. С., *Образы-узоры белорусского народного…*, арк. 150.



*Арнамент дзяржаўнага сцяга з узорам «узыходзячае сонца»*

«ватыўны знак», як надзея на здзяйсненне мар; арнаментальная фігура сімвалізуе хлеб.

Паводле Кацара, апошні сімвал быў дададзены пасля дыскусіі распрацоўшчыкаў, бо ў арыгінальнай вышыўцы яго не было[1]. У камісію АН БССР па распрацоўцы сцяга ўваходзілі таксама пісьменнікі Якуб Колас і Міхась Лынькоў і, як можна зразумець, падчас абмеркаванняў эскіза абгаворвалася сімволіка арнаменту, сэнсавае значэнне яго частак. Тлумачэнне элементаў арнаментальнай кампазіцыі Міхаіла Кацара абапіралася на студэнцкі вопыт вывучэння сімволікі беларускага арнаменту 1934–1940 гг., зафіксаваны ў яго экспедыцыйных дзённіках[2].

У тэксце апісання сімволікі сцяга відавочна прачытваецца літаратурная канва з уласным сюжэтам, дзе ўсе элементы сэнсава звязаны паміж сабой: сонца дае цяпло, свет, жыццё прыродзе; касы крыж у цэнтры сонечнага ромба ўвасабляе ідэю, што сонца прыносіць шчасце; рогі – сімвал багацця (накшталт старажытнага сімвала рога дастатку ці рагатых жывёл); узор хлеба раскрывае ідэю, што хлеб усяму галава; ватыўны знак – гэта арнаментальны «амінь», свайго роду малітоўная формула «всё, что сказано, правда; всё, что сказано, сбудется»[3]. Такім чынам, арнамент сцяга БССР нібыта ўвасабляў нацыянальны «код» беларусаў, вызначаў галоўныя каштоўнасці беларускага нацыянальнага жыцця, яго аснову – сонца, багацце, дабрабыт, хлеб і адвечныя мары чалавека ўсё гэта мець. Дэшыфроўка, безумоўна, належыць Кацару і цалкам карэлюе з аматарскім падыходам да семантыкі арнаменту, прадстаўленым у яго апошняй працы «Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка»[4].

Папулярызацыі такім чынам зразумелай сімволікі арнаменту сцяга паспрыяла яго тлумачэнне ў кнізе «Флагі Беларусі ўчора і сёння»[5], а таксама ў шэрагу

---

[1] Тамсама.

[2] Кацар М. С., *Дзённік палявых нататак за 1940 год*. (ксеракопія рукапісу, 60 с.) // Этнаўсё [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://ethno.by/vydanni/430082915. Дата доступу: 13.11.2020.

[3] Кацер М. С., *Образы-узоры белорусского народного…*, арк. 151.

[4] Кацар М. С., *Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка*.

[5] Басаў А. Н., Куркоў І. Ф., *Флагі Беларусі ўчора і сёння*. Мінск, 1994, с. 24.

іншых аналагічных выданняў[1], аўтары якіх імкнуліся легітымізаваць вяртанне бэсэсэраўскай сімволікі. Імаверна, пашырэнне такой трактоўкі справакаваў конкурс на найлепшы тлумачальны тэкст да герба і сцяга Рэспублікі Беларусі, які быў абвешчаны ў 1996 г., пасля іх афіцыйнага зацвярджэння. Асноўным патрабаваннем конкурсу было найбольш поўнае раскрыццё сэнсу і значэння дзяржаўных сімвалаў у цэлым або іх паасобных элементаў[2].

Сцяг з арнаментам, значэнне кожнага элемента якога было літаратурна канкрэтызавана і патлумачана, успрымаўся як «свой». Ён быў зразумелы людзям савецкай фармацыі – тым, хто прапанаваў яго рэвіталізацыю і прымаў рашэнні на вышэйшым узроўні, а таксама шырокім масам электарату. У гэтым крыецца прычына яго вяртання і ратыфікацыі ў 1995 г. Сімвал канкрэтна прачытваецца, візуалізуе сэнсавы змест, разуменне якога не складае цяжкасцей, а ўспрыманне яго вобраза не патрабуе шырокіх і абагуленых асацыяцый. Гэта адрознівае яго ад гістарычнага бел-чырвона-белага сцяга, які быў дзяржаўным у Рэспубліцы Беларусь у 1991–1995 гг. Успрыманне апошняга і перакананне ў яго гісторыка-культурнай каштоўнасці патрабавала асацыятыўнага мыслення, навыкаў успрымання абстрактных мастацкіх формаў, апірышча на няўяўныя вобразы і сэнсы.

Дзяржаўнай рэвіталізацыі чырвона-зялёнага сцяга спадарожнічала мастацкая карэкціроўка арнаменту. У сцягу Рэспублікі Беларусь рэдакцыі 1995 г. арнаментальная паласа была інвертаваная па колерах і павялічаная ў шырыню, чырвоны арнамент размясціўся на белым фоне. Па сутнасці, вярнуліся да ўзору ручніка-прататыпа, арнамент якога быў выкарыстаны ў сцягу 1951 г. У 2012 г. адбылася яшчэ адна рэдакцыя арнаменту дзяржаўнага сцяга. Станоўча адзначым падыход аўтара, імя якога нам невядома, да сучаснай мастацкай карэкціроўкі арнаменту. З пункту гледжання ўдасканалення агульнага мастацка-кампазіцыйнага рашэння набліжэнне арнаменту да сапраўднай беларускай традыцыі па колеравым спалучэнні і прамалёўцы элементаў было цалкам слушным і дазволіла зрабіць сцяг візуальна больш беларускім.



*Арнамент сцяга Рэспублікі Беларусь у рэдакцыі 2012 г.*

[1] *Герб 1997 – герб і сцяг Беларускай дзяржавы*; Рассадин С. Е., *Государственные символы Беларуси: исторические истоки и судьбы герба и флага*. Минск, 2009, с. 7.

[2] Лялькоў І., *Пытаньне дзяржаўнай сымболікі ў Беларусі: гісторыя і сучасны стан* [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://pahonia-plakat.narod.ru/bielaruskaja_simvolika.htm. Дата доступу: 21.11.2020.

У наш час працэсы кансалідацыі беларускай нацыі і ўзмацнення нацыянальнай ідэнтыфікацыі ідуць поруч з выразным ростам грамадскай цікавасці да беларускага арнаменту і яго сімволікі. Прадпрымаюцца новыя спробы растлумачыць значэнне арнаментальных сімвалаў дзяржаўнага сцяга. Сярод іх сустракаюцца беспадстаўна сканструяваныя, зусім неверагодныя і нават фэйкавыя. Так, паводле тлумачэння ўнучкі Матруны Маркевіч Дзіны Кацар, кручкі, што адыходзяць ад ромба ў бакі, – гэта не што іншае, як ініцыялы яе бабулі: М і М[1]. Аўтар кнігі пра дзяржаўную сімволіку Беларусі С. Рассадзін шукаў аналагі ў рамбічным арнаменце з кручкамі на археалагічных знаходках з Браншчыны, Гомельшчыны, Чарнігаўшчыны, якія датычаць III тыс. да н. э. і маглі быць звязаныя з аграрнай сімволікай. Акрамя таго, захопленыя кацараўскімі расшыфроўкамі арнаменту, вядомы гісторык і археолаг унёс сваю «лепту» ў тлумачэнне сімвалаў арнаменту вышыванага ручніка М. Маркевіч з музея ў Сянно: «Ясное солнышко с животворными своими лучами; под ним – нива, обработанная, засеянная, плодоносящая; вокруг нее – жилые усадьбы; дом, родны кут…»[2].

### *Заходзячае сонца і чужыя руны на сцягу*

У гісторыі расшыфроўкі арнаменту дзяржаўнага сцяга маюцца і спробы яго дэканструкцыі. Абвяржэнне дабратворнага сэнсу сімволікі часоў БССР распачалося тады, калі ў незалежнай Беларусі яго змяніла гістарычная сімволіка. Дарэчы, прафесар М. Кацар, які быў шчыра перакананы, што арнамент для сцяга абраны на той падставе, што вобраз узыходзячага сонца атаясамліваўся з сімвалам рэвалюцыі, барацьбы народа за свабоду, пайшоў з жыцця за чатыры месяцы да таго, як абноўлены сцяг БССР атрымаў дзяржаўны статус. Можна меркаваць, што ў апошнія гады жыцця прафесар балюча ўспрыняў тое, што напісала аб сімволіцы бэсэсэраўскага сцяга яго былая аспірантка Марыя Пятроўна Жабінская ў артыкуле «Навошта нам чужое “сонейка” (тайна старога сцяга)», надрукаваным ужо пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі ў газеце «Звязда»[3].

Артыкул быў свайго роду адказам тым, хто быў незадаволены новай дзяржаўнай сімволікай. На падставе сваіх размоў з народнымі майстрыхамі з Меншчыны аўтарка даводзіла, што ў беларусаў мелася наступная сімволіка рамбічнага арнаменту: ромб з невялікай колькасцю парасткаў – узыходзячае

---

1 Рассадин С., *Орнамент судьбы: человека, народа, государства* // «Беларуская думка». 2019, № 11, с. 74.

2 Тамсама, с. 75–76.

3 Беларускі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва (БДАЛІМ). Ф. 170, спр. 37. Жабінская М., *«Навошта нам чужое “сонейка” (тайна старога сцяга)»*.

сонца, ромб з вялікай колькасцю парасткаў па вуглах і баках – паўдзённае сонца, ромб з загнутымі парасткамі па двух баках – заходзячае сонца – сімвал, які вышываўся на смяротным адзенні, на пахавальных ручніках.

У тлумачэнне сімволікі рамбічнага арнаменту аўтарка артыкула ўклала некарэктна зразумелы сэнс народных звычаяў з арнаментаванымі рэчамі, аб якіх ёй распавядалі інфарматаркі. Падобна на тое, што яна пачула ад іх менавіта тое, што хацела пачуць. Дарэчы, Міхаіл Кацар, які збіраў матэрыялы па сімволіцы арнаменту ў Беларусі ў даваенны час, як можна зразумець на падставе тэксталагічнага аналізу яго дзённікавых запісаў, рабіў тое ж самае. Ніколі за многія гады ўласнага даследавання беларускага народнага тэкстылю мне не даводзілася чуць падобных тлумачэнняў і бачыць пахавальныя рэчы з падобным арнаментам. Наадварот, ромб з кручкамі буяе на святочных чырвоных і жыццесвярджальных набожніках Гомельшчыны, а майстрыхі з в. Неглюбка ў Веткаўскім раёне ткуць яго і сёння.

Артыкул М. П. Жабінскай, які даводзіў, што былы сцяг БССР «нёс у сабе таемны трагічны змест», быў накіраваны на дэканструкцыю савецкага сімвала і завяршаўся наступнымі словамі: «А мы ж шпацыравалі з ім на дэманстрацыях, вывешвалі на святы, такое здарыцца магло толькі з народам, які страціў нацыянальныя традыцыі пад кіраўніцтвам ваяўнічага невуцтва»[1].

Апошняя версія паходжання арнаменту з’явілася напрыканцы 2020 г. Артыкул «Как нацистская символика попала на флаг Белоруссии» за аўтарствам Мікалая Старадубава[2] быў апублікаваны на расійскім інтэрнэт-сэрвісе Яндэкс Дзен, які запаўняецца блогерскім кантэнтам. У інтэрнэт-публікацыі сцвярджалася і ілюстравалася, што галоўны элемент арнаменту беларускага дзяржаўнага сцяга ўяўляе сабой выяву руны Одал як сімвала сям’і, роду, дома і іншых дабратворных значэнняў, што выкарыстоўвалася ў сімволіцы нацысцкай Германіі.

Гэтае сцвярджэнне не мае аніякай навуковай базы і з’яўляецца прыдуманым. Аўтар рабіў выснову, што распрацоўшчык сцяга БССР М. Гусеў, які ў гады вайны жыў у акупаваным Менску і супрацоўнічаў з нямецкімі ўладамі, свядома ўвёў у савецкі сцяг нацысцкую сімволіку. Відавочна, што развагі невядомага блогера з аўдыторыяй каля 10 тыс. чал. накіраваны выключна на пашырэнне фэйкавага кантэнту дзеля павелічэння колькасці падпісчыкаў. І гэта ў сітуацыі, калі грамадства Беларусі абвострана шукае адказы на пытанні нацыянальнай сімволікі.

---

1 Тамсама.

2 Старостин Н., *Как нацистская символика попала на флаг Белоруссии*, [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://zen.yandex.ru/media/id/5fcbaf6db291c64d10fd102f/kak-nacistskaia-simvolika-popala-na-flag-belorussii-5fcbaf8d7e300d7ccafd0e3c?fbclid=IwAR3tbRGIAkUxl5GXGhlz_DfKgVd_Vci-bY4jYlj59LZJuPIPDhWvK4dOS9g. Дата доступу: 15.12.2020. (Пазней кантэнт быў выдалены і цяпер недаступны).

Народжаны савецкай эпохай чырвона-зялёны сцяг з арнаментам жыве з беларусамі ўжо 70 гадоў. У яго гісторыі перапляліся асабістыя лёсы стваральнікаў, досвед і перакананні шчырых прыхільнікаў савецкай сімволікі з важнымі падзеямі жыцця беларусаў ва ўласнай краіне. Арнамент на дзяржаўным сцягу, як бы ні расшыфроўвалі і ні тлумачылі яго сімволіку, у савецкую эпоху засведчыў нацыянальную адметнасць і ідэнтычнасць беларусаў. Пад знакам гэтага арнаменту краіна і грамадства сталелі і пераасэнсоўвалі сваю нацыянальную гісторыю, савецкі вопыт і дасягненні найноўшага часу дзяржаўнага будаўніцтва.

Аднак візуальнае ў гісторыі і культуры ўвасабляе ментальныя і свядомасныя працэсы ў грамадстве, адлюстроўвае карціну свету і з'яўляецца рэпрэзентацыяй агульнапрынятай сістэмы каштоўнасцей. Гісторыя ведае шмат прыкладаў традыцыяналісцкага стаўлення да гістарычна-культурных сімвалаў і замены іх на карысць тых, якія ў большай ступені адпавядаюць запатрабаванням грамадства. На дадзеным этапе свайго нацыянальнага развіцця беларускае грамадства балюча пераасэнсоўвае савецкае мінулае, пераадольвае аўтарытарызм улады і адмаўляе сучасным дзяржаўным сімвалам на карысць гістарычнай сімволікі. Акалічнасці лёсу беларускага сцяга з арнаментам у хуткім часе застануцца ў архіве гісторыі.

ISSN 2424-5216

# ВІЛЕНСКІ СШЫТАК
# VILNA'S NOTES

## БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ ІМЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА Ў ВІЛЬНІ – ШЛЯХ ДА ЛІКВІДАЦЫІ

***Вольга Іванова,***
*канд. гіст. навук (Менск)*

***Summary***

*The article, based on previously unexplored sources in Belarusian and Lithuanian repositories, considers the preconditions and the process of the liquidation of the Belarusian Museum of Ivan Lutskevich in Vilnia. The period under research is from 1939 to 1945. Conclusions are made about the number of items, books, manuscripts and archival documents at the time of the liquidation of the Museum. The main parties and decisions that influenced the fate of the Museum are identified and their assessments of this event are indicated. The date of the liquidation of the Museum is proposed to be July 30, 1945. Recommendations are given for the further search for sources on the reconstruction of the history of the Museum. The appendices present quantitative and substantive data on the acquisition of the Museum, the trajectory of the division of its collections, and the contents of the personal archive of its head Janka Shutovich in 1944.*

Па гісторыі Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні[1] (далей – Музей) склалася даволі грунтоўная гістарыяграфія, якая вывучае асноўныя этапы яго існавання:

I. Пачатак XX ст. – да 1921 г. – дамузейны этап фармавання прыватнай калекцыі Івана Луцкевіча ў рэдакцыі газеты «Наша ніва»;

---

[1] У навуковай літаратуры і дакументах выкарыстоўваюцца дзве назвы: Віленскі беларускі музей імя Івана Луцкевіча і Беларускі музей імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Першая была характэрна для яго існавання з 1921 па 1940 г., другая – з 1940 г. Афіцыйная назва згодна статуту – Віленскі беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя Івана Луцкевіча.

II. 1921–1945 г. – уласна музейны, які, у сваю чаргу, таксама можна падзяліць на перыяды:

- даваенны (1921–1939 гг.),
- савецкі (лета 1940 г. – чэрвень 1941 г.),
- нямецкай акупацыі (лета 1941 г. – лета 1944 г.),
- ліквідацыйны (лета – восень 1944 г. – 30 ліпеня 1945 г.);

III. З 1945 г. – апошні, паслямузейны этап, які ўключае лёс збораў пасля ліквідацыі Музея, а менавіта перамяшчэнне, падзел і апісанне асобных частак[1].

З 1990-х гг. адбываюцца перыядычныя спробы навуковага вывучэння і рэканструкцыі збораў. Музей захоўваў не толькі прадметы матэрыяльнай культуры, але кнігі, рукапісы і архіўныя дакументы. Кожная з гэтых частак апісваецца, ацэньваецца і вывучаецца асобна музейнымі, бібліятэчнымі і архіўнымі працаўнікамі і навукоўцамі. Для кожнай з іх выкарыстоўваюцца спецыяльныя метады атрыбуцыі і рэканструкцыі. Традыцыйна найбольш прыцягальнымі і значнымі лічацца ўласна музейныя зборы[2].

Нягледзячы на даволі вялікую колькасць артыкулаў па гісторыі Музея і апісанні яго асобных частак, комплекснага навуковага даследавання дзейнасці і ліквідацыі Музея, колькаснай ацэнкі збораў, іх каштоўнасці, методыкі збірання і захоўвання, а таксама навуковай рэканструкцыі і атрыбуцыі захаванага да сённяшняга часу не зроблена. Гэта задача даволі складаная для даследчыка, бо крыніцы і сведчанні па гісторыі Музея раскіданыя па дзясятках сховішчаў і фондаў Беларусі і Літвы. Яны зафіксаваны на беларускай (уключаючы лацінку), рускай, польскай, літоўскай і нямецкай мовах. Часта гэта сведчанні, якія немагчыма знайсці з дапамогай архіўных ці музейных даведнікаў. Таксама гэта выпадковыя згадкі ў афіцыйных дакументах установаў ці ўспамінах, з якіх доўга і карпатліва трэба складаць гістарычны пазл.

Самым драматычным і багатым на падзеі стаў перыяд дзейнасці Музея з 1939 па 1945 г., які скончыўся яго ліквідацыяй. Храналогія тых падзей у значнай ступені вядомая, але патрабуе асэнсавання на падставе больш шырокага комплексу захаваных крыніц і з пункту гледжання перадумоў, прычын і логікі працэса. У сітуацыі вакол Музея сутыкаліся інтарэсы розных актараў: беларускага нацыянальнага асяродка ў Вільні, літоўскіх, савецкіх, беларускіх,

[1] Запартыка Г. В., *Дакументальны фонд Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні як архіўны помнік XX стагоддзя // Программа «Память мира»: деятельность библиотек, архивов, музеев по сохранению документального наследия*. Материалы межд. конф., 30 ноября – 1 декабря 2006 г.). Минск, 2007, с. 74–82.

[2] Дадзенае даследаванне пачыналася з вывучэння архіўнай часткі. Гл.: Іванова В. С., *Архіўная частка Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў сучасных сховішчах // Дакументальная спадчына Беларусі XIV–XX стст.* Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай 75-годдзю Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі (Мінск, 26 чэрвеня 2013 г.). Мінск, 2014, с. 169–174.

а часам і нямецкіх акупацыйных улад. Гэтыя пазіцыі праяўляюцца ў крыніцах праз рознасць ацэнак лёсу Музея і яго статусу.

Прадстаўлены артыкул з'яўляецца яшчэ адным крокам да комплекснай навуковай рэканструкцыі гісторыі і збораў Музея. Ён ахоплівае пераважна перыяд з 1939 па 1945 г., закранаючы ўвесь спектр падзей і перадумоў, звязаных з яго ліквідацыяй.

*Калі і чаму спынілася дзейнасць Музея? Хто і на якім этапе прыняў рашэнне аб яго ліквідацыі? Якім быў аб'ём і склад збораў Музея напрыканцы яго існавання? Як ацэньваўся факт ліквідацыі Музея рознымі бакамі?*

## *Ідэя Музея*

Тыя фактары, якія прадвызначылі лёс Музея ў 1944–1945 гг., былі закладзены яшчэ да пачатку яго фармальнай арганізацыі. Заснавальнік Музея Іван Луцкевіч меў талент калекцыянера[1], які паклаў на служэнне беларускай нацыянальнай ідэі. Яго пабытавая аскетычнасць і скіраванасць на грамадскія справы ўражвалі сучаснікаў. Луцкевіч быў упэўнены, што матэрыяльнае ўвасабленне беларускай гісторыі будзе спрыяць культурнаму развіццю беларускай нацыі і фармаванню нацыянальнай ідэнтычнасці. З гэтых прычын і пўсталі музейна-бібліятэчна-архіўныя зборы. Падмурак першага беларускага нацыянальнага музея мацаваўся на працы «нашаніўцаў» і канцэпцыі беларускай гісторыі Вацлава Ластоўскага (1910).

Зборы першапачаткова захоўваліся ў рэдакцыі газеты «Наша Ніва», разам з ёй вандруючы па розных віленскіх адрасах. Гэта быў цэнтр беларускай нацыянальнай культуры, а захаваныя матэрыяльныя сведчанні беларускай гісторыі выклікалі захапленне тых прадстаўнікоў інтэлігенцыі, хто трапляў у рэдакцыю. Яны натхнялі на творчасць Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулю, Макара Краўцова ды інш[2]. Нягледзячы на тое, што палітычныя погляды братоў Луцкевічаў у далейшым трансфармаваліся, ідэя беларускага нацыянальнага музея і яе рэалізацыя па сутнасці заставаліся нязменнымі.

Другая падставовая рыса дзейнасці Музея палягала ў тым, што ён быў важным цэнтрам беларускай навукі і культуры, разам з іншымі асяродкамі нацыянальных культур, што размяшчаліся ў Вільні – польскім, яўрэйскім і караімскім. У нарысе 1933 г. Антон Луцкевіч акрэсліў тры асноўныя падыходы

[1] Нарачоная Івана Луцкевіча Юльяна Мэнке згадвала, што «ўвесь даход братоў Луцкевічаў быў ад прыпадковай куплі й продажы Іванам антыкварных рэчаў». Гл.: Вітан-Дубейкаўская Ю., *Мае ўспаміны* [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://knihi.com/Julijana_Vitan-Dubiejkauskaja/Maje_uspaminy.html. Дата доступу: 25.01.2021.

[2] Бядуля З., *Сьвятое гэта месца!* // «Спадчына», 1991, № 1, с. 54–57; Краўцоў М., *Мае ўспаміны аб Іване Луцкевічу* // Пра Івана Луцкевіча. Укл. А. Сідарэвіча, Мінск, 2007, с. 52–53.



*Іван Луцкевіч, Баляслаў Пачопка, Антон Луцкевіч з навучэнцамі Віленскіх беларускіх настаўніцкіх курсаў. 1916 г.*[1]

да стварэння музеяў: нацыянальны, рэгіянальны і дзяржаўны[2]. На яго думку, дзяржаўны падыход фармаваў уяўленне аб падмурках існуючай дзяржавы ў акрэсленых межах, абгрунтоўваў права на пэўныя тэрыторыі, выбар формы кіравання ды інш. Нацыянальны музей, які адлюстроўваў гісторыю і культуру асобнага народа, мог ахопліваць тэрыторыю розных рэгіёнаў і нават дзяржаў. Рэгіянальная канцэпцыя дазваляла існаваць у межах адной дзяржавы музеям, якія ілюстравалі рознасць культур і гістарычную адметнасць рэгіёна. Менавіта апошняя была надзвычай актуальнай на Віленшчыне, карэлявала з ідэяй краёвасці ў міжваеннай Польшчы, а таксама дамінавала ў падыходах польскіх улад канца 1930-х гг. і літоўскіх навукоўцаў 1940-х гг. у дачыненні да культурнай спадчыны нацыянальных меншасцей краю.

Яшчэ на этапе збірання матэрыялаў Іван Луцкевіч заняў пазіцыю ўзаемадзеяння з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей: палякамі, літоўцамі, яўрэямі, украінцамі, –заклаўшы традыцыі супрацоўніцтва і ўзаемападтрымкі ў далейшым[3]. З іншага боку, паколькі зборы мелі навуковую, гістарычную і культур-

1 Аддзел рэдкай кнігі Цэнтральнай нацыянальнай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук (АН АРКР ЦНБ НАН). Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 286, арк. 24.

2 Łuckewicz A., *Muzeum Białoruskie im. Jana Luckewicza w Wilnie* // «Balticoslavica», 1933, t. 1, s. 45–55.

3 Суша А., *Першыя спробы стварэння беларускага музея: Іван Луцкевіч і Львоў* // «Музейны веснік». 2003, вып. 5, с. 6–16.

ную каштоўнасць не толькі для беларусаў, іх прыходзілася ахоўваць, асабліва ў складаныя часы войн і рэвалюцый. Першы раз гэта адбылося ў 1915 г., калі Івану Луцкевічу давялося хавацца ад прымусовай эвакуацыі. Настойлівая прапанова аб вывазе калекцый углыб Расіі была ім катэгарычна адхілена[1]. У 1919 г. літоўскія дзеячы д-р Ёнас Басанавічус (Jonas Basanavičius) і Уладас Нагевічус (Vladas Nagevičius) звярнуліся да бальшавікоў з прапановай секвестравання збораў для іх далейшага ўключэння ў склад Дзяржаўнага музея Літвы. Сход Беларускага навуковага таварыства прыняў рэзалюцыю аб ахове збораў[2]. Таксама ў 1938 г. ужо польскія ўлады прапанавалі перадаць зборы ў г. зв. Рэгіянальны музей, але Антон Луцкевіч адмовіўся, нягледзячы на недахоп сродкаў для аплаты яго ўтрымання і матэрыяльныя страты, выкліканыя такім рашэннем[3].

Музей заўсёды быў нацыянальным па сваёй канцэпцыі і сутнасці, гуртаваў вакол сябе беларускую інтэлігенцыю. У пэўным сэнсе ён меў для яе сакральнае значэнне, што неаднаразова падкрэслівалася ў згадках, успамінах і даследаваннях пра Музей і дзейнасць братоў Луцкевічаў. Менавіта гэта магло стаць ідэалагічнай прычынай яго ліквідацыі. Нацыянальна-культурная ідэя хаця і не падтрымлівалася польскімі ўладамі ў міжваенны час, дзякуючы неверагодным намаганням беларусаў здолела выжыць[4]. Але яна была катэгарычна непрымальнай для улад савецкіх.

## *Арганізацыя Музея*

Не менш значным фактарам, які прадвызначыў лёс Музея, быў арганізацыйны. У студзені 1918 г. з дазволу нямецкіх акупацыйных улад і па ініцыятыве Івана Луцкевіча было створана Беларускае навуковае таварыства (БНТ). Яго дзейнасць згодна Статуту насіла рэгіянальны характар і абмяжоўвалася тэрыторыяй «Віленскага мястовага вокругу»[5]. У другой рэдакцыі Статута

---

[1] *Пра Івана Луцкевіча…*, с. 21.

[2] *Пятнаццаць гадоў працы Беларускага навуковага таварыства* // «Гадавік Беларускага навуковага таварыства», Вільня, 1933, кн. 1, с. 9.

[3] Станкевіч А., *З Богам да Беларусі*. Укл. А. Вашкевіч, А. Пашкевіч, Вільня, 2008, с. 841; Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 591, воп. 1, адз. зах. 248, арк. 22. Ліст А. Луцкевіча да беларускай грамадскасці з просьбай падтрымаць дзейнасць музея. 1938.

[4] Поклад Т., *Віленскі Беларускі Музэй імя І. Луцкевіча і яго адраджэнне* // «Białoruskie Zeszyty Historyczne». 2003, t. 20, s. 217–224.

[5] *Пятнаццаць гадоў працы Беларускага навуковага таварыства…*, с. 5; аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Цэнтральнай бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі (АРКР ЦНБ НАН). Ф. 23, воп. 1, адз. зах. 67, арк. 1. Статут Беларускага навуковага таварыства. 1918; «Віленскі мястовы вокруг» трактуецца А. Вабішчэвічам (Вабішчэ-

(1920) тэрытарыяльны ахоп планавалася пашырыць на «ўсе беларускія землі»[1]. Але першы варыянт так і застаўся адзіным юрыдычна замацаваным. Ён і ў пазнейшыя часы вызначыў адносіны польскай улады да Таварыства і яго складовай часткі – Музея – як да зарэгістраванай грамадскай і культурнай установы беларускай нацыянальнай меншасці на Віленшчыне.

У траўні 1918 г. Іван Луцкевіч афіцыйна перадаў свой архіў, бібліятэку і музейныя зборы Таварыству. Але арганізацыя Музея зацягнулася з-за адсутнасці належнага памяшкання. Напрыканцы 1918 г. ён распачаў барацьбу за Базыльянскія муры ў Вільні, каб там адчыніць беларускую гімназію і Музей. У снежні Беларускі камітэт дапамогі пацярпелым ад вайны атрымаў ад нямецкіх акупацыйных улад дазвол заняць гэты будынак, які вызваліўся пасля эвакуацыі нямецкага шпіталя. Інвентар, лаўкі і сталы, якія засталіся тут ад даваеннай праваслаўнай духоўнай семінарыі, адшукалі на гарышчы. І ўжо 1 лютага 1919 г. там была адкрыта беларуская гімназія[2].

Хутка ўлада зноў змянілася. Статус будынка і лёс будучага Музея заставаліся няпэўнымі. 20 лістапада 1920 г. БНТ накіравала ў Літоўскую праваслаўную епархію ліст: «Актам перадачы Беларускаму камітэту помачы пацярпеўшым ад вайны будынку былой духоўнай семінарыі дзеля ўжытку Беларускае гімназіі, будынак гэты быў таксама пазначаны і дзеля ўстройства ў ім Беларускага музею. Маючы цяпер магчымасць адкрыць Музей, Беларускае навуковае таварыства гэтым мае чэсць прасіць епархіяльную раду адвясці пад Музей памяшчэнне ў сказаным будынку, зложанае з сямёх пакояў, у ніжнім этажэ левага крыла, сумежна з кватэрай Дырэктара, як найбольш адпавядаючае вымогам Музею (усё яно мае скляпенні). Разам з тым Таварыства просіць пазволіць яму зрабіць патрэбныя пераробкі: устанавіць краты ў вокнах, паставіць жалезныя ухадныя дзверы, замураваць лішнія дзверы, паставіць печы і інш.»[3].

Станоўчы адказ быў атрыманы на пачатку 1921 г. Пачалася праца па пераносе збораў з кватэры Луцкевічаў на Віленскай, 33 на Вострабрамскую, 9. Музей атрымаў невялікае, але сталае памяшканне і афіцыйную назву «Віленскі

---

віч А., *Беларускае навуковае таварыства (1918–1939)* // «Беларускі гістарычны часопіс». 2009, № 6, с. 35–40) як горад Вільня. Паводле справаводных дакументаў і тлумачэнняў у іх, гаворка ў Статуце ішла пра тэрыторыю Віленшчыны (НАРБ. Ф. 591, воп. 1, адз. зах. 248, арк. 1. Ліст у Дэпартамент унутраных спраў ад БНТ з просьбай унесці змены ў рэдакцыю Статута. 1918 г.).

1 Юркевіч А., *Беларускае навуковае таварыства ў Вільні: хроніка дзейнасці ў 1918–1944 гг.* // «Arche». 2014, № 7–8, с. 201.

2 Вітан-Дубейкаўская Ю. *Мае ўспаміны.*

3 Мова арыгіналу захаваная. Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў (ЛЦДА). Ф. 281, воп. 2, адз. зах. 12, арк. 1. Ліст БНТ у Епархіяльную раду Літоўскай праваслаўнай епархіі ў Вільні. 30.11.1920. Бел. мова.

беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя Івана Луцкевіча». Парадкаваўся ён намаганнямі і коштам Антона Луцкевіча і Лявона Дубейкаўскага. Але амаль адразу на памяшканне заявілі правы мясцовыя польскія арганізацыі. Адмыслова створаная камісія БНТ здолела адстаяць будынак[1].

Праблема памяшкання заставалася актуальнай і ў рэшце рэшт стала адной з вызначальных у лёсе Музея. У 1924 г. была яшчэ адна спроба высялення за даўгі[2], і БНТ пачало абмяркоўваць пытанне аб набыцці ўласнага будынка. Меркавалася, што гэта будзе дом Шышмана на Мітрапольным завулку. Планавалася звярнуцца па грашовую пазыку ў 10 тыс. даляраў да мітрапаліта Андрэя Шаптыцкага. Але гэта спроба не была рэалізавана[3].

Пытанне аб пабудове ці набыцці будынка зноў абмяркоўвалася на пасяджэннях БНТ у 1928 г. Тады на рахунак «Дома беларускай культуры» ад розных беларускіх арганізацый і прыватных асоб было сабрана больш 7 тыс. злотых. На жаль, і гэтая ініцыятыва не была здзейснена, бо пасля працэсу над БСРГ (1928) паўстала праблема неплацежаздольнасці Беларускага кааператыўнага банка. Сабраныя на памяшканне сродкі былі страчаны. Канчаткова пытанне было закрыта ў 1932 г., калі БНТ вырашыла не ісці на банкрутаванне Беларускага кааператыўнага банка праз спагнанне сабранай сумы.

Пасля выхаду з турмы А. Луцкевіча (1930) БНТ увайшло ў Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацый, што надало Музею статус суб'екта і стварала магчымасці для афіцыйнага супрацоўніцтва. Разам з тым Музей з другой паловы 1931 г. пачаў атрымліваць невялікую грашовую дапамогу. З гэтага часу ішло даволі актыўнае міжнароднае супрацоўніцтва, а ў 1934 г. ён быў прыняты ў Саюз музеяў Польшчы.

У сярэдзіне 1930-х гг. большасць беларускіх арганізацый Вільні спыніла сваю працу. Але дзейнасць БНТ і Музея працягвалася і нават яшчэ нейкі час фінансавалася. У 1938 г. адміністрацыя Віленскага ваяводства вырашыла стварыць Рэгіянальны музей, дзе павінны былі быць прадстаўлены экспанаты Беларускага і Літоўскага навуковых таварыстваў. Антону Луцкевічу была зроблена прапанова ўзначаліць аб'яднаны музей, перадаўшы ўсю маёмасць БНТ у яго склад. Але ён катэгарычна адмовіўся. У выніку фінансаванне было спынена, а супрацоўнікі Музея надалей працавалі ўжо без афіцыйных заробкаў ад дзяржавы[4].

Што тычыцца ўнутранай арганізацыі працы БНТ, то яна характарызавалася зменлівасцю і няўстойлівасцю. Таму яе варта характарызаваць з пун-

---

1 *Пятнаццаць гадоў працы Беларускага навуковага таварыства…*, с. 11.

2 Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ). Ф. 591, воп. 1, адз. зах. 248, арк. 11. Ліст БНТ у Віленскі акружны суд па справе памяшкання. 22.11.1924. Бел. мова.

3 Юркевіч А., *Беларускае навуковае таварыства ў Вільні…*, с. 203.

4 Тамсама, с. 217.

кту гледжання закладзеных функцый, а не ўнутранай структуры. Паводле Статута 1918 г., былі закладзены чатыры асноўныя функцыі: збіральніцкая, асветніцкая, навуковая і выдавецкая. Першую выконвалі Музей і бібліятэка, якія з 1927 г. падпарадкоўваліся Музейнай радзе. Мелася асобная пасада бібліятэкара, а таксама некаторы час планаваўся перавод бібліятэкі ў шэраг публічных. Архіў і рукапісныя зборы, хаця і згадваюцца ў справаводных дакументах, асобнага статусу не мелі і разглядаліся як частка Музея[1]. Трэба меркаваць, што менавіта ў сярэдзіне 1930-х гг. гэтыя зборы істотна папоўніліся дакументамі зачыненых беларускіх установаў. У 1932 г. у Музеі праводзілася праца па ўпарадкаванні архіва беларускага адраджэнскага руху і перыёдыкі[2].

Такім чынам, лёс Музея моцна залежаў ад палітычных чыннікаў, кірунку дзейнасці і яго рэалізацыі кіраўнікамі БНТ. У 1939 г. Музей не меў уласнага будынка, дзяржаўнае фінансаванне было спынена, і ён працягваў існаваць на складкі сяброў БНТ, ахвяраванні і сродкі з продажу асобных экспанатаў.

Колькасць музейных прадметаў, кніг, архіўных фондаў і рукапісаў пастаянна расла (гл. Табл. 1). У 1939 г. у зборах знаходзілася каля 14 тыс. прадметаў, што можна параўнаць з сучасным невялікім краязнаўчым музеем. Але іх каштоўнасць была значна вышэйшай і параўнальнай толькі хіба з прадметамі тагачаснага Беларускага дзяржаўнага музея ў Менску. Прыкладна такой самай была і колькасць кніг. Архіў Музея складаўся арганічным чынам з бягучых дакументаў рэдакцыі газеты «Наша Ніва», потым БНТ ды іншых беларускіх арганізацый, якія дзейнічалі ў Вільні ў міжваенны перыяд. Яны выкарыстоўваліся толькі супрацоўнікамі Музея[3]. Калі віленскія беларускія арганізацыі спынялі працу (што стала асабліва актуальна з сярэдзіны 1930-х гг.), то адзіным сховішчам, якое магло прыняць гэтыя дакументы, заставаўся Музей. Каля 9 тыс. адзінак захоўвання ўтрымлівалі значна большую колькасць дакументаў, аб’яднаных у адну справу.

---

1 Літоўскі цэнтральны дзяржаўны архіў (ЛЦДА). Ф. 281, воп. 2, адз. зах. 17, арк. 2. План працы Музея на 1936 г.

2 НАРБ. Ф. 591, воп. 1, адз. зах. 248, арк. 39. Справаздача кіраўніцтва БНТ аб працы Музея за 1929–1932 гг. А. Юркевіч, спасылаючыся на ЛЦДА (ф. 281, воп. 2, адз. зах. 9, арк. 63), сцвердзіла, што «ў 1934 г. у Музеі праводзілася праца па ўпарадкаванні архіва беларускага адраджэнскага руху, у якім былі зробленыя падзелы паводле аддзелаў, а таксама праінвентарызаваныя старадрукі». На жаль, спраўдзіць і пракаменціраваць гэтую інфармацыю не падаецца магчымым, бо па ўказанай архіўнай спасылцы знаходзім пратакол пасяджэння БНТ са справаздачай аб удзеле С. Станкевіча і С. Грышкевіча ў II Міжнародным з’ездзе славістаў 23–30 верасня 1934 г. Пра апрацоўку архіва і старадрукаў гаворкі там не было.

3 Навіна А. [Луцкевіч А.], *З недрукаванае спадчыны па М. Багдановічу* // «Запісы Беларускага навуковага таварыства». Вільня, 1938, сш. 1, с. 162–169.

## *1939–1941*

Найбольшыя выпрабаванні для Музея пачаліся ўвосень 1939 г. 19 верасня горад быў заняты савецкімі войскамі. Менш чым праз два тыдні, 30 верасня, быў арыштаваны дырэктар Антон Луцкевіч. Магчыма, ён не здолеў ці не паспеў выехаць. А магчыма, свядома застаўся ў Вільні, каб працягваць грамадскую і палітычную дзейнасць, не пакінуць Музей і ўсе іншыя беларускія справы на волю лёсу. У гэты ж час былі арыштаваны іншыя беларускія дзеячы: Уладзімір Самойла, Антон Неканда-Трэпка, Вячаслаў Багдановіч, Янка Пазняк ды інш. Як засведчыў тагачасны намеснік старшыні БНТ доктар Баляслаў Грабінскі, Антон Луцкевіч, відавочна, прадбачыў арышт, таму пакінуў яму ключы ад Музея[1].

Пасля перадачы Віленшчыны Літве на яе тэрыторыі пачалі дзейнічаць законы Літоўскай рэспублікі. Паводле акта ад 27 кастрычніка 1939 г., тут прыпынілі дзейнасць усе грамадскія ўстановы, у т. л. БНТ. 13 снежня адказным за сродкі БНТ быў прызначаны намеснік старшыні доктар Баляслаў Грабінскі[2]. Дзейнасць Музея спынілася, на дзвярах доўга вісеў замок, і, паводле сведчання Мар'яна Пецюкевіча, «мала хто ведаў, у каго знаходзяцца ключы»[3]. У гэты час Грабінскі рэгулярна сустракаўся ў Музеі з Юзафам Мацкевічам[4] ды іншымі дзеячамі для абмеркавання бягучых пытанняў: «Скора, аднак, перарваліся нашыя спатканьні й спакойныя гутаркі: бальшавікі вярнуліся ў Вільню і пачаўся жудасны час арыштаў. Я два тыдні не начаваў дома, аж "чорны воран" перастаў курсаваць начамі па вуліцах Вільні»[5].

Музей не дзейнічаў амаль год і знаходзіўся пад апекай доктара Грабінскага. У ліпені 1940 г. Літва была акупавана Чырвонай арміяй і далучана да СССР. Паводле пастановы Народнага камісарыята асветы Літоўскай ССР ад 12 кастрычніка, Польскае, Беларускае і Яўрэйскае навуковыя таварыствы пераходзілі ў падпарадкаванне Інстытута літуаністыкі[6]. Але, як паведамляў дырэктар

---

[1] Грабінскі Б., *Сакольшчына – Горадня – Вільна*. Падрыхтоўка да друку І. Урбановіч-Саўка, З. Саўка // «Arche». 2000, № 5, с. 179–208. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://xn--d1ag.xn--e1a4c/pub/arche/html/5-2000/hrab500.html. Дата доступу: 12.08.2021.

[2] Юркевіч А., *Беларускае навуковае таварыства ў Вільні…*, с. 219–220.

[3] Пецюкевіч М., *Успаміны пра Віленскі музей* // «Спадчына». 1995, № 2, с. 80.

[4] Вядомы польскі журналіст і пісьменнік, краёвец «імперскага тыпу» Юзаф Мацкевіч – рэдактар адзінай дазволенай літоўцамі польскай газеты ў Вільні (*заўв. рэд.*).

[5] Грабінскі Б., *Сакольшчына – Горадня – Вільна…*

[6] ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 1. Загад народнага камісара асветы аб пераходзе Польскага, Беларускага і Яўрэйскага музеяў у падпарадкаванне Інстытута літуаністыкі. 12.10.1940. Літ. мова.

Інстытута праф. Вінцас Крэве-Міцкявічус (Vincas Krėvė (Mickevičius) 28 кастрычніка, атрымаць доступ да Музея было справай няпростай, бо ключы знаходзіліся ў НКУС, які адмаўляўся перадаваць іх Інстытуту. Б. Грабінскі ў гэты час неаднаразова выклікаўся на допыты. Паводле яго сведчанняў, архіў Музея быў перавезены на Ахвярную вуліцу, дзе знаходзіўся НКУС[1]. З Музея зніклі некаторыя кнігі і архівы, спіс якіх, на жаль, не быў выяўлены. Магчыма, гаворка ідзе пра пэўную частку справаводных дакументаў БНТ[2].

Інстытут літуаністыкі прызначыў свайго прадстаўніка для працы ў Музеі. Ім стаў супрацоўнік аддзела забароненай кнігі Дзяржаўнай бібліятэкі імя Урублеўскіх (уваходзіла ў склад Інстытута) Мар'ян Пецюкевіч. Новае кіраўніцтва вельмі хваляваў стан музейных прадметаў, якія маглі застацца на зіму ў памяшканнях без ацяплення. Прафесару Крэве-Міцкявічусу прыйшлося звяртацца ў Наркамат асветы з просьбай садзейнічаць перадачы маёмасці БНТ у падпарадкаванне Інстытута, бо НКУС доўгі час не здымаў пячаткі. Дазволілі ўзяць толькі некаторыя рэчы з музея, пакінуўшы ў сваім распараджэнні бібліятэку, архіў і памяшканні[3]. Але ў рэшце фізічны доступ да Музея быў атрыманы. Першай справай, з якой пачаў кіраўніцтва новы загадчык Мар'ян Пецюкевіч, было «паліць у печы, каб ратаваць экспанаты ад плесні і знішчэння»[4].

11 снежня пачалося ўпарадкаванне Музея. Камісія з удзелам Б. Грабінскага склала акт аб перадачы больш чым 250 тамоў друкаваных кніг, а таксама 14 метрычных кніг і адной звязкі актаў у Гістарычны архіў[5]. Пазней праф. Крэве-Міцкявічус выступіў за вяртанне гэтай часткі ў Музей, дзеля захавання яго цэласнасці[6].

Гэта ж Камісія зрабіла апісанне архіва Музея, якое мела 31 пункт. Колькасныя паказчыкі ацэньваліся папкамі, звязкамі, скрынямі і кашамі. Агулам не менш за 250 сучасных архіўных адзінак захоўвання. У дадатак да пераліку

---

[1] Грабінскі Б., *Сакольшчына – Горадня – Вільна…*

[2] ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 42–43. Ліст сакратара АН С. Сужэдэліса ў Віленскі гарадскі і рэгіянальны камітэты аб статусе і стане Беларускага музея. 31.07.1941. Літ. мова.

[3] Тамсама, арк. 1а, 3, 4. Лісты дырэктара Інстытута літуаністыкі праф. Крэве-Міцкявічуса ў Наркамат асветы і НКУС з хадайніцтвамі аб паскарэнні перадачы Музея дзеля ратавання матэрыялаў. 28.10, 15.11, 23.11.1940. Літ. мова.

[4] Пецюкевіч М., *Успаміны пра Віленскі музей*, с. 81.

[5] ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 7–7 адв. Вопіс кніг, перададзеных Музеем у Дзяржаўны [гістарычны] архіў. На дакуменце подпісы трох сяброў Камісіі, у т. л. Б. Грабінскага. 11.12.1940. Рус. мова.

[6] Тамсама, арк. 17. Ліст праф. Крэве-Міцкявічуса ў Наркамат асветы аб вяртанні кніг, раней перададзеных у Дзяржаўны гістарычны архіў. 31.01.1941. Літ. мова.

архіва 1933 г. (гл. Табл. 2) у гэтым спісе аказаліся дакументы Беларускага нацыянальнага камітэта (каля 30 спраў), Беларускага студэнцкага саюза ў Вільні (5 спраў), Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый у Празе (5 спраў), Украінскай народнай рэспублікі (каля 20 спраў), дакументы «з Каўнаса» (не менш за 50 спраў), а таксама каля 40 розных неідэнтыфікаваных спраў[1].

18 снежня 1940 г. Камісія ў складзе Казіса Борута (Kazys Boryta), др. Казіса Беруліса (Kazys Berulis) і магістра Мар'яна Пецюкевіча, якія прадстаўлялі Інстытут, а таксама д-ра Баляслава Грабінскага і д-ра Пётры Сергіевіча з боку Музея зафіксавала факт яго перадачы ў падпарадкаванне Інстытута літуаністыкі і склала адпаведны акт. У ім было зафіксавана толькі каля 2,5 тыс. заінвентарызаваных экспанатаў і каля 5 тыс. кніг, што было значна менш рэальнага аб'ёму[2]. Імаверна, што пры складанні акта сябры Камісіі фармальна скарысталіся інвентарнай кнігай, у якую былі ўнесены далёка не ўсе зборы. Мар'яну Пецюкевічу было дазволена ўзяць на працу яшчэ чатырох супрацоўнікаў, з ліку прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі Вільні: мастака Пётру Сергіеві-



*Янка Шутовіч, Міхась Машара, Пётра Сергіевіч, Язэп Найдзюк. 1930-я гг.*[3]

[1] Тамсама, арк. 8–8 адв. Акт прыёму спраў ад БНТ. На дакуменце подпісы трох сяброў Камісіі, у т. л. Б. Грабінскага. 11.12.1940. Рус. мова.

[2] Тамсама, арк. 9, 10–12, 17. Акт і ліставанне аб прыёме-перадачы прадметаў Музея ў Інстытут літуаністыкі. 21.12.1940. Літ. мова.

[3] АРКР ЦНБ НАН. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 318, арк. 2.

ча, які і раней быў супрацоўнікам Музея, літаратурнага крытыка і юрыста Янку Шутовіча, нумізмата Янку Бекіша, а таксама мастацтвазнаўца літоўца Уладаса Дрэму (Vladas Drėma), – і двух тэхнічных работніц[1].

Такога колькасна значнага і кампетэнтнага складу супрацоўнікаў, а таксама сталага фінансавання Музей не меў ніколі. Тут бачыліся шырокія магчымасці навуковага развіцця. Адпаведна, пераход Музея пад падпарадкаванне Інстытута літуаністыкі ацэньваўся, напрыклад, Янкам Шутовічам, як падзея выключна станоўчая: «Гэты савецкі перыяд існавання беларускага музею падчас Другой сусветнай вайны, можна сказаць, быў найшчэслівейшы. Музей перайшоў на дзяржаўнае ўтрыманне. У ім працавала 5 штатных работнікаў. Адно перашкаджала разгарнуць шырока работу [...] – гэта тое ж непрыгоднае [...] памяшканне, якое ён займаў ад пачатку свайго існавання»[2].



*Уладас Дрэма. 1930-я гг.*

Тым не менш Музей страціў незалежны юрыдычны статус, які ратаваў яго ад ліквідацыі ў мінулыя часы дзякуючы прынцыповай пазіцыі братоў Луцкевічаў. 16 студзеня 1941 г. Інстытут літуаністыкі быў уключаны ў створаную Акадэмію навук. Музей атрымаў назву «Беларускі музей № 1 пры Акадэміі навук ЛССР» і канчаткова стаў яе структурнай часткай.

За невялікі прамежак часу да пачатку новага этапу вайны ў чэрвені 1941 г. у Музеі, паводле справаздач і ўспамінаў Мар'яна Пецюкевіча, было зроблена даволі шмат. Па-першае, адбыліся вялікія паступленні прадметаў, архіваў і кніг пасля закрыцця шэрагу беларускіх установаў, арыштаў, смерці ці эміграцыі беларускіх дзеячаў. Музей, нягледзячы на змену статуса, застаўся цэнтрам камплектавання дакументамі і матэрыяламі беларускага паходжання. Сюды паступілі архівы Беларускага студэнцкага саюза, Беларускага кааператыўнага банка, асабістыя архівы Лявона Дубейкаўскага і Уладзіслава Талочкі, этнаграфічны збор Мар'яна Пецюкевіча, шэраг прадметаў і вялікі масіў кніг і газет з кнігарні «Пагоня»[3].

---

1 Пецюкевіч М., *Успаміны пра Віленскі музей*, с. 81.

2 Тамсама, адз. зах. 60, арк. 8. Успаміны Янкі Шутовіча.

3 ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 19–20 адв. Дакладная запіска М. Пецюкевіча прэзідэнту АН ЛССР аб стане камплектавання, захоўвання, апрацоўкі дакументаў Музея, а таксама кадравым пытанні. 05.02.1941. Бел. мова.

Архіўная частка Музея, нарэшце, набыла належную ўвагу. М. Пецюкевіч ўзяў яе на апрацоўку і навукова-тэхнічнае апісанне (у дакументах выкарыстоўваецца тэрмін «сегрэгацыя»). Архіўныя дакументы былі падзелены (сфандаваны) па ўстановах, асобах (пісьменнікі, навукоўцы, грамадска-палітычныя дзеячы), невялікіх калекцыях (напрыклад, улётак), сфармаваны ў адзінкі захоўвання і падрыхтаваны да інвентарызацыі і каталагізавання. Інвентарная кніга прадметаў Музея была дапоўнена больш як 1 тыс. запісаў. Таксама былі праведзены кансервацыйныя працы для фізічнага захавання прадметаў. Музей узяў удзел у арганізацыі выставы творчасці беларускага народнага паэта Янкі Купалы, арганізаванай АН ЛССР, а таксама заключыў дамову пра абмен дублікатамі з Дзяржаўнай бібліятэкай імя Леніна і Урадавай бібліятэкай імя А. М. Горкага ў БССР. У навуковых мэтах Музей часта наведвалі супрацоўнікі Акадэміі навук БССР і ЛССР, а таксама беларускія дзеячы культуры[1]. За першую палову 1941 г. тут пабывала 57 экскурсій[2].

У гэты ж час праявілася цікавасць да збораў з беларускага боку. Тагачасным кіраўніком Слонімскага музея вядомым беларускім паэтам Сяргеем Новікам-Пяюном па замове старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Нічыпара Наталевіча 8–9 снежня 1940 г. была падрыхтавана дакладная запіска аб складзе збораў Музея. І хаця ацэнка збораў давалася пераважна на падставе друкаванага агляду, зробленага А. Луцкевічам у 1933 г., відавочным было асабістае знаёмства С. Новіка-Пяюна з Музеем у 1930-я гг. Зроблены ім грунтоўны крыніцазнаўчы аналіз збораў падаецца даволі важным.

Сяргей Новік-Пяюн лічыў неабходным перавесці Музей у Менск: «Беларускі народ у Заходняй Беларусі зносіў у скарбніцу культуры [Музей – *аўт.*] усё, што было магчыма. Мы ўсе марылі, што музей гэты будзе беларускім рэспубліканскім нацыянальным музеем. Час ажыццявіць гэтыя мары прыйшоў. Беларускі нацыянальны музей з Вільні неабходна перавесці ў горад Менск, сталіцу нашай ардэнаноснай Беларусі і ўліць яго ў рэспубліканскі музей»[3].

Прадстаўнікі беларускай эліты Заходняй Беларусі разглядалі Музей як падмурак для стварэння дзяржаўнага музея, асновай якога была б нацыянальная канцэпцыя гісторыі Беларусі. На жаль, такі падыход у БССР быў пазбаўлены перспектыў яшчэ ў 1930-я гг.[4] Тым не менш агляд С. Новіка-Пяюна быў дасла-

---

[1] Пецюкевіч М., *Успаміны пра Віленскі музей*, с. 83.

[2] ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 34–35. Справаздача аб працы Музея з 23.12.1940 па 15.06.1941, складзеная М. Пецюкевічам. 14.06.1941. Рус. мова.

[3] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 13984, арк. 1–12. Дакладная запіска супрацоўніка Слонімскага музея, паэта С. Пяюна аб складзе матэрыялаў Музея і суправаджальны ліст да яе. 8, 28.12.1940.

[4] Беларускі дзяржаўны музей (БДМ), створаны ў Менску ў 1923 г., быў па сваёй сутнасці пазанацыянальным. Толькі ў час кіравання Вацлава Ластоўскага (1927–1930) была

ны сакратару ЦК КПБ Панцеляймону Панамарэнку з заўвагай аб неабходнасці камандзіравання навуковага супрацоўніка АН БССР для азнаямлення са станам Музея і ў перспектыве для яго перадачы ў БССР.

У сакавіку 1941 г. Музей наведаў тагачасны рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (БДУ) гісторык Парфён Савіцкі. У афіцыйным лісце да старшыні Вярхоўнага Савета ЛССР Юстаса Палецкіса (Justas Paleckis) ён звярнуў увагу на незадавальняючы стан памяшкання і некаторыя аспекты дзейнасці, але ацэньваць збор прадметаў і дакументаў ён не стаў. У адказ прафесар Крэве-Міцкявічус склаў падрабязную справаздачу аб дзеяннях Інстытута літуаністыкі (пасля АН ЛССР) па выратаванні збораў і актыўных пошуках належнага будынка не толькі ўласна для Музея, але і для іншых устаноў, што знаходзіліся ў падпарадкаванні АН ЛССР. На памяшканне ў Базыльянскіх мурах у гэты ж час прэтэндаваў таксама Педагагічны інстытут[1].

Цікавасць беларускага боку на гэтым этапе не абмяжоўвалася занепакоенасцю рэктара БДУ. Яна стала хучэй першым афіцыйным выказваннем гэтай зацікаўленасці. У красавіку, адпаведна рашэнню Бюро ЦК КП(б)Б, была сфармавана даволі прадстаўнічая камісія, якая мусіла спрыяць перадачы Музея ў Менск. Яе ўзначаліў сакратар аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б Цімафей Гарбуноў. У склад Камісіі ўвайшлі народныя паэты Янка Купала і Якуб Колас, супрацоўнік АН БССР літаратуразнаўца Міхась Ларчанка і дацэнт БДУ гісторык Дзяніс Дудкоў[2]. 13–14 мая 1941 г. усім сябрам Камісіі,

спроба надаць яму нацыянальны характар праз мэтанакіраванае збіранне адпаведных экспанатаў (крыж Еўфрасінні Полацкай ды інш.), правядзенне выстаў (партрэты менскіх ваявод ды інш.). Адразу ж пачалася жорсткая крытыка такога падыходу з боку ўлад, а таксама з'явіліся абвінавачванні ў «адсутнасці камуністычнай прапаганды». А ў 1930 г. БДМ быў перназваны ў Менскі сацыяльна-гістарычны музей. У самой назве падкрэслівалася адсутнасць нацыянальнага складніка і сацыяльная скіраванасць адпаведна марксісцкай канцэпцыі. Роля музеяў у савецкім грамадстве акрэслівалася прыкладна так: «Музеі з'яўляюцца багатай скарбніцай – сховішчамі для культурных каштоўнасцей мінулага і сучаснасці савецкага народа, магутным сродкам наглядна агітацыі і прапаганды, прыладай у руках партыі па камуністычным выхаванні працоўных мас. Іх трэба берагчы і ўсяляк спрыяць іх далейшаму росту і павышэнню якасці іх працы» (НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 13984, арк. 17. З дакладной запіскі метадыста па музеях Наркамата асветы БССР Дзяжко аб стане музеяў БССР па дадзеных на 15 снежня 1940 г.).

1 ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 23, 26, 26 адв, 27. Ліст рэктара БДУ П. Савіцкага да старшыні Вярхоўнага Савета ЛССР аб стане Музея. 05.02.1941. Рус. мова; Дакладная запіска праф. Крэве-Міцкявічуса ў Вярхоўны Савет ЛССР аб стане Музея. 01.04.1941. Літ. мова.

2 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 1720, арк. 73, 511. Пратакол пасяджэння Бюро ЦК КП(б)Б № 59 ад 21.04.1941.

акрамя Дудкова, былі выдадзены пасведчанні і «візы»[1] на выезд, гэтаксама як і кіроўцы прадстаўнічага лімузіна ЦК КП(б)Б «ЗИС 101» № 8683[2] Васілю Сідарцову[3].

Візіт беларускай дэлегацыі ў Вільню быў значнай падзеяй, сведчанні пра якую захаваліся дзякуючы ўдзелу ў ім народных паэтаў. З Менска дэлегацыя выехала 15 мая 1941 г. Дарога была апісана ў вершы Янкі Купалы «Еду сягоння я ў Вільню…» (1939):

Мінск, Маладзечна, Вільня...
Як жа знаёмы шлях гэты!
Змерыў яго я калісьці,
Як шукаў шчасця па светах…

Шлях сапраўды ляжаў праз Маладзечна, а па дарозе дэлегацыя заязджала ў Жупраны на магілу Францішка Багушэвіча і ў Крэва. У Вільні спыніліся ў гасцініцы «Жорж». Вельмі шмат беларусаў хацелі пабачыцца з Купалам і Коласам, але Гарбуноў прымаў актыўныя меры, каб не дапусціць такіх кантактаў[4].

16 мая адбылася сустрэча ў Акадэміі навук ЛССР, якая, па меркаванні Цімафея Гарбунова, мусіла дапамагчы атрымаць дамоўленасць на перамяшчэнне Музея ў Менск: «Былі ў Літоўскай акадэміі навук. Тут быў зроблены для нас сапраўдны цэрэманіал. У 12 гадзін мы на машынах пад'ехалі да галоўнага ўваходу Акадэміі. Тут нам насустрач выйшаў стары, ніжэй сярэдняга роста, галава яго была пакрытая сівымі валасамі. З усмешкай на вуснах. Гэта быў прэзідэнт Акадэміі навук, вядомы навуковец Крэве-Міцкявічус. Ён павёў нас у раскошную залу паседжанняў… Прадставіў нас акадэмікам народны камісар асветы – літоўскі пісьменнік – Антанас Венцлова» (Antanas Venclova). Аднак выявілася, што пытанне з Музеем: «літоўскае кіраўніцтва не магло вырашыць без меркавання Акадэміі навук, а ўся Акадэмія навук не магла вырашыць, не ведаючы меркавання трох братоў-акадэмікаў Біржышка» [Mykolas, Vaclovas, Viktoras Biržiška]. Ніводнага з Біржышак не было на паседжанні, і паседжанне прыйшлося адкласці»[5].

Сам Музей Купала, Колас і Венцлова наведалі ў гэты ж дзень пасля абе-

---

1 Так у дакуменце.

2 У Янкі Купалы і Якуба Коласа ў той час быў у карыстанні трафейны «шэўрале».

3 НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 17504, арк. 57–62, 79, 81. Пасведчанні на выезд у г. Вільня. 13–14.05.1941.

4 *Успаміны Ц. Гарбунова. Перад вайной. Паездка ў Вільна // Купала і Колас, вы нас гадавалі: дакументы і матарыялы.* У 2-х кн. Кн. 2. 1939–2009. Ч. 1. Уклад.: В. Дз. Селяменеў, В. У. Скалабан; рэдкалегія М. І. Мушынскі (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск, 2011, с. 69–74.

5 Тамсама, с. 71.

ду. Сустрэча адбылася без удзелу Гарбунова. Вось як пра гэта згадваў Мар'ян Пецюкевіч: «Пад'ехала легкавая машына пад уваход у Музей, з якой першым выйшаў Я. Купала, за ім Я. Колас і апошнім літоўскі пісьменнік Антанас Венцлова. Вельмі сардэчна яны прывіталіся з намі, і я запрасіў гасцей ў дырэктарскі кабінет, які ад падлогі да столі быў завалены архіўнымі матар'яламі і старадрукамі так, што прысесці не было дзе. Азірнуўшы гэты кабінет Я. Купала ўсміхнуўся і сказаў: «Але ж вы тут як пацук у кладоўцы арудуеце». Звяртаючыся да Венцловы далей працягваў «Вось у якіх умовах жылі і працавалі культурныя дзеячы Заходняй Беларусі пад панскай Польшчай. Турмы будавалі для нашага народа, на музей не мелі грошай». Пасля кароткай, але змястоўнай гутаркі я паказаў гасцям архівы «Нашай нівы», рукапісы абодвух пісьменнікаў, якімі яны вельмі цікавіліся і жартуючы аглядалі. Я. Колас паказваючы Венцлове некаторыя рукапісы свае і Купалы казаў «Бачыце, гэта ж сляды першых нашых дзіцячых крокаў, якімі мы пайшлі ў літаратуру»... Купала вельмі імі зацікавіўся, разглядаў, а потым паказаў Коласу і Венцлову»[1].



*Акадэмік Мікалас Біржышка. 1931 г.*

З братамі Біржышкамі атрымалася сустрэцца толькі 17 мая ў Акадэміі навук: «[...] як заявілі ў літоўскім урадзе, вельмі складанае пытанне – пытанне перадачы беларускага музея [...], Біржышка вырашылі вельмі проста: «Нам для беларусаў нічога не шкада. Калі ласка, бярыце ўсё што ў Літве беларускага, але не чапайце нічога нашага, літоўскага. Палякам і беларусам мы гатовыя вярнуць усё што звязана з іх гісторыяй»[2].

На гэтым Гарбуноў палічыў сваю місію закончанай, а пытанне вырашаным. Але, улічваючы кантэкст паездкі, агульнасць гісторыка-культурнай спадчыны, стаўленне літоўскіх навукоўцаў да праблемы і далейшыя падзеі, гэтыя словы акадэміка Біржышкі трэба было ўспрымаць як ветлівую адмову, а не перамогу беларускай савецкай дыпламатыі. Магчыма, Ц. Гарбуноў і сам гэта разумеў, але настойліва прытрымліваўся свайго меркавання і ў далейшым, не звяртаючы ўвагі на пазіцыю літоўскага боку.

Афіцыйна лічылася, што ў выніку сяброўскага візіту 15–19 мая 1941 г. была дасягнута дамоўленасць аб поўнай перадачы Музея ў Менск. У сваім лісце

---

1 АРКР ЦНБ НАН. Ф. 60, воп. 1, адз. зах. 7, арк. 1–2. Пецюкевіч М., *Мае сустрэчы з народнымі песнярамі Янкам Купалам і Якубам Коласам.*

2 *Успаміны Ц. Гарбунова...*, с. 74.

ад 3 чэрвеня 1941 г. Якуб Колас згадваў, што Музей планавалася размясціць у Менску ў будынку тагачаснага ЦК КП(б)Б, што знаходзіўся на вул. К. Маркса, 12, дзе сёння размяшчаецца Нацыянальны гістарычны музей. Кіраўніцтва ЦК КП(б)Б мусіла пераехаць у новы будынак на вул. Чырвонаармейскую[1].

Яшчэ два дні дэлегацыя правяла ў Вільні, паводле Гарбунова, за «аглядам віленскіх цікавостак». Дакладна вядома яшчэ пра візіт 17 мая ў Віленскую беларускую гімназію па вул. Дамініканскай. Там быў зроблены здымак разам з дырэктарам Мікалаем Анцукевічам, Мар'янам Пецюкевічам і вучнямі[2]. Яшчэ адзін фотаздымак разам з Антанасам Венцловай (Antanas Venclova), Людасам Гірай (Liudo Giros), Міхасём Ларчанкам ды інш. быў апублікаваны на старонках газеты «Літаратура і мастацтва»[3]. Пра візіт таксама пісалі газеты «Звязда» і «Красное знамя»[4].



*Янка Купала, Якуб Колас, Цімафей Гарбуноў, Мікалай Анцукевіч і Мар'ян Пецюкевіч з навучэнцамі беларускай гімназіі. 17 мая 1941 г.*[5]

[1] Колас Я., *Збор твораў у чатырнаццаці тамах.* Т. 13. Пісьмы 1908–1949 гг. Мінск, 1977, с. 230–231.

[2] АРКР ЦНБ НАН. Ф. 60, воп. 1, адз. зах. 95, арк. 1. Фотаздымак з надпісам на адвароце.

[3] «Літаратура і мастацтва». 1941, № 21 (520), 24 мая, с. 1.

[4] *Культурная сувязь двух брацкіх рэспублік* // «Звязда». 1941, № 117, 20 мая, с. 1; «Красное знамя». 1941, № 115, 18 мая, с. 1.

[5] АРКР ЦНБ НАН. Ф. 60, воп. 1, адз. зах. 95, арк. 1.

Адразу пасля вяртання дэлегацыі з Вільні 20 мая 1941 г. Прэзідыум АН БССР прыняў пастанову аб перадачы Музея ў БССР пад апеку Акадэміі навук. Пастанова была падпісана акадэмікам Канстанцінам Горавым[1]. У ёй падкрэслівалася гатоўнасць перадаць матэрыялы літоўскага паходжання ў ЛССР.

У гэты ж час упершыню была зроблена навуковая ацэнка збораў літоўскімі навукоўцамі на чале з дырэктарам Інстытута гісторыі АН ЛССР праф. Канстанцінам Яблонскісам (Konstantinas Jablonskis). У сваім заключэнні, не адмаўляючы нацыянальную аснову, ён падкрэсліваў рэгіянальны характар збораў: «Усе матэрыялы сабраныя тут, у Вільні [ … ] адлюстроўваюць беларускае мінулае Вільні і Віленшчыны, нацыянальную і сацыяльную барацьбу беларусаў, іх культурнае жыццё. Адпаведна, перадача музея будзе вялікай стратай для жыхароў Вільні і Віленшчыны, асабліва для той часткі, якая доўгі час жыла з беларускім народам у гэтым рэгіёне […]. Можна было б абмяняць гэтыя прадметы, перадаць у Менск і забраць з Менска і іншых музеяў БССР прадметы, вывезеныя з тэрыторыі Літоўскай ССР [і наадварот], але гэта знішчэнне цэласнасці і тых, і другіх музеяў»[2].

Фактычна такое меркаванне грунтавалася на прынцыпе цэласнасці і павагі да гістарычна склаўшыхся збораў, які быў сфармуляваны ў 1935 г. польскім архівістам і бібліятэкарам Рычардам Пшэляскоўскім[3] на падставе класічнага архівазнаўчага прынцыпу правеніенцыі. Паводле яго, цэласнасць збораў парушацца не павінна, і яны мусяць захоўвацца на той тэрыторыі і ў тым гістарычным кантэксце, у якім былі створаны. Праф. Яблонскіс зрабіў выснову аб немэтазгоднасці перадачы Музея ў БССР, апелюючы да навуковых прынцыпаў архівазнаўства і музеязнаўства. Гэты ж падыход акрэсліў у сваёй працы 1933 г. і Антон Луцкевіч. Надалей яго прытрымліваліся іншыя літоўскія спецыялісты, што працавалі з матэрыяламі Музея. Яны разглядалі Віленшчыну як спецыфічны шматкультурны і шматэтнічны рэгіён, гістарычныя асаблівасці якога падлягалі захаванню ў якасці бясспрэчнай каштоўнасці многіх народаў.

Аднак у гэты час пры прыняцці рашэнняў дамінаваў палітычны і ідэалагічны падыход, які часта перакрэсліваў навуковыя аргументы, карыстаючыся механістычным і ўтылітарным метадам у дачыненні да культурных каштоўнасцей. У гэтым сэнсе характэрным з'яўляецца кейс, звязаны з лёсам Віленскага архіва старажытных актаў. Дакументы архіва, якія адносіліся да Беларусі, былі перавезены з Вільні ў АН БССР яшчэ восенню 1939 г. Найбольш

1 ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 30. Пастанова Прэзідыума АН БССР аб перадачы Музея. 20.05.1941. Рус. мова.

2 Тамсама, арк. 32–33. Заключэнне дырэктара Інстытута гісторыі праф. К. Яблонскіса, скіраванае прэзідэнту АН ЛССР аб складзе, змесце і прыналежнасці матэрыялаў Музея. 11.06.1941. Літ. мова.

3 Przelaskowski R., *Program prac wewnętrznych w archiwach nowożytnych*. Warszawa, 1935.

каштоўная частка трапіла ў Маскву ў Галоўнае архіўнае ўпраўленне (ГАУ) НКУС СССР. І калі старшыня ЦК КП(б)Б П. Панамарэнка звярнуўся да кіраўніка ГАУ НКУС СССР І. Нікіцкага і старшыні СНК СССР В. Молатава з просьбай вярнуць іх, то, нягледзячы на трохбаковыя навуковыя кансультацыі і заключэнне экспертаў, было прынята рашэнне найбольш значныя фонды г. зв. «агульнасаюзнага значэння» пакінуць у Маскве, а ў Беларусь перадаць толькі дакументы мясцовага значэння і рэгіянальнага кіравання[1]. Масква выступала не толькі як галоўны арбітр спрэчак такога кшталту, але і як галоўны прэтэндэнт на найбольш каштоўныя матэрыялы.

Перамовы, праведзеныя ў траўні 1941 г., былі ключавымі ў справе наступнай ліквідацыі Музея. Літоўскі бок, асабліва навукоўцы, выказаліся катэгарычна супраць перадачы матэрыялаў у БССР і падзелу як такога, маючы сур'ёзныя навуковыя аргументы. Яны паслядоўна прытрымліваліся гэтай пазіцыі і стварылі ўмовы для захавання і навуковага выкарыстання Музея ў яго цэласнасці адпаведна першапачатковай канцэпцыі. Беларускі бок, у асобах партыйных кіраўнікоў П. Панамарэнкі і Ц. Гарбунова, у той час займаўся аб'яднаннем беларускіх земляў у межах савецкай дзяржавы. У гэтым палітычным кантэксце адбываліся перамяшчэнні культурных каштоўнасцей і архіваў. Тут навуковыя прынцыпы пад увагу не браліся, не рабілася комплекснае навуковае апісанне, вызначаліся толькі асноўныя найбольш каштоўныя экспанаты, якія цікавілі беларускі бок. Больш за тое, нацыянальная канцэпцыя Музея супярэчыла ідэалогіі савецкай дзяржавы. І гэта была асноўная прычына, чаму цэласнасць Музея не магла быць захавана ў БССР, а яго зборы маглі разглядацца толькі як крыніца папаўнення дзяржаўных сховішчаў. Да чэрвеня 1941 г. ніякіх перамяшчэнняў не адбылося, і пытанне аказалася адкладзеным да канца вайны.

## *Нямецкая акупацыя. 1941–1944*

З пачаткам новага этапу вайны дырэктар Музея Мар'ян Пецюкевіч быў вымушаны ратаваць сваю сям'ю і выехаць з Вільні. Магчымасці эвакуяваць сам Музей у той час не было. Вярнуцца назад ён не мог з-за пераследу з боку акупацыйных улад за актыўны ўдзел у прафсаюзным руху і супрацоўніцтва з Саветамі. Сакратар Літоўскай АН Сімас Сужэдэліс (Simas Sužiedėlis) у сваім лісце ад 30 чэрвеня падкрэсліваў, што М. Пецюкевіч быў звольнены са сваёй пасады не толькі таму, што пакінуў Музей без аховы і доўга не вяртаўся да працы, але «таксама з-за тактыкі, якая ледзьве не прывяла да перадачы Музея ў Менск»[2].

---

[1] НАРБ. Ф. 4п, воп. 1, адз. зах. 16821, арк. 8–13, 21, 27. Ліставанне аб перадачы дакументаў Віленскага архіва старажытных актаў у БССР. Рус. мова. 28.08.1940–09.01.1941; Шумейка М., *Эшалон з Вільні ў Мінск* // «Беларуская мінуўшчына». 1995, № 2, с. 24–28 ды інш.

[2] ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 42–43. Ліст сакратара АН С. Сужэдэлі-

М. Пецюкевіч у лісце ў адказ адзначыў, што застаючыся «пазітыўным» у дачыненні да АН Літвы, тым не менш не жадае працаваць ва ўстанове, кіраўніцтва якой звольніла яго пры першай нагодзе[1]. Гэтая перапіска сведчыць пра нязменнасць пазіцыі літоўскіх улад, якія паслядоўна выступалі супраць перадачы Музея ў Менск. Варта толькі падкрэсліць, што ў часы нямецкай акупацыі яна была найбольш катэгарычнай. Новы прэзідэнт АН прафесар Мікалас Біржышка (Mykolas Biržiška) нават запатрабаваў вяртання з Віленскага архіва тых музейных рукапісаў і кніг, якія былі перададзены туды ў снежні 1940 г.[2]



Янка Шутовіч. 1930-я гг.[5]

7 ліпеня 1941 г. новымі ўладамі Літоўскай АН на пасаду дырэктара Музея быў прызначаны Янка Шутовіч. Музей першапачаткова падпарадкоўваўся этнаграфічнаму інстытуту АН, у склад якога, акрамя беларускага, уваходзілі яшчэ два этнаграфічныя музеі, фальклорны архіў і Караімскі музей у Троках. З другой паловы 1941 г. Музей, як у дакументах, так і ва ўспамінах Янкі Шутовіча, пачаў фігураваць як «Віленскі беларускі музей», па аналогіі з назвамі іншых вышэйзгаданых устаноў[3].

У канцы 1941 г. быў падрыхтаваны праект рэгламенту працы Беларускага музея ў складзе АН[4]. Музей юрыдычна падпарадкоўваўся АН, але знаходзіўся пад апекай беларускай грамадскасці, якой мог быць «аддадзены ў распараджэнне». Яго дзейнасць ахоплівала не толькі беларускую культурную спадчыну Віленшчыны, але і ўвесь абшар этнаграфічнай Беларусі. Музей выступаў як нацыянальна-культурная інстытуцыя, справаводства ў якой вялося на беларускай мове (беларуская лацінка) пры наяўнасці пячаткі на нямецкай мове. Ён меў 11 аддзелаў: археалагічны, нуміз-

---

са ў Віленскі гарадскі і рэгіянальны камітэты аб статусе і стане Музея. 31.07.1941. Літ. мова.

1 Тамсама, арк. 34 адв. Ліст М. Пецюкевіча сакратару АН С. Сужэдэлісу аб прычынах сыходу з кіраўніцтва Музеем. 04.08.1941. Бел. мова (лацінка).

2 Тамсама, арк. 44. Ліст прэзідэнта АН Літвы ў Віленскі гарадскі і рэгіянальны камітэты аб вяртанні рукапісаў і кніг Беларускага музея. 02.08.1941. Літ. мова.

3 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 8.

4 АРКР ЦНБ НАН. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 108, арк. 7–11. Рэгламент працы Музея ў складзе Этналагічнага інстытута Літоўскай АН. 01.12.1941. Бел. мова (лацінка).

5 Асобы архіў Літвы. Воп. 45, адз. зах. 54396, арк. 15-2.

матычны, мастацкі, іконаграфічны, этнаграфічны, побытавы, картаграфічны, вайсковы, рукапісны (старажытныя рукапісы і дакументы асабістага паходжання), архіўны (беларускага нацыянальнага руху) і бібліятэчны.

Сярод справаводнай дакументацыі Музея ў праекце рэгламенту фіксуецца наступная: дзённік атрыманых прадметаў, кніжачка «паквітаванняў»[1], інвентарная кніга музейных збораў, дапаможная кніга музейнага інвентару, рэгістрацыйная кніга фотаздымкаў, рэгістрацыйная кніга рукапісаў і дакументаў, рэгістрацыйная кніга дэпазітаў, кніга навуковай інфармацыі, кніга рэгістрацыі наведвальнікаў, кніга рэгістрацыі сыходзячых і ўваходзячых папер, кніга музейнай хронікі, картатэка музейных збораў. Усё гэта сведчыць аб даволі высокім узроўні справаводнай культуры. Матэрыялы Музея забаранялася перадаваць іншым асобам, фатаграфаваць без дазволу кіраўніка. Павінны былі выконвацца правілы захоўвання. Акрэслены таксама абавязкі кожнага з пяці супрацоўнікаў: кіраўніка, музеальніка[2], кансерватара, бібліятэкара, тэхнічнага супрацоўніка (выконваў абавязкі апальшчыка, кур'ера, стоража, прыбіральшчыка). Кіраўніком Музея мог быць толькі беларус.

Звестак пра афіцыйнае ўвядзенне рэгламенту ў дзеянне няма. Хучэй за ўсё, яно не адбылося, зважаючы на даволі катэгарычную пазіцыю літоўскага кіраўніцтва аб немагчымасці адчужэння збораў Музея ні ў якай форме, у той час як рэгламент прадугледжваў першаснае права беларускай грамадскасці ў вырашэнні лёсу Музея і распаўсюджваў сваю дзейнасць на ўвесь абшар этнаграфічнай Беларусі.

У штаце ў гэты час працавалі мастак-графік і гісторык мастацтва Владас Дрэма, нумізматык Янка Бэкіш, бібліятэкарам і сакратаром быў Уладзіслаў Паўлюкоўскі[3]. На дапаможных пасадах – Зінаіда Андрэева і Віктар Дыра[4]. Кампазітар і музыколаг прафесар Тадэвуш Шалігоўскі быў няштатным супрацоўнікам. На грамадскіх пачатках працавалі таксама мовазнаўца і даследчык беларускіх кітабаў Антон Антановіч, музыказнавец і дырыжор Генадзь Цітовіч. Паводле сведчання Янкі Шутовіча, «апошняга, задэклараванае супрацоўніцтва з Беларускім музеем у Вільні, выратавала ад знішчэння [...] Гестапаўцы ў Ляхавічах лічылі, што Цітовіч партызаніў. І калі пасля прыезду

[1] Księga pokwitowań (*пол.*). Магчыма, гаворка ідзе пра кнігу, дзе захоўваліся квіткі аб аплаце (*заўвага рэд.*)

[2] Muzealnik (*пол.*). Гаворка пра супрацоўніка музея, абавязкам якога была падрыхтоўка экспазіцыі, арганізацыя выставы і належнае захаванне прадметаў музейнай калекцыі (*заўвага рэд.*).

[3] Уладзіслаў Паўлюкоўскі, карыстаючыся бібліятэчнымі фондамі, пісаў навукова-папулярныя працы па садаводстве і агародніцтве.

[4] ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 46. Пералік складу супрацоўнікаў Музея, падпісаны Я. Шутовічам. 05.09.1941. Літ. мова.

з Вільні ў Ляхавічы яго адразу арыштавалі [...], Цітовіч даказаў сваё алібі, што ён [...] быў у Вільні дзеля супрацоўніцтва з музеем на грунце збірання і запісвання беларускай народнай творчасці»[1].

Рэкамендавалася да працы ў Музеі жонка сасланага ў 1939 г. у Сібір Антона Неканды-Трэпкі – Юлія, а таксама сыны Антона Луцкевіча – Юрка і Лявон[2].



*Уладзіслаў Паўлюкоўскі. 1930-я гг.*[3]



*Тадэвуш Шалігоўскі і яго вучань Генадзь Цітовіч. 1957 г.*[4]

Як адзначаў Янка Шутовіч, праца ў Музеі была ў той час вельмі небяспечнай для ўсіх яго супрацоўнікаў, бо тут «шмат было савецкіх і камуністычных матэрыялаў-выданняў у беларускай мове па марксізму-ленінізму – кніг, брашур, плакатаў, газет. Музей ёсць музей. Аднак гэтая фірма пры немцах ненадзейная, не гарантуе бяспекі як да самога музею, так і для яго працаўнікоў. Уявіце сабе, што магло б стацца з музеем і яго працаўнікамі, каб даведалася гестапа пра савецкія і камуністычныя фонды музею [...] Як рызыкавалі мы сваім здароўем, жыццём, працуючы ў такім музеі! Калі пры польскай буржуазнай уладзе ў беларусаў находзілі камуністычную літарату-

1 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 9, 12.

2 ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 45. Ліст Я. Шутовіча на імя кіраўніка АН з просьбай знайсці для Музея больш прыдатныя памяшканні і ўзяць на працу Юлію Неканда-Трэпка. Літ. мова. 04.09.1941; Тамсама, арк. 49. Ліст Я. Шутовіча на імя кіраўніка АН з просьбай ўзяць на працу Юлію Неканда-Трэпка. Літ. мова. 15.09.1941; Тамсама, арк. 47. Ліст старшыні Беларускага нацыянальнага камітэта ў Вільні Вацлава Іваноўскага прэзідэнту АН Мікаласу Біржышку з просьбай прыняць на працу ў Музей Юрку і Лявона Луцкевічаў. 06.09.1941. Бел. мова (лацінка).

3 АРКР ЦНБ НАН. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 320, арк. 5.

4 Тамсама, адз. зах. 326, арк. 1.

ру, то іх каралі доўгімі гадамі зняволення ў вастрогах. А ва ўмовах нямецкага фашысцкага рэжыму, што ж бы іх чакала? Пакаранне смерцю, павешанне ці расстрэл. Вось так, пад страхам, у нервовым напружанні, пазбаўленыя якой-кольвек гваранцыі бяспекі мы працавалі ў музеі падчас нямецкай акупацыі [...] Галоўная ўвага ў ваенным перыядзе існавання музею такім чынам, каб [зборы] не дразнілі вока непатрэбных варожых апекуноў – як дзяржаўных, так і прыватных»[1].


LITAUISCHE AKADEMIE DER WISSENSCHAFTEN
LIETUVOS MOKSLŲ AKADEMIJA
Nr. 2773

AUSWEIS

PAŽYMĖJIMAS

*Пасведчанне Янкі Шутовіча як супрацоўніка Літоўскай АН. 30.01.1942 г.*[2]

З 1 лютага 1942 г. Музей быў пераведзены ў падпарадкаванне Дэпартамента навукі і мастацтва пры Міністэрстве асветы[3]. Асноўным у планах працы Музея ў першыя месяцы 1942 г. было завяршэнне каталагізацыі прадметаў і кніг[4]. Але музей працаваў у розных накірунках. Гэта былі таксама збор, упарадкаванне, каталагізацыя, забеспячэнне належных умоў захоўвання, выка-

1 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 34.

2 Асобы архіў Літвы. Воп. 45, адз. зах. 54396, арк. 15–16.

3 ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 11. Ліст прэзідэнта Літоўскай АН М. Біржышкі ў Музей аб змене падпарадкавання. Літ. мова. 06.02.1941.

4 Тамсама, арк. 19–20. План працы Літоўскай акадэміі навук на 01.10–31.03.1941. Літ. мова.

рыстанне, абслугоўванне інстытутаў народнай творчасці, устаноў культуры, супраца з дзеячамі навукі і культуры розных нацыянальнасцей[1].

Напрыклад, Музей удзельнічаў у правядзенні выставы ў Баранавічах у чэрвені 1942 г. На ёй было прадстаўлена 576 адзінак захоўвання. Гэта былі фотаздымкі дзейнасці БНР і іншых беларускіх палітычных і культурных арганізацый, беларускіх дзеячаў, помнікаў архітэктуры і мастацтва ды інш.[2] Таксама мела месца супраца з Нямецкім інстытутам народнай творчасці ў Берліне, для якога былі падрыхтаваны і перададзены некалькі дзясяткаў запісаў спеваў, з рэдакцыяй беларускай Народнай энцыклапедыі ды інш. Папаўняўся Музей і новымі матэрыяламі: за два месяцы 1943 г. – 52 пазіцыі. Штомесяц Музей меў у сярэднім каля 15 наведвальнікаў[3]. Абмен матэрыяламі і кантакты адбываліся з беларускімі дзеячамі Канстанцінам Езавітавым, Сяргеем Сахаравым, Вітаўтам Тумашам, Аляксандрам Ермаловічам, Ігнатам Блажэвічам, Хведарам Ільяшэвічам, Станіславам Грынкевічам, Станіславам Станкевічам, Мікалаем Смаршчком, Антонам Шукелойцем, беларускімі арганізацыямі з Баранавічаў, Навагрудка, Беластока, Вілейкі ды інш.[4]



*Янка Шутовіч*
*і Алесь Салавей.*
*Вільня. 1944*[5]

У сярэдзіне 1942 г. пачалося актыўнае папаўненне збораў аддзела народнай песні, музыкі і харэаграфіі. Прафесар Тадэвуш Шалігоўскі распрацаваў інструкцыю для збірання беларускіх народных песень. Яна была размножана і разаслана па вёсках асобам, што працавалі над зборам этнаграфічнага і фальклорнага матэрыялу[6]. Янка

1 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 35.

2 АРКР ЦНБ НАН. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 108, арк. 18–20. Спіс экспанатаў Музея, якія былі пазычаны на выставу ў Баранавічах. Бел. мова (лацінка). 15.06.1942.

3 Тамсама. Ф. 23, воп. 1, адз. зах. 551, арк. 1. Справаздача Музея за кастрычнік – лістапад 1943 г.

4 Тамсама, адз. зах. 552, арк. 19–50. Сшытак з выдаткамі Музея за 20.10.1942–02.07.1944. Бел. мова.

5 Тамсама. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 318, арк. 12.

6 Тамсама, адз. зах. 108, арк. 38. Інструкцыя для збіральнікаў беларускай народнай песні. Машынапіс; тамсама. Ф. 42, воп. 1, адз. зах. 2113, арк. 1–7. Інструкцыя па каталагізаванні беларускіх народных песень у Музеі (складальнік – кампазітар Тадэвуш Шалігоўскі).

Шутовіч успамінаў: «Меркавалася наладзіць супрацоўніцтва з літоўскім сэктарам народнай творчасці Інстытуту мовы і літаратуры. Гэты сэктар меў каштоўны апарат дзеля запісу народнай песні – фанограф. Уласнікі фанографу згадзіліся пазычыць яго нашаму музею дзеля карыстання з яго – гэтым самым праявілі добрую волю братэрскага супрацоўніцтва і дружбы. Меліся быць запрошаныя з вёскі народныя спявачкі дзеля запісу музычна-песеннага фальклору. Нават у Вільні можна было знайсці такіх спевакоў і музыкантаў. Дарэчы помніцца старая, дзевяностатрохгадовая бабулька па прозвішчу Дзеньго з Новай Вільні. Яна ўсё ведала па часці народнай песні і скокаў [...] Музей меўся такім чынам узбагаціць свой музычна-этнаграфічны аддзел [...], дэманстраваць хараство беларускай народнай музыкі і песні карыстаючы з патэфону і найгранняў на плітках народнага спеву і музыкі ў солевым выкананні выдатных нашых мастакоў, а таксама ў выкананні хораў народных ансамбляў»[1].

Прафесар Тадэвуш Шалігоўскі, па нацыянальнасці паляк, выкладчык Віленскага ўніверсітэта і адзін з настаўнікаў Генадзя Цітовіча, працаваў у Музеі з другой паловы ліпеня 1941 г. да пачатку ліпеня 1944 г. Дзеля ўпарадкавання сабранага фальклорнага матэрыялу ён выкарыстоўваў г. зв. «фінскі метад»[2]. Для кожнай песні было зроблена апісанне, у якім адзначаліся: месца паходжання, жанр, сюжэтныя, колькасныя і гукавыя характарыстыкі (колькасць радкоў, амбітусу[3] ды інш.), месца спявання, прозвішча спевака, збіральніка, дата і месца запісу песні. Апісанні ўносіліся ў галоўны каталог (каталог А) і спецыяльныя каталогі: В – тэксты, С – сюжэтныя характарыстыкі, D – каталог жаролаў[4], а таксама індэкс мясцовасцей. За кастрычнік – лістапад 1943 г. такім чынам было апісана 280 песень[5]. Усяго за ўвесь перыяд створана каля 1 тыс. картак, якія сёння захоўваюцца ў Літоўскім інстытуце літаратуры і фальклору[6].

---

1 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 37–40.

2 Геаграфічна-гістарычны метад, прапанаваны фінскай школай фальклярыстыкі, быў заснаваны на пазітывісцкім падыходзе (канец XIX – пачатак XX ст., К. Крон). Яго мэтай было выяўленне геаграфічнай заканамернасці ў распаўсюдзе сюжэтаў, а таксама запазычанняў. Адпаведна, пры апісанні фіксаваўся час і месца ўзнікнення фальклорнага матэрыялу, нацыянальная прыналежнасць, асаблівасці сюжэтнай схемы. Падрабязней гл.: Конкка У. С., *«Финская школа» о сказке // Труды карельского филиала Академии наук СССР. Вопросы литературы и народного творчества*. Вып. XX, 1959, с. 3–29.

3 Дыяпазон альбо адлегласць паміж самай высокай і самай нізкай нотай.

4 Джерело (*укр.*). Гаворка ідзе пра крыніцы (*заўвага рэд.*).

5 АРКР ЦНБ НАН. Ф. 23, воп. 1, адз. зах. 551, арк. 1. Справаздача Музея за кастрычнік – лістапад 1943 г.

6 Лабачэўская В., *Фальклярыстычны архіў Беларускага музея Івана Луцкевіча: вяртанне праз 65 гадоў* // «Homo Historicus». Гадавік антрапалагічнай гісторыі. 2012, с. 465–486.

Адначасова найбольш плённа над інвентарызацыяй музейных збораў працаваў Уладас Дрэма. Ім зроблены запісы ў першым томе інвентарнай кнігі з № 1978 да № 4978, а ў другім з № 4979 да № 9421. Усяго ён апрацаваў 7 442 пазіцыі з агульнага ліку заінвентарызаваных. Як адзначаў Янка Шутовіч, «Уладас Дрэма з вялікай любоўю прадмета і з прафесійнай самаахвярнай аддачай сваіх сіл не агранічыўся пры каталагізаванні да сухога апісання экспанатаў»[1].

Ваенны час быў скарыстаны таксама для актуалізацыі пытання аб новым памяшканні, паколькі многія будынкі, што раней займалі польскія ўлады, стаялі пустымі. Ужо 4 верасня 1941 г. Шутовіч звярнуўся да кіраўніцтва АН з просьбай знайсці больш адпаведныя для Музея памяшканні[2]. Урэшце былі знойдзены два варыянты: на вул. Мастовай і на вул. Святаянскай. Найбольш адпаведным здаваўся апошні. Але ён патрабаваў капітальнага рамонту даху, сцен і водаправода, на што не хапала рэсурсаў. І пасяджэнне БНТ і БНК прыняло адмоўнае рашэнне.

Акрамя таго, Базыльянскія муры былі лепш забяспечаны ад бамбардзіровак і крадзяжу, таму з'явілася думка пашырыць плошчу Музея за кошт пакояў, якія займаў Літоўскі педагагічны інстытут. 21 лютага 1943 г. была пададзена адпаведная заяўка ў Дэпартамент вышэйшых школ пры Міністэрстве асветы з просьбай аб пашырэнні плошчы за кошт залаў першага паверха. Але і гэта спроба не мела поспеху[3]. Як адзначаў Я. Шутовіч, «праклятая неразвязаная праблема памяшкання» заставалася асноўнай перашкодай у дзейнасці Музея[4].

І зусім нечакана для супрацоўнікаў, выключна з уласных утылітарных мэт, у пачатку 1944 г. нямецкія акупацыйныя ўлады загадалі пакінуць памяшканне ў Базыльянскіх мурах і заняць іншае па вул. Св. Ганны, 4, што належала Літоўскай акадэміі мастацтваў[5]. Калі ў Базыльянскіх мурах Музей займаў 6 пакояў на 198 кв.м., то ў новым месцы меў 2 залы і 2 пакойчыкі. Менавіта тут Музей перажыў адступленне немцаў. Перамяшчэнне з Базыльянскіх муроў было важнай падзеяй, якая ў далейшым паўплывала на яго лёс.

На пачатку адступлення немцаў найбольш каштоўныя экспанаты было вырашана перавезці ў падвалы касцёла Св. Міхаіла. Успамінае Янка Шутовіч: «Думка добрая, абгрунтаваная і рэальная [...] Трэба было спешна адшукаць

---

1 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 47.

2 ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 45. Ліст Я. Шутовіча на імя кіраўніка Літоўскай АН з просьбай знайсці для Музея больш прыдатныя памяшканні і ўзяць на працу Юлію Неканда-Трэпка. 04.09.1941. Літ. мова.

3 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 10.

4 Тамсама, арк. 40.

5 Тамсама, арк. 11, 12.

і даставіць будаўляны матар'ял – дошкі, цвікі, транспарт. На просьбу дырэкцыі музею зрабіў гэта незабыўны прафесійны спецыяліст ад цеслярскіх сталярных і іншых работ – дзядька Кепель. Стары беларус, быўшы доўгалетні старшыня бацькоўскага камітэту Віленскай беларускай гімназіі. Ён [...] зрабіў да пятнаццаці скрыняў рознага размеру [...] Хутка загрузілі і перавезлі ў падвалы памянёнага касцёла. Праца была натужная, нервозная, не хапала фізічнай сілы. Я званіў тэлефонам, паведамляў іншых беларусаў, каб памаглі ратаваць скарбы музею. Усюды адказ: хавай сваю галаву, глядзі што робіцца ў горадзе, якая суматоха, спалох. Немцы ўцякаюць, выязджаюць, грузяць сваю і награбленую маёмасць, вывозяць [...] У такіх варунках мы, наш скромны музейны калектыў, высіляліся, каб перанесці ці перавезці на двуколках скрыні з музейнымі скарбамі ў падвалы касцёла [...] Радаваліся, што зрабілі вялікую патрыятычную справу. Радаваліся тым болей, што музейнае багацце здалі ў апеку крыштальнай чэснасці чалавека, выдатнага беларускага грамадскага дзеяча кс. Адама Станкевіча. Ён быў адміністратарам касцёла Св. Міхала, у яго былі ключы і ад касцёла і ад падвалаў яго [...]»[2].



*Адам Станкевіч. 1930-я гг.*[1]

Даследчыкі гісторыі Музея часта сцвярджаюць, што зборы не былі ўпарадкаваны належным чынам. Прыведзеныя дадзеныя па каталагізацыі за ваенны перыяд сведчаць, што яна праводзілася на дастаткова высокім узроўні, асабліва для таго часу. Неўпарадкаванасць была выклікана хутчэй перамяшчэннямі, падзелам і расцярушваннем збораў па розных сховішчах.

Супрацоўнікі Музея часта забіралі справаводную дакументацыю ў свой асабісты архіў (гл. Дадатак 4). Тут найбольш яскравы прыклад – асабісты архіў Янкі Шутовіча, дзе захоўваецца дакументацыя Музея за ваенны перыяд. Нічога не вядома пра архіў Пётры Сергіевіча, дзе такія дакументы з вялікай доляй верагоднасці маглі б быць. Ёсць звесткі, пра тое, што Янка Бекіш вёў каталог нумізматыкі, які, магчыма, таксама застаўся ў яго асабістым архіве. Паводле сведчання Юозаса Пятруліса (Juozas Petrulis), супрацоўніка Музея на апошнім этапе яго існавання, «службовыя архівы Беларускага музея, акра-

[1] АРКР ЦНБ НАН. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 312, арк. 1.

[2] Тамсама, арк. 16–17.

мя дакументаў апошняга перыяду, а таксама інвентарызацыйныя кнігі збораў былі, верагодна, дастаўлены ў Гісторыка-этнаграфічны музей [ ... ], пасля чаго гэтыя матэрыялы хучэй за ўсё апынуліся ў дзяржаўным архіве»[1].

Сёння вывучана толькі невялікая частка справаводнай і ўліковай дакументацыі Музея ваеннага часу. Адной з самых значных падзей гэтага перыяду стала яго перадача ў падпарадкаванне Міністэрства асветы ў лютым 1942 г., а таксама перамяшчэнне з Базыльянскіх муроў, што адбілася на яго стане і далейшым лёсе.

## *Ліквідацыя. 1944–1945*

Савецкія войскі ўвайшлі ў Вільню 13 ліпеня 1944 г., 18–19 ліпеня адбываліся налёты нямецкай авіяцыі на горад. Аднак музейныя зборы і па вул. Св. Ганны, і ў касцёле Св. Міхаіла засталіся некранутымі. Сведчыць Янка Шутовіч: «Сталіца Літвы, у параўнанні з тым як страшна знішчаны былі гарады Беларусі [ ... ], выйшла з вайны адносна шчаслівай, хоць моцна параненай. Урэшце прыйшлі ў музей. Аглядаю яго [...] Здаецца ўсё ў парадку. Відавочна, савецкія воіны шукалі ў памяшканнях ваенныя трафеі. Ну, і забралі хіба сабе на памятку [некалькі] пісталетаў і мячоў, таксама забралі паперу, бо быў голад на гэты матарыял. Шкадаваць не было чаго... Іду наведаць падвалы суседняга касцёла Св. Міхаіла, там знаходжу таксама амаль усё ў парадку. Скрыні некаторыя парашчыняны, але ўсё што ў іх было – захаванае цалкам»[2].

Змена ўлады зноў нарадзіла надзеі на павелічэнне штату, магчымасці новых накірункаў працы і пераезду ў новае адпаведнае памяшканне. Музей знаходзіўся ў ведамстве Наркамату асветы ЛССР, якое ўзначальваў праф. Юозас Жугжда (Juozas Žiugžda), а яго намесніцай была Міхаліна Мешкаўскене (Michalina Navikaitė-Meškauskienė)[3].

Адбыліся змены ў складзе супрацоўнікаў Музея. Яго пакінулі Янка Бекіш і Владас Дрэма. На іх месца прыйшлі выдавец Фелікс Сцецкевіч і рабочы Мікіта Фёдараў. Вярнуўся Пётра Сергіевіч, які з матэрыяльных меркаванняў і немагчымасці жыць падчас вайны ў Вільні каля двух гадоў жыў у роднай вёсцы на Браслаўшчыне[4]. Працягваў працаваць Уладзіслаў Паўлюкоўскі. Шутовіч, Сергіевіч і Паўлюкоўскі атрымалі адтэрміноўку ад мабілізацыі

---

1 Тамсама, адз. зах. 108, арк. 57–59. Адказы Юозаса Пятруліса на апытальнік для супрацоўнікаў Музея, складзены Я. Шутовічам. 1971. Літ. мова.

2 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 15.

3 Янка Шутовіч сцвярджаў, што некаторы час Музей падпарадкоўваўся Камітэту па справах мастацтва пры СНК ЛССР.

4 АРКР ЦНБ НАН. Ф. 23, воп. 1, адз. зах. 562, арк. 1. Нататка Пётры Сергіевіча аб размеркаванні экспанатаў Музея пасля вайны.

ў войска[1]. Паводле праекта штатнага раскладу Музея, датаванага 20 верасня 1944 г. і скіраванага ў Наркамат асветы ЛССР для зацвярджэння, планавалася праца 16 супрацоўнікаў «для хутчэйшага ўпарадкавання збораў і іх навуковага вывучэння». Агульныя выдаткі на заробкі штомесяц складалі б каля 22 тыс. руб.[2]



*Фелікс Сцецкевіч. 1960 г.*[3]

Праз месяц пасля вызвалення, 15–16 жніўня ў Музей прыйшлі супрацоўнікі НКУС і канфіскавалі архіўныя матэрыялы, якія тычыліся беларускага нацыянальнага руху, дзейнасці БНТ і Музея. Усяго забралі 53 скрыні і 283 тэчкі, што склала 4/5 усёй архіўнай часткі. Супрацоўнікамі быў складзены вопіс забраных дакументаў. Гэта былі архівы БНР, Слуцкага паўстання, ТБШ, Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, Беларускага камітэта дапамогі пацярпелым ад вайны, калекцыя ўлётак і адозваў Клаўдзія Дуж-Душэўскага, дакументы Беларускага кааператыўнага банка, Украінскай Народнай Рэспублікі, рэдакцый газет, асабістыя архівы беларускіх дзеячаў. Гэтая частка ўжо ніколі не вярнулася ў Музей, а пасля яго ліквідацыі была перададзена на сакрэтнае захоўванне ў ЛЦДА (па сведчанні Ю. Пятруліса ў 1955 г.), а ў 1960 г. – у БССР (цяпер захоўваецца ў НАРБ і БДАМЛМ) (гл. Табл. 3). Магчыма, дакументы былі адразу забраны прадстаўнікамі архіва ўжо ў 1944–1945 гг., бо архіўная галіна ў гэты час падпарадкоўвалася НКУС.

Пасля заканчэння ваенных дзеянняў дырэктар Літоўскай акадэміі мастацтваў катэгарычна запатрабаваў, каб занятае Музеем памяшканне было вызвалена. Супрацоўнікі знайшлі 8 варыянтаў для пераезду і на працягу верасня 1944 г. прадставілі іх на разгляд Наркамата асветы. Так, былі прапановы вярнуцца ў Базыльянскія муры, заняць адзін з двух будынкаў паблізу на вул. Св. Ганны (2 ці 2а) або на вул. Мастовай. Апошні варыянт разглядаўся як верагодны для пераезду яшчэ ў 1942 г. Аглядаліся памяшканні на вуліцах Антакальскай, Матулявічуса і Зарэчнай, а таксама на вул. Касцюшкі, 16. Урэшце было абрана менавіта апошняе памяшканне, і 6 кастрычніка 1944 г. гарад-

[1] Тамсама. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 108, арк. 21. Спіс ваеннаабавязаных Музея, якім прадстаўлена адтэрміноўка ў мабілізацыі. 01.09.1944. Рус. мова.

[2] Тамсама. Ф. 4, воп. 1, адз. зах. 20, арк. 8. Праект штатнага раскладу Музея. 20.09.1944.

[3] Тамсама. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 215, арк. 2.

скія ўлады выдалі ордэр на яго заняцце Музеем: «Занято Наркомпросом под Белорусский музей в Вильнюсе. Ордер 4964»[1]. Гэтай справе вельмі паспрыяла намесніца наркама асветы Міхаліна Мешкаўскене.

Гэта ўскосна сведчыць, што гаворка пра расфармаванне (перадачу) Музея ў той момант яшчэ не ішла. Паводле Янкі Шутовіча, «будынак адпавядаў прызначэнню музея [...] Апроч некалькіх прасторных залаў [...], у якіх можна было б наладзіць экспазіцыю [...], меў закратаваныя вокны, а значыць даваў [...] забеспячэнне ад крадзежы [...] Мы нязмерна радаваліся [...] Думалі, пажывём, пакажам свету, якое багацце мае Беларускі музей». Тут было 15 пакояў, агульнай плошчай каля 500 кв. м.[2]




*Ордэр на заняцце Музеем памяшкання на вул. Касцюшкі, 16*[3]

Атрыманы ордэр супрацоўнікі павесілі перад уваходам, каб пазбегнуць пытанняў, і ўжо 7 кастрычніка пачалі падрыхтоўку памяшкання і перавоз экспанатаў. Але ўвечары тут з'явіўся супрацоўнік НКУС, які паведаміў, што будынак меркаваўся для дзіцячага садка НКУС, і павесіў адпаведную шыльду. Янка Шутовіч быў вымушаны звярнуцца да наркама ўнутраных спраў з просьбай вырашыць сітуацыю: «Ахвяры беларускага народа ў гэтай вайне даюць падставы прасіць забяспечыць яго культурныя каштоўнасці хаця б адпаведным памяшканнем [...] Музей з'яўляецца адным з нешматлікіх, які няшмат пацярпеў у гэтай вайне»[4].

Толькі 25 кастрычніка атрымалася перанесці некалькі карцін з карціннай галерэі Музея ў новае памяшканне.

Але працы былі зноў спынены, бо з'явіўся прадстаўнік Саўнаркама з ордэрам ад 14 кастрычніка. На гэты раз памяшканне планавалася пад Эвакуацыйную камісію. Шутовіч быў вымушаны падаць скаргу ў пракуратуру, бо ордэр Музею быў выдадзены на тыдзень раней[5]. Шутовіч прыгадваў: «Адказу пракурора на заяўку ў справе так важнай для Музэю дырэкцыя не атрымала. Магчыма ён і непатрэбны быў у сувязі з намерам Саўнаркома

---

1 Тамсама, арк. 28. Ордэр на заняцце Музеем памяшкання на вул. Касцюшкі, 16.

2 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 20.

3 АРКР ЦНБ НАН. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 108, арк. 28.

4 Тамсама, арк. 4–6. Заява дырэктара Музея Я. Шутовіча на імя наркама ўнутраных спраў аб памяшканні на вул. Касцюшкі, 16.10.10.1944. Рус. мова.

5 Тамсама, арк. 30. Заява дырэктара Музея Я. Шутовіча на імя пракурора ЛССР аб памяшканні на вул. Касцюшкі, 16.04.11.1944. Рус. мова.

ЛССР ліквідаваць Беларускі музей, і падзяліць яго маёмасць паміж ЛССР і БССР»[1].

Цалкам верагодна, што гэтыя звароты і канфліктная сітуацыя вакол памяшкання ў пэўным сэнсе паспрыялі ліквідацыі Музея і арышту яго кіраўніка Янкі Шутовіча. У гэтым паведамленні трэба таксама падкрэсліць сцвярджэнне Шутовіча аб тым, што рашэнне аб ліквідацыі Музея прымалася Саўнаркамам ЛССР.

Адбываліся кантакты і з беларускім бокам. У першай палове кастрычніка 1944 г. сястра Я. Шутовіча Марыя была камандзіравана ў Менск як супрацоўніца Музея[2]. У лістападзе Цімафей Гарбуноў ад імя партыйнага кіраўніцтва БССР нагадаў свайму літоўскаму калегу пра правы беларускага боку на зборы і пра дамоўленасць 1941 г. аб іх перадачы ў Менск. Арганізацыйнай падтрымкі прасіў Гарбуноў і ў тагачаснага супрацоўніка Музея Пётры Сергіевіча. Апошні 13 лістапада 1944 г. падаў дакладную запіску на імя дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (БДМГВАВ). Гэта ўстанова прадстаўляла беларускі бок у працэсе перадачы. З запіскі вынікае, што пасля 20 кастрычніка 1944 г. пачала дзейнічаць Літоўская экспертная камісія па падзеле экспанатаў Музея паміж літоўскім і беларускім бакамі. Пры гэтам пераважная частка адзінак захоўвання, уключаючы найбольш каштоўныя, мусіла застацца ў Вільні, а «беларусам вылучана нікчэмная частка»[3].

Цімафей Гарбуноў быў упэўнены, што Музей будзе перададзены беларусам цалкам. Ім быў дасланы ліст Пётры Сергіевічу з прапановай усім супрацоўнікам Музея пераехаць у Менск. Тут ім прапаноўвалася жыллё і праца ў Беларускім дзяржаўным музеі Вялікай Айчыннай вайны[4]. Адказным за працэс перадачы быў афіцыйна прызначаны намеснік дырэктара па навуковай частцы БДМГВАВ Усевалад Саблін[5]. З адыёзнай асобай Сабліна было звязана некалькі гучных скандалаў, з-за чаго ён даволі хутка быў звольнены

---

1 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 23.

2 Асобы архіў Літвы. Воп. 45, адз. зах. 54396, арк. 15. Пасведчанне супрацоўніцы Музея Марыі Восіпаўны Шутовіч аб камандзіраванні ў г. Менск. Рус. мова. 02.10.1944.

3 *Дакладная запіска мастака і рэстаўратара Музея П. Сергіевіча на імя дырэктара БДМГВАВ у Менску аб падзеле матэрыялаў музея. 13.11.1944 // Вяртанне: дакументы і архіўныя матэрыялы па праблемах пошуку і вяртання нацыянальных каштоўнасцей, якія знаходзяцца за межамі Рэспублікі Беларусь*. Мінск, 1992, с. 207–208.

4 НАРБ. Ф. 4п, воп. 47, адз. зах. 13, арк. 177. Ліст сакратара ЦК КП(б)Б па прапагандзе Ц. Гарбунова да П. Сергіевіча. Рус. мова.

5 Тамсама, арк. 113, 179. Лісты сакратара ЦК КП(б)Б па прапагандзе Ц. Гарбунова сакратару ЦК КП(б) Літвы К. Прэйшкіса. Рус. мова.

са сваёй пасады. Не дэманстраваў інфармаванасць аб справах Музея і сам Гарбуноў. У сваіх лістах ён згадваў, што экспанаты знаходзяцца ў неўпарадкаваным стане ў двары Базыльянскага манастыра, хаця на той час зборы ўжо знаходзіліся па вул. Св. Ганны, 4, а падчас вайны было праведзена іх грунтоўнае апісанне[1].

19 лістапада 1944 г. першая камісія на чале з Сабліным, якога Шутовіч назваў «чалавекам абыякавым да спраў Музэю», прыбыла сюды і зноў перадала прапанову Гарбунова аб пераездзе Музея ў Менск поўным складам. Шутовіч склікаў на 21 лістапада шырокую нараду беларускай грамадскасці ў Вільні для абмеркавання гэтага пытання, але 20 лістапада быў арыштаваны, і нарада не адбылася[2]. Па ўсім відаць, што беларуская камісія з'ехала пасля гэтага з Вільні без асаблівых вынікаў.

Музей часова ўзначаліў Юозас Пятруліс, асноўнай задачай якога была «яго падрыхтоўка да перадачы ў БССР». Цікава, што па словах Ю. Пятруліса яго папярэднік усяго толькі «быў звольнены са сваёй пасады»[3]. Арышт Шутовіча прывёў да фактычнай немагчымасці абараніць цэласнасць Музея.

Сярод дакументаў, якія былі канфіскаваны пры арышце Шутовіча, знаходзіліся: газеты «Беларускі голас», «Пагоня», «Калосьсе» ды інш., рукапісы розных асоб, асабістыя дакументы (пасведчанні, фотаздымкі), разлікова-гаспадарчыя дакументы беларускіх арганізацый. Значная колькасць матэрыялаў, канфіскаваных пры вобшуку, была вернута назад: кнігі, часопісы, рукапісы К. Дуж-Душэўскага, П. Крачэўскага ды інш., справаводныя дакументы беларускіх арганізацый, у т. л. Музея[4], рэдакцыі часопіса «Калосьсе» і літаратуразнаўчыя працы Янкі Шутовіча па біяграфіі Адама Гурыновіча[5]. Пералік матэрыялаў з асабістага архіва Шутовіча 1944 г. дазваляе казаць аб яго сувязі з дакументамі Музея і іншых віленскіх беларускіх арганізацый, дае ўяўленне аб складзе асабістых архіваў таго часу і дакументах, якія маглі зацікавіць органы НКУС (гл. Дадатак).

---

1 Тамсама, арк. 79.

2 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 23; АРКР ЦНБ НАН. Ф. 23, воп. 1, адз. зах. 562, арк. 1. Нататка П. Сергіевіча пасляваенных гадоў адносна размеркавання экспанатаў Музея.

3 Янка Шутовіч быў абвінавачаны ва ўдзеле ў антысавецкім Беларускім нацыянальным камітэце падчас вайны, а таксама ў антысавецкай агітацыі сярод навучэнцаў настаўніцкіх курсаў, на якіх ён быў выкладчыкам, і на старонках газеты «Беларускі голас». Аб дзейнасці ў Музеі ў нагляднай справе амаль няма інфармацыі. Гл. падрабязней: Асобы архіў Літвы. Воп. 45, адз. зах. 54396.

4 Цяпер захоўваецца ў асабістым архіўным фондзе Я. Шутовіча. АРКР ЦНБ НАН. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 108.

5 Асобы архіў Літвы. Воп. 45, адз. зах. 54396, арк. 9–13. Пратакол вобшуку. Рус. мова. 21.11.1944; Спіс канфіскаваных кніг і рукапісаў. 20.11.1944. Рус. мова.

Праца Ю. Пятруліса ў Музеі працягвалася да 30 ліпеня 1945 г., калі адна яго частка была перададзена ў БССР, другая – у розныя сховішчы Літвы. Гэтую дату можна лічыць датай канчатковай ліквідацыі Музея, паколькі спынілася праца ўсіх яго шматгадовых супрацоўнікаў: Ф. Сцецкевіча, П. Сергіевіча, В. Дрэмы, У. Паўлюкоўскага. У сваіх успамінах Ю. Пятруліс пісаў выключна аб перадачы Музея ў БССР, апускаючы факт перадачы яго матэрыялаў у літоўскія сховішчы[1].

Прыкладна 9–10 студзеня 1945 г. у Вільню была накіравана другая беларуская камісія, якая мусіла арганізаваць пераезд. У яе склад увайшлі навуковыя супрацоўнікі БДМГВАВ Аляксандр Шахновіч і Мікалай Абрамаў, а таксама загадчык гаспадарчай часткі Антаніна Яманушкава[2]. Усе яны былі вельмі далёкія ад разумення значнасці матэрыялаў Музея, якія да таго ж не былі профільнымі для БДМГВАВ. Нягледзячы на арганізацыйную падтрымку Гарбунова, які даслаў лісты кіраўніку Літоўскай чыгункі з просьбай вылучыць вагоны для перавозкі экспанатаў, і сакратару ЦК КП(б) Літвы па прапагандзе з просьбай прыняць Камісію[3], візіт ізноў скончыўся безвынікова.

Пра гэта была складзена дакладная запіска на імя Панамарэнкі, дзе адзначалася, што літоўскі бок «всячески затягивает решение вопроса и занимается в настоящее время отбором для Литвы лучших экспонатов [...] Те экспонаты, которые не имеют особого значения, собираются передать Белоруссии». Таксама падкрэслівалася, што сяброў камісіі ў Вільна сустрэлі надзвычай кепска: «не представили гостиницы, не прикрепили к столовой и не выдали брони на билеты при отъезде в Минск»[4].

Яшчэ адзін візіт беларусаў у Вільню адбыўся прыкладна ў пачатку вясны 1945 г. Уладзіслава Францаўна Луцэвіч забрала ў свой музей[5] рукапісы Янкі Купалы. Яе візіт таксама арганізацыйна падтрымліваўся Гарбуновым[6]. Але ж у той час азначаныя рукапісы знаходзіліся пад апекай кс. Адама Станкевіча, які не падпарадкоўваўся партыйным уладам. Перадача адбывалася

---

1 АРКР ЦНБ НАН. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 108, арк. 55–59а. Адказы Ю. Пятруліса на апытальнік, складзены Я. Шутовічам для супрацоўнікаў Музея. 15.06.1971. Літ. мова.

2 НАРБ. Ф. 4п, воп. 47, адз. зах. 13, арк. 178–179. Лісты сакратара ЦК КП(б)Б Ц. Гарбунова сакратару ЦК КП(б)Літвы і начальніку ўпраўлення Літоўскай чыгункі. Рус. мова.

3 Тамсама, арк. 113, 179. Ліст сакратара ЦК КП(б)Б Ц. Гарбунова П. Сергіевічу. Рус. мова.

4 Тамсама, адз. зах. 16, арк. 132–133. Дакладная запіска дырэктара БДМГВАВ У. Стальнова на імя старшыні СНК БССР П. Панамарэнкі. 12.01.1945. Рус. мова.

5 У гэты час у Менску арганізоўваўся мемарыяльны музей Янкі Купалы.

6 Тамсама, адз. зах. 61, арк. 168. Ліст Ц. Гарбунова К. Прэйшкісу. Рус. мова.

хутчэй па ўласнай дамоўленасці і пад адказнасць і аўтарытэт Уладзіславы Францаўны.

У ліквідацыйную камісію, створаную літоўскім бокам, увайшлі намесніца наркама асветы Міхаліна Мешкаўскене (старшыня), прадстаўнік ЦК Камуністычнай партыі Літвы доктар гістарычных навук Альбінас Даўкша-Пашкявічус (Albinas Daukša-Paškevičius) і дырэктар музея Акадэміі мастацтваў ЛССР кандыдат навук Кароліс Мекас (Karolis Mekas). Першае яе пасяджэнне адбылося 24 лістапада 1944 г. Ніводнага прадстаўніка ад БССР ці прадстаўніка беларускай грамадскасці Вільні не было нават на этапе экспертызы. Не дапамагла і пратэкцыя Гарбунова ў дачыненні да П. Сергіевіча, які таксама не быў дапушчаны да працы камісіі[1]. Я. Шутовіч пісаў, што апошні сам адмовіўся ад удзелу ў працы камісіі, бо «відавочна, не дазволіла яму сумленьне ліквідаваць свой нацыянальны музей, для якога так многа аддаў сэрца і працы [...] Ён жадаў, каб музей існаваў цэлым, непадзеленым у далейшым ці ў Вільні, ці ў Менску»[2]. Усе рашэнні прымаліся выключна літоўскім бокам. Пра «літоўска-беларускую камісію», што прапагандавалася ў СМІ, гаворка не ішла.

На яе першым пасяджэнні былі абмеркаваны прынцыпы адбору экспанатаў і тэхнічны бок гэтага працэсу, уключаючы апісанне, інвентарызацыю, запакоўку экспанатаў і фінансавыя выдаткі на гэта. Паводле пратакола, усе экспанаты былі падзелены на групы. У першую трапілі экспанаты, што мелі адносіны да літоўскага народа; у другую – да беларускага; у трэцюю – да абодвух народаў. У апошняй апынуліся экспанаты, якія не мелі адносін ні да літоўцаў, ні да беларусаў. Так, дзяржаўніцкі прынцып і прынцып тэрытарыяльнай пертыненцыі быў выкарыстаны ў дачыненні да нацыянальнацэнтрычнага музея ў шматнацыянальным рэгіёне з агульным гістарычным мінулым.

Прынцыпы, якія не адпавядалі прыродзе самога музея і яго спецыфіцы, былі ўзмоцнены дадатковым падзелам у межах сфармаванага ведамаснага бібліятэчна-музейна-архіўнага разгалінавання ў БССР і ЛССР. І гэта пры тым, што фактычна Музей быў не музеем у сучасным разуменні, а хутчэй інстытутам нацыянальнай памяці. Суадносіны колькасных паказчыкаў матэрыялаў рознага віду на 1941–1944 гг. былі наступнымі: музейныя прадметы – каля 18 тыс. адзінак, бібліятэчны фонд – каля 20 тыс., архіўны і рукапісны – каля 10 тыс. (гл. Табл. 1.) Музейная, бібліятэчная і архіўная часткі былі калі не цалкам раўназначнымі, то параўнальнымі, а музейная – не была дамінуючай.

У такіх умовах пачаўся падзел матэрыялаў, рашэнне пра які было палітычным, а выкананне пераважна механічным, хаця ў працы прымалі ўдзел па-

[1] Тамсама.

[2] *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 33.

важаныя літоўскія навукоўцы, якія спрабавалі зрабіць сваю частку працы на належным тэарэтычным узроўні. Гэта былі спецыялісты-эксперты адпаведных профіляў: спецыяліст у галіне гісторыі права прафесар Повілас Пакаркліс (Povilas Pakarklis), архівазнаўца і гісторык прафесар Канстанцінас Яблонскіс (Konstantinas Jablonskis), этнограф і фалькларыст прафесар Юозас Бальджыўс (Juozas Baldžius), археолаг доктар Пранас Кулікаўскас (Pranas Kulikauskas), этнограф і музеёлаг Пеліксас Бугайлішкіс (Peliksas Bugailiškis), мастак прафесар Антанас Гудайціс (Antanas Gudaitis), мастак Владас Дрэма, бібліёграф Антанас Пошка (Antanas Poška), музеязнавец і гісторык Вільні В. Гаштаўтас (V. Goštautas), геолаг Валерыя Чэпулітэ (Valerija Čepulytė)[1].

Па выніку працы тры группы матэрыялаў заставаліся ў Вільні, і толькі адна – матэрыялы, што тычыліся ўласна беларускіх тэрыторый – перадаваліся ў БССР. Паводле Ю. Пятруліса, перад адпраўкай рабіліся дублікаты і фотакопіі гэтых экспанатаў. Але пацвярджэння рэалізацыі гэтага плану пакуль не знойдзена.

19–21 мая 1945 г. прадстаўнік Віленскага дзяржаўнага мастацкага інстытута АН ЛССР Вітаўтас Юркунас (Vytautas Jurkūnas) з удзелам супрацоўнікоў гэтага інстытута Антанаса Гудайціса (Antanas Gudaitis), Мечыслава Булака (Mečislavas Bulaka), Пятра Александровіча (Petras Aleksandravičius), Стасіса Вайткуса (Stasys Vaitkus) адабралі для калекцыі «Вільніяны» ў сваёй установе 804 прадметы (графічныя працы і малюнкі, карціны Смуглевіча і Рустэма, калекцыя абразоў, царкоўныя скульптуры, аб'екты народнай культуры). Яны былі адразу вывезены з памяшкання Музея з дапамогай студэнтаў медыцынскага інстытута без ведама дырэктара, каб пазбегнуць спрэчак, якія ішлі паміж Наркаматам асветы і АН ЛССР[2].

Актам ад 1 жніўня 1945 г. у АН ЛССР пад апеку дырэктара Віленскага этнаграфічнага музея Владаса Дрэмы было перададзена 32 562 адзінкі захоўвання, у т. л. этнаграфічныя аб'екты (2 441), археалагічныя знаходкі (1 120), гістарычныя аб'екты (8 564), бібліятэка (20 278), а таксама інвентар музея (160 адзінак)[3]. Гэты ж дакумент паведамляе пра тое, што яшчэ адна частка Музея па-ранейшаму знаходзілася ў НКУС ЛССР (магчыма, каля 1 тыс. адзі-

---

[1] Тамсама, арк. 23; АРКР ЦНБ НАН. Ф. 1, воп. 1, адз. зах. 108, арк. 55–59а. Адказы Ю. Пятруліса на апытальнік, складзены Я. Шутовічам для супрацоўнікаў Музея. 15.06.1971. Літ. мова.

[2] ЛЦДА. Ф. 1016, воп. 1, адз. зах. 13, арк. 1–4. Справаздача дырэктара Віленскага дзяржаўнага мастацкага інстытута Вітаўтаса Юркунаса аб адборы экспанатаў. 22.05.1945. Літ. мова.

[3] Тамсама. Ф. 1001, воп. 2, адз. зах. 20, арк. 1–7. Акт прыёму-перадачы экспанатаў, архіва і бібліятэкі Музея АН ЛССР. 01.08.1945. Літ. мова.

нак захоўвання дакументаў), другая – у сутарэннях касцёла Св. Міхаіла пад апекай кс. Адама Станкевіча.

21 чэрвеня 1945 г. наркам асветы Літвы Ю. Жугжда нарэшце дасылае ў Менск тэлеграму аб тым, што матэрыялы Музея падрыхтаваны да перадачы[1]. У канцы ліпеня ў Вільню камандзіруецца Гарбуновым супрацоўніца БДМГВАВ Е. М. Заклінская, якая павінна была суправаджаць экспанаты[2]. Да пачатку жніўня 1945 г. частка матэрыялаў Музея была перавезена ў Менск. Перадача суправаджалася лістом літоўскага кіраўніцтва. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета ЛССР Юстас Палецкіс (Justas Paleckis), старшыня Саўнаркама ЛССР Мечыслаў Гедвілас (Mečislovas Gedvilas) і сакратар ЦК КП(б)Б Літвы Антанас Снечкус (Antanas Sniečkus) запэўнілі сваіх беларускіх калег Нічыпара Наталевіча, Панцеляймона Панамарэнку і Мікалая Кісялёва ў братэрскім сяброўстве і згодзе перадаць матэрыялы. Такім чынам, выконваліся дамоўленасці 1941 г.[3]

На жаль, ні ў дакументах партыйнага фонду НАРБ, ні ў дакументах БДМГВАВ акт прыёму-перадачы матэрыялаў з Вільні не знойдзены. Адпаведна, пра колькасць перададзенага можна меркаваць толькі па ўскосных дадзеных. Падчас праверкі БДМГВАВ у 1952 г. захавальнік фондаў Сіма Дворкіна паведамляла, што ў Музей паступіла 10 321 адзінка захоўвання па вопісе[4]. Невялікая, але найбольш каштоўная частка (вядома пра абразы і срэбны медаль Івана Луцкевіча[5]) была інвентарызавана адразу, другі этап апісання адбыўся ў 1949 г. па новых правілах уліку. І ў рэшце засталіся некаталагізаванымі 2 507 адзінак малакаштоўных прадметаў, у асноўным гэта тыпаграфскія клішэ (верагодна, з кнігарні «Пагоня»), пячаткі і нейкае старое адзенне і абутак. Дзеля вырашэння лёсу гэтай часткі была створана камісія з удзелам прадстаўнікоў АН БССР Якава Грынблата і Максіма Танка, якая пастанавіла заінвентарызаваць 502 адзінкі клішэ, а астатнія спісаць і знішчыць[6].

---

1 НАРБ. Ф. 790, воп. 1, адз. зах. 3. Тэлеграма Ю. Жугжды. 21.06.1945. Рус. мова.

2 Тамсама. Ф. 4п, воп. 47, адз. зах. 57, арк. 173. Ліст Ц. Гарбунова К. Прэйкшысу. Рус. мова.

3 Тамсама, адз. зах. 47, арк. 36, 38. Ліст урада ЛССР да ўрада БССР аб перадачы Музея. 08.08.1945.

4 Тамсама. Ф. 690, воп. 9, адз. зах. 732, арк. 30. Тлумачальная запіска галоўнай захавальніцы фондаў Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (БДМГВАВ) С. І. Дворкінай. 1952.

5 Тамсама. Ф. 790, воп. 1, адз. зах. 154, арк. 156–164. Каштарыс экспанатаў на рэстаўрацыю. 27.09.1949.

6 Тамсама. Ф. 690, воп. 9, адз. зах. 732, арк. 4–5, 12–13, 30, 48, 72–74, 146–147. Матэрыялы праверкі стану ўліку і захоўвання музейных каштоўнасцей. 1952. Рус. мова.



*Адзін з малакаштоўных экспанатаў Музея, перададзеных у БДМГВАВ, і яго апісанне. 1952 г.*[1]

Сёння вядома месца захавання каля 1,5 тыс. экспанатаў у Нацыянальным музеі гісторыі культуры (НМГК) і Нацыянальным мастацкім музеі (НММ), пэўная частка захоўваецца па-ранейшаму ў БДМГВАВ. Атрыбуцыі падлягае яшчэ каля 6 тыс. экспанатаў, калі агучаная С. І. Дворкінай лічба з'яўляецца дакладнай.

Савецкія перыядычныя выданні за 1944–1945 гг. у адзін голас сцвярджалі, што «літоўска-беларуская камісія» перадала «ў дар беларускаму народу» матэрыялы Музея ў аб'ёме 20 тыс. адзінак захоўвання. На месцы ж засталася толькі невялікая колькасць матэрыялаў літоўскага характару. Падкрэслівалася і роля музейных супрацоўнікаў, якія самаахвярнай працай абаранілі Музей ад рабавання «нямецкімі варварамі»[2].

Зразумела, што апошні тэзіс цалкам палягае ў рэчышчы савецкай прапаганды. Для Музея перыяд акупацыі быў цяжкім, але не катастрафічным, як, напрыклад, для шэрагу беларускіх музеяў, якія былі цалкам знішчаны ці вывезены. Самая трагічная падзея – гэта страта памяшканняў у Базыльянскіх мурах, але Музей пры гэтым захаваўся. Нямецкая акупацыйная адміністрацыя цікавасці да яго не праяўляла. Ён працаваў пераважна ў штатным рэжыме. Як можна меркаваць, у Беларусь была перададзена малакаштоўная частка, якая не праходзіла інвентарызацыю ў самім Музеі. Заінвентарызаваная колькасць экспанатаў амаль цалкам супадае з перададзеным у літоўскія сховішчы.

Перададзеныя ў БССР матэрыялы знаходзілася ў будынку БДМГВАВ (у той час Дом працы на вул. Свабоды), пакуль іх частка не была змешчана

---

[1] Тамсама, арк. 72–74.

[2] *Perduodamas Vilniaus Baltarusių Muziejus BaltarusijosTSR* // «Tiesa». 1944, № 33, 15 снежня, с. 4; *Дар белорусскому народу* // «Советское искусство». 1944, № 4, 22 января, с. 1; *Дар трудящихся Литвы белорусскому народу (гр. Гальперин)* // «Литва». 1945, № 50, 13 марта, с. 3.

ў Дзяржаўны музей БССР (цяпер НМГК). Ёсць звесткі, што кнігі да лета 1946 г. перадаваліся ў АН БССР, адкуль размяркоўваліся па бібліятэках. Сам Музей быў цалкам забыты. Яго матэрыялы разглядаліся выключна як крыніца камплектавання дзяржаўных сховішчаў. Ні пра якія 20 тыс. адзінак захоўвання для перадачы, якія анансаваліся ў СМІ, гаворка ў рэальнасці не ішла. Па сутнасці, беларускае савецкае кіраўніцтва зрабіла прапагандысцкі жэст зацікаўленасці каштоўнасцямі беларускага народа, не маючы намеру і магчымасці для іх належнага захоўвання.

Архівы і рукапісы з Музея засталіся ў літоўскім НКУС і ў ксяндза Адама Станкевіча. У пачатку 1946 г. АН ЛССР занялася той часткай, што захоўвалася ў Станкевіча. Гэта былі старажытныя рукапісы, актавыя кнігі, старадрукі і рукапісы ў колькасці 4 618 адзінак захоўвання[1]. Тагачасны кіраўнік АН ЛССР Юозас Булавас (Juozas Bulavas) у лісце да кс. Станкевіча нагадаў, што «ў траўні – чэрвені 1944 г. [...] для абароны ад баявых дзеянняў АН ЛССР дапамагла схаваць у падвале пятнаццаць скрынак старадрукаў і рукапісаў». І прасіў пераслаць гэтыя дакументы ў АН ЛССР Владасу Абрамавічусу (Vladas Abramavičius), Владасу Дрэме (Vladas Drėma) і В. Фраловене (V. Froloviene)[2].



*А. Станкевіч на вяселлі напярэдадні арышту. 1949 г.*[3]



*Ліст выконваючага абавязкі генеральнага сакратара АН ЛССР праф. Ю. Булаваса да кс. А. Станкевіча аб вяртанні збораў. З рукапіснай заўвагай А. Станкевіча. 05.01.1946 г.*[4]

1 ЛЦДА. Ф. 1001, воп. 2, адз. зах. 20, арк. 7. Акт прыёму-перадачы экспанатаў, архіва і бібліятэкі Музея ў АН ЛССР. 01.08.1945. Літ. мова.

2 АРКР ЦНБ НАН. Ф. 4, воп. 1, адз. зах. 20, арк. 10. Ліст в. а. генеральнага сакратара АН ЛССР праф. Ю. Булаваса да адміністрацыі касцёла Св. Мікалая ў Вільні аб вяртанні збораў. 05.01.1946. Літ. мова.

3 Тамсама, адз. зах. 312, арк. 3.

4 Тамсама, арк. 10.

Насамрэч у 1944 г. Музей ужо не меў ніякага дачынення да АН ЛССР, бо знаходзіўся ў ведамстве Міністэрства асветы. Таксама АН не мела ніякіх юрыдычных падстаў прэтэндаваць на матэрыялы, якія захоўваў Адам Станкевіч. Гэта быў працяг мэтанакіраванай палітыкі АН ЛССР, скіраванай на вяртанне Музея ў сваё падпарадкаванне, хаця б па частках, праз міжведамасныя спрэчкі. Магчыма, гэта адбывалася пры ўдзеле Уладаса Дрэмы, які шмат гадоў працаваў там і зрабіў вялікую працу па ўпарадкаванні і інвентарызацыі гэтых збораў. У ведамстве АН Музей прабыў усяго некалькі гадоў, і не было ніякіх фармальных падстаў для такой палітыкі. Чаму кс. Станкевіч пагадзіўся перадаць зборы, хаця разумеў прыкрасць сітуацыі і ў сваіх запісах не стрымліваў эмоцый? Магчыма, зноў-такі з-за ціску органаў НКУС, прадчуваючы хуткі арышт. А магчыма, разумеў, што патрэбны належныя ўмовы захоўвання, якія ў БССР забяспечыць не могуць, а ў АН ЛССР ёсць спецыялісты, якія адчуваюць адказнасць за гэтыя зборы.

Так ці інакш, на пачатку 1946 г. матэрыялы былі перададзены ў АН ЛССР пад апеку загадчыка рукапіснага аддзела бібліятэкі Уладаса Абрамавічуса. Дакументы былі атрыманы ў неўпарадкаваным стане. Літаратурныя рукапісы пераблытаны з архівамі арганізацый. Некаторыя дакументы знішчаныя. Але вялікая іх частка была сістэматызавана па храналагічным прынцыпе яшчэ ў самім Музеі Уладасам Дрэмам.

Апрацоўка была пачата 12 студзеня і скончана 22 лістапада 1947 г. Дакументы былі разабраны і сістэматызаваны (складзены вопіс) бібліёграфам Ёнасам Мініусам (Jonas Minius). Кірылічныя рукапісы чыталіся і ўдакладняліся іншымі супрацоўнікамі аддзела. Сам комплекс дакументаў атрымаў назву максімальна блізкую да назвы Музея – Віленскі беларускі фонд. У выніку яны былі падзелены на дзве часткі – літэрарыя (літаратурныя дакументы) і архівалія. У першую частку ўвайшлі: дакументы (карэспандэнцыя, творы, асабістыя дакументы ды інш.) беларускіх пісьменнікаў, паэтаў, грамадскіх дзеячаў; рукапісы супрацоўнікаў газеты «Наша Ніва» і іншых беларускіх культурніцкіх устаноў за 1905–1915 гг.; этнаграфічныя матэрыялы, сабраныя рознымі асобамі; рэлігійныя рукапісныя кнігі; газеты і часопісы на розных мовах; «палітычныя» дакументы розных беларускіх арганізацый ды інш. Гэтая частка была ўпарадкавана па алфавітным прынцыпе.

Другую частку складалі пераважна фамільныя і маёнткавыя архівы ў колькасці 26 скрынак: архіў Тышкевічаў з Лагойска, часткі архіваў Радзівілаў, Сапегаў, Касцевічаў, дакументы (пераважна маёмасна-гаспадарчыя) Аляксандра Данейкі, Антона Аўдзевіча, Яўгеніюша Букатага, Тэадора Лацкага ды інш., дакументы цэркваў і манастыроў з тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага, з Менска і Вільні, маёнткаў у Слонімскім, Ковенскім, Жамойцкім ды інш. паветах. Гэта былі прывілеі каралёў, акты па кіраванні маёмасцю, судовыя акты, інвентары маёнткаў, вёсак, цэркваў і манастыроў, квітанцыі, запісы

і спісы аб зборы падаткаў, пошлін і г. д. за 1396–1942 гг. Вялікая частка актаў і дакументаў была напісана беларускай мовай (афіцыйнай мовай канцылярыі ВКЛ)[1]. Фонд налічвае 2 311 адзінак захоўвання. У ніжэйзгаданым артыкуле прыводзіцца лічба 2 200 адзінак.

Ужо ў чэрвені 1948 г. Владас Абрамавічус друкуе ў беларускіх СМІ агляд фонду, пералічваючы самыя каштоўныя дакументы з ліку «літэрарыі», запрашаючы даследчыкаў да знаёмства з імі, пры гэтым не згадваючы прыналежнасць гэтых дакументаў да Музея і называючы яго «фондам вільнюсскіх беларусаў», цягам некалькіх гадоў сабраным з раскіданых матэрыялаў[2].

На гэтым працэс расфарміравання Музея можна лічыць скончаным. Большая частка яго засталася ў Вільні: у ведамстве АН (каля 40 тыс. адз. зах.) і ў ведамстве НКУС (магчыма, архіве) – не менш за 1,5 тыс. адз. зах. Яшчэ адна частка (каля 10 тыс. адз. зах.), якая пераважна захоўвалася ў Музеі як неапісаная, перададзена ў БССР. Значная колькасць справаводных дакументаў засталася ў супрацоўнікаў і беларускіх дзеячаў у Вільні.

Яшчэ адзін этап перамяшчэння матэрыялаў Музея прыйшоўся на канец 1950-х–пачатак 1960-х гг., калі архіўная, бібліятэчная і музейная галіна ў БССР скончылі працэс рээвакуацыі і апрацоўкі, а таксама пачалі адбывацца чарговыя структурныя змены. Аб гэтым у сваім артыкуле дастаткова падрабязна напісала Ганна Запартыка[3]. Аднак і гэты этап таксама патрабуе больш дэтальнага вывучэння ў кантэксце распрацоўкі комплекснай гісторыі Музея.

### *Высновы*

Падводзячы вынікі колькаснай ацэнкі збораў Музея, можна казаць аб не менш як 44 тыс. заінвентарызаваных адзінак захоўвання розных відаў: прадметы, кнігі, архівы. Кожная з гэтых частак была даволі значнай у колькасным вымярэнні і не дамінавала над іншымі, хаця назва «музей» прадугледжвае перавагу прадметаў. Менавіта таму Беларускі музей можна разглядаць як інстытут нацыянальнай памяці ці музейна-архіўна-бібліятэчны цэнтр беларускай культуры ў Вільні.

У справе ліквідацыі Музея было некалькі рухаючых сіл і некалькі вызначальных фактараў. Да апошніх можна аднесці: нацыяарыентаваны характар Музея, адсутнасць уласнага памяшкання і юрыдычную прыналежнасць да ведамства

---

1 Аддзел рукапісаў Бібліятэкі [імя] Урублеўскіх Літоўскай Акадэміі навук (АР БУЛАН). Ф. 21, адз. зах. 2311, арк. 1–19. Агляд Віленскага беларускага фонда пасля навукова-тэхнічнай апрацоўкі ў аддзеле рукапісаў Акадэміі навук ЛССР. Складзены Ёнасам Мініусам, падпісаны Владасам Абрамавічусам. 22.11.1947. Літ. мова.

2 Абрамавічус В., *Рукапісы беларускіх пісьменнікаў у Літве* // «Звязда». 1948, № 117, 13 чэрвеня, с. 1.

3 Запартыка Г. В., *Дакументальны фонд Беларускага музея…*

Наркамата асветы ЛССР на момант ліквідацыі. Важную ролю ў лёсе Музея адыгралі: СНК ЛССР, Наркамат асветы ЛССР, АН ЛССР, НКУС ЛССР, ЦК КП(б)Б, кіраўніцтва Музея і беларускі асяродак у Вільні. Палітычнае рашэнне аб ліквідацыі было прынята на падставе дамоўленасці М. Біржышкі і Ц. Гарбунова ў 1941 г., замацаванай міжурадавамі дакументамі 1945 г.[1]

На падставе наяўных крыніц нельга да канца вызначыць ролю органаў НКУС у гэтых падзеях. Найбольш актыўныя беларускія дзеячы, якія працавалі ў Музеі, былі арыштаваны, а значная колькасць дакументаў перайшла на сакрэтнае захоўванне. Беларускія супрацоўнікі змагаліся за Музей, але не здолелі істотна паўплываць на сітуацыю. Да таго ж у іх не было нават фармальнай магчымасці адстойваць існаванне музея, бо ён фінансаваўся літоўскім урадам і не меў свайго памяшкання. А тая нефармальная раўнавага паміж літоўскімі ўладамі і беларускімі супрацоўнікамі Музея, якая існавала з 1940 г., у 1944 г. ужо не мела шансаў на рэалізацыю.

Функцыю выратавання збораў узяла на сябе АН ЛССР. Беларускі бок пераважна дэкляраваў зацікаўленасць, выкарыстаўшы сітуацыю ў мэтах прапаганды ўласнага клопату пра культурныя каштоўнасці беларускага народа. Але тая параўнальна невялікая іх частка, што трапіла ў Беларусь, была забыта на доўгія гады.

Што тычыцца даты ліквідацыі, то яна таксама ацэньваецца па-рознаму. У аглядзе, зробленым супрацоўнікамі аддела рукапісаў БУЛАН, – гэта 15–16 жніўня 1944 г. У гэтыя дні НКУС забраў з Музея частку архіўных матэрыялаў. Другая дата, якая найчасцей гучыць у навуковай літаратуры, – гэта 24 лістапада 1944 г., калі распачалася праца ліквідацыйнай камісіі. І, нарэшце, трэцяя – 30 ліпеня 1945 г. – апошні дзень працы супрацоўнікаў Музея. Менавіта яна падаецца найбольш абгрунтаванай.

Для Янкі Шутовіча, Пётры Сергіевіча, Адама Станкевіча, Уладзіслава Паўлюкоўскага ды іншых беларускіх дзеячаў гэтыя падзеі сталі непапраўнай трагедыяй, часта невытлумачальнай і цынічнай. Да самой смерці Янка Шутовіч шукаў адказу на пытанне аб прычынах: «Музей [...] дачакаўся ліквідацыі з волі нашых высокіх урадаўцаў, выступаючых ад імя літоўскіх і савецкіх дзяржаўных уладаў. Для мяне, я думаю, і для многіх беларусаў з’яўляецца загадкай ці гэтая воля падпарадкаваная асновам і прынцыпам ленінскай нацыянальнай палітыкі? Ці не з’яўляецца яна праяўленнем легкадумнасці, свавольствам і нарушэннем асноўных норм нашай савецкай дзяржаўнай палітыкі ў пытаннях навукі, культуры і мастацтва? Трудна паверыць, каб такая культурная ўстанова, як Беларускі музей ў Вільні, яго самастойнае існаванне, ягонае гістарычнае бытаванне ў літоўскай сталіцы сталася перашкодай ці замінай

[1] НАРБ. Ф. 4п, воп. 47, адз. зах. 47, арк. 36, 38. Ліст ураду ЛССР да ўраду БССР аб перадачы Музея. 08.08.1945. Рус. мова.

у будаўніцтве сацыялістычнай і камуністычнай культуры і навукі ў Літоўскай ССР [...]»[1].

Адам Станкевіч, прачытаўшы артыкул «Дар трудящихся Литвы белорусскому народу», эмацыйна напісаў: «Беларускі музей ды беларусам падарылі!.. А сапраўды – гэта цынізм»[2]. А пад скіраваным яму лістом Ю. Булаваса з патрабаваннем аддаць матэрыялы, пазначыў, што Музей «ліцвіны заграбілі». Прыкладна такі ж тон і стаўленне праяўляліся ў дакументах, складзеных Пётрам Сергіевічам. А вось Мар'ян Пецюкевіч станоўча ацэньваў факт таго, што большасць матэрыялаў Музея засталася ў Літве, «бо летувісы маюць добрых спецыялістых і ўмеюць шанаваць і цаніць мінулае, і сваё, і наша супольнае»[3].

Што тычыцца беларускага боку ў асобах Панамарэнкі і Гарбунова, то іх, здаецца, цалкам задаволіў сам факт перадачы матэрыялаў з Вільні. А колькасць і склад прынцыповай ролі не адыгрывалі. І хаця Панамарэнка ў сваёй рэзалюцыі пытаўся аб каштоўнасці і колькасці той часткі, якую літоўцы пакінулі сабе[4], гэтае пытанне засталося без увагі. Бакі дыпламатычна абмяняліся ўзаемнымі падзякамі.

Рознасць падыходаў да падзеі вызначае і рознасць тэрміналогіі. Савецкае кіраўніцтва разглядала ліквідацыю Музея як «перадачу беларускаму народу», кіраўніцтва АН ЛССР і літоўскія навукоўцы – як выратавальную аперацыю, беларускія дзеячы – як несправядлівы і цынічны разгром і падзел. Вядомыя сёння крыніцы дазваляюць казаць пра палітычна матываваную ліквідацыю. Як нямецкія ўлады не маглі дапусціць захоўвання камуністычнай літаратуры, так савецкія – існавання нацыянальнага цэнтра, галоўнай каштоўнасцю якога былі не толькі самі прадметы і дакументы, але беларуская нацыянальная ідэя, матэрыяльнымі сведчаннямі якой яны з'яўляліся.

У 1945 г. Музей перастаў існаваць як цэнтр беларускай культуры ў Вільні. І гэта непапраўная страта. Але застаўся вялікі, каштоўны, хаця і раскіданы на сотні кавалкаў комплекс прадметаў, кніг і архіваў, які патрабуе пільнай увагі з боку прадстаўнікоў тых двух дзясяткаў устаноў, дзе яны захоўваюцца, а таксама навуковай грамадскасці.

***

Далейшая рэканструкцыя гісторыі і збораў Музея будзе працягвацца. Сярод прагледжаных фондаў НАРБ некаторыя звесткі аб перадачы і лёсе збораў Музея ў БССР атрымалася знайсці ў фондзе 4п (ЦК КП(б)Б) у вопісе 47

---

1 *Успаміны Янкі Шутовіча*, арк. 11.

2 АРКР ЦНБ НАН. Ф. 4, воп. 1, адз. зах. 20, арк. 9.

3 Пецюкевіч М., *У пошуках зачараваных скарбаў*, с. 130.

4 НАРБ. Ф. 4п, воп. 47, адз. зах. 47, арк. 36, 38. Ліст ураду ЛССР да ўраду БССР аб перадачы Музея. 08.08.1945. Рус. мова.

аддзела прапаганды і агітацыі, фондзе 790 Камітэта па справах культурна-асветніцкіх устаноў пры Савеце Міністраў БССР (1945–1953), і, дзякуючы публікацыі Віталя Склабана, нават у фондзе Міністэрства дзяржаўнага кантролю за 1952 г.[1]

Падобна, што сталае справаводства па лёсе Музея не вялося. Дакументы адсутнічаюць у фондах БДМГВАВ (ф. 1246), Камісіі па гісторыі Вялікай Айчыннай вайны (ф. 750п), дакументах асобага сектара (ф. 4п, воп. 29) і г. д. Не знойдзены вопіс перададзеных у БССР матэрыялаў. Пошук можна працягваць у фондзе Наркамата асветы ЛССР (ЛЦДА. Ф. R-762), СНК ЛССР (ф. R-754), дзе справаводства вялося больш дакладна. Адкрытым застаецца пытанне пра ролю органаў НКУС у лёсе Музея, якое можна даследаваць з дапамогай дакументаў Асобага архіва Літвы.

Атрыбуцыя і рэканструкцыя прадметаў, дакументаў і кніг са збораў Музея паўстае як задача для супрацоўнікаў беларускіх музеяў і бібліятэк.

## Дадаткі

Табліца 1. Колькасць прадметаў, кніг, архіўных дакументаў Музея. 1922–1945 гг.

<table>
<tr><th colspan="2">Катэгорыя</th><th>1922</th><th>1933</th><th>1936</th><th>1937</th><th>1941</th><th>1944</th><th>1945</th></tr>
<tr><td colspan="2">Прадметы</td><td>1524</td><td></td><td>+169</td><td>4 228</td><td>13 450</td><td rowspan="2">38 000</td><td>16743+804</td></tr>
<tr><td colspan="2">Кнігі</td><td></td><td></td><td></td><td>10 555</td><td>Больш за 14 000</td><td>20278</td></tr>
<tr><td rowspan="3">Архівы</td><td>Рукапісныя кнігі і акты XIV–XIX стст.</td><td></td><td>4224</td><td></td><td></td><td rowspan="3">Больш за 9 000</td><td rowspan="2">3747</td><td rowspan="2">4618</td></tr>
<tr><td>Асабістыя архівы дзеячаў XX ст. (літэрарыя)</td><td></td><td>Больш за 10 асабістых архіваў</td><td></td><td></td></tr>
<tr><td>Архівы арганізацый XX ст.</td><td></td><td>Не менш за 30 архіваў грамадскіх арганізацый і партый</td><td></td><td></td><td></td><td>53 каробкі і 283 тэчкі (не менш за 1,5 тыс. адз. зах.)</td></tr>
<tr><td colspan="8">Усяго:</td><td>Не менш за 44 тыс. адз. зах. + неапісаная частка</td></tr>
</table>

[1] Скалабан В., *Лёс вернутых каштоўнасцяў* // «Голас Радзімы». 2004, № 22–24, с. 13–14.

Табліца 2. Камплектаванне Музея. 1918–1944 гг.

| **Год** | **Музейныя прадметы** | **Архіўныя дакументы** | **Рукапісы** | **Кнігі** |
|---|---|---|---|---|
| 1918 | Калекцыя Івана Луцкевіча, археалагічная калекцыя Генрыха Татура | Рэдакцыя газеты «Наша Ніва», Беларускае навуковае таварыства | Рукапісы Максіма Багдановіча, архіў Еўдакіма Раманава | Бібліятэка Івана Луцкевіча, бібліятэка Еўдакіма Раманава |
| 1919 | | | | Бібліятэка «Знание» Барыса Даніловіча |
| 1928 | | | | Выданні БНТ |
| 1930 | | Калекцыя улётак і пракламацый (перададзеная К. Дуж-Душэўскім) | Архіў К. Дуж-Душэўскага, рукапісы Янкі Купалы | Газета «Гоман» |
| 1933 | | Беларуская Народная Рэспубліка, архіў Слуцкага паўстання, Беларускі пасольскі клуб Беларуская сялянска-работніцкая грамада, Беларускі цэнтр у Літве, Таварыства беларускай школы ў Літве, Віленская беларуская гімназія, Музей у Наваградку, Беларуская настаўніцкая семінарыя ў Барунах, Беларуская настаўніцкая семінарыя ў Вільні, Беларуская гімназія ў Гродне, Беларуская гімназія ў Радашковічах, Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, Навуковае таварыства імя Ф. Скарыны, Пасольская фракцыя, Беларуская сялянская партыя «Зялёны дуб», Рускі нацыянальны камітэт у Вільні, Беларускае каталіцкае выдавецкае таварыства | Архівы Максіма Гарэцкага, Ігната Дварчаніна, Уладзіміра Жылкі, Максіма Танка, Рыгора Шырмы, Цішкі Гартнага | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1940 | | Беларускі нацыянальны камітэт (каля 30 спраў), Беларускі студэнцкі саюз у Вільні (5 спраў), Аб'яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый у Празе (5 спраў), Украінская Народная Рэспубліка (каля 20 спраў), Дакументы з Коўна (не менш за 50 спраў) Каля 40 розных спраў не ідэнтыфікаваны | Ліставанне Антона Луцкевіча | |
| 1941 | Сцяг «Беларускага сялянскага саюза», клішэ выдавецтваў, касцельная харугва касцёла Св. Яна, тры драўляныя гербы «Пагоня», партрэт К. Каліноўскага (Пётры Сергіевіча), партрэт Францішка Багушэвіча, камод Лявона Дубейкаўскага стылю «ампір», пячаткі беларускіх арганізацый (Лявон Дубейкаўскі) | Беларускі студэнцкі саюз (увесь архіў), Беларускі кааператыўны банк (не менш за 600 адз. зах.), Арганізацыя «Страж крэсова»(за перыяд 1919–1922 гг.) | Архівы Лявона Дубейкаўскага, Уладзіслава Талочкі, Мар'яна Пецюкевіча (этнаграфічны) | Кнігарня «Пагоня» (11 вазоў кніг і газет), бібліятэка Беларускага студэнцкага саюза, бібліятэка Лявона Дубейкаўскага |
| 1943 | 52 адзінкі | | | |

## Табліца 3. Траекторыя падзелу музейных збораў

| **Першы падзел** | **Рух часткі** | | **Сучаснае сховішча** |
|---|---|---|---|
| Май – чэрвень 1944 г. Касцёл Св. Міхаіла (кс. Адам Станкевіч). 15 скрыняў найбольш каштоўных экспанатаў, у тым рукапісы – 4618 адз. зах. | 1946 г. АР БУЛАН. Рукапісы – 2 311 адз. зах. 1945 г. Музей Янкі Купалы (некалькі адзінак) | | АР БУЛАН. Ф. 21. 2 311 адз. зах. |
| 15–16 жніўня 1944 г. 53 скрыні архіўных дакументаў і 283 тэчкі, забраныя НКУС | 1950-я гг. ЛЦДА – каля 1,5 тыс. адз. зах. | канец 1950-х гг. – ЦДАКР БССР, ЦДАЛМ БССР | ЛЦДА. Ф. 281. 57 адз. зах. НАРБ. Ф. 591 (Мікалая Камінскага), воп. 1, адз. зах. 251–258. Ф. 878–884. Фонды беларускіх арганізацый. БДАМЛМ. Ф. 3, воп. 1–3. 494 адз. зах. |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Віленскі дзяржаўны мастацкі інстытут АН ЛССР – 804 адз. зах. (графіка, жывапіс (Смуглевіч, Рустэм), скульптура, абразы, прадметы народнай культуры) | | | |
| 1 жніўня 1945 г. Віленскі этнаграфічны музей – 12 125 прадметаў; 20 278 кніг | 1977 г. – 891 адз. зах. перададзена ў Музей старажытнабеларускай культуры АН БССР | | Музей старажытнабеларускай культуры. 891 адз. зах. |
| 8 жніўня 1945 г. БДМГВАВ – 10 351 адз. зах. | | | НМГК. 1 500 адз. зах. (дакументы, паштоўкі, графіка, жывапіс, скульптура, абразы, кераміка, пячаткі, кнігі, перыёдыка, археалогія, карты, музычныя інструменты, харугвы) НММ. 58 адз. зах. БДМГВАВ |
| | 1970-я гг. – асабістыя архівы Янкі Шутовіча, Мар'яна Пецюкевіча ды інш. беларускіх дзеячаў з Вільні – АРКР ЦБ АН БССР | | АРКР ЦНБ НАН Беларусі. Ф. 1 (Янка Шутовіч), адз. зах. 108–115. Ф. 23, адз. зах. 55–85, 551–562. Ф. 42 (Якаў Грынблат), адз. зах. 2 113. Ф. 15 (Антон Грыневіч), 62 адз. зах. |

## *Дакументы з нагляднай справы Янкі Шутовіча з Асобага архіва Літвы*

### Протокол обыска[1]

1944 года ноября 21 дня я старший следователь ОКР «СМЕРШ» 13-го корпуса ПВО капитан Боронин, с участием начальника отделения ОКР «СМЕРШ» Северного фронта ПВО капитана Шабловского и в присутствии мл. сержанта взвода ОКР «СМЕРШ» 13-го корпуса ПВО Мирян, гражданки Шутович (Она Митюте) Они Станиславовны, на основании постановления на обыск от 20 ноября 1944 года, произвел обыск квартиры у гр-на Шутовича Ивана Осиповича 1904 г. р., проживающего в гор. Вильнюс, ул. Антокольская, д. № 3, кв. 11, на предмет обнаружения оружия, контрреволюционной литературы и других вещественных доказательств его преступной деятельности.

При осмотре и обыске квартиры при входе на кухне находились: б[ое]ц отдела контразведки «СМЕРШ» 13-го корпуса ПВО Сидоров, дворник дома № 30 по ул. Антокольская г. Вильнюс.

---

[1] Асобы архіў Літвы. Воп. 45, адз. зах. 54396, арк. 9–13. Пратакол вобшуку. Рус. мова. 21.11.1944; Спіс кніг і рукапісаў, канфіскаваных пры вобшуку. 20.11.1944. Рус. мова.

При обыске было обнаружено и изъято для приобщения к следственному делу следующее:

1. Газета «Белорусский голос». С № 1 до 121. Включительно за 1942, 1943 и 1944 годы, без номеров 28 и 99;
2. Газета «Погоня» за № 38, 40, 41, 42, 43, 44, 45;
3. Произведение Язепа Найдюка «Белоруссия вчера и сегодня», издания 1943 года. 2 экземпляра.
4. Произведение Филиппа Бухлера «Адольф Гитлер» 1942 года издания. 1 экземпляр.
5. Брошюра «Господарь» 1943 года издания.
6. Статут Белорусского объединения 1943 года издания.
7. Рукописи антисоветского содержания с поправками и общей корректировкой Шутовича И. О. на:
   а) Михалевича Г. на 9 листах,
   б) Богданович К. на 3 листах,
   в) Сурвило Каз. на 3 листах,
   г) Зимницкого И. на 5 листах,
   д) Цишкин А. на 13 листах,
   е) Яблонского Александра на 7 листах,
   ж) Дашкевич Стефан на 2 листах,
   з) Романович Пораска на 2 листах,
   и) Антонович Антон на 8 листах,
   к) Зимницкий Я. на 7 листах,
   л) Романовская Л. на 4 листах,
   м) Плевако Зигмунд на 6 листах,
   н) Кисель Владислав на 4 листах,
   о) Янчукович Ядвига на 4 листах,
   п) Лабацкий Владимир на 3 листах,
   р) Скобей Н. на 4 листах,
   с) Шарлан Франц на 1 листе,
   т) Шульжицкий В. на 25 листах[1].
8. Журнал «Поклич» № 1 за 1943 г. издания.
9. Журнал «Сигнал» № 2 за 1944 г. издания.
10. Журнал «Заванте» № 49–50 за 1944 г. издания.
11. Журнал «Илюстрирте цайтунг» № 6 за 1944 г. издания.
12. Журнал «Калосьсе»[2] № 1 за 1944 г. издания.
13. Журнал «Новы шлях» № 5 за 1944 г. издания.

---

[1] Падобна, што пераважная большасць прозвішчаў, адзначаных у спісе, – навучэнцы настаўніцкіх курсаў у Вільні, на якіх падчас вайны выкладаў Я. Шутовіч.

[2] [...] – тэкст нечытэльны.

14. Паспорт № 19816.
15. Удостоверение № 830 от 07.10.1944.
16. Удостоверение № 427 от 02.10.1944.
17. Удостоверение от 19.07.1944.
18. Удостоверение № 260 от 26.07.1944.
19. Удостоверение № 2773.
20. Профсоюзный билет № 000009.
21. Аттестат об окончании Вильнюсского университета от 04.10.1934.
22. Фотокарточек 3 шт. одна с текстом[1] [...]
23. Записная книжка со списком лиц (кассовый шиток [...]).
24. Кассовая книга № 2 за 1936 год.
25. Книга с приходными ордерами (белорусск. нац. организаций Белорусского центра).
26. Рукопись Шутовича И.О. неизвестного содержания [...] с описанием (переводом) цифр, группы цифр соответственно их обозначению. На 40 листах с распиской «Я.Ш.».

Изъята при обыске для просмотра в отделе контрразведки «СМЕРШ» 13-го корпуса ПВО литература и прочие документы, не относящиеся к следственному делу Шутович И. О., возвращены последнему сполна в полной исправности, согласно прилагаемой описи возвращенного.

Претензий со стороны обыскивавшегося Шутович И. О. и других лиц, присутствовавших при обыске, на неправильности допущенные при обыске не заявлено.

Протокол записан верно и зачитан всеми обыскиваемыми[2].

Обыск произвели:

старший следователь ОКР «СМЕРШ» 13-го корпуса ПВО
капитан /Боронин/

начальник отделения ОКР «СМЕРШ» Северного фронта ПВО
капитан /Шабловский/

Присутствовали:

жена Шутович И. О. /Шутович Anna Ona Miciutė-Šutaviėciene/

мл. сержант взвода ОКР «СМЕРШ» 13-го корпуса ПВО /Мирян/

[1] Дакументы з 14 па 21 захаваліся ў справе ў канверце, арк. 15.

[2] Тут рукой Шутовіча дапісана: «Смотри мое заявление на имя следователя от 02.11.1944».

## *Список книг и рукописей, изъятых во время обыска у Шутовича И. О. дня 22.11.1944.*

Во время обыска было обнаружено много книг советских разного содержания – научного, литературного и т. п. Они остались в квартире И. О. Шутовича (Антокольская, 30-11, Вильнюс). Но кроме них изъяты следующие книги и материалы:

1. Якуб Колас. «Сымон-музыка», Прага, 1942.
2. С. Паўловіч. «Пішы самадзейна», Вільня, 1929.
3. Максим Танк. «Журавинавы цвет», Вильня, 1937.
4. Pas Land seine Bewohner. Стр. 195+48.
5. Edward Kozikowski. Pamiętnik Związku Zawodowego Literatów Połskich w Warszawie 1920–1930. Warszawa, 1931, стр. 237.
6. А. Луцкевіч. «Беларускі музей ім. Ів. Луцкевіча», Вільня, 1933, стр. 16.
7. М. Шчаглоў. «Зборнік купальскіх і жніўных беларускіх песняў». Менск, 1943, стр. 36.
8. Я. Пушча. «Плыні на руінах». БДВ, 1929, ст. 171+2.
9. Статут Беларускага кааператыўнага банку ў Вільні, стр. 31.
10. А. Луцкевіч. «Польская акупацыя ў Беларусі»[1], Вільня, 1920, стр. 19.
11. Wł. Hałubowicz. «Gdzie stał trszeci zamek Wiłna», Wilno, 1939, стр. 29.
12. С. Паўловіч. «Аб арганізацыі беларускае працоўнае школы», Вільня, 1928, стр. 16.
13. «Wilno», № 2, 1939, стр. 176.
14. «Бюлетэнь Пленума Цэнтральнага Бюро Усебеларускага Аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк», Менск, 1925.
15. Гадавік «Калосься» за 1938 год, стр. 256.
16. Гадавік «Шлях моладзі» за 1936 г.
17. «Студэнцкая думка». № 3 за 1925 г., Вільня.
18. «Шлях моладзі» № 11, Вільня, 1936 г.
19. А. Аверчанка. «Фактар на ўсё». Машынапіс.
20. «Назусріч». Ч. 23, 1936, Львів.
21. Станіслава Кісель. «Разбойнікі», «Скарб». П'еса. Машынапіс.
22. К. Дуж-Душэўскі. «Беларуска-літоўскія адносіны і справа акупаваных Польшчай зямель». Коўна, 1927. Машынапіс.
23. П. Крэчэўскі. Драма «Рагнеда». Машынапіс.
24. [П. Крэчэўскі]. «Здрада». Машынапіс.
25. [П. Крэчэўскі]. Розная карэспандэнцыя і вершы на 25 лістах канцылярскага і сшыткавага фармату)
26. М. Багдановіч. Партрэт. Літаграфія.
27. Праект лясной школы ў літоўскай мове на 16 стр. машынапісу.

---

[1] Правільна: Луцкевіч А., *Польская акупацыя Беларусі*. Вільня, 1920.

28. Іншыя матарыялы ў літоўскай мове [...] 1936 г.
29. «Шлях моладзі». Гадавік за 1930 г.
30. Дэкларацыяў на беларускую школу з 1936 г. штук 64 (запоўненыя).
31. Две заявы з пералікам дэклярантаў – зложаны школьным інспектарам у Наваградку (на 34+13 дэклярацыяў).
32. Адрасы для высылкі «Калосься» з 1940 г. на 8 старонак рознага фармату.
33. Паштовыя пісулькі (2) і знакам і сцягам бел-чырвона-белым.
34. Чэкавы блок Беларускага каапературыўнага Банку.
35. Штатное расписание Академии наук ЛССР при Совнаркоме ЛССР.
36. Письмо Бел. Музею Прокурора ЛССР № 51 ад 04.11.1944.
37. Список военнообязанных запаса – рабочих и служащих Академии наук ЛССР. Рукопись.
38. Письмо (копия) Наркомпроса ЛССР от 5.10.1944 № 796 на лит. языке.
39. [Письмо (копия) Наркомпроса ЛССР] от 30.09.1944 № 741.
40. Пісьмо Беларускаму Музею па літоўску – 20.10.1944 № 31.
41. Абвестка па руску аб занятии нац. Бел. Музеем здания (ордер № 4964) з печатью Наркомпроса.
42. 154 штукі розных нататнікаў (рукапісных), адрасоў, квіткоў і т. д. «Калосься».
43. Тры лісты канцылярскага фармату запісаў бел. народнай песні з Ві[...]-ляўскай вол.
44. Четыры+два лісты артыкулу аб А. Гурыновічу з яго вершамі.
45. Пяцьдзесят чатыры паштоўкі ў рэдакцыю і адм. «Калосься» ад розных асоб ды розных [...].
46. Штук 31 розных шпаргалаў (адрасоў, зацямак рэд. «Калосься»).
47. Штук дзесяць рознага матарыялу (пісьма, артыкулы і інш. у рэд. «Калосься»).
48. Пісьмо Бел. Музею (№ 22, 10.10.1944) Наркома ВНД. 2 і 3 стр.
49. Ода Я. Шутовіч ад 11.02.1928.
50. Пятнаццаць лісткоў рознага матэрыялу (2 працы на літаратурныя тэмы, верш «Каток» Гурыновіча і нар. песня).
51. Праграма канцэрту хору Р. Шырмы, Вільня, 1939 г.
52. Дакумэнты: 1) Darbo pazym. № 108 ад 04.05.1942; 2) Mtlyg. lap. № 469 ад 03.06.1944; 3) Mtlyg. lap. № 452 ад 04.05.1944; 4) Mtlyg. lap. № 417 ад 07.03.1944; 5) świad. metryczne № 2194 ад 15.12.1922; 6) Pazym. Menų Reik. Vald. № 470 ад 03.08.1944; 7) Į galiojimas № 52 ад 06.11.1944; 8) Nuomas Kuitas № 152; 9) Распіска О. Морозова ад 27.10.1944 (пазыка ложка); 10) ордэр на памяшканьне для Музею № 4984; 11) ордэр на боты № 45782 (для Фёдарава); 12) Ruk. kort. № 163655; 13) Rentmarka
53. а) Квітары-складкі ў фонд «Калосься»: 1) адзін з 1934 г.; 2) тры (№ 101–200, № 201-300, № 301-400) з 1935 г.; 3) адзін – з 1936 г. 4) адзін з 1938 г.;

б) квітары-складкі ў фонд дапамогі М. Машары № 1 – з 1934 г.; № 2 – з 1935 г.; в) квітар-складкі ў фонд «Анталёгіі беларускай паэзіі»– з 1939 г.

54. Паштовыя пераказы лікам 485 штук прэнумората[1] «Калосься» розных гадоў.
55. Беларускаму Цэнтру 10 ордэраў прыходных у Беларускі Нацыянальны фонд.
56. Розныя квіткі, рахункі, нататкі рэд. «Калосься» і іншых установ (лікам 68 штук).

Опись литературы и других документов, указанных с. 1 по 56 пунктов, произведена по-моему ходатайству мной собственноручно.

Верно и сполна И. О. Шутович

Присутствовал: старший следователь ОКР «СМЕРШ» 13-го корпуса ПВО капитан /Боронин/

[1] Prenumerata (*пол.*) – падпіска на орган друку (*заўвага рэд.*).

ISSN 2424-5216

# АПОШНІ ГРАМАДЗЯНІН ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА, АБО УВОДЗІНЫ Ў ЖЫЦЦЯПІС РЭДАКТАРА ЛЮДВІКА АБРАМОВІЧА (1879–1939)

***Аляксандр Смалянчук,***
*д-р гіст. навук (Варшава)*

***Summary***

*Ludwik Abramowicz, a columnist and editor, was one of the main ideologists of the idea of so-called krajowość in its liberal-democratic version. He defended the principles of krajowość even in the interwar period when Poland was dominated by the policy of assimilation of national minorities and relations with Lithuania had the character of a cold war. Thanks to Abramowicz, the paper «Przegląd Wileński» (1921–1938) became the last bastion of the idea of krajowość, actively popularising it in the public life of the Vilnius Region. One newspaper pages, krajowość appeared as an ideological response of the liberal-democratic circles of Polish society in the Vilnius Region to the absolute assimilation policy of the central and local authorities.*

*Ludwik Abramowicz was never tired to defend the idea of the political independence of the Belarusian-Lithuanian Land and the decision of its future by the representatives of all indigenous nations. This standpoint met with accusations of national treason from both the administration and the Catholic Church as well as from the majority of the local Polish community. At the same time, the newspaper became a platform which, through the publications of Belarusian and Lithuanian activists and representatives of the Jewish community, presented the problems of the national life of the Kraj to the Polish society.*

*Abramowicz's life and work, his publication activity in «Przegląd Wileński» prove that, against all political and national-cultural realities, the idea of krajowość as an idea of harmonious coexistence of the nations of the historical Lithuania was popular and found new supporters who honourably called themselves citizens of the Grand Duchy of Lithuania.*

Людвік Абрамовіч адышоў у нябыт 9 сакавіка 1939 г. Ужо на наступны дзень на старонках віленскай газеты «Słowa» з'явіўся некралог, напісаны рэдактарам Станіславам Мацкевічам. Вядомы публіцыст прызнаваўся, што Л. Абрамовіч быў яго ідэйным і нават асабістым праціўнікам, цалкам адданым «краёвай ідэі», але адначасна яго дзейнасць Ст. Мацкевіч лічыў гонарам журналістыкі: «Ён заставаўся краёўцам пад дэвізам: Contra spem spero[1]. Сапраўды рыжскі трактат, існаванне самастойнай Літоўскай Рэспублікі, нарэшце, унутраная польская палітыка паступова перакрэслілі ўсе магчымасці ажыццяўлення гэтай праграмы нават у набліжанай версіі. Але Людвік Абрамовіч па-ранейшаму выдаваў свой «Przegląd Wileński». Іншыя пакінулі яго, атрымаўшы пасады і пасадкі. Сёння, у дзень яго пахавання, нават групка «дэмакратаў», г. зн. краёўцаў-апартуністаў зусім маленькая. Спадара Людвіка Абрамовіча мы шанавалі не толькі за тое, што ён меў прынцыпы. Ён ніколі не гандляваў імі дзеля дырэктарскіх пасад або бенефіцый. Яшчэ раз скажам нашаму ідэйнаму праціўніку: «Гонар яго памяці!»[2].



*Рэдактар Людвік Абрамовіч. 1920? г. БУЛАН*

Кім быў Людвік Абрамовіч? І чым ён заслужыў такую высокую ацэнку аднаго з найбольш вядомых публіцыстаў II Рэчы Паспалітай?

### *Станаўленне публіцыста і краёўца. Першы віленскі перыяд*

Людвік Абрамовіч нарадзіўся 5 ліпеня 1879 г. у Маскве ў сям'і юрыста і быў трэцім сынам пасля старэйшых Мар'яна і Вітальда. Бацькі Ян і Марыя з Мрачкоўскіх падтрымлівалі сувязі са сваякамі з беларускіх губерняў. Дзякуючы гэтаму Людвік даволі рана пазнаёміўся з жыццём Беларуска-Літоўскага краю, сціснутага жорсткай антыпольскай палітыкай генерала Мураўёва і яго пераемнікаў. Пасля заканчэння гімназіі Людвік Абрамовіч паступіў у Маскоўскі ўніверсітэт, але не правучыўся там доўга і навучанне працягваў у Харкаўскім універсітэце, адкуль выехаў у Францыю. Там і распачалася яго публіцыстычная і грамадская дзейнасць. Паводле сведчанняў даследчыцы і сваячаніцы Марыі Нэканда-Трэпкі, менавіта ў Парыжы нарадзіўся журналіст сацыялістыч-

[1] Спадзяюся, нават не маючы надзеі (*лац.*).

[2] Mackiewicz S., S. p. *Ludwik Abramowicz* // «Słowo». 1939, nr 68, s. 1.

ных поглядаў, які распачаў барацьбу з нацыяналізмам[1]. Магчыма, у апошнім сцвярджэнні ёсць пэўнае перабольшванне, або даследчыца мела на ўвазе найбольш радыкальныя формы нацыяналізму.

Вядома, што на пачатку XX ст. Абрамовіч перабраўся ў Галіцыю. Ён вучыўся на гістарычным факультэце Ягелонскага ўніверсітэта і адначасова працягваў дзейнасць публіцыста. У гэты час Абрамовіч далучыўся да польскага руху і падтрымліваў кантакты з польскімі вайсковымі арганізацыямі ў Галіцыі. Яго старэйшыя браты належалі да Польскай партыі сацыялістычнай.

У 1904 г. Л. Абрамовіч прыехаў у Вільню, з якой будзе звязаны да канца жыцця. Гэта быў час, калі ў жыцці імперыі павеяла пераменамі. Расія цярпела паражэнні ў вайне супраць Японіі на Далёкім Усходзе, а ўнутры краіны ўзрастала сацыяльнае і нацыянальнае напружанне. У Вільні паўстаў г. зв. «Клуб аўтанамістаў», у які ўвайшлі прадстаўнікі той часткі мясцовага польскага, літоўскага і беларускага грамадства, якіх яднала ідэя аўтаноміі земляў былога Вялікага Княства Літоўскага[2]. Адным з прадстаўнікоў гэтай часткі польскай супольнасці стаў Людвік Абрамовіч. Дарэчы, беларусаў у гэтым «Клубе» прадстаўлялі Іван Луцкевіч і Аляксандр Уласаў[3].

Расійская рэвалюцыя 1905–1907 гг. засведчыла набліжэнне канца «старога свету» і паспрыяла ліберальным і дэмакратычным пераменам у краіне. Галоўным з іх стала паступовае пераўтварэнне імперыі Раманавых у манархію, абмежаваную народным прадстаўніцтвам. Апошняе было прадстаўлена Дзяржаўнай Думай, а таксама ў нейкай ступені рэфармаванай Дзяржаўнай радай.

Якраз у Вільні адбылася сустрэча Людвіка Абрамовіча з будучым «галоўным архітэктарам» краёвай ідэі ў яе дэмакратычнай версіі Міхалам Ромэрам (Michał Römer) (1880–1945). Ромэр пасля заканчэння Імператарскай школы права ў Пецярбургу і атрымання дыплома юрыста працягваў навучанне ў парыжскай *École des Sciences Politiques*. Улетку 1905 г. ён прыехаў на канікулы ў бацькоўскі дом, але ў Парыж ён ужо не вярнуўся. Яго захапіла атмасфера перамен. У пэўны момант Ромэр вырашыў распачаць уласны выдавецкі праект у выглядзе штодзённай газеты ліберальна-дэмакратычнага накірунку. Людвік Абрамовіч прапанаваў свае паслугі нівастворанай рэдакцыі.

Гэта сустрэча запачаткавала сяброўства, якое працягвалася да канца жыцця Абрамовіча. Абодвух яднала духоўная блізкасць і вернасць краёвай ідэі. Праўда, не заўсёды іх разуменне краёвасці супадала, што абарочвалася ідэйнымі канфлік-

[1] Nekanda-Trepka M., *Ludwik Abramowicz-Niepokójczycki – redaktor «Przeglądu Wileńskiego»* / Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego, red. T. Bujnicki, K. Stępnik. Lublin 2005, s. 50.

[2] Miknys R., *Wileńscy autonomiści i ich projekty autonomii politycznej Litwy w latach 1904–1905* // «Lituano-Slavica Posnaniensia» 2001, t. 8, s. 97–113.

[3] Смалянчук А., *«Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі*. Мінск, 2017, с. 24.

тамі, але адносіны заўсёды аднаўляліся. Яны працягваліся нават у тыя часы, калі прыяцеляў і аднадумцаў дзяліла дзяржаўная мяжа паміж Польшчай і Літвой[1].

15 (28) лютага 1906 г. выйшаў з друку першы нумар «Gazety Wileńskiej». Гэта выданне стала трыбунай ліберальна-дэмакратычнага асяроддзя Беларусі і Літвы. Але галоўным дасягненнем газеты, паводле меркавання гісторыка Збігнева Соляка, стала выпрацоўка адной з найбольш арыгінальных канцэпцый польскай палітычнай думкі пачатку XX ст., а менавіта краёвай ідэалогіі ў яе дэмакратычнай версіі[2]. Галоўным клопатам краўёцаў была будучыня Беларуска-Літоўскага краю.

Міхал Ромэр у рэдакцыйным артыкуле № 1 гэтай газеты сцвярджаў: «У вызначэнні нашай пазіцыі мы павінны кіравацца краёвымі патрэбамі, менавіта ў іх шукаць кропку адліку для кожнай палітычнай, грамадскай і культурнай акцыі. Якраз таму мы адкідаем пазіцыю г. зв. «крэсаў», якая ператварае наш край у нейкі сатэліт».

Беларуска-Літоўскі край трактаваўся Ромэрам як кантынуацыя традыцыі гістарычнай Літвы або былога Вялікага Княства Літоўскага. Памяць пра Вялікае Княства была важным элементам свядомасці многіх краёцаў, якія часам называлі сябе яго апошнімі грамадзянамі.

«Мы, грамадзяне Літвы і Беларусі, – пісаў Міхал Ромэр у рэдакцыйным артыкуле № 1, – не можам быць польскімі каланістамі. У вымярэнні краёвага грамадзянства, г. зн. у вымярэнні палітычным, сацыяльным і гаспадарчым, нашай роднай зямлёй з'яўляецца Літва і Беларусь. Выключна ў вымярэнні культурна-нацыянальным мы застаёмся сынамі польскага народа і ад гэтага сваяцтва адмаўляцца не хочам і не будзем».

Краёвая ідэя ўжо мае багатую гістарыяграфію, у якой вылучаюцца даследаванні Юліюша Бардаха, Яна Юркевіча, Збігнева Соляка, Рымантаса Мікніса ды інш.[3] Гэтыя працы дазваляюць зразумець краёвасць як пэўную альтэрнаты-

---

[1] Гл., напр.: Cz. II: lata 1918–1928 // «Rocznik Biblioteki naukowej PAU i PAN w Krakowie». Rok XLV (2000), s. 311–366; Cz. II1: lata 1929–1938 // «Rocznik Biblioteki naukowej PAU i PAN w Krakowie». Rok XLVI (2001), s. 357–415.

[2] Solak Z., *Między Polska a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920*. Kraków, 2004, s. 73.

[3] Bardach J., *O dawniej i niedawnej Litwie,* Poznań 1988; *Krajowość – tradycje zgody narodów w dobie nacjonalizmu. Materiały z międzynarodowej konferencji naukowej w Instytucie Historii UAM w Poznaniu (11–12 maja 1998).* Pod red. Jana Jurkiewicza. Poznań, 1999; Solak Z., *Między Polską a Litwą. Życie i działalność Michała Römera. 1880–1920,* Kraków 2004; Szpoper D., *Gente Lithuana, Natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt (1851–1934).* Gdańsk, 2009; Miknys R., *Problem kształtowania się nowoczesnego narodu Polaków litewskich w pierwszej połowie XX w.* // «Biuletyn Historii Pogranicza». 2000, nr 1, s. 21–32; Мікніс Р., *Міхал Ромэр (1880–1945): штрыхі да палітычнай біяграфіі краёўца* // «Homo Historicus». Вільня, 2008, с. 236–260;

ву дамінуючаму ў рэгіёне Літва – Беларусь – Украіна – Польшча этнакультурнаму варыянту нацыянальнай ідэалогіі. Яе ствральнікі (Міхал Ромэр, Раман Скірмунт, Канстанцыя Скірмунт, Баляслаў Ялавецкі, Людвік Абрамовіч ды інш.) прадстаўлялі тую частку мясцовай польскай грамадскасці («літоўскіх палякаў»), якая захоўвала традыцыі дзяржаўнай і культурнай адметнасці земляў былога Вялікага Княства Літоўскага і менавіта гістарычную Літву, а не Польшчу лічыла сваёй Радзімай.

Краёвая ідэя паўстала ў асяроддзі «літоўскіх палякаў» і была пэўным адказам на выклікі эпохі нацыяналізмаў, прысутныя ў патрабаваннях літоўскага і беларускага нацыянальных рухаў. Аднак краёвая ідэя аказалася запатрабаваная больш шырокімі коламі грамадства Беларуска-Літоўскага краю.

Падмуркам краёвасці было разуменне нацыі як палітычнай або грамадскай катэгорыі. Паводле ідэолагаў краёвасці, кожны, хто адчуваў сябе грамадзянінам Краю і быў патрыётам гістарычнай Літвы, належаў да «краёвай нацыі». Этнічныя і культурныя адметнасці, на іх погляд, былі другаснымі і не маглі парушыць нацыянальную палітычную еднасць.

На пачатку XX ст. існавалі розныя варыянты краёвай ідэі. Паміж краёўцамі ішла ажыўленая дыскусія. У сацыяльным плане можна вылучыць два накірункі краёвай ідэалогіі – дэмакратычны, ля вытокаў якога стаяла асоба Міхала Ромэра, і кансерватыўны (або ліберальна-кансерватыўны). У стварэнні апошняга вялікую ролю адыгралі публікацыі Рамана Скірмунта (1868–1939). Аднак нават унутры гэтых накірункаў адсутнічала адзінства поглядаў.

Краёвасць стварала магчымасць для кантактаў прадстаўнікоў розных нацыянальных рухаў гістарычнай Літвы. Больш за тое, яна знайшла падтрымку ў дэмакратычным асяроддзі беларускага і літоўскага рухаў. Іх прадстаўнікі напярэдадні Першай сусветнай вайны нават прапагандавалі краёвую ідэю, разумеючы, што яна пашырае міжнацыянальную і міжканфесійную талерантнасць, спрыяе яднанню народаў Беларуска-Літоўскага краю ў змаганні з палітыкай Расійскай імперыі і можа паспрыяць уласна нацыянальным памкненням іх народаў.

Асабліва актыўна падтрымалі краёвую ідэю беларускія палітыкі[1]. Важнай

---

Sawicki J., *Michał Römer a problemy narodowościowe na ziemiach byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego*. Toruń, 1998; Смалянчук А., *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г.* Санкт-Пецярбург, 2004; Ён жа, *«Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі*. Мінск, 2017; Ён жа, *Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю*. Мінск, 2018.

[1] Больш глыбока праблема дачыненняў беларускіх палітыкаў з краёўцамі разглядалася аўтарам гэтага артыкула ў манаграфіях *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917 г.* (Санкт-Пецярбург, 2004); *«Краёвая ідэя» ў беларускай гісторыі* (Мінск, 2017); *Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю* (Мінск, 2018), а таксама ў шэрагу артыкулаў. Гл., напр., *Białorusini w gronie krajowców / Ostatni obywatele Wielkiego Księstwa Litewskiego*, red.

падзеяй стала далучэнне да беларускага руху напрыканцы 1916 г. Рамана Скірмунта. Яшчэ больш істотнае значэнне мела супрацоўніцтва віленскага асяродка беларускай газеты «Наша Ніва» з краёўцамі дэмакратычнай плыні, у т. л. з Людвікам Абрамовічам.

У 1906 г. іх цэнтрам стала якраз згаданая «Gazeta Wileńska», фактычным рэдактарам якой быў Міхал Ромэр, а адным з вядучых публіцыстаў – Людвік Абрамовіч. Менавіта ў гэтым выданні раскрыўся яго публіцыстычны талент. Ромэр пазней прыгадваў: «Людвік аказаўся добрым журналістам, быў адным з лепшых у газеце. Асабліва добрымі былі яго фельетоны, якія пісаў пад псеўданімам *Licza*»[1].

Галоўнай задачай газеты лічылася спрыянне сужыццю розных нацыянальна-культурных элементаў на падмурку супольнага краёвага грамадзянства. Людвік Абрамовіч стаў гарачым прыхільнікам краёвасці, актыўна ўдзельнічаў у дыскусіях, у якіх выпрацоўваліся асновы краёвай ідэі і абмяркоўваліся практычныя крокі па яе рэалізацыі. Публікацыі Абрамовіча разам з тэкстамі М. Ромэра карысталіся найбольшай папулярнасцю.

Аднак «Gazeta Wileńska» праіснавала толькі паўгода. Судовы пераслед і фінансавыя праблемы прыспешылі яе закрыццё ў ліпені 1906 г. Тым не менш выданне здолела адыграць надзвычай важную ролю ў пашырэнні краёвай ідэі і знайшло свайго чытача-краёўца ў Беларуска-Літоўскім краі.

Улетку 1906 г., калі М. Ромэр і калегі спрабавалі адрадзіць газету, Людвік Абрамовіч падпісаў кантракт з рэдакцыяй найбольш папулярнай у краі польскай штодзённай газеты «Kurier Litewski». Рэдактар і вядомы паэт і публіцыст Чэслаў Янкоўскі запрасіў яго да супрацы. «Kurier Litewski» таксама прэзентаваў краёвую пазіцыю, але ў больш кансерватыўнай версіі.

Л. Абрамовіч стаў адным з вядучых публіцыстаў газеты. Якраз яму было даручана асвятленне пасяджэнняў Дзяржаўнай Думы, дзе даволі актыўную ролю адыгрывалі прадстаўнікі «літоўскіх палякаў» дэпутаты-краёўцы з Беларусі і Літвы.

У першай палове 1911 г. пад уплывам актывізацыі вялікарускіх шавіністаў пачалося збліжэнне віленскіх краёўцаў-кансерватараў з мясцовымі прыхільнікамі Партыі нацыянальных дэмакратаў. У чэрвені газета, якая ўжо выходзіла пад назвай «Kurier Wileński», аб'ядналася з эндэцкім выданнем «Goniec Codzienny». Абрамовіч не пагадзіўся з гэтым і пакінуў рэдакцыю.

У гэты час ён ізноў зблізіўся з М. Ромэрам. Не апошнюю ролю ў гэтым адыграла спадарожніца жыцця Л. Абрамовіча публіцыстка Алена Ромэр-Ахенькоўска, якая была стрыечнай сястрой Міхала Ромэра. Апошняга звязвалі з ёй

T. Bujnicki, K. Stępnik. Lublin 2005, s. 273–280; *Belarusian National Idea in the Early Twentieth Century* // «Annus Albaruthenicus» 2007, nr 7, s. 55–68 ды інш.

[1] Römer M., *Dziennik*, red. naukowy G. Nowik, t. 6, s. 26. Zapis z dnia 10 marca 1939 r.

не толькі крэўныя сувязі, але таксама блізкасць поглядаў[1].

У лістападзе 1911 г. Людвік Абрамовіч разам з Міхалам Ромэрам заснавалі яшчэ адно выданне краёвага накірунку – штотыднёвы «Przegląd Wileński» (1911–1915). Рэдакцыю ўзначаліў Л. Абрамовіч. Ужо ў першым нумары рэдактар заявіў пра намер працягваць традыцыі «Gazety Wileńskiej». Ён абяцаў, што «Przegląd Wileński» «будзе стаяць на пазіцыях краёвага грамадзянства і, адпаведна, прызнаваць літоўска-беларускія землі за адметны край, які мае агульныя інтарэсы і ўяўляе сабой адзіную тэрыторыю, дзе пражываюць некалькі народаў, раўнапраўных у вызначэнні ўласнага лёсу і лёсу краю»[2].


PRZEGLĄD WILEŃSKI.
Tygodnik polityczny, społeczny i literacki.
Czas odnowić prenumeratę na kwartał drugi.
Stanowisko krajowe a ideja narodowa.

*Першая старонка газеты «Przegląd Wileński» з пачаткам артыкула Л. Абрамовіча. 1913 г.*

Пачатак біяграфіі Абрамовіча як рэдактара быў даволі складаным. Гэтыя складанасці былі абумоўлены не толькі цэнзурнымі прэтэнзіямі і фінансавымі праблемамі, але таксама спрэчкамі і дыскусіямі ў асяроддзі віленскіх краёўцаў як пра сутнасць краёвай ідэі, так і пра метады яе рэалізацыі. Галоўным апанентам Л. Абрамовіча стаў Міхал Ромэр, якому пазіцыя былога калегі падавалася занадта кансерватыўнай. Ён пагадзіўся на яго рэдактарства толькі па прычыне адсутнасці іншых кандыдатур[3].

«Przegląd Wileński» найбольш увагі надаваў нацыянальнай праблеме. Асабліва шмат месца на яго старонках займаў літоўскі рух і польска-літоўскі

---

1 Solak Z., *Listy Michała Römera do Ludwika Abramowicza z lat 1908–1938*. Cz. 1: lata 1908–1917 // «Rocznik Biblioteki PAN w Krakowie. 1999. R. 44, s. 313.

2 Abramowicz L., *Bez grogowskazu*, «Przegląd Wileński», 12 (25).11.1911, numer okazowy.

3 Sawicki J., *«Przegląd Wileński» w latach 1911–1915 (część I)* // «Zapiski Historyczne». 1994. Tom LIX, s. 45–47.

канфлікт. Абрамовіч, як зрэшты і Ромэр, быў упэўнены, што працэсы дэмакратызацыі паспрыяюць паразуменню палякаў і літоўцаў. Тым больш што ў перакананні краёўцаў агульныя інтарэсы і патрэбы земляў былога Вялікага Княства Літоўскага больш важныя, чым інтарэсы асобных краёвых нацый і нацыянальных груп. Гэта датычыла і літоўскіх палякаў. Абрамовіч сцвярджаў, што мясцовыя палякі з'яўляюцца лакальным чыннікам, звязаным з Краем, які ёсць і застанецца іх Айчынай[1].

Важнай праблемай жыцця Краю заставалася г. зв. «Габрэйскае пытанне», якому рэдакцыя надавала шмат увагі, пратэстуючы супраць антысемітызму ва ўсіх яго праявах[2]. Вельмі зычліва рэдакцыя ставілася да беларускага руху, хоць яго праблематыка займала значна менш месца на старонках газеты. Апошняе зразумела, улічваючы пачатковы этап беларускага Адраджэння і адносна лагодныя формы польска-беларускай спрэчкі.

У гэты час Л. Абрамовіч разумеў краёвае грамадства як свайго роду канфедэрацыю самастойных і роўных нацыянальных супольнасцей, кожная з якіх мела права на ўласнае нацыянальна-культурнае развіццё. Для яго краёвасць была метадам суіснавання розных нацый гістарычнай Літвы, прасякнутага міжнацыянальнай і міжканфесійнай талерантнасцю, а таксама сродкам захавання тэрытарыяльнага адзінства Беларуска-Літоўскага краю. У гэтым суіснаванні ён клапаціўся пра права польскай супольнасці развіваць уласную культуру[3].

М. Ромэр у пазіцыі калегі ўбачыў прыхаваны польскі нацыяналізм. У адрозненне ад Абрамовіча ён успрымаў грамадства Беларуска-Літоўскага краю як адзінае і непадзельнае, прасякнутае пачуццём краёвага патрыятызму і незалежнае ад падзелу на асобныя нацыі[4]. У грамадска-палітычнай дзейнасці Ромэр імкнуўся да пабудовы адзінага «грамадзянскага» будынка, а не шэрагу нацыянальных хат[5]. Абодва выступалі за аўтаномію земляў Літвы і Беларусі. Але на пэўны час іх шляхі разышліся. М. Ромэр пакінуў рэдакцыю і распачаў супрацу з беларускім польскамоўным выданнем «Kurier Krajowy», які фактычна рэдагавалі браты Іван і Антон Луцкевічы.

---

[1] Abramowicz L., *Stanowisko krajowe a idea narodowa* // «Przegląd Wileński». 1913, nr 13–14, s. 3.

[2] Sawicki J., *«Przegląd Wileński» w latach 1911–1915 (część II)* // «Zapiski Historyczne». 1995. Tom LX, s. 49.

[3] Abramowicz L., *Stanowisko krajowe a idea narodowa* // «Przegląd Wileński». 1913, nr 13–14.

[4] Römer M., *Dziennik*, t. II; k. 252. Бібліятэка [імя] Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук (БУЛАН).

[5] Тамсама, k. 89. БУЛАН; Patrz też: Р. Мікніс, *Міхал Ромэр (1880–1945): штрыхі да палітычнай біяграфіі краёўца* // «Homo Historicus», Вільня 2008, с. 236–260.

Менавіта Луцкевічы сталі ініцыятарамі ажыццяўлення незвычайнага беларускага выдавецкага праекта – выдання штодзённай газеты на расійскай мове («Вечерняя газета», 1912–1915) і штотыднёвіка на польскай («Kurier Krajowy», 1912–1914)[1]. У першым выпадку яны выступалі як «расійскія дэмакраты», у другім – як «польскія».

На старонках гэтых выданняў рэгулярна прысутнічаў тэрмін «грамадзянін Краю», адзін з асноўных у канцэпцыі краёвай палітычнай нацыі. Аўтары і карэспандэнты даводзілі, што найважнейшыя для Краю пытанні павінны вырашацца з улікам інтарэсаў усіх народаў Беларусі і Літвы, асуджалі вялікарускі шавінізм і польскі нацыяналізм, заяўлялі пра неабходнасць барацьбы з праявамі нацыяналізму сярод беларусаў і літоўцаў ды інш. Аднак трэба прызнаць пэўны прагматызм беларускіх краёўцаў. Напрыклад, яны актыўна выкарыстоўвалі канцэпцыю агульнай гістарычнай Айчыны, прапагандавалі міжнацыянальную супрацу дэмакратычных элементаў розных нацыянальных рухаў, пашыралі ідэю талерантнасці, але пры гэтым ігнаравалі важны для краёвасці тэзіс агульных каранёў беларусаў, літоўцаў і палякаў.

Прапагандуючы элементы краёвай ідэі, яны заставаліся беларусамі. Краёвасць дазваляла ім пашыраць сацыяльную і культурную прастору беларускага Адраджэння і наладжваць сувязі як з дзеячамі іншых нацыянальных рухаў, так і з асобнымі прадстаўнікамі мясцовай арыстакратыі і землеўласнікаў, якія спачувалі культурнай дзейнасці беларускіх адраджэнцаў і падтрымлівалі яе (Марыя Магдалена Радзівіл, Эдвард Вайніловіч, Раман Скірмунт ды інш.). Да таго ж краёвая ідэя была важным чыннікам нацыятворчага працэсу, бо магла стаць падмуркам пераадолення канфесійнага падзелу беларусаў.

Фактычна краёвая ідэя разглядалася беларусамі ў якасці сродку ўмацавання пазіцый беларускай нацыі ў нацыянальна-культурным і грамадска-палітычным жыцці. Так, напрыклад, агітацыя неабходнасці паразумення палякаў з беларусамі тлумачылася адсутнасцю перспектывы развіцця польскага руху ў Беларуска-Літоўскім краі. Кіраўнікі беларускага руху былі ўпэўнены, што літоўскія і беларускія палякі з'яўляюцца нашчадкамі паланізаваных літоўцаў і беларусаў, і, адпаведна, патрабавалі, каб мясцовыя палякі працавалі дзеля развіцця свядомасці і культуры беларусаў і літоўцаў. Быў відавочным «беларускі ўхіл» краёвасці дзеячаў «нашаніўскага кола».

Дарэчы, з гэтым «ухілам» і былі звязаны дыскусіі, якія разгарнуліся паміж краёўцамі. Галоўным апанентам беларускіх краёўцаў стаў якраз Людвік Абрамовіч. У шэрагу артыкулаў на старонках «Przeglądu Wileńskiego» ён рэзка крытыкаваў пазіцыю рэдакцыі «Kuriera Krajowego» і «Вечерней газеты» адносна супольнасці «літоўскіх палякаў» і адстойваў права апошніх на развіццё і пашырэнне польскай культуры. Л. Абрамовіч заяўляў, што краёвасць – гэта

[1] Смалянчук А., *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй…*, с. 267, 269 ды інш.

не падпарадкаванне польскасці літоўскаму і беларускаму руху, а іх роўнасць і гармонія[1].

Але беларускія краёўцы зразумелі пазіцыю Л. Абрамовіча як імкненне працягваць палітыку паланізацыі. Градус дыскусіі часамі аказваўся вельмі высокім. Загучалі ўзаемныя абвінавачанні ў нацыяналізме. Узімку 1913 г. у рэдакцыйным артыкуле «Przeglądu» сцвярджалася, што «група палякаў-дактрынёраў краёвай ідэі», якая выдае «Kurier Krajowy», падпала пад уплывы літоўскіх і беларускіх дзеячаў[2]. У іншай публікацыі Л. Абрамовіч абвінаваціў рэдакцыю «Вечерней газеты» ў нянавісці да палякаў і выказаў сумненні ў шчырасці клопату «Вечерней газеты» пра беларускую культуру. Расійская мова гэтага ліберальнага выдання, на яго думку, спрыяла далейшай русіфікацыі[3]. Варта адзначыць, што Абрамовіч ведаў пра рэдакцыйны «беларускі маскарад» адносна згаданых выданняў, да якога мела непасрэднае дачыненне віленскае вольнамулярства, аднак нават у сітуацыях вострых дыскусій з беларусамі ён не раскрыў гэтую таямніцу.

Міхал Ромэр, які выступіў з крытыкай абодвух бакоў дыскусіі, больш рэзка рэагаваў на публікацыі польскіх калег. У сваім «Дзённіку», разважаючы пра пазіцыю Л. Абрамовіча і яго выдання, М. Ромэр напісаў, што гэтыя нібыта польскія дэмакраты дэманструюць пагарду да слабейшых народаў[4].

Па-за межамі публіцыстычнай бойкі працягваліся кантакты паміж палітыкамі, якіх яднаў клопат пра будучыню Беларуска-Літоўскага краю і разуменне, што яго галоўным ворагам застаецца царызм. Будучыня паказала, што гэта была спрэчка аднадумцаў.

### *Паміж Вільняй і Варшавай*

Л. Абрамовіч пакінуў «Przegląd Wileński» ў лютым 1914 г. Газета сціпла паведаміла пра яго пераход на «шырэйшую варшаўскую арэну»[5]. Сыход Абрамовіча з заснаванай ім газеты быў абумоўлены фінансавымі праблемамі, з якімі ўвесь час даводзілася змагацца. На пачатку 1914 г. ён перабраўся ў Варшаву, дзе працягваў публіцыстычную дзейнасць і актыўна супрацоўнічаў з коламі прыхільнікаў незалежнасці Польшчы.

Паводле інфармацыі гісторыка Збігнева Соляка, Абрамовіч пераехаў у Варшаву, каб узначаліць газету «Strażnica». Ён паспеў выпусціць толькі два

---

1 Abramowicz L., *Nieporozumienie* // «Przegląd Wileński». 1912, nr 19.

2 b. a. [Abramowicz L.], *Wpływy postronne* // «Przegląd Wileński». 1913, nr 22–23.

3 Abramowicz L., *Po wyborach wileńskich* // «Przegląd Wileński». 1912, nr 41–42.

4 Römer M., *Dziennik*, t. IV; k. 301, 304. Аддзел рукапісаў БУЛАН.

5 *Od redakcji* // «Przegląd Wileński», 1914, nr 9–10.

нумары, якія цэнзура канфіскавала, пасля чаго газету забаранілі[1]. Дарэчы, у першым нумары быў апублікаваны артыкул Л. Абрамовіча, прысвечаны беларускаму руху, у якім таксама закраналася праблема генезы краёвай ідэі і яе важнасці для літоўскіх палякаў[2].

Пасля закрыцця «Strażnicy» Абрамовіч не застаўся без працы. Напярэдадні «Вялікай вайны» ён падмяніў Вінцэнта Жымоўскага (Wincenty Rzymowski) на пасадзе рэдактара варшаўскай газеты «Prawda», заснаванай вядомым прыхільнікам дактрыны пазітывізму Аляксандрам Свентахоўскім[3].

Падчас вайны Абрамовіч актыўна працаваў у асяродку прыхільнікаў незалежнасці Польшчы. Ён дзейнічаў у канспіратыўнай арганізацыі «Саюз патрыётаў» (Zwizek Patriotów), быў адным са стваральнікаў Аб'яднання незалежніцкіх арганізацый (Zjednoczenie Organizacji Niepodległościowych), а таксама рэдактарам падпольнага двухтыднёвіка «Wiadomości Wojenne». Рэдактару давялося нават пераадольваць лінію фронту, каб наладзіць кантакты з Галоўным нацыянальным камітэтам (Naczelny Komitet Narodowy), які знаходзіўся ў Вене, а таксама са штабам Польскай вайсковай арганізацыі (Polska Organizacja Wojskowa) у Сасноўцы[4].

Пры гэтым Л. Абрамовіч не губляў кантактаў з Вільняй. Увосень 1915 г. пасля пераможнага нямецкага наступу на Усходнім фронце, акупацыі Каралеўства Польскага і значнай часткі зямель гістарычнай Літвы дзейнасць прыхільнікаў незалежнасці Беларуска-Літоўскага краю актывізавалася. Людвік Абрамовіч, які ў гэты час працаваў у рэдакцыі газеты «Myśl Polska», у адным з артыкулаў звярнуўся да праблемы Айчыны «літоўскіх палякаў» і сцвердзіў, што «польскасць у Літве абсалютна не залежыць ад варшаўскіх лозунгаў. Гэта адметная, лакальная польскасць. Ці яна поўніцца сіламі, ці яна выжывае – гэта цалкам залежыць ад мясцовых чыннікаў. Не можа быць і мовы пра вяртанне літоўскіх палякаў да этнаграфічнай Польшчы, бо ў сваёй большасці яны да яе не належаць. Толькі Літва з'яўляецца краем, з якім яны этнаграфічна звязаны»[5].

Актывізацыя краёўцаў у Вільні праявілася ў стварэнні напрыканцы 1915 г. Часовай Рады Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага, якая выступала за дзяржаўную незалежнасць гістарычнай Літвы ў саюзе з Германіяй і Аўстра-Венгрыяй. Звычайны для краёўцаў пастулат аўтаноміі Краю ператварыўся ў ідэю дзяржаўнай незалежнасці беларускіх і літоўскіх зямель.

---

1 Solak Z., *Między Polską i Litwą…*, s. 233.

2 Abramowicz L. *Problemat białoruski* // «Strażnica». 1914, nr 1.

3 Solak Z., *Między Polską i Litwą…*, s. 233.

4 Solak Z., *Listy Michała Römera do Ludwika Abramowicza z lat 1908–1938*. Cz. 1: lata 1908–1917, s. 317.

5 B. H. [Abramowicz L.], *Polskość na Litwie, «Myśl Polska»*. 1915, z. 4, s. 46–47.

Новаўтвораная дзяржава павінна была гарантаваць усім яе народам права на свабоднае культурнае развіццё. Часовая Рада аб'яднала дзеячаў розных нацыянальных рухаў, а ініцыятыва яе стварэння належала беларусам (Іван Луцкевіч). Аднак выпрабавання часам яна не вытрымала. Абвастрэнне міжнацыянальных адносін (асабліва польска-літоўскіх), да чаго прычынілася нямецкая акупацыйная адміністрацыя, зруйнавала гэты праект[1].

Л. Абрамовіч таксама далучыўся да кола прыхільнікаў незалежнасці земляў гістарычнай Літвы. Міхал Ромэр з пэўным здзіўленнем адзначыў эвалюцыю поглядаў свайго калегі. Ён сцвярджаў, што той займае краёвую літоўскую дзяржаўніцкую пазіцыю і пратэстуе супраць адарвання ад Літвы яе спаланізаваных частак нават у сітуацыі стварэння польска-літоўскай федэрацыі[2].

Л. Абрамовіч быў адным з ініцыятараў заснавання ў Варшаве Кола Вялікага Княства Літоўскага, сябры якога разважалі пра будучыню Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага ў выпадку перамогі Германіі[3]. Рэдактар заставаўся прынцыповым прыхільнікам непадзельнасці зямель Беларуска-Літоўскага краю[4]. Адначасна ён працаваў у Лізе польскай дзяржаўнасці (Liga Państwowości Polskiej), якая ў пытаннях незалежнасці Польшчы арыентавалася на Аўстра-Венгрыю. Абрамовіч выконваў абавязкі сакратара Лігі і рэдагаваў аднаўленую газету «Strażnica»[5]. Такім чынам, ён актыўна ўдзельнічаў у працэсе адраджэння польскай дзяржаўнасці. Пры гэтым, як адзначалася, ён быў прыхільнікам дзяржаўнасці гістарычнай Літвы, а яе адносіны з Польшчай бачыліся ў форме пэўнай федэрацыі.

Падобна, што ён падтрымаў літоўскую спробу паразумення з польскім бокам. Ё. Героўска-Калаўр у сваім даследаванні гісторыі Цывільнай управы Усходніх зямель (Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich) прыгадала запрашэнне адным з кіраўнікоў літоўскай палітыкі Ёнасам Вілейшысам шэрагу вядомых «літоўскіх палякаў» на размовы пра будучыню Літвы і Польшчы. Сярод запрошаных быў і Людвік Абрамовіч[6]. Відавочна, што запрашэнне было не прыватнай ініцыяты-

1 Смалянчук А., Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй…, с. 312–315; Z. Ponarski, Konfederacja Wielkiego Księstwa Litewskiego 1915–1916 // «Białoruskie Zeszyty Historyczne, 1998, nr 10.

2 Solak Z., *Listy Michała Römera do Ludwika Abramowicza z lat 1908–1938.* Cz. 1: lata 1908–1917, s. 322.

3 Römer M., *Dziennik,* red. naukowy G. Nowik, t. 3, Warszawa 2018, s. 93. Zapis z dnia 9 maja 1916 r.

4 Тамсама, s. 146. Zapis z dnia 9 lipca 1916 r.

5 Тамсама, s. 120. Zapis z dnia 13 czerwca 1916 r.

6 Gierowska-Kałłaur J., Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich (19 lutego 1919 – 9 września 1920). Warszawa, 2003, s. 24.

вай, а рашэннем Літоўскай рады. Аднак польскі бок яго не прыняў, не жадаючы, як сцвярджаў Тадэвуш Урублеўскі ў лісце да Людвіка Абрамовіча (25 мая 1918), падзяляць пранямецкую арыентацыю Рады[1]. Абавязак салідарнасці не дазволіў адгукнуцца на гэтую прапанову ні Урублеўскаму, ні Абрамовічу.

Дарэчы, у згаданым лісце Т. Урублеўскі прызнаецца, што ягоным ідэалам з'яўляецца федэрацыя ад Рэвеля да Адэсы, якая б уключала таксама Польшчу і гарантавала ёй доступ да двух мораў. Паводле Т. Урублеўскага, шлях «літоўскіх палякаў» да такой федэрацыі павінен грунтавацца на трох пастулатах: 1. Прызнанне поўнай незалежнасці Літвы, свабоднай ад усялякіх абавязкаў адносна суседніх дзяржаў; 2. Актыўны ўдзел у пабудове Літоўскай дзяржавы з адмовай ад імкнення да гегемоніі; 3. Адмова ад усялякіх праяў нацыяналізму ў вырашэнні палітычных праблем і арыентацыя на інтарэсы ўсяго краю[2]. Падобна, што гэтыя пастулаты таксама падзяляў і Л. Абрамовіч.

У 1917–1918 гг. Людвік Абрамовіч даволі часта выступаў як вядучы польскі эксперт па «літоўскім пытанні». Урэшце ён апынуўся на пасадзе рэферэнта па літоўска-беларускіх пытаннях пры Часовай дзяржаўнай радзе (Tymczasowa Rada Stanu), утворанай нямецкімі і аўстра-венгерскімі акупацыйнымі ўладамі ў студзені 1917 г. на тэрыторыі былога Каралеўства Польскага. Л. Абрамовіч вывучаў літоўскую мову, кантактаваў з дзеячамі розных нацыянальных рухаў і арганізацыямі літоўскіх палякаў, аналізаваў нямецкую палітыку. Адным з вынікаў гэтай дзейнасці стаў зборнік дакументаў, якія распавядалі пра палітычную і нацыянальную сітуацыю на землях гістарычнай Літвы ў перыяд нямецкай акупацыі, а таксама пра спробы літоўскіх і беларускіх дзеячаўператварыць Край у суб'ект еўрапейскай палітыкі[3]. Зборнік, які быў выдадзены Дэпартаментам палітычных спраў Часовай дзяржаўнай рады, і сёння заслугоўвае ўвагі даследчыкаў.

Яго ўкладальнік ва ўступным слове адзначыў важнасць публікацыі дакументаў, што асвятляюць пазіцыі ўсіх палітычных суб'ектаў, якія ўплывалі і ўплываюць на лёс Краю, і выказаў спадзяванне, што гэта паспрыяе вырашэнню «праблемы Літвы».

Між іншым дакументы зборніка паведамлялі пра намаганні беларускіх дзеячаў увесці «беларускае пытанне» ў парадак дня еўрапейскай палітыкі. Так, у зборніку былі змешчаны паведамленні польскіх газет («Dziennik

[1] List Tadeusza Wróblewskiego do Ludwika Abramowicza, 25 maja 1918 r. [Электронны рэсурс] Рэжым доступу: https://www.pogon.lt/historia/547-list-tadeusza-wroblewskiego-do-ludwika-abramowicza.html. Дата доступу: 20.08.2021. Ліст захоўваецца ў аддзеле рукапісаў БУЛАН (F 79–59, lap. 27 r.).

[2] Тамсама.

[3] *Litwa podczas wojny: zbiór dokumentów, uchwał itp.* Zebrał i do druku przygotował L. Abramowicz. Warszawa, 1918.

Petrogradzki» і «Echo Polskie'), якія датычылі прыезду ў сталіцу Расійскай Рэспублікі дэлегацыі Беларускага нацыянальнага камітэта на чале з Раманам Скірмунтам і канцэпцыі аўтаноміі Беларусі ў межах дэмакратычнай Расіі, папулярнай у менскім асяродку беларускага руху. Адначасна публікаваліся рашэнні віленскага з'езда беларускіх арганізацый (студзень 1918 г.), якія, дарэчы, нямецкія ўлады забаранілі друкаваць на старонках газеты «Гоман», і дакументы, якія засведчылі намаганні віленскага беларускага цэнтра да ўтварэння незалежнай Беларуска-Літоўскай федэрацыі, звязанай з Курляндыяй. Апошняе гарантавала шырокі доступ да Балтыйскага мора і разглядалася як неабходная ўмова эканамічнага развіцця Беларусі і Літвы[1].

Увесну 1918 г. Абрамовіч як рэферэнт выехаў у Вільню, якую яшчэ займалі нямецкія войскі. Між іншым ён збіраў інфармацыю пра сітуацыю ў Менску. У гэтай справе Абрамовіч наладзіў карэспандэнцыю з адным з кіраўнікоў Польскай рады Менскай зямлі Эдмундам Івашкевічам, які на працягу мая – жніўня 1918 г. рэгулярна інфармаваў яго пра дзейнасць Рады БНР і асобных беларускіх палітыкаў. Найчасцей у перапісцы згадваліся Язэп Варонка і Раман Скірмунт. Лісты Э. Івашкевіча і яго нататкі, прысвечаныя беларускаму палітычнаму жыццю ў Менску, захаваліся ў калекцыі дакументаў Л. Абрамовіча ў аддзеле рукапісаў Бібліятэкі [імя] Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук і ўяўляюць сабой каштоўную крыніцу па гісторыі БНР[2].

1 лістапада 1918 г. у сувязі з планаваным вывадам нямецкіх войск з Віленшчыны Польскі камітэт стварыў Камітэт грамадскай бяспекі, віцэ-старшынёй якога стаў Л. Абрамовіч. Мясцовая польская грамадскасць імкнулася да пэўнай самаарганізацыі, важным элементам якой павінны былі стаць часткі самаабароны. Аднак нямецкая адміністрацыя не дазволіла гэта зрабіць. Немцы планавалі, як і ў Менску, перадаць уладу наступаючым войскам бальшавікоў.

Напрыканцы снежня 1918 г. Л. Абрамовіч страціў пасаду рэферэнта. Пазіцыя прыхільніка адраджэння Літвы не адпавядала экспансіяністкім тэндэнцыям у знешняй палітыцы адроджанай Польскай дзяржавы. Прынамсі, так зразумеў яго адстаўку М. Ромэр. Людвіка Абрамовіча як «літвамана» не падтрымалі нават былыя аднадумцы з рэдакцыі газеты «Przegląd Wileński» разам з братам Вітальдам[3]. Апошні, дарэчы, увайшоў у склад польскай Часовай праўячай камісіі ў Літве, якая паўстала 22 снежня 1918 г.[4] Аднак спыніць наступ

[1] Ibidem.

[2] Аддзел рукапісаў БУЛАН. F 79–31. Калекцыя Л. Абрамовіча. Гл. таксама: Gierowska-Kałłaur J., *Polacy i Białorusini we wzajemnych opiniach w latach 1918–1921* // «Studia z dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej». T. XLII, s. 35–66.

[3] Solak Z., *Listy Michała Römera do Ludwika Abramowicza z lat 1908–1938.* Cz. 1: lata 1908–1917, s. 326.

[4] Gierowska-Kałłaur J., *Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich…*, s. 44.

бальшавікоў было немагчыма. 5 студзеня 1919 г. Чырвоная армія ўвайшла ў Вільню.

Краёўцу і прыхільніку непадзельнасці гістарычнай Літвы давялося назіраць заняпад краёвай ідэі, да якога непасрэдна прычыніліся літоўскія палітыкі, што імкнуліся да самастойнай Літоўскай дзяржавы ў межах «этнаграфічнай Літвы», пры гэтым выказваючы прэтэнзіі на Вільню і Віленшчыну. Экспансіяніcцкі характар у дачыненні да Беларуска-Літоўскага краю быў характэрны для палітыкі бальшавіцкай Расіі, прэтэнзіі на гэтыя землі таксама выказвалі польскія нацыянальныя дэмакраты.

Прыхільнасць да краёвай канцэпцыі захавалі пераважна дзеячы беларускага руху. Урэшце прызнанне Германіяй незалежнасці «этнаграфічнай Літвы» са сталіцай у Вільні, а таксама амбіцыі палітыкаў Польшчы, якія разглядалі Беларусь і Літву як сферу свайго палітычнага дамінавання, перакрэслілі і іх надзеі.

### *Вяртанне да Вільні. Рэдактар тыднёвіка* «Przegląd Wileński»

Напрыканцы 1918 г. Абрамовіч выехаў у Варшаву. Ён стаў супрацоўнікам Цывільнай управы Усходніх зямель. У красавіку 1919 г., калі Вільню занялі польскія войскі, вярнуўся ў сваю сталіцу, каб застацца там да канца жыцця.

Л. Абрамовіч вітаў красавіцкі зварот *Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага*, у якім Юзаф Пілсудскі абяцаў вырашэнне лёсу гістарычнай Літвы з улікам меркаванняў усіх яе жыхароў. Зварот паведамляў пра стварэнне Цывільнай управы Усходніх зямель на чале з Ежы Асмалоўскім, адной з задач якой было абранне прадстаўнікоў мясцовага насельніцтва на аснове тайнага, усеагульнага і прамога галасавання.

У ліпені 1919 г. у дакладной запісцы кіраўніцтву Цывільнай управы Л. Абрамовіч як кіраўнік аддзела прэсы Віленскай акругі паведамляў, што першапачаткова беларуская, літоўская і габрэйская супольнасці паставіліся да гэтага звароту з недаверам або з іроніяй. Аднак яго практычная рэалізацыя паступова змяніла адносіны да яго. Тым не менш Абрамовіч заўважыў выразны рост антыпольскіх настрояў, што было звязана як з дзейнасцю беларускіх сацыялістаў і непрыняццем польскай палітыкі з боку Коўна, так і нацыяналістычнымі выпадамі польскіх нацыянальных дэмакратаў і іх мясцовага выдання – газеты «Dziennik Wileński»[1]. Дарэчы, Л. Абрамовіч спрабаваў супрацьставіцца нарастанню міжнацыянальнага канфлікту, адстойваючы краёвую ідэю на старонках газеты «Nasz Kraj» (1919).

Ён не пакінуў Вільню нават у ліпені 1920 г., калі горад быў заняты войскамі бальшавікоў. Нейкім цудам пазбег рэпрэсій. Больш таго, ён выступіў апекуном маёмасці адноўленага Віленскага ўніверсітэта і здолеў з рызыкай

[1] Цыт. паводле: Gierowska-Kałłaur J., *Zarząd Cywilny Ziem Wschodnich…*, s. 74.



**Do mieszkańców byłego W. Księstwa Litewskiego.**

**J. Piłsudski**

Wilno, 22 kwietnia 1919 r.

**Buvusios Lietuvos Didžiosios Kunigaikštystės gyventojams.**

**J. Piłsudski.**

*Зварот «Да жыхароў былога Вялікага Княства Літоўскага». 22.04.1919 г.*

для жыцця абараніць яе ад рабунку. Ацалелі кафедры ўніверсітэта, яго багатая бібліятэка і астранамічная абсерваторыя. Пазней першы рэктар Універсітэта Стэфана Баторыя прафесар Міхал Сядлецкі ад імя студэнтаў і выкладчыкаў выказаў шчырую падзяку Л. Абрамовічу[1].

Пасля паражэння бальшавікоў пад Варшавай у жніўні 1920 г. савецкая Расія ў адпаведнасці з дамовай ад 12 ліпеня 1920 г. перадала Вільню Літоўскай рэспубліцы. У гэты час Л. Абрамовіч вярнуўся да журналісцкай працы, імкнучыся працягваць традыцыі публіцыстыкі краёўцаў. Паводле З. Соляка, ён спрабаваў спалучыць падтрымку літоўскай дзяржаўнасці з польскімі нацыянальнымі інтарэсамі[2]. Так, у верасні 1920 г. у Вільні пачала выходзіць «Gazeta Krajowa», рэдактарам якой стаў Л. Абрамовіч. Выданне працягвала традыцыі «Gazety Wileńskiej», «Przeglądu Wileńskiego», «Naszego Kraju» і прапагандавала краёвую ідэю.

[1] Nekanda-Trepka M., *Ludwik Abramowicz-Niepokójczycki…*, s. 52.

[2] Solak Z., *Listy Michała Römera do Ludwika Abramowicza z lat 1908–1938*. Cz. 1: lata 1908–1917, s. 326.

У рэдакцыйным артыкуле першага нумару «Gazety Krajowej» рэдактар пісаў пра нязменнасць краёвай пазіцыі і выступаў супраць расавай, класавай і нацыянальнай нянавісці. Будучыню Беларуска-літоўскіх зямель ён звязваў з Устаноўчым сходам, абраным на аснове ўсеагульных выбараў[1]. Таксама на старонках газеты прысутнічала ідэя польска-літоўскай федэрацыі. Побач з рэдактарам былі Алена Ромэр-Ахенькоўска і Міхал Ромэр. Аднак апошні пасля захопу горада дывізіяй генерала Люцыяна Жалігоўскага ў кастрычніку 1920 г. выехаў у Коўна і актыўна ўдзельнічаў ва ўмацаванні Літоўскай дзяржавы.



*Людвік Абрамовіч*
*і Алена Ромэр-Ахенькоўска.*
*1920 г. БУЛАН*

Абрамовіч быў рэдактарам да канца мая 1921 г., калі перадаў газету Людвіку Хаміньскаму. На старонках газеты з'явілася кароткая інфармацыя пра гэта без тлумачэння прычын[2]. Яны невядомыя даследчыкам і сёння. Але можна выказаць меркаванне, што гэтым адыходам пачыналася праца па аднаўленні выдання «Przegląd Wileński», першы нумар якога выйшаў ужо ў лістападзе.

Па-рознаму склаўся лёс ідэолагаў краёвасці пасля палітычнага распаду гістарычнай Літвы. Раман Скірмунт улетку 1919 г. закончыў беларускі перыяд сваёй палітычнай біяграфіі, а пасля Рыжскага міру, ратыфікацыі якога спрабаваў не дапусціць, засяродзіўся на праблемах роднага Палесся. Спробы вярнуцца да актыўнага палітычнага жыцця ўвянчаліся поспехам толькі ў 1930 г., калі ён быў абраны ў Сенат па спісе Беспартыйнага блока супрацы з урадам (Blok Bezpartyjny Współpracy z Rządem).

Міхал Ромэр падтрымаў літоўскую дзяржаўнасць, але адначасова імкнуўся да ўрэгулявання адносін паміж Польшчай і Літвой. Антон Луцкевіч застаўся актыўным дзеячам беларускага руху, спалучаючы палітычную дзейнасць з культурніцкай працай. Усе яны ў той ці іншай ступені захавалі вернасць краёвай ідэі, хоць для большасці былых краёўцаў яна перастала быць праблемай публічнага жыцця. І толькі Людвік Абрамовіч на старонках віленскага друку –

[1] L. Abramowicz, *Artykuł redakcyjny*, «Gazeta Krajowa», 1920, nr 1, s. 1.

[2] «Gazeta Krajowa», 1921, nr 115, s. 2.

«Nasz Kraj» (1919), «Gazeta Krajowa» (1920–1921) і «Przegląd Wileński» (1921–1938) – працягваў адстойваць яе прынцыпы, не зважаючы на дамінаванне ў рэгіёне этнакультурнага нацыяналізму.

Першы нумар адноўленага «Przeglądu Wileńskiego» выйшаў з друку 1 лістапада 1921 г. Вільня ў гэты час была сталіцай г. зв. «Сярэдняй Літвы». Дарэчы, Л. Абрамовіч вітаў «бунт» генерала Жалігоўскага і захоп польскімі войскамі Вільні, бо ўбачыў у гэтым шанс адраджэння краёвай ідэі намаганнямі Польшчы. Тым больш што ва ўрадзе «Сярэдняй Літвы» аказаліся колішнія прыхільнікі краёвасці. У прыватнасці, яго брат Вітальд стаў міністрам унутраных спраў. Але даволі хутка Абрамовіч зразумеў, што паўсталае квазідзяржаўнае ўтварэнне было толькі прыкрыццём польскай улады над спрэчнымі з Літвой тэрыторыямі. Аднак Абрамовіч не здаваўся. Сапраўдным дэвізам адноўленай газеты сталі словы з вядомага звароту Ю. Пілсудскага да грамадзян былога Вялікага Княства Літоўскага: «Вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі».

У рэдакцыйным артыкуле № 1 Л. Абрамовіч падкрэсліў актуальнасць тых задач, якія яшчэ ў 1911 г. сфармуляваў для даваеннага «Przeglądu Wileńskiego». Тады рэдакцыя абяцала, што будзе стаяць на пазіцыі «краёвага грамадзянства», сцвярджала, што лічыць беларускія і літоўскія землі асобным Краем з адметнымі інтарэсамі, адстойвала права ўсіх карэнных народаў самастойна вырашаць свой лёс. Рэдакцыя выступала супраць усіх праяў шавінізму і нецалерантнасці.

Праз 10 гадоў Людвік Абрамовіч канстатаваў, што на змену царскаму прыгнёту прыйшоў польскі шавінізм. Сітуацыю ў «Сярэдняй Літве», дзе, на яго думку, запанаваў «рэлігійна-нацыянальны фанатызм», ён характарызаваў як здзек над ідэаламі свабоды, роўнасці і братэрства. Рэдакцыя абяцала з'яднаць людзей, якія ставілі агульныя інтарэсы Краю вышэй за эгаізм яго асобных народаў[1].

Л. Абрамовіч захаваў вернасць уласнаму разуменню краёвасці. Прычым ягоная канцэпцыя «пабудовы некалькіх нацыянальных хат» аказалася больш запатрабаванай якраз у міжваенны час. Міхал Ромэр на старонках свайго «Дзённіка» аднойчы параўнаў яго з апошнім зубрам, які перажыў масавае вынішчэнне часоў «Вялікай вайны»[2].

«Przegląd Wileński» 1920–1930-х гг. – гэта выключная з'ява ў гісторыі польскага друку міжваеннай Польшчы. Двухтыднёвік невялікага фармату стаўся сапраўднай трыбунай асуджэння польскай дзяржаўнай палітыкі нацыянальнага ціску і прыгнёту.

Пісаць пра гэта выданне і яго аўтараў складана. Апошнія звычайна хаваліся пад псеўданімамі або крыптанімамі, большасць з якіх яшчэ патрабуе сваёй

[1] b. a. [Abramowicz L.], *Reakcja* // «Przegląd Wileński». 1921, nr 1, s. 1.

[2] Römer M., *Dziennik*, t. 5, s. 593. Zapis z 25 grudnia 1928 r.

расшыфроўкі. Праблема заключалася ў тым, што пазіцыя газеты і яе рэдактара ацэньвалася ваяводскі ўладамі, а пазней таксама арцыбіскупам Рамуальдам Ялбжыкоўскім і ўсёй віленскай курыяй як антыпольская – з усімі выцякаючымі наступствамі. Патрабавалася вернасць пэўным ідэям і грамадзянская мужнасць, каб публікавацца ў выданні Л. Абрамовіча.

Паводле інфармацыі польскага даследчыка М. Вайтацкага, да сярэдзіны 1925 г. «Przegląd Wileński» пераважна быў фінансаваны вядомым адвакатам і сябрам Абрамовіча Тадэвушам Урублеўскім. Пасля яго смерці галоўнымі фундатарамі сталі сам рэдактар і выдавец, а таксама Літоўскі нацыянальны камітэт[1].

Надзея на актуалізацыю палітычнай часткі краёвага праекта знікла пасля прызнання Лігай Нацый усходніх межаў II Рэчы Паспалітай (сакавік 1923 г.). Мэтаю газеты стала аб'ектыўнае і крытычнае асвятленне найбольш вострых праблем жыцця Беларуска-Літоўскага краю, супрацьстаянне польскаму нацыяналістычнаму друку. Пры гэтым галоўным апанентам Абрамовіча стала выданне нацыянальных дэмакратаў «Dziennik Wileński» (рэд. Ян Обст, пазней Аляксандр Звяжыньскі). Гэта газета найбольш поўна адлюстроўвала пазіцыю тых палітычных груповак II Рэчы Паспалітай, што імкнуліся да пераўтварэння Польшчы ў монанацыянальную дзяржаву. Для рэдакцыі і аўтараў гэтага выдання краёвасць была выклікам і здрадай нацыянальным інтарэсам. Адпаведна, «Dziennik» рэгулярна абвінавачваў свайго «краёвага» апанента ў «антыпольскасці».

У лістападзе 1923 г., падводзячы пэўныя вынікі двухгадовага існавання, Л. Абрамовіч заявіў, што асноўнай задачай «Przeglądu» стала барацьба супраць нацыяналізму, які пераўтварае Беларуска-Літоўскі край у «даследчую пляцоўку для розных цэнтралістычна-ўніфікацыйных эксперыментаў»[2]. Ён прызнаваў існаванне таксама літоўскага і беларускага нацыяналізмаў, але сцвярджаў іх абарончы характар. Вынік двухгадовай дзейнасці ацэньваўся пазітыўна. Л. Абрамовіч адзначаў, што «Przegląd Wileński» сабраў вакол сябе групу прыхільнікаў сваёй праграмы, і выказаў надзею, што дзейнасць газеты «павінна паспрыяць выпрацоўцы краёвай праграмы (вылучана аўт.) як адзінай канцэпцыі, што можа паяднаць розныя інтарэсы і памкненні асобных краёвых нацый. У нашым глыбокім перакананні край – гэта больш старажытны твор, чым нацыя»[3].

На старонках «Przeglądu Wileńskiego» рэгулярна выступалі прадстаўнікі нацыянальных меншасцей, якія мелі ўнікальную магчымасць праз польскае

---

1 Wojtacki M., *Represje administracyjne wobec «Przeglądu Wileńskiego» Ludwika Abramowicza w latach trzydziestych XX wieku. Przyczynek do polityki prasowej obozu pomajowego* // «Zapiski Historyczne», 2016, tom LXXXI, zeszyt 3, s. 133.

2 b. a. [Abramowicz L.], *Po dwóch latach* // «Przegląd Wileński». 1923, nr 18, s. 1.

3 Тамсама, s. 2.

перыядычнае выданне пазнаёміць мясцовую грамадскасць з уласным поглядам на асаблівасці і сістэму польскай улады на Віленшчыне, на праблемы нацыянальнага жыцця міжваеннай Польшчы.

Рэдакцыя і аўтары газеты закраналі вострыя праблемы існавання беларускага і літоўскага школьніцтва, крытыкавалі палітыку каталіцкага празелітызму і пашырэнне ўжывання польскай мовы ў касцёле ў беларускіх мясцовасцях, пратэставалі супраць беспадстаўных абвінавачванняў беларускіх дабрачынных, культурніцкіх і нават рэлігійных арганізацый у вядзенні нібыта прасавецкай прапаганды, асуджалі эканамічны ціск мясцовых улад супраць беларускіх і літоўскіх гаспадарчых арганізацый, абмяркоўвалі русіфікацыйныя тэндэнцыі неауніі і г. д. Вельмі востра выданне рэагавала на праявы антысемітызму ў польскім грамадскім і палітычным жыцці.

Газета існавала ва ўмовах палітычнага ціску, нападак польскіх нацыяналістаў, адсутнасці шырокай грамадскай падтрымкі і бясконцых фінансавых клопатаў. Аднак у першыя гады існавання (1921–1925) рэдакцыя не прыцягвалася ні да адміністрацыйнай, ні да судовай адказнасці. Падобна, што краёвая ідэя ў гэты час не ўспрымалася мясцовай адміністрацыяй як палітычная пагроза, нягледзячы на прапаганду на старонках «Przeglądu» ідэі аўтаноміі земляў былога Вялікага Княства Літоўскага ў межах ІІ Рэчы Паспалітай. Магчыма, на гэта стаўленне ўплывала таксама адсутнасць шырокага кола прыхільнікаў краёвай ідэі і, адпаведна, абмежаванасць чытацкай аўдыторыі. Паводле М. Вайтацкага, на працягу ўсёй гісторыі існавання «Przeglądu Wileńskiego» наклад рэдка перавышаў 400 асобнікаў. Пры гэтым за межамі Вільні пражывала менш за палову падпісчыкаў. Каля 130 асобнікаў высылалася ў розныя рэгіёны Польшчы, а каля 40 – у Літоўскую Рэспубліку[1].

Жорсткі адміністрацыйны і судовы пераслед выдання распачаўся ў сярэдзіне 1930-х гг. у часы кіравання віленскага ваяводы Людвіка Бацянскага. Паводле М. Вайтацкага, не апошнюю ролю ў гэтым адыграў уплыў «Przeglądu» na нацыянальныя супольнасці рэгіёна. У прыватнасці, улады звярнулі ўвагу на супрацу рэдакцыі з дзеячамі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, органам якой была газета «Беларуская крыніца»[2].

Наогул беларускую праблематыку на старонках газеты прадстаўлялі Антон Луцкевіч, Альбін Стэповіч, Радаслаў Астроўскі, Францішак Грышкевіч, Станіслаў Станкевіч, Ян Пазняк, Францішак Аляхновіч, ксяндзы Уладзіслаў Талочка, Канстанцін Стэповіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Язэп Германовіч і Адам Станкевіч ды інш. Таксама пра беларусаў пісалі Людвік Абрамовіч, Канстанцыя Скірмунт і шэраг іншых аўтараў.

Найбольшую цікавасць выклікаюць публікацыі ксяндза Уладзіслава Талоч-

---

[1] Wojtacki M., *Represje administracyjne wobec «Przeglądu Wileńskiego»…*, s. 134.

[2] Ibidem, s. 141.

кі і згаданага Антона Луцкевіча як з аналізам актуальных падзей, так і з пэўнай рэтраспекцыяй. У 1920-я гг. найбольш актыўным беларускім аўтарам быў менавіта У. Талочка. На старонках выдання ён выступаў пад псеўданімамі *Adam Sołoduch, Dryhwicz, Drygwicz, P. Kantryba, Erka, Archiwista, Gardiner, Wat*[1], а таксама крыптанімамі *Wł. T., as, A. S.* У яго тэкстах звычайна закраналася праблема беларусаў-каталікоў ды іх нацыянальных праў, у т. л. права карыстацца беларускай мовай у рэлігійным жыцці; фармуляваліся галоўныя задачы беларускага каталіцкага кліра; станоўча ацэньвалася дзейнасць віленскага біскупа Юрыя Матулевіча (1918–1925), які быў праціўнікам паланізацыі Касцёла. Шмат увагі У. Талочка надаваў адраджэнню ўніяцкай царквы і пісаў пра прысутнасць супярэчлівых тэндэнцый у неауніі. Часта ў сваіх артыкулах ён прыгадваў постаці і падзеі беларускага нацыянальнага Адраджэння пачатку XX ст., пісаў пра небяспеку камуністычнай радыкалізацыі беларускага руху ў Польшчы, пра вялікае значэнне развіцця беларускай мовы і культуры, прапагандаваў краёвую ідэю ды інш.

Але напрыканцы 1920-х гг. артыкулы У. Талочкі са старонак газеты зніклі. У адным з восеньскіх нумароў 1927 г. рэдакцыя паведаміла чытачам, што віленскі арцыбіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі забараніў Талочку супрацоўнічаць з «Przeglądem Wileńskim» як з выданнем «масонскім і антыкаталіцкім»[2]. Тым не менш праблема беларускай мовы ў касцёле або справы неауніі і яе значэння для беларусаў па-ранейшаму абмяркоўваліся на старонках газеты. Аўтар большасці гэтых публікацый падпісваўся пакуль нявысветленым крыптанімам *Al. S.* Зрэшты, можна выказаць меркаванне, што гэтым аўтарам быў усё той жа Уладзіслаў Талочка, які не падпарадкаваўся забароне. Яго артыкулы пад вядомымі псеўданімамі зноў з'яўляюцца на старонках газеты пачынаючы з другой паловы 1934 г. Да апошняга нумара «Przeglądu» У. Талочка заставаўся адным з найбольш актыўных беларускіх аўтараў.

А напрыканцы 1920-х гг. У. Талочку ў пэўным сэнсе замяніў Антон Луцкевіч, публікацыі якога пачалі з'яўляцца ў газеце пад прозвішчам ці псеўданімамі *Antoni Nowina, S-wicz*[3] або крыптанімамі *A. Ł., a., H. B., A. N.*).

Магчыма, аднаўленню ранейшай супрацы паміж колішнімі калегамі і апанентамі паспрыяла святкаванне ў Вільні ў лістападзе 1929 г. 25-годдзя публіцыстычнай дзейнасці Людвіка Абрамовіча. Гэты юбілей засведчыў той высокі

---

1 Большасць псеўданімаў У. Талочкі была высветлена беларускімі даследчыкамі. Гл., напрыклад, артыкул Я. Трацяка *Уладзіслаў Талочка: штрыхі да партрэту беларускага рэлігійнага і культурнага дзеяча* («Гістарычны альманах». 2004, т. 10).

2 b. a., *Marny triumf* // «Przegląd Wileński». 1927, nr 16.

3 Прыналежнасць гэтага псеўданіма да Антона Луцкевіча ўстаноўлена дзякуючы яго лісту да Людвіка Абрамовіча ад 14 снежня 1932 г. (Аддзел рукапісаў БУЛАН. F 79, j. 38, k. 2).

аўтарытэт, які меў журналіст сярод віленскай інтэлектуальнай эліты. Апошняе датычыла нават яго ідэйных апанентаў. Калегі па прафесіі характарызавалі яго як аднаго з найлепшых польскіх публіцыстаў.

З нагоды юбілею Людвік Абрамовіч атрымаў ліст таксама ад Антона Луцкевіча. Вядомы дзеяч беларускага руху віншаваў з юбілеем публіцыстычнай працы, адзначаючы яе важнасць для Беларуска-Літоўскага краю: «Праца гэта, ведзеная пры вельмі рознародных варунках на працягу чвэрці веку, натуральна, шукала для сябе розных шляхоў, на якіх мы з Вамі, бывала, разыходзіліся. Але з праўдзівай прыемнасьцяй мушу сяньня адзначыць, што ў гэтай працы сваёй Вы – водле сваіх сіл і свайго разуменьня – верна служылі нашаму Краю, стаўляючы інтарэсы яго панад усімі варожымі яму палітычнымі камбінацыямі, незалежна ад таго, скуль яны выходзілі. Хай жа й далей пяро Вашае служыць інтарэсам гэтага многапакутнага Краю, жывое цела якога, парэзанае на кускі гранічнымі межамі, усьцяж сплыве крывёю!»[1]

Звяртае на сябе ўвагу ўжыванне аўтарам слова Край з вялікай літары. Антон Луцкевіч гэтым лістом нібыта вяртаўся ў тыя далёкія гады, калі абодва прыхільнікі краёвай ідэі верылі ў магчымасць яе сумяшчэння з нацыянальна-культурнымі інтарэсамі беларусаў і «літоўскіх палякаў».

А можа, А. Луцкевіч, таксама як Абрамовіч, ніколі і не парываў цалкам з краёвасцю? І па-ранейшаму часткай сваёй свядомасці быў звязаны з краёвай ідэяй? На гэтыя складаныя пытанні можна будзе адказаць толькі ў выніку грунтоўнага аналізу ягонай дзейнасці ў міжваенны перыяд. У якасці пэўнага абгрунтавання акрэсленай праблемы хачу заўважыць, што экспазіцыя і калекцыя прадметаў даўніны віленскага Беларускага музея імя Івана Луцкевіча, які быў створаны ягоным братам Антонам, хутчэй адлюстроўвала «краёвы погляд» на мінулае колішніх земляў Вялікага Княства Літоўскага, чым адпавядала беларускаму нацыянальнаму дыскурсу. Прынамсі, знаёмства з «музейнымі публікацыямі» А. Луцкевіча, а таксама з кнігай запісу наведвальнікаў музея (*Кніга дзеля запісу гасьцей* Беларускага Музэю ім. Івана Луцкевіча ад 01. I. 1932 году да 21. VII. 1939 году)[2] не пакідае ў гэтым сумненняў.

Антон Луцкевіч на старонках выдання краёўцаў вельмі часта звяртаўся да беларускай гісторыі і асабліва да гісторыі нацыянальнага Адраджэння, прыгадваючы яго постаці і найбольш важныя падзеі культурніцкага жыцця. Ён выкарыстоўваў «Przegląd Wileński» дзеля адпору нападкам польскіх нацыяналістаў і тлумачэння тых крыўд з боку ўрада, якія не спрыяюць памяркоўнасці беларускага палітычнага руху. Пры гэтым Луцкевіч крытычна выказваўся пра лёс беларушчыны ў СССР/БССР, руйнаваў вобраз «савецкага раю» і распавядаў пра масавыя рэпрэсіі ў Савецкай Беларусі. Іншай важнай тэмай

1 Аддзел рукапісаў БУЛАН. F 79, j. 38, k. 1. Цытата на мове арыгінала.

2 Тамсама. F 21, j. 2049.

была канфесійная сітуацыя ў Заходняй Беларусі, непрыязны стасунак іерархаў праваслаўнай і каталіцкай царквы да беларускай культуры і нацыянальнага руху, прысутнасць русіфікацыйных тэндэнцый у неауніі. Праблема краёвай ідэалогіі ў артыкулах Луцкевіча не ўздымалася, але вельмі часта героямі яго тэкстаў станавіліся прадстаўнікі «літоўскіх палякаў», якія падтрымлівалі беларускую культуру ў XIX ст. і палітычныя памкненні ў XX ст.

Варта адзначыць надзвычай грунтоўны і важны для аналізу беларускай гістарычнай памяці артыкул А. Луцкевіча «Ідэя незалежнасці ў беларускай паэзіі» (1933), прысвечаны 15-годдзю абвяшчэння БНР. Адначасна атрымаўся нарыс гісторыі фармавання ідэі беларускай незалежнасці, напісаны адным з аўтараў гэтай ідэі[1].

Апрача таго ў сярэдзіне 1930-х гг. беларускі дзеяч паспрабаваў выкарыстаць «Przegląd Wileński» дзеля палемікі з Беларускай хрысціянскай дэмакратыяй адносна шляхоў фармавання беларускай нацыі і праблемы кансалідацыі розных накірункаў беларускага руху. Выглядала гэта трохі недарэчна, але Л. Абрамовіч даў магчымасць выказацца як А. Луцкевічу, так і прадстаўнікам БХД.

Наогул, кола праблем беларускага жыцця, якое закраналася ў публікацыях згаданых дзеячаў беларускага руху, а таксама ў артыкулах, падпісаных *Gudas, Krajowec, Jadźwing, Autochton, Alboruthenus* ды інш., было надзвычай шырокім. Не будзе перабольшваннем сцвярджэнне, што беларуская праблематыка была адной з дамінуючых на старонках двухтыднёвіка.

### *Людвік Абрамовіч як даследчык мінуўшчыны*

Цікавасць Людвіка Абрамовіча да беларускай праблематыкі не абмяжоўвалася палітычнымі і нацыянальна-культурнымі працэсамі. Рэдактар Абрамовіч таксама выступаў у ролі даследчыка гісторыі. На старонках перыядычнага друку даволі часта з'яўляліся яго публікацыі, прысвечаныя важным падзеям і постацям гісторыі Краю.

Так, яшчэ ў даваенны перыяд гісторыі «Przeglądu» Л. Абрамовіч двойчы звяртаўся да праблемы уніі Польшчы і Літвы, значэнне якіх ацэньваў вельмі высока. Але ў артыкуле «Ягелонская ідэя» (1912) ён сцвярдзіў, што ў сувязі з культурна-нацыянальнымі пераменамі гэта ідэя страціла сваю актуальнасць. Пазней у палеміцы з Чэславам Янкоўскім (1914) Абрамовіч адзначыў вялікае значэнне гэтых уній не толькі для гістарычнай Літвы, але і для Польшчы, прыгадаўшы творчасць Адама Міцкевіча і чыннік узбагачэння польскай культуры элементамі культуры «літоўскай і рускай», разумеючы пад апошняй культуру Беларусі і Украіны[2].

---

[1] Antoni Nowina [А. Луцкевіч], *Idea niepodległościowa w poezji białoruskiej* // «Przegląd Wileński». 1933, nr 1, 2, 3.

[2] Sawicki J., *«Przegląd Wileński» w latach 1911–1915* (część II), s. 57.

Менавіта Абрамовіч на пачатку XX ст. на старонках «Gazety Wileńskiej» нагадаў чытачам віленскага друку пра асобу Кастуся Каліноўскага[1]. Падобна, што гэта была наогул першая публікацыя пра Каліноўскага ў легальным віленскім друку (1906). Артыкул быў прымеркаваны да 42-й гадавіны смерці К. Каліноўскага.

Л. Абрамовіч зрабіў кароткі агляд жыцця і змагання Каліноўскага. Ён пісаў пра Мастаўляны, пра Свіслацкую прагімназію, вучобу ў Маскоўскім універсітэце, падчас якой Каліноўскі пачаў займацца актыўнай грамадскай дзейнасцю, за што калегі нават называлі яго «апосталам дэмакратычна-патрыятычных поглядаў». Паводле аўтара, за чытанне і распаўсюд забароненай літаратуры Каліноўскі быў выключаны з Маскоўскага ўніверсітэта, але здолеў працягнуць навучанне ў Пецярбургу. У гэтым горадзе ён пазнаёміўся з Зыгмунтам Серакоўскім і Яраславам Дамброўскім, з расійскімі рэвалюцыянерамі, што аказала моцны ўплыў на яго погляды. Людвік Абрамовіч бачыў у Каліноўскім прыхільніка поглядаў Станіслава Ворцаля[2], Іаахіма Лялевеля[3] і Аляксандра Герцэна[4]. Як некалі Людвік Мераслаўскі[5], К. Каліноўскі, паводле віленскага аўтара, марыў пра адраджэнне Польшчы як «народнай федэратыўнай дзяржавы».

Абрамовіч адзначыў велізарную ролю Каліноўскага ў паўстанні 1863 г., ягоную папулярнасць сярод радыкальнай моладзі, прыгадаў, што расійскія ўлады называлі яго «дыктатарам Літвы». Публіцыст распавёў пра арышт Каліноўскага, мужнасць апошняга падчас следства і смяротнага пакарання. Таксама быў прыгаданы зварот да беларускага народа, у якім Каліноўскі заклікаў да барацьбы «за чалавечыя і нацыянальныя правы». Людвік Абрамовіч убачыў у дзейнасці і поглядах Каліноўскага вытокі краёвай ідэі ў яе дэмакратычным варыянце.

Варта дадаць, што фактаграфічны бок гэтай публікацыі ў 1916 г. быў выкарыстаны Вацлавам Ластоўскім у яго артыкуле «Памяці справядлівага» на

---

[1] Licz [Abramowicz L.], *Konstanty Kalinowski* // «Gazeta Wileńska». 1906, № 17, 7 (20).03.

[2] Станіслаў Ворцаль (Stanisław Worcell) (1799–1857) – польскі палітык, удзельнік паўстання 1830–1831 гг., дзеяч «Вялікай эміграцыі», прыхільнік сацыялістычных ідэй у варыянце французскіх сацыялістаў-утапістаў, сябраваў з Дж. Мадзіні.

[3] Іаахім Лялевель (Joachim Lelewel) (1786–1861) – польскі гісторык і палітык, старшыня Патрыятычнага таварыства (1830), прыхільнік радыкальных сацыяльных рэформ.

[4] Аляксандр Герцэн (1812–1870) – расійскі пісьменнік, публіцыст і філосаф, погляды якога эвалюцыянавалі ад лібералізму («лібералы-заходнікі») да сацыялізму (дактрына Анры Прудона).

[5] Людвік Мераслаўскі (Ludwik Mierosławski) (1814–1878) – польскі палітык, удзельнік паўстання 1830–1831 гг., дзеяч «Вялікай эміграцыі».

старонках беларускага «Гомана»[1]. Каліноўскі ў гэтым тэксце ўпершыню фігураваў як беларускі нацыянальны герой, дзеля чаго аўтару давялося трошкі «паправіць» змест «Лістоў з-пад шыбеніцы», надаўшы яму выразны нацыянальны характар.

У 1924 г. з нагоды 60-годдзя смерці Каліноўскага рэдактар Абрамовіч вярнуўся да постаці «дыктатара Літвы». Ён не змяніў ранейшай ацэнкі Каліноўскага як краёўца і прыхільніка шырокай дэмакратызацыі, але ўлічыў беларускія публікацыі на яго тэму. У прыватнасці, прыгадаў тэксты Івана Цвікевіча (1922) і Вацлава Ластоўскага (1919) і даволі шмат увагі надаў характарыстыцы Каліноўскага як «літоўскага сепаратыста». Праўда, у апошнім больш абапіраўся на вядомыя ўспаміны аднаго з кіраўнікоў паўстання ў Беларусі і Літве Якуба Гейштара[2].

На глебе цікавасці да мінулага гістарычнай Літвы і тых яго слядоў, якія асабліва вабілі гісторыкаў і калекцыянераў, Абрамовіч зблізіўся з славутым віленчуком Тадэвушам Урублеўскім. Апошні быў вядомым палітыкам з лагеру «краёўцаў», адвакатам і тэарэтыкам права, бібліяфілам і прызнаным знаўцам мінулага Вільні і Віленшчыны. Належаў да сяброў Літоўскага навуковага таварыства і Літоўскага таварыства прыхільнікаў навукі, падтрымліваў сувязі з дзеячамі літоўскага нацыянальнага руху. У аддзеле рукапісаў Бібліятэкі імя Урублеўскіх Літоўскай акадэміі навук захаваліся лісты Абрамовіча да Тадэвуша Урублеўскага, якія сведчаць пра агульную цікавасць да гісторыі. Таксама яны дазваляюць казаць пра сяброўскія адносіны, якія паўсталі на глебе гістарычнай зацікаўленасці.

З навуковых тэкстаў Людвіка Абрамовіча асобнай увагі заслугоўвае яго гісторыя кнігадруку ў Вільні: *Cztery wieki drukarstwa w Wilnie. Zarys historyczny (1525–1925)*[3]. Яна выйшла ў 1925 г. у друкарні «Lux», якая належала яшчэ аднаму прадстаўніку краёвай ідэі Людвіку Хаміньскаму, і мела характар юбілейнага выдання. Аднак апошняе не перашкодзіла аўтару захаваць даволі высокі навуковы характар даследавання.

Змест аўтарскай *Прадмовы* сведчыць, што гісторыя кнігадруку належала да яго зацікаўленняў. Варта адзначыць выразную самакрытычнасць даследчыка, які прызнаваўся, што не закончыў належныя архіўныя даследаванні, што ў самой Вільні амаль не захавалася выданняў XVI–XVIII стст. і ёсць праблема з іх дакладным апісаннем ды інш. Фактычна ў кнізе адлюстраваўся пэўны этап яго даследаванняў, якія Абрамовіч абяцаў працягваць. Пэўную незаконча-

---

1 Сваяк [Ластоўскі В.], *Памяці справядлівага* // «Гоман». 1916, № 1, 15.02.

2 L. A. [Abramowicz L.], *Dyktator Litwy (w sześćdziesiątą rocznice zgonu)* // «Przegląd Wileński». 1924, nr 6.

3 Abramowicz L., *Cztery wieki drukarstwa w Wilnie. Zarys historyczny (1525–1925)*. Wilno, 1925.


LUDWIK ABRAMOWICZ

CZTERY WIEKI
DRUKARSTWA
W WILNIE
1525 — 1925

WILNO — 1925

*Тытульны ліст кнігі*
*Л. Абрамовіча. 1925 г.*

насць працы ён тлумачыў імкненнем адзначыць славуты віленскі юбілей.

Даследаванне ён прысвяціў «памяці любімага брата Мар’яна і дарагога сябра Тадэвуша Урублеўскага, якім не суджана было дачакацца выдання гэтай кнігі»[1].

Трэба адзначыць, што даследаванне Людвіка Абрамовіча ў пэўным сэнсе мела наватарскі характар, бо гэта была першая спроба навуковага нарыса гісторыі кнігадруку ў Вільні. Аўтар прадэманстраваў добрае веданне навуковай літаратуры па праблеме даследавання, таксама спасылаўся на гістарычныя дакументы з Дзяржаўнага архіва ў Вільні, з рукапіснага аддзела віленскай Бібліятэкі імя Урублеўскіх, выкарыстоўваў дакументы, апублікаваныя ў зборніках актаў Віленскага магістрата і магдэбургіі, актаў Віленскага гродскага суда, Віленскіх археаграфічных зборніках і зборніках матэрыялаў па гісторыі асветы ў Расіі ды інш.

Кніга мела дваццаць невялікіх раздзелаў, якія ў храналагічнай паслядоўнасці асвятлялі гісторыю кнігадруку, багаты ілюстрацыйны матэрыял, дакументальныя дадаткі, больш за дзесяць старонак каментароў і спасылак, бібліяграфію, спіс крыніц і імянны паказальнік. Заўважная самастойнасць аўтарскага падыходу, важным элементам якога была крытычнасць у дачыненні да многіх тэзісаў папярэднікаў, імкненне ўлічваць гістарычны кантэкст, не толькі адказваць на пытанні, але таксама ставіць іх, тым самым намацваючы новыя накірункі даследаванняў.

У якасці прыкладу хачу спыніцца на асвятленні пачаткаў віленскага кнігадруку, звязаных з постаццю Францыска Скарыны. Л. Абрамовіч пісаў пра шчаслівы гістарычны выпадак для Вільні, якая ў пэўны момант прытуліла першадрукара з Полацка, вядомага пражскімі выданнямі Бібліі па-беларуску[2]. Паводле аўтара, Вільня ў тыя часы больш нагадвала ваенную крэпасць, чым цэнтр духоўнага жыцця, і не мела шчыльных культурных адносін з Прагай.

[1] Тамсама, s. 5.

[2] Тамсама, s. 14.

Пэўныя асабістыя абставіны абумовілі пераезд Скарыны ў Вільню і з'яўленне тут друкарні, у якой выйшлі славуты Апостол (1525) і Малая подорожная книжица (каля 1522 г.)[1].

Абрамовіч параўнаў пражскія і віленскія выданні Скарыны і сцвердзіў больш высокую якасць апошніх. Таксама на падставе зместу ўступных тэкстаў Скарыны ён выказваў упэўненасць, што, у адрозненне ад Прагі, дзе той меў каманду памочнікаў, у Вільні Скарына сам выступіў у ролі друкара[2].

Пакідаючы Вільню, Францішак Скарына не пакінуў тут ні вучняў, ні пераемнікаў друкарскай справы. Апошняе, на думку Абрамовіча, сведчыла, што для Скарыны кнігадрук не з'яўляўся галоўнай справай жыцця. Малалікасць дакументальных згадак пра Скарыну ў вядомых зборах гістарычных дакументаў даследчык тлумачыў тым, што большасць віленчукоў папросту не зразумелі веліч зробленага Скарынам[3].

Паводле Л. Абрамовіча, кнігадрук стаў для Вільні арганічнай справай толькі праз 50 гадоў, калі ў Вільні дзейнічалі друкарні братоў Лукаша і Кузьмы Мамонічаў, Радзівілаў, Даніэля Лэнчыцкага, Яна і Юзафа Карцанаў, Віленскай акадэміі.

Таксама вартая ўвагі высокая аўтарская ацэнка дзейнасці друкарні Юзафа Завадскага, якая паўстала ў першыя гады XIX ст. і дзейнічала ў Вільні да 1920 г., калі апошні ўладальнік перавёз яе ў Быдгашч. Абрамовіч пісаў, што друкарня Завадскага была вядомая далёка за межамі гістарычнай Літвы. Паводле даследчыка, Вільня ў першыя дзесяцігоддзі XIX ст. стала адной са сталіц (разам з Кракавам) польскага культурнага жыцця дзякуючы не толькі мясцоваму ўніверсітэту, але таксама дзейнасці Юзафа Завадскага, якую пасля яго смерці працягвалі нашчадкі[4].

У апошніх раздзелах кнігі згадваецца таксама друкарня Марціна Кухты, у якой выкарыстоўваліся польскія, беларускія, літоўскія і расійскія шрыфты. Даследчык нагадаў, што менавіта ў ёй друкаваліся беларускія газеты «Наша Ніва» (1906–1915) і «Гоман» (1916–1918), а таксама кнігі на беларускай мове. У якасці прыкладу ён размясціў фотаздымак тытульнага аркуша «Кароткай гісторыі Беларусі» (1910) В. Ластоўскага[5].

---

1 Л. Абрамовіч услед за вядомым расійскім даследчыкам П. Уладзіміравым (*Доктор Франциск Скорина: его переводы, печатные издания и язык: исследование П. В. Владимирова*. СПб, 1888) лічыў, што першым віленскім выданнем Скарыны быў «Апостал» (с. 17).

2 Abramowicz L., *Cztery wieki drukarstwa w Wilnie. Zarys historyczny (1525–1925)*, s. 17.

3 Тамсама, s. 18. (Сучасныя даследаванні паказваюць, што насамрэч віленскія архівы захавалі даволі шмат дакументальных згадак пра друкара – *заўвага аўт.*).

4 Тамсама, s. 91.

5 Тамсама, s. 122.

Магчыма, многія тэзісы гісторыка Людвіка Абрамовіча выклікаюць крытыку з боку сучасных даследчыкаў, але можна сцвердзіць, што ў 1925 г. яны заслугоўвалі ўвагі прафесійных гісторыкаў культуры.

Пасля нацыяналізацыі Бібліятэкі імя Урублеўскіх у 1926 г. Людвік Абрамовіч стаў адным з кіраўнікоў Таварыства дапамогі бібліятэцы і ініцыяваў стварэнне ў яе будынку Віленскага музея іканаграфіі. Таксама ён перадаў у фонд бібліятэкі ўласныя зборы, якія складаліся з гістарычных дакументаў, матэрыялаў перыядычнага друку, рэдкіх выданняў віленскіх друкарань, а таксама незакончанага рукапісу даследавання бібліяграфіі Вялікага Княства Літоўскага. Важнай часткай калекцыі Л. Абрамовіча быў архіў «Przeglądu Wileńskiego»[1].

## *У абароне краёвай ідэі*

Вяртаючыся да «Przęglądu Wileńskiego», яшчэ раз прыгадаю, што найважнейшым накірункам дзейнасці газеты была прапаганда краёвасці. Краёвая ідэя выступала як найбольш рэальная альтэрнатыва нацыяналізму: «Нацыяналізм, рост якога сёння дасягнуў свайго кульмінацыйнага пункту, асляпіў людзей і засланіў перспектывы будучыні. Але для кожнага, хто не паддаўся гвалтоўна ўзнятай хвалі нацыяналістычных памкненняў і не аказаўся ў палоне ўзбуджальнай музыкі шавіністычных джаз-бандаў, відавочна, што наступіць час цвярозасці, і сучасны стан, які можна ахарактарызаваць як *bellum omnium contra omnes*[2], не будзе вечным. Калісьці наступіць дзень трыумфу краёвай ідэі, адзінай, якая можа разблытаць клубок супярэчнасцей і антаганізмаў, што стаў вынікам канфлікту нацыянальных эгаізмаў. [...]

Нягледзячы на штучныя межы, якія перарэзалі наш край, Літва і Беларусь не перасталі быць адзіным арганізмам, разарваныя часткі якога імкнуцца да ўз'яднання. Ніводная з іх не з'яўляецца настолькі моцнай, каб прыцягнуць да сябе іншыя. Але аб'яднацца і стварыць адзінства ў новых умовах імкнуцца – магчыма несвядома – ўсе. Дзеля гэтага яны гатовы пераадолець усе перашкоды. Ці не з'яўляецца красамоўным фактам, што як Літва, так і Беларусь выступаюць пад тым самым знакам – знакам Пагоні?»[3]

У адрозненне ад даваенных часоў, калі прапаганда краёвасці суправаджалася дыскусіямі ў асяродку краёўцаў і прадстаўнікоў польскага, літоўскага і беларускага рухаў, якія шукалі аптымальны варыянт краёвай ідэі і імкнуліся

---

[1] Miknys R., *Spuścizna Ludwika Abramowicza, Heleny Romer-Ochenkowskiej i Michała Römera w Bibliotece Akademii Nauk Litwy jako źródło do dziejów byłego Wielkiego Księstwa Litewskiego i wschodnich obszarów Korony* // «Białostoczyzna». 1994, nr 4, s. 41–45.

[2] Вайна ўсіх супраць усіх (łac.)

[3] b. a. [Abramowicz L.], *In hoc signo vinces!* // «Przegląd Wileński». 1925, nr 13, 16.08, s. 2.

да ўзгаднення краёвасці з інтарэсамі асобных нацый, у 1920–1930-я гг. галоўнымі апанентамі краёвай канцэпцыі «Przeglądu» сталі публіцысты віленскага «Słowa» і «Kuriera Wileńskiego».

«Słowa» было заснавана ў 1922 г. Рэдактар Станіслаў Мацкевіч ператварыў яго ў сапраўднае апірышча кансерватыўнай думкі, якая таксама мела своеасаблівую «краёвую форму». «Kurier Wileński» (1923–1940) адлюстроўваў настроі дэмакратычных колаў польскай грамадскасці Вільні. Рэдактар Казімір Акуліч (1923–1937) таксама належаў да прыхільнікаў краёвасці. У студзені 1928 г. на старонках газеты быў апублікаваны канцэптуальны артыкул «Ідэя краёвасці». Аўтар (псеўданім *lit.*) разумеў краёвасць як тэрытарыяльную аўтаномію Беларуска-Літоўскага краю ў межах Польскай дзяржавы. Нават гаворачы пра ідэю аднаўлення былога Вялікага Княства Літоўскага, ён не бачыў яго будучыні інакш, як у федэрацыі з Польшчай[1]. Фактычна гэта была тая «краёвасць», адносна якой М. Ромэр аднойчы заўважыў, што некаторыя кажуць «краёвасць», а думаюць – «крэсы Найяснейшай Рэчы Паспалітай»[2].

Канец 1920-х гг. стаўся часам яднання вакол «Przeglądu» людзей, перакананых у тым, што выпрацоўка «краёвай праграмы» можа паспрыяць заканчэнню міжнацыянальных канфліктаў і дасягненню згоды паміж народамі Краю. Для Л. Абрамовіча і ягоных прыхільнікаў канчатковай мэтай было дасягненне палітычнай самастойнасці Краю ў той або іншай форме і вызначэнне яго лёсу прадстаўнікамі ўсіх карэнных народаў. Апошняе прадугледжвала няспыннае змаганне з радыкальным нацыяналізмам. Людвік Абрамовіч лічыў сваім абавязкам «абвяржэнне варварскага прынцыпу, што нацыя з'яўляецца найвышэйшай каштоўнасцю, бо нацыяналізм, які вырастае з гэтай ідэі, апраўдвае кожны гвалт і крыўду»[3].

У 1928 год газета ўступіла як уласнасць суполкі акцыянераў. Рэдактарам застаўся Людвік Абрамовіч, а ў выдавецкі камітэт увайшлі Ян Крыўка, д-р Вітальд Легейка, д-р Вітальд Славіньскі, Эўсебіюш Лапаціньскі, Канстанцыя Скірмунт і Віктар Талочка[4]. Абрамовіч вельмі спадзяваўся, што гэта суполка стане пачаткам стварэння вялікага лагера прыхільнікаў краёвасці. Насамрэч кола прыхільнікаў краёвай ідэі заўсёды заставалася невялікім. Пераважная большасць мясцовай польскай грамадскасці ўспрымала Віленшчыну як інтэгральную частку Польскай дзяржавы. Аднак, дзякуючы публікацыям «Przeglądu Wileńskiego», краёвая ідэя не раз станавілася прадметам ажыўленых грамадскіх дыскусій.

---

1 lit, *Idea krajowości* // «Kurier Wileński». 1928, nr 10–12, 17.

2 Nekanda-Trepka M., *Ludwik Abramowicz-Niepokójczycki…,* s. 53.

3 b. a. [Abramowicz L.], *Bez skrupułów* // «Przegląd Wileński». 1927, nr 1. 16.01, s. 2.

4 Nekanda-Trepka M., Ludwik Abramowicz-Niepokójczycki…, s. 55.

Людвіку Абрамовічу неаднаразова даводзілася тлумачыць сэнс краёвасці, і не толькі ў палеміцы з аўтарамі «Słowa». Увесну 1927 г. «Przegląd» апублікаваў важны артыкул кс. Уладзіслава Талочкі (*Dryhwicz*) пра сутнасць краёвай ідэі[1]. Яго змест дазваляе казаць пра пэўныя асаблівасці беларускага разумення гэтага ідэалагічнага феномена ў міжваенны час.

Артыкул быў прысвечаны адносінам паміж польскімі дэмакратамі, якіх аўтар называў «краёўцамі», і беларускім рухам. Галоўным крытэрыем краёвасці абвяшчалася прыхільнасць да беларускага Адраджэння, відавочная ў даваенны перыяд і згінуўшая пасля ўзнікнення Польскай дзяржавы. Як адзначаў У. Талочка, сучасная нацыянальная сітуацыя, адказнасць за якую нясе не толькі «цэнтр», але і «тутэйшыя палякі», дае падставы праціўнікам польска-беларускага паразумення сцвярджаць, што ўся былая «польская прыхільнасць» – гэта падман. Насамрэч беларусы былі патрэбны палякам толькі дзеля барацьбы супраць Расійскай імперыі.

У. Талочка ахарактарызаваў адносіны палякаў да беларусаў як адносіны «добрага пана» да мужыка. Між тым беларускі рух «з'яўляецца рухам усёй нацыі, адпаведна прызнаваць і падтрымліваць яго трэба да заканчэння змагання»[2]. Ролі апекуна ўжо недастаткова. Аўтар сцвярджаў, што краёвасць як міжнацыянальная згода дасягальная і магчымая, але яна «павінна абапірацца на сучаснае разуменне роўнасці правоў, узаемапавагу»[3].

Відавочна, што беларускі аўтар разумеў краёвасць як пэўны нацыянальны і міжнацыянальны феномен. Магчыма, ён, як і большасць беларускіх дзеячаў, ужо не мог мысліць іншымі катэгорыямі. Рэдактар Абрамовіч запярэчыў. Паводле яго разумення, «краёвасць не звязана з нацыянальнасцю. Краёўцам можа быць як тутэйшы паляк, так і літовец, беларус, нават габрэй, калі разумее і адчувае дзяржаўнасць традыцый ВКЛ. І наадварот. Ніхто не будзе краёўцам, калі інтарэс сваёй нацыі будзе ставіць вышэй за агульны краёвы інтарэс. [...] Краёвая канцэпцыя – гэта канцэпцыя тэрытарыяльная, а не нацыянальная»[4].

Феномен краёвасці тлумачыўся Л. Абрамовічам у артыкулах *In hoc signo vinces!* (1925, nr 13), *Progres* (1925, nr 21), *Krajowość i regionalizm* (1926, nr 11), *Demokratyzm i nacjonalizm* (1931, nr 6–7). У сакавіку 1936 г. ён жа апублікаваў артыкул з нагоды 30-годдзя публічнага з'яўлення краёвай ідэі. Л. Абрамовіч звяртаўся да яе вытокаў, а менавіта да «Gazety Wileńskiej» (1906), і вельмі высока ацэньваў ролю Міхала Ромэра. Паводле меркавання рэдактара «Przeglądu», якраз на старонках першага «краёвага» выдання былі сфарму-

---

[1] Drychwicz [Tołłoczko W.], *O krajowości* // «Przegląd Wileński». 1927, nr 9, s. 2–3.

[2] Тамсама, s. 3.

[3] Тамсама.

[4] b. a. *Przypis redakcyjny* // «Przegląd Wileński». 1927, nr 9, s. 3.

ляваны асноўныя прынцыпы краёвасці, а менавіта адметнасць і самастойнасць Беларуска-Літоўскіх земляў і роўнасць усіх народаў Краю[1]. Характарызуючы ўнёсак «Przeglądu Wileńskiego», Людвік Абрамовіч адзначыў, што краёвая пазіцыя даваеннага выдання не ўлічвала «гістарычнага кампанента», а спрабавала развіваць краёвасць выключна «з пазіцыі адарванай ад жыцця дэмакратычнай дактрыны». Пасляваенны «Przegląd» выправіў гэтую памылку, знаходзячы вытокі краёвасці ў гісторыі. Асаблівае значэнне для фармавання гэтай канцэпцыі мела гісторыя Вялікага Княства Літоўскага, «пачуццё дзяржаўнай еднасці заўсёды перамагала цэнтрабежныя тэндэнцыі і ўнутраныя антаганізмы»[2].

Пра значэнне гістарычнай спадчыны былога ВКЛ Л. Абрамовіч таксама прыгадаў у некралозе на смерць Канстанцыі Скірмунт[3]. Ён адзначыў, што яе творчы шлях пачынаўся з кніг па гісторыі Літвы[4] і атрымаў свой працяг у публіцыстыцы[5], дзе яна горача бараніла ідэю краёвасці. Рэдактар не ўстрымаўся ад крытыкі і заўважыў, што публіцыстыка *Futurus* часамі была далёкай ад рэчаіснасці і не заўсёды знаходзіла чытача, аднак прызнаў, што Канстанцыя Скірмунт да апошняга бараніла традыцыі Вялікай Літвы і імкнулася да яе адраджэння «з апірышчам на Польшчу, заходнюю культуру і каталіцызм».

1930-я гг. былі асабліва цяжкімі для газеты. Колькасць падпісчыкаў скарачалася, абвастрылася фінансавая праблема. У снежні 1931 г. Людвік Абрамовіч быў вымушаны перавесці рэдакцыю ва ўласную кватэру на вул. Серакоўскага, 21/6.

Як ужо адзначалася, у другой палове 1930-х гг., калі пасаду віленскага ваяводы займаў актыўны праваднік асіміляцыйнай палітыкі Людвік Бацянскі, выданне Л. Абрамовіча аказалася пад моцным цэнзурным ціскам. Паводле меркавання Марыі Неканда-Трэпкі, у апошнія гады існавання газеты кожны другі яе нумар па віне цэнзуры не трапляў да чытача. Яна сцвярджала, што Л. Абрамовіч звяртаўся ў суд і звычайна выйграваў працэс[6]. Аднак даследаванне М. Вайтацкага пераканаўча сведчыць, што гэта не так. Амаль заўсёды

---

1 Тамсама. 1936, nr 5.

2 b. a. [Abramowicz L.], *Trzydziestolecie ideologii krajowej* // «Przegląd Wileński». 1936, nr 5, s. 2.

3 L. A. [Abramowicz L.], Ś. p. Kontancja Skirmuntt // «Przegląd Wileński. 1934, nr 2, 31.01

4 Гл., напр.: *Nad Niemnem i Bałtykiem w zaraniu dziejów*, t. 1–3. Warszawa, 1897–1909.

5 Гл., напр.: Futurus [Skirmuntt K.], *Kartki polityczne ze spraw krajowych poruszonych w prasie wiléńskiej 1905–7 r: przedruki z «Kurjena litewskiego» i «Vilniaus źinios»*. Warszawa, 1907.

6 M. Nekanda-Trepka M. *Ludwik Abramowicz-Niepokójczycki...*, s. 55.

суд падтрымліваў рашэнне адміністрацыі пра канфіскацыю газетнага нумара. Гісторык падлічыў, што за апошнія тры гады існавання «Przeglądu» (1936–1938) яго чытачы атрымалі толькі 23 нумары газеты[1]. Рэпрэсіі істотна пагоршылі фінансавую сітуацыю. Іншым важным чыннікам стаў стан здароўя рэдактара.

У кастрычніку 1938 г. з прычыны хваробы рэдактара «Przegląd Wileński» спыніў сваё існаванне. Яго закрыццё выклікала моцны розгалас. Шкадавалі нават тыя, хто змагаўся з ідэямі Л. Абрамовіча. Так, Станіслаў Мацкевіч параўнаў закрыццё «Przeglądu» з пахаваннем усіх «тутэйшых людзей»[2].

Людвіка Абрамовіча не стала ў сакавіку 1939 г. Вясна таго года была трывожнай, у паветры вітаў дух вайны, але смерць былога рэдактара «Przeglądu Wileńskiego» не аказалася незаўважанай. Найбольш папулярныя віленскія газеты адгукнуліся на яе некралогамі. На старонках «Kuriera Wileńskiego» Л. Абрамовіч характарызаваўся як чалавек, які не ішоў на кампрамісы, не прымаў ніякага «жыццёвага апартунізму», да апошніх хвілін жыцця змагаўся за краёвую ідэю[3].



*Магіла Людвіка Абрамовіча на віленскіх Росах. 2020 г.*

Міхал Ромэр на старонках свайго дзённіка ў дзень смерці Абрамовіча запісаў: «Гэта быў публіцыст незвычайнага таленту, ён меў выдатнае і вострае пяро. Да канца – *usque ad finem*[4] – заставаўся верным г. зв. краёвасці, якая абапіралася на ідэю дзяржаўнасці Вялікай Літвы, што аб'яднала землі этнаграфічнай Літвы і Літоўскай Русі са сталіцай у Вільні. Меў мужнасць супрацьставіцца польскаму нацыяналізму і польскай дзяржаўнасці на гістарычных літоўскіх землях. Для яго гэта было тым больш складана, бо быў палякам. Але перш за ўсё быў віленчуком і сынам Літвы, а не ўласна Польшчы. Людвік Абрамовіч меў

[1] Wojtacki M., *Represje administracyjne wobec «Przeglądu Wileńskiego»…*, s. 143.

[2] Тамсама, s. 55.

[3] «Kurier Wileński». 1939, nr 69.

[4] *do końca* (łac.)

тэмперамент, і адзінота ўласнай ідэйнай пазіцыі і непапулярнасць прамоўленых палітычных меркаванняў яго не палохалі і не схілялі да адступлення, яны хутчэй дадавалі энергіі і ўзмацнялі супрацію. Ён ішоў па жыцці, не адрываючы вачэй ад зоркі сваёй ідэі»[1].

Праз год пасля смерці постаць Людвіка Абрамовіча і яго погляды аказаліся вельмі запатрабаванымі польскай грамадскасцю Вільні. У вялікай ступені гэта цікавасць была выклікана не столькі данінай памяці Л. Абрамовічу, колькі новай палітычнай сітуацыяй. Вяртанне Вільні ролі сталіцы Літоўскай Рэспублікі актуалізавала краёвую ідэю для мясцовай польскай грамадскасці.

10 сакавіка 1940 г. у Віленскай публічнай бібліятэцы адбылася ўрачыстая «акадэмія» з нагоды ўгодкаў смерці аднаго з галоўных ідэолагаў краёвай ідэі – Людвіка Абрамовіча. У прысутнасці віцэ-прэм'ера літоўскага ўрада Бізаўскаса выступілі прадстаўнікі амаль усіх народаў Беларуска-Літоўскага краю.

У гэты ж самы дзень віленская «Gazeta Codzienna» (рэд. С. Мацкевіч), якая была адзінай польскай газетай у Літве, прадставіла магчымасць вядомым публіцыстам прыгадаць постаць Л. Абрамовіча і выказацца наконт яго ідэйнай спадчыны. Газета апублікавала меркаванні Міхала Ромэра, Зыгмунта Юндзіла, Вацлава Гізберт-Студніцкага, Юзафа Мацкевіча і дачкі Л. Абрамовіча доктара філалогіі Універсітэта Стэфана Баторыя Зоф'і Абрамавічуўны.

Адам Станкевіч, які асабіста добра ведаў Л. Абрамовіча, наступным чынам ахарактарызаваў сутнасць краёвай канцэпцыі апошняга: «Літоўскія і беларускія землі, а часткова і ўкраінскія, граніцы якіх больш-менш пакрываюцца з паняццем быўшага Вялікага Княства Літоўскага, гэта прад усім геапалітычная і гістарычна-культурная адзінка-цэласць, на аснове якой і ў рамках якой можа правільна развівацца ўсё жыццё ўсіх гэтых зямель [і] народаў аўтахтонаў. Краёвасць, такім чынам, гэта першы і галоўны крытэрый грамадскіх, культурных і нацыянальных правоў народаў усяго гэтага краю»[2]. Прызнаўшы дамінаванне сярод народаў гістарычнай Літвы «нацыянальнага прынцыпу», Адам Станкевіч прызнаў «вялікае значэнне і глыбокі сэнс» краёвай ідэі і выказаў спадзяванне, што яна яшчэ адыграе «вялікую гістарычную ролю».

На старонках «Gazety Codziennej» аднымі з найбольш цікавых былі разважанні дачкі Людвіка Абрамовіча Зофіі. Яна заўважыла, што для кола прыхільнікаў пазіцый «Kuriera Wileńskiego» і «Słowa» краёвасць была толькі метадам або сродкам дамінавання польскай нацыі. Затое для «Przeglądu» яна заставалася мэтаю.

Вось як, паводле дачкі, выглядала пазіцыя бацькі: «Ніводны нацыяналіст [...] не можа пагадзіцца з краёвасцю, бо яна патрабуе, каб нацыяналь-

---

[1] M. Römer, *Dzienniki*, t. 6, s. 25–26. Zapis z dnia 10 marca 1939 r.

[2] *Non omnis moriar (Pramova Ks. Adama Stankieviča na akademii ŭ pieršyja ŭhodki śmierci L. Abramoviča. 10. III. 1940 h. u Vilni)* // «Krynica». 1940, nr 21.

ныя ідэі, якія па сваёй прыродзе зыходзяць з выключнасці, падпарадкоўваліся краёвай ідэі, якая супярэчыць выключнасці і з'яўляецца ўвасабленнем супольнасці. Адпаведна, яна непатрэбная ў нацыянальна аднароднай дзяржаве і неабходная ў дзяржаве шматнацыянальнай, якой у будучыні і павінна стаць былое Вялікае Княства Літоўскае, дзе ўсе тры нацыі будуць адчуваць сябе як у родным доме і карыстацца поўнай роўнасцю правоў на ўзор Бельгіі або Швейцарыі. Сталіцай такой дзяржавы павінна стаць Вільня, якая, нарэшце, адмовіцца ад ролі пешкі, лёс якой вырашае нехта чужы адпаведна сваім нацыяналістычным пастулатам.

Усе бескампрамісныя памкненні да палітычнай і культурнай гегемоніі, ці палякаў, ці літоўцаў, ці беларусаў, непазбежна разбіваюць гэта адзінства, бо ў выніку імкнуцца спіхнуць іншыя нацыі да ролі «меншасці», якой будуць [...] дазваляць тое або іншае. Прычым, прынцыпова не істотна больш ці менш ліберальным будзе панаванне большасці, бо цалкам зруйнуецца ўнікальны характар гэтай дзяржаўнасці, якога патрабуюць нашы землі па прычыне этнічнай і культурнай разнастайнасці»[1].

Зофія Абрамавічуўна не бачыла шансаў для краёвай ідэі ў бліжэйшай перспектыве: «Краёвая ідэя яшчэ доўга застанецца непапулярнай, як кожная ідэя, што імкнецца прыцішыць нацыянальны эгаізм і адмовіцца ад канкрэтных і ілюзорных прывілеяў дзеля інтарэсаў усёй супольнасці». У новай геапалітычнай сітуацыі краёўцы, на яе думку, павінны быць у апазіцыі, бо канцэпцыя Вільні як сталіцы нацыянальнай дзяржавы для іх непрымальная. Праўда, яна не выключала, што сітуацыя можа змяніцца, калі самі літоўцы зразумеюць, што герб «Пагоня» нятоесны літоўскаму нацыянальнаму сімвалу, што вяртанне Вільні ролі сталіцы прымушае пераглядзець пэўныя асновы літоўскай дзяржаўнасці і г. д.

А вось Міхал Ромэр падобную надзею звязваў з віленскімі краёўцамі і літоўскай дзяржавай. Ён падкрэсліў, што краёвая ідэалогія супрацьстаяла дактрыне «крэсаў» і пашырала канцэпцыю Літвы як Краю, які мае ўласную палітычную адметнасць. На яго думку, тагачасная літоўская дзяржаўнасць якраз і з'яўлялася найбольш поўным увасабленнем гэтай адметнасці: «Няма іншай Літвы апрача Літвы». Паводле М. Ромэра, краёвасць атрымае шанс толькі ў тым выпадку, калі віленскія краёўцы «пачуюць слова жывой літоўскай зямлі» і будуць працаваць на дзяржаўнасць Літвы[2].

Міхалу Ромэру запярэчыў супрацоўнік «Słowa» пісьменнік і публіцыст Юзаф Мацкевіч (1902–1985), які адзначыў, што ідэалам Л. Абрамовіча была Літва ў іншых межах з нацыянальна неаднародным насельніцтвам, з іншай палітычнай «фізіяноміяй», «унутраная і знешняя канструкцыя» якой адпа-

[1] Abramowiczówna Z., *Kilką słów o idee krajowej* // «Gazeta Codzienna». 1940, nr 56, s. 4.

[2] Römer M., *Niema Ludwika Abramowicza* // «Gazeta Codzienna». 1940, nr 56, s. 3.

вядала б іншым канцэпцыям дзяржаўнасці[1]. Ю. Мацкевіч выказаў сумненні, што літоўская дзяржаўнасць адпавядае ідэалу Людвіка Абрамовіча.

Відавочна, што ў міжваенны час краёвая ідэя была пэўнай ідэалагічнай рэакцыяй як ліберальна-дэмакратычных, так і кансерватыўных колаў польскай грамадскасці Віленшчыны на жорсткую асіміляцыйную і ўніфікацыйную палітыку цэнтральных і мясцовых улад II Рэчы Паспалітай. Людвік Абрамовіч паслядоўна адстойваў ідэю палітычнай самастойнасці Беларуска-Літоўскага краю і вызначэння яго лёсу прадстаўнікамі карэнных народаў. Такая пазіцыя выклікала абвінавачанні ў «нацыянальнай здрадзе» з боку мясцовай адміністрацыі, каталіцкага духавенства і большасці мясцовай польскай грамадскасці.

Жыццё і дзейнасць Людвіка Абрамовіча сведчыць, што насуперак усім палітычным і нацыянальна-культурным рэаліям краёвая ідэя як ідэя гарманічнага сужыцця народаў гістарычнай Літвы захоўвала сваю прывабнасць і знаходзіла прыхільнікаў. Яны з гонарам называлі сябе «грамадзянамі Вялікага Княства Літоўскага». Праўда, вельмі часта да гэтага тытулу дадаваўся прыметнік «апошні». Постаць Людвіка Абрамовіча апынулася ў шэрагу незаслужана забытых «грамадзян Краю». Насамрэч такія людзі былі і заўсёды будуць сапраўднай элітай і гонарам Беларуска-Літоўскай зямлі.

[1] Тамсама.

ISSN 2424-5216

# CASE STUDY

## «БЫЦЬ КАНФІДЭНТАМ»: ШТОДЗЁННАЕ ЖЫЦЦЕ ІНФАРМАТАРА ПОЛЬСКАЙ СЛУЖБЫ БЯСПЕКІ Ў ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНІХ ВАЯВОДСТВАХ II РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (1921–1939)

***Андрэй Чарнякевіч,***
*канд. гіст. навук (Варшава)*

***Summary***

*The study of the activities of police agents who during the interwar period collaborated with state authorities in the territory of the north-eastern Poland is usually limited to the content of their own reports and verification of the facts provided by them. Most often, the historian has a relationship with an indirect image of reality, which bears a very significant subjective imprint. Even more often, this image became the source of specific political decisions for the authorities, which accumulated the collected information. In fact, the «knowledge» accumulated in this way was power.*

*However, the question remains, who were the actual informant agents, on whose reports the effectiveness of the functioning of the entire state security system largely depended?*

*The case of Helena Luzhyts, the head of the club in the village of Dubichi in the Lida district, allows us to trace the biographies of a person who played the role of a police informant and record the moment of transformation of a social marginal – «informer» – in a civil servant, even at the lowest level. This case not only clearly illustrates the peculiarities of the activities of an agent of the Polish security services in ethnically non-Polish territories. Thanks to it, we can take a closer look at the very figure of the agent, usually invisible to the researcher.*

*In addition, her figure also reflects the moment of «deconstruction» by the Soviet security agencies at the beginning of the Second World War of the grass-roots structures of the previous system of power through the search and arrest of former Polish informants-agents. It is noteworthy that the*

*NKVD actively used the services of its own agents, thereby creating a new system of control and terror. The official archives of the police and gendarmerie, which the new government tried to seize in the first place, played a particularly important role in this. Among them was the case of Helena Luzhits.*

Вывучэнне дзейнасці інфарматараў, якія ў міжваенны перыяд супрацоўнічалі з дзяржаўнымі органамі на абшары паўночна-ўсходніх ваяводстваў Польшчы, звычайна абмяжоўваецца зместам іх уласных данясенняў і верыфікацыяй пададзеных там фактаў. Часцей за ўсё гісторык мае справу з апасрэдаваным вобразам рэчаіснасці, які нясе на сабе суб'ектыўны адбітак. Яшчэ часцей менавіта гэты вобраз быў падставай канкрэтных палітычных рашэнняў той улады, якая акумулявала сабраную інфармацыю. Фактычна, назапашаная гэтым чынам «веда» і была ўладай.

Аднак застаецца пытанне: уласна кім з'яўляліся інфарматары-канфідэнты, ад спраўнасці якіх у значнай ступені залежала эфектыўнасць функцыянавання ўсёй дзяржаўнай сістэмы бяспекі?

Выпадак Алены Лужыс (Heleny Łużys), кіраўнічкі «святліцы» ў весцы Дубічы Лідскага пав. дазваляе нам прасачыць большую частку біяграфіі асобы, якая выконвала ролю інфарматара паліцыі, і зафіксаваць момант пераўтварэння сацыяльнага маргінала – «даносчыка» – у дзяржаўнага служачага, няхай і самага нізкага ўзроўню. Гэты выпадак не толькі выразна ілюструе асаблівасці дзейнасці канфідэнта польскіх службаў бяспекі на этнічна няпольскіх тэрыторыях. Дзякуючы яму, мы можам бліжэй прыглядзецца да самой постаці агента, звычайна недасяжнай для даследчыка.

Акрамя таго, яе постаць адлюстроўвае і момант «дэканструкцыі» савецкімі органамі бяспекі на пачатку Другой сусветнай вайны нізавых структур папярэдняй сістэмы ўлады праз пошук ды арышт былых польскіх інфарматараў-канфідэнтаў. Характэрна, што пры гэтым НКУС актыўна карыстаўся паслугамі сваіх уласных агентаў, тым самым ствараючы новую сістэму кантролю і тэрору. Асабліва важную ролю ў гэтым адыгралі службовыя архівы паліцыі і жандармерыі, якія новая ўлада пастаралася захапіць у першую чаргу. Сярод іх была і справа Алены Лужыс.

4 студзеня 1935 г. Алена Лужыс (Helena Łużys), кіраўнічка «святліцы» ў вёсцы Дубічы[1] Лідскага пав. звярнулася з лістом да навагрудскага ваяводы, у якім прасіла прадставіць ёй іншае месца працы са сталым заробкам у адной з мясцовых гмін. Пры гэтым сваю прыватную просьбу жанчына патлумачыла «патрэбамі дзяржаўных інтарэсаў». Дастаткова нетыповая, на першы погляд, сітуацыя тлумачылася тым, што А. Лужыс з'яўлялася дэканспіраванай паліцэйскай інфарматаркай, а яе ліст быў элементам складанага асабістага канфлікту.

1 Сёння вёска Дубічай у Варэнскім раёне Літвы.

Алена Лужыс, верагодна, нарадзілася 15 лютага 1908 г. у вёсцы Малюкі[1] Лідскага ўезда (у іншых дакументах месцам нараджэння пазначана вёска Валюкі каля Вільні). Яна паходзіла з літоўскай сям'і. І сувязь з уласнай нацыянальнай супольнасцю парадаксальным чынам паўплывала на яе далейшы лёс. Справа ў тым, што, скончыўшы шэсць класаў літоўскай гімназіі імя Вітаўта Вялікага ў Вільні, А. Лужыс была накіравана літоўскім Таварыствам Св. Казіміра на працу настаўніцай у вёску Вежанцы паблізу мяст. Эйшышкі, дзе ў 1932 г. яна далучылася да літоўскай канспірацыйнай дзейнасці. Дзяўчына выконвала ролю кур'ера паміж уласным братам Аляксандрам і аднавяскоўцам Юзафам БакаGоўскім, якія падчас службы ў польскім войску пагадзіўся збіраць патрэбныя звесткі для літоўскай выведкі[2].

Апісанне далейшых падзей у крыніцах выглядае па-рознаму. Паводле самой Лужыс, з'яўляючыся «лаяльнай грамадзянкай», яна данесла польскім службам бяспекі аб антыдзяржаўнай змове[3]. Праўда, згодна з далучанымі да архіўнай справы інфарматаркі службовымі дакументамі, вымалёўваецца іншая карціна, а менавіта: агент паліцыі, які завербаваў Лужыс, знаходзіўся ў інтымных адносінах з ёю. Акрамя таго, брат канфідэнткі Аляксандр Лужыс прыўлашчыў грошы, якія атрымаў ад літоўскай выведкі на канспірацыйную працу. Калі справа з вярбоўкай раскрылася, Аляксандр Лужыс атрымаў 14 гадоў турмы, а Юзаф Бакаоўскі быў прыгавораны вайсковым судом да расстрэлу[4].

Гэтыя падзеі цалкам змянілі жыццё настаўніцы. Літоўскае таварыства, паводле самой Алены Лужыс, «выкінула яе за дзверы», у выніку чаго, «за заслугу перад Польшчай», яна згубіла пасаду настаўніцы ды сталы заробак. Праўда, у чэрвені 1934 г. лідскі староста ў якасці ўзнагароды за супрацу з уладай прызначыў яе на пасаду кіраўніка «святліцы» ў вёсцы Дубічы з заробкам 50 злотых і абавязкам працягваць выконваць функцыі паліцэйскай інфарматаркі. Аднак яе гэта не задаволіла. А. Лужыс скардзілася: «Па-першае, заставацца агентам у гэтай вёсцы для мяне амаль немагчыма, бо тут настаўнікам працуе былы мой знаёмы, які паведамляе мясцоваму грамадству пра маю дзейнасць на карысць Польскай дзяржавы, а па-другое, плата

---

[1] Сёння вёска ў Забалацеўскім сельсавеце Воранаўскага раёна Гродзенскай вобл. Беларусі.

[2] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (ДАГВ). Ф. 662, воп. 2, спр. 56, арк. 30. Донесения конфидента полиции Лужис Елены проживавшей в деревне Дубичи Забалоцкой гмины Лидского повета на лиц занимавшихся разведкой в пользу Литвы 1935–1941 гг. Арк. 2–2 адв., 30, 49. Гл. таксама: [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://ru.openlist.wiki/Лужис_Елена_Матвеевна_(1908). Дата доступу: 27.01.2021.

[3] ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 56, арк. 2–2 адв.

[4] Тамсама, арк. 30.

ў 50 злотых не можа задавальняць маіх нават самых прымітыўных запатрабаванняў [...]»[1].

У канцы 1934 г. літоўская газета «Vilniaus Rytojus» паведамляла сваім чытачам пра тое, што «гераіня справы Баканоўскага» была прызначана польскімі ўладамі кіраўніком польскай святліцы, каб супрацьдзейнічаць літоўскім уплывам. У выніку канфідэнтка была раскрыта, а літоўская моладзь падчас службы ў мясцовым касцёле за плячыма былой настаўніцы рэгулярна дэманстравала сваю пагарду да «шпіцеля» (даносчыка). Нават лідскі павятовы стараста лічыў, што агентка сябе канчаткова скампраметавала і знаходжанне Лужыс на тэрыторыі павета з'яўляецца «непажаданым». Пры гэтым стараста далучаўся да просьбы матэрыяльна адзначыць заслугі канфідэнткі перад дзяржавай[2].

Нечакана супраць дадатковых матэрыяльных выдаткаў выступіў кіраўнік інфармацыйнага аддзела пры Камандаванні III вайсковай акругі (ДОК III) у Гродне. 23 студзеня 1935 г. у сваім лісце на імя ваяводы прадстаўнік дэфензівы заявіў, што дзяржава не мае ніякіх абавязкаў перад Лужыс, бо тая выдала службам бяспекі злачынцаў не ў выніку патрыятычных пачуццяў да Польшчы, а з прычыны свайго кахання да агента Генрычка (Henryczka)[3].

13 мая 1935 г. да асабістай справы канфідэнткі далучаецца ліст ад асобы, якая, верагодна, і была тым самым Генрычкам. Ананімны аўтар, спасылаючыся на тое, што дзяржаўныя органы пачалі збіраць звесткі аб сваім былым інфарматары, аспрэчваў чуткі, быццам Алена Лужыс вядзе амаральны лад жыцця і «ходзіць сустракацца з хлопцамі ў лесе». З'яўленне падобных плётак аўтар тлумачыў жаданнем мясцовага настаўніка скампраметаваць непажаданую яму асобу. Адначасова аўтар абвяргаў данясенні мясцовай паліцыі, нібыта ён сам мае інтымныя стасункі з канфідэнткай. Гэтыя данясенні ён тлумачыў негатыўным стаўленнем да яго з боку некаторых прадстаўнікоў службы бяспекі па прычыне ягонай дзейнасці па раскрыцці карупцыйных схем сярод наваградскай паліцыі. Ліст заканчваўся дастаткова нечаканай высновай: «Што тычыцца пані Алены Лужыс, катэгарычна падкрэсліваю, што ад таго моманту, як ёй заапекавалася польская ўлада, яна гатовая сэрца аддаць дзеля Польшчы. Але раней яна была трохі іншая птушка, а тое, што яна зрабіла, было вынікам выпадковых здарэнняў»[4].

Тым не менш дылема паміж лаяльнасцю ды прафесійнай нядзольнасцю былой інфарматаркі засталася невырашанай. У сваім звароце да наваградскага ваяводы 20 верасня 1935 г. лідскі стараста Чушкевіч падкрэсліваў, што

[1] Тамсама, арк. 2–2 адв.

[2] Тамсама, арк. 3–5, 7.

[3] Тамсама, арк. 6.

[4] Тамсама, арк. 11–12 адв.

як агентка А. Лужыс «дэканспіраваная», а інфармацыя, якую яна дастаўляе ў староства, звычайна не мае ніякай вартасці. «Выкарыстанне яе ў нейкім іншым месцы не прадстаўляецца магчымым, – дадаваў ён, – бо яна вельмі слаба арыентуецца ў гэтай справе і да выведкі не падыходзіць. Акрамя таго, Лужыс, якая вельмі ахвотная да працы і, безумоўна, аказала пэўныя паслугі, недастаткова валодае вуснай ды пісьмовай польскай мовай, а таму я не магу прыняць яе на працу ў бюро. Маю цяжкасці з пошукам для яе адпаведнага занятку, які б забяспечыў сродкі існавання і адначасова вызваліў староства ад абавязку плаціць за прадстаўленыя ёй малакаштоўныя звесткі». Стараста прасіў дапамагчы знайсці працу для былой настаўніцы, але не ў Лідскім пав.[1]

З часам кіраўнік інфармацыйнага рэферата дэфензівы змяніў сваё стаўленне да былой інфарматаркі і накіраваў у ваяводскую ўправу просьбу ўладкаваць жанчыну ў іншае месца, бо мясцовае літоўскае насельніцтва яе «ненавідзіць». Служба бяспекі паспрабавала знайсці для яе працу ў наваградскай вязніцы, але з Міністэрства ўнутраных спраў прыйшоў адказ, што магчымасці мясцовых улад «вычарпаныя»[2].

У выніку ўлада – як абстрактнае ўвасабленне дзяржавы – для былой інфарматаркі звузілася да аднаго-двух яе функцыянераў. У канцы 1937 г. Алена Лужыс звярнулася да кіраўніка дэфензівы ў Гродне з падзякай за аказаную матэрыяльную дапамогу і ў чарговы раз папрасіла дапамогі. «Нельга апісаць маёй удзячнасці, якую я адчуваю да свайго апекуна ў асобе пана Кіраўніка, – пісала яна. [...] Шчыра веру, што і ў будучым не буду пазбаўлена ўвагі і заўжды для мяне знойдзеце водгук у шчырым і шчодрым сэрцы [...]». Яна таксама распавядала пра сваю драматычную сітуацыю з прычыны адсутнасці сталай працы і годнага заробку, узгадваючы тыя часы, калі была «шчаслівай настаўніцай». На гэты раз былая канфідэнтка спадзявалася толькі на «клопат пана Кіраўніка»[3].

У рэшце рэшт Алене Лужыс удалося ўладкавацца на працу: спачатку ў бібліятэку ў Лідзе, а пасля ў мясцовы кааператыў «Еднасць». Другую сусветную вайну яна сустрэла на лячэнні ў санаторыі ў Закапаным, адкуль выпісалася толькі 22 верасня 1939 г.[4]

У літаратуры прадмету постаць інфарматара службы бяспекі ў залежнасці ад кантэксту разглядаецца як частка дзяржаўнай сістэмы тэрору[5] ці ў якасці

---

1 Тамсама, арк. 41.

2 Тамсама, арк. 22.

3 Тамсама, арк. 15.

4 Тамсама, арк. 61.

5 Клейн Б., *За дело правое. Борьба КПЗБ с буржуазным террором (1920–1938 гг.).* Минск, 1986; Mironowicz E., *Rola konfidentów w kreowaniu polityki narodowościowej*

інструменту па супрацьдзеянні антыдзяржаўным уплывам[1]. Першае заданне кожнага канфідэнта было звязана з атрыманнем, назапашваннем і перадачай службам бяспекі пэўнай інфармацыі. Прычым звычайна гэта інфармацыя была сінонімам аб'ектыўных «ведаў» адносна дзейнасці арганізацый, партый ці настрояў мясцовага грамадства[2].

З'яўленне інстытуту платных агентаў на службе польскай дзяржавы на гэтым абшары мела сваю перадгісторыю. Першапачаткова ва ўмовах польска-савецкай вайны 1919–1920 гг. ролю галоўнага арганізатара ўнутранай службы бяспекі выконвалі польскія вайсковыя службы[3]. Адначасна дзейнічаў шэраг адміністрацыйных і грамадскіх інстытутаў, супрацоўнікі якіх рыхтавалі падрабязныя справаздачы аб тым, што адбывалася на занятай польскім войскам тэрыторыі[4].

Сітуацыя карэнным чынам змянілася пасля вайны. Бліжэй да восені 1921 г. пачалася ліквідацыя органаў дэфензівы пры польскай арміі, а іх абавязкі разам з архівамі і сеткай канфідэнтаў перадаваліся мясцовай паліцыі[5]. За вайсковай секцыяй дэфензівы засталася толькі функцыя «збору і аналізу звестак адносна варожай выведкі», а назапашаная раней інфармацыя павінна была перадавацца адпаведным грамадскім ці вайсковым службам бяспекі – паліцыі ды жандармерыі. Адначасова Міністэрства ўнутраных спраў загадала спыніць вярбоўку новых агентаў у сувязі «з пераглядам існуючых пасад»[6].

У выніку адсутнасці разгалінаванай сеткі інфарматараў на далучанай да Польшчы тэрыторыі органы бяспекі часта не панавалі над сітуацыяй. Той жа лідскі стараста прасіў ваяводу прыслаць яму «некалькіх здольных тайных агентаў,

---

*w województwach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej. Obszary zgody czy konfliktu? // Kresy Północno-Wschodnie II Rzeczypospolitej,* red. W. Śleszyński, A. Włodarczyk. Białystok – Kraków, 2014, s. 126.

1 Cichoracki P., *Komuniści na Polesiu w latach 1921–1939.* Łomianki, 2016; Śleszyński W., *Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej.* Warszawa, 2007.

2 Siewier M., *Z dziejów bezpieczeństwa wewnętrznego II RP. Policja województwa śląskiego wobec ruchu komunistycznego* // «Doktryna». Studia Społeczno-Polityczne. 2017, t. 14, s. 240–241.

3 Lietuvos centrinis valstybes archyvas (LCVA). F. 582, ap. 2, b. 46, l. 65.

4 Гл.: *O niepodległą i granice. Tom 7. Raporty Straży Kresowej 1919–1920 ziem Północno-Wschodnich*: opisanie, wstęp, wybór i oprac. Joanna Gierowska-Kałłaur. Warszawa – Pułtusk, 2011.

5 ДАГВ. Ф. 662, воп. 3, спр. 1. Донесения и дневные рапорта полиции о происшествиях, деятельности политических партий и организаций..., арк. 493.

6 Тамсама, спр. 2а: Протоколы, заявления и переписка относительно арестованных 1921 г., арк. 116, 119.

якія б, з аднаго боку, сачылі за антыдзяржаўнай агітацыяй, а з другога – назіралі за дзейнасцю мясцовай адміністрацыі, што дазволіла б зменшыць злоўжыванні з боку мясцовых функцыянераў і паспрыяць росту даверу да ўлады з боку мясцовага насельніцтва»[1]. Сярод падазраваных у фінансавых махінацыях аказаўся нават кіраўнік інфармацыйнага аддзела паліцыі ў Баранавічах[2].

Рэарганізацыя вайсковых службаў ва ўмовах адміністрацыйнага хаосу прывяла да таго, што да павятовых улад пачалі звяртацца былыя супрацоўнікі, патрабуючы выдаць ім грошы ды зброю[3]. Напрыклад, у лютым 1921 г. у Нясвіжы быў арыштаваны агент дэфензівы Мікалай Касцюк па абвінавачанні, быццам падчас вайны з'яўляўся супрацоўнікам савецкай міліцыі[4]. У чэрвені таго ж года нясвіжская паліцыя на нейкі час наогул забараніла дзейнічаць на тэрыторыі павета агентам ваяводскай паліцыі[5]! А ўжо ў канцы лістапада ваяводскія службы бяспекі разглядалі неабходнасць выслаць свайго агента ў Нясвіж, каб ён дапамог раскрыць савецкую «ячэйку», якая быццам бы працавала ў... мясцовай паліцыі. Пры гэтым агент павінен быў добра валодаць расійскай мовай і выдаваць сябе за гандляра, які хаваўся ад польскіх улад[6].

Імкненне кантраляваць настроі мясцовага няпольскага насельніцтва змушала паліцэйскія органы да пэўнай імправізацыі. Так, камендант павятовай паліцыі ў Навагрудку накіраваў у вёску Кашалёва пад выглядам уцекача з савецкай Расіі інфарматара, які ўладкаваўся там парабкам[7]. А вось што пісаў кіраўнік паліцыі Нясвіжскага пав. каменданту аднаго з мясцовых пастарункаў паліцыі: «Учора [...] да мяне звярнуўся з даручэннам ад вас канфідэнт, якому я надаў псеўданім Іваноў І і з якім дамовіўся наконт умоў і сістэмы далейшай працы. А менавіта: усю здабытую інфармацыю канфідэнт павінен у пісьмовым выглядзе патаемна перадаваць вам гэткім чынам, каб пазбегнуць дэканспірацыі. Рэчавыя доказы, як улёткі і г. д. вяртайце канфідэнту толькі ў надзвычайных абставінах. Было б вельмі пажадана, каб арыгіналы адсылаліся да мяне. Акрамя таго, прашу ўважліва назіраць за канфідэнтам, і ў выпадку, калі заўважыце, што той раскрыты, адразу данесці мне [...]»[8].

---

[1] Тамсама, спр. 1, арк. 142.

[2] Тамсама, арк. 306.

[3] Тамсама, арк. 301.

[4] Тамсама, арк. 374, 377.

[5] Тамсама, арк. 85.

[6] Тамсама, спр. 2, арк. 107.

[7] Тамсама, спр. 8. Донесения и телефонограммы поветовых комендатур полиции..., арк. 73.

[8] Тамсама, спр. 4. Отчеты, донесения поветовых комендатур полиции об общественно-политическом движении..., арк. 396.

Ужо ў канцы лістапада 1923 г. лідскі стараста звярнуўся да наваградскага ваяводы па справе разбудовы агентуры ў павеце: «Інфармацыйная агентура [...] патрабуе агульнай рэарганізацыі, – пісаў ён. – На гэта ёсць некалькі прычын, а менавіта: Лідскі пав. з'яўляецца адным з найвялікшых паветаў ва ўсёй Рэчы Паспалітай, а яго насельніцтва – змешанае. Тут жывуць беларусы, літоўцы, палякі, а сам павет знаходзіцца на мяжы з Літвой. У такіх умовах запатрабаванай з'яўляецца як мага шырэйшая дзейнасць агентуры. На жаль, зрабіць гэта немагчыма пры сённяшнім нешматлікім складзе агентуры з сямі чалавек разам з кіраўніком, якія да таго ж маюць нізкі інтэлектуальны ўзровень. Адсутнасць спецыяльных крыніц фінансавання на ўтрыманне канфідэнтаў дадаткова ўскладняе працу [...]. Некаторыя з агентаў, працуючы доўгі час у адных і тых жа асяродках, ужо паспелі дэканспіравацца». Падсумоўваючы, стараста прасіў павялічыць выдаткі на арганізацыю выведкі да 3 мільёнаў марак і павялічыць колькасць агентаў амаль у два разы[1]. У адказ з Наваградка прыйшла катэгарычная адмова[2].

Такім чынам, першапачаткова інфармацыя, патрэбная для супрацьдзеяння камуністычнаму падполлю, здабывалася ўладамі з вялікай цяжкасцю. Напрыклад, пасля чарговага нападу савецкіх дыверсантаў на цягнік камендант паліцыі Слонімскага пав. прапанаваў сваім падуладным звярнуцца па інфармацыю да мясцовага жыхара па прозвішчы Равінскі як да асобы, якая «вельмі дакладна і падрабязна ведае ваколіцы». Пры гэтым камендант раіў падысці да селяніна «асцярожна і ўмеючы»[3]. Непасрэдна для адсочвання сітуацыі на мяжы выкарыстоўваліся таксама вайсковыя асаднікі, у тым ліку былыя жаўнеры войск Сымона Пятлюры і генерала Станіслава Балаховіча[4].

Адным з накірункаў дзейнасці інфармацыйных аддзелаў пры ваяводствах стаў збор дадзеных па канкрэтных запытах цэнтральных улад. Напрыклад, у канцы снежня 1923 г. кіраўнік інфармацыйнай службы звярнуўся да адпаведнага аддзела Наваградскага ваяв. з запытам адносна супрацоўніцтва беларускіх арганізацый на тэрыторыі ваяводства з урадам БНР. У выніку былі атрыманы рапарты з паасобных паветаў, у якіх даваліся разгорнутыя характарыстыкі мясцовых беларускіх дзеячаў. Напрыклад, з Наваградка паведамлялі, што «арганізацыя (верагодна) беларуская групуецца вакол мясцовай беларускай гімназіі і Алексюка», які мае сувязі выключна з Вільняй ды Баранаві-

---

1 Тамсама, спр. 3. Месячные отчеты и дневные рапорты поветовых и воеводских комендатур..., арк. 171.

2 Тамсама, арк. 172–172 адв.

3 Тамсама, спр. 9. Отчеты и донесения Новогрудской и Виленской воевудских комендатур..., арк. 396.

4 Тамсама, спр. 8, арк. 154.

чамі[1]. Нясвіжскае староства паведамляла пра мясцовага сакратара беларускага пасольскага клуба Юзафа Шнаркевіча, які часта прыязджаў у павет, збіраў скаргі мясцовага насельніцтва і перадаваў іх паслу Барысу Рагулю[2].

З Валожына і Баранавіч даносілі, што «пошук не даў пазітыўных вынікаў», а таму «высветліць кантакты паміж беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі на тэрыторыі павета з кіраўнікамі беларускага руху ў ковенскай Літве не ўдалося»[3]. Агентурныя пляцоўкі ў Століне і Слоніме нічога канкрэтнага не паведамілі, спаслаўшыся на невялікі штат агентаў і недахоп часу, тады як інфармацыйны аддзел Лідскага староства абмежаваўся пералікам найбольш актыўных беларускіх дзеячаў[4].

Фінансавыя магчымасці паліцыі ў падборы агентуры былі абмежаванымі. «Арганізацыя збору інфармацыі, – пісаў у рапарце кіраўнік следчага аддзела Слонімскай паліцыі ў канцы 1924 г., – сутыкаецца з праблемамі з прычыны адсутнасці сродкаў на выдаткі канфідэнтаў, а майго ўласнага заробку ўжо не хапае на аплату хцівых да гэтага сялян, гатовых прадставіць інфармацыю». Камендант павятовай паліцыі прасіў выдзеліць дадатковыя 3–4 тысячы злотых на аплату інфарматараў з мясцовага насельніцтва[5]. Гэтым разам кіраўнік акругі выказаў гатоўнасць прызначыць нават большую суму пры ўмове, што мясцовыя ўлады здолеюць арганізаваць эфектыўны збор інфармацыі[6].

Наступствам нефармальных адносін паміж канфідэнтам і паліцыяй былі абвінавачанні ў карупцыйных сувязях, напрыклад, у арганізацыі кантрабанды праз мяжу[7]. Кіраўнік следчага аддзела ў Наваградку быў вымушаны яшчэ на пачатку 1924 г. звярнуцца да каменданта паліцыі XV акругі са скаргай, бо на мясцовым участку польска-савецкай мяжы пэўныя асобы дзейнічалі ад імя агентуры паліцыі: «Не згадваючы пра метады дзейнасці гэтых агентаў, якія за свае паслугі афіцыйна атрымліваюць дазвол на арганізацыю кантрабанды, – пісаў ён, – нельга замоўчваць той факт, што падобная кантрабанда ў шмат разоў перавышае памеры, вызначаныя для гэтай дзейнасці, а самі канфідэнты ўсталёўваюць цесныя адносіны з мясцовымі гандлярамі, ствараючы крымінальныя арганізацыі [...]». Паліцэйскі даводзіў, што шматлікія канфідэнты на мяжы не толькі займаюцца кантрабандай ды рабункам, але і ак-

1 Тамсама, спр. 3, арк. 511.

2 Тамсама, арк. 510.

3 Тамсама, арк. 515, 517.

4 Тамсама, арк. 512–514.

5 Тамсама, арк. 397 адв., 398.

6 Тамсама, арк. 401.

7 Тамсама, арк. 500.

тыўна супрацоўнічаюць з савецкай выведкай, пры гэтым іх колькасць увесь час павялічваецца[1]. Так, з 33 асоб, якія ў 1923 г. мелі дазвол знаходзіцца на мяжы ў раёне Ракава па справах гандлю, пяцёра апынуліся ў г. зв. «чорным спісе» па падазрэнні ў кантрабандзе і антыдзяржаўнай дзейнасці[2].

Некаторыя інфарматары самі ператвараліся ў аб'ект для назірання. Прычым падобныя справы маглі цягнуцца гадамі, як, напрыклад, у выпадку з гаспадаром карчмы з Ракава, былым сябрам Беларускай вайсковай камісіі і агентам дэфензівы Ільёй Бурым. Ён з'явіўся ў памежным мястэчку яшчэ ў 1921 г., дзе пры пасрэдніцтве спецслужбаў атрымаў канцэсію на гандаль алкаголем, а ўзамен павінен быў прадастаўляць неабходную інфармацыю. Аднак ягоная асабістая справа хутка папоўнілася шэрагам данясенняў, у якіх ужо іншыя канфідэнты абвінавачвалі яго ў кантрабандзе, спекуляцыі і сувязях з бальшавікамі. Усе гэтыя звесткі некалькі разоў станавіліся прадметам дасудовага разбіральніцтва, а сам карчмар нават на некалькі месяцаў патрапіў у вязніцу за фінансавыя махінацыі. Нават абмяркоўвалася яго высяленне з памежжа як нелаяльнай асобы без польскага грамадзянства.

У 1924 г. хадзілі чуткі, быццам сярод удзельнікаў узброенай банды, якая напала на Стоўбцы, быў родны брат І. Бурага, які пражываў у савецкай Беларусі! Здавалася, што на гэты раз лёс былога канфідэнта ўжо вырашаны. Але ў сярэдзіне 1925 г. Ракаў апынуўся ў межах Маладзечанскага пав. Усе дакументы былі перададзены ў мясцовую палітычную паліцыю, якая прыйшла да высновы, што дадзеныя адносна Бурага і шэрагу іншых асоб былі вынікам «злоўжывання» аднаго з мясцовых канфідэнтаў і не адпавядаюць рэчаіснасці. Тым не менш і ў наступным годзе Ілья Буры заставаўся пад тайным наглядам[3].

Попыт на «канфідэнцыяльную» інфармацыю спрыяў з'яўленню катэгорыі «былых канфідэнтаў», якія шукалі нагоду прадаць прадстаўнікам розных службаў бяспекі чарговыя сенсацыйныя матэрыялы[4]. Пазбаўленыя магчымасці атрымліваць плату за свае паслугі, некаторыя з былых агентаў настойліва пераконвалі сваіх працадаўцаў у лаяльнасці і, галоўнае, кампетэнтнасці[5].

Відавочна, што праца канфідэнтам рабіла саму асобу больш заўважнай для службаў бяспекі. Напрыклад, фельчар Андрэй Булер (ён жа Земайціс) і музы-

---

1 Тамсама, арк. 805.

2 Тамсама, спр. 3, арк. 406.

3 Тамсама, спр. 20. Отчеты и донесения полиции о проишествиях, деятельности Компартии..., арк. 45–171.

4 Тамсама, спр. 12. Отчеты и донесения поветовых комендатур полиции и староств..., арк. 32 адв.

5 Тамсама, спр. 10. Отчеты и донесения поветовых комендатур полиции..., арк. 584–585 адв.

кант Юзаф Квіро пасля таго, як былі звольнены з працы канфідэнтаў палітычнай паліцыі ў Лідзе, самі аказаліся пад наглядам службаў бяспекі. Высветлілася, што першы з іх займаецца нелегальнай медыцынскай практыкай. Фактычна кіраўнік выведкі ў Лідзе Станіслаў Яскаржынскі прыняў іх на працу толькі на падставе допісу на візітцы свайго беластоцкага калегі з той нагоды, што будучыя агенты [...] ведалі літоўскую мову і надаваліся для працы на мяжы з Літвой[1].

Часам атрыманая ад агентаў сакрэтная інфармацыя выходзіла за сцены паліцыі і трапляла на старонкі мясцовай прэсы. Гэта, напрыклад, здарылася пасля чарговага нападу савецкай дыверсійнай групы, калі змест сакрэтнага данясення надрукаваў журналіст віленскага «Słowa». Пад падазрэнне трапіў начальнік выведкі ў Стоўбцах[2].

Нескаардынаваная дзейнасць розных адгалінаванняў службаў бяспекі прыводзіла часам да дэканспірацыі агентаў. Так, увесну 1925 г. камендант паліцэйскага ўчастка ў в. Лані Нясвіжскага пав. арыштаваў па падазрэнні ў дачыненні да ўзброенага нападу селяніна Яна Барташэвіча, які, як пазней высветлілася, працаваў канфідэнтам. Арыштаванага хутка вызвалілі, аднак пра яго супрацу з уладамі даведаліся ў вёсцы[3]. Іншы падобны выпадак можна аднесці да камічных. У 1926 г. канфідэнт вайсковай выведкі Неўх Кушчынскі пад выглядам савецкага агента спрабаваў набыць план вайсковай мабілізацыі «Моб» у іншага агента палітычнай паліцыі са Стоўбцаў – Моўшы Кумока. Аднак паліцыя хутка разабралася, і справа пазбегла шырокай агалоскі[4].

Усё разам уплывала на вялікую «цякучку» кадраў сярод інфарматараў і агентаў. Паводле спіса, прадстаўленага экспазітурай № 1 у Вільні, толькі за апошні квартал 1925 г. з ліку агентаў былі звольнены: Юзаф Орля – па прычыне адсутнасці адпаведнай кваліфікацыі, Адам Роля-Сакалоўскі – за невыкананне загаду, Ян Скакоўскі – за п’янства і скандалы, Тэадор Чарневіч і Уладзіслаў Грынкевіч – за «непрадукцыйнасць», Юзаф Ліп – за адсутнасць вынікаў працы, Казімір Шыманіс і Ігнацы Чарноў – за адсутнасць сувязі пасля іх выезду ў Расію, Бенедыкт Самалюоніс – за адсутнасць сувязі пасля выезду ў Літву, Мар’ян Нямцэвіч – па падазрэнні ў супрацоўніцтве з замежнай разведкай[5].

Камандаванне IX вайсковай акругі ў Брэсце ў снежні 1925 г. страціла адразу 12 агентаў: чатырох па прычыне адсутнасці «службовай ініцыятывы»,

---

[1] Тамсама, арк. 118, 124, 127, 128.

[2] Тамсама, спр. 12, арк. 384.

[3] Тамсама, спр. 13. Информации и донесения поветовых комендатур полиции..., арк. 488 адв. – 491.

[4] Тамсама, спр. 20, арк. 336.

[5] Тамсама, спр. 22. Отчеты, донесения и переписка поветовых комендатур полиции..., арк. 35.

шасцярых – за хлуслівыя справаздачы і дваіх як «малавыдатных і абыякавых да службы». Прычым траіх агентаў падазравалі ў супрацы з… варожай выведкай[1]. Нават міністр унутраных спраў Казімір Младзяноўскі вельмі крытычна выказаўся адносна канфідэнтаў, якія нібыта рэкрутаваліся з «грамадскіх адкідаў» і прадаваліся таму, хто больш заплаціць […]»[2].

Склалася супярэчлівая сітуацыя. З аднаго боку, напрыклад, паліцыя ў Нясвіжы наракала на поўны заняпад інфармацыйнай службы, асабліва важнай ва ўмовах памежжа і росту ўплываў такіх радыкальных арганізацый, як беларуская Грамада[3]. Таксама камендант Наваградскай павятовай паліцыі заклікаў разбудоўваць сетку канфідэнтаў дзеля супрацьдзеяння камуністычнай агітацыі[4]. З іншага боку, на пачатку 1926 г. толькі ў Гродзенскім павеце працавала 126 «асведаміцеляў»[5] (дзеля параўнання: ва ўсім Наваградскім ваяв. налічвалася ўсяго каля тысячы (995) паліцэйскіх)[6]. У следчым аддзеле павятовай паліцыі ў Брэсце палова з 18 працуючых там паліцэйскіх займалася выключна «антыдзяржаўнымі злачынствамі». Пры гэтым аддзел карыстаўся паслугамі 82 канфідэнтаў, з якіх 8 з'яўляліся сябрамі КПЗБ[7].

Пры гэтым нават кіраўніцтва паліцыі пагаджалася, што сам па сабе нагляд за падазронай асобай не мае вялікага значэння з юрыдычнага пункту гледжання, бо абвінавачанні, складзеныя на падставе інфармацыі агентаў, звычайна судамі не разглядаліся[8]. Паводле падлікаў беларускага гісторыка Барыса Клейна, у 1926 г. па палітычных справах у Заходняй Беларусі было апраўдана 76,4 % падсудных[9].

Грунтоўная рэарганізацыя сістэмы кантролю і здабывання інфармацыі мясцовымі службамі бяспекі пачалася ў другой палове 1920-х гг.[10] Цяпер за

---

1 Тамсама, спр. 21. Месячные отчеты поветовых комендатур полиции…, арк. 53.

2 Клейн Б., *За дело правое…*, с. 80.

3 ДАГВ. Ф. 662, воп. 3, спр. 30. Протоколы совещаний поветовых комендатур полиции…, арк. 55.

4 Тамсама, арк. 189.

5 Клейн Б., *За дело правое…*, с. 25.

6 ДАГВ. Ф. 662, воп. 3, спр. 36. Донесения поветовых комендатур государственной полиции о количестве полицейских в повете. 1933 г., арк. 11.

7 Mironowicz E., *Rola konfidentów...*, s. 127.

8 ДАГВ. Ф. 662, воп. 3, спр. 30, арк. 459.

9 Клейн Б., *За дело правое...*, с. 80.

10 Cichoracki P., *Komuniści na Polesiu...*, s. 93.

выведку адказвалі г. зв. агенты паліцыі, якія знаходзіліся на паліцэйскай службе. Пры гэтым яны фармальна займалі пасады пры мясцовых гмінах: памочніка пісара, ляснога наглядчыка, чыноўніка самакіравання, прадстаўніка органаў страхавання і г. д. – з умовай, што гэтыя абавязкі не будуць перашкодай у іх галоўнай дзейнасці.

Паміж агентамі і кіраўнікамі мясцовай паліцыі захоўвалася сціслае супрацоўніцтва. Агенты павінны былі ў справаздачах адзначыць наступныя пункты: агульная сітуацыя і настрой насельніцтва; прафесійны і кааператыўны рух (асадніцтва, кааператывы, прафесійныя саюзы, хто іх узначальвае, колькасць сябраў, змены, якія ў іх адбываюцца і г. д.); дзейнасць палітычных арганізацый; нацыянальнае пытанне (асобна абгаворваліся – габрэйскі, расійскі, беларускі і літоўскі рухі); праявы дыверсійнай дзейнасці і сабатажу; забастоўкі; адносіны насельніцтва да дзяржаўнай улады; мітынгі з імёнамі выступоўцаў і агульнай характарыстыкай прамоў).

У сваю чаргу, агенты стваралі сетку канфідэнтаў, якія павінны былі складацца з асоб «пэўных, адказных і заслугоўваючых даверу». Атрыманую інфармацыю трэба было абавязкова праверыць, у т. л. выкарыстоўваючы паслугі мясцовых паліцэйскіх службаў, пасля чаго верыфікаваныя звесткі адсылаліся ў інфармацыйную агентуру пры старостве. У выключных справах агент быў абавязаны асабіста правесці следства, не звяртаючыся да паслуг паліцыі[1].

Фармальна супрацоўніцтва з будучым інфарматарам пачыналася з падпісання дамовы, якая складалася з сямі пунктаў, паводле якіх паліцыя прымала падпісанта на пасаду «канфідэнта-выведчыка», а той, у сваю чаргу, браў на сябе абавязак прадстаўляць інфармацыю пра дзейнасць «антыдзяржаўных арганізацый». Акрамя таго, у дамове быў зафіксаваны псеўданім, якім павінен быў карыстацца канфідэнт і які часцей за ўсё адпавядаў распаўсюджаным у дадзенай мясцовасці імёнам. Таксама дакумент прадугледжваў для канфідэнта магчымасць адмовіцца ад далейшага супрацоўніцтва[2].

Паводле самой паліцыі, канфідэнтаў можна было падзяліць на тры катэгорыі: «ганаровыя», платныя ды выпадковыя. Найбольш дакладнымі і сумленнымі з'яўляліся першыя з іх, бо пры здабыванні інфармацыі яны не арыентаваліся на матэрыяльныя набыткі ці помсту, а дапамагалі органам паліцыі выключна з ідэалагічных прычын і патрыятычных пачуццяў. Гэты тып канфідэнта трэба было шукаць сярод прадстаўнікоў мясцовай шляхты, настаўнікаў, духавенства ды іншых асоб, якія «варожа ставіліся да антыдзяржаўных выступленняў». Адзіным выразным мінусам гэтых канфідэнтаў было тое, што яны часцей за ўсё належалі да больш заможнай часткі грамадства, да якой мясцовае насельніцтва адносілася з падазрэннем, а таму рэдка было

1 ДАГВ. Ф. 662, воп. 3, спр. 3, арк. 176.

2 Mironowicz E., *Rola konfidentów*..., s. 128.

шчырым у іх прысутнасці. Менавіта таму «ганаровыя» канфідэнты звычайна атрымлівалі патрэбную інфармацыю пры дапамозе трэціх асоб, напрыклад, хатняй службы, якая «адчувала да гаспадароў асабістую прывязанасць».

Платныя канфідэнты за невялікім выключэннем не карысталіся добрай рэпутацыяй і даверам, аднак менавіта гэта катэгорыя канфідэнтаў найчасцей выкарыстоўвалася органамі паліцыі. Вынікі працы платнага канфідэнта моцна залежалі ад здольнасцей яго непасрэднага кіраўніка і прадугледжвалі фінансавую залежнасць, дысцыпліну ды адпаведны кантроль. Адсутнасць кантролю альбо яго аслабленне маглі прывесці да маніпуляцый з боку платнага канфідэнта, якія праяўляліся, напрыклад, у перадачы непраўдзівай інфармацыі і фіктыўных дадзеных. Функцыянер паліцыі павінен быў захоўваць асцярожнасць у адносінах з агентам і правяраць атрыманую інфармацыю.

Вельмі эфектыўным лічыўся мэтанакіраваны пошук інфарматараў непасрэдна сярод сябраў антыдзяржаўных арганізацый. Разам з тым гэта было вельмі рызыкоўным, бо можна было патрапіць на прафесіянала, які б выкарыстаў службу ў паліцыі дзеля дэканспірацыі яе агентаў. Менавіта таму даводзілася хаваць ад такога канфідэнта ўсю інфармацыю, якая мелася ў службы бяспекі з іншых крыніц.

Выпадковыя канфідэнты траплялiся зрэдку, а таму патрабавалі асаблівай увагі з боку паліцыі[1].

Гісторык Б. Клейн спасылаецца на наваградскага ваяводскага каменданта паліцыі Альшанскага, які на сакрэтнай нарадзе заклікаў вербаваць агентаў сярод «лясной і дарожнай аховы, ксяндзоў, войтаў, солтысаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў, жабракоў, бадзяг, п'яніц і г. д.»[2]. Аднак, як сведчыць прыклад той жа Алены Лужыс, спецслужбы часцей шукалі сваіх інфарматараў у тых асяродках, якія стваралі пэўную апазіцыю дзяржаўнай уладзе. Акрамя радыкальных палітычных партый гэта былі розныя арганізацыі нацыянальных меншасцей і рэлігійныя інстытуты, як праваслаўныя, так і каталіцкія[3]. Напрыклад, сябра мясцовай арганізацыі КПЗБ у Жабінцы і адначасова канфідэнт паліцыі пад псеўданімам Аляксандр Коваль на працягу двух гадоў інфармаваў улады пра дзейнасць аднапартыйцаў, адсылаючы справаздачы непасрэдна ў Палескую ваяводскую камендатуру паліцыі ў Брэсце[4].

У спецыфічных умовах усходніх ваяводстваў, асабліва на Палессі і Навагрудчыне, магчымасць атрымліваць інфармацыю наўпрост ад прадстаўнікоў мясцовага няпольскага насельніцтва каштавала паліцэйскім уладам вялікіх

---

1 ДАГВ. Ф. 662, воп. 3, спр. 30, арк. 462–464.

2 Клейн Б., *За дело правое...*, с. 25.

3 Mironowicz E., *Rola konfidentów...*, s. 130–131.

4 Тамсама, s. 127–128.

выдаткаў. Атрыманая такім чынам інфармацыя ацэньвалася паводле сваёй каштоўнасці кіраўніком камендатуры паліцыі. Звычайна гэта былі адносна невялікія сумы – ад 5 да 12 злотых. Аднак пры рэгулярным супрацоўніцтве агульны прыбытак мог быць значна большым. Гісторык Яўген Мірановіч узгадваў агента па празванні Хітры Ян, які толькі са жніўня 1933 па верасень 1934 г. склаў 13 справаздач, за што атрымаў 77 злотых. «На Палессі, – адзначыў з гэтай нагоды даследчык, – гэта быў кошт каровы ці каня»[1].

Паводле Я. Мірановіча, «існуючая сістэма ўзнагароджвання прыводзіла да таго, што часцей за ўсё да супрацоўніцтва вербаваліся самыя бедныя сяляне, якія імкнуліся прадставіць інфармацыю такім чынам, каб падняць памер сваёй аплаты. Шмат канфідэнтаў інфармавалі пра крымінальныя злачынствы, аплата за якія не перавышала двух злотых. А паліцыя больш канцэнтравалася на пераследзе палітычнай дзейнасці, чым на крымінальных падзеях. У выніку інфарматары з часам перасталі звяртаць увагу на звычайныя злачынствы». Гісторык заўважыў, што, у адрозненне ад палітычных злачынцаў, большасць крымінальных злодзеяў заставалася для паліцыі невядомымі ці амаль невядомымі[2].

У сваю чаргу, утрыманне разгалінаванай сеткі канфідэнтаў стварала для дзяржаўных органаў сур'ёзныя фінансавыя цяжкасці. «У сувязі з адсутнасцю магчымасці павялічыць выдаткі на выплаты для канфідэнтаў, – пісаў Яўген Мірановіч, – вышэйшыя ўлады заахвочвалі стараст да пошуку інфарматараў, якія б згаджаліся працаваць задарма. Да супрацоўніцтва з паліцыяй перш за ўсё прыцягваліся асобы, эканамічная дзейнасць якіх залежала ад дазволу з боку павятовых органаў, менавіта гаспадары рэстаранаў, бараў, піўных, кінатэатраў, вандроўных цыркаў, ілюзіяністы, а таксама войты, гмінныя пісары, солтысы. Пры гэтым выказвалася парада, каб кіраўнікі прадпрыемстваў, што маюць дзяржаўныя замовы, знаходзілі і ўказвалі асоб, прыдатных для вярбоўкі следчымі службамі. Узамен тыя павінны былі атрымаць лепшыя ўмовы працы ды вышэйшы заробак». У гэтай сітуацыі адмова ад супрацы з паліцыяй разглядалася як праява антыдзяржаўных поглядаў і была падставай, каб самому патрапіць пад падазрэнне[3].

У 1930-я гады шырокую сетку інфарматараў у памежнай зоне мела таксама служба Корпуса аховы пагранічча (КОП). Маючы яшчэ менш фінансавых магчымасцей для аплаты інфарматараў, яна звычайна прапаноўвала сваім агентам неафіцыйную падтрымку пры вырашэнні розных гаспадарчых ці судовых спраў[4].

---

[1] Тамсама, s. 128.

[2] Тамсама, s. 128.

[3] Тамсама, s. 128–129.

[4] Тамсама, s. 129–130.

Як жа выглядаў партрэт шараговага канфідэнта? У характарыстыках на сваіх інфарматараў паліцэйскія адзначалі такія якасці, як «нешматслоўны», «флегматычны», «спакойны, баязлівы, працуе дзеля грошай», «хутка арыентуецца», «любіць грошы». Часцей за ўсё супрацоўніцтва пачыналася пры пасрэдніцтве мясцовых прадстаўнікоў паліцыі. Аднак здараліся выпадкі, калі канфідэнтамі станавіліся з уласнай ініцыятывы[1].

Большасць агентаў прайшлі праз вайсковую службу і мелі пэўную адукацыю. Напрыклад, Мікалай Ляўковіч (Чорны) з вёскі Старое Сяло Баранавіцкага пав., беларус, шафёр, скончыў чатыры класы гімназіі ў Наваградку. Быў жанаты. Першапачаткова ён быў прыцягнуты да камуністычнага падполля сваім старэйшым братам, які пазней збег у савецкую Расію, пакінуўшы яму партыйныя сувязі і абавязак працягваць падпольную дзейнасць. Партыйны псеўданім – Стральцоў. Быў завербаваны старэйшым следчым Антоніем Багдановічам[2]. Да падпісанай 15 лістапада 1931 г. дэкларацыі аб супрацы, паводле якой М. Ляўковіч «абавязваўся інфармаваць паліцыю пра ўсе палітычныя справы, пра якія даведаецца», была далучана распіска аб атрыманні аплаты за інфармацыю[3]. Ужо пазней, калі агент Чорны пачаў працаваць шафёрам і адказваў за транспарціроўку партыйнай літаратуры, ён атрымаў магчымасць адсочваць дзейнасць структур КПЗБ у Слонімскім і Лідскім пав. Пры гэтым інфармацыя, якую ён прадстаўляў, вызначалася паліцыяй як «вартая даверу»[4].

Колькасць і змест данясенняў вельмі адрозніваліся. Паводле характарыстыкі агента Клеменса Калачака з в. Івянец Валожынскага пав., на працягу чатырох гадоў той толькі тройчы прадставіў звесткі: у ліпені 1931 г., у ліпені 1934 г. і ў лютым 1935 г. Пры гэтым у двух паведамленнях гаворка ішла пра нелегальны выраб самагону[5].

Асабліва часта сярод данясенняў агентаў паўтараліся звесткі пра падрыхтоўку да чарговага паўстання супраць польскай улады. Улады надзвычай сур'ёзна ставіліся да падобных звестак, што ўскосна магло толькі паспрыяць

---

1 ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 80. Анкета…, арк. 1.

2 Тамсама, спр. 53. Донесения конфидента полиции «Черный» (Левкович Николай) о деятельности членов организации КПЗБ в г. Ліда, Лидском повете и других местах, арк. 1–5 адв. (Адносна дзейнасці агента Чорнага з Ліды гл. артыкул Лявона Лаўрэша *Лідскія камуністы ў данясеннях канфідэнта «Чорнага» (1932–1937)* – (*заўвага рэд.*).

3 Тамсама, спр. 52. Декларация Левковича Николая жителя д. Большое Село о согласии сотрудничества с полицией…, арк. 2–3.

4 Тамсама, спр. 53, арк. 12.

5 Тамсама, спр. 40. Характеристика на информатора полиции Калачека Клеменса…, арк. 2.

іх з’яўленню. Прычым падазрэнне ў падрыхтоўцы да ўзброенага выступлення супраць дзяржавы магло выклікаць нават тое, што вясковая моладзь раптам пачынала насіць аднолькавыя шапкі, якія фасонам нагадвалі галаўныя ўборы савецкіх памежнікаў[1]!

У пэўным сэнсе службы бяспекі былі зацікаўлены ў стварэнні вобраза «ўнутранага ворага» і перманентнай пагрозе. Яны самі глядзелі на падуладных вачыма сваіх агентаў, якія часта даносілі на асоб са свайго непасрэднага атачэння, кіруючыся меркантыльнымі інтарэсамі[2]. Менавіта канфідэнт вызначаў, з’яўляецца тая ці іншая асоба падазронай у антыдзяржаўнай дзейнасці ці не[3]. Парадаксальным чынам, з аднаго боку, службы бяспекі разам з падуладнай ім сеткай інфарматараў усяляк знішчалі варожыя да дзяржавы арганізацыі, а з другога боку, яны часам стваралі вобразы неіснуючых ці значна перабольшаных пагроз[4]. Нічога дзіўнага, што тыя ж вайсковыя ўлады вельмі крытычна ставіліся да высноў службы бяспекі, небеспадстаўна мяркуючы, што паліцыя занадта пранікласяя «атмасферай дыверсіі» і некрытычна ставіцца да данясенняў канфідэнтаў[5].

Інстытут канфідэнтаў дэманстраваў не толькі кампетэнцыю ўлады, з часам ён ператварыўся ў адзін з яе галоўных сімвалаў. Больш за тое, вядомы польскі антраполаг Юзаф Абрэмбскі звяртаў увагу на тое, што практыка даносаў у палескай вёсцы фактычна сталася спробай адаптацыі пануючай сістэмы паліцэйскага кантролю да патрэб традыцыйнага грамадства! У нейкім сэнсе яна замяніла такія магічныя спосабы помсты пры вырашэнні канфліктаў і антаганізмаў, як, напрыклад, чараўніцтва[6].

З іншага боку, актыўная інфільтрацыя дзяржавай выклікала негатыўную рэакцыю з боку часткі грамадства. Напрыклад, школьны інспектар Баранавіцкага пав. у прыватнай размове з кіраўніком мясцовай паліцыі выказаў пажаданне, каб за настаўнікамі не сачылі без ягонага ведама, бо «настаўнік, нават калі ён праваслаўнага веравызнання, вучыць польскіх дзяцей»[7].

Аднак, напэўна, самым небяспечным ворагам для канфідэнта было камуністычнае падполле. Першапачаткова кіраўніцтва Камуністычнай партыі Поль-

[1] Śleszynski W., *Bezpieczeństwo wewnętrzne w polityce państwa polskiego na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej*, Warszawa 2007, s. 315.

[2] Mironowicz E., *Rola konfidentów...*, s. 126.

[3] Тамсама, s. 126.

[4] Тамсама, s. 127.

[5] Cichoracki P., *Komuniści na Polesiu...*, s. 145.

[6] Obrębski J., *Polesie*, Warszawa 2007, s. 525–526.

[7] ДАГВ. Ф. 662, воп. 3, спр. 9, арк. 78.

шчы (КПП), а разам з ім і кіраўнікі КПЗБ, выступала супраць індывідуальнага тэрору, абмяжоўваючыся выключэннем дзеячаў, што сябе дыскрэдытавалі, з ліку сяброў партыі. Але ўжо ў сярэдзіне 1920-х гг. у сувязі з выкарыстаннем польскімі службамі бяспекі агентаў для ліквідацыі канспірацыйных устаноў пашыраецца практыка г. з. «ахоўнага тэрору», якая пазней была зацверджана на партыйных канферэнцыях КПЗБ[1]. Ужо напрыканцы 1925 г. ЦК КПЗБ заклікала працоўных «самім пазбаўляцца правакатараў».

У выніку тэрыторыю ўсходніх ваяводстваў ахапіла хваля тэрору, першымі ахвярамі якой сталі прадстаўнікі валаснай адміністрацыі, ляснічыя і сельскія настаўнікі, на якіх лягло падазрэнне ў даносах[2]. Хутка гэты спіс пашырыўся аднавяскоўцамі. Так, у кастрычніку 1925 г. быў забіты канфідэнт з Косаўскага пав. Ян Гардзейка. Тады ж у Дзісненскім пав. мясцовымі актывістамі КПЗБ па падазрэнні ў супрацы з паліцыяй быў застрэлены Мікалай Івашкевіч. Ягоны забойца, сябра КПЗБ і былы актывіст Грамады Андрэй Ядзінак збег у СССР. У наступным годзе загінулі Кузьма Якубэк з Кобрынскага пав., Адам Гарадзевіч – лясны ахоўнік з Драгічынскага пав., Антон Бразоўскі – сябра Стралецкага саюза ў Драгічынскім пав. (забойца Мікалай Наумец быў асуджаны да пажыццёвага зняволення). Быў паранены солтыс в. Азёры Лунінецкага пав. і канфідэнт КОПа Ігнацы Кнап. 27 лютага 1927 г. адбыўся напад на дом канфідэнта Гладкага ў в. Кашубцы Наваградскага пав., падчас якога загінулі маці і брат інфарматара. 3 сакавіка 1927 г. у в. Матылі каля Гродна выстралам з вінтоўкі быў забіты Антоні Бжазоўскі, якога падазравалі ў даносах на мясцовых камуністаў.

У маі 1927 г. ЦК КПП выдаў агульнае распараджэнне, якім дазваляў мясцовым камітэтам партыі выносіць смяротныя прысуды канфідэнтам паліцыі. Іх выкананне даручалася дружынам партыйнай самаабароны. У выніку колькасць выпадкаў тэрору супраць агентаў значна павялічылася. Прычым падпольны камуністычны друк шырока асвятляў некаторыя выпадкі, намагаючыся надаць ім выгляд сацыяльнай помсты і рэвалюцыйнага парадку. Напрыклад, апісвалася дамова жыхароў вёсак збіваць і тэрарызаваць канфідэнтаў у суседняй вёсцы[3].

Толькі на тэрыторыі Віленскай судовай акругі польская пракуратура зафіксавала каля дзясятка забойстваў па палітычных матывах, здзейсненых мясцовымі дзеячамі КПЗБ у адносінах да агентаў і правакатараў. 7 лютага 1928 г. у Вільні нейкім Перавозкіным быў забіты дэпутат камуністычнага выбарчага спіса № 13 Нота Ізраель Шварцайг, якога партыйныя калегі падазравалі

---

1 Тамсама. Ф. 52, воп. 2, спр. 267. Уголовное дело по обвинению Дудика Юльяна, Карпюка Владимира, Цвонюка Владимира и др. в коммунистической деятельности и убийстве…, арк. 103–113 адв.

2 Клейн Б., *За дело правое…*, с. 32.

3 ДАГВ. Ф. 52, воп. 2, спр. 267, арк. 103–113 адв.

ў правакацыйнай дзейнасці. 16 сакавіка загінуў былы сябра падпольнага кіраўніцтва КПЗБ і сведка па справе Грамады Міхаіл Гурын, якога па рашэнні партыйнага суда застрэліў С. Клінцэвіч (два гады таму ўжо была здзейснена няўдалая спроба забойства М. Гурына). У лістападзе загінуў жыхар Шыдлоўскай гміны Слонімскага пав. Канстанцін Мароз. 13 мая 1931 г. у Вільні сябрамі мясцовай камсамольскай ячэйкі быў забіты Шлома Марголіс. 10 мая 1934 г. у весцы Асіповічы Казлоўскай гміны Вілейскага пав. таксама па прыгаворы суда КПЗБ быў забіты з-за падазрэння ў сувязях з паліцыяй Аляксандр Субач. Забойцамі, паводле следчай справы, аказаліся мясцовыя камуністы. У Дзісненскам павеце ад рук камуністычнага падполля загінуў селянін з вёскі Сцяжкі Нікадзім Івашкевіч.

Акрамя таго былі спробы забойства «правакатараў» Балоха ў Вільні і Сліся ў Валожынскім пав. У канцы 1931 г. быў забіты канфідэнт Дарашкевіч у Гарадзечанскай гміне Наваградскага пав. Пазней двум забойцам, Яну Бахару і Уладзіміру Стасевічу, былі вынесены смяротныя прысуды. У тым жа годзе невядомыя спалілі дом канфідэнта Базыля Тура ў мяст. Нягневічы. 31 студзеня 1932 г. сябрамі мясцовай камуністычнай самаахловы выстралам праз акно быў цяжка паранены жыхар в. Асташын Любчанскай гміны Наваградскага пав. Ян Сільвановіч.

На Палессі, як паведамляла камуністычная прэса, адбыліся акты помсты ў вёсках Лушчыцы і Рачкі каля Брэста, а таксама ў Жабінцы. 13 жніўня 1931 г. у в. Новы Двор Пінскага пав. аднавяскоўцам быў забіты выстралам з нагана Тарас Бязручка, якога забойца падазраваў у даносе на яго ў паліцыю. У ноч з 5 на 6 красавіка 1932 г. спрабавалі застрэліць нейкага Мікіфара Ваеўніка з в. Асташын Любчанскай гміны, якога мясцовыя камуністы падазравалі ў сувязях з паліцыяй. У ноч з 25 на 26 верасня 1932 г. зноў жа выстралам праз акно быў забіты Антон Шарэйка з в. Сеняжыцы Райчанскай гміны Наваградскага пав. Прыкладна тады ж адбылася няўдалая спроба забойства іншага агента – Яна Трусевіча з в. Палоннай Гарадзечанскай гміны.

Часам падазраваных у супрацоўніцтве проста цяжка збівалі, як, напрыклад, Трафіма Талерчыка з в. Талкоўшчына ў 1932 г. У кастрычніку таго ж года камуністычнай самаабаронай у Гродне быў забіты Лаўлер Шмелер[1]. У большасці выпадкаў забойцы атрымлівалі пажыццёвае зняволенне або смяротнае пакаранне[2].

Варта таксама ўзгадаць постаць Сяргея Прытыцкага, які ў студзені 1936 г. у зале Віленскага акругова суда страляў у канфідэнта паліцыі Якава Страль-

1 Тамсама, спр. 175. Уголовное дело по обвинению Букштельского Хацкеля, Суховлянского Менделя и др. в коммунистической деятельности и убийстве…, арк. 1.

2 Тамсама, спр. 7. Уголовное дело по обвинению Вагося Петра в коммунистической деятельности и убийстве…, т. 1, арк. 165–165 адв., 167, 168.

чука, што выступаў сведкам па справе камуністычнага падполля[1]. Невыпадкова ў сваім звароце да апеляцыйнага суда гродзенскі пракурор перасцерагаў наконт камуністычнага тэрору, накіраванага на «застрашэнне дзяржаўных інстытутаў, якія змагаюцца з камуністамі, а таксама асоб, якія супрацоўнічаюць з гэтымі інстытутамі [ ... ], каб паралізаваць дзейнасць дзяржаўных улад»[2].

Выраз «правакатары і здраднікі» на мове камуністычнай прапаганды фактычна датычыў кожнага сябра КПЗБ, які ўхіляўся ад актыўнай палітычнай працы. У 1935 г., напрыклад, у Кобрынскім пав. паўстала своеасаблівая канспіратыўная «ЧэКа». Гэта была баявая камуністычная арганізацыя, якая актыўна выкарыстоўвала тэрор у адносінах да аднавяскоўцаў, якіх падазравалі ў супрацы з уладай. Між іншым «канфідэнтам» ламалі ногі і адразалі вушы[3].

Нават у данясеннях канфідэнтаў сустракаюцца сведчанні ўзаемнага недаверу і падазрэнняў у асяроддзі камуністычнага падполля. Той жа агент Чорны паведамляў, што «камуніст з суседняй вёскі» засцерагаў яго ад кантактаў з «яўрэем Шломай з Баранавіч», бо той – канфідэнт[4]. Верагодна, гаворка ішла пра агента Шлому – Шлому Вайсенберга. Ён жа вядомы як агент Рыжы, які быў канфідэнтам павятовай паліцыі ў Навагрудку, а пазней у Баранавічах[5]. Іншы сябра ячэйкі КПЗБ з в. Гарадзішча папярэджваў таго ж Чорнага не ўваходзіць у кантакт з сябрамі ячэйкі з суседняй гміны, бо там «амаль усе сябры партыі – агенты»[6]. Чорны нават атрымаў заданне распаўсюдзіць сярод партыйцаў яго вёскі інфармацыю аб тым, што нейкі Спірыдон Купцэвіч з в. Касмінаўцы – канфідэнт[7].

З часам сітуацыя толькі пагоршылася. У 1938 г. Чорны перадаў паліцыі інфармацыю аб тым, што «камуністы ў Іўі не жадаюць кантактаваць з камуністамі ў Лідзе і павеце, бо там шмат правакатараў», а «старыя, вядомыя паліцыі камуністы атрымалі ад свайго кіраўніцтва загад пазбягаць кантактаў з маладымі партыйцамі і кандыдатамі»[8].

Той факт, што КПП і яе нацыянальныя адгалінаванні былі ўрэшце скасаваны па загаду з Масквы, можна аднесці да эфектыўнай дзейнасці польскіх

---

1 Борисенок Ю., *Железный человек Притыцкий* // «Родина» 2019, № 10, с. 101–102.

2 ДАГВ. Ф. 52, воп. 1, спр. 176, арк. 112–112 адв.

3 Cichoracki P., *Komuniści na Polesiu...*, s. 203–205.

4 ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 3 адв.

5 Тамсама, спр. 18. Письмо поветового коменданта в Барановичах о возможности использования в качестве конфидента Вайсенберга Шлемы..., арк. 2, 3.

6 Тамсама, спр. 53, арк. 8.

7 Тамсама, арк. 3 адв., 11.

8 Тамсама, арк. 21, 175.

спецслужбаў. Аднак пасля ліквідацыі ўнутранага ворага Польшча сама стала ахвярай знешняй агрэсіі.

Заняцце паўночна-ўсходніх ваяводстваў Польшчы Чырвонай арміяй стварыла смяротную небяспеку для канфідэнтаў, прычым як наяўных, так і былых. Алена Лужыс, як і сотні іншых былых інфарматараў польскай службы бяспекі, сутыкнулася з новым выклікам – зменай дзяржаўнай улады.

Ужо ў кастрычніку 1939 г., паводле аператыўных зводак НКУС, з агульнай лічбы больш чым 4 тыс. арыштаваных каля тысячы складалі былыя «агенты і правакатары»[1]. Так, у Ваўкавыску 27 верасня 1939 г. быў арыштаваны Арсені Латунь, які на допыце паказаў, што з 1934 па 1935 г. з'яўляўся сакратаром Ваўкавыскай гарадской арганізацыі КПЗБ, у 1936 г. быў арыштаваны польскай паліцыяй і выдаў трох сяброў партыі, урэшце быў завербаваны ў агенты паліцыі пад мянушкай Карскі[2]. Я. Зянчук пасля арышту прызнаўся, што з'яўляўся агентам дэфензівы пад мянушкай Дамброўскі і выдаў чатырох сяброў партыі, у т. л. свайго брата[3].

У Беластоку быў затрыманы канфідэнт Токар (Зыгмунт Заёнц), былы сябра гарадскога камітэта КПЗБ. У 1937 г. беластоцкая паліцыя на падставе ягоных данясенняў арыштавала ўсіх членаў гарадскога камітэта партыі і пачала разгром усёй партыйнай арганізацыі. Арыштаваны Лідскай апергрупай Мар'ян Манінін не толькі прызнаў сваё супрацоўніцтва з польскай выведкай, але таксама назваў імёны пяці рэзідэнтаў, якія дзейнічалі ў горадзе[4]. Столькі ж агентаў назваў на допыце былы паліцэйскі з Нясвіжа Б. Адамовіч. Канфідэнтка са Слоніма С. Манькоўская прыгадала прозвішчы чатырох вядомых ёй правакатараў[5]. Былы супрацоўнік Брэсцкай экспазітуры Юзаф Качмарын назваў падчас следства імёны 27 афіцыйных супрацоўнікаў дэфензівы і 11 агентаў. Былы агент польскай контрвыведкі ў Пінску Міхаіл Навакоўскі выдаў 13 інфарматараў[6].

Выключную ролю ў гэтых арыштах адыгралі службовыя архівы паліцыі, жандармерыі, памежнай службы і II аддзела Генштаба, якія новая ўлада пасталалася захапіць у першую чаргу. Характэрна, што савецкія органы бяспекі актыўна карысталіся паслугамі ўласных агентаў. Напрыклад, савецкі інфарматар Маісееў паведаміў, што ў Беластоку пражывае «буйны правакатар» Іван Гры-

1 *НКВД в Западной Беларусі, сентябрь – декабрь 1939 г.: документы и материалы*, сост. В. Д. Селеменев, А. Р Дюков и др., Минск – Москва, 2019, с. 164–165.

2 Тамсама, с. 38.

3 Тамсама, с. 95.

4 Тамсама, с. 105.

5 Тамсама, с. 139–140.

6 Тамсама, с. 175.

гарук, які быццам выдаў паліцыі каля 500 сяброў КПЗБ і ўдзельнічаў у якасці сведкі ў пяці судовых працэсах[1].

Тым не менш амаль адразу пасля ўсталявання новай улады Алена Лужыс пачала шукаць месца службы ўжо ў савецкіх установах. Захаваліся яе заявы, пададзеныя ў лідскую ашчадную касу, паштовае аддзяленне і на чыгунку, а ў далучаных аўтабіяграфіях на расійскай мове былая агентка згадвала сялянскае паходжанне. У выніку на кароткі час яна ўладкавалася санітаркай у мясцовы шпіталь (па іншых звестках – санітаркай у службу хуткай дапамогі). 7 верасня 1940 г. Лідскі аддзел НКУС на падставе прадстаўленых дакументаў польскай паліцыі абвясціў яе ў вышук. Цікава, што ў савецкіх органаў бяспекі не атрымалася хутка знайсці былую канфідэнтку. Алена Лужыс была арыштавана толькі 3 лютага (па матэрыялах судовай справы – 28 лютага) 1941 г.[2] Увесь гэты час яна заставалася ў горадзе. Праз два месяцы, 28 мая 1941 г. жанчына была асуджана на 5 гадоў. У судовай справе яна фігуравала як «беларуска»[3].

Далейшы лёс былога канфідэнта ўпісаны ўсяго ў дзве вядомыя нам даты. Так, 6 снежня 1989 г. Алена Лужыс была рэабілітавана пракуратурай Гродзенскага абласнога суда[4]. Другая дата – 6 красавіка 1998 г. – пазначана на яе магіле ў мяст. Пінчата (Pinczata) каля Влацлаўка. На электроннай старонцы насупраць яе прозвішча стаіць нацыянальнасць – «полька»[5].

Цяжка сказаць, ці сапраўды Алена Лужыс змяніла нацыянальную самаідэнтыфікацыю. Аднак відавочна, што супраца з Польскай дзяржавай мела для яе лёсавызначальны характар.

Выпадак А. Лужыс не толькі ілюструе асаблівасці працы канфідэнта польскіх службаў бяспекі на этнічна няпольскіх тэрыторыях паўночна-ўсходніх ваяводстваў. Дзякуючы яму мы можам бліжэй прыглядзецца да самой постаці агента, звычайна недасяжнай для даследчыка. Яна адначасова тыповая і ўнікальная. Унікальнасць у тым, што архіўныя крыніцы дазволілі нам прасачыць большую частку біяграфіі асобы, якая выконвала ролю інфарматара, і зафіксаваць момант пераўтварэння сацыяльнага маргінала («даносчыка») у дзяржаўнага служачага.

---

1 Тамсама, с. 116.

2 ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 56, арк. 62–74.

3 Архіўная справа УКДБ па Гродзенскай вобл. П-11238 [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://ru.openlist.wiki/Лужис_Елена_Матвеевна_(1908). Дата доступу: 27.01.2021.

4 Тамсама.

5 Time end note [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://timenote.info/pl/Helena-Luzys. Дата доступу: 27.01.2021].

© HOMO HISTORICUS 2022
ISSN 2424-5216

# ЛІДСКІЯ КАМУНІСТЫ Ў ДАНЯСЕННЯХ КАНФІДЭНТА ЧОРНАГА (1932–1937)

*Леанід Лаўрэш (Ліда)*

***Summary***

*Grounded on archive documents, the article examines the activity of a Polish secret agent with the nickname Chorny («the Black») in the cell of the Communist Party of Western Belarus in the town of Lida. Reports of the Polish agent nicknamed Chorny during 1932-1937 refer to the activity of Lida Communist Party of Western Belarus and allow both to identify actual influence of the communist party on the town life and to assess the efficiency of the agent's work. Chorny enjoyed the confidence of Lida communists. Study of Chorny's reports shows that the main activity of Lida communists was to maintain the organization and to help their arrested and imprisoned members. The organisation's work was basically limited to political discussions and reading of party literature. Unfortunately, it is impossible to reveal the real name of the agent Chorny from the archive materials.*

Данясенні агента польскай паліцыі па мянушцы Чорны за 1932–1937 гг. датычаць дзейнасці Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ) у г. Ліда і дазваляюць як вызначыць рэальныя ўплывы камуністаў у жыцці горада, так і даць ацэнку эфектыўнасці працы канфідэнта.

Артыкул абапіраецца на даклады канфідэнта паліцыі, вядомага пад псеўданімам Чорны. Яго асабістая справа захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Гродзенскай вобл. На вокладцы пазначана, што агентам быў Мікалай Ляўковіч. У справе насамрэч прысутнічаюць асабістыя паперы Ляўковіча Мікалая Пятровіча, 1907 г. нар., завербаванага 27 кастрычніка 1930 г. Але атрымалася высветліць, што яшчэ ў чэрвені

1931 г. ён уцёк у СССР[1], дзе працаваў шафёрам на Ірбіцкім металургічным камбінаце ў Свярдлоўскай вобл. 12 кастрычніка 1937 г. Мікалай Ляўковіч быў арыштаваны органамі НКУС, асуджаны і расстраляны 21 лістапада 1937 г.[2] Такім чынам, ён не мог быць канфідэнтам Чорным. Згаданая архіўная справа Чорнага пачынаецца якраз з інфармацыі пра камуніста Мікалая Ляўковіча і яго атачэнне ў Баранавіцкім пав. Відавочна, мела месца памылка кагосьці з паліцэйскіх чыноў, які далучыў уліковую картачку канфідэнта Ляўковіча пасля яго ўцёкаў у СССР да асабістай справы Чорнага. Заўважу таксама, што ў паведамленнях Чорнага маюцца вялікія пропускі, якія звычайна супадаюць з арыштамі камуністаў. Магчыма, нехта ў свой час выняў гэтыя даносы Чорнага са справы.

## *Лідскія камуністы ў* 1932–1934 гг.

У 1931 г. камуністычная арганізацыя ў Лідзе была разгромлена ўжо ў трэці раз. Аднак камуністы здолелі аднавіць дзейнасць.

З паведамленняў Чорнага бачна, што ў 1932 г. сярод сяброў КПЗБ асаблівай актыўнасцю вылучаўся Абрам Любецкі. Сустрэчы з партыйцамі ён праводзіў падчас шпацыраў па горадзе. Таксама сустракаўся з імі ў будынку пажарнай аховы або ў сінагозе. Так, раніцай 29 лістапада 1932 г. менавіта ў сінагозе камуністычны актыў сустрэўся з Раймондам Урбановічам (акрамя Любецкага там быў яшчэ Хаім Дубчанскі і Мардух Айзікавіч). Дубчанскі назваў Урбановіча «сваім хлопцам», бо той некалі ўжо працаваў у кампартыі і паведаміў, што Урбановіч будзе патрэбны дзеля стварэння ў Лідзе «гарадскога камітэта [камуністаў – Л. Л.] хрысціян». Такі камітэт не быў створаны, але ідэя яго арганізацыі выказвалася і пазней.

Пасля таго, як сустрэча закончылася і Урбановіч сышоў, Любецкі прызнаўся Айзіковічу, што апасаецца арышту, бо яго ведае паліцыя. Каб не страціць новага для партыі чалавека, ён абяцаў скантактаваць Айзіковіча з селянінам з вёскі Бенявічы. Таксама Любецкі паведаміў, што ў рамеснай школе ў Лідзе ёсць хлопец з тых жа Бенявічаў, якога можна выкарыстаць для працы ў вёсцы[3]. Праз 5 месяцаў Чорны даведаўся, што хлопца з вёскі Бенявічы Дакудаўскай гміны завуць Аркадзь Казлоў і ён вучыцца ў 3-м класе Гандлёвай школы[4].

---

[1] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобл. (ДАГВ). Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 2. Донесения конфидента полиции «Черный» (Левкович Николай Петрович) о деятельности членов организации КПЗБ в городе Лида, Лидском повете и других местах, переписка по данным вопросам.

[2] База дадзеных «Ахвяры палітычнага тэрору ў СССР» Міжнароднага гісторыка-асветнага таварыства «Мемарыял». [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://base.memo.ru/person/show/2080220. Дата доступу: 07.07.2021.

[3] ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 12.

[4] Тамсама, арк. 20 адв.

4 снежня 1932 г. каля 21-й гадзіны ў памяшканні пажарнай аховы па вул. Сувальскай сабраўся партыйны актыў. Камуніст Пайкоўскі выказаўся крытычна адносна Урбановіча: «Што да пытання прыняцця Урбановіча ў кампартыю, дык трэба захоўваць асцярожнасць, бо ён прафесійны жлукта, а выпіўшы, можа ўсё разбалтаць»[1].

Трэба сказаць, што ў памяшканні лідскай пажарнай аховы камуністы збіраліся рэгулярна. Сярод актывістаў КПЗБ у Лідзе было два Абрамы Гельманы. Адзін з іх знаходзіўся ў шэрагах пажарнай аховы Ліды і пасля Другой сусветнай вайны напісаў цікавыя ўспаміны пра пажарную справу ў горадзе[2]. Таксама частым месцам сустрэч камуністаў з'яўляўся гарадскі рынак. Так, 28 лістапада 1932 г. на рынку сустракаліся Мардух Айзікавіч, Хаім Дубчанскі і Хаім Каплан. Падчас сустрэчы Каплан заўважыў, што ўся праца МОПР[3] па зборы грошай спынілася, бо ў Стоўбцах арыштаваны кур'ер з СССР[4].

У канцы лістапада 1933 г. Чорны паведаміў паліцыі спіс сяброў гарадскога камітэта КПЗБ у Лідзе. У склад камітэта ўваходзілі Лейба Разенштайн, Мойша Рафэл, яго брат Бэрка (былы сакратар ячэйкі КЗМЗБ, які ў 1930 г. быў арыштаваны і асуджаны)[5]. Таксама Чорны даносіў, што ў канцы 1932 г. Хаім Каплан па партыйных справах ездзіў у Вільню[6]. Праз некалькі тыдняў канфідэнт даведаўся, што ён быў пасланы ў Вільню Любецкім па грошы для вязняў[7].

На пачатку красавіка 1933 г. канфідэнт інфармаваў, што пасля судовага прысуду па справе Абрама Гельмана (1931) сярод камуністаў горада пануе ўзаемны недавер, а з партыйнай працы застаўся толькі збор грошай на МОПР[8].

Назіранне Чорнага пацвердзілася на партыйным сходзе, які адбыўся вечарам 16 красавіка 1933 г. на кватэры ў Разенштайна. На ім Любецкі паведаміў камуністам, што да гэтага часу не мае кантактаў з кіраўніцтвам Віленскай акругі КПЗБ (далей: Акруга) і прапанаваў не рабіць ніякіх палітычных мерапрыемстваў падчас святкавання 1 Мая, бо за вывешаны транспарант ці за ўлётку трэба плаціць гадамі вязніцы. Ён таксама паведаміў, што Акруга мае непасрэдныя кан-

---

1 Тамсама, арк. 12 адв.

2 Лаўрэш Л., *Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900–1939 гг.* Гродна, 2017, с. 425–426; *Sefer Lida. Former residents of Lida in Israel and the Committee of Lida Jews in USA*. Tel-Aviv. 1970, p. 192–193.

3 Международная организация помощи революционерам (рус.).

4 ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 13.

5 Тамсама, арк. 18.

6 Тамсама, арк. 14.

7 Тамсама, арк. 16.

8 Тамсама, арк. 21.

такты з камуністамі ды іх прыхільнікамі ў вёсцы, і там могуць адбыцца пэўныя палітычныя падзеі без ведама гарадскога камітэта[1] (далей: ГК).

Дзеля аднаўлення кантактаў з Вільняй 3–4 мая 1933 г. туды ездзіў Разенштайн[2]. 14 мая партыйны актыў сабраўся вечарам на рынку і канстатаваў, што пасля аднаўлення кантактаў з Акругай камуністы ў Лідзе павінны актывізаваць працу. Дзеля гэтага ў Ліду «прыязджала нейкая вельмі прыстойная студэнтка-яўрэйка. Яна жыла ва ўладальніка піўной, што на перасячэнні вул. Сувальскай і Крупаўскай, Рэцькі. Яўрэйка мела псеўданім Шкляр». Камуністы планавалі правесці шэраг акцый у Лідзе і ў павеце»[3].

Кантакты з віленскім кіраўніцтвам працягваліся. 21 мая партыйны сход адбыўся падчас шпацыру па вул. Сувальскай. Паводле Чорнага, спачатку сустрэліся Мардух Айзікавіч і Абрам Любецкі, а потым да іх далучыўся яўрэй гадоў 24–25, якога Любецкі прадставіў як партыйца з Вільні. Любецкі пад руку з госцем накіраваліся ў бок пошты. Айзікавіч ішоў за імі. Каля пошты Любецкі і партыец з Вільні развіталіся, і лідзяне пайшлі ў бок Пастаўскай вул.[4].

На вечаровым сходзе 24 мая на рынку Любецкі меў добры настрой і паведаміў калегам, што праца сапраўды значна актывізавалася. Любецкі прапанаваў Айзікавічу заняцца партыйнай тэхнікай і спытаў, ці мае Айзікавіч месца, дзе можна было б схаваць партыйную літаратуру. Чорны ў сваёй інфармацыі заўважыў, што Айзікавіч жыве ў «яўрэйскай бажніцы».

У чэрвені 1933 г. лідскія камуністы даведаліся, што ў Воранаве створаны камітэт КПЗБ, у склад якога ўваходзіць сястра Груні Троцкай. Груня ў свой час атрымала 6 гадоў вязніцы за камуністычную дзейнасць. Яна мела кантакт з Любецкім і павінна была прыехаць у Ліду[5].

Падобна, што размовы пра актывізацыю працы так і засталіся толькі размовамі. Каб нечым напоўніць свае даклады, Чорны паведамляў, што Любецкі «імкнецца знаходзіцца сярод тых жыхароў Ліды, якія лаяльна ставяцца да дзяржавы»[6]. Ён, дарэчы, быў актывістам яўрэйскага спартыўнага клуба і выкарыстоўваў выезды на спаборніцтвы для партыйнай працы. Чорны таксама інфармаваў, што на пачатку жніўня Любецкі кантактаваў са «студэнтам, які жыве ў Лідзе (прозвішча невядома, бландзін), і ўжо тыдзень працуе ў аптэцы Стукатара. Гэты студэнт у 1929 г. чытаў даклады ў яўрэйскіх прафсаюзах

---

1 Тамсама, арк. 22.

2 Тамсама, арк. 22.

3 Тамсама, арк. 24.

4 Тамсама, арк. 25.

5 Тамсама, арк. 26.

6 Тамсама, арк. 28.

і належаў да камсамольцаў[1]. Праз некалькі дзён Чорны яшчэ раз паведаміў пра студэнта з аптэкі Стукатара. Гэта быў Рафал Сахін.

Наступны сход адбыўся 2 верасня 1933 г. у памяшканні пажарнай аховы. Хтосьці з прысутных прапанаваў да Міжнароднага дня моладзі падрыхтаваць рукапісныя адозвы і расклеіць іх па горадзе. Асцярожны Любецкі не пагадзіўся: «Гэта нам нічога акрамя вязніцы не дасць». Адкінуў Любецкі і прапанову знайсці сталае памяшканне для партыйнай працы. Магчыма, ён нешта ведаў пра планы паліцыі, бо нават прапанаваў камуністам на нейкі час наогул прыпыніць партыйную працу. У верасні адбылося яшчэ некалькі сходаў у цырульні Лейбы Разенштайна і ў кватэры Ёселя Бляховіча (вул. 3 Мая, 35), але пра іх вынікі канфідэнт не паведамляў, бо, пэўна, не меў інфармацыі.

З паведамленняў Чорнага даведваемся, што камуністы адчувалі небяспеку і нават адсунулі ранейшых актывістаў ад партыйнай працы. 27 студзеня 1934 г. падчас шпацыру па вул. Мілоснай прайшоў сход, на якім быў абраны новы ГК КПЗБ Ліды ў наступным складзе: Абрам Ваўкавыскі, Іцка Валоцкі, Двейра Сасноўская, Мардух Каброўскі і Цадзік Іцэксан. Функцыі гэтых новых асоб яшчэ не былі вызначаны, але кантакт з Акругай у Вільні павінен быў падтрымліваць Абрам Ваўкавыскі[2].

Далей у даносах Чорнага маецца пустка. Паведамленне № 5/1/34 паліцыя атрымала 3 лютага, а № 5/2/34 – толькі 1 сакавіка 1934 г. З даносу даведваемся, што новыя сябры ГК пачалі падазраваць у супрацы з паліцыяй Мардуха Айзікавіча, які па даручэнні Любецкага быў тэхнікам Камітэта. Падчас сустрэчы Любецкага з Айзікавічам 18 лютага 1934 г. на вул. Сувальскай Любецкі прапанаваў апошняму працаваць толькі ў МОПР, але той адмовіўся, бо лічыў неабходным «ачысціцца перад партыяй» ад падазрэнняў. Любецкі заўважыў, што на падазрэнні не трэба звяртаць увагі, а асабіста ён давярае Айзікавічу[3]. Пазней Любецкі сустрэўся з сынам вядомага лідскага друкара Шлёмам Зяльдовічам і Эльяшам Шапірам, якія былі студэнтамі Універсітэта Стэфана Баторыя. Утрох яны каля гадзіны шпацыравалі па вул. Сувальскай.

Вечарам таго ж дня Любецкі сустрэўся з Іцкам Валоцкім і працяглы час размаўляў з ім. Сустрэча адбылася на вул. Чырвонай. Гэта была вельмі кароткая (не болей за 50 м) і вузкая вуліца, дзе камуністы лічылі сябе ў поўнай бяспецы, бо візуальна кантралявалі ўсё наваколле. Тым не менш Чорны здолеў і тут прасачыць за імі.

У тым жа паведамленні ў паліцыю канфідэнт інфармаваў, што Хана-Бейля Платоўская з Васілішак паведаміла Мардуху Айзікавічу, што «калі яе яшчэ

---

[1] Тамсама, арк. 29.

[2] ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 36.

[3] Тамсама, арк. 37.

раз затрымае паліцыя, яна выдасць усіх васілішскіх камуністаў. У партыі ёй абвясцілі байкот»[1].

Наступнае паведамленне № 5/3/34 канфідэнта датавана 2 чэрвеня 1934 г. Чорны паведаміў, што актыў КПЗБ збіраўся ў лесе за вёскай Раслякі каля Ліды. Гаворка ішла пра канспірацыю. Член ГК Цадзік Іцэксан заявіў прысутным: «Мы яшчэ не пачалі партыйную працу, а паліцыя ўжо ўсё ведае». Пра крыніцу сваёй інфармацыі ён не сказаў, але паведаміў, што хутка пачнуцца арышты. Таксама запэўніў, што падчас допытаў ён нічога не скажа, не будзе канфідэнтам і папярэдзіў прысутных супраць сустрэч на вуліцы[2].

Камуністы даведаліся, што партыйныя нарады падчас шпацыраў па вуліцах не выратоўваюць іх ад паліцэйскага вока. Верагодна, мела месца нейкая ўцечка інфармацыі з боку ўлад. Даносы Чорнага друкаваліся ў некалькіх асобніках і высылаліся ў пракуратуру і ў ваяводскі следчы аддзел паліцыі.

У тым жа паведамленні № 5/3/34 Чорны інфармаваў, што ў сувязях з паліцыяй пачалі падазраваць Мардуха Каброўскага, які насамрэч не быў канфідэнтам. Пра гэта на паведамленні Чорнага напісаў начальнік лідскага следчага аддзела. Пасля гэтай сустрэчы, як паведаміў Чорны, многія выехалі з Ліды. Іцэксан выехаў у Вільню, але таксама былі чуткі, што ён перайшоў мяжу з СССР. Абрам Любецкі – у Воранава або ў Вільню. Разенштайн – у Вільню[3].

Далей зноў быў перапынак у дакладах. Наступнае паведамленне канфідэнта (№ 5/4/34) датавана 25 ліпеня 1934 г. З яго даведваемся, што Абрам Любецкі насамрэч уцёк у СССР. Сёння мы ведаем, што Абрам Любецкі (сын Гірша, 1885 г. нар.), у 1936 г. быў арыштаваны ў Растове-на-Доне за «антысавецкую агітацыю», 7 красавіка 1938 г. быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання і расстраляны праз тыдзень[4]. Стандартны лёс усіх, хто ў той час збег на «Радзіму сусветнага пралетарыяту».

Трэба заўважыць, што папярэджаная Чорным паліцыя ў той момант не праводзіла арыштаў, і сярод актывістаў пашырылася меркаванне, што менавіта Іцэксан быў правакатарам, які разваліў усю партыйную працу. Між тым Абрам Ваўкавыскі аднавіў кантакты з Віленскай акругай КПЗБ. Аднак, як паведамляў Чорны, баяўся распачынаць партыйную працу, сцвярджаючы, што «калі Іцэксан быў правакатарам, дык зараз нікому нельга верыць»[5].

---

1 Тамсама.

2 Тамсама, арк. 38.

3 Тамсама.

4 Варта дадаць, што ён быў рэабілітаваны ў 1964 г. Гл.: База дадзеных «Ахвяры палітычнага тэрору ў СССР» Міжнароднага гісторыка-асветнага таварыства «Мемарыял». [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://base.memo.ru/person/show/1454229. Дата доступу: 07.07.2021.

5 ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 39.

Пасля гэтага ў тэчцы канфідэнта Чорнага на працягу 1,5 гадоў адсутнічаюць даносы. Магчыма, яны былі выняты са справы.

## *«Лідская рэвалюцыя»*

Агульнагарадскі страйк 1936 г., які гараджане называлі «рэвалюцыяй», я падрабязна апісаў у кнізе Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. *1900–1939 гг.* (Гродна, 2017). Данясенні канфідэнта дадаюць новую інфармацыю пра тыя падзеі.

Акцыянернае таварыства гумовай вытворчасці «Ардаль» па вул. Фабрычнай, 8 было найвялікшым прамысловым прадпрыемствам горада. Слова «ардаль» на ідыш азначае «боты, галёшы». Фабрыка «Ардаль» сапраўды выраблала зімовы і летні гумовы абутак. Першая прадукцыя была выпушчана ў 1929 г. Акцыянерны капітал, які ў тым годзе складаў 750 тыс. злотых, у 1939 г. павялічыўся да 1 830 тыс. злотых.

У беларускай газеце «Наша воля» сітуацыя на гэтым прадпрыемстве апісвалася наступным чынам: «800 работнікаў, пераважна работніц, маладых дзяўчат. Многа малалетніх, ад 15 гадоў. Працуюць усе «на акорд» (здзельная аплата працы – Л. Л.). А 12-й гадзіне абед. Ніхто не мае часу памыць рукі, грызуць чэрствы хлеб, стоячы пры варштатах працы. Работніцы зарабляюць ад 1 зл[отага] 30 гр[ошаў] на дзень. Але варта адзначыць, што пакуль дойдзе да такой аплаты, то кожная мусіць папрацаваць 2 тыдні толькі за 30 гр. на дзень, другія два – па 50 гр., трэція – па 80 гр. Работнікі зарабляюць па 2 зл., а некаторыя па 2 зл. 50 гр. Палавіна работнікаў і работніц ужо хворыя, другая палавіна мае пачаткі хваробы. Выгляд твараў як у сухотнікаў. Да гэтага часу яны не былі арганізаваны. Фабрыкант штодня адных выкідаў на вуліцу, а другіх з яе набіраў, і за цяжкую працу плаціў колькі хацеў»[1].

Нядзіўна, што напрыканцы 1935 г. на фабрыцы выбухнуў страйк. Непасрэдныя прычыны страйку карэспандэнт віленскай газеты «Słowo», якая пільна сачыла за сітуацыяй на фабрыцы, звязаў са звальненнем 70 рабочых[2]. У адказ кіраўніцтва прафсаюза рабочых хімічнай прамысловасці 30 снежня 1935 г. вывела рабочых і работніц з фабрыкі і спыніла машыны. Усяго забастоўку абвясцілі 720 рабочых, якія патрабавалі павелічэння акордных выплат на 25 %. Адпаведна дзённыя заробкі мужчын павінны былі павялічыцца да 3 злотых, а жанчын – да 1 злотага 50 гр.[3]

Страйк стаў поўнай нечаканасцю для камуністычнага актыву. На сходзе 21 снежня 1935 г. у кватэры Ісака Нісялевіча сакратар ГК Гельман засяродзіў

[1] «Наша Воля». 1936, № 3(4), 4 лютага.

[2] «Słowo». 1936, Nr 60 (4267), 1 marca.

[3] «Наша воля». 1936, № 4 (5), 29 лютага.

увагу прысутных на неабходнасці ствараць камсамольскія арганізацыі моладзі. Напрыканцы сходу прысутныя збіралі грошы на МОПР[1]. Пра страйк нават гаворкі не было.

Але менавіта падчас страйку наступіў «зорны час» лідскіх камуністаў. Ужо 3 студзеня 1936 г. на кватэры Саны Гаперштэйна адбылася «канферэнцыя» з удзелам гаспадара, Абрама Арцішэўскага і «невядомай асобы яўрэйскай нацыянальнасці, высокага росту, каля 22 гадоў, худога, у рогавых акулярах і жоўтай скураной куртцы, а таксама невядомай яўрэйкі з псеўданімам Берта». Абмяркоўваўся страйк на «Ардалі». Паводле інфармацыі Чорнага, Берта нібыта прапанавала агітаваць работнікаў за правядзенне страйку, а да штрэйкбрэхераў ужываць тэрор. Страйк яна называла «рэвалюцыяй»[2].

У канцы студзеня Чорны высветліў, што Берта таксама прыязджала ў Ліду ў апошнія дні кастрычніка 1935 г. Ён сцвярджаў, што яе сапраўднае імя Ліба Дыновіч і яна дачка Бенцяна-Янкеля, 1911 г. нар.[3]

На пачатку 1936 г. сакратар ГК Абрам Гельман атрымаў ад ЦК КПЗБ прапанову ўзначаліць страйк рабочых фабрыкі «Ардаль», а таксама інструкцыі пра тактыку страйку. Гельман афіцыйна ўвайшоў у прафесійны Саюз працоўных хімічнай вытворчасці і пачаў удзельнічаць у сходах як гэтага аб'яднання, так і Саюза саюзаў (*Związek Związków Zawodowych*), аб'яднання праўладных прафсаюзаў. Ён імкнуўся пашырыць і радыкалізаваць страйк. У прыватнасці Гельман прапанаваў тэрор «у адносінах да штрэйкбрэхераў». Яго выканаўцамі павінны былі стаць рабочыя-камуністы Рафал Гершман, Абрам Каплан і Лейба Левін. Чорны даведаўся, што ўсе яны жывуць у Лідзе і раней ужо былі пакараны за камуністычную дзейнасць[4].

Зборам грошай для страйкуючых рабочых займаліся Абрам Гельман, Шлёма Рыбацкі і Янкель Гярбоўскі. Каб абмеркаваць сітуацыю, увечары 5 лютага 1936 г. у памяшканні прафесійнага Саюза працоўных хімічнай вытворчасці па вул. Школьнай сабраліся сакратар ГК Абрам Гельман, Бэр Рафэл і Рубін Сталінскі. Сталінскі прапанаваў на шапірографе надрукаваць улёткі і пералічыць у іх усіх канфідэнтаў паліцыі, што будзе эфектыўнай барацьбой з правакатарамі. Гельман лічыў, што гэтага рабіць нельга, бо будзе дрэнна для іх арганізацыі[5]. 11 лютага сакратар ГК Абрам Гельман падчас размовы на вул. Сувальскай з Лейбам Левіным і Мардухам Каброўскім прапанаваў арганi-

[1] ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 44.

[2] Тамсама, арк. 46.

[3] Тамсама, арк. 48 адв.

[4] Тамсама, арк. 48.

[5] Тамсама, арк. 49.

заваць групы па 5–7 асоб з страйкуючай моладзі і сяброў прафсаюза з «Ардаля» і правесці з імі палітычныя заняткі[1].

16 лютага сакратар ГК вярнуўся з паездкі ў Вільню, Эйшышкі і Воранава, дзе ён вёў перамовы пра дапамогу страйкуючым рабочым. Колькі грошай прывёз Гельман з Вільні і Воранава – невядома, але ў Лідзе і Эйшышках ён сабраў 33 зл.[2]

Думаю, што памеры гэтай дапамогі і суадносіліся з рэальным уплывам камуністаў на страйк. Магчыма, адчуваючы слабасць уласных пазіцый, кіраўніцтва КПЗБ у Вільні паведаміла Гельману, што партыя змяніла тактыку і будзе рабіць націск на працу ў легальных арганізацыях, дамагацца паляпшэння эканамічных і культурных умоў жыцця рабочых. Дзеля гэтага камуністы павінны арганізоўваць страйкі і збіраць дапамогу страйкуючым. Прыехаўшы з Вільні, Гельман сабраў партыйны актыў у доме Хаіма Каплана для абмеркавання новай партыйнай тактыкі.

Між тым перамовы з адміністрацыяй «Ардаля» закончыліся нічым. Да канца лютага рабочыя гуртавалі свае сілы, а 25 лютага на агульнагарадскім мітынгу, на які сабралася каля 2 тыс. чалавек, было прынята аднагалоснае рашэнне арганізаваць у горадзе 24-гадзінны ўсеагульны страйк[3].

Камуністы здолелі актывізавацца толькі калі рабочы рух ужо пачаў заціхаць. Напрыканцы сакавіка 1936 г. Абрам Гельман прапанаваў Лейбу Левіну агітаваць рабочых «Ардаля» працягваць страйк і распачаць тэрор супраць штрэйкбрэхераў. Вырашылі, што галоўная аўдыторыя для прапаганды камуністаў – асобы, раней пакараныя за камуністычную дзейнасць, і звольненыя рабочыя[4].

Інфармацыя канфідэнта Чорнага № 5/9/36 была настолькі важнай, што ён перадаў яе паліцыі 24 сакавіка 1936 г. у 1.30 ночы. Канфідэнт паведаміў, што апоўначы ў лесе за вул. Міласнай адбыўся камуністычны сход з удзелам Абрама Ваўкавыскага, Мардуха Каброўскага, Рафала Гершмана, Уладзіміра Мазя, Пятра Мазя і Ханана Лазоўскага. Ваўкавыскі пераконваў, што мэта страйкуючых рабочых – не дапусціць аднаўлення працы на фабрыцы «Ардаль». Нават калі дойдзе да крывавай сутычкі з паліцыяй, страйкоўцы не маюць права прайграць, – выказаў сваё меркаванне камуніст. Тое самае казалі і іншыя.

Мазь паведаміў, што са шклозавода «Нёман», які таксама страйкаваў, павінна прыехаць вялікая колькасць рабочых, з якіх будзе створана баявая група супраць штрэйкбрэхераў. З просьбай прыслаць дапамогу таксама звярнуліся ў Вільню.

---

1 Тамсама, арк. 50.

2 Тамсама, арк. 51.

3 «Słowo». 1936, nr 60(4267), 1 marca.

4 ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 53.

Ваўкавыскі і Уладзімір Мазь падзялілі прысутных на пікеты. Так, Пётр Мазь павінен узначаліць пікет на чыгуначным пераездзе па вул. 3 Мая, Уладзімір Мазь і Ваўкавыскі – за мостам па вул. Гражыны. Гершман, Каброўскі і Лазоўскі – на Расляках і Зарэччы. Пікеты і рабочыя патрулі павінны выйсці на свае месцы ў 4.00, самае позняе ў 4.30. А 7-й гадзіне ўсе пікеты і патрулі павінны былі сабрацца каля «Ардаля» і прымусіць штрэйкбрэхераў пакінуць фабрыку. Аналагічны сход у гэты ж час адбываўся ў іншым месцы горада пры ўдзеле сакратара ГК Абрама Гельмана і Лейбы Левіна. Чорны прысутнічаў на сходзе ў лесе за вул. Мілоснай.

Паліцыя пацвердзіла, што з 4-й гадзіны раніцы па горадзе, пераважна ў рабочых раёнах, пачалі хадзіць патрулі страйкуючых рабочых. Гершмана, братоў Мазяў ды іншых а 5-й гадзіне бачылі на пікетах у вызначаных месцах. А 7-й гадзіне патрулі пачалі сцягвацца да «Ардаля», але паліцыя не дапусціла іх да фабрыкі[1].

А прэса паведаміла, што «ўчора Ліда зноў перажыла аднадзённы агульны страйк. З раніцы працу пакінулі рабочыя ўсіх прамысловых і часткова рамесных прадпрыемстваў. Агулам страйкавала каля 3 000 асоб. Горад патрулявала паліцыя. Было затрымана некалькі чалавек, але спакой нідзе не быў парушаны. [...] Прычына страйку – імкненне ўладальнікаў фабрыкі «Ардаль» аднавіць працу пры дапамозе штрэйкбрэхераў (да 300 асоб) і неквaліфікаваных работнікаў, прывезеных з аддеглых вёсак. Гэта выклікала вялікае азлабленне страйкоўцаў. [...] У другой палове дня дэлегацыя рабочых сустрэлася з старастам і перадала свае патрабаванні. Пасля перамоў старасты з міністрам працы і сацыяльнай апекі, а таксама з міністрам унутраных спраў ён здолеў пераканаць абодва бакі канфлікту прыняць арбітраж. 26 сакавіка фабрыка «Ардаль» аднавіла вытворчасць. На працу вярнуліся 100 рабочых, якія працавалі на ёй да выбуху страйку. У наступныя дні вернуцца наступныя групы рабочых»[2]. Дырэкцыя «Ардаля» падняла заробкі і вярнула на працу раней звольненых[3].

З даносу Чорнага № 5/10/36 даведваемся, што на пачатку красавіка 1936 г. паліцыя арыштавала ўвесь ГК, а 8 красавіка Абрам Ваўкавыскі праз акно лідскай вязніцы па вул. 3 Мая выкінуў запіску. Яе падабраў Іцка Каброўскі, брат арыштаванага сябра ГК Мардуха Каброўскага. У запісцы Ваўкавыскі прасіў Хаіма Каплана і Бэра Рафэла, каб яны паразумеліся ў нейкай справе з «вядомай ім кабетай» у Вільні. Чорны лічыў, што размова ішла пра Нахану Альпяровіч, але ў якой справе, канфідэнт не ведаў[4].

---

1 Тамсама, арк. 54.

2 «Kurjer Wileński». 1936, nr 85 (3686), 26 marca.

3 «Słowo». 1936, nr 85 (4292), 26 marca; nr 91 (4298), 1 kwietnia.

4 ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 55.

У сярэдзіне красавіка Чорны паведаміў, што камуністы вырашылі ўзмацніць канспірацыю, і пераказаў паліцыі ўсе планы «канспіратараў». Таксама ён перадаў, што Шмуль-Калман Нісялевіч, пра якога раней не паведамлялася, «пачаў кантактаваць з жаўнерам 2-й ці 3-й роты Мейрам (імя невядома, кравец з Вільні, яго брат быў у вязніцы за камуністычную дзейнасць). Жаўнер выязджаў на святы ў Вільню і павінен быў кантактаваць з Наханай Альпяровіч. Пасля вяртання з Вільні ён хацеў сустрэцца з Нісялевічам, але не знайшоў таго і пайшоў у кашары. Ці меў ён у Вільні кантакт з Альпяровіч, невядома»[1].

Менавіта з Нісялевічам кантактавалі новыя партыйныя актывісты Шмуль Цыгельніцкі і Ёсель Левін, а Бэр Рафэл пазнаёміўся з Янкелем Левіным, які толькі 10 лютага перабраўся з Браслава ў Ліду і ўладкаваўся на працу ў цырульню. Сам Рафэл таксама знаходзіўся ў сталым кантакце з Нісялевічам.

16 красавіка 1936 г. канфідэнт Чорны інфармаваў паліцыю пра тое, што раней арыштаваныя члены ГК наладзілі сувязь з камуністамі на волі праз Хаіма Дубчанскага, які адбываў у лідскай вязніцы пяцігадовы тэрмін пакарання. Ён пісаў, што «падчас шпацыру Дубчанскі атрымлівае паведамленні ад сакратара ГК Гельмана і іншых, а потым падчас сустрэч пераказвае іх сваёй нявесце Цыпе Школьнікавай. Нявеста перадае інфармацыю камуністам на волі. Такім чынам Гельман ды іншыя цікавіліся ў Шмуля Цыгельніцкага працай па арганізацыі Саюза працоўных хімічнай вытворчасці. У Лідзе гэты Саюз быў арганізаваны па ініцыятыве Гельмана напярэдадні яго арышту. Потым працу па стварэнні Саюза перанялі іншыя камуністы»[2].

Нягледзячы на рэпрэсіі, ужо ў маі 1936 г. быў абраны новы склад ГК Ліда і гарадское кіраўніцтва МОПР. Працай па аднаўленні ГК заняўся Ашар Каплан. Усіх «старых» камуністаў паліцыя ведала, і таму ў ГК абралі «маладых»: Вульфа Крупскага, Генаха Барана і Ашара Каплана. Крупскаму і Барану была даручана тэхнічная праца, а Каплан заняў пасаду сакратара ГК. 27 мая ў лесе за вёскай Раслякі адбылася «канферэнцыя» камуністаў[3]. Праз месяц Чорны дадаў, што ў новы ГК таксама ўвайшоў Хаім-Неах Гульнік.

Падчас следства па справе раней арыштаванага ГК камуністы актыўна працавалі са сведкамі. Напрыклад, калі следчы з Вільні Абрамовіч выклікаў на допыт сведкаў-яўрэяў, то «новы сакратар ГК Ашар Каплан навучаў іх, як трэба адказваць, каб не абцяжарыць абвінавачаных»[4]. Таксама дзеля юрыдычнай дапамогі арыштаваным Ашар Каплан кантактаваў з Мардухаем Камянецкім, які працаваў у юрыдычнай канторы адваката Вагнера. Чорны паведамляў, што

---

[1] Тамсама, арк. 56.

[2] Тамсама, арк. 57.

[3] Тамсама, арк. 58.

[4] Тамсама, арк. 59.

юрыдычныя парады супрацоўніка канторы Вагнера маюць вялікую карысць для камуністаў.

У чэрвені 1936 г. у Ліду прыехала інструктар акружнога камітэта КПЗБ Хана Пудзінская. Сваю працу яна пачала са збору матэрыялаў пра гвалтоўны разгон страйкоўцаў паліцыяй на шклозаводзе «Нёман» 13 чэрвеня[1]. Каб не прыцягваць да сабе ўвагі, Пудзінская шукала працу на «Ардалі». Яна ж вяла размовы з камуністамі, якія не належалі да арганізацый, г. зн. не вялі партыйнай працы. Гэтым людзям прапанавала ствараць свае ячэйкі па 5 чалавек. Падобна, што падобных камуністаў было даволі шмат.

12 ліпеня 1936 г. у лесе за вёскай Расляқі Хана Пудзінская правяла нараду з лідскім актывам КПЗБ і прапанавала стварыць піянерскую арганізацыю з вучняў лідскіх школ. У тым жа месяцы Хана Пудзінская аплаціла паездку Нісялевіча ў Беліцу, Наваградак і Дзятлава дзеля наладжвання кантактаў з тамтэйшымі камуністычнымі арганізацыямі[2]. Напрыканцы ліпеня Пудзінская прапанавала Нісялевічу і Каплану ў ноч з 1 на 2 жніўня зрабіць надпісы на сценах дамоў: «Прэч вайну, прэч фашызм». Нісялевіч адмовіўся, сказаўшы, што ніякага эфекту гэта не дасць, толькі справакуе новыя рэпрэсіі[3].

Таксама Чорны паведаміў, што на пачатку жніўня ў Лідзе быў створаны ГК камсамола Заходняй Беларусі, у які ўвайшлі сябры камуністычнага ГК Генах Баран і Хаім-Неах Гульнік, а таксама Шыман Ілютовіч і Мардух Камянецкі.

Бачна, што канфідэнт меў добрыя стасункі з Генахам Баранам, які быў для яго пастаянннай крыніцай інфармацыі. Многія даносы пачыналіся са спасылкі на Барана. Напрыклад, менавіта ад Барана канфідэнт даведаўся, што той 20 жніўня ездзіў у Вільню на канферэнцыю, у якой удзельнічалі 8 дэлегатаў з моладзевых камуністычных арганізацый розных гарадоў. Канферэнцыяй кіраваў малады яўрэй, які прыняў даклады ад дэлегатаў пра дзейнасць на месцах, а потым вучыў прысутных асновам камуністычнай дзейнасці і канспірацыі[4].

За падзеямі ў Лідзе ўважліва назірала кіраўніцтва кампартыі. Адпаведна, у горадзе працавала не толькі інструктар Віленскай акругі КПЗБ Пудзінская. 28 жніўня 1936 г. Ліду наведаў інструктар ЦК КПЗБ Якуб Казлоўскі. У змроку на вул. Мацкевіча ён сустракаўся з Іцкахам-Якубам Гросманам.

Напрыканцы жніўня паліцыя правяла ў актывістаўператрусы з фатаграфаваннем знойдзенага. Чорны даносіў, што сябра камсамольскага ГК Хаім-Нахам Гульнік на нейкі час спыніў дзейнасць і перастаў сустракацца з аднапар-

---

[1] Тамсама, арк. 61.

[2] Тамсама, арк. 62.

[3] Тамсама, арк. 64.

[4] Тамсама, арк. 66.

тыйцамі[1]. 10 верасня 1936 г. адбыўсяператрус у кватэры Ашара Каплана. Паліцыя шукала камуністычную літаратуру, а потым забрала Каплана на допыт. Ніякай літаратуры не было знойдзена, але Каплан адышоў ад палітычнай дзейнасці.

Між тым ЦК КПЗБ, не зважаючы на спад рабочага руху, даручыў лідскім камуністам арганізаваць страйк на «Ардалі». Дзеля гэтага Гельман сустракаўся з сакратаром аддзела Саюза працаўнікоў хімічнай прамысловасці ў Лідзе Беньямінам Святоем. Святой, каб не страціць давер рабочых «Ардаля», хаваў свае кантакты з камуністамі і канспірацыйна кантактаваў толькі з Гельманам. Варта адзначыць, што камуністы не карысталіся аўтарытэтам сярод рабочых і не маглі наўпрост размаўляць з імі і заклікаць да страйку. Яны рабілі гэта праз іншых асоб.

Варта адзначыць, што паводзіны польскіх улад падчас лідскіх страйкаў былі дастаткова ўзважанымі. Так, лідскі стараста Чушкевіч не стаў адназначна на бок уласнікаў прадпрыемстваў і падтрымаў патрабаванні рабочых. Адначасова з ціскам на прадпрымальнікаў улады імкнуліся адсякаць ад пратэстаў камуністаў.

Падзеі 1936 г. заставаліся ў памяці жыхароў Ліды нават праз дзесяцігоддзі. Калі на схіле савецкай эпохі, змучаная пастаянным пагаршэннем узроўню жыцця, застрайкавала ўся Беларусь, не выключаючы і Ліду, то старыя лідзяне былі схільны праводзіць паралелі са страйкам на «Ардалі».

### *Лідскія камуністы ў 1936–1937 гг.*

Пасля страйку распачалося следства па справе камуністаў Ліды. Паліцыя шмат ведала пра іх дзейнасць, але суд патрабаваў матэрыяльныя доказы (напр., камуністычную літаратуру), а не даносы канфідэнта. Не атрымаўшы такіх доказаў, суд выпускаў лідскіх камуністаў на волю. Следства па іх справе працягвалася, але камуністы жылі ў сваіх хатах. Напрыклад, на пачатку лістапада з вязніцы выпусцілі Беньяміна Арцішэўскага, і ён перадаў актыву просьбу вязняў сабраць грошы для юрыдычнай дапамогі[2]. Чорны дакладваў, што нават пад следствам сябры ліквідаванага ГК Цыгельніцкі і Арцішэўскі кантактуюць з супрацоўнікам аддзела продажу фабрыкі «Ардаль» Неахам Эпштэйнам і распытваюць пра настроі на фабрыцы. Актыў не страчваў надзеі на чарговы страйк[3].

З інфармацыі сярэдзіны лістапада (№ 5/28/36) даведваемся, што інструктар ЦК КПЗБ Якуб Казлоўскі быў арыштаваны, але з-за недахопу ўлік вы-

[1] Тамсама, арк. 43.

[2] Тамсама, арк. 41.

[3] Тамсама, арк. 42.

звалены. Пасля вызвалення ён таксама далучыўся да збору грошай. Па справе прававой дапамогі для арыштаваных 14 лістапада ў Вільню ездзіў член ГК Шыман Ілютовіч, але канфідэнт не ведаў ні мэт, ні вынікаў яго паездкі[1].

Да канца 1936 г. афіцыйныя абвінавачанні атрымалі 12 чалавек разам з былым сакратаром ГК Гельманам. Камуністы спадзяваліся, што суд пачнецца на пачатку студзеня 1937 г. і пачалі прыспешваць збор грошай для юрыдычнай дапамогі.

Паліцыя ведала ад Чорнага, што з Вільні па справе дапамогі абвінавачаным прыехалі двое: «Першы – высокага росту, худы, твар доўгі, паголены, мае каля 25 гадоў, шатэн, апрануты ў шэрае восеньскае паліто, у шапцы-матацыклетцы, доўгіх нагавіцах і камашах, другі – малога росту, узрост 22–25 гадоў, брунет, доўгі паголены твар, апрануты ў брунатнае восеньскае паліто і шапку-матацыклетку». Перамовы з гасцямі вёў Абрам Гельман, сустрэчы адбываліся ў піўной Абрама Пупко па вул. Сувальскай ці на бакавых вуліцах, а вечарам 11 лістапада – у кватэры Пувіна Альшанскага па вул. Мацкевіча, 13. Пра што вяліся перамовы, канфідэнт не ведаў[2].

Напрыканцы лістапада Груня Голь-Троцкая прывезла з Вільні 180 зл. дапамогі арыштаваным[3]. У снежні Генах Баран прывёз з Эйшышак 18 зл. Усе сабраныя грошы захоўваў абвінавачаны, але вызвалены да суда Абрам Арцішэўскі. Потым іх забраў Камянецкі, які працаваў у адвакацкай канторы Вагнера.

У снежні прайшла рэарганізацыя партыйнага кіраўніцтва. 18 снежня 1936 г. лідскі актыў правёў канферэнцыю «за праваслаўнымі могілкамі». Прысутнічалі Мардух Арахоўскі, Абрам Гельман, Неах-Хаім Гульнік, Ёсель Левін, Груня Голь-Троцкая, Лейба Казарэскі і невядомыя Чорнаму яўрэй і яўрэйка. Сход працягваўся каля гадзіны. Гельман паведаміў, што яго разам з Цыгельніцкім выклікалі ў следчы аддзел, і зараз ён знаходзіцца пад сталым наглядам паліцыі. Было вырашана на пэўны час адсунуць Цыгельніцкага ад партыйнай працы. Прысутныя выказалі згоду на рэарганізацыю ГК. У выніку сакратаром стаў Мардух Арахоўскі, функцыі тэхніка пачаў выконваць Шумаль-Калман Нісялевіч, а скарбніка – Хаім Каплан.

Наступны сход, які меў характар справаздачнага, адбыўся 16 студзеня 1937 г. у кватэры Міны Левін. Чорны на ім не прысутнічаў, а пра яго ход даведаўся ад Генаха Барана. У сходзе прынялі ўдзел Мардух Арахоўскі, Шмуль Цыгельніцкі, сябры ГК КЗМ Гульнік Хаім-Неах і Генах Баран, кіраўнік лідскага МОПР Іцхак Лацкі, а таксама Фішаль Разенштайн, Давід-Мардух Берман і Ёсель Мірскі. На сходзе прысутнічаў таксама невядомы камуніст з Вільні, якога Генах Баран так апісаў Чорнаму: «Хрысціянін, каля 30 гадоў, апрану-

[1] Тамсама, арк. 67.

[2] Тамсама, арк. 68.

[3] Тамсама, арк. 69.

ты ў паліто, у капелюшы, прыстойны, размаўляў па-беларуску [...] сакратар Акругі КПЗБ з Вільні»[1]. Зразумела, што ў лідскіх камуністаў-яўрэяў роднай мовай быў ідыш, але яны добра разумелі і беларускую мову.

Падчас гэтага сходу сакратар лідскага ГК зрабіў вусную справаздачу. З яе можна было даведацца, што ў Лідзе налічвалася 80 камуністаў, існавалі ГК КПЗБ і ГК КЗМ, ячэйка МОПР, ячэйкі КПЗБ на «Ардалі», у ліцейні Шапіры, на шклозаводзе «Нёман». Камуністычныя фракцыі былі ў прафсаюзах работнікаў хімічнай вытворчасці, вытворцаў вопраткі і прадаўцоў гатовага адзення, а таксама ў Саюзе саюзаў. Таксама Арахоўскі казаў пра рэгулярны збор складак на карысць МОПР, прыём у партыю новых сяброў, узгадненне пазіцый з іншымі арганізацыямі, напрыклад, з Саюзам саюзаў. Напрыканцы адзначыў, што лідскай арганізацыі не хапае партыйнай літаратуры[2].

21 студзеня 1937 г. у Лідскім акруговым судзе пачаўся працэс супраць 12 чалавек, *абвінавачаных у камуністычнай дзейнасці*. На лаве падсудных знаходзіліся Абрахам Гельман, Абрам Ваўкавыцкі, Шалом Рыбацкі, Лейба Левін, Сана Гаперштэйн, Абрам Арцішэўскі, Мардух Каброўскі, Рафал Гершман, Канстанцін Грэбень, Арсені Пашкоўскі, Дзіна Лернэр і Вацлаў Вайтулевіч[3]. Амаль усе атрымалі вялікія тэрміны турэмнага зняволення.

Пасля абвяшчэння прысуду ўвечары 25 студзеня 1937 г. сябры ГК сабраліся на нараду. У сходзе бралі ўдзел Мардух Арахоўскі, Шмуль-Калман Цыгельніцкі, Абрам Гельман і член ГК КЗМ Шымон Ілютовіч. Мардух Арахоўскі заявіў, што судовы працэс і шматгадовыя прысуды яўрэям сталі вынікам даносу асуджаных разам з імі хрысціян Вацлава Вайтулевіча, Канстанціна Грэбеня і Арсеня Пашкоўскага. Грэбеня суд наогул апраўдаў, Вайтулевіч атрымаў умоўны прысуд, а Пашкоўскі – толькі два гады.

Арахоўскі падкрэсліў, што гэты суд з'яўляецца папярэджаннем для камуністаў-яўрэяў, каб у будучым яны не мелі ніякіх партыйных кантактаў з «хрысціянамі», бо апошнія маюць схільнасць да правакацый і здрады. Ён заклікаў да поўнага аддзялення ад «хрысціян» і лічыў, што тыя павінны ўтвараць асобныя арганізацыі. Зразумела, што ў дадзеным выпадку гаворка ішла не пра веравызнанне, а пра нацыянальную ці этнічную прыналежнасць. Дарэчы, канфідэнт Чорны быў «камуністам-іўдзеем» і карыстаўся поўным даверам сваіх таварышаў.

Актывісты таксама прыйшлі да высновы, што суровыя прысуды не адштурхнуць ад партыйнай працы камуністаў, але ім трэба захоўваць канспірацыю. Таксама было вырашана ў бліжэйшыя дні правесці пашыраны сход, на якім заслухаць даклады пра апошнія падзеі ў савецкай Расіі ў сувязі з працэ-

1 Тамсама, арк. 90.

2 Тамсама.

3 «Kurjer Wileński». 1937, nr 22 (3984), 23 stycznia.

самі трацкістаў. Лідскія камуністы паверылі ў «бандыцкую дзейнасць» Карла Радэка і яго прыхільнікаў[1]. Сталінскае вар'яцтва захапіла і іх.

У нечым паказальны для таго часу сход камуністаў адбыўся раніцай 12 чэрвеня 1937 г. у лесе каля вёскі Малейкаўшчына. Прысутнічалі Рафэл Сахін, Абрам Каплан, Генах Баран, Шыман Ілютовіч, Лейба Казарэскі, Абрам Крупскі і Чорны. Рэгулярныя арышты партыйнага кіраўніцтва паступова ўвялі яго ў вузкае кола партыйных актывістаў.

Гэты сход сведчыць, што камуністаў хвалявалі падзеі ў СССР і знішчэнне Сталіным былых куміраў. А партыйным кіраўнікам у Лідзе трэба было кантраляваць настроі камуністаў і даводзіць ім «лінію партыі», якая ішла з Масквы. Рафэл Сахін заклікаў захоўваць спакой, бо яшчэ не было дакладнай інфармацыі аб смяротным прысудзе маршалу Тухачэўскаму. Сахін выказаў меркаванне, што насамрэч Тухачэўскі і яго калегі сасланы ў Сібір ці камандзіраваны ў Іспанію. Ён запытаў прысутных пра іх стаўленне да такіх «здраднікаў», як Тухачэўскі ды іншыя абвінавачаныя. Лейба Казарэскі адказаў, што «здраднікаў» трэба «ставіць да сценкі». Сахін заклікаў да актывізацыі дзейнасці, але без канкрэтыкі[2].

Напрыканцы сходу прыехаў на ровары рэдактар газеты «Lider Wolksblat» Разенталь. Ён прывітаўся з прысутнымі, але не выступаў і з'ехаў разам з Сахіным. Перад ад'ездам Сахін прапанаваў чытаць газету «Unser Tage», якая выходзіла ў Вільні, замест «Wilner Tage». Казарэскі паабяцаў прывесці некалькі рабочых з «Ардаля», бо праца на фабрыцы па тэхнічных прычынах спынілася на некалькі дзён. Калі ўжо разыходзіліся, Казарэскі сказаў Чорнаму, што ў Навагрудскі павет прыехала некалькі камуністаў з савецкай Расіі. У інфармацыйным паведамленні паліцыі было пазначана, што Разенталь ужо год жыве ў Лідзе на кватэры Іосіфа Альбірта. Варта адзначыць, што Іосіф Мацвеевіч Альбірт – паэт і пісьменнік, які напрыканцы 1950-х гг. стаў сябрам Саюза пісьменнікаў, жыў у Маскве. У 1970 г. эміграваў у Ізраіль.

У ліпені па справах МОПР у Ліду прыязджала дзяячка з псеўданімам Хаша. Яна сустракалася з сябрам ячэйкі КПЗБ фабрыкі «Ардаль» Сарай Бацян, каб пацікавіцца справай удзельніка страйку Станіслава Кіселя і перадаць грошы, сабраныя на яго адваката. Бацян паведаміла ёй пра крызіс у Саюзе працаўнікоў хімічнай вытворчасці, бо большасць рабочых не плаціла складак. Але таксама адзначыла, што ведае 50 чалавек, якія імкнуцца захаваць Саюз. У той час Саюз выставіў новыя патрабаванні па павышэнні заробкаў і планаваў арганізаваць страйк. Бацян узгадала рабочых «Ардаля» камуніста Рудольфа Радзігу, а таксама Юдаля Сапожнікава і Нем'яхама Шварбарда. Кіраўнік лідскага следчага аддзела на палях данясення адзначыў, што інфармацыю Чорнага лічыць вера-

---

[1] ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 89 адв.

[2] Тамсама, арк. 75–75 адв.

годнай, бо яна пацвярджаецца інфармацыяй канфідэнта Янкі[1]. Так у справе Чорнага першы раз прагучала мянушка іншага паліцэйскага «крата» ў шэрагах лідскай КПЗБ. Акрамя Чорнага і Янкі ў асяроддзі лідскіх камуністаў таксама дзейнічалі канфідэнты пад псеўданімамі Абрамовіч, Бужынскі і Герман.

Камуністы адчувалі ціск паліцыі, і на пачатку кастрычніка 1937 г. Херц Герцоўскі прапанаваў устрымацца ад партыйнай працы і абмежавацца зборам грошай на дапамогу арыштаваным[2].

22 кастрычніка Чорны паведаміў, што на кватэры сябра кіраўніцтва МОПР Груні Левін, (вул. Завальная, 8) сабраліся Херц Гярцоўскі, сябар ГК КЗМ Фішаль Разенштайн, сябар лідскага выканаўчага камітэта МОПР Фішаль Рыбацкі і Берка Аркаў, які прыехаў з Воранава. Абмяркоўваліся справы матэрыяльнай дапамогі арыштаваным Абраму Гельману і іншым камуністам, а таксама іх сем'ям. Аркаў запытаў у прысутных, ці вядомы ім імёны правакатараў, вінаватых у арыштах. Гярцоўскі і Левін адказалі, што правакатараў трэба шукаць сярод работнікаў «Ардаля», але канкрэтных прозвішчаў яны не ведаюць. Аркаў абвінаваціў прысутных у ігнараванні правіл канспірацыі, што прывяло да з'яўлення правакатараў. Ён адзначыў, што ў Воранаве і Эйшышках ужо некалькі гадоў не было арыштаў. Воранаўскі актывіст не здагадваўся, што паліцыя ведала камуністаў ва ўсіх мястэчках Лідчыны. Арышты не адбываліся, бо паліцыя не лічыла іх своечасовымі.

З даносу Чорнага даведваемся, што напярэдадні 7 лістапада 1937 г. у Лідзе былі арыштаваны камуністы Шапіра, Баран, Сікурць, Гаперштэйн ды іншыя. Але падчасператрусаў у кватэрах арыштаваных не была знойдзена камуністычная літаратура, і заставалася надзея, што арыштаваных выпусцяць з вязніцы. Тым не менш сітуацыя была вельмі небяспечнай. 30 лістапада 1937 г. сакратар ГК КПЗБ Херц Гярцоўскі сам паведаміў Чорнаму, што ён мусіць адысці ад партыйнай працы. Сакратар прапанаваў канфідэнту заняцца справамі МОПР і сабраць грошы для абароны абвінавачаных. Гярцоўскі сказаў Чорнаму, што да яго звернецца асоба з паролем «Радам» і гэту асобу ён мусіць прыняць[3].

Херц Гярцоўскі сапраўды адышоў ад спраў, але працягваў рэкламаваць яўрэйскую газету, якую ў Лідзе выдаваў і рэдагаваў Альбірт. Канфідэнт паведамляў, што Альбірт ужо некалькі тыдняў кантактуе з настаўнікам 7-класнай яўрэйскай школы Цэнтральнай арганізацыі яўрэйскіх школ, якая знаходзілася пад уплывам левых яўрэйскіх партый, Сімхай Гёніхам. Гёніх разам з жонкай Цэцыліяй 21 верасня 1937 г. пераехаў у Ліду з Глыбокага. Яго жонка ўладкавалася на працу ў бюро фабрыкі «Ардаль». Паводле інфармацыі паліцыі Глы-

[1] Тамсама, арк. 86 адв.

[2] Тамсама, арк. 76.

[3] Тамсама, арк. 80.

бокага, Гёніх меў стасункі з камуністамі і з-за гэтага быў звольнены з пасады настаўніка[1].

На гэтым заканчваюцца даносы Чорнага, якія захоўваюцца ў архіве. Асоба гэтага канфідэнта, як і яго далейшы лёс, пакуль застаюцца таямніцай.

Знаёмства з даносамі Чорнага дазваляе сцвярджаць, што галоўнымі справамі лідскіх камуністаў у 1930-х гг. было захаванне арганізацыі і дапамога арыштаваным і зняволеным таварышам. Практычна ўся іх дзейнасць зводзілася да размоў пра палітыку і чытання партыйнай літаратуры. Даволі шмат камуністаў не займаліся палітычнай дзейнасцю і знаходзіліся па-за арганізацыяй. Аўтарытэт камуністаў не быў высокім, бо нават факт сувязі з кампартыяй кампраметаваў прафсаюзных актывістаў перад рабочымі. Тым не менш на асобных прадпрыемствах існавалі камуністычныя арганізацыі. Па-за межамі гэтага артыкула засталося апісанне дзейнасці такой ячэйкі ў ліцейне Шапіры. Пра гэтых камуністаў паведамляў інфарматар Абрамовіч. У ячэйку ўваходзіла каля 10 рабочых (пераважна яўрэяў), а іх дзейнасць таксама зводзілася да размоў на палітычныя тэмы і збору грошай для дапамогі арыштаваным.

Вялікага ўплыву на жыццё горада камуністы не мелі і не маглі мець, бо заставаліся маргінальнай групай, сярод якой пераважалі яўрэі. У той час яны складалі каля паловы насельніцтва Ліды і жылі ва ўмовах выразнага нацыянальнага ціску. Але і сярод яўрэяў камуністы былі хутчэй маргіналамі, бо, напрыклад, на выбарах яўрэйскага самакіравання ў 1932 г. найвялікшую колькасць галасоў набраў блок «Рамеснікі», другое месца занялі «Дробныя купцы», а на трэцім месцы былі «Сіяністы»[2].

Сярод яўрэйскага насельніцтва пераважалі прагматычныя погляды на палітыку. Тым не менш незадаволенасць уладай існавала, і яна выявілася ў верасні 1939 г., калі значная частка яўрэйскага насельніцтва з энтузіязмам сустрэла прыход Чырвонай арміі. Да таго ж мясцовыя яўрэі добра ведалі пра становішча яўрэяў у Германіі і баяліся прыходу Гітлера. Калі замест немцаў у горад увайшла Чырвоная армія, яўрэі сустракалі яе кветкамі. Для іх гэта было вызваленне ад фашысцкага лагера. Лідзянка Яўгенія Ярмант успамінала: «Раніцай горад абляцела вестка, што ў Ліду ўступілі рускія войскі, і на ўскраіне горада яўрэі сустрэлі іх хлебам-соллю. Мама сцісла пракаментавала: “Яўрэі гатовы хоць чорта вітаць, абы не прыйшлі немцы”»[3].

Знойдзеныя архіўныя крыніцы дазваляюць сцвярджаць, што КПЗБ у Лідзе не цікавілі праблемы беларускай культуры і адукацыі. Чорны ў даносах толькі аднойчы паведаміў пра факт размовы па-беларуску сакратара Акругі КПЗБ з Вільні. Падчас суда пасля «Лідскай рэвалюцыі» згадвалася ліставан-

---

1 Тамсама, арк. 81.

2 «Kurier Nowogródzki. 1932, nr 157 (242), 5 lipca.

3 Ярмонт Е., *В тени замка Гедимина*. Лида, 1995, с. 95.

не камуніста Рафала Гершмана на беларускай мове[1]. З даносаў вядома, што партыйная літаратура друкавалася па-беларуску, па-польску і на мове ідыш[2]. І гэта практычна ўсё, што можна сказаць пра беларускі след у дзейнасці лідскага ГК КПЗБ. Пры гэтым Чорны старанна фіксаваў наяўнасць нацыянальнай варажнечы ў партыі «інтэрнацыяналістаў» і іх імкненне аддзяліцца ад «камуністаў-хрысціян».

Канфідэнт Чорны карыстаўся даверам лідскіх камуністаў. Ён знаходзіўся на высокіх прыступках партыйнай іерархіі. Як агент паліцыі ён працаваў даволі эфектыўна. У невялікім горадзе, дзе ўсе ведалі адзін аднаго, Чорны не грэбаваў нават вонкавым назіраннем і часам дзейнічаў як звычайны філёр. Ён удзельнічаў у камуністычных сходах у Лідзе, а пра вынікі нарад больш высокага ўзроўню, на якія сам патрапіць не мог, даведваўся ад прысутных там асоб. Меў поўны давер з боку таварышаў, якія чамусьці Чорнаму абсалютна давяралі. Вывучаючы даносы Чорнага, можна зрабіць выснову, што галоўнымі крыніцамі інфармацыі для яго з'яўляліся самі ўдзельнікі падзей. Магчыма, ён быў карэнным жыхаром Ліды і меў шмат сяброў і знаёмых. Відавочна, што гэты агент таксама меў талент камунікацыі і ўмеў выклікаць давер.

Паведамленні канфідэнта Чорнага заканчваюцца ў снежні 1937 г. Што сталася з Чорным, невядома, але я ўпэўнены, што гэты агент, калі пераглядаў арышты НКУС у перыяд «першых Саветаў» і Галакост у часы нямецкай акупацыі, паспяхова «працаваў» і пры наступнай уладзе.

---

[1] «Kurjer Wilenski». 1937, nr 22 (3984), 23 stycznia.

[2] ДАГВ. Ф. 662, воп. 2, спр. 53, арк. 65.

ISSN 2424-5216

# ДЫЯЛОГІ
# DIALOQUES

## «МЯНЕ ЦАЛКАМ ПАГЛЫНАЕ МЕТАДАЛАГІЧНЫ ПАДЫХОД»

***Інтэрв'ю з каардынатарам Лятучага ўніверсітэта кандытам сацыялагічных навук Таццянай Вадалажскай***
*17 верасня 2021 г.*

Антрапалогія навуковага жыцця, перасячэнне гісторыі навукі і *life story* навукоўца з'яўляюцца адной з магістральных тэм для *Homo Historicus.* Кожны навуковец мае асабістае жыццё, якое спалучаецца з прагай дайсці да ісціны, адказаць на пэўныя выклікі эпохі ў навуковай сферы. Найбольш актуальнымі для рэдакцыі застаюцца пытанні: Як становяцца навукоўцамі? Дзе вытокі імкнення знайсці ісціну? Як нараджаюцца гіпотэзы, канцэпцыі і тэорыі? З чаго складаецца іх біяграфія? Як асабістае жыццё навукоўца ўплывае на навуковыя даследаванні? Як паўстаюць навуковыя школы, і ў якой ступені асобы заснавальнікаў вызначаюць працягласць іх існавання?

У рамках гэтага праекта рэдакцыя распачала серыю інтэрв'ю з вядомымі беларускімі навукоўцамі і інтэлектуаламі. Прапануем увазе чытачоў інтэрв'ю з каардынатарам Лятучага ўніверсітэта кандыдатам сацыялагічных навук Таццянай Вадалажскай. Інтэрв'юер – Алесь Смалянчук. Размова адбылася ў Менску 17 верасня 2021 г. Транскрыпцыю інтэрв'ю зрабіла Таццяна Касатая.

***

А.С.: Шаноўная спадарыня Таццяна, як атрымалася, што Вы сталі навукоўцам? Якія падзеі асабістага жыцця на гэта паўплывалі? Ці ёсць у гэтым нейкая наканаванасць, ці гэта збег пэўных абставін?

Т.В.: Для мяне гэта была хутчэй выпадковасць, бо калі я скончыла ўніверсітэт і шукала працу, я думала пра нейкую практычную дзейнасць. Гэта быў 1997 год. Сацыялогія была чымсці новым і модным. Памятаю, што шукала працу на FM-станцыях. Усе казалі: «О! Сацыёлаг нам

вельмі патрэбны». Але ніхто не ведаў навошта. А пра навуковую дзейнасць я не думала. Аднак працу знайсці не атрымалася. Усім патрэбны быў вопытны спецыяліст. А ў мяне вопыту не было. Яго, дарэчы, ніхто не меў.



Усё адбылося дзякуючы пэўнаму знаёмству. Мне падказалі, што ў Інстытуце сацыялогіі [Акадэміі навук] ёсць вольныя пасады лабарантаў. І я пайшла туды. Скажу шчыра, гэта было прыкладна так: ну, я там папрацую трошкі, зразумею, што значыць праца сацыёлага, здабуду досвед. Ва ўніверсітэце ж было вядома якое навучанне... Тым больш што я завочна вучылася. У мяне не было ніякага практычнага вопыту, апрача напісання нейкіх вучэбных апытальнічкаў. Не было рэальнай практыкі. Вось я і падумала, што трошкі пабуду ў Інстытуце, здабуду досвед і запіс у працоўнай кніжцы, а потым пайду працаваць, як нармальны чалавек. Але тая праца неяк зацягнула. І я ўжо нікуды не пайшла. У Інстытуце я працавала амаль 10 гадоў. Дысертацыю абараніла. Такія факты.

Але з іншага боку, для мяне з дзяцінства навукоўцы заўсёды былі вельмі важнымі людзьмі, людзьмі з прызначэннем. Гэта тое, на што можна было арыентавацца. У падлеткавым узросце адна з маіх самых любімых кніжак – гэта «Открытая книга» Веніяміна Каверына. Ён пісаў пра медыкаў і пра навукоўцаў. І гэта быў узор адданага жыцця... І ўвогуле навуковая праца, аналітыка заўсёды здавалася мне цікавай. Але я не адчувала, што гэта маё.

У маім выпадку прыход у навуку быў спалучэннем выпадковасці і разумення, што ў гэтай сферы ты можаш адбыцца як чалавек, прафесіянал, што гэта важная сфера жыцця.

Мне вельмі пашчасціла, бо калі я прыйшла ў Інстытут, маім навуковым кіраўніком і калегай стала Людміла Навуменка[1]. Яна якраз была ўзорам чалавека навукі, які нібыта сышоў са старонак кніжак, якія я чытала. Трэба сказаць, што такіх людзей няшмат. Іх зрэдку можна сустрэць у навуковым інстытуце ці дзесьці яшчэ. Яе этас навукоўца быў неверагодна моцны і чысты, без прымесей нейкіх абставін. У яе былі вельмі моцныя прынцыпы, паводле якіх жыве і працуе чалавек навукі. У пэўны момант гэта нават стала прычынай нашага разыходжання. Мне падавалася, што мая практычная дзейнасць павінна

[1] Людміла Навуменка (1958–2011) – беларускі сацыёлаг і псіхолаг, спецыяліст у галіне этнічнай псіхалогіі і псіхалогіі міжэтнічных адносін. Кандыдат псіхалагічных навук (1992).

быць трохі іншай, а яна лічыла, што «аб'ектыўны навуковец» не можа дазволіць сабе ацэначныя меркаванні і г. д.

Але тым не менш яна сапраўды была ўзорным навукоўцам. А я атрымала магчымасць бачыць гэта, вучыцца гэтаму і вырашыць, ці гэта мой шлях. Калі пазней я ўсё ж сыходзіла з Інстытута, а фактычна з той навуковай сферы, дзе я сябе знайшла, то сыходзіла не таму, што гэта кепскі Інстытут. Я арыентавалася менавіта на норму. І мне падаецца, што гэта вельмі важна – мець у жыцці кагосьці, хто з'яўляецца ўзорам такой нормы.

*А.С.: Вы нарадзіліся ў Менску, вучыліся ў менскай школе. А як прыйшло ў галаву вывучаць сацыялогію?*

Т.В.: Гэта хутчэй была звычайная чалавечая цікаўнасць. У школе ў мяне не было выразнай прафарыентацыі. Да апошняга я не ведала і не магла вырашыць, чаго я хачу, як я сябе бачу ў свеце. У мяне не было адказу, хоць цікавіла мяне грамадская дзейнасць, а гэта быў канец 1980 – пачатак 1990-х гадоў, час новых газет, новых кніг.

Мой бацька Валерый Уладзіміравіч Лагуноўскі – шараговы, але ўзорны камуніст у сэнсе пачатковых камуністычных ідэй пра справядлівасць, роўнасць і г. д. У нейкім сэнсе «тэарэтычны камуніст». Наколькі я ведаю, ён заўсёды на сваім працоўным месцы і ў сваёй арганізацыі выступаў крытычна і даводзіў, што трэба быць адпаведнымі «нашым ідэалам». У нас заўсёды былі адпаведныя кнігі. Я памятаю, нават быў часопіс «Проблемы мира и социализма». Для мяне там не было нічога зразумелага. І калі пачалася перабудова, то мы даволі шмат размаўлялі пра «хозрасчёт», яшчэ пра штосьці перабудовачнае. Я больш-менш зразумела сэнс падзелу ўладаў. Мне падавалася, што гэта вельмі цікава.

*А.С.: Бацька падтрымаў перабудову?*

Т.В.: Так. Ён быў перабудоўшчыкам яшчэ да таго, як пачалася перабудова. Такім унутраным рэфарматарам. Ён спрачаўся з калегамі пра тое, як пазбавіцца ад недахопаў сістэмы. Гэта быў крытычны погляд, які спалучаўся з пэўным тэарэтычным бэкграўндам, то бок тое, што чыталася, абмяркоўвалася і аналізавалася. Мне гэта было цікава. І калі я абірала, у які бок ісці, мне падалося, што будзе цікава вывучаць грамадства. На той момант было абсалютна незразумела, хто такія сацыёлагі. Ведала толькі, што гэта даследчыкі грамадства. Мне падавалася, што гэта цікава.

*А.С.: Бацька на Вашым шляху – важная постаць. А як ён успрыняў распад СССР?*

Т.В.: Мне падавалася, прынамсі, так я прыгадваю, што гэта было ўспрынята з пэўным працоўным настроем. Ён сапраўды ўспрымаў гэта як шлях да нейкіх правільных прынцыпаў жыцця. Я шчыра скажу, не надта памятаю яго эмацыйнага стаўлення, напрыклад, да развалу СССР. Мне падаецца, што для яго, як для шмат каго з таго пакалення, гэта ўсё ж была страта, адчуванне страты «вялікай краіны». У яго не было моцнага аспрэчвання таго, што ад-

бывалася. Мне падаецца, што гэта было ў такім вельмі працоўным рэжыме. Трагедыі дакладна ніякай не было. Быў хутчэй вялікі сум, бо ён працаваў усё жыццё на заводзе імя Кірава ў канструктарскім бюро інжынерам. А гэты завод стаў адразу занепадаць. Ён вельмі шкадаваў, што руйнуецца справа, якой ён займаўся. А ён выйшаў з інстытута, пайшоў на гэты завод і працаваў там усё жыццё. А ў 1990-я гады адтуль з'ехалі амаль 2/3 інжынерных кадраў у Ізраіль і Амерыку, што адразу спустошыла ўсю прастору. А ён быў вельмі апантаны інжынернай і канструктарскай справамі і перажываў, што ўсё занепадае. Гэта не было трагедыяй, але ж...

*А.С.: Ваша мама таксама мае вышэйшую адукацыю?*

Т.В.: Так, мама Святлана Віктараўна – эканаміст.

*А.С.: Яны менчукі ў якім пакаленні?*

Т.В.: Мама нарадзілася ў Менску, але яе мама з-пад Баранавіч. А бацька нарадзіўся ў Камарыне. Там жылі мае бабуля і дзядуля пасля размеркавання. Дзед з Астрашыцкага Гарадка. А бабуля з усходу. Камарын – гэта такое невялічкае габрэйскае мястэчка. У свой час і бабуля, і дзядуля паехалі вучыцца ў розныя месцы, а потым іх размеркавалі. Ён быў шафёрам, а яна бухгалтаркай. І яны ўжо разам вандравалі. Таму бацька нарадзіўся ў Камарыне напрыканцы 1938 г., потым яны паехалі ў Казахстан у эвакуацыю ў 1941 г., вярнуліся і жылі ў Рэчыцы. Фактычна там прайшло яго дзяцінства... Адтуль ён паступіў ужо ў Менск. І застаўся.

*А.С.: Ведаю, што маеце старэйшую сястру. А яна ў навуку не пайшла?*

Т.В.: Яна выкладчык інжынерна-тэхнічных дысцыплін, інжынер-канструктар па складу мыслення. Закончыла політэхнічны інстытут, як і бацька. Потым у яе нарадзілася шмат дзяцей і яна іх выхоўвала. Зараз яна выкладае, але не мае навуковых ступеняў.

*А.С.: Хачу запытыць пра школу. Як Вы вучыліся? Якіх настаўнікаў памятаеце? Школа паспрыяла Вашай далейшай інтэлектуальнай дзейнасці?*

Т.В.: Не прыгадваю нейкіх моцных інтэлектуальных уражанняў, якія б вызначылі мой далейшы жыццёвы шлях. Гэта была звычайная школа на ўскрайку Менска. Тады «Паўднёвы захад» толькі будаваўся, і школа была вельмі сярэдняя. Але памятаю даволі цікавага маладога настаўніка гісторыі. Ён не ўвесь час у нас выкладаў, але ўмеў цікава распавядаць. Ездзіў на археалагічныя раскопкі. І гэта было фантастычна, калі прывозіў і паказваў нейкія старадаўнія рэчы. Гэта было цікава.

Калі была ў старэйшых класах, то якраз пачалася перабудова, а ў нас была вельмі добрая настаўніца грамадазнаўства. На яе занятках мы абмяркоўвалі перамены. Напрыклад, дыскутавалі пра змены, што адбываліся. Клас звычайна дзяліўся на дзве часткі. Тыя, каму было цікава, сядзелі наперадзе і абмяркоўвалі. Дзяліліся самі па сабе, броўнаўскім рухам. Дык вось, зацікаўленыя нешта абмяркоўвалі, а іншыя сядзелі ззаду, адказвалі фармальна на нейкія пы-

танні. На гэтых занятках мне было цікава. А ў астатнім я б не сказала, што школа неяк моцна паўплывала. Выключэнне – класная кіраўнічка, якая выкладала рускую мову і літаратуру. На занятках было заўсёды цікава. Прынамсі, яна не адбівала жаданне чытаць.

*А.С.: А калі Вы прычыталі «Открытую книгу» Веніяміна Каверына?*

Т.В.: Я думаю, недзе ў 5-м ці 6-м класе. У 6-м, напэўна. Гэта было смешна. У нас побач была дзіцячая бібліятэка, і я пайшла шукаць штосьці пачытаць. А Каверын жа яшчэ напісаў «Бронзовую птицу», якую я прачытала. А потым, памятаю, хадзіла паміж паліцамі і ўбачыла кніжку, якая называлася «Таня». А калі Вы памятаеце, то «Открытая книга» – гэта трылогія. І там першая частка называецца «Таня». Ну, я вырашыла: раз «Таня», то трэба браць [смяецца]. Лагічна. Кнігу ўзяла не таму, што хацела пачытаць кнігу пра навукоўцаў, а таму, што я адрэагавала на імя... Мне падаецца, каб я зараз яе чытала, то кніга магла б і не спадабацца. Ну а тады мяне захапіла гэтая кніжка.

Я яе прачытала раней, чым трэба было б гэта чытаць. Але і сёння здзіўляюся, як гэтая кніга аказалася ў маіх руках.

*А.С.: Як Вы адчулі перамены 1990-х гг.?*

Т.В.: Мне падаецца, што гэтыя перамены насіліся ў паветры. Не думаю, што гэтаму адчуванню адмыслова паспрыяла школа. Але пры гэтым мы выпісвалі нейкія часопісы, напрыклад, «Парус», яшчэ штосьці. То бок, не было нейкіх канкрэтных асоб, якія б указвалі на змены. Папросту ўсё гэта адбывалася навокал. Дзесьці ў школе былі сябры, якія дзяліліся новымі кнігамі, дома размаўлялі пра перамены, чытала той жа часопіс «Парус», «Юность». Яны трошкі па-іншаму паказвалі перамены.

Апрача таго, што бацька ўсім цікавіўся, у бацькоў было ўзорнае сяброўства. Было некалькі сем'яў сяброў (чатыры сям'і), якія калісьці хадзілі ў горы, потым, калі ўжо дзеці нарадзіліся, у горы не хадзілі, але часта збіраліся. Гэта і для мяне была сям'я, значна больш, чым усё астатняе. Там усе людзі былі вельмі адукаваныя, іранічныя. Шмат спрачаліся, бо ў іх былі розныя погляды на працэс перамен. І гэта заўсёды было цікава. Яны шмат чыталі. Адна пара даволі шмат вандравала па свеце. Гэта былі вельмі розныя людзі. І таму можна было сядзець і слухаць, набірацца чагосьці новага... Усё было адкрыта і крытычна. Мала было тэматыкі штодзённасці, але шмат гарачых ідэйных спрэчак, размоў пра штосьці важнае.

*А.С.: Ці быў у гэтым нейкі беларускі аспект?*

Т.В.: Мне падаецца, быў. Ізноў жа не магу сказаць, адкуль у мяне ўзялася кніга Вацлава Ластоўскага «Кароткая гісторыя Беларусі». Ці я яе сама набыла? Я не памятаю. Яна зрабіла вялікае ўражанне. А да гэтага, памятаю, чытала газету, дзе былі апублікаваны 100 пытанняў па беларускай гісторыі. І гэта таксама пакінула вельмі моцнае ўражанне. Было адчуванне, што ўсё не так, усё па-іншаму. Нібыта адбывалася адкрыццё Новага свету. Усё гэта мела

месца ў старэйшых класах. Пры гэтым я абсалютна не памятаю, як гэтыя рэчы з'яўляліся ў маім асяродку. Дакладна, яны не былі звязаны з бацькамі. Адкуль што бралося, не ведаю. Хтосьці падкідваў.

З іншага боку, памятаю, што ў школьныя гады ў мяне было некалькі сяброў. Мы, як школьнікі, прыдумалі для сябе праграму «мінімум» і праграму «максімум». І было даволі шмат размоў пра тое, каб перайсці на беларускую мову. Пры гэтым той чалавек, які гэта ўключыў у праграму, на яе так і не перайшоў. Перамены сталі часткай звычайнага жыцця.

На маё стаўленне да перамен, магчыма, таксама паўплывала тое, што я тады займалася народнымі танцамі. І да перабудовы, і ўвогуле да апошніх гадоў існавалі калектывы народных танцаў. Гэта даволі кансерватыўная і абсалютна не беларуская сістэма. Там няма амаль нічога, звязанага рэальна з нацыянальнай культурай, ведамі пра яе і г. д. На жаль, такая там канструкцыя. Раней гэта былі гурткі пры Дамах культуры. Але ў той час у калектыў, дзе я танцавала, прыйшоў новы вельмі творчы і апантаны кіраўнік. Ён не быў беларусацэнтрычным. Але ў той момант усё беларускае станавілася модным.

І гэта стварала прастору для творчасці. У нас была падрыхтавана, здаецца, адзіная ў Беларусі цалкам беларуская праграма, якая складалася з танцаў, якіх не было ў іншых калектываў. Ну, то бок, гэта не «Крыжачок» і «Весялуха», якія ўсе перätанцоўвалі, капіруючы з дзяржансамбля, як маглі. Кіраўнік вышукваў адмысловыя мелодыі. А яшчэ мы танцавалі пад музыку «Песняроў». Гэта таксама давала адчуванне, што мы не такія, як іншыя, і мела эфект.

Недзе ў 1991 ці 1992 г. мы паехалі ў Францыю на фальклорны фестываль. Там было каля 20 краін – ад Гаіці да... Гэта быў адзін з традыцыйных для малых французскіх гарадоў летніх фестываляў. І там былі некалькі калектываў з Расіі: з Масквы, з Якуціі, і аднекуль яшчэ. Яны былі ўсе розныя: хто спяваў, хто танцаваў. І вось там неяк выразна ва ўсіх нас вырасла пачуццё, што беларусы – гэта не рускія. Мы там выйгралі Гран-пры і нас палюбіла ўсё ўзбярэжжа. Напрыканцы ўсе ведалі, што танцуюць не рускія, а беларусы. Тым больш што ў нас была абсалютна беларуская праграма.

*А.С.: А чаму вышэйшую адукацыю вы атрымлівалі завочна?*

Т.В.: Я проста не здолела паступіць на вочнае навучанне. У першы год я паступала і правалілася. Для мяне гэта быў дзікі шок. Я ж вучылася добра. Выдатніцай не была, але добра вучылася. І танцамі я займалася. Можа, таму мне падавалася, што ў мяне ўсё нармальна. А тут аказалася...

Там быў вялізны конкурс. Сацыялогія стала моднай. А гэта, здаецца, быў калі не першы, то другі набор. І пасля залічэння выдатнікаў там, здаецца, заставаліся тры месцы, на якія прэтэндавалі чалавек 70 з чымсьці. Карацей, я не прайшла ў першы год. Гэта быў сапраўдны шок. Такога я не ўяўляла. Куды ісці працаваць, не прыдумала і ўрэшце пайшла ў вучэльню, дзе вучылі шыць. Я ўжо добра шыла і выбрала прафесійную вучэльню. Год правучылася, паспрабавала

паступіць другі раз, але прайшла толькі на завочнае. Вучылася і працавала на фабрыцы, а потым у нейкім кааапературатыве ўсе гэтыя пяць гадоў.

*А.С.: Ці былі сярод выкладчыкаў асобы, якія вызначылі Ваш шлях у навуку?*

Т.В.: З тых, хто сапраўды паўплываў на мяне менавіта як настаўнік – Сяргей Сівуха[1]. Ён выкладаў у нас сацыяльную псіхалогію, і быў кіраўніком маіх курсавых прац і дыпломнай. Дыпломная праца была прысвечана псіхалінгвістычным асаблівасцям публічных выступаў палітычных лідараў. Там параўноўваліся выступы А. Лукашэнкі, С. Шушкевіча, З. Пазняка і В. Кебіча. Спрабавала адказаць на пытанне, як псіхалагічныя характарыстыкі адлюстроўваюцца ў публічных выступах гэтых людзей. Гэта з галіны псіхалінгвістыкі.

Праводзячы даследаванне, я імкнулася знайсці індыкатары псіхалагічных характарыстык, якія праяўляліся ў тэксце. Аналізаваліся віншаванні са святамі, перадвыбарныя праграмы, іншыя афіцыйныя выступы. Гэта было даволі цікава. Таксама выкарыстоўвала кантэнт-аналіз. А потым мы ўсё палічылі. І аказалася, што індыкатары не выявілі аніякай розніцы. І мы вельмі доўга абмяркоўвалі тое, што нулявы вынік – гэта таксама вынік. А таксама разважалі пра ролю спічрайтараў, якія стваралі фармальныя тэксты.

Я нават збіралася працягваць гэту тэму, калі ўжо прыйшла працаваць у Інстытут. Тады яшчэ ў нас дзейнічаў фонд Сораса, і я падрыхтавала заяўку на правядзенне даследаванняў. Праўда, нічога не атрымалася.

А з маіх аднакурсніц у публічную сферу (не навуковую) пайшла толькі Ірына Альхоўка. Яна ўзначальвала праект «Гендарныя перспектывы»[2] да таго, як іх закрылі. А перад тым працавала ў арганізацыі «Беларускія хрысціянскія жанчыны». Ірына вучылася ў Святланы Буравай[3], а потым з ёй супрацоўнічала. Займалася праблематыкай гендарных пытанняў. Здаецца, зараз ніхто гэтым ужо не займаецца.

*А.С.: Што для Вас змянілася пасля абрання прэзідэнтам Аляксандра Лукашэнкі?*

---

[1] Сяргей Сівуха – канд. псіх. навук, дацэнт кафедры сацыяльнай камунікацыі БДУ. Сфера навуковых інтарэсаў – сацыяльная псіхалогія, метадалогія колькасных і якасных даследаванняў.

[2] Міжнароднае грамадскае аб’яднанне «Гендарныя перспектывы» між іншым займалася дапамогай ахвярам хатняга гвалту. Гл.: электронны рэсурс https://www.genderperspectives.by/about/mission/. Дата доступу: 17.10.2021. Было зліквідавана рашэннем Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь 28 верасня 2021 г. Гл.: электронны рэсурс https://news.21.by/other-news/2021/09/28/2403194.html. Дата доступу: 17.10.2021.

[3] Святлана Бурава – канд. юрыд. навук, дацэнт кафедры сацыялогіі БДУ, вядомы спецыяліст у галіне гендарных даследаванняў, старшыня грамадскага аб’яднання «Беларуская асацыяцыя маладых хрысціянскіх жанчын».

Т.В.: Мне заўсёды падавалася гэта няправільным. Я за яго не галасавала. Гэта была памылка і вынік нізкага ўзроўню палітычнай і грамадскай культуры. Праўда, я тады больш сваім жыццём займалася. Да пэўнага моманту мне падавалася, што ўсё гэта не надоўга. Чытала нейкую апазіцыйную прэсу і разумела, што гэта сур'ёзная праблема, якая і мяне датычыць. Але не адчувала нейкай там безвыходнасці ці выкліку асабіста для мяне, для маіх дзеянняў. Для мяне было нармальна і дастаткова таго, што я займаюся навуковай працай і паступаю ў адпаведнасці са сваімі поглядамі.

Адчуванне таго, што гэта закранае мяне асабіста і ставіць крыж на маім жыцці, з'явілася ў 2004 г. пасля рэферэндуму пра чарговы тэрмін прэзідэнцтва. Адразу зразумела, што недастаткова таго, што раблю. У мяне было адчуванне, што гэта канец, што няма чым дыхаць. Прыйшло разуменне, што гэтая сітуацыя вымагае чагосьці іншага, чым проста крытычнага стаўлення грамадзяніна, які ходзіць на выбары і выбірае не Лукашэнку, а кагосьці іншага, аналізуе сітуацыю і… усё.

*А.С.: Хацеў бы вярнуцца да працы ў Інстытуце сацыялогіі НАН. Вы працавалі лабарантам, побач з Вамі былі Людміла Навуменка, Уладзімір Абушэнка…*

Т.В.: Так, Абушэнка[1]. Ён трошкі пазней прыйшоў у Інстытут. Ён, дарэчы, таксама быў маім выкладчыкам ва ўніверсітэце. Ён у нас няшмат выкладаў, але вылучаўся як чалавек новы і цікавы. Прызнаюся, што на першым курсе, калі ён чытаў «Уводзіны ў сацыялогію», мы не разумелі 2/3 слоў, якія ён казаў. Пазней ён чытаў «Сацыялогію культуры», і гэта было надзвычай цікава. Ён казаў пра сацыялогію, пабудаваную на веберaўскім разуменні. Менавіта ад разважанняў Абушэнкі з'явілася ў мяне цікавасць да гэтага кірунку. У Інстытут сацыялогіі ён прыйшоў пазней, я там ужо працавала. Гэта быў 2000 або 2001 год.

*А.С.: А чаму Вы затрымаліся ў Інстытуце?*

Т.В.: У мяне тут няма ніякай прыгожай версіі для адказу. Там мне было зручна і цікава. Перыядычна ўзнікалі нейкія новыя даследаванні, у якіх можна было ўдзельнічаць…

*А.С.: Вы памятаеце сваю першую навуковую канферэнцыю, першую публікацыю?*

Т.В.: Не памятаю. Магчыма, вінавата спецыфіка фактычна яшчэ савецкіх інстытутаў, а таксама публікацый маладых супрацоўнікаў… Звычайна выдаваліся зборнікі, у якіх былі сабраны самыя розныя тэксты – не разбеpи пойми чего. Насамрэч гэта такія свайго роду «могілкі» тэкстаў… Магчыма, таму і не памятаю.

---

[1] Уладзімір Абушэнка (1957–2015) – беларускі сацыёлаг і філосаф, канд. філасофскіх навук. З 2002 г. – намеснік дырэктара Інстытута сацыялогіі НАН па навуковай працы. Аўтар больш як 400 навуковых публікацый, у т.л. манаграфіі *Мишель Фуко* (Мн., 2008) і тэкстаў для зборніка *Современная социология: проблемы, рамки, основания*; сост. А. В. Комаровский (Мн., 2016).

*А.С.: А я знайшоў інфармацыю, што Вашай першай публікацыяй быў артыкул «Гражданская идентичность в условиях социальных преобразований».*

Т.В.: Напэўна. Тэма была актуальная, і мы адразу запусцілі якаснае даследаванне. Я хадзіла па школах з анкетамі, дзе былі адкрытыя пытанні пра грамадзянства. Накшталт: я – грамадзянін, што для мяне гэта значыць? Адказвалі старшакласнікі. Фактычна гэта быў старт вывучэння дадзенай тэмы. Памятаю, што для мяне гэта сапраўды было вельмі цікава. Выяўлялася, што за гэтым грамадзянствам, ці паняткам грамадзянства, ці ідэнтыфікацыі з грамадзянствам няма нічога, звязанага з Беларуссю. Апрача самога слова. Выявілася, што «грамадзяне» зусім не ведаюць, што гэта значыць. Такая «пашпартная ідэнтыфікацыя».

Потым было яшчэ некалькі даследаванняў. Для мяне даследаванне грамадзянскай ідэнтычнасці і ідэнтыфікацыі было вельмі важным. Таксама як і першыя вынікі. Відавочна, што ідэнтыфікацыя ёсць, і даволі моцная. У сэнсе таго, што чалавек усведамляе: я – грамадзянін Беларусі. А вось змест вельмі неглыбокі. Чалавеку нібыта няма пра што разважаць у гэтым месцы, няма куды паглыбляцца, няма за што зачапіцца. Зразумела, што гэта фармальныя ці вельмі агульныя характарыстыкі, а таксама спрошчаныя. Разважаючы пра гэта, прыходзіла да высновы, што якраз паглыбленне гэтага зместу, а не самой ідэнтыфікацыі, яго пашырэнне і разнастайнасць – гэта тое, што працуе на ідэнтычнасць. А ўсведамленне таго, што «я – грамадзянін», сфармавалася даволі хутка і не супярэчыла іншаму. Яно было. Цікавасць выклікала менавіта яго семантыка і напаўненне. Я ўжо не памятаю, што было ў той першай публікацыі, скажу шчыра. Магчыма, там былі нейкія тэарэтычныя пераказы вынікаў даследавання.

*А.С.: А яшчэ адзін з першых артыкулаў «Символическое пространство социума как основа формирования гражданского сознания»...*

Т.В.: Гэта пра сімвалы, пра тое, што стаіць за тэрмінам «Беларусь» і г. д. Гэта мы рабілі разам з Людмілай Навуменка, а яе цікавілі не толькі змястоўныя і якасныя даследаванні, але таксама колькасныя паказчыкі. Яна вывучала этнастэрэатыпы, і яе цікавілі гэтыя паказчыкі. Для яе была важнай фіксацыя чагосьці ў вымяральных адзінках. Мы актыўна выкарыстоўвалі семантычны дыферэнцыял. А гэта такая методыка, якая схоплівае тое, наколькі блізкія, напрыклад, нейкія паняткі ў вашай карціне свету, у карціне свету групы. Гэта можа быць адзін чалавек ці некалькі. Пэўныя паняткі могуць быць звязаныя паміж сабой ці з’яўляцца вельмі блізкімі. І яны маюць пэўныя характарыстыкі: актыўнасць, моц і г. д. А іншыя паняткі могуць стаяць далёка адзін ад другога. Напрыклад, «незалежнасць» і «Беларусь» могуць знаходзіцца вельмі далёка ва ўспрыняцці. Гэта ўсё правяраецца не праз разумовыя разважанні, а праз выстаўленні ацэнак па вельмі абстрактных характарыстыках. Пры гэтым будуюцца пэўныя схемы. Гэта даволі цікава.

Пазней, вывучаючы, напрыклад, з'яву «салідарнасць» і г. д., мы таксама спрабавалі знайсці тое, што ляжыць па-за словамі, дайсці да ўзроўню ўспрыняцця. Напрыклад, «краіна», «грамадзянскасць», «прэзідэнт» ці «Пагоня» ўспрымаюцца як нешта блізкае і цёплае ці як далёкае, халоднае, незразумелае і г. д.?

Я магу сказаць, што мая навуковая праца ішла даволі павольна. Я тады пачала хадзіць у горы. У мяне заўсёды былі нейкія іншыя заняткі [смяецца].

*А.С.: Вы выйшлі замуж у тыя гады.*

Т.В.: Так, я выйшла замуж. Мы шмат хадзілі ў вандроўкі і мелі актыўнае турыстычнае жыццё. Гэта таксама спрыяла таму, што актыўнае палітычнае жыццё заставалася недзе збоку... Я ведала, суперажывала, але моцна не ўключалася. Мела ўласнае цікавае жыццё.

*А.С.: Калі Вы адчулі, што сталі самастойным навукоўцам, што можаце весці навуковую дыскусію на сур'ёзным узроўні, можаце нешта ўласнае ўнесці ў навуку? Пасля абароны дысертацыі?*

Т.В.: Трохі раней. Я даволі доўга абараняла дысертацыю па аб'ектыўных прычынах. Думаю, што гэта самастойнасць прыйшла недзе каля 2000 г., калі я ўжо свядома імкнулася напісаць і абараніць дысертацыю. Пачуццё самастойнасці нараджалася ў спрэчках з Людмілай Навуменка пра тое, што важна і што няважна для навукоўца, што яму дазволена і што забараняецца.

*А.С.: Здаецца, Людміла Навуменка не была аўтарытарным навуковым кіраўніком...*

Т.В.: Мы даволі шмат спрачаліся, у добрым сэнсе. Я адстойвала ўласнае ўяўленне пра тое, што ёсць ідэнтычнасць, як яе трэба вывучаць. У Людмілы Навуменкі былі іншыя погляды. Мы паступова разыходзіліся ў гэтых уяўленнях. І я спрабавала адстойваць уласнае... Не было канфлікту, хутчэй была добрая дыскусійная прастора для дваіх. Мы даволі шмат пра гэта размаўлялі і спрачаліся.

І адначасна з гэтым дзесьці ў 2001 г. у Інстытут завітаў знакаміты семінар «Беларускае мысленне: кантэкст, генэзіс, перспектывы», які вялі Уладзімір Абушэнка і Ігар Бабкоў[1]. Нечакана для мяне там адкрыўся інтэлектуальны беларускі свет. Гэта ўжо быў не Інстытут, гэта былі Валянцін Акудовіч[2], Вольга

1 Ігар Бабкоў – беларускі паэт, эсэіст і філосаф, канд. філасоф. навук, вядучы супрацоўнік Інстытута філасофіі НАН Беларусі, куратар «Беларускага калегіюма». Аўтар кніг «Адам Клакоцкі і ягоныя цені» (2001), «Філязофія Яна Сьнядэцкага» (2002), «Хвілінка» (2014) ды інш. Лаўрэат прэміі імя Ежы Гедройця (2014).

2 Валянцін Акудовіч – беларускі эсэіст, літаратурны крытык, філосаф. Старшыня Кола заснавальнікаў і выкладчык «Беларускага калегіюма». Аўтар кніг «Мяне няма. Роздумы на руінах чалавека» (1998), «Разбурыць Парыж» (2004), «Дыялогі з Богам» (2006), «Код адсутнасці. Асновы беларускай ментальнасці» (2007), «Прачнуцца ранкам у сваёй краіне» (2015) ды інш. Лаўрэат прэміі «Залатая літара» (2012).

Шпарага[1], Ігар Бабкоў, Андрэй Казакевіч[2] ды інш. Каго там толькі не было! Усё, што было ў Менску інтэлектуальнага, усё было ў гэтым семінары.

*А.С.: Вы ўжо выйшлі за межы Інстытута?*

Т.В.: Так. Семінар адбываўся ў сценах Інстытута, але гэта было ўвечары, і туды прыходзілі людзі з па-за Інстытута. Мне падаецца, гэта быў 2001 год. І Уладзімір Мацкевіч таксама там быў. Мы пазнаёміліся асабіста. А з яго тэкстамі я была знаёмая яшчэ раней. Гэта знаёмства моцна мяне змяніла і зрабіла больш упэўненай у спрэчках з Людмілай Навуменка. Уладзімір Мацкевіч падтрымаў маё разуменне.

Для мяне, па-першае, адкрывалася інтэлектуальная прастора, якая не была строга навуковай. Маю на ўвазе сітуацыю, калі навуковец толькі назірае за аб’ектам і баіцца дакрануцца да яго. Гэта была прастора інтэлектуальнага жыцця. Фактычна ў гэтым семінары фармавалася беларуская ідэнтычнасць. Ішло вельмі жывое абмеркаванне, што ёсць Беларусь і чым ёсць мысленне пра яе.

У семінары былі розныя плыні. Кожны прыходзіў са сваім. Гэта нагадвала пераход ад двухмернага ўспрыняцця да 3D, 5D, а яшчэ дадаваліся «пахі» і штосьці іншае. І гэта стварала абсалютна іншае ўяўленне пра сэнс навукі і жыцця навукоўца.

Я не магу зараз прыгадаць нейкіх тэкстаў, апрача публікацый Уладзіміра Мацкевіча, паколькі далей усё з ім было звязана. Але гэта быў іншы свет. І ён моцна адрозніваўся не толькі ад інстытуцкага, але і ўвогуле ад навуковага жыцця, ад таго, што тая ж Людміла Навуменка разумела як норму. Яна, здаецца, толькі аднойчы была на гэтым семінары. Усё ж ён, напэўна, не адпавядаў яе разуменню навуковай працы.

Гэта разыходжанне інтэлектуальнай працы і навуковай мяне асабліва ўразіла. Аказалася, што інтэлектуальная праца ці мысленне можа існаваць у іншым модусе, не толькі навуковым. А для многіх навукоўцаў нормай была «аб’ектыўнасць» і «адхіленасць» ад таго, з чым ён мае справу, нават калі гаворка ішла пра праблему ідэнтычнасці, пра культуру. Мы шмат спрачаліся з Людмілай Навуменка, бо я была ўпэўнена, што нашы навуковыя публікацыі закранаюць рэчаіснасць і змяняюць яе. А калі ты як навуковец на гэта ўплыва-

---

1 Вольга Шпарага – філосаф, канд. філасоф. навук. Кіраўнічка праекта «Сучаснае грамадства: этыка і палітыка» ў *European College of Liberal Arts in Belarus* (ECLAB). Аўтарка кніг «Сообщество-после-Холокоста: на пути к обществу инклюзии» (2018), «У рэвалюцыі жаночы твар» (2021, нем.).

2 Андрэй Казакевіч – беларускі палітолаг, канд. палітычных навук. Дырэктар Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера», ст. навуковы супрацоўнік Універсітэта Вітаўта Вялікага (Літва), галоўны рэдактар часопіса палітычных даследаванняў *Палітычная сфера,* галоўны рэдактар *Belarusian Political Science Review*.

еш, то рабі гэта свядома! Прымі на сябе гэту адказнасць і не хавайся за пазіцыю «навукоўца ў вежы».

*А.С.: Хто яшчэ апрача Уладзіміра Мацкевіча зрабіў на Вас моцнае ўражанне?*

Т.В.: Яшчэ хачу сказаць пра ўражанне ад самога семінара. Па-першае, прыйшло разуменне, што мысленне існуе таксама па-за навукай. Па-другое, адкрыццём стала... беларуская мова. Дакладней, яе актыўнае выкарыстанне. Фактычна гэта быў першы асяродак, дзе не проста дамінавала беларуская мова, а менавіта на ёй вялася жывая і напружаная размова пра важныя і складаныя рэчы. Там хапала адных Валянціна Акудовіча з Ігарам Бабковым. Я ўпершыню ўбачыла, што людзі могуць, тут і цяпер, не проста думаць, а думаць па-беларуску... У цябе галава пухне ад інтэлектуальнага напружання, а гэта да таго ж яшчэ і адбываецца па-беларуску. Гэта рабіла моцнае ўражанне.



*Таццяна Вадалажская*
*і Уладзімір Мацкевіч*

*А.С.: А уражанні ад людзей? Чым, напрыклад, Ігар Бабкоў адрозніваўся ад Уладзіміра Мацкевіча?*

Т.В.: Яны абсалютна два розныя полюсы, адрозныя стылістычна і па падыходу. Бабкоў – «казачнік» у добрым сэнсе гэтага слова. Ён стварае міты, і робіць прыгожа. Ён паэт або філосаф-паэт. Мацкевіч – філосаф-дзеяч, які штосьці арганізуе, вызначае, патрабуе. І гэта абсалютна два розных светы. А ёсць яшчэ Валянцін Акудовіч, які таксама хутчэй паэт, але трохі іншы, чым Бабкоў, з уласнымі глыбінямі. І гэта зачароўвала. А яшчэ быў Уладзімір Абушэнка, які зрэдку выказваўся, але яго кароткія заўвагі заўсёды дадавалі новы сэнс. Там я таксама пазнаёмілася з Андрэем Казакевічам. Здаецца, былі Наталка Васілевіч і Вольга Шпарага... Ужо кепска памятаю. Я пазнаёмілася з той плынню, якая раней мне была невядомая, з якой не перасякалася. Уладзіміра Фурса[1] там не было, але былі людзі са «школы» Фурса. Яны актыўна ўдзельнічалі. Гэты быў нейкі ўнікальны мікс.

*А.С.: А калі паўстаў семінар? Як пачалася яго гісторыя?*

---

[1] Уладзімір Фурс (1963–2018) – беларускі філасаф, доктар філасоф. навук. Сфера навуковых інтарэсаў – сацыяльная філасофія. Аўтар грунтоўных даследаванняў у галіне еўрапейскай і амерыканскай сацыяльна-філасофскай думкі, праблематыкі футуралогіі і глабалістыкі, даследчык філасофіі Ю. Хабермаса.

Т.В.: Прыгадваю, што мяне на семінар запрасіў Генадзь Коршунаў, які ў той час быў яшчэ аспірантам. Яны прыйшлі з У. Абушэнкам. Іх было некалькі чалавек. І Генадзь распавёў, што ў Інстытуце філасофіі будзе семінар. Гэты Інстытут быў на 8-м паверсе, а мы, сацыёлагі – на 9-м таго ж будынка. Першае пасяджэнне семінара адбылося ў памяшканні Інстытута філасофіі. А потым яны сталі збірацца ў кабінеце дырэктара Інстытута сацыялогіі.

З інфармацыі Коршунава я зразумела, што семінар ужо пэўны час існаваў, але збіраўся недзе ў іншым месцы. У мяне было ўяўленне, што гэта хутчэй пачатак новага сезона, чым пачатак наогул. Ведаю, што семінар прыдумалі Ігар Бабкоў і Уладзімір Абушэнка. Менавіта яны былі яго фактычнымі гаспадарамі.

*А.С.: Як доўга гэты семінар дзейнічаў?*

Т.В.: Ён дзейнічаў з перапынкамі. Здаецца, існаваў недзе да 2005 г. Гэта было ўнікальнае месца інтэлектуальнай канцэнтрацыі. Думаю, што пазней не існавала нічога падобнага. Той семінар быў месцам, дзе збіраліся амаль усе інтэлектуалы Менска.

Я там у асноўным сядзела і слухала. Гэта было актыўнае слуханне, бо ў мяне ўсё кіпела ў галаве. Але прайшла праз семінар моўчкі, можа адзін ці два разы пра нешта запыталася. Адчувала сябе абсалютным неафітам. Там было чалавек пятнаццаць. Здаецца, ён адбываўся кожны тыдзень ці праз тыдзень. Фармат быў вельмі клубны. Заўсёды былі тры часткі. Спачатку хтосьці рабіў даклад. Потым – перапыначак, каб папаліць. Пасля гэтага пачыналася абмеркаванне. Напрыканцы ўсе ішлі піць піва каля кіёска на ўжо не існуючым аўтобусным прыпынку паблізу Акадэміі навук... Калі быў Тыдзень беларускага мыслення, я думала пра стварэнне «месцаў сілы». Думаю, там трэба было б нейкую шыльдачку павесіць. Тых кіёскаў ужо няма. А тады большая частка семінара гадзіну, а можа і болей стаяла з куфлямі і працягвала абмеркаванне. Такая «неафіцыйная частка». Хоць і да яе, у прынцыпе, не было нічога афіцыйнага. Гэта было цікавае і важнае пераапыленне ўсіх асобных суполак. А потым усе разышліся ва ўласныя праекты.

*А.С.: А якое значэнне ў Вашым навуковым жыцці мела праца над дысертацыяй?*

Т.В.: Яна шмат што значыла. Спачатку думалася толькі пра тое, каб дапісаць яе і абараніць, бо неяк усвядоміла, што ўжо даўно працую ў Інстытуце, а фармальна нічога не маю. А яшчэ я тады развялася. Здавалася, што ў мяне ўвогуле нічога няма. Вырашыла, што трэба хаця б дысертацыю абараніць. Гэта не значыць, што я фармальна яе пісала. Да гэтага збірала і збірала матэрыял. А тут вырашыла, што трэба ўсё аформіць. Памятаю, што нават прымушала сябе пісаць не менш за чатыры старонкі ў дзень, ставіла дэдлайн. Потым гэта ўсё пайшло ў сметніцу, але ўсталявала пэўны працоўны лад.

У той час у Інстытуце не было Савета па абароне дысертацый. Не памятаю, па якіх прычынах ён не працаваў. І пачала фармавацца чарга на абарону, у якой былі не толькі супрацоўнікі Інстытута, але таксама аспіранты з іншых краін.

*А.С.: Савет па аброне дысертацый па сацыялогіі быў адзін у краіне?*

Т.В.: Здаецца, быў яшчэ адзін ва ўніверсітэце, але мы чакалі свайго. Атрымалася, што я амаль год чакала абароны, маючы гатовую дысертацыю. Савет адкрыўся, але чарга была вялікая...

Затое за гэты час некалькі разоў перапісала дысертацыю. Для мяне гэта сапраўды была важная праца. Я шмат перарабіла ў параўнанні з першым варыянтам. Напачатку мне здавалася, што самай цікавай у мяне будзе эмпірычная частка, якая датычыла ўяўленняў пра грамадзянскую прыналежнасць. Там былі вынікі даследаванняў школьнікаў, іншыя даследаванні ў межах маніторынгу, пераважна колькасныя, але былі і якасныя характарыстыкі. А напрыканцы для мяне найбольш важнай стала тэарэтычная частка, якую, як мне падаецца, апрача трох чалавек, ніхто не прачытаў і не зразумеў. Нават не магу ўзгадаць, хто ў мяне былі апанентамі.

Затое прачыталі кіраўнічка Людміла Навуменка, Мікола Кацук[1] і Уладзімір Абушэнка. Апошняга якраз найменш цікавіла эмпірычная частка. Ён засяродзіўся на маіх разважаннях пра прыроду калектыўных уяўленняў пра грамадзянства і калектыўных уяўленняў увогуле. Як мне здавалася, я прапанавала нешта ўласнае і арыгінальнае. Прынамсі, прыйшла да высновы, наколькі важна зразумець прыроду калектыўных уяўленняў, механізмы іх фармавання, убачыць гэта ў дынаміцы.

Падчас абмеркавання дысертацыі я стала вельмі скептычна і крытычна ставіцца (чым далей, тым больш) да магчымасці заставацца надалей у Інстытуце ды ўвогуле ў навуцы. Скажу, што сам працэс абароны ўнутры мяне паставіў крыж на акадэмічнай навуцы. Мне падалося, што ўсё там вельмі фармальна, а месцамі нагадвала нейкі фарс. Прытым што я вельмі добра абаранілася.

Усё было незмястоўна, пуста. Можа, калі б не было таго семінара, напэўна, у мяне не было б такога адчування. Нават тыя спрэчкі, якія былі на самой абароне, пакінулі сумнае ўражанне...

Раней наведвала абароны аспірантаў з краін Усходу. Там усё было зразумела, усё зачытана па паперцы. Таксама ўсё было даволі роўненька і спакойна на абаронах нашых аспірантаў. Нудна, немагчыма было вытрымаць. Сядзела і слухала толькі, каб зразумець працэдуру. А ў мяне было феерычна! Ці то тэма аказалася вельмі актуальнай?.. Былі страшэнныя спрэчкі. Я паводзіла сябе, напэўна, неадпаведна этыкету. Калі паважаны доктар навук і прафесар казала, што ёй падаецца, што тут я памыляюся, я заяўляла ў адказ: «А я так не думаю» [смяецца]. Хтосьці потым казаў, што за артыстызм гэту абарону можна было лічыць абаронай года [смяецца]. Было весела! Нават нейкія лісточкі

[1] Мікола Кацук – сацыёлаг, навуковы супрацоўнік Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі. Сфера інтарэсаў – крытычная сацыялогія, сацыялогія сацыялогіі, культур-сацыялогія, матэматычнае мадэляванне.

раскідваліся, а прысутныя здзіўляліся: «Што гэта наогул такое?!». Але потым усе прагаласавалі «за». Мне ж падалося, што змястоўная частка была даволі пустая. А «падводная» частка мне была малазразумелай, нецікавай. Хоць, відавочна, для прысутных менавіта яна была галоўнай.

А была ж яшчэ і перадабарона. Праходзіла вельмі дзіўна. Усё пачыналася добра, а потым пачаліся крытычныя выказванні. Прычым не змястоўныя, а такія агульныя: маўляў, усё трэба перапісаць. Было адчуванне, што ёсць нейкая «падводная» частка. Але я не збіралася з гэтым разбірацца. Шчыра кажу, што ў момант абароны раптам прыйшло адчуванне, што, калі б я была ў камісіі, я б не прыняла дысертацыю. У мяне ў самой было ўжо шмат пытанняў. Але працэс быў запушчаны, і я зразумела яго фармальны характар. А калі атрымала дыплом, то проста адзначыла для сябе, што 10 гадоў чымсьці займалася. Гэта была толькі кваліфікацыйная праца, прычым у нейкіх дзіўных умовах.

Між тым у Інстытуце змяняліся дырэктары, адбывалася нейкая адміністрацыйна-функцыянальная «движуха», ад якой я была вельмі далёкая. Абарона для мяне была момантам, калі я гэта выразна зразумела. У той час Інстытут нібыта актыўна развіваўся. Дырэктарам ужо стаў Георгі Явелькін[1], прыйшоў Уладзімір Абушэнка, а з ім шмат моладзі. І я таксама была сярод моладзі. Было адчуванне, што можа быць нейкае аднаўленне.

А яшчэ наша група моладзі, якая хадзіла на семінар, стала арганізоўваць аспіранцкія канферэнцыі. Мы неяк арганізавалі адну з такіх канферэнцый, і яна атрымалася даволі змястоўнай. Нават удзельнікі старэйшага пакалення здзівіліся: «Надо же». Потым, праўда, нас апусцілі на зямлю. Мы вырашылі, што мы ўжо гаспадары зборніка матэрыялаў канферэнцыі і будзем самі вызначаць яго змест. А нам сказалі: «Ну, вы же понимаете...». На наступны год мы яшчэ трохі павярушыліся, а потым зразумелі, што ўся гэта выдача карт-бланш на актыўнасць абмежавана тым, што ўсе рашэнні ўрэшце прыме адміністрацыя.

Так закончыўся перыяд адчування, што мы можам нешта змяніць унутры, аднавіць змястоўныя даследаванні, дыскусіі. Адначасна я стала ўключацца ў дзейнасць метадалагічнай супольнасці. У выніку Інстытут усё менш мяне задавальняў, канчаткова знікала тое, што магло мяне неяк там трымаць.

І быў яшчэ адзін эпізод. Хоць не ўпэўнена, што варта пра яго распавядаць... Гэта здарылася пасля абароны дысертацыі. Я, канешне, была задаволеная, асабліва тэарэтычнай часткай дысертацыі, якая амаль нікому не падалася важнай. А пасля атрымання дыплома мяне выклікаў дырэктар Г. Явелькін і ў нас адбылася вельмі цікавая размова. Ён заявіў: «Мы тут Вам кредит дали и надеемся,

[1] Георгі Явелькін – беларускі сацыёлаг, канд. мед. навук, доктар сацыялагічных навук. З 2000 па 2008 г. – дырэктар Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі.

что Вы оцените...». Я адказала: «Я никакого кредита у Вас не просила. Если Вы считали, что моя диссертация недостаточно хороша, надо было чёрные шары кидать».

Калі б не было вось гэтай паралельнай рэальнасці, якая ўсё больш і больш пашыралася, я б, магчыма, шукала спосаб па-іншаму паставіцца да сітуацыі ў Інстытуце.

*А.С.: 2005 год – канец семінара «Беларускае мысленне...». А што далей? Якая альтэрнатыва?*

Т.В.: З 2005 года – гэта ўжо Уладзімір Мацкевіч. Распачаўся іншы семінар, але ўжо метадалагічны. Такі «хатні» семінар. Таксама далучылася да дзейнасці разам з грамадскай арганізацыяй «Цэнтр сацыяльных інавацый». Яны тады прыйшлі да У. Мацкевіча, каб аднавіць сваю дзейнасць. І ў нас утварылася кола, якое потым стала называцца АГТ – «Агенцтва гуманітарных тэхналогій». Фактычна гэта быў метадалагічны семінар Уладзіміра Мацкевіча. Такое нефармальнае кола. А «Цэнтр сацыяльных інавацый» – адна са старэйшых грамадскіх арганізацый (нядаўна яе таксама зліквідавалі). Гэта былі Таццяна Пашавалава, Вячаслаў Чарняўскі, Леанід Каліценя і шмат іншых цікавых людзей. Разам атрымлівалася АГТ–ЦСІ.

У Мацкевіча і раней працаваў семінар, а я далучылася ў 2005 г. Напярэдадні 2006 г. пасля ўкраінскага Майдана ў чаканні новых беларускіх «выбараў» з'явілася сярод НДАшнікаў група «Разам». Там былі Влад Вялічка, Каралёва, Ірына Сухій, якія адчувалі, што ў 2006 г. адбудзецца штосьці вельмі кепскае. Яны паспрабавалі актывізаваць грамадзянскую супольнасць. І вось тады звярнуліся да Мацкевіча і правялі ў Кіеве гульню пра пераможную стратэгію. Туды прыехала даволі шмат палітыкаў і г. д. Праўда, асноўныя «гульцы» яе праігнаравалі, як гэта звычайна бывае. І было зразумела, што яны не прымуць гэтай стратэгіі. Тым не менш тады распачалася грамадская і інтэлектуальная праца. Калі яны ўжо вярнуліся з Кіева, я неяк да іх прыбілася. І гэта ўжо была не толькі семінарская, але таксама палітычная і грамадская дзейнасць.

*А.С.: Ці цяжка было сыходзіць з інстытута?*

Т.В.: Мне не было. Хвалявала толькі тое, што я сыходзіла ў нікуды. Проста ўжо некалькі гадоў я штосьці рабіла ў інстытуце, усё больш і больш сэрцам адыходзячы ад гэтай працы, і займалася тым, чым займалася. Мы ездзілі ў экспедыцыі па малых гарадах, удзельнічалі ў нейкіх канферэнцыях, стварылі стратэгіі, у нас былі семінары, мы пісалі кніжкі. Гэта ўсё было паралельна. Гэта была напалову падпольная грамадская дзейнасць. Але кнігі выходзілі. Першая кніга была пра супольнасць. Здаецца, я яе падала ў сваёй справаздачы. Але гэта вельмі раздражняла начальства. Не Людмілу Навуменку, а вышэйшае начальства.

Праўда, са мной яны ніякіх размоў не вялі. Затое размаўлялі з калегамі – з Аксанай Шэлест, з Аляксеем Ластоўскім: «Что это вы ездите неизвестно

куда?». Са мной не размаўлялі. Мне падаецца, пасля таго, як я сказала, што мне вашых крэдытаў не трэба [смяецца], на мне паставілі крыж. І калі ў мяне падышоў тэрмін заканчэння кантракта, я сказала, што не буду працягваць. Дырэктар сказаў: «Шчаслівай дарогі». І я памятаю здзіўленне і клопат Людмілы Навуменкі: «Ён нічога не прапанаваў? А можа, у сектар пойдзеш? А можа, там, яшчэ што-небудзь?». А мне падаецца, што дырэктар быў рады, што я сыходжу.

Але псіхалагічна гэта сапраўды было даволі цяжка. Я чалавек не надта рызыкоўны і не люблю няўпэўненае становішча. А тут сыходзіла фактычна ў грамадскую арганізацыю без запісу ў працоўнай кніжцы. Яна ў мяне некалькі гадоў дома ляжала. Мела дзіўнае і складанае адчуванне, бо сыходзіла ў палітычную і грамадскую дзейнасць, якая не выглядае лаяльнай у адносінах да дзяржавы. Затое было цікава.

Супраца з У. Мацкевічам пачалася фактычна ў 2005 г. Афіцыйную навуку замяніла інтэлектуальная праца і праграмная дзейнасць у тым, што называецца культурнай палітыкай. Гэта мысленне і практыка.

*А.С.: І што тут самае важнае для Вас?*

Т.В.: Я не ведаю. Складана сказаць, што самае важнае. Па-першае, для мяне вельмі важна вось гэта інтэлектуальнае штодзённае напружанне, гэта пастаяннае напружанне. А па-другое, матэрыял для яго бярэцца з маёй практыкі. Атрымліваецца пэўнае кола. Калі я думаю пра ўніверсітэт і спрабую выбудаваць уяўленні пра тое, якім ён павінен быць, я яго, насамрэч, і будую. І гэта падкідвае мне матэрыял для мыслення, а не толькі чытанне кніжак, ці вывучэнне статыстыкі, ці чагосьці яшчэ. Звязанасць практыкі і мыслення для мяне самае важнае. Прытым што я разумею прысутнасць падзелу – ёсць час дзеяння, ёсць час рэфлексіі. Але ў тым, чым мы зараз займаемся, усё гэта вельмі моцна звязана. І мне падаецца, што гэта і ёсць сучаснае мысленне.

Тут таксама трэба распавесці пра тое, як я, як мы яго ўяўляем. Мысленне, зразумела, гэта цэлы комплекс усялякіх працэсаў. І думка ад моманту свайго з'яўлення праходзіць шмат кропак і працэсаў. Ад з'яўлення да праверкі і дыскусіі, афармлення, тафталогіі ў добрым сэнсе гэтага слова, то бок розных перапісванняў і трансляцый. Гэта ўсё ў шырокім сэнсе – мысленне. Але вось гэта напружанне нараджэння чагосьці новага ў гісторыі чалавецтва як бы качуе з розных сфер: ад багаслоўя ў навуку, у інжынерыю. А потым гэтыя сферы становяцца больш-менш сферамі здабывання веды. Навука ў свой час была месцам, дзе існавалі самыя моцныя інтэлектуальныя напружанні, напружанні мыслення. Потым яна стала індустрыяй. У гэтым няма нічога кепскага. Мы навучыліся здабываць веды пра адносна аб'ектыўны свет. Там свае задачы, сваё напружанне, свае выклікі. Але гэта пашырэнне веды. А мысленне пераходзіць у наступнае, у інжынерыю, у сэнсе таго, як штосьці робіцца. Інжынерыю і менеджмент. Я тут кажу пра кіраванне як сістэму. У гэтым сэнсе мета-

далогія – гэта тое, дзе існуе мысленне. Прычым яно, напэўна, кудысьці сыдзе ў бліжэйшы час. Прынамсі, мы даволі шмат размаўлялі і думалі пра тое, што будзе, калі метадалогія інстытуалізуецца...

*А.С.: Інстытут метадалогіі!?*

Т.В.: Ён пакуль не паўстаў, і пакуль не зразумела, ці то яна адамрэ сама, ці то стане інстытутам, пры гэтым мысленне кудысьці перамесціцца. А пакуль хочацца быць там, дзе яно існуе.

*А.С.: А памятаеце сваю першую беларускамоўную навуковую публікацыю? Гэта было пасляслоўе да рэцэнзіі А. Ластоўскага «Як адказаць на пытанне, што ўяўляе з сябе беларуская нацыя?». Гэта была публікацыя на старонках часопіса «Архэ». Наколькі яна была важная для Вас?*

Т.В.: Напэўна, была, хоць зараз цяжка яе прыгадаць. Сапраўднай падзеяй для мяне было засваенне беларускай мовы як мовы інтэлектуальнай працы. Але я чамусьці больш памятаю не пра пісанне, а пра маўленне, пра выступы. Калі з'явіўся Лятучы ўніверсітэт, намі было прынята, што афіцыйнай мовай універсітэта з'яўляецца беларуская мова. Усе публічныя прамовы павінны быць па-беларуску.

*А.С.: А як нарадзілася ідэя Лятучага ўніверсітэта?*

Т.В.: Яна даволі доўга выспявала. Хачу патлумачыць, што ў праграме культурнай палітыкі, якая ўвогуле прысвечана праблеме трансфармацыі савецкага грамадства ў беларускае сучаснае грамадства, ёсць тры блокі, ці інструменты, гэтых перамен. Яны называюцца метафарычна – універсітэт, партыя, газета. Універсітэт як месца мыслення і трансляцыі. Партыя як палітычныя ці грамадскія больш-менш структураваныя сілы. Газета як сродкі масавай інфармацыі. Менавіта таму пра ўніверсітэт заўсёды ішла гаворка. Нават цэлы год працаваў семінар пра сучасны ўніверсітэт. Потым выйшла кніга Уладзіміра Мацкевіча[1]. Гэта была важная супольная праца. Зразумела, што хэдлайнерам быў У. Мацкевіч.

Вяртаючыся да беларускай мовы... Усё пачыналася на расійскай. Але неяк даволі хутка вырашылі перайсці на беларускую. Гэта вымагала пэўных высілкаў. Усё ж я рускамоўны чалавек па адукацыі, па жыцці. У публічных прамовах і асабліва ў выступах гэта было сапраўдным выклікам. І я гэта назвала для сябе «экстрэмальным вывучэннем беларускай мовы». Экстрэмальнае ў тым сэнсе, што страшна выступаць публічна і безадносна да беларускай мовы, а калі ты вырашыў, што будзеш рабіць гэта па-беларуску, то страшна ўдвая. Але затое эфектыўна [смяецца]. Дзякуй Богу, у гэты перыяд было шмат беларускамоўных сяброў: Валянцін Акудовіч, Міхал Анемпадыстаў[2] ды інш. Яны вельмі

[1] *Университет: дискуссия об основаниях*: Сборник статей / В. Мацкевич, П. Барковский; под ред. Т. Водолажской. Мінск, 2011.

[2] Міхал Анемпадыстаў (1964–2018) – беларускі мастак, дызайнер, паэт, культуро-

спакойна ставіліся да ўсіх маіх моўных памылак. Міхал перыядычна жартаваў наконт гэтага, але заўсёды вельмі па-добраму.

З Міхалам Анемпадыставым мы пазнаёміліся ў байдарачным паходзе. Звычайна ў іх удзельнічалі Валянцін Акудовіч, Ігар Бабкоў, Кірыла Насаеў[1], Сяргей Дубавец[2], Генадзь Сагановіч[3]. Я далучылася да гэтай вандроўкі, калі С. Дубавец і Г. Сагановіч чамусьці ў ёй не ўдзельнічалі. Выпадкова далучылася. І ў гэты ж момант да яе далучыўся Міхал. Мы там і пазнаёміліся. Потым у нас была гульня пра культуру, куды і яго запрасілі. А пасля гэтай гульні якраз пачынаўся Лятучы ўніверсітэт. Спачатку мы да яго звярнуліся з просьбай зрабіць лагатып універсітэта. Ён яго і намаляваў. А потым далучыўся да нашай дзейнасці і даволі хутка стаў адным з галоўных аўтараў таго, што адбывалася.



*Таццяна Вадалажская і Міхал Анемпадыстаў*

*А.С.: Вакол семінара склаўся вельмі моцны інтэлектуальны асяродак. Ці былі нейкія альтэрнатыўныя асяродкі?*

Т.В.: Так. Па-першае, была філасофская плынь. Я б яе назвала «фурсаўскай». Гэта былі прафесійныя філосафы Уладзімір Фурс, Таццяна Шчытцова, Вольга Шпарага, Зміцер Майбарада, Аляксандр Сарна, Павел Баркоўскі. Яны стварылі беларускую філасофскую прастору. Па-другое, паралельна існаваў Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт. Фактычна гэта таксама прадстаўніц-

лаг, мастацтвазнаўца. Стваральнік папулярнага музычнага праекта *Народны альбом*. Аўтар паэтычных зборнікаў: *Глыбока, глыбока, на дне філіжанкі кавы* (Мінск, 2013) ды інш., альбома *Колер Беларусі* (Вільня, 2018).

[1] Кірыла Насаеў (1960–2018) – беларускі кампазітар, дырыжор, хормайстар. У 1990 г. арганізаваў мужчынскі хор «Унія».

[2] Сяргей Дубавец – беларускі журналіст і літаратар. З ім звязана аднаўленне выдання газеты *Наша Ніва* ў 1991 г. Быў яе галоўным рэдактарам да 2000 г. Аўтар кніг *Дзённік прыватнага чалавека*. 1989–1998 (Мінск, 1998), *Вострая Брама* (Прага, 2005) ды інш. Лаўрэат Прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтра (1998).

[3] Генадзь Сагановіч – беларускі гісторык, доктар габілітаваны, рэдактар часопіса *Беларускі гістарычны агляд*.

тва «фурсаўскай школы». Але ў ЕГУ было больш разнастайнасці. У нейкі момант Павел Баркоўскі і Таццяна Шчытцова з'явіліся ў праграме Лятучага ўніверсітэта. Мне здаецца, што яны прыйшлі з пэўным апасеннем. Але хутка высветлілася, што мы не кусаемся, прынамсі, не вельмі балюча. А праз некалькі гадоў пасля Лятучага з'явіўся Eclab[1].

Таксама заўсёды быў Беларускі калегіюм[2]. Гэта зноў жа паралельная і вельмі моцная супольнасць выпускнікоў і выкладчыкаў, культурна-стылістычная супольнасць. Калегіюм таксама з намі звязаны. Але, канешне, ён асобная гісторыя і паралельная рэальнасць.

*А.С.: Прачытаў пра Вас: беларускі метадолаг і сацыёлаг, эксперт Агенцтва гуманітарных тэхналогій, каардынатар праграмы стварэння сучаснага ўніверсітэта ў Беларусі (Лятучы ўніверсітэт), старшы аналітык Цэнтра еўрапейскай трансфармацыі. Хіба, гэта не ўсё. А што найбольш важнае з гэтага?*

Т.В.: Найбольш важнае – Лятучы ўніверсітэт і метадолаг. Найбольш важнае для самавызначэння. Усё астатняе – вытворнае ад гэтага. Агенцтва гуманітарных тэхналогій – гэта проста супольнасць метадолагаў. Яно існавала яшчэ ў 1994 г. Рэгістрацыяй Агенцтва займаўся Уладзімір Мацкевіч. Зараз яно існуе як «нябачны каледж». Гэта супольнасць метадолагаў, гурток, метадалагічнае кола.

Лятучы ўніверсітэт таксама не мае структурных элементаў. Для мяне Лятучы – гэта праграма, не інстытуцыя. І, зразумела, увесь гэты час мы абачліва не рэгістраваліся ў Беларусі, адкідалі ілюзію, што тут можа існаваць нейкая інстытуцыя...

*А.С.: Ці думалі пра вяртанне ў навуку?*

Т.В.: Не. Мяне цалкам паглынае метадалагічны падыход... Пры гэтым я перыядычна ўдзельнічаю ў сацыялагічных даследаваннях, нават выступаю іх ініцыятарам. Гэта нармальная кваліфікацыя.

*А.С.: То бок, фактычна, Вы засталіся ў навуцы?*

Т.В.: Я выйшла на арбіту [смяецца]. Для мяне навука – гэта частка мыслення. Пра штосьці варта і трэба казаць навукова. Але я дакладна не гатова ўкладвацца ў навуковае вывучэнне чагосьці. Калі мне трэба для практычных мэт пра штосьці ведаць, то частка з гэтай веды будзе мець навуковы характар. Для мяне гэта цікава і важна, але гэта толькі частка, а не ўся веда.

*А.С.: Хачу закрануць праблему жанчыны ў навуцы. Усё ж навука традыцыйна мае больш «мужчынскі характар». Вы адчуваеце гендарны дысбаланс?*

---

1 ECLAB або Еўрапейскі коледж *Liberal Arts* у Беларусі – праект, які дазваляе атрымаць адукацыю па сістэме «Ліберал Артс Эд'юкейшн». Першы набор студэнтаў адбыўся ў 2014 г.

2 Беларускі калегіюм – форум для правядзення публічных лекцый і дыскусій, месца інтэлектуальнага і культурнага дыялогу. Быў створаны ў лістападзе 1997 г.

Т.В.: Сапраўды, ёсць такая праблема. Пачнём з таго, што сярод «малодшых» навуковых кадраў больш жанчын, асабліва ў гуманітарных і сацыяльных навуках. А сярод навукоўцаў са ступенямі ўжо значна больш мужчын і г. д. Я ведаю пра гэтую праблему. Але асабіста не сутыкалася з ёй. Магчыма, таму, што ў перыяд майго навуковага жыцця я папросту не адчувала гэтага. Мы жывём у сістэме нейкіх уяўленняў і даволі часта можам нешта не заўважыць або ацаніць як норму. У мяне няма асабістых гісторый ці нейкіх траўм, звязаных з гэтай праблемай. Да таго ж яна хутчэй датычыць не навукі, а пазіцыі мужчын, якія лічаць, што іх увага да жанчыны павінна быць шчасцем для яе. Гэта не толькі пра навуку. Такое мы сёння назіраем у любой сферы жыцця. На шчасце, у мяне такіх яскравых выпадкаў не было.

Я ўжо казала, што мысленне качуе ад сферы да сферы. Калі навука стала індустрыяй ці арганізаванай працай, там стала значна больш месца для жанчыны. Там можна «работаць работу» правільную, добрую і карысную, але не звязаную з вялікімі амбіцыямі, высокай ступенню рызыкі і г. д. І я думаю, што ў навуцы ўсё больш і больш будзе месца жанчынам толькі таму, што там усё больш такой працы. Так гэта структуравана ў грамадстве. Гэта я не пра тое, што так павінна быць. І сёння жанчыны часцей патрапляюць у добра выбудаваныя працоўныя месцы, а не ў месцы новага і прарыўнага, дзе можна здабыць вялікі сацыяльны ці іншы капітал. Туды жанчыны вельмі рэдка патрапляюць.

*А.С.: Ці шмат было жанчын у семінарах, пра якія Вы распавядалі?*

Т.В.: Так. Але звычайна гэта выглядае як пэўны нонсэнс. У гэтым сэнсе навуковае інтэлектуальнае жыццё цалкам паўтарае ўсё астатняе жыццё. Сёння актыўна абмяркоўваецца роля жанчыны ў ІТ. Гэта тая сфера, якая дае вялікі сацыяльны, сімвалічны, грашовы капітал ды інш. Там ідуць даволі складаныя працэсы. Заўважальна, што найбольш жанчын занята на ніжэйшых узроўнях. Іх значна менш там, дзе больш амбітныя пазіцыі. Гэта не толькі таму, што жанчын туды не пускаюць. Часта яны самі туды не ідуць, падзяляючы пэўныя стэрэатыпы і прымаючы пэўныя сацыяльныя ўмовы. Усё ж жанчына значна больш звязана штодзённасцю. Менавіта на ёй ляжыць абавязак клапаціцца пра бацькоў, пра дзяцей. Адпаведна, яна павінна пазбягаць рызыкі. Такі падыход часта падзяляюць самі жанчыны. Але патроху гэта змяняецца.

*А.С.: Як Вы бачыце перспектывы развіцця навукі ў Беларусі, калі яна нарэшце выйдзе з палітычнага крызісу?*

Т.В.: Мне падаецца, сітуацыя будзе вельмі складаная. Я ўжо казала, што навука – гэта ў добрым сэнсе слова індустрыя. І ў гэтай індустрыі, як у астатніх, ёсць пэўнае агульнасусветнае размеркаванне, дзе і што робіцца. Нам будзе вельмі цяжка структурна і інстытуцыянальна заняць нейкае месца ў гэтым падзеле працы… У нас спарахнелыя навуковыя інстытуты (гэта не тычыцца фізікі і нейкіх там тэхналогій). Шмат што, канешне, існуе па-за гэтымі інстытутамі, але тое, што тычыцца гуманітарных і сацыяльных навук, робіцца па-

за дзяржаўнай сістэмай або насуперак ёй. Гэта несістэмнае існаванне навукі. Трэба разумець, што сёння навука – гэта індустрыя, а не супольнасць геніяў, якія штосьці адкрываюць ці вынаходзяць. У нас жа навука як інстытуцыяналізаваная сфера ведаў у заняпадзе. Усё, што адбываецца зараз ці адбывалася раней, абсалютна не спрыяе яе развіццю.

Шлях аднаўлення інстытуцыяналізаванай навукі, унармаванай і ўбудаванай у іншыя працэсы, будзе вельмі складаным. Канешне, можам разлічваць, што ў сітуацыі рэальных перамен у дзяржаве ўсе, хто з’ехаў, вернуцца на радзіму і пачнуць гэта будаваць... Я думаю, што патэнцыял ёсць, але гэта доўгі і цяжкі шлях.

Перабудаваць універсітэты складана. У гэтай сістэме немагчыма выехаць на некалькіх геніяльных навукоўцах. Павінна існаваць структура: навучанне, трансляцыя, публікацыі, інфраструктура. І ўсё гэта трэба будзе будаваць нанова.

І, між іншым, каб гэта зрабіць, ад людзей у навуцы спатрэбіцца трохі «выйсці» і паглядзець дзейнасна на навуку як на інстытут, які трэба перабудоўваць. Спадзяюся, што якраз мой метадалагічны і практычны досвед тут будзе дарэчы, каб нарэшце інстытуты мыслення ў краіне запрацавалі як мае быць.

ISSN 2424-5216

# РЭЦЭНЗІІ
# REVIEWS

## ПОЛЬСКА-ЛІТОЎСКАЙ СЦЕЖКАЙ ПА ВІЛЕНСКІХ РОСАХ

***Сяргей Грунтоў,***
*канд. гіст. навук (Менск)*

***Cmentarz Na Rossie w Wilnie – historia, sztuka, przyroda*. Pod red. Anny Sylwii Czyż i Bartłomieja Gutowskiego, Warszawa 2019. 606 s., ilustr.**

Віленскія Росы, галоўны некропаль літоўскай сталіцы, прыцягвае ўвагу даследчыкаў яшчэ з XIX стагоддзя і з’яўляецца найважнейшым месцам памяці беларусаў, літоўцаў і палякаў. У 2013–2016 гг. тут праводзіліся інвентарызацыйныя працы пад кіраўніцтвам польскіх спецыялістаў варшаўскіх Інстытута гісторыі мастацтва і Універсітэта кардынала Стэфана Вышынскага і пры ўдзеле літоўскіх калег з Адукацыйнай акадэміі Універсітэта Вітаўта Вялікага. Вынікам праекта стала даступная анлайн-база помнікаў, іх апісанняў, фотаздымкаў і эпітафій – усіх са Старых Росаў, і тых, што маюць даціроўку да 1945 г. – з Новых[1].




[1] *Cmentarz na Rossie w Wilnie. Badania inwentaryzacyjne* [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://cmentarznarossie.uksw.edu.pl. Дата доступу: 30.03.2021.

У 2017 г. з друку выйшла кніга *Cmentarz na Rossie w Wilnie. Niezachowane pomniki na podstawie kartotek Wacława Wejtki, Lucjana Uziębło i Aleksandra Śnieżki*[1] аўтарства Ганны Сыльвіі Чыж і Бартламея Гутоўскага, якія кіравалі інвентарызацыйным праектам. Гэта каштоўнае выданне ўтрымлівала тэксты эпітафій тых надмагілляў з Росаў, якія не захаваліся да нашага часу, але былі выяўлены ў інвентарызацыйных картатэках пералічаных у назве асоб. Аднак тыя, хто даследуе могілкі рэгіёна і цікавіцца лакальнай гісторыяй, чакалі грунтоўнай манаграфіі могілак па выніках праведзенай інвентарызацыі і даследаванняў.

Чаканні былі ўзнагароджаны ў 2019 г. грунтоўным 600-старонкавым томам *Cmentarz Na Rossie w Wilnie – historia, sztuka, przyroda*[2] пад навуковай рэдакцыяй згаданых вышэй аўтараў. Разам з гэтым была апублікавана і літоўская версія кнігі, электронная копія якой выкладзена ў вольны доступ[3]. Выданне аказалася калектыўнай манаграфіяй, напісанай польскімі і літоўскімі аўтарамі. Зроблена яно так, каб цешыць вока бібліяфіла: мелаваная папера, поўнакаляровы друк, якасны пераплёт, развароты з мастацкімі фотаздымкамі Росаў паміж раздзеламі. Без сумневу, выданне мае рэпрэзентацыйны характар і тым нагадвае кнігу *Cmentarze na Żmudzi* Яна Складоўскага (2013), выдадзеную ў фармаце альбома[4].

Для Ганны Чыж і Бартламея Гутоўскага гэта выданне не было першым, зробленым па выніках інвентарызацыі каталіцкіх могілак за межамі Польшчы. У апошнія гады яны выступілі аўтарамі і рэдактарамі шэрагу кніг і іншых публікацый па выніках даследаванняў могілак былога Тарнопальскага ваяводства[5]. У разглядаемым выданні яны таксама з'яўляюцца не толькі рэдактарамі, але і аўтарамі асноўных раздзелаў.

Чытач, які адкрые змест *Cmenatrza Na Rossie*, непазбежна будзе здзіўлены. Пасля трох кароткіх уступных тэкстаў, звычайных для такіх выданняў, ідзе

---

1 A. S. Czyż, B. Gutowski, *Cmentarz na Rossie w Wilnie. Niezachowane pomniki na podstawie kartotek Wacława Wejtki, Lucjana Uziębło i Aleksandra Śnieżki*. Warszawa, 2017.

2 *Cmentarz Na Rossie w Wilnie – historia, sztuka, przyroda* / Pod red. A.S. Czyż i B. Gutowskiego. Warszawa, 2019.

3 *Rasų kapinės Vilniuje – istorija, menas, gamta* / Red. Anna Sylwia Czyż ir Bartłomiej Gutowski. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://polonika.pl/upload/2019/inne/ROSSA%20LITEWSKA%20elektroniczna.pdf. Дата доступу: 30.03.2021.

4 J. Skłodowski, *Cmentarze na Żmudzi. Polskie ślady przeszłości obojga narodów*. Warszawa, 2013.

5 *Cmentarze dawnego powiatu zaleszczyckiego: kaplice, grobowce i nagrobki z inskrypcjami zapisanymi w alfabecie łacińskim (1790–1945)* / Redakcja naukowa A. S. Czyż, B. Gutowski. Warszawa, 2016; *Cmentarze dawnego powiatu buczackiego* / Pod redakcją A. S. Czyż, B. Gutowskiego. Warszawa, 2017 ды інш.

раздзел *Гісторыя і мастацтва могілак Росы ў ХХ ст.* Б. Гутоўскага, які займае 242 старонкі, а пасля яго – раздзел *Могілкі Росы ў ХІХ ст.: найранейшая гісторыя, капліцы і надмагіллі* (74 стар.). Такая храналагічная перастаноўка і дыспрапорцыя аб'ёмаў дзівіць і вымушае толькі здагадвацца аб яе прычынах, якія ва ўводным рэдакцыйным артыкуле не тлумачацца.

Прычыны калі не перастаноўкі раздзелаў месцамі, то згаданай дыспрапорцыі становяцца зразумелымі пры чытанні тэксту Б. Гутоўскага пра ХХ стагоддзе на Росах. Роўна трэць яго (80 стар.), болей чым адведзена на ўсё ХІХ стагоддзе, займае падрабязнае апісанне гісторыі стварэння Могілак абаронцаў Вільні ў 1919–1920 гг. і «маўзалея» для сэрца Юзафа Пілсудскага. Гэта вельмі ўнікліваe вывучэнне ўзнікнення згаданых аб'ектаў і працэсу яго абмеркавання ў прэсе. Напрыклад, 10 старонак займае толькі апісанне і фотаздымкі таго, як надмагільную пліту Пілсудскіх выразалі са скальнага масіва, апрацоўвалі і транспартавалі ў Вільню. Пры гэтым цалкам адсутнічае рэфлексія над роллю гэтага месца для польскага нацыяналізму, гістарычнай памяці і канфліктаў, якія ўзнікалі вакол яго ў польска-літоўскіх стасунках. Адным з ключоў для разумення такой вялікай увагі аўтара да гэтага аб'екта можа служыць тое, што ён лічыць помнік «Маці і сэрца сына» «эмацыйнай дамінантай могілак» (с. 255).

У астатнім раздзел Б. Гутоўскага дзеліцца прыкладна на тры роўныя часткі. Першая апісвае гісторыю Росаў у ХХ ст., іх вывучэнне, кансервацыю, ахову і развіццё. Другая прысвечана майстрам і майстэрням, якія выраблялі надмагіллі для некропаля. Вельмі каштоўная для кожнага даследчыка могілак у рэгіёне, яна ўтрымлівае крыху адсылак і да беларускай тэматыкі. На с. 213 можна ўбачыць надмагілле Францішка Аляхновіча, на с. 207 – скульптурнае надмагілле з гарадзенскай майстэрні Баляслава Шышкевіча, а на наступнай старонцы – кароткую інфармацыю пра яе.

Раздзел завяршаецца часткай, прысвечанай характарыстыцы надмагільных формаў ХХ ст. на Росах. Тут таксама можна знайсці шмат каштоўнай інфармацыі і генералізацый адносна развіцця пэўных стыляў у мемарыяльнай архітэктуры і пластыцы. У першую чаргу гэта тычыцца сецэсіі, якую на тэрыторыях былой Расійскай імперыі звычайна называлі «мадэрнам», і мадэрнізму. Варта звярнуць увагу на характарыстыку асноўных рыс развіцця першага згаданага стылю. Надмагіллі, зробленыя пад яго ўплывам, сустракаюцца на могілках Літвы і Беларусі не вельмі часта, тым больш каштоўная спроба апісання яго прысутнасці на віленскіх Росах.

Далей ідзе вельмі цікавы і насычаны карыснай інфармацыяй раздзел Ганны Чыж пра Росы ў ХІХ ст. Тут паслядоўна разглядаецца гісторыя заснавання могілак, лёс разабраных у сярдзіне ХХ ст. катакомбаў, гісторыя і архітэктура ўсіх могілкавых капліц, а таксама развіццё форм надмагілляў за акрэслены перыяд. Асаблівую ўвагу аўтарка надала галоўнай могілкавай капліцы. Неагатычная звонку, унутры яна мае даволі радыкальнае класіцысцкае вырашэнне

малітоўнай залы ў форме авала. Выглядае так, нібыта інтэр'ер быў спланаваны на трэць стагоддзя раней, чым экстэр'ер, што стварае архітэктурную загадку. Аўтар схіляецца да думкі, што рэалізаваны план абапіраўся на папярэдні, створаны перад заснаваннем могілак (1801), і прыводзіць даволі пераканаўчыя аргументы, хоць без дадатковых доказаў яе меркаванне застаецца гіпотэзай.

Магчыма, гэта толькі суб'ектыўная перспектыва, але, на мой погляд, асноўным зместам могілак усё ж з'яўляюцца надмагіллі. Вельмі шкада, што на разгляд іх у XIX ст. адведзена толькі 22 старонкі, палову з якіх займаюць ілюстрацыі. Сам па сабе гэта добры нарыс, які паслядоўна апісвае развіццё мемарыяльных форм за названы перыяд, але яго недастаткова, і многія пытанні застаюцца па-за дужкамі. Але найбольш шкада таго, што фактычна не выкарыстоўваецца для аналізу ўвесь матэрыял інвентарызацыі, які дазволіў бы зразумець ступень папулярнасці тых ці іншых надмагільных форм на могілках у розныя перыяды ў канкрэтных лічбах і дапамог бы зразумець, калі тыя ці іншыя з іх пашыраюцца. Такая інфармацыя была б карыснай і для датыроўкі надмагілляў, эпітафіі на якіх не захаваліся. Варта было б больш грунтоўна разглядзець надмагіллі з пазнакамі майстэрняў, як гэта было зроблена ў папярэднім раздзеле пра XX ст. Усё можна было б спісаць на недахоп месца, але ў іншых раздзелах такой праблемы няма. Напрыклад, акрамя згаданага «маўзалея» Пілсудскіх, у «батанічнай частцы» змешчаны дадатак з пералікам усіх 277 дрэваў, выяўленых на могілках (16 старонак).

Трэба сказаць, што і Б. Гутоўскі, і А. С. Чыж у сваіх раздзелах прыходзяць да высновы пра параўнальную беднасць могілак. Першы сцвярджае гэта як агульную характарыстыку наяўных надмагілляў (с. 254), другая бачыць гэта ў папулярнасці надмагілляў у форме вялікіх малаапрацаваных гранітных валуноў, што выраблялісь ў другой трэці XIX ст. у віленскіх майстэрнях Казлоўскага, Гарбацэвіча ды іншых, якія шырока сустракаюцца і на беларускіх могілках (с. 315–316). З гэтай высновай трэба пагадзіцца і прызнаць яе карыснай. Яна стварае больш цвярозую перспектыву на разуменне таго, чым ёсць могілкі Росы, і дапамагае аддзяліць іх гістарычнае значэнне, як месца спачыну многіх выбітных асоб, ад мастацкага. Апошняе характарызуецца даволі сціплым узроўнем помнікаў. Аўтары тлумачаць гэта сацыяльна-эканамічнымі прычынамі і спецыфікай развіцця Вільні ў XIX ст. Хоць нельга тут выключаць іншых фактараў, да якіх можна аднесці паступовае фармаванне пэўнага стандарту ўяўленняў пра тое, як павінен выглядаць добры помнік безадносна фінансавых магчымасцей сям'і.

Другую палову кнігі складаюць тэксты, якія разглядаюць асобныя аспекты Росаў, іх вывучэння і захавання. Сярод іх вылучаецца тэкст літоўскай даследчыцы Віды Гірынінкенэ *Віленскія Росы*. На стыку культур, які пазбаўлены тэматычнай спецыфікацыі. Гэта агляд гісторыі Росаў і аб'ектаў, якія там знаходзяцца, але ў большай частцы ён паўтарае інфармацыю двух папярэдніх

раздзелаў. Пры гэтым месцамі з’яўляюцца розначытанні. Калі з тэксту Ганны Чыж мы даведваемся, што могілкі былі заснаваны ў траўні 1801 г., то Віда Гірынінкенэ лічыць месяцам іх заснавання ліпень. Хоць з тэксту вынікае, што ў ліпені адбылася юрыдычная перадача горадам зямлі для могілак кляштару місіянераў. У той час як асвячэнне і першае афіцыйнае пахаванне на Росах адбылося ў траўні. Затое ў заключным сказе раздзела ці не ўпершыню можна прачытаць пра Росы, што яны з’яўляюцца «месцам нацыянальнай памяці літоўцаў, палякаў, беларусаў» (с. 375). Гэта было сказана з нагоды планаванага перапахавання парэшткаў паўстанцаў 1863–1864 гг. У іншых частках кнігі Росы звычайна ўзгадваюцца як выключна польска-літоўская спадчына.

За гэтым ідзе яшчэ адзін невялікі, але вельмі цікавы раздзел Ганны Чыж пра лёс знішчаных пратэстанцкіх могілак у Вільні. Ад іх засталася толькі могілкавая капліца, але частка надмагілляў была ўратавана і перанесена на Росы. Сярод іх шэсць надмагільных пліт XVIII ст., што ўяўляецца асабліва каштоўным з прычыны вельмі малой колькасці захаваных помнікаў таго часу, пастаўленых па-за мурамі храмаў у рэгіёне, да і ў цэлым у Беларусі і ў Літве.

Наступныя 70 старонак займае раздзел, дзе Росы разглядаюцца як ландшафтны парк. Ад іншых частак кнігі ён адрозніваецца так, як дакладныя навукі адрозніваюцца ад гуманітарных. Тут шмат табліц, схем, прыкладаў фармальнага аналізу і лацінскіх назваў дрэваў[1]. Наяўнасць такой перспектывы падаецца важнай для пашырэння разумення могілак як цэласнага прыроднага і культурнага ландшафту, неад’емнай часткай якога з’яўляюцца дрэвы. Высокая ступень «залесенасці» Росаў добра бачная на многіх старых фотаздымках, прыведзеных у кнізе. Разуменне гэтага асабліва важнае ў беларускай перспектыве, дзе ў апошнія гады на гістарычных могілках адбываецца варварскае знішчэнне старых дрэў. У выніку яны страчваюць сябе як гістарычны ландшафт. Згадаем толькі старыя каталіцкія і праваслаўныя могілкі ў Гародні, якія засталіся цалкам без дрэваў.

Кнігу заканчваюць чатыры кароткія раздзелы. Аўдронэ Вішняўскенэ апісала гіторыю і сучасны стан прац па ахове і кансервацыі могілак. Справа гэта нялёгкая як па прычыне страт савецкага перыяду, так і ў сувязі з наяўнасцю надмагілляў вялікіх памераў і шматлікасці помнікаў, якія патрабуюць кансервацыі. Але ў любым выпадку гэтыя старонкі могуць выклікаць у беларускага чытача толькі добрую зайздрасць, бо аніводныя нашы гістарычныя могілкі і блізка не зведалі такіх намаганняў па іх ахове, вывучэнню і рэстаўрацыі.

---

[1] Выкарыстанне «батанічнай перспектывы» ўжо паказала свой патэнцыял у пашырэнні нашага разумення аб’ектаў, звязаных з пахавальнай культурай. Прыгадаем хоць бы археабатанічнае даследаванне раслін, якімі запаўнялі вантробы нябожчыкаў для крыптавых пахаванняў у Польшчы ў XVII–XVIII стст. Гл.: *Kultura funeralna elit Rzeczypospolitej od XVI do XVIII wieku na terenie Korony i Wielkiego Księstwa Litewskiego. Próba analizy interdyscyplinarnej* / Red. Anna Drążkowska. Toruń, 2015.

Томаш Якубоўскі прадставіў раздзел па іканаграфіі Росаў да 1939 г., хоць вялікую колькасць ілюстрацый па гэтай тэме можна знайсці і ў папярэдніх раздзелах кнігі. Ён прыйшоў да сумнай высновы, што «іканаграфія віленскіх могілак Росы прадстаўлена надзвычай бедна» (с. 519). Калі меркаваць па матэрыялах раздзела, то гэта сапраўды так.

Апошнія два раздзелы прадстаўлены эпіграфічнымі даследаваннямі. Вядомая даследаваннем польскай эпіграфікі на могілках Віленшчыны[1] Крыстына Сырніцка напісала тэкст *З гісторыі надмагільнага вершавання на Росах*. Размяшчэннем гэтага тэксту ў кнізе дасягаецца цікавы эфект. Падаецца, нібыта ўпершыню за прачытаныя пяцьсот старонак аўтары дазволілі прамовіць самім памерлым. Да гэтага могілкі разглядаліся як безасабовы аб'ект матэрыяльнай культуры, частка ландшафту. А цяпер раптам загучалі галасы людзей. Такое ўражанне невыпадковае. У папярэдніх раздзелах можна знайсці вельмі мала інфармацыі пра пахавальныя і мемарыяльныя традыцыі Вільні. Менавіта таму тэкстуальная экскурсія ў свет асабовага, дзе ў вершаваных радках спалучаюцца жалоба і надзея, выклікае такі эфект.

У раздзеле прыведзены і пракаментаваны дзесяткі прыкладаў такіх эпітафій, а аўтарка прыходзіць да высновы, што яны былі ўзорам для аналагічных тэкстаў местачковых могілак на Віленшчыне. Не да канца зразумела, як адбываўся механізм трансляцыі і не прыведзена ніякіх прыкладаў, якія б сведчылі пра храналагічнае першынство Вільні ў выкарыстанні тых ці іншых вершаваных узораў, таму даводзіцца верыць на слова.

У заключным раздзеле *Выбраныя аспекты эпіграфічнай культуры могілак Росы* Кшыштаф Талкачэўскі разглядае эпіграфіку ў шырокім кантэксце дзейнасці майстроў, якія займаліся вырабам надмагілляў ці разьбою эпітафій. Аўтар засяроджваецца на перыядзе з 1801 па 1864 г. і прыводзіць шмат цікавых фактаў пра дзейнасць віленскіх майстроў гэтага перыяду, іх адукацыю, месцы размяшчэння майстэрняў і г. д.

Аўтар, сапраўды, вельмі добра кантэкстуалізуе тое, што ён называе «эпіграфічнай культурай» (с. 562). У той жа час шэраг пытанняў, якія ён ставіць у пачатку, застаюцца без адказу. Напрыклад, немагчыма зразумець, у якой ступені майстар уплываў на фармуляр і змест эпітафіі. Тут якраз спатрэбіліся б метады класічнай эпіграфікі – параўнання тэкстаў эпітафій, выкананых аднею майстэрняй, з тэкстамі эпітафій іншых майстэрняў. Магчыма, гэта і не зняло б пытання цалкам, але наблізіла б да яго вырашэння.

У заключэнне варта адзначыць, што выхад новай кнігі пра могілкі Росы непазбежна падшурхоўвае да параўнання яе з двума важнейшымі выданнямі пра віленскія некропалі. Першае – гэта кніга Эдмунда Малаховіча «Могілкі Росы

[1] K. Syrnicka, *Polska epigrafika nagrobna na Wileńszczyźnie: tradycja i współczesność*. Wilno – Lublin, 2001.

ў Вільні»[1] (1993), якая да гэтага часу лічылася асноўным даследаваннем названых могілак. Відавочна, новае выданне з'яўляецца істотным крокам наперад у вывучэнні гісторыі, архітэктуры, эпіграфікі і шэрагу іншых аспектаў, датычных віленскіх Росаў. Тут жа мы атрымліваем каштоўны ілюстрацыйны матэрыял, як гістарычны, так і сучасны, што спрыяе разуменню Росаў як цэласнага і ўнікальнага ландшафта. Заўважу, што ў кнізе 1993 г. выдання зрабіць гэта было проста тэхнічна немагчыма, нягледзячы на немалую колькасць ілюстрацый. Але варта адзначыць, што новая кніга не замяняе працу Э. Малаховіча, а толькі дапаўняе яе. У гэтым сэнсе на кніжнай паліцы яны павінны стаяць побач.

Нялішнім будзе заўважыць і тое, што на многіх старонках сваёй кнігі Малаховіч паслядоўна гаворыць пра могілкі Росы як пра супольную спадчыну палякаў, літоўцаў і беларусаў. У разглядаемым выданні такая перспектыва амаль цалкам знікае, звужаючыся да сумеснай спадчыны палякаў і літоўцаў. Нібыта ступень супольнасці спадчыны вызначаецца толькі выкарыстаннем моў у эпітафіях і ступенню ўдзелу ў фінансаванні праектаў па даследаванні і кансервацыі могілак.

Другое выданне – гэта даследаванне Бернардзінскіх могілак у Вільні, якое выйшла ў 2010 г. па-літоўску, а ў 2013 г. – у польскім перакладзе[2], супастаўімае па аб'ёме і масштабе даследавання. У параўнанні з новай кнігай пра Росы яно выглядае больш гарманічнай у сваім змесце, пазбягаючы паўтору інфармацыі і згаданых вышэй дыспрапорцый. Аднак даследаванне Бернардзінскіх могілак пераймае звыклую структуру кніг пра могілкі і адну трэць свайго аб'ёму прысвячае кароткім біяграфіям пахаваных асоб з прывядзеннем эпітафій. Яшчэ адну трэць аддае паказальніку ўсіх пахаваных на могілках з лакалізацыяй іх надмагілляў. Рашэнне аўтараў манаграфіі пра Росы не траціць аб'ём кнігі на гэтую інфармацыю можна толькі ўхваліць. Асабліва з улікам наяўнасці поўнай электроннай базы ўсіх надмагілляў, а таксама кнігі Малаховіча.

Новая кніга пра віленскія Росы – гэта выдатнае навуковае выданне, якое абавязкова павінна быць на паліцы кожнага даследчыка гісторыі могілак у рэгіёне. У першую чаргу яно будзе цікавае знаўцам тэмы. Калі ж чытач упершыню сутыкаецца з гэтым некропалем, то, магчыма, яму лепей будзе пачаць з працы Эдмунда Малаховіча, а ўжо пасля звярнуцца да новага тома.

Супраца польскіх і літоўскіх даследчыкаў заслугоўвае ўсялякай пахвалы. Калі гэта яшчэ не выраўніванне дзвюх навуковых і ідэалагічных перспектыў у поглядах на спадчыну рэгіёна, то заўважны крок у гэтым накірунку. Застаецца толькі спадзявацца, што аднойчы да іх здолее паўнапраўна далучыцца і беларуская перспектыва.

---

[1] E. Malachowicz, *Cmentarz na Rossie w Wilnie*. Wrocław, 1993.

[2] *Vilniaus Bernardinų kapinės, 1810–2010* / Sudarytoja Vida Girininkienė. Vilnius, 2010; *Cmentarz bernardyński w Wilnie, 1810–2010* / Układ edycji: Vida Girininkienė. Vilnius, 2013.

ISSN 2424-5216

# ANARCHY IN THE BY. ГІСТОРЫЯ АНАРХІЗМУ Ў БЕЛАРУСІ НА ПАЧАТКУ XX СТ.

***PhD Аляксандр Ланеўскі (Варшава)***
*https://orcid.org/0000-0003-1876-2567*

***Глушаков Ю. Э., «Революция умерла! Да здравствует революция!»: Анархизм в Беларуси (1902–1927). СПб., 2015. 176 с., ил.***

Анархізм як філасофская думка, палітычная дактрына і грамадскі рух сфармаваўся ў сярэдзіне XIX ст. і да нашых дзён належыць да найбольш арыгінальных і супярэчлівых сацыяльных феноменаў у гісторыі чалавецтва[1]. Аднак прага да абсалютнай свабоды і гармоніі асобы ў грамадстве, імкненне да сацыяльнай справядлівасці, мара аб свеце без прыгнёту ды іерархіі, а таксама прыклады масавай самаарганізацыі і радыкальнага супраціву кожнай форме дзяржавы маюць доўгую гісторыю[2]. Частка гэтай гісторыі звязана з Беларуссю.

Сёння ў Рэспубліцы Беларусь актыўна дзейнічаюць прыхільнікі лібертарных поглядаў[3], існуе турэмная анар-

---

[1] Казлоў М. В., *Анархізм як палітычны і культурны феномен у прасторы еўрапейскай думкі* // Государства Центральной и Восточной Европы в исторической перспективе: сборник научных статей по материалам IV Международной научно-практической конференции, Пинск, 20–21 декабря 2019 г. Полесский государственный университет. Редкол.: К. К. Шебеко [и др.]. Пинск, 2019, с. 207–211.

[2] Напр.: Парыжская камуна, Махноўскі рух ці грамадзянская вайна ў Гішпаніі, а таксама казацтва, сярэднявечныя гарадскія абшчыны-камуны, «сялянскія рэспубікі» ды інш. Гл.: Штырбул А., *Безгосударственные общества в эпоху государственности*. Москва, 2018.

[3] Канавальчык П., *Anarchy in BY. Анархістычны рух у Беларусі*, Менск, 2002; Ланеўскі А., *Ад пратэсту да супраціву: вакол «справы беларускіх анархістаў»* // «Палітычная сфера». 2013, № 20 (1), с. 99–121.

хісцкая проза[1], а свае сімпатыі да анархісцкіх ідэй выказваюць сучасныя беларускія пісьменнікі (Альгерд Бахарэвіч, Макс Шчур, Адам Глёбус). Аднак анархізм, збольшага, невядомы не толькі сярэднестатыстычнаму беларусу, але і некаторым інтэлектуалам[2]. Тэорыя анархізму[3], у адрозненне ад яго палітычнай практыкі, у краіне не забаронена, але ж у навуковым асяроддзі практычна няма даследчыкаў гісторыі ці філасофіі анархізму. Чаму так адбываецца?

Падаецца, што ў беларускай гістарыяграфіі анархізм заўсёды заставаўся па-за галоўнымі кірункамі даследаванняў па банальных прычынах. Кожная афіцыйная гістарыяграфія з'яўляецца гісторыяй дзяржаўнасці (імперскай, бальшавіцкай, нацыянальна-дэмакратычнай). Практычна ўся беларуская гістарычная навука ў большай ці меншай ступені засяроджана вакол «міфа дзяржавы» ці «станаўлення нацыі», і яе накірункі адрозніваюцца толькі інтэрпрэтацыяй[4]. А гісторыя анархізму – гэта гісторыя барацьбы з дзяржавай: камуністычнай, нацыяналістычнай, дэмакратычнай; з рэспублікай, манархіяй, імперыяй.

Ці той факт, што краіна не мела дзяржаўнасці і, адпаведна, не мела традыцыі барацьбы з дзяржавай, дазваляе гісторыкам абмінаць гэтую праблематыку?[5] Магчыма, што даследчыкаў адштурхоўвае нежаданне зразумець анархізм ці – наадварот – ўсведамленне таго, чым ён з'яўляецца па сутнасці. Ці не частка гісторыі свабоды? Як казаў прэзідэнт ЗША: «Свабода ніколі не зыходзіць ад урада. Свабода заўсёды зыходзіць ад яго падданых. Гісторыя свабоды – гэта гісторыя абмежавання ўлады ўрада, а не яе ўзрастання»[6].

---

1 Олиневич И., *Еду в Магадан*. Москва, 2013; Дзядок М., *Фарбы паралельнага свету*. [Б. м.], 2017; апавяданні А. Францкевіча ў зборніку *Голас волі з-за кратаў. Анталогія твораў беларускіх палітзняволеных*. Складальнік, рэдактар А. І. Фядута. Вільня, 2013, с. 659–711.

2 Напр., беларускі палітык у сваёй аўтабіяграфіі назваў М. Бакуніна «вядомым марксістам». Гл.: Шушкевіч С., *Маё жыццё. Крах і ўваскрошанне СССР*. Мінск, 2013, с. 306.

3 У Гомелі ёсць вул. М. Бакуніна, у Менску – вул. П. Крапоткіна. На старонцы адміністрацыі Савецкага раёна Менска ёсць нават артыкул, прысвечаны расійскаму рэвалюцыянеру: Крапоткін Пётр Аляксеевіч. [Электронны рэсурс] Рэжым доступу: https://sov.minsk.gov.by/svedeniya-o-rajone/ikh-imenami-nazvany-ulitsy/5086-krapotkin-pjotr-alyakseevich. Дата доступу: 08.08.2021.

4 Ліднэр Р., *Гісторыкі і ўлада. Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX стст*. Мінск, 2005.

5 Гісторык Фр. Рышка пра прычыны адсутнасці цікавасці да анархізму ў польскай гістарыяграфіі: «Адсутнасць уласнай традыцыі – анархізм «абышоў нас бокам» – а таксама стараннае ўтойванне пэўных літаратурных альбо інтэлектуальных сюжэтаў...». Гл.: *O anarchizmie, anarchii i granicach wolności*. Red. Z. Buchalska, Warszawa 1981, s. 2.

6 Wilson W., *Crossroads of Freedom. The 1912 Speeches of Woodrow Wilson*. Yale University Press, 1956, p. 130.

Беларускі фрагмент гісторыі анархізму на пачатку ХХ ст. паспрабаваў прааналізаваць у сваёй манаграфіі Юры Глушакоў. Гомельскі гісторык з'яўляецца не толькі даследчыкам рэвалюцыйных рухаў, але таксама публіцыстам і папулярызатарам гісторыі. Характэрна, што аўтар – даволі актыўны палітычны дзеяч: былы дэпутат Гомельскага гарсавета і намеснік старшыні Беларускай партыі «Зялёныя». Яго грамадская актыўнасць мае пэўную гісторыю. Так, Глушакоў стаяў ля вытокаў адраджэння лібертарнага руху ў Беларусі. Пад чорным сцягам анархістаў ён прымаў удзел у афіцыйнай дэманстрацыі 7 лістапада 1990 г. у Гомелі, а ў 1992 г. удзельнічаў у заснаванні Федэрацыі анархістаў Беларусі.

Рэцэнзаваная кніга пабачыла свет у студзені 2015 г. Праца, матэрыялы да якой аўтар збіраў больш за 15 гадоў, была падрыхтавана ўжо даўно. Аднак тэхнічныя і, верагодна, фінансавыя праблемы затрымалі выданне. Выдадзеная малым накладам (300 асоб.) у расійскім нефармальным выдавецтве *ШSS* невялічкая кніга з мяккай вокладкай вельмі зручная, каб браць з сабой у дарогу. З іншага боку, не вельмі прыемным для вока з'яўляецца малы шрыфт.

Праца мае навуковы апарат у выглядзе спасылак, бібліяграфіі (на жаль, не ў алфавітным парадку і без падзелу на крыніцы і літаратуру) і анатацый па-расійску і па-англійску. Рэцэнзентам кнігі выступіў вядомы расійскі даследчык анархізму Дзмітры Рублёў, які пазней апублікаваў рэцэнзію[1].

Кніга складаецца з 5 асноўных раздзелаў, падзеленых на падраздзелы храналагічна і тэматычна, а таксама *Уступу* і *Заканчэння*. Плюсам публікацыі, безумоўна, з'яўляюцца: простая і даступная мова без лішку навуковай тэрміналогіі, а таксама фотаздымкі. На маю думку, варта было б таксама ўказаць крыніцы здымкаў і дадаць некалькі лістовак анархістаў, каб пазнаёміць чытачоў са зместам, формай ды стылем гэтай агітацыйнай зброі рэвалюцыянераў.

Трэба адзначыць, што для падрыхтаваных чытачоў кніга выглядала б больш дапрацаванай, калі б аўтар напісаў некалькі радкоў пра ўласныя метадалагічныя прынцыпы. Падаецца, што праца з аднаго боку датычыць гісторыі ідэй, а з іншага – гісторыі грамадска-палітычных рухаў. У даследаванні таксама прысутнічаюць элементы паліталогіі і сацыялогіі. Адсутнасць выразна вызначанай метадалогіі ў пэўным сэнсе скіроўвае кнігу ў бок навукова-папулярнай літаратуры. У дадатку трэба аднатаваць адсутнасць імяннога і геаграфічнага паказальнікаў, якія б дапамаглі чытачам арыентавацца ў выкладзеным матэрыяле.

Манаграфія выйшла па-расійску ў Санкт-Пецярбургу, але тэматычна датычыць Беларусі. Таму ўзнікае пытанне: а што такое «Беларусь»? Што меў

---

[1] Рублёв Д, [Рецензия:] Глушаков Ю.Э. *«Революция умерла! Да здравствует революция!» Анархизм в Беларуси (1902–1927)*. СПб, 2015, с. 176 // «Историческая экспертиза». 2015, № 3, с. 114–121.

на ўвазе аўтар, пішучы пра анархізм у Беларусі на пачатку ХХ ст.? Як вядома, справа беларускай дзяржаўнасці вельмі дыскусійная, а аўтар, на жаль, не надаў гэтаму пытанню ўвагі. Ці можна лічыць усю Гродзенскую губ., якая ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі, Беларуссю?[1] Ці Беласток, якому аўтар адводзіць добрую частку кнігі, можна трактаваць як беларускі горад? Гісторык закранае тэму віленскага анархізму. Ці Вільня – беларускі горад? Нагадаю, што ўжо ў 1880-я гг. у сталіцы сучаснай Літвы дзейнічаў гурток народнікаў, ідэалагічна набліжаны да поглядаў анархіста Міхаіла Бакуніна, а лідара гуртка Н. Сакалова ў савецкай гістарыяграфіі лічылі якраз беларускім народнікам[2]. Тое самае тычыцца Смаленска, тэрытарыяльная прыналежнасць якога да паловы 1920-х гг. была дыскусійнай. Глушакоў ігнаруе гэтыя пытанні, працягваючы ў пэўным сэнсе традыцыю савецкай гістарыяграфіі. Варта было б, прынамсі ў агульных рысах, пазначыць уласную пазіцыю.

Ва *Уступе* гісторык справядліва заўважыў, што тэма грамадска-палітычных рухаў (асабліва анархізму) у Беларусі не належыць да папулярных. Адсутнасць комплексных і грунтоўных даследаванняў, тэндэнцыйнасць савецкіх прац, фрагментарнасць «беларускіх сюжэтаў» у расійскай навуковай літаратуры па праблеме «безуладнага руху» робяць тэму кнігі наватарскай і карыснай для іншых даследчыкаў.

Што тычыцца крыніц, якімі карыстаўся гомельскі даследчык, то трэба аддаць яму належнае. У бібліяграфіі можна знайсці інфармацыю пра выдадзеныя зборнікі дакументаў, анархісцкія часопісы («Хлеб и воля») і савецкія выданні («Каторга и ссылка», «Красная летопись»). Асновай манаграфіі сталі дакументы са збораў беларускіх архіваў. Гэта Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ), Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (НГАБ у Гродне), Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (НАРБ), Дзяржаўны архіў Гомельскай вобл. (ДАГВ), Дзяржаўны архіў грамадскіх аб'яднанняў Гомельскай вобл. (ДАГАГВ) і нават Архіў упраўлення КДБ па Гомельскай вобл. На жаль, закрытыя сёння для даследчыкаў архівы «чэкістаў» не дазваляюць у поўным аб'ёме асвятляць гісторыю «галоўных ворагаў» дзяржавы[3]. Літаральна некалькі спасылак ёсць і на расійскія сховішчы дакументаў:

---

1 Ужо згаданы Д. Рублёў у сваёй манаграфіі таксама не тлумачыць, чаму анархізм у Польшчы, Беларусі (у ягонай працы – «Белоруссии»), Літве, Украіне, пра што ён пісаў, з'яўляецца часткай «расійскага анархізму». Гл.: Рублёв Д., *Российский анархизм в ХХ веке*. Москва, 2019.

2 Самбук С. М., *Революционные народники Белоруссии (70-е – начало 80-х гг. XIX в.)*. Минск, 1972, с. 33–38.

3 На шчасце, некаторыя даследчыкі ўсё ж прыадчыняюць гэтыя дзверы. Так, у тэкстах гісторыка з Калінінграда С. А. Аўсяннікава, які працаваў у архівах ФСБ, ёсць новыя звесткі пра беларускіх анархістаў: Яўгена Ёэльсана-Градзянскага (псеўд. Е. Грын)

Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі (ГАРФ)[1], Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі (РГАСПИ) і аддзел рукапісаў Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі. Трэба падкрэсліць, што шэраг крыніц па вывучэнні дзейнасці анархістаў з «беларускіх земель» знаходзіцца ў Амстэрдаме і Вільні[2], якія Глушакоў абмінуў. Акрамя таго, у згаданых ім архівах захоўваецца нашмат больш інфармацыі, чым ён выкарыстаў у сваёй манаграфіі[3].

Ужо на самым пачатку Глушакоў справядліва звярнуў увагу на рэвалюцыйны патэнцыял Гродзенскай губ. Гэты тэзіс ён пацвердзіў шэрагам прыкладаў рэвалюцыянераў, якія там нарадзіліся. Сярод іх сусветна вядомы анархіст Аляксандр Беркман (1870–1936) і максімаліст Іосіф Жук-Жукоўскі (1889–1937). Дадам, што ў Гродне нарадзілася польская анархістка і сацыялістка Іза Зялінская (1863–1934), а таксама бундавец і пазнейшы гісторык рабочага руху Самуіл Агурскі (1884–1947), які ў часы эміграцыі ў ЗША быў звязаны з ідыш-анархістамі і газетай «Fraye Arbeter Shtime».

З Магілёўскай губ. паходзіў Іосіф Боўшовер (1873–1915), анархісцкі паэт з Любавіч з трагічным лёсам, які пераклаў на ідыш «Венецыянскага купца» Уільяма Шэкспіра. Томік яго паэзіі (*Зборнік вершаў*) выйшаў нават па-беларуску ў 1931 г. у Менску. У Менскай губ. нарадзіўся вядомы маскоўскі анархіст Казімір Кавалевіч. Гэты рабочы чыгункі, актыўны дзеяч групы анархістаў і аўтар тэкстаў у газеце «Анархия» (1918) быў адным з арганізатараў выбуху

---

(1901–1938) – сябра менскай і аршанскай федэрацыі анархістаў (1919), распрацоўшчыка халадзільный сістэмы для Маўзалея Леніна, дырэктара Усерасійскага навукова-даследчага інстытута халадзільнай прамысловасці; пра лідара анархістаў беларускай сталіцы дэлегата ад Менска на Усерасійскую канферэнцыю анархістаў-камуністаў у Маскве Фелікса Кардзіані. Гл.: *Список делегатов на I съезд ВФАМ, арестованных 1 июня 1919 г.* (сост. С. А. Овсянников) / *На внутреннем фронте Гражданской войны. Сборник документов и воспоминаний*. Сост. Я. В. Леонтьев. Москва, 2019, с. 202; Овсянников С. А., *Смоленский отдел Всероссийской федерации анархистов-коммунистов (1920–1921): попытка легального существования в условиях большевистской диктатуры* / Тамсама, с. 313–314.

[1] У ГАРФ знахозіцца, напр., ф. 267 (Беластоцкае ахоўнае аддзяленне) або ф. 102 (Дэпартамент паліцыі) ды інш.

[2] Lietuvos valstybės istorijos archyvas (LVIA). Ф. 445. Віленская судовая палата (1860–1919); ф. 446. Пракурор Віленскай судовай палаты; ф. 378. Канцылярыя Віленскага, Ковенскага і Гродзенскага генерал-губернатара (1768–1915) ды інш.

[3] Напр., НГАБ у Гродне. Ф. 366. Гродзенскае губернскае жандарскае ўпраўленне; ф. 369. Памочнік начальніка Гродзенскага губернскага жандарскага ўпраўлення ў Гродзенскім, Слонімскім і Ваўкавыскім пав.; ф. 588. Памочнік начальніка Гродзенскага губернскага жандарскага ўпраўлення ў Беластоцкім і Сакольскім пав.; ф. 1066. Беластоцкае ахоўнае аддзяленне ды інш.

ў Лявонцьеўскім завулку 25 верасня 1919 г.[1] Падаецца, што спіс можна дапоўніць дзясяткамі прозвішчаў[2].

У Гродзенскай губ., якая стала «радзімай» анархісцкага руху ў імперыі, кнігу М. Бакуніна Государственность и анархия (Цюрых, 1873) чыталі ўжо ў 1870-я гг.[3] Гаспадарчае развіццё рэгіёна, цяжкія ўмовы працы рабочых і геаграфічнае палажэнне спрыялі ўзнікненню сацыялістычных партый розных нацыянальных адценняў. Міжнацыянальны склад насельніцтва ўплываў на дыскусіі, «крытыцызм» і ўзнікненне ў шэрагах гэтых партый апазіцый, якія пазней папаўнялі шматлікія анархісцкія групы.

Прынята лічыць, што першае ў імперыі анархісцкае згуртаванне (інтэрнацыянальная група анархістаў-камуністаў «Барацьба») з'явілася менавіта ў Беластоку. Яе стварылі анархісты-эмігранты на мяжы 1902–1903 гг. У Міжнародным інстытуце сацыяльнай гісторыі ў Амстэрдаме знаходзіцца лістоўка групы *Ко всем русским рабочим*, якая датуецца ліпенем[4], а не жніўнем 1903 г., як сцвердзіў Ю. Глушакоў (с. 14). Цяжка згадзіцца з аўтарам, што беластоцкая група не складалася выключна з габрэяў (с. 16). Пачаткова яна складалася якраз з габрэяў, а ўжо з цягам часу да яе далучыліся вядомыя з даступных нам крыніц палякі (Антэк Ніжборскі, Олек Чарнэцкі, Юзаф Мысліньскі і Ян Гаіньскі), беларусы (Ян Жмуйдзік) ды інш.

Больш таго, падчас Першай расійскай рэвалюцыі і сталыпінскай рэакцыі габрэі складалі дамінуючую частку анархісцкага руху ў мяжы аселасці. Увогуле, Глушакоў не праявіў цікавасці да «габрэйскага пытання» і не выкарыстаў прац заходніх аўтараў, якія характарызуюць сацыяльна-дэмаграфічную і гаспадарчую сітуацыю ў мяжы аселасці, якая, безумоўна, паўплывала на «анархізацыю» габрэйскага пралетарыята[5].

Затое смела можна згадзіцца з аўтарам у тым, што махаеўшчына (блізкая да анархізму антыінтэлігенцкая тэорыя і практыка) «павырошчвала расткі» першых анархісцкіх груп у Расійскай імперыі. У сваю чаргу, першая ма-

---

1 *Взрыв в Леонтьевском переулке / Красная книга ВЧК*. Т. 1. Под ред. и с предисл. П. Макинциана, Москва, 1920, с. 240–317. Мэтаю анархістаў было знішчэнне кіраўніцтва Маскоўскага гаркама РКП(б). У выніку выбуху ў будынку гаркама загінула 12 чалавек і было паранена 55. Органы Маскоўскай ЧК выявілі арганізатараў і ўдзельнікаў замаху. К. Кавалевіч загінуў падчас бою з «чэкістамі» (*заўвага рэд.*).

2 Мне вядома больш за 200 прозвішчаў анархістаў, удзельнікаў рэвалюцыі 1905–1907 гг., звязаных з Гродзенскай губ.

3 Самбук С. М., *Революционные народники Белоруссии …*, с. 41.

4 IISG. Algemayner Yidisher Arbeyter Bund Collection 238, Inv. Nr. 224.

5 Mendelsohn E., *Class Struggle in the Pale. The Formative Years of the Jewish Worker's Movement in Tsarist Russia* Cambridge, 1970; Френкель И., *Пророчество и политика. Социализм, национализм и русское еврейство 1862–1917*. Москва, 2008.

хаеўская група была створана самім Янам Вацлавам Махайскім (1866–1926) яшчэ ў Іркуцку ў 1902 г.[1] Пішучы пра сувязь анархістаў і махаеўцаў, варта было б прыгадаць екацярынаслаўскую групу *Партыю барацьбы з дробнай маёмасцю і ўсякай уладай*, якая, дарэчы, персанальна была звязана з Беластокам[2]. Жыццё і погляды самога Махайскага з'яўляюцца асобнай вялізнай тэмай. Глушакоў гэта падкрэсліў і размясціў у сваёй кнізе яго фотаздымак. Тым не менш я не знайшоў у тэксце спасылак на працы «выкрывальніка сацыялізму»[3], у т. л. на асноўную, якую аўтар узгадвае, – *Умственный рабочий*[4] (с. 10).

Распавядаючы пра анархісцкую барацьбу ў Гродзенскай губ., Ю. Глушакоў практычна не выкарыстоўвае тэрмін «рэвалюцыйны тэрарызм»[5]. Натуральна, ён звяртае ўвагу на характэрныя для анархістаў «крайнія кірункі дзейнасці», розныя формы «прамога дзеяння», а менавіта экспрапрыяцыі ці эканамічны тэрор (запалохванне і кіданне бомб у кватэры фабрыкантаў ці прымусовае «зняцце» з працы ўсіх рабочых). Цяжка адназначна сказаць, што першыя замахі 1903 г. на жыццё беластоцкіх паліцэйскіх Мятленкі і Лабаноўскага здзейснілі анархісты. Некаторыя крыніцы ўказваюць на сяброў Баявой арганізацыі Партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў[6]. Магчыма, гэта былі сумесныя дзеянні блізкіх па духу «маладых эсэраў» і анархістаў. Прынята лічыць, што першы анархісцкі акт фабрычнага тэрору ў Расійскай імперыі здзейсніў 29 жніўня 1904 г. у Крынках Нісан Фарбер.

Акрамя забастовак і актаў тэрору анархісцкі рух ангажаваўся ў выдавецкую дзейнасць. Распаўсюджваліся шматлікія лістоўкі і звароты, загранічная прэса

---

1 Кривенький В., *Я. В. Махайский / Политическая история в партиях и лицах*. Рэд. В. Шелохаев. Москва, 1993, с. 291–292, 297; Иркутск. Пролетарский праздник в далёкой Сибири // «Искра». 1902, № 22, с. 7.

2 Дубовик А., *Махаевцы в Екатеринославе: «Партия борьбы с мелкой собственностью и всякой властью» (1904 г.)* // «*Південний захід. Одесика*. Історико-краєзнавчий науковий альманах». 2013, Вип. 16, с. 76–86.

3 *Скирда А., Социализм интеллектуалов: Ян Вацлав Махайский. Разоблачитель социализма, марксизма и самого Маркса*. Париж, 2003.

4 Вольский А., [Махайский Я.В.] *Умственный рабочий*. New-York – Baltimor, 1968.

5 Няма спасылак на наступныя важныя працы: Будницкий О. В., *Терроризм в российском освободительном движении: идеология, этика, психология (вторая половина XIX – начало XX в.)*. Москва, 2000; Гейфман А., *Революционный террор в России 1894–1917*. Москва, 1997.

6 Спиридович А., *Революционное движение в России*. Выпуск 2-й. *Партия Социалистов-революционеров и её предшественники*. Петроград, 1916, с. 104; Зильберблат И., *Мои воспоминания о тов. Симоне Вульфовиче Сикорском* // «Каторга и ссылка». 1928, № 4, с. 148–151.

і літаратура. Адзначу недакладнасць аўтара: Берка Энгельсан заснаваў тайнае выдавецтва «Анархія», а не газету з той самай назвай (с. 20, 38).

Вельмі важным і адначасова канструктыўным эпізодам у гісторыі рэвалюцыі 1905–1907 гг. быў першы «беларускі» Савет рабочых дэпутатаў, створаны на пачатку снежня 1905 г. сумеснымі намаганнямі максімалістаў і анархістаў. Да іншых прыкладаў «пазітыўнай» працы можна аднесці групы самаабароны (узброенныя атрады на выпадак габрэйскіх пагромаў), якія ствараліся сумеснымі сіламі ўсіх рэвалюцыйных груп, у т. л. і анархістамі. Паводле польскага сацыяліста Баляслава Шушкевіча, такія групы перашкодзілі пагрому ў Гродне[1]. У губернскім цэнтры анархісты дзейнічалі з 1903 г., але масавыя выступы пад чорным сцягам, паводле інфармацыі саміх рэвалюцыянераў, пачалі адбывацца толькі ў 1906 г.[2]

Распавядаючы складаную гісторыю анархістаў у храналагічным парадку, гісторык трапна падкрэсліў іх мабільнасць, арганізацыйныя сувязі паміж адлеглымі гарадамі, аўтаномію груп, ролю жанчын, але таксама не абышоў увагай трагічны лёс змагароў з усімі формамі ўлады і ўціску. Акрамя пастаянных арыштаў, ссылак і пераследу дзясяткі актывістаў праходзяць па старонках кнігі чорным, як іх сцяг, лёсам і сумным фіналам. Уладзімір Стрыга падрываецца на ўласнай бомбе пад Парыжам, Маісея Меца, Берку Шарашэўскую і Іосіфа Брунштэйна вешаюць у Адэсе, Энгельсана – у Вільні, Веніямін Фрыдман скончыў жыццё самагубствам у Гродне, Самуіл Бейлін (*Сашка Шлюмпер*) вар'яцее пасля працяглых катаванняў у Астроўскім цэнтрале, абвінавачанага ў здрадзе Міхаіла Кавецкага забіваюць свае ж таварышы ў менскай турме, Іуда Гросман-Рошчын становіцца бальшавіком...

Менавіта Гросман з'яўляўся адным з найбольш актыўных і здольных арганізатараў[3]. Ён быў лідарам «чарназнаменцаў» – «бунтарскай» плыні ў анархізме[4]. А сярод анарха-камуністаў былі і «памяркоўныя» хлебавольцы, і найбольш радыкальныя безначальцы. Разглядаючы «фракцыйнасць» герояў сваёй працы падчас Першай расійскай рэвалюцыі, Глушакоў стараецца паказаць усе тонкасці адрозненняў паміж рознымі напрамкамі бунтароў, іх пазітыўнае стаўленне да тэрору і недавер да прафсаюзнай дзейнасці. Цяжка

---

1. Szuszkiewicz B., *Organizacja grodzieńska PPS w latach 1898–1910* // «Niepodległość». 1937, t. XVI, s. 545.

2. *Гродно* // «Буревестник». 1909, № 9, с. 17.

3. *Anarchist Voices. An Oral History of Anarchism in America*, Avrich P. (ed.), Princeton – New Jersey, 1996, p. 193.

4. Ад назвы адзінага нумара часопіса, выдадзенага ў снежні 1905 г., у якім яны пісалі: «Мы ж – не баімся гэтага слова – з'яўляемся партыяй бязладдзя, таму што парушаем заўсёды тыя асновы, на якіх трымаецца правапарадак». Гл.: Гроссман И., *Демократия и анархическая тактика* // «Чёрное знамя». 1905, № 1, с. 2.

згадзіцца, што «фракцыю» безначальцаў можна цалкам аднесці да анарха-індывідуалізму (с. 48). Паводле тактыкі дзеянняў часткова можна, але па ідэалагічным прынцыпам наўрад ці гэтыя тэрарысты падзялялі погляды Макса Шцірнэра ці Бенджаміна Такера. Большасць з іх называла сябе анарха-камуністамі.

Толькі ў некалькіх словах узгадвае аўтар пра талстоўства, якое адносіць да мірнага анархізму (с. 53). Аднак у працы адсутнічае імя скідзельскага талстоўца і чальца Таварыства беларускай школы Пятра Сеўрука (1905–1929), які пісаў: «Анархізм з'яўляецца найлепшай формай грамадскасці, але калі людзі не здольныя да анархіі, тады яна будзе для іх найвялікшым бедствам»[1].

Важным элементам кнігі, які праходзіць праз усю працу, з'яўляецца пытанне адносін паміж палітычнымі партыямі левага накірунку і працаўнікамі выбарчай дэмакратыі, парламентарызму, дзяржаўнага капіталізму – анархістамі. Аўтар разглядае адносіны анархістаў з «найбліжэйшымі паплечнікамі» эсэрамі-максімалістамі[2] (с. 38) і з іншымі партыямі «чырвонага фронту», сярод якіх Бунд, ППС, эсэры і, канешне, бальшавікі. Таксама Глушакоў узгадвае «рабочыя біржы», на якіх сустракаліся ўсе партыі, але, на жаль, не спыняецца на адным з найбольш цікавых феноменаў рэвалюцыі 1905–1907 гг. і аналізуе месца ў ім анархістаў.

Аўтар шмат увагі прысвяціў сваёй «малой радзіме» – Гомельшчыне, дзе таксама падчас Першай расійскай рэвалюцыі цесна ўзаемадзейнічалі анархісты і максімалісты (с. 55). Да плюсаў даследавання можна аднесці асвятленне малавядомай тэмы, звязанай з дзейнасцю анархісцка-максімалісцкай групы палескіх «лясных братоў» на чале з Аляксандрам Савіцкім. У 1906–1909 гг. гэты «народны важак» кіраваў партызанскай барацьбой на тэрыторыі сучасных Беларусі, Украіны і Расіі. «Бацька» Савіцкі, паводле Глушакова, валодаў беларускай мовай і меў падтрымку мясцовага насельніцтва, што спрыяла яго няўлоўнасці. Акцыі ад імя групы праводзіліся і пасля забойства палескага Робін Гуда, легенды пра якога былі даволі папулярнымі сярод мясцовай моладзі.

Першая хваля беларускага анархізму адчувалася і ў Менску, дзе дзейнічалі групы анарха-камуністаў. Таксама аўтар прыгадвае лібертарыяў у Бабруйску,

---

[1] Черепица В., *Счастье жить для других. Западнобелорусские последователи религиозно-философского учения Л. Н. Толстого. 1921–1939 гг.* Гродно, 2007, с. 186.

[2] Максімалістамі ў Беларусі займалася даследчыца з Магілёва Л. Давыдава. Гл.: Давыдова Л., *Террористическая деятельность союза социалистов-революционеров (эсеров) максималистов на территории белорусских губерний в начале XX века* // «Вестник Полоцкого государственного университета. Сер. А. Гуманитарные науки». 2012, № 1, с. 65–70; яна ж, *Организации союза социалистов-революционеров (эсеров) максималистов в межреволюционный период (1908–1914 гг.) на территории белорусских губерний* // «Вестник Полоцкого государственного университета. Сер. А. Гуманитарные науки». 2013, № 1, с. 58–62.

Смаленску, Оршы і рэвалюцыйнай Меццы – маёнтку Анатоля Бонч-Асмалоўскага Блонь у Ігуменскім пав. Менскай губ. Дарэчы, жонка Асмалоўскага Варвара Вахоўская з'яўлялася вядомай бакуністкай[1]. Таксама да бакунінскага «Інтэрнацыянальнага братэрства» належаў удзельнік паўстання 1863–1864 гг. Антон Трусаў[2]. Важным тэзісам з'яўляюцца словы аб тым, што першым беларускім анархістам можна лічыць народніка і бакуніста Сяргея Каваліка (1846–1926) (с. 52).

Анархісты канчатковай сваёй мэтай абвяшчалі камунізм, але, як мяркуе аўтар, яны ўсё ж не адмаўляліся ад пэўнага пераходнага перыяду да ладу сацыяльнай справядлівасці і свабоды. Незалежна ад гэтага лібертарыі заўсёды імкнуліся да рэвалюцыі «тут і цяпер», да хуткай пабудовы бяскласавага грамадства. Апошняй арганізацыйнай «канвульсіяй» лібертарыяў у Расійскай імперыі стала канферэнцыя анарха-камуністаў у Коўне, якой таксама адведзена месца ў даследаванні. У сваю чаргу, важным эпізодам еўрапейскага руху быў Міжнародны анархісцкі кангрэс у Амстэрдаме ў 1907 г. Паводле Глушакова, у кангрэсе ўдзельнічалі беластоцкія анархісты. Аднак паводле маіх дадзеных, яны толькі вялі карэспандэнцыю з арганізатарамі, выказваючы салідарнасць з удзельнікамі.

Кніга момантамі стварае ўражанне, што аўтар выкладае гісторыю з левых пазіцый, якіх сам прытрымліваецца. Аднак трэба падкрэсліць, што ў працы чытачы не сустрэнуць ні апалагетыкі анархіі, ні яе дагматычнай крытыкі. Гомельскі гісторык у сваіх разважаннях імкнуўся да ўзважанай ацэнкі дзейнасці анархістаў, хоць і не ўтойваў пэўных сімпатый да змагароў з уладай. Ён крытычна ацаніў індывідуальны тэрор, які, па яго словах, прывёў да адрыву рэвалюцыянераў ад мас, узмацнення паліцэйскіх рэпрэсій і заняпаду анархісцкіх арганізацый. Таксама адзначыў, што анархістам не хапала сіл і арганізацыйнай здольнасці, каб утварыць «рэвалюцыйныя камуны» ў гарадах, не кажучы ўжо пра выбух сацыяльнай рэвалюцыі. Ю. Глушакоў звярнуў увагу на папулярнасць анархізму сярод маладых сяброў сацыялістычных партый. Ён прызнаў, што «многія ідэйныя анарха-камуністы выказалі выдатныя прыклады гераізму, надзвычайнай смеласці і самаахвярнасці», і дадаў, што іх тактыка была памылковай (с. 95). На думку аўтара, тэма псіхалагічнага аналізу маладых рэвалюцыянераў заслугоўвае самастойнага даследавання. Дадам, што такія публікацыі ўжо ёсць[3].

---

1 Вахоўская В., *Успаміны рэволюцыянэркі* // «Полымя». 1925, № 2, с. 149–159.

2 Кісялёў Г., *Сейбіты вечнага: артыкулы пра беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў рэвалюцыйнага руху 1863 года. Скарынаўская сімволіка: вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі.* Навук. рэд. В. А. Чамярыцкі. Мінск, 2009, с. 219–226.

3 Shtakser I., *The Making of Jewish Revolutionaries in the Pale of Settlement.* Basingstoke – New York, 2014.

У рэцэнзаванай працы аўтар амаль не згадаў пра падзеі апошніх пяці перадваенных гадоў. Сапраўды, гэта малавывучаны перыяд у гісторыі анархізму ў Расійскай імперыі. Бадай што апошняе масавае затрыманне анархістаў перад заціўшам 1909–1914 гг. адбылося ў верасні 1909 г. Тады ў Беластоку затрымалі 14 рэвалюцыянераў, аднак нічога забароненага ў іх не знайшлі, не было і прысудаў. Вядома, што рэвалюцыянеры, якія засталіся ў жывых, апынуліся або ў эміграцыі (Францыя, Швейцарыя), або трапілі ў ссылку. Аднак менавіта ў гэты перыяд са ссылак у Беласток пачалі вяртацца ўдзельнікі рэвалюцыі 1905–1907 гг. У жандарскіх фондах НГАБ у Гродне ёсць матэрыялы, якія распавядаюць, што анархісты збіраліся на дыскусіі, мелі зброю, аднаўлялі кантакты з Заходняй Еўропай (у т. л. з І. Гросманам), атрымлівалі адтуль карэспандэнцыю і літаратуру, а таксама імкнуліся адрадзіць рух праз агітацыю ды ўдзел у забастовачных камітэтах. Але ўлада пасля досведу 1905 г. «трымала руку на пульсе», літаральна ўсе анархісты былі пад пільным наглядам паліцыі.

«Перапынак» у анархісцкай дзейнасці падчас Першай сусветнай вайны скончыўся падзеямі Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Менавіта тады пачалося адраджэнне анархізму, найбольш адчувальнае ў войску, сярод дэкласаваных элементаў і беларускіх сялян. Прычым у параўнанні з Першай расійскай рэвалюцыяй цэнтр актыўнасці быў перанесены з заходніх на ўсходнія рэгіёны Беларусі, асабліва на Гомельшчыну.

У кнізе няшмат месца адводзіцца Менску. Між тым анархісты тут дзейнічалі і падчас Першай расійскай рэвалюцыі, і падчас падзей 1917 г. Цікавай крыніцай для гэтага перыяду з'яўляюцца газеты, у адной з якіх была апублікавана абвестка: «Таварышы анархісты без розніцы полу і кірункаў! Менскае кола анархістаў заве вас 30 снежня а 4-й гадзіне дня на агульны сход у сталовую Савета дэпутатаў (пл. Свабоды, 4)»[1].

У снежні 1917 г. на Першым Усебеларускім з'ездзе з 1 700 дэлегатаў 25 былі анархістамі[2]. Таксама прынамсі 5 анархістаў увайшлі ў склад Беларускага абласнога камітэта пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў, які дзейнічаў з лістапада 1917 да сярэдзіны 1918 г.[3] Вяртаючыся да тэмы беларускай дзяр-

---

1 *Абвестка* // «Советская правда». Центральный орган Областного исполнительного комитета Советов рабочих, солдатских и крестьянских депутатов Западной области и фронта. 1917, № 22, с. 1.

2 Канчер Е. С., *Из истории гражданской войны в Белоруссии* в *1917–1920 гг. (по личным воспоминаниям, записям и документам). Фрагменты 5-й главы*. Публикация В. Скалабана // «Беларуская думка». 2010, № 2, с. 73.

3 Ён жа, *Из истории гражданской войны в Белоруссии в 1917–1920 гг. (по личным воспоминаниям, записям и документам). Фрагменты 5-й главы*. Публикация В. Скалабана // «Беларуская думка». 2010, № 1, с. 94.

жаўнасці, можна канстатаваць парадаксальны факт, што анархісты ўскосна стаялі ля яе вытокаў у XX ст.

У гады вайны Беларусь ператварылася ў плацдарм вайсковых дзеянняў. Варта адзначыць, што падчас нямецкай акупацыі менскія анархісты працягвалі дзейнасць. Калі верыць аўтару дасланага ў часопіс анархістаў-універсалістаў ліста, у Менску друкаваліся і распаўсюджваліся ўлёткі па-расійску і па-нямецку і нават выйшлі з друку чатыры нумары газеты «Хлеб и воля»[1]. Калі ж Менск быў заняты польскім войскам, анархісты займаліся агітацыяй сярод рабочых і сялян, стварылі клуб-чытальню, а таксама ўдзельнічалі ў збройным супрацьстаянні с палякамі[2]. Ю. Глушакоў нічога не пісаў пра гэта, але дзейнасць анархістаў пацвярджаюць успаміны польскага сацыяліста і бальшавіка Вацлава Сольскага (1897–1990). Ён прыгадваў, што ў траўні 1917 г. у майстэрнях Саюза гарадоў (Сагора) анархісты на чале з Лукашэвічам актыўна выступалі з агітацыяй і нават арганізавалі вялікую дэманстрацыю[3].

У кнізе паказана, што характэрнай рысай акупацыйнага часу было ўзаемадзеянне анархістаў і бальшавікоў, супольныя рэвалюцыйныя камітэты і баявыя дружыны. Найбольш дзёрзкі збройны выступ меў месца ў Гомелі 18 снежня 1918 г. У горадзе нават планавалася паўстанне, але ўсё абмежавалася партызанскімі акцыямі.

Незалежна ад супрацьстаяння паміж бальшавікамі і анархістамі (напр., увесну 1918 г. у Віцебску), прыхільнікі антыдзяржаўных ідэй супрацоўнічалі з савецкай уладай. Шмат анархістаў папоўнілі шэрагі партыі бальшавікоў, пачалася эпоха анарха-бальшавізму. Давяраючы лозунгам аб «адміранні дзяржавы» і сацыяльна накіраванаму красамоўству бальшавікоў, лібертарыі ішлі на кампраміс. Частка з іх пазней далучылася да левай камуністычнай апазіцыі. Больш за тое, «псіхалагічныя асаблівасці» былых анарха-тэрарыстаў спрыялі іх працаўладкаванню ў органы Усерасійскай надзвычайнай камісіі па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам (*ВЧК*). Шмат з іх былі рэпрэсаваны напрыканцы 1930-х гг. Напр., былы анарха-сіндыкаліст Платон Равінскі (1892–1938), які пачынаў бальшавіцкую кар'еру ў 1918 г. у Смаленскай *ЧК*, у 1925 г. стаў загадчыкам Бабруйскага акружнога зямельнага ўпраўлення[4].

---

[1] Падобна, што ў гэты час анархісты-індывідуалісты выдалі брашуру: Генкин И. И., *Группа Безначалие в 1905–08 гг.: очерки из героической эпохи в жизни русского анархизма.* Минск, 1919.

[2] Н., *Провинция. Минск* // «Универсал». 1921, № 1–2, с. 29–30.

[3] Солский В., *1917 год в Западной области и на Западном фронте.* Минск, 2004, с. 70, 93.

[4] Маракоў Л., *Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі 1794–1991.* Энцыклапедычны даведнік у трох тамах. Т. III, кн. 2: Лабадаеў – Яцына. Мінск, 2005, с. 203–204.

Сваёй няслаўнай дзейнасцю ды «расстрэльнымі практыкамі» быў вядомы «першы беларускі чэкіст» Віктар Яркін (1889–1937). Гэты былы анархіст з Пецярбурга, які ў студзені 1919 г. стаў старшынёй ЧК у БССР, трапіў пад рэпрэсіі, займаючы пасаду аднаго з кіраўнікоў Днепрадзвінскага параходства ў Гомелі[1]. Толькі адзінкам (напр., Яфім Майзлін) удалося перажыць не толькі «чысткі», але і вайну.

Аўтар таксама ўзгадаў ураджэнцаў Беларусі, якія ўдзельнічалі ў легендарным Махноўскім руху (Макс Чарадняк, Бутавецкі). Можна дадаць, што сярод іх былі і жанчыны. Адну з іх, дзеячку арганізацыі «Зялёны дуб» Ганну Доўгерт даследчыца антысавецкага супраціву Ніна Стужынская назвала «беларускай Марусяй Нікіфаравай»[2]. Дарэчы, ёсць інфармацыя, што польскія анархісты імкнуліся ўплываць на структуры гэтай антыбальшавіцкай арганізацыі[3].

Уплыў паслядоўнікаў Бакуніна і Крапоткіна быў адчувальны таксама ў шэрагах Дняпроўскай ваеннай флатыліі (ДВФ). Аднак бунтарскі дух маракоў і падтрымка антыбальшавіцкага паўстання ў Кранштаце прывялі да расфармавання ДВФ у сакавіку 1921 г. Менавіта на гэты час, як адзначыў Ю. Глушакоў, прыпаў пік рэпрэсій *ВЧК* супраць анархістаў.

Нельга не закрануць тэмы сувязі рэвалюцыянераў і безыдэйных псеўдаанархісцкіх банд. Аўтар звярнуў увагу на распаўсюджанне груп «камбінатараў» напрыканцы Першай расійскай рэвалюцыі і ў першыя гады пасля яе. Групы, якія складаліся з дэмаралізаваных змагароў ці звычайнага крыміналу, займаліся шантажом і дробнымі «экспрапрыяцыямі». Банды гойсалі па Беларусі і пасля 1917 г. Сярод іх банда Ляшко-Савіцкага і «спачуваючыя Савецкай уладзе» чальцы «Чорнага ворана», якія апрача Гомеля на пачатку 1920-х гг. дзейнічалі ў некаторых гарадах Украіны. Былі і адваротныя сітуацыі. Так, беластоцкі злодзей Мошэ Шпіндлер стаў адным з найбольш адданых справе рэвалюцыі анархістам (с. 48–49).

Анархісты крытычна ставіліся да ваеннага камунізму, але таксама не падтрымалі НЭП. Незалежна ад непрыняцця савецкіх метадаў «пабудовы камунізму», анархісты ў Беларусі ўжо не вялі збройнай барацьбы супраць новай улады. Магчыма, лічылі, што супраціў мог быць выкарыстаны ворагамі рэвалюцыі, якія ўспрымаліся як большае зло.

---

1 Тамсама, с. 491–492; Н. Стужынская, *Стваральнікі мінскай ЧК*: *«В отдельном кабинете напились, устроили пляску со стрельбой»*. [Электронны рэсурс] Рэжым доступу: https://budzma.by/news/stvaralniki-minskay-chk-v-otdyelnom-kabinyetye-napilis-ustroili-plyasku-so-stryelboy.html. Дата доступу: 08.09.2021.

2 Стужіньска Н., *Білорусь бунтівна. З історії збройного антирадянського спротиву в 20-ті pp. XX століття*. Міньск, 2012, с. 261.

3 *Biblioteka Narodowa. Archiwum Stefana Szwedowskiego*, t. 3: Materiały do historii organizacji ZET: notatki, bruliony, teksty, druki. Rps akc. 16266/3.

Яскравым прыкладам «нязломнага» анархіста з'яўляецца лёс Васіля Каляды (1892–1953). З анархізмам таксама быў звязаны вядомы беларускі кінасцэнарыст Рыгор Кобец (1898–1990). Дадам, што анархістам быў літаратар і авіятар Барыс Плетнер, сын былога дырэктара Смаленскай гімназіі, у 1920 г. сябар менскай розенкрэйцарскай ложы «Стэла», у якую ўваходзіў і Сяргей Эйзенштэйн[1]. Побач са старой гвардыяй на палітычнай сцэне ў 1920-я гг. з'явілася новае пакаленне анархістаў.

На думку даследчыка, напярэдадні 1927 г. партыі бальшавікоў удалося дасягнуць ідэйнай гегемоніі ў асяроддзі рабочых і моладзі. Аўтар пазітыўна ацаніў савецкую палітыку, сцвярджаючы, што заканчэнне НЭПа і калектывізацыя нібыта зменшылі класавыя антаганізмы ў вёсцы, а індустрыялізацыя з мадэрнізацыяй зліквідавалі беспрацоўе і стварылі для «большасці жадаючых перспектыву развіцця і самарэалізацыі» (с. 154–155). Адносна рэпрэсій ён выказаў перакананне, што пры царызме паліцэйскі пераслед меў «больш жорсткі характар» (с. 155).

Гісторык мяркуе, што незалежна ад утапічнасці ідэй, анархізм паўплываў на іншыя ідэалагічныя сістэмы, у т. л. на некаторыя тэарэтычныя палажэнні такіх лідараў Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПСР), як Тамаш Грыб. Такія праграмныя ўстаноўкі, як антыэтатызм, самаарганізацыя народа, вольныя саветы, крапоткінская ўзаемадапамога, паводле аўтара, дазваляюць сцвярджаць, што БПСР не была носьбітам «умеранай тэндэнцыі, зарыентаванай перш за ўсё на каштоўнасці незалежнага нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва», а наадварот – стаяла на «дакладна выражаных рэвалюцыйна-сацыялістычных пазіцыях» (с. 157). Аднак унутраная сітуацыя і спробы міжнароднай інтэграцыі беларускіх эсэраў не далі пазітыўных вынікаў і не прывялі да распаўсюджвання анарха-сіндыкалісцкіх ідэй.

Ю. Глушакоў перакананы, што анархісцкія тэорыі мелі ўплыў і на кіруючую партыю. Бальшавікі на чале з палітычным прагматыкам і аўтарам *Дзяржавы і рэвалюцыі* часткова перараймалі радыкальныя лозунгі анархістаў (тэрмін «камунізм» у назве партыі ці лозунг «адміранне дзяржавы» праз пераход улады ў рабочыя калектывы). Як падкрэсліў аўтар, СССР быў адзінай дзяржавай, канчатковай мэтай якой была ліквідацыя дзяржаўнага апарату (с. 162). Нядзіўна, што Уладзімір Ульянаў (Ленін) у 1921 г. пісаў: «Лепшае ў анархізме можа быць і павінна быць прыцягнута»[2].

Напрыканцы працы варта было б прывесці абагульненыя статыстычныя дадзеныя. Можна было б спакусіцца на падлік агульнай колькасці, спецыфіку

[1] Красовский С. Л. *Жизнь в авиации*. Москва, с. 51–53; Никитин А. Л. *Мистики, розенкрейцеры и тамплиеры в Советской России. Исследования и материалы*. Москва, 2000, с. 105.

[2] Ленин В. И. *Материалы ко II конгрессу Коминтерна* // яго ж, *Полное собрание сочинений*. Т. 41, Москва, 1981, с. 444.

прафесійнай дзейнасці і нацыянальнага складу згаданых у кнізе ўдзельнікаў анархісцкага руху. Затое аўтар вылучыў тыпы анархістаў трох хваляў, якія прысутнічалі на беларускай рэвалюцыйнай сцэне цягам першай чвэрці XX ст. Гэта малады баявік, які эмацыянальна не пагаджаўся на несправядлівасць і прызнаваў толькі «прамое дзеянне»; чырвонаармеец ці рабочы, што адчуваў антаганізм паміж сваімі ідэаламі і сацыялістычнай рэчаіснасцю; малады рабочы, студэнт ці інтэлігент, які быў тэарэтыкам і прапагандыстам.

У падсумаванні аўтар сцвердзіў, што не толькі рэпрэсіі, але і «паспяховая пабудова сацыялізму савецкага ўзору» спрычынілася да заняпаду анархісцкага руху напрыканцы 1920-х гг. (с. 164) Пры гэтым ён лічыць, што ідэі анархізму, якія базуюцца на «сацыяльнай справядлівасці і скасаванні ўсялякіх форм прыгнёту і эксплуатацыі», заўсёды будуць прыцягальнымі і ніколі не страцяць сваёй актуальнасці (с. 164). Назіраючы сацыяльна-палітычныя рэаліі пачатку XXI ст., цяжка не пагадзіцца са словамі гісторыка.

Дазволю сабе прыгадаць шэраг крыніц і даследаванняў, якія б маглі дапоўніць рэцэнзаваны матэрыял. Зразумела, што не бывае аніводнай навуковай гістарычнай працы, у якой былі б выкарыстаны ўсе патэнцыйныя крыніцы. Часта аўтару цяжка пераадолець тэрытарыяльныя, моўныя і... фінансавыя абмежаванні. У выпадку з дадзенай тэмай важнай умовай з'яўляецца веданне ідыш, які, дарэчы, у 1920-я гг. быў адной з дзяржаўных моў у БССР. Важнай крыніцай, непасрэдна звязанай з анархізмам у «Паўночна-Заходнім краі», можа быць рэдкая і, магчыма, недаступная ў Беларусі аўтабіяграфія яўрэйскага інтэлектуала Абы Гордзіна[1]. Да такіх крыніц, апрача традыцыйных успамінаў[2], таксама належаць напісаныя на ідыш і іўрыце хронікі (пінкасы) і кнігі памяці (іцкор-бухі), шэраг якіх перакладзены на англійскую мову[3].

З манаграфій, прысвечаных гісторыі анархізму на тэрыторыі Беларусі, Ю. Глушакоў карыстаўся савецкімі[4] і сучаснымі расійскімі працамі, абмінуўшы польскія зборнікі дакументаў і публікацыі, прысвечаныя рабочаму руху на Беласточчыне[5] і непасрэдна анархізму[6]. На жаль, у кнізе адсутнічаюць спасылкі

---

[1] Gordin A., *Dreysik yor in Lite un Poyln (oytobiografye)*. Buenos Ayres, 1958.

[2] Kosica R. A., *Zichrojnes fun a bialistoker froj*. Los Angeles, 1964.

[3] *Yizkor Book Translations*, [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://www.jewishgen.org/yizkor/translations.html. Дата доступу: 10.05.2021.

[4] Апрача: Канев С. И., *Октябрьская революция и крах анархизма. Борьба партии большевиков против анархизма 1917–1922 гг.* Москва, 1974.

[5] *Źródła do dziejów klasy robotniczej na ziemiach polskich*, t. III: *1901–1915. Królestwo Polskie i Białostocczyzna*. Cz. 1–4. Red. Kalabiński S. Warszawa, 1968–1972.

[6] *Anarchizm i anarchiści na ziemiach polskich do 1914 roku*. Red. Rapaport H. Warszawa, 1981.

на класічнае даследаванне П. Эўрыча[1]. Да гэтага можна дадаць яшчэ пэўную колькасць артыкулаў[2] і некаторыя іншыя крыніцы[3].

Адзначу таксама некаторыя фактаграфічныя недакладнасці. Так, ППС утварылася ў лістападзе 1892 г. на з'ездзе ў Парыжы, а не ў 1893 г., а Станіслаў Падлеўскі забіў расійскага генерала Сілівестрава ў 1890 г., а не ў 1891 (с. 9). Таксама заўважны памылкі друку: Комін, а не Камин (с. 12), Шлёма Кагановіч Зайдэль (Зэйдэль), а не Зайцель (с. 14), Вольф Шэваховіч, а не Шэватовіч (с. 49), беластоцкі паліцмайстар Мацэвіч, а не Мацкевич (с. 80), Лососно, а не Ласосно (с. 82). Аўтар лічыць «Чорны сцяг» то газетай, то зборнікам (с. 31–32). У першым радку апошняга абзаца паміж словамі на 98 і 164 с. няма водступаў.

Незалежна ад усіх крытычных заўваг і недахопаў, якія прысутнічаюць у рэцэнзаванай працы, кніга Юрыя Глушакова стала надзвычай важнай падзеяй у беларускай гістарычнай навуцы і заслугоўвае пазітыўных водгукаў. Дыскусійныя моманты сведчаць пра яе піянерскі характар, што паспрыяе далейшым навуковым распрацоўкам «anarchist studies» і даследаванням у галіне гісторыі ідэі і сацыяльна-палітычных рухаў.

---

1 Avrich P., *The Russian Anarchists*. Princeton, 1967; па-расійску без навуковага апарату і з памылкамі перакладчыка: Эврич П., *Русские анархисты 1905–1917*. Москва, 2006.

2 Kalabiński S., *Białostockie organizacje SDKPiL, PPS, Bundu, Socjalistów-Rewolucjonistów i anarchistów w latach 1901–1903* // «Rocznik Białostocki». 1971, t. X, s. 53–90; Szum E., *Anarchiści na Białostocczyźnie w okresie rewolucji 1905–1907. Przyczynek do dziejów ideologii anarchizmu i działalności organizacji anarchistycznych na Podlasiu* // «Studia Podlaskie». 2012, t. XX, s. 193–210.

3 Rakovsky P., *My Life as a Radical Jewish Woman. Memoirs of a Zionist Feminist in Poland*, oprac. P. E. Hyman. Bloomington, 2002; *Справочный календарь по г. Белостоку на 1913 г.* Сост. под ред. полк. Э. О. фон-Хартена. Белосток, 1913.

ISSN 2424-5216

# НА ШЛЯХУ ДА ВЯЛІКАЙ НАВУКІ

***Захар Шыбека,***
*доктар гіст. навук (Хайфа)*

***Смиловицкий Л., Евреи Белоруссии: до и после Холокоста: Сборник избранных статей. Иерусалим, 5781/2020. 491 с.***

Мой калега Леанід Смілавіцкі, доктар гісторыі і старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра дыяспары Тэль-Авіўскага ўніверсітэта, выдаў зборнік выбраных навуковых артыкулаў на рускай мове або перакладзеных на рускую мову. Менавіта выбраных, бо аўтару было з чаго выбіраць. Яго навуковы даробак складае каля 200 публікацый. У зборніку змешчаны таксама яго рэцэнзіі і інтэрв'ю ў перакладзе на рускую мову, у т. л. з беларускай. У гэта выданне аўтар не ўключыў шматлікія газетныя артыкулы і некаторыя агульнадаступныя навуковыя працы на рускай і беларускай мовах у аўтарытэтных часопісах, хоць і ў іх утрымліваюцца цікавыя матэрыялы.




Кніга адлюстроўвае навуковыя інтарэсы і дасягненні гісторыка з Беларусі ў ізраільскі перыяд жыцця пасля ўладкавання на працу ў Тэль-Авіўскі ўніверсітэт. Гэтай кнігай аўтар быццам імкнецца данесці вынікі ўласнай даследчыцкай працы да рускамоўных калег і зацікаўленых чытачоў, каб на аснове дасягнутага сканцэнтравацца на рэалізацыі новых планаў. На яго стале – рукапісы дзвюх чарговых манаграфій.

Рэцэнзаваная кніга, як і папярэднія, выкладзена ў інтэрнэце і даступная для ўсіх жадаючых. І яна вартая ўвагі. Зробленае гісторыкам падсумаванне дае нагоду даведацца пра навуковую зацікаўленасць гісторыка, прасачыць этапы росту яго прафесіяналізму, прааналізаваць змест выдадзенага твора праз прызму творчых пошукаў аўтара.

У Ізраілі для навуковай творчасці Л. Смілавіцкага адкрыліся неабмежаваныя магчымасці. Гэта праца па спецыяльнасці і адсутнасць забароны на вывучэнне гісторыі беларускага яўрэйства, добрыя заробкі, дзяржаўная падтрымка, адсутнасць цэнзуры – усё, што спрыяе вызваленню ад савецкіх ідэалагічных штампаў у гістарычнай навуцы.

Выніковая навуковая дзейнасць Л. Смілавіцкага пачалася не адразу з прыездам у Ізраіль (1992), а толькі пасля ўладкавання на працу ў Цэнтр дыяспары Тэль-Авіўскага ўніверсітэта (1995). Хоць і папярэдняя праца ў Яд-Вашэм была важнай. Яна, а таксама ўласны вопыт камунікацыі са сведкамі яўрэйскай трагедыі прадвызначылі выбар галоўнай навуковай праблемы ў творчасці даследчыка – Халакост і антысемітызм у БССР. Матывацыя такога выбару моцна прагучала ў прачуленым тэксце От автора.

Трагедыю яўрэйскага народа даследуе шмат навукоўцаў. Але Смілавіцкаму ўдалося сцвердзіць сябе ў гэтай вельмі запатрабаванай тэме, дзе ён зараз прызнаны спецыяліст. Ён выпрацаваў уласны падыход да праблемы, які, дарэчы, адлюстраваны ў назве кнігі. Аўтара заўсёды цікавіў не толькі сам Халакост, але і яго наступствы для Беларусі. Дзеля гэтага ён вывучаў ролю яўрэяў у гісторыі Беларусі як да Другой сусветнай вайны, так і пасля яе. У выніку навуковыя працы Л. Смілавіцкага дазваляюць зразумець, якія страты панеслі не толькі яўрэі, але і беларусы, уся Беларусь. Акрамя таго, такі падыход да вывучэння Халакосту дазваляе чытачам яго навуковых прац параўнаць нацысцкі генацыд яўрэйскага народа і бальшавіцкі антысемітызм у даваенны і пасляваенны перыяды.

Першыя дзве значныя публікацыі Л. Смілавіцкага, як працаўніка Цэнтра дыяспары, з'явіліся ў 1997 г. Яны былі напісаны на англійскай мове і прысвячаліся вывучэнню палітыкі цэнтральнай савецкай улады адносна яўрэяў БССР у гады НЭПа і ў апошнія гады жыцця савецкага дыктатара. Вывучэнне Халакосту звязвалася з выкрыццём антысеміцкай палітыкі савецкай дзяржавы.

Тэма пра яўрэяў у сельскай гаспадарцы Расійскай імперыі была добра вывучана яўрэйскімі даследчыкамі яшчэ пры царызме. Тады расійскі ўрад абвінавачваў яўрэяў у гультайстве, нежаданні займацца фізічнай працай. Ён спрабаваў замацаваць іх на зямлі, але не стварыў для таго спрыяльных умоў. Л. Смілавіцкі паказаў, што савецкі ўрад фактычна пераняў царскую палітыку прыцягнення яўрэяў да сельскагаспадарчай дзейнасці з тымі ж абвінавачаннямі. Аднак гэта не вырашала праблемы беспрацоўя яўрэяў у беларускіх мястэчках, і яны перасяляліся ў буйныя гарадскія цэнтры. Уладам удалося толькі скарыстацца працавітасцю і прадпрымальнасцю яўрэяў, стварыўшы ў прапагандысцкіх мэ-

тах яўрэйскія калгасы, якія з пачаткам масавай калектывізацыі страцілі падтрымку і распаліся. Такі ж лёс спасціг і яўрэйскія сельскагаспадарчыя кааператывы, створаныя ў гады НЭПа.

Моцнае ўражанне пакідае артыкул *Дело врачей*. У канцы 1952 – пачатку 1953 г. пасля абвінавачання яўрэйскіх лекараў Масквы ў спробах атруціць партыйнае кіраўніцтва БССР пакрыла хваля антысемітызму. Беларускія працоўныя пад уздзеяннем партыйнай прапаганды патрабавалі выгнання і нават вынішчэння ўсяго яўрэйскага насельніцтва. Прыхаваная варожасць да яўрэяў, якая стагоддзямі распальвалася хрысціянскім клірам і ўладамі, вылілася вонкі. Л. Смілавіцкі ілюструе гэтую непрыхаваную варожасць шматлікім фактычным матэрыялам, выяўленым у былым партыйным архіве Беларусі.

У 1990-х гг. беларускія даследчыкі атрымалі магчымасць вывучаць яўрэйскую тэматыку, і Л. Смілавіцкі з прыемнасцю ўспрыняў такую перамену. Ён надрукаваў у 1999 г. у англамоўным часопісе добразычлівую рэцэнзію на кнігу Яўгена Анішчанкі пра ўвядзенне рысы яўрэйскай аселасці. Рэцэнзент не прамінуў пры гэтым падкрэсліць, што гісторыя яўрэяў з'яўляецца неад'емнай часткай гісторыі Беларусі. Гэты погляд пазней знайшоў адлюстраванне нават у назве першай навуковай манаграфіі Л. Смілавіцкага *Евреи Беларуси: из нашей общей истории. 1905–1953* (Мінск, 1999).

У выдадзеным у 2000 г. на англійскай мове артыкуле *Возврат имущества и жилищ* аўтар узняў вельмі трагічную старонку ўзаемаадносін яўрэяў з неяўрэямі БССР у першыя гады пасля мінулай вайны. Масавае вынішчэнне яўрэяў нацыстамі суправаджалася рабаваннем іх хатняга дабра і захопам жылля. Пасля выгнання акупантаў у Беларусь вярталіся з эвакуацыі, фронту і з партызанскіх атрадаў ацалелыя яўрэі. Яны прад'яўлялі правы на сваю маёмасць, якую прысвоілі дзяржаўныя ўстановы і прыватныя асобы, і пачалі зацятае змаганне за яе вяртанне. Захопнікі аказвалі супраціўленне. Як бачым, усплеск антысемітызму меў месца нават пасля Халакосту. Такое магло адбыцца толькі ў жабрацкай краіне. На гэты раз Л. Смілавіцкі задакументаваў барацьбу яўрэяў за вяртанне сваёй маёмасці не толькі архіўнымі дакументамі, але і ўспамінамі, якія ён пачаў запісваць яшчэ на радзіме, а ў Ізраілі на іх аснове ён ужо ствараў уласны архіў матэрыялаў вуснай гісторыі.

Аўтар слушна патлумачыў прычыны малой эфектыўнасці такой барацьбы падагрэтым у гады вайны антысемітызмам беларускага насельніцтва і абыякавасцю дзяржавы да лёсу найбольш пацярпелых у вайне яўрэяў. Дзяржаўны антысемітызм пачаў набіраць абароты з першых пасляваенных гадоў і ва ўсёй моцы праявіўся ў сувязі са «справай лекараў». Эканамічны антысемітызм перарос у палітычны. І зараз антысеміцкія настроі ў Беларусі не зніклі. Калі б на праўладным тэлебачанні пачалося абмеркаванне, напр., «рытуальнага забойства» хрысціянскіх дзяцей яўрэямі, то праз нейкі час абаронцы моцнай улады пачалі б граміць сінагогі.

Для самасцвярджэння ў якасці сур'ёзнага даследчыка Л. Смілавіцкаму на першым этапе сваёй навуковай дзейнасці ў Ізраілі было важна друкавацца на англійскай мове. Публікацыі 1990-х гг. пацвердзілі яго прафесійную спеласць, пераход да каштоўнасцей ізраільскай гістарыяграфіі, засведчылі пераўтварэнне савецкага навуковага неафіта ў навукоўца еўрапейскага ўзроўню. Першы этап навуковай творчасці даследчыка завяршаецца публікацыяй кнігі *Катастрофа евреев в Белоруссии. 1941–1944* (2000) і пераходам да актыўнага выкарыстання малавядомай у Беларусі методыкі вуснай гісторыі. Тэма Халакосту раскрывалася аўтарам з паказам таго, што ў нацыстаў былі пераемнікі – сталінскія паплечнікі.

Гісторык аддаў належнае найбольш запатрабаванай у Ізраілі тэме – вывучэнню антысемітызму на матэрыялах Беларусі, куды ён выязджаў для працы ў архівах кожнае лета з 1995 г. Будзе памылкай абвінавачваць Л. Смілавіцкага ў канфармізме. Гэта – даніна памяці. Яўрэйскія гісторыкі, якія і самі сутыкаюцца з антысемітызмам, лічаць сваім патрыятычным абавязкам зрабіць пасільны ўнёсак у вывучэнне антысемітызму і Халакосту. Існуюць навуковыя цэнтры, якія спецыялізуюцца на такіх даследаваннях. Склалася такая традыцыя: ушанаванне памяці ахвяр, высакароднае імкненне высвятліць прычыны і прадухіліць паўтарэнне катастрофы і ўціску яўрэяў. Гэты накірунак у навуцы сапраўды ўнікальны. Зараз шырока вядома, што па прыкладу яўрэяў дзейнічаюць армяне і ўкраінцы.

Звычайна яўрэйскія даследчыкі абмяжоўваюцца Халакостам і антысемітызмам, а пра палітычную ролю яўрэяў Беларусі гавораць мімаходзь, а то і ўвогуле маўчаць, хоць гаворка пра гэта – добрая прафілактыка антысемітызму. Аднак гэта не адносіцца да Л. Смілавіцкага. Сваёй публікацыяй 2002 г. у расійскім часопісе пра савецкую школу на ідыш ён у асноўным развітваецца з традыцыйным накірункам у іўдаіцы і пераходзіць да вывучэння штодзённага жыцця беларускіх яўрэяў сярод неяўрэяў і ролі яўрэяў у гісторыі Беларусі. Гэты артыкул разбурае міф, які атаясамлівае яўрэяў з бальшавікамі. У той час як некаторыя з іх прымалі ўдзел у кіраванні даваенным СССР, яўрэйскі народ быў ахвярай русіфікацыі і сталінскіх рэпрэсій. І гэта пераканаўча даказана ў артыкуле на аснове шматлікіх архіўных фактаў і ўспамінах відавочцаў, сабраных аўтарам. У артыкуле не толькі выкрываліся праявы антысемітызму, а пацвярджалася агульнасць лёсу народаў Беларусі ва ўмовах таталітарнага рэжыму.

Артыкул пра школу на ідыш разам з выдадзенай у 1999 г. кнігай засведчылі пераход аўтара рэцэнзуемага зборніка да новага этапу ў яго навуковай творчасці. Гэта пацвярджае і серыя публікацый навукоўца 2002–2005 гг. у англамоўных навуковых часопісах, дзе паказана як роля яўрэяў у наладжванні функцыянавання дзяржаўнага апарату БССР (юрыдычная сістэма, органы пракуратуры, міліцыя), так і іх агульныя з іншымі народамі рэспублікі пра-

блемы ў 1945–1953 гг. Да гэтай жа серыі адносіцца і рукапіс пра ўдзел яўрэяў у органах бяспекі, які друкуецца ўпершыню. Якраз матэрыялы гэтых артыкулаў зараз найбольш актуальныя для Беларусі. Аўтар імкнецца прытрымлівацца адзінай структуры або сюжэтнай лініі: кароткая даведка пра від дзяржаўнай установы, падрыхтоўка яўрэяў да працы ў дзяржаўным апараце, іх працоўная дзейнасць, прафесіяналізм, дыскрымінацыя і страта працы.

Л. Смілавіцкі на прыкладзе яўрэяў выяўляе ў сталінскай карна-судовай сістэме яе поўнае падпарадкаванне камуністычнаму кіраўніцтву, а фактычна адной асобе, вялікі працэнт сярод службоўцаў рускіх, прыярытэт адданасці сталінскаму кіраўніцтву перад прафесіяналізмам, перыядычныя кадравыя «чысткі», завышаныя меры пакарання, адсутнасць апраўдальных прысудаў, беспакаранасць злачыннасці службовых асоб, пераслед грамадзян за сувязі з замежжам.

Зразумела, што Л. Смілавіцкі як вопытны даследчык не мог не заўважыць парадаксальнай сітуацыі, калі яўрэйскія спецыялісты ўмацоўвалі судова-карны апарат сталіністаў, які скіроўваўся супраць уласнага народа (с. 286). Ён прыводзіў шматлікія факты супрацоўніцтва яўрэяў са сталінскім рэжымам. Навуковец тлумачыць гэта наіўнай верай у дэмакратычнасць савецкага ладу, удзячнасцю Сталіну за ўратаванне ад нацысцкай навалы, спадзяваннем на пасляваенныя палітычныя перамены да лепшага ў адносінах да яўрэйскага народа, прадстаўнікі якога зрабілі вялікі ўнёсак у Перамогу і перажылі Халакост. Аднак «справа лекараў» і кампанія па разгортванні дзяржаўнага антысемітызму выклікалі расчараванне. Выгнанне яўрэяў-прафесіяналаў з судова-карнай сістэмы нагадвала чыстку вышэйшых кадраў Чырвонай арміі перад вайной і сведчала, што гэта сістэма пажырала сама сябе. Адпаведна паўставалі ўмовы ўжо для расправы з дыктатарам. Сітуацыя, раскрытая ў рэцэнзуемай кнізе Л. Смілавіцкага, будзе вельмі пазнаваемай для сучаснага чытача з Беларусі.

Дарэчы, ірацыянальная вера ў правадыра ўсіх народаў была характэрна для значнай часткі насельніцтва БССР. З аналізу прыведзеных у кнізе фактаў вынікае, што ацвярэжэнне і пазбаўленне ад ілюзій у жыхароў БССР пачалося з яўрэяў. У органах яны імкнуліся абараніць прадстаўнікоў свайго народа ад антысемітызму, многія пакінулі дзяржаўную службу і змянілі прафесію, пры першай магчымасці больш дасведчаныя яўрэі Заходняй Беларусі пераязджалі ў Польшчу па праграме абмену палякаў БССР на беларусаў Польшчы.

У 2003 г. Л. Смілавіцкі надрукаваў тры вельмі важныя для сябе артыкулы пра антысемітызм і дыскрымінацыю яўрэяў у БССР. Гэтыя працы сведчылі пра завяршэнне ім рэканструкцыі асноўных контураў мадэлі жыцця беларускіх яўрэяў пры сталінскай дыктатуры. Першы артыкул *Еврейская литература* (1917–1964) завяршае сюжэтную лінію ў яго творчасці, прысвечаную барацьбе сталіністаў з іўрытам, а фактычна з рэлігійнай літаратурай, якая стваралася на іўрыце.

У другім артыкуле *Евреи Беларуси в первое послевоенное десятилетие*, надрукаваным у англамоўным навуковым часопісе, паказана, як вайна непазбежа абвастрыла нацыянальныя супярэчнасці ў шматнацыянальнай БССР. Дзяржаўны антысемітызм тады пашырыўся на яўрэйскіх дзеячаў навукі і культуры. Аўтар даследуе дынаміку колькасці яўрэяў БССР у 1941–1959 гг., іх удзельную вагу ў структурах улады, адукацыі і падсумоўвае праявы антысемітызму ў пасляваенны перыяд (вынішчэнне культуры ідыш[1], абвінавачанні ў пратэкцыянізме і карупцыі, сувязях з замежжам, пазбаўленне права на веравызнанне).

У жыцці яўрэяў апошняга сталінскага дзесяцігоддзя аўтар вылучыў два этапы: 1) 1944–1948 гг., калі адукаваныя яўрэі былі патрэбны для аднаўлення савецкай Беларусі і шмат рабілі дзеля гатага; 2) 1948–1953 гг., калі яўрэяў ганьбавалі, бо з'явілася магчымасць іх замяніць. Пры гэтым беларускія ўлады вылучаліся асаблівай стараннасцю (с. 116). Аўтар імкнуўся зразумець матывы такіх дзеянняў. На яго думку, кіраўніцтва БССР лічыла, што адукацыйная і прафесійная перавага яўрэяў у рэспубліцы ды іх паспяховы ўдзел у фармаванні эліты беларускага грамадства ў пасляваенны час стварае пэўную пагрозу беларускай савецкай псеўдадзяржаўнасці (с. 107). У сувязі з гэтым замоўчваліся праявы антысемітызму і панавала беспакаранасць антысемітаў.

У трэцім артыкуле *Как это было в Могилёве* (2003) распрацаваная аўтарам мадэль жыццядзейнасці яўрэяў БССР пры Сталіне была выкарыстана ў дачыненні да асобнага горада. Значных рэгіянальных асаблівасцей чытач не заўважыць. Складваецца ўражанне, што даваенная саветызацыя і Халакост вынішчылі рэгіянальныя адметнасці жыцця яўрэяў БССР, сярод якіх было шмат прыезджых або памяняўшых месца жыхарства ўнутры рэспублікі. Пасляваенныя рэпрэсіі давяршылі гэты працэс вынішчэннем нацыянальных адметнасцей, зрабілі іх жыццё казарменным, пераўтварылі яўрэяў у савецкіх людзей, сярод якіх яўрэйская самабытнасць захоўвалася толькі падпольна. Адмаўленне ад нацыянальных традыцый стала для яўрэяў умовай іх выжывання ў БССР і Савецкім Саюзе ў цэлым. Пазней выпрацаваная Л. Смілавіцкім мадэль жыццядзейнасці яўрэяў у БССР была развіта ў манаграфіі *Евреи в Турове. История местечка Мозырского Полесья* (Іерусалім, 2008).

Важным навуковым накірункам у творчай дзейнасці Л. Смілавіцкага ў 2002–2010 гг. было стварэнне партрэтнай галерэі беларускіх яўрэяў, што стала вынікам шматгадовай працы па зборы іх успамінаў. Перад чытачом паўстаюць перакручаныя лёсы людзей, якія гераічна адстойвалі сваю чалавечую годнасць і нацыянальна-рэлігійную адметнасць у БССР. Змешчаныя ў зборніку нарысы ўжо публікаваліся, але ёсць і арыгінальныя, якія друку-

[1] Парадаксальна, але факт: ідыш не быў прызнаны ў Ізраілі, а калі спахапіліся, было ўжо позна.

юцца ўпершыню. Усе яны напісаны па-мастацку кранальна, з філасофскімі абагульненнямі і псіхалагічнай характарыстыкай абраных герояў. Фактычна аўтар прадэманстраваў у гэтых нарысах прыхільнасць да антрапалагічных метадаў даследавання. Л. Смілавіцкі падкрэсліў, што гэтыя матэрыялы адлюстроўваюць трагізм не толькі яўрэяў, але і ўсёй савецкай эпохі (с. 345), што цяжкі жыццёвы шлях яўрэі прайшлі разам з беларусамі (с. 364). У беларускай гістарыяграфіі антрапалагічнымі даследаваннямі актыўна займаецца прафесар Алесь Смалянчук, таму выдадзены Л. Смілавіцкім зборнік аблягчае параўнанне лёсу яўрэяў і беларусаў у перыяд сталінскага тэрору, спрыяе ўзаемаразуменню паміж двума народамі.

З 2004 г. Л. Смілавіцкі стаў пастаянным рэцэнзентам кніг па іўдаіцы. Такое звычайна здараецца, калі ў навукоўца назапашваецца ўласны даследчыцкі вопыт і ён становіцца аўтарытэтам у навуцы. Выбарка надрукаваных у 2004–2010 гг. рэцэнзій звязана з гісторыяй яўрэйскіх абшчын асобных мясцін Беларусі (Лунінец, Магілёў, Рэчыца). Аўтара кнігі пра Тураў яны цікавілі і таму, што ў іх адчувалася сугучнасць з яго кнігамі і публікацыямі. Рэцэнзуемыя кнігі ўзмацнялі перакананне Л. Смілавіцкага, што сталінскі тэрор не ведаў нацыянальных межаў (с. 426).

Другая група рэцэнзуемых кніг прысвячалася вывучэнню больш маштабных праблем. Выбар даследчыка датычыў кніг ізраільскага гісторыка Міхаэля Бейзера пра сінагогі на постсавецкай прасторы і пра дзейнасць амерыканскага дабрачыннага аб'яднання «Джойнт» у Расіі, СССР і СНД (у суаўтарстве). Думаю, што гэтыя кнігі М. Бейзера выклікалі цікавасць у майго калегі не толькі сваёй тэмай, але і сімпатыяй да аўтара, які ў пэўнай ступені паўплываў на творчасць самога Леаніда. Рэцэнзія на надрукаваную ў 2017 г. кнігу амерыканскай даследчыцы Ганны Штэрншыс пра вусную гісторыю яўрэйскага жыцця ў сталінскую эпоху – гэта сустрэча рэцэнзента з калегай, з якой супадаюць навуковыя інтарэсы. Гэта як узнагарода за былую навуковую творчасць, як пацвярджэнне важнасці зробленага Л. Смілавіцкім выбару тэмы ў іўдаіцы.

У 2010–2011 гг. творчасцю Л. Смілавіцкага пачынаюць цікавіцца ў Беларусі. Вядомасць сярод беларускіх гісторыкаў прынесла яму выступленне на міжнароднай навуковай канферэнцыі даследчыкаў Беларусі ў 2010 г. ва ўніверсітэце Лазарскага ў Варшаве. Яго даклад *История Беларуси, отраженная в Израиле: обзор архивных коллекций, документов и материалов* у 2011 г. быў надрукаваны ў матэрыялах канферэнцыі на беларускай і англійскай мовах. Публікацыя застаецца актуальнай і сёння, тым больш што яна дапрацавана з улікам новых звестак. У новым варыянце Л. Смілавіцкі не толькі паказаў перспектывы вывучэння гісторыі яўрэяў Беларусі, але і прапанаваў канкрэтную праграму супрацоўніцтва гісторыкаў Ізраіля і Беларусі (с. 325).

У артыкуле *Образование государства Израиль и отношение к этому Беларуси* (2011) аўтар прааналізаваў пазіцыю кіраўніцтва БССР адносна адраджэння

яўрэйскай дзяржаўнасці і імкнення яўрэяў перасяліцца ў Ізраіль. Для аўтара савецкая Беларусь – гэта суб'ект палітыкі. У адрозненне ад многіх ізраільскіх гісторыкаў і грамадзян, ён не лічыць ураджэнцаў Беларусі «рускімі яўрэямі». У сваёй кнізе аўтар вылучыў раздзел Беларусь и Израиль.

Пачатак III тысячагоддзя быў вельмі плённым для даследчыка. З друку выйшлі адразу чатыры кнігі, уключна з рэцэнзуемай: *Яўрэйскае жыццё ў Беларусі. Апошняе дзесяцігоддзе сталінскага рэжыму. 1944–1953* (Будапешт – Нью-Ёрк, 2014, англ.), *Цензура в БССР: послевоенные годы, 1944–1956* (Іерусалім, 2015), *Лев Смиловицкий. Из опыта пережитого. Воспоминания* (Іерусалім, 2016). Прыйшла вядомасць. Беларускія журналісты часта бяруць у Л. Смілавіцкага інтэрв'ю. У адным з іх (*Беларусь и цензура*) навуковец праанансаваў будучую кнігу пра цэнзуру. Гэта ўжо даследаванне карнага інструменту, які ўзмацняў савецкі таталітарызм і быў скіраваны супраць усяго насельніцтва пасляваеннай савецкай Беларусі.

Апошнім часам мой калега заклапочаны адсутнасцю дзяржаўнага інтарэса да вывучэння гісторыі яўрэяў Беларусі, увекавечання памяці аб іх прысутнасці і дзейнасці на беларускіх землях (напр. гл.: інтэрв'ю *Еврейский туризм – как это понимать?, Уроженцы Беларусі – лидеры Израиля*). Беларуская дзяржава абмяжоўваецца падтрымкай камерцыйнага яўрэйскага турызму, і Л. Смілавіцкі асуджае яе кіраўніцтва за несур'ёзнае стаўленне да гісторыі яўрэяў. Цалкам зразумела, што ізраільскі гісторык сустрэў сучасную рэвалюцыю ў Беларусі з энтузіязмам і падтрымаў беларусаў у іх змаганні за дэмакратыю.

У 2010–2018 гг. назіралася асабліва вялікая цікавасць Л. Смілавіцкага да праблем беларускай гістарыяграфіі і адбылося, адважуся сказаць, пераўтварэнне навукоўца з Ізраіля ў ізраільска-беларускага гісторыка. Складваецца ўражанне, што найбольшае прызнанне Л. Смілавіцкі атрымаў усё ж у Беларусі. Рэпатрыянту цяжка канкурыраваць з ізраільскімі калегамі, ды ён асабліва і не імкнуўся да таго. Усе яго навуковыя інтарэсы звязваюцца з першай радзімай. Пра гэта ён сам казаў у інтэрв'ю *Белорусы и евреи всегда между собой легко договаривались*.

Важна адзначыць, што сабраныя ў новай кнізе артыкулы не дубліруюць манаграфіі аўтара, а дапаўняюць іх. Рэцэнзуемая кніга Л. Смілавіцкага, як і ўся яго навуковая дзейнасць, прысвечана выкрыццю антыгуманнай сутнасці нацызму і сталінізму на прыкладзе яўрэяў Беларусі. Гэта заўсёды робіцца на аснове велізарнай колькасці фактычнага матэрыялу і з улікам існуючай у свеце гістарыяграфіі. Прыкладам для яго з'яўляецца Анатоль Грыцкевіч. Леанід, як і яго былы ўніверсітэцкі выкладчык, – рыцар факта. Ён бесперапынна знаходзіцца ў пошуку новых гістарычных матэрыялаў. У цэнтры ўвагі – заўсёды людзі.

Новая кніга Л. Смілавіцкага – гэта збор шматлікіх яўрэйскіх лёсаў. Першым вопытам майго калегі ў назапашванні матэрыялаў вуснай гісторыі сталі ўспаміны яго бацькі, былога франтавіка. Як адзначана вышэй, яны апублікава-

ны ў выглядзе асобнай кнігі. Менавіта бацька, Леў Мацвеевіч, звярнуў увагу сына на важнасць сведчанняў відавочцаў гістарычных падзей. Ён жа выхаваў у сына і любоў да гісторыі.

Не кожны гісторык можа пахваліцца падобнай колькасцю навуковых прац, выдадзеных на англійскай мове. Многія з іх змешчаны ў рэцэнзуемай кнізе. Англамоўныя публікацыі Л. Смілавіцкага зрабілі яўрэйскую старонку беларускай гісторыі шырокадаступнай у свеце. Кіраўніком гэтага выдавецкага праекта, як і папярэдніх, заўсёды выступаў сам аўтар. Гэта дазваляе яму захаваць аўтарскую індывідуальнасць і аўтарскі стыль (спалучэнне лаканічнасці і ёмістасці выкладання), стварыць запамінальны вобраз кнігі з усімі атрыбутамі навуковага выдання.

Ізраільска-беларускаму гісторыку непазбежна давялося сутыкнуцца з супярэчлівымі меркаваннямі ў ізраільскай і беларускай гістарыяграфіях. Некаторыя з іх – непераадольныя. Яўрэі лічаць калабарантаў прыслужнікамі нацыстаў, саўдзельнікамі ў вынішчэнні яўрэяў. Беларусы вылучаюць сярод калабарантаў патрыётаў, якія пад акупацыяй атрымалі магчымасць адраджаць беларускую нацыянальную самасвядомасць і спадзяваліся з дапамогай акупантаў вызваліцца з-пад бальшавіцкай Расіі, а потым і ад нацызму пры падтрымцы саюзнікаў. Пры існаванні такіх двух меркаванняў выбар Л. Смілавіцкага, з некаторымі агаворкамі, – зусім зразумелы.

У адрозненне ад прадстаўнікоў расійскай гістарыяграфіі, сярод неафіцыйных сучасных гісторыкаў Беларусі не прынята ўключаць у лік прыгнятальнікаў уласнага народа побач з царызмам літоўскіх князёў і польскіх каралёў. І тут Л. Смілавіцкі аказаўся перад складаным выбарам. А яшчэ ён неаднаразова падкрэсліваў, што аб'ектыўную гісторыю Беларусі цяжка ўявіць без яўрэяў. Але тое ж самае можна сказаць і пра гісторыю яўрэяў Беларусі без беларусаў. І ў гэтым накірунку яўрэйскімі даследчыкамі гісторыі беларускіх яўрэяў зроблена недастаткова. Л. Смілавіцкі іх апярэджвае.

Непазбежнай асаблівасцю зборніка артыкулаў з'яўляецца дубліраванне асобных яркіх фактаў. Выбраныя для кнігі тэксты былі дапрацаваны Л. Смілавіцкім. Гэта надало цэльнасць новай кнізе, але пры гэтым губляецца арыгінальнасць раней апублікаваных навуковых прац. Хоць усё гэта не самае важнае ў параўнанні з тым, што публікацыяй выбраных твораў даследчык зрабіў вялікі ўнёсак у беларускую і ізраільскую гістарыяграфіі і тым паспрыяў паразуменню паміж народамі. У гэтай кнізе, найперш праз інтэрв'ю, ён адкрыў беларусам сваю душу, як раней зрабіў даступным для беларускіх навукоўцаў уласны архіў, перададзены на захаванне ў Тэль-Авіўскі ўніверсітэт, а таксама важнейшыя навуковыя публікацыі, размешчаныя ў інтэрнэце. І, нарэшце, сваёй навуковай творчасцю Леанід Смілавіцкі дапамагае яўрэям, асабліва ў сучасных умовах абвастрэння міжнацыянальных канфліктаў, зразумець глыбіню каранёў антысемітызму, асэнсаваць яго небяспеку, каб абараніць сябе і сваіх блізкіх.

ISSN 2424-5216

# PRO MEMORIAM

## БЕРАЖЫЦЕ СВАБОДУ! БАРЫС КЛЕЙН (1928–2020)

***Аляксандр Фядута (Менск),***
*д-р габілітаваны*



Барыса Самуілавіча Клейна я бачыў толькі аднойчы. Я быў студэнтам Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта і хадзіў у тэатральную студыю ў Палацы культуры хімікаў. Туды ж хадзіў хлопец з юрыдычнага факультэта, з якім мы разам наведвалі заняткі па лячэбнай фізкультуры, – Жэня Клейн. Аказалася, што мы абодва любім Шэкспіра. І мы вырашылі ўдвух напісаць п’есу – «Суд над Гамлетам». Нібыта Гамлет застаўся жывы, і яго судзяць за спробу дзяржаўнага перавароту і шматлікія наўмысныя і ненаўмысныя забойствы.

Жэня ўзяўся за справу сур’ёзна. Склаў спіс артыкулаў Крымінальнага кодэкса БССР, якія чамусьці парушыў прынц дацкі, і запрасіў мяне да сябе дадому, каб абмеркаваць сюжэт будучай геніяльнай п’есы ва ўсіх дэталях.

Але працаваць нам выпала нядоўга. У вялікую залю-гасцёўню ўвайшоў немалады, як мне падалося, чалавек, высокі, з сівізной, непрыхільна паглядзеў на мяне і пайшоў у іншы пакой – у кабінет. Адтуль пазваў Жэню. Той выйшаў – і вярнуўся засмучаны:

– Ужо час. Тата будзе працаваць.

Так атрымалася: я нарадзіўся і жыў у Гродне, але не ведаў гісторыю Барыса Клейна. А мама, якая ўваходзіла, як

было прынята казаць, у шэрагі КПСС, ведала: пра Клейна расказвалі на закрытых партыйных сходах. І калі вечарам я распавядаў ёй – была ў нас такая традыцыя, – чым займаўся днём, і сказаў, што быў у Жэні Клейна, яна не тое каб спалохалася або напружылася – не, проста запытала:

– Пра палітыку не размаўлялі?

Мы не размаўлялі пра палітыку. Мы размаўлялі пра Шэкспіра. Але ішлі андропаўска-чарненкаўскія часы, камуністычная сістэма задыхалася ў астматычным кашлі, але яшчэ жыла і ўчэпіста трымалася за ўладу, спрабуючы знішчыць усіх, хто цягнуўся да свежага паветра. І маме, якую дзяўчынкай вывезлі ў Германію, так што пры Сталіне пасля яна вымушана была неаднойчы хадзіць для тлумачэнняў у мясцовае аддзяленне органаў дзяржбяспекі, зразумела, падавалася небяспечным, што яе сын наведаў кватэру нядобранадзейнага гісторыка.

П'есу мы з Яўгенам Барысавічам так і не дапісалі. Верагодна, ён нават не памятае пра гэта.

Але праз шмат гадоў я пачаў рыхтаваць для серыі «Беларускі кнігазбор» том выбраных твораў Аляксея Карпюка, перад якім з часоў перабудовы адчуваў сябе вінаватым. А фармат серыі прадугледжваў, што ў дадатку публікуюцца ўспаміны сучаснікаў. І мне захацелася знайсці той голас, які яшчэ ніхто не чуў. Так я ўзгадаў пра «старога» Клейна. І Алена Аляксееўна Сівакова, дачка Аляксея Нікіфаравіча Карпюка, знайшла мне адрас электроннай пошты Барыса Самуілавіча, які ўжо каля паўтара дзясятка гадоў жыў у Злучаных Штатах Амерыкі.

І я даслаў ліст Клейну. І Клейн адказаў. Ён паабяцаў напісаць успаміны пра Карпюка. Так пачалося наша ліставанне. Гэта, як я зараз разумею, было цудам. Я нічога не ведаў пра гісторыю самога Барыса Самуілавіча. Ва ўспамінах пра Быкава ён праходзіў праз коску з Аляксеем Карпюком: мемуарысты практычна нічога пра іх не пісалі. Гэта было крыўдна і несправядліва, таму што і Клейн, і Карпюк былі асобамі выдатнымі і яркімі.

Але сам Клейн раптам адчуў, што пра яго ўзгадалі на Радзіме, якую ён памятаў і любіў. Беларусь была ў яго разуменні шматнацыянальнай, шматмоўнай, шматкультурнай і надзвычай пасіянарнай. Невыпадкова героямі яго ўласных навуковых публікацый былі Тадэвуш Касцюшка, паплечнікі Кастуся Каліноўскага, падпольшчыкі з забароненай Сталіным Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Аляксей Карпюк, гродзенскі пасіянарый, быў з той жа кагорты.

І Клейн пачаў пісаць. Я мяркую, што Барыс Самуілавіч і да майго ліста абдумваў сваё жыццё, рыхтуючыся пачаць працу над мемуарамі. Як гісторык ён вельмі добра разумеў каштоўнасць кожнай дэталі, адлюстраванай сучаснікамі і ўдзельнікамі падзей, захаваных у яго памяці. Не хапала невялікага штуршка, упэўненасці ў тым, што гэта патрэбна камусьці там – у Беларусі. Такую ўпэўненасць надаў мой ліст.

Але памяць распараджаецца намі паводле свайго меркавання. Сеўшы за стол пісаць пра Аляксея Карпюка, Клейн пачаў разгортваць карціну ўласнага жыцця. І замест невялікага нарыса пра сябра атрымаўся шчыры расказ пра самога сябе – амаль споведзь, наколькі чалавек увогуле можа спавядацца *urbi et orbi*.

Так з'явілася кніга «Недосказанное. Имена», другую частку якой склалі гісторыка-публіцыстычныя працы, напісаныя Барысам Самуілавічам ужо ў Амерыцы. А першай часткай быў расповед пра самога сябе.

Клейн працаваў над кнігай з такой энергіяй, якую рэдка сустрэнеш у маладых аўтараў. Праўкі ў рукапіс уносіліся ледзьве не кожны тыдзень. Са скрупулёзнасцю сапраўднага вучонага ён шукаў фармуліроўкі, якія найбольш адэкватна адлюстроўвалі б яго думку. Напрыканцы працы яго было ўжо цяжка прыпыніць, і слова «Стоп!» было сказана толькі тады, калі вярстальшчык пачаў маліцца: тэкст трэба аддаваць у друк, а аўтар працягвае дасылаць і дасылаць праўкі!

Кніга выйшла. Была прызначана прэзентацыя, на якой шмат хто пагадзіўся выступіць. Адзначу ўжо нябожчыка нашага выдатнага архівіста Віталя Уладзіміравіча Скалабана, Алену Аляксееўну Сівакову, гісторыкаў, якія памяталі Клейна і як калегу, і як настаўніка. Але нечакана ўмяшалася палітыка.

Прэзентацыя павінна была адбыцца ў менскім доме-музеі Ваньковічаў. Значная частка навуковай творчасці Клейна была прысвечана XIX стагоддзю, і расказваць пра яго кнігу ў доме, дзе маглі бываць і некаторыя яго героі, падавалася цалкам натуральным. Але на вокладцы кнігі дызайнер размясціў чатыры партрэты – Касцюшкі, Каліноўскага, Карпюка і Быкава. І калі дырэктарка музея пайшла з экзэмплярам кнігі ўзгадняць прэзентацыю з вышэйстаячым кіраўніцтвам, кіраўніцтва адмовіла ў даволі грубай форме. Усе чатыры персанажы ва ўмовах «лукашэнкаўскай» Беларусі падаліся непажаданымі. Адыграў сваю ролю і «нацыянальны» фактар: пра нацыянальнасць аўтара ўзгадалі настолькі па-хамску, што я пасля не адважыўся паўтарыць гэтыя словы ў лісце да Барыса Самуілавіча.

Я пачаў тэлефанаваць у міністэрскія кабінеты. Не дапамагло. Фармальна нічога не забаранілі, але проста адмовілі ў месцы правядзення мерапрыемства. Дапамог беларускі ПЭН-цэнтр. Тут партрэт Васіля Быкава на вокладцы ўспрымаўся зусім па-іншаму.

Барыс Клейн прысутнічаў на гэтай прэзентацыі. Старэйшы сын гісторыка, Аляксандр, запісаў выступ бацькі і даслаў файл. Мы ўсе ўбачылі бадзёрага, моцнага, цвёрдага ў сваіх меркаваннях і ацэнках чалавека, шчаслівага ад таго, што ў сваёй кнізе ён змог вярнуцца на Радзіму.

Наша ліставанне працягвалася. Па маёй просьбе жонка Барыса Самуілавіча, вядомая старэйшаму пакаленню гродзенцаў журналістка Фрыда Мацвееўна Пугач, надрукавала ў другім выпуску біяграфічнага альманаха «Асоба і час» свае ўспаміны пра час, калі яна разам з Васілём Быкавым працавала

ў рэдакцыі «Гродзенскай праўды». Сам Барыс Самуілавіч быў запатрабаваны. Яго публікацыі пачалі з'яўляцца ў незалежным літаратурным часопісе «Дзеяслоў», у газеце «Народная воля», у яго пачалі браць каментарыі для беларускай службы Радыё «Свабода». Аўтар фундаментальнай біяграфіі Быкава Сяргей Шапран шырока выкарыстаў клейнаўскія мемуары ў сваёй кнізе.

Але Клейн актыўна цікавіўся бягучымі беларускімі падзеямі. Асаблівы водгук выклікалі ў яго падзеі 2010 і 2020 гадоў, у якіх ён убачыў працяг той рэвалюцыйнай традыцыі, пра якую шмат пісаў. Чалавек, які не пажадаў скарыцца рашэнням неасталінскіх савецкіх улад, лепш чым хто іншы разумеў, як важна дамагчыся свабоды, заваяваць яе самому, а не атрымаць у дазіраваным памеры ад начальства. Ён чэрпаў упэўненасць з уласнай памяці. Невыпадкова за год да рэвалюцыйных падзей 2020 года ён палічыў патрэбным адрэдагаваць свае ўспаміны і выпусціць іх зноў – асобнай кнігай. Напэўна, Барыс Самуілавіч адчуваў важнасць расказу пра тых, хто – як ён, як Быкаў і Карпюк – не здаўся і працягваў, кожны па-свойму, барацьбу, адстойваючы свае перакананні, свой гонар і сваю годнасць.

Я цешуся, што дзякуючы дапамозе партала TUT.BY мы змаглі не толькі правесці прэзентацыю гэтай дапрацаванай і перапісанай ужо вельмі немаладым аўтарам кнігі «Недосказанное», але і даслаць яму запіс мерапрыемства. Барыс Самуілавіч пачуў добрыя словы пра сябе і сваіх калег, і вучняў, і чытачоў. Асабліва кранальным быў выступ Алены Сіваковай, якая звярнулася да «дзядзі Барыса», якога памятала яшчэ дзяўчынкай. Але і выступ самога 90-гадовага аўтара, які прысутнічаў віртуальна, здзіўляў сваёй энергетыкай, імпэтам, шчырай верай у няўхільнасць перамогі дэмакратыі.

Апошні акорд нашага ліставання прыпаў на лета – восень 2020 года. Магчыма, з часам я апублікую гэтыя яго лісты, з якіх бачна, наколькі шчыра стары гісторык непакоіцца з прычыны падзей, сучаснікам якіх ён з'яўляецца.

Працытую толькі пачатак ліста ад 14 жніўня 2020 г.: «Дарагі Аляксандр, – з першай перамогай Вялікай беларускай рэвалюцыі! Шчаслівы, што дажыў да яе. Усё думаю, чым бы дапамагчы...». І – крык душы з нагоды магчымай інтэрвенцыі з боку расійскіх войск, якая актыўна абмяркоўвалася ў інтэрнэце: «Некаторыя з нас былі сведкамі «Пражскай вясны» 1968 года і пратэставалі супраць савецкай акупацыі Чэхаславакіі. Іншыя ведаюць з гісторыі. Да якіх наступстваў прывяла адмова СССР ад наспелых рэформаў і падаўленне вызваленчых рухаў у «брацкіх» краінах? У канчатковым выніку – да распаду Савецкага Саюза і ўсяго «сацыялістычнага лагера». Не менш цяжкай будзе і расплата за чарговую авантуру чэкісцка-шавіністычнай групы ў расійскіх вярхах. Яны што, сапраўды разлічваюць, што народжаная ў гераічнай барацьбе беларуская еўрапейская нацыя стане на калені перад агідным псіхапатам і яго апрычнікамі, што нашы светлыя людзі будуць лізаць боты акупантам? Памыляецеся. Мабыць, забылі ўрокі партызанскай Беларусі? Вы атрымае-

це ўсенародны супраціў. Толькі той, для каго людская кроў – вадзіца, застанецца абыякавым да гэтай страшнай перспектывы. Толькі тыя, хто «ў труне бачылі» незлічоную колькасць братоў і сясцёр, па волі злачыннага кіраўніцтва ўвойдуць у гэтае пекла» (ліст ад 28 жніўня 2020 г.).

Ужо па гэтых радках бачны тэмперамент, які захаваў Барыс Клейн нават у апошні год свайго доўгага жыцця. На жаль, ёсць абставіны, над якімі мы не маем улады. 4 кастрычніка старэйшы сын Барыса Самуілавіча, Аляксандр Барысавіч, паведаміў мне, што яго бацька памёр ад каранавіруса. У адным з апошніх лістоў ён напісаў: «Я абавязкова захаваю архіў Барыса Самуілавіча і спадзяюся з цягам часу яго Вам перадаць». Будзем спадзявацца, што Барыс Клейн вернецца на радзіму не толькі ў мемуарах, але і дакументамі свайго архіву.

Дэмакратычныя беларускія медыя паведамілі пра смерць гісторыка. Гэта навіна не згубілася ў інтэрнэт-прасторы, нягледзячы на нарастаючы паток інфармацыі пра падзеі рэвалюцыйнага супрацьстаяння. Афіцыйная прэса пра смерць Клейна нічога не напісала.

На жаль, не атрымалася рэалізаваць адзін праект, пра які я пастаянна думаў з моманту, калі прачытаў першы раз успаміны Клейна. Мы маем справу з унікальным прэцэдэнтам: тры сябры, тры выдатныя чалавекі – Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк і Барыс Клейн – пакінулі ўспаміны пра адны і тыя ж падзеі 1968–1977 гг. «Гродзенскі трохкутнік», як часта называюць яго гісторыкі дысідэнцкага руху, фактычна даў магчымасць рэканструкцыі іх жыцця ў маім родным – і дарагім для іх – горадзе Гродна. Сучасныя тэлевізійныя і інтэрнэт-тэхналогіі дазваляюць стварыць унікальны дакументальна-гульнявы фільм, героі якога дзейнічалі б у рэальных гарадскіх дэкарацыях. Тым больш яшчэ жывыя іх сучаснікі.

Я даслаў ліст пра гэта кіраўніцтву тэлеканала «Белсат». На жаль, гэта тэма не зацікавіла. Хаця была ўнікальная магчымасць: запрасіць апошняга з удзельнікаў гэтай групы Барыса Клейна на некалькі дзён наведаць Радзіму і зняць яго ў горадзе, які ён працягваў памятаць і любіць.

Сярод дасланых мне ў свой час Барысам Самуілавічам электронных спасылак быў лінк на яго выступ у эфіры тэлевізійнага канала «Настоящее время». Кароткі сюжэт – дзесяціхвілінны выступ гісторыка пра прыроду сталінізму. Клейну заставалася жыць менш за год. Менавіта таму яго выступ сёння ўспрымаецца як своеасаблівы тастамент, як заклік да людзей: цаніце свабоду, беражыце свабоду, змагайцеся за свабоду!

Будзем берагчы. Будзем змагацца. За нашу і вашу свабоду.

*Пераклад з расійскай мовы Таццяны Касатай*

ISSN 2424-5216

# ЕВГЕНИЙ АНИЩЕНКО (1955–2021): ИСТОРИЯ ИСТОРИКА

***Андрей Киштымов,***
*канд. ист. наук (Минск)*



В стране со сложной историей сложно быть историком. Впрочем – и простых историй, очевидно, не бывает. Но вот судьбы историков иногда не выходят за рамки их кабинетов, библиотек и архивов. Наверное, это историческая традиция, берущая свое начало с тех времен, когда первые летописцы и хронисты сидели по монастырским кельям, вдали от людских забот. Есть же и сегодня страны, где профессия историка – это воплощение традиций, символ консервативности, стабильности, погружения в глубину эпох и показатель независимости от современной политической конъюнктуры.

У нас же – все наоборот. Историк – это опасная профессия. Вне зависимости от твоих профессиональных качеств ты можешь попасть в категорию «честных» или «нечестных». Ты – кандидат на запрет по профессии. Тебя могут уволить за оценки современного, а не прошлого. А занимаясь прошлым, ты неизбежно выйдешь на оценки современного.

Почему это пишу именно я? Скажу сразу – это тяжелый груз и ответственность. За последние годы историческая наука Беларуси потеряла много имен, большинство из ко-

торых я знал. И масштабы этих потерь нам еще предстоит осознать. Но так сложилось, что все они уходили из своих родных, исторических коллективов. Где было кому скорбеть, кому писать некрологи. Последнее место работы Евгения Анищенко – Белорусский государственный медицинский университет, доцент кафедры общественного здоровья и здравоохранения. Медицина не помогла, историка мы потеряли. Ковид. Теперь это чистая историография.

Что вообще приводит человека к занятиям историческими штудиями? Пути истории неисповедимы. Моя биография, да и биографии моих коллег, – яркое тому подтверждение. Знали ведь, что ни быстрого успеха, ни больших денег это занятие не принесет. Даже, в отличие от археологов, Шлимановской романтики – найдем золото Трои – у историков нет. Но все равно – в историю идут и история от себя не отпускает.

Так случилось и с деревенским хлопчиком с белорусско-российского пограничья, из деревни Брянцево, в былом приходе Зубревичской церкви Вознесения в Копыском уезде Могилевскай губернии. По признанию самого историка, первый раз он встретил свои родные места в архивных документах 1772 г. в составе имения Александрия Оршанского повета. Тогда Брянцево принадлежало знаменитой фамилии Чарторыйских. Впрочем, про детские годы можно прочитать и у самого историка (см. Приложение к статье).

Земляк? Как бы – да. Могилёвщина, Поднепровье, имение Александрия, те же места. Только судьбы разные.

А дальше было совсем интересно. Вот что вспоминал сам историк: «Видно, во мне срабатывает то, что заложено природой. Я счастлив, что вырос на приволье. Жителей нашей вёски Брянцево, что в Оршанском районе, называли китайцами. Видно, из-за плотной ее обитаемости – в деревне жил интернационал. И если учесть, что все лучшее в нас заложено в детстве, то свободу я испытал именно в ту пору: искренняя дружба, игры от темна до темна, никаких устремлений определиться с учебой.

Были, правда, склонности к рисованию – я одинаково хорошо рисовал Ленина и колхозного коня. И мой отец Константин Денисович, колхозный агроном, ветеран войны, участник Сталинградской битвы, решил это использовать: посчитал это достаточным, чтобы отдать меня в Республиканскую школу-интернат по музыке и изобразительным искусствам. Мать, Анна Григорьевна, возможно, в душе была против моего раннего отъезда из дома, но, как любая мать, «светлой» перспективе не возражала. Так в свои тринадцать лет с дальней Оршанщины я оказался в Минске. Здесь было страшно. Оказалось, что экзамены нужно будет сдавать на русском языке, что для деревенского ученика в то время было большим горем. Я плакал от отчаяния, ведь все предметы дома преподавались у нас на родном.

Учился живописи в классе художника Петра Свентоховского. В 10-м классе моя классная руководительница, «вторая мама» Гера Геннадьевна Леденева

заметила у меня склонности к гуманитарным предметам. По ее совету я предпринял попытку поступить на отделение философии истфака БГУ, но не хватило баллов – и я снова плакал. Заметив мой такой искренний порыв к марксистско-ленинской философии (другой в то время не было), декан истфака Ираида Иосифовна Царюк вызвала меня и предложила компромисс: я буду зачислен на факультет, но при условии, что буду заниматься исключительно наглядной агитацией. Так, «по блату», я и был зачислен. И рисовал много, настолько много, что надоело.

Почему не бросил? Подумывал уже, но «История» Геродота, которую я прочитал на первом курсе, а потом произведение Забелина о быте русских царей и цариц приблизили меня к историкам. Решил проявить волю: что я, хуже других однокашников? Уперся, одним словом... Так и окончил университет в 1978 году историком» (Краеведческая газета. № 19 (36), май 2006 г.).

Добавим, что в Республиканской школе-интернате он учился в одном классе с Александром Исачевым – знаковое имя для мира художников.

Университет Женя окончил с отличием, был рекомендован в аспирантуру, но его ждала обычная судьба выпускника: сельская школа в Городокском районе, затем годичные лейтенантские погоны в Советской армии, и – снова школа, но уже в Минске.

В феврале 1982 г. была предпринята первая попытка попасть в академическую науку. Его приняли в Институт истории художником-оформителем в группу по созданию Музея истории АН БССР. Тут и состоялось наше первое знакомство, я ведь был в этой группе с момента ее создания. Знакомство было недолгим – через пару месяцев Женю уволили.

Здесь нужно сделать небольшое уточнение. Мы с ним – почти одногодки, мой 1954-й и его – 1955 год рождения. Неоднократно даже работали вместе. Поэтому не стоит считать фамильярностью, когда я его называю – Женя. Однако у нас разные биографии и – схожая судьба.

Может, это мимолетное знакомство и не осталось бы у меня в памяти, но в 1985 г. в отделе истории феодализма моего, тогда еще родного, академического Института истории появился новый старший лаборант. Через год он стал аспирантом, в 1989 г. защитил кандидатскую диссертацию «Земельные отношения в Восточной Белоруссии во второй половине XVIII – начале XIX в.». Научный руководитель – тогдашний заведующий отделом истории феодализма доктор исторических наук Василий Иванович Мелешко. Далее все шло по стандарту: младший научный; научный сотрудник; старший, но все равно – научный. Пока в декабре 2004 г. Президиум ВАКа не заявил, что он не учёный и его докторская диссертация «не адпавядае патрабаванням пункта 13 Палажэння аб прысуджэнні вучоных ступеняў і прысваенні вучоных званняў у частцы неабгрунтаванасці навуковых вынікаў дысертацыі».

Этим приговором завершилась весьма запутанная и по-своему трагичная эпопея с защитой докторской «Палітычная гісторыя Беларусі ў часы падзелаў Рэчы Паспалітай». Событие это памятное до сих пор как в академических, так и вузовских кругах.

Действительно, переломным моментом в научной биографии Евгения Константиновича явилась его попытка стать доктором исторических наук и события вокруг его докторской диссертации.

Надежда на то, что 6 монографий, 3 сборника документов, исторические карты и 170 статей автоматически превратятся в докторскую степень, не оправдались. Текст диссертации распадается на ряд сюжетов, не всегда связанных между собой как хронологически, так и логически. Читать и тем более разобраться в этом лоскутном историческом одеяле – трудно, что и привело к появлению многочисленных оппонентов, как явных, так и анонимных.

Сделаем попытку рецензии после всех рецензий и отзывов. Прямо по тексту.

Вместо объяснения некоторых принципиальных положений автор просто отсылает читателя к своим предыдущим публикациям. Но, по идее, именно диссертация и должна была стать концентратом предыдущих авторских исследований. И даже если некоторые итоги были подведены ранее, то в докторской им – самое место.

Возможно, диссертант считал такой ход своей авторской находкой: мол, хотите узнать больше – познакомьтесь со всем моим творчеством. Но это вызывает и обратный эффект: налицо элементарное неуважение к читателю.

Или, например, читателю предлагается поверить, что диссертант использовал «картографический метод», потому что картами «забяспечаны амаль усе асноўныя публікацыі аўтара, якія ляглі ў аснову дадзеннага даследавання»[1]. Но в самой диссертации ни одной карты нет.

Концепция автора такова. Распад Речи Посполитой – это результат воздействия двух гегемонизмов – магнатского и Российской империи. При этом автор оспаривает господство политической анархии во времена Речи Посполитой («чаму ў такім разе Рэч Паспалітая трымалася канца 16 ст. са сваім ладам разбуральнай анархіі і загінула ад гэтай жа анархіі толькі ў канцы 18 ст.»[2], а «галоўныя інстытуты шляхецкай дэмакратыі ў выглядзе сеймаў і сеймікаў функцыяніравалі без зрыву іх вольным голасам увесь час радзелаў»[3]). Однако текст диссертации ярко и явно свидетельствует об обратном, политическое бессилие, как его ни назови, было налицо.

---

1 Анішчанка Я. К. *Палітычная гісторыя ў часы падзелу Рэчы Паспалітай: доктарская дысертацыя*. Мінск, 2006, с. 12.

2 Там же, с. 26.

3 Там же, с. 208.

Эти сеймы и сеймики «функционировали» без ощутимых практических результатов. А окончательный диагноз – политический коллапс и политическую анархию – нельзя перечеркнуть указанием на длительность самой болезни. Например, причины распада СССР тоже копились со времен его образования.

Тезис о гегемонии, вопреки мнению автора, совсем не универсальная отмычка для раскрытия всех тайн истории. Ну объявили К. Маркс и Ф. Энгельс гегемоном пролетариат. И что? Где на исторической арене этот гегемон? Хотя сам по себе этот тезис выглядит очень соблазнительно. Можно заявить: гегемония Королевства Польского и гегемония магнатов в ВКЛ привели к Люблинской унии. Или: столкновение гегемонии КПСС и гегемонии национальных сил в советских республиках привели к распаду СССР.

Парадоксально, но не университетский ли курс истории привил отличнику учёбы эту любовь к гегемонизму? Ведь, по воспоминаниям своего однокурсника Михаила Плиско, именно на истории КПСС Женя собирался специализироваться после окончания БГУ.

Однако, возвращаясь к разделам Речи Посполитой: приняв теорию «гегемонизма», надо объяснить, почему Австрия и Пруссия, которым, собственно говоря, достались самые исторические и экономически развитые части Речи Посполитой, – не гегемоны? Объективно говоря, роковым моментом в исторической судьбе Речи Посполитой стала потеря не Вильни, а Варшавы и Кракова. А если и Россия, и Австрия, и Пруссия, и магнаты – гегемоны, то не слишком ли много гегемонов собралось одновременно на одной исторической грядке?

Кстати, в ложной попытке преувеличить престижность белорусских земель отечественные историки довольно часто прибегают к цифровому аргументу. Не избежал этого и диссертант: «Па суме трох падзелаў самыя буйныя набыцці дасталіся Расіі – 463 тыс. кв. км з усіх 733»[1]. Но достаточно простого сравнения – в 1795 г. территория Российской империи составляла 17 млн кв. км, – чтобы понять весьма относительную ценность такого аргумента. Еще более красноречивыми выглядят демографические показатели.

Можно сравнить статистику по разделам. 1772 г.: Российская империя получает 250 тыс. кв. км и 1,3 млн новых подданных, Австрия и Пруссия – 119 тыс. кв. км с 3,23 млн населения. 1795 г.: Российская империя получает 120 тыс. кв. км и 1,2 млн новых подданных, Австрия и Пруссия – 95 тыс. кв. км, но с 2,5 млн населения.

Число подданных при Екатерине II приросло на 7 млн человек, в 1795 г. составило 37 млн человек, из них жителей белорусских губерний было 2,6 млн.

---

1 Там же, с. 197.

Да и стратегически выход, например, на Черноморское побережье и присоединение Крыма выглядят куда более весомым приобретением, чем территории, полученные после раздела Речи Посполитой.

Удивительно, что историк в диссертации по политической истории обошелся без политических портретов задействованных в этом процессе особ: монархов, их министров и военачальников, магнатов, лидеров политических группировок. Что они думали, каково их имущественное положение, планы, возможности, как они оценивали события?

Исключение – царский наместник З. Чернышов и ряд губернаторов, но только в период после первого и до второго разделов Речи Посполитой[1]. Однако непонятно и то, почему для них это исключение сделано.

Обойден вопрос о том, как на политические события повлияло экономическое положение сторон. Впрочем, это общий недостаток практически всех работ, посвященных истории разделов Речи Посполитой.

По всему тексту идет неоднократное упоминание различных денежных сумм, предназначенных для достижения политических целей. Но выделялись ли они реально, как распределялись, как и кем получались – ответа нет.

Явным преувеличением выглядит квалификация разделов Речи Посполитой как «глобального конфликта»[2]. Масштаб был явно не мировой, а – европейский. Да и едва ли эти события можно назвать конфликтом.

За всем этим стоит главная и основная историческая проблема, так и не решенная в историографии до сегодняшнего дня. Нет ответа на вопрос: когда и как из субъекта европейской политики Речь Посполитая превратилась в международный объект, что и привело в итоге к ее разделам.

К историографии диссертант отнесся весьма дифференцированно. Основной упор сделан на работы российских, до 1917 г., историков, и польскую историографию, начиная с середины XIX в. При этом отсутствует оценка разделов Речи Посполитой в австрийской и немецкой историографии, нет работ украинских историков. Зато весьма неожиданно выглядит ссылка на работу финского историка Уно Любвига Лехтонена, изданную в 1907 г.[3] Откровенно не повезло белорусским историкам. Фундаментальную работу М. В. Довнар-Запольского «История Белоруссии» Евгений Константинович назвал «научно-популярной». Монография В. Шведа «Паміж Польшчай і Расіяй: грамадска-палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772–1863 гг.)» (Гродно: ГрДУ, 2001), по его мнению, «нагадвае

---

[1] Там же, с. 101–111.

[2] Там же, с. 3.

[3] Там же, с. 43.

вучэбны курс»[1], а свою рецензию на эту книгу диссертант озаглавил «На шляхах блукання»[2].

Очень серьезным недостатком диссертации следует считать то, что ни одна из ее пяти глав не имеет итоговых выводов. Никаких объяснений этой ситуации автор не дает.

Главы насыщены богатым фактическим материалом, значительная часть которого введена в научный оборот самим диссертантом. И это является его несомненной заслугой. Но вот осмыслить достигнутое, увы, ему удавалось далеко не всегда.

Противоречивые утверждения могут встречаться даже на одной странице: «Нарэшце, з дапамогай і пры абапоры на Расію кароль С. Панятоўскі праводзіў палітыку рэформ па замене гэтай анархіі прынцыпам прыняцця на сеймах, сейміках і канфедэрацыях большасцю галасоў»[3]. И тут же: «Расія з карысных мэт не дазваляла яму з дапамогай рэформ пераўтварыць атрыманую ўладу ў абсалютнае самадзяржаўе»[4].

Иногда автор идет даже по пути отрицания собственных достижений. Например, утверждает: «Параўнанне эканамічнага становішча беларусаў у складзе Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі пад уплывам падзелаў, між іншым, вымагае папярэдняга крыніцазнаўчага аналізу дадзеных па метралогіі, зусім не аднастайных паміж сабой. Аднак адпаведная галіна гістарычных ведаў практычна не распрацавана ў беларускай навуцы, што стрымлівае ўсебаковую і паўнавартасную ацэнку згаданных перамен»[5]. Но ведь есть кандидатская диссертация Е. К. Анищенко, защищенная в 1989 г., в которой категорически утверждается: «Включение Восточной Беларуси в состав Российской империи не ознаменовалось нарушением уровня землеобеспеченности крестьян, так же как и существенными сдвигами в ведущих формах структуры феодальной ренты»[6].

Одним из своих несомненных достижений диссертант считал доказательство того, что Российская империя не смогла в то время найти весомых исторических доказательств «законности» своего приобретения ВКЛ.

---

1 Там же, с. 46.

2 Анішчанка Я. К., *На шляхах блукання. Рецэнзія.* // Весці НАН Беларусі. Сер. гуманіт. навук, 2002, № 2, с. 119–120.

3 Анішчанка Я. К., *Палітычная гісторыя ў часы падзелу Рэчы Паспалітай: доктарская дысертацыя.* Мінск, 2006, с. 208.

4 Там же.

5 Там же, с. 8.

6 Анищенко Е. К., *Землеустройство на востоке Беларуси в XVIII–XIX вв.*: канд. дисс. и статьи на бел. и русск. яз. Минск, 2021, с. 118.

Отмечу, что меня лично удивляет, почему споры вокруг этой «законности и незаконности» не утихают на протяжении более 200 лет. Агрессоры – Австрия, Пруссия, Россия – известны изначально. И история, в отличие от политики, не обладает возможностью оправдать агрессию. Даже если такие попытки и предпринимаются, то живут в историографии недолго.

Успешную и обширную территориальную экспансию Россия практиковала веками, и – без использования тезиса о своем «наследственном праве» на эти земли (Урал, Сибирь, Дальний Восток, Крым, Кавказ, Средняя Азия). Если выход на берега Невы еще как-то пытались прикрыть пропагандистским именем Александра Невского, то для остальной Прибалтики и такого предлога не нашлось.

Не стоит удивляться и тому, что при аннексии ВКЛ первоначально посчитали, что право сильного – сильнее любого идеологического обоснования.

Кстати, не особо использовали тезис про «историческую справедливость» в своей экспансионистской внешней политике и Австрия, и Пруссия. Они активно прибирали к своим рукам все, что «плохо лежало» в Европе. Как, впрочем, в XV–XVIII вв. и за европейскими пределами активно проходил всеобщий передел мира.

Идеологическую окраску изменение границ приобрело только в XIX в., со времени эпохи наполеоновских войн, и, особенно, со времени «Весны народов». Совсем не случайно историографический параграф диссертант начинает с изданной в 1848 г. брошюры С. Шипова «Взгляд на историю Западной Руси», в которой автор называет ВКЛ «княжеством Белорусским» потому, что его населял «народ русский, именуемый белорусами… с русским языком, русским статутом и верой»[1].

При разделе Речи Посполитой лишь в минимальной степени был использован старый, религиозный, со времен крестовых походов предлог – защита единоверцев, диссидентские дела.

Говоря про проблему диссидентов, диссертант вполне справедливо указывает, что провалилась и попытка оправдать аннексию как ответ на просьбы «единоверцев». Белорусские униаты в то время стойко держались за свою веру, и самодержавию пришлось отступить[2].

Однако, в отличие от белорусских земель, на Правобережной Украине массовый переход из унии в православие начался еще до первого раздела Речи Посполитой, в период так называемой Колиивщины. И если уж в диссертации рассматривается проблема «диссидентов», то уместным был бы аналитический вывод о причинах разных судеб униатства в разных частях Речи Посполитой. Но, этого – нет. Как нет, на что уже указывалось, и при-

---

1 Там же, с. 18.

2 Там же, с. 209–210.

што побач з табой жыве незвычайная асоба і даследчык, Чалавек з вялікай літары... Пакуль аднойчы, вяртаючыся з лесу, куды вырваўся на некалькі гадзін па грыбы, ты не адчыняеш фэйсбук і раптам дазнаешся жудасную навіну: твайго сябра больш няма...

*«Шлях да свабоды больш цяжкі і складаны, чым думалася маладым патрыётам»*, – гэтымі словамі Уладзімір Ляхоўскі калісьці скончыў сваю кнігу, прысвечаную вытокам беларускага моладзевага руху. *«Незалежнасць не даецца дарма. Яна мусіць быць выпакутаваная і здабытая ў змаганні, у штодзённай працы народа. Ёсць глыбокая вера ў тое, што зняважаныя нацыянальныя сімвалы Беларусі незнішчальныя!...»*[1].

А пакуль мне цябе будзе вельмі не хапаць. Нам усім будзе цябе не хапаць...

1 Ляхоўскі У., *Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX ст. – 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)*. Беласток – Вільня, 2012, ст. 420–421.

ISSN 2424-5216

# ПАМЯЦІ ТАЦЦЯНЫ МАЛІНОЎСКАЙ (1953–2020)

***Юры Гардзееў,***
*д-р габілітаваны (Кракаў)*



Кожная эпоха пакідае след у нашай памяці. Яе ўласцівасць – вяртацца ў мінулае, згадваць даўнія падзеі ці асоб, з якімі наканавана было сустрэцца, сябраваць ці працаваць. Хаця, канешне, з далечыні гадоў нас праследуе ўсведамленне фрагментарнасці і заганнасці нашых успамінаў, іх суб'ектыўнасці[1].

Заўчасны адыход чалавека з жыцця змушае нас да роздуму. Тым больш, калі гэта адбываецца нечакана. 5 лістапада 2020 г. памерла Таццяна Рыгораўна Маліноўская[2]. Мне падаецца, што сухі пералік месцаў яе працы ці пасад не дасць

---

[1] За дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага тэксту хачу падзякаваць Наталлі Маліноўскай-Франке, Ігару Трусаву, Святаславу Шайко і Андрэю Ціхаміраву.

[2] У *Гародні памерла Таццяна Маліноўская*. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://www.racyja.com/hramadstva/u-garodni-pamerla-tatstsyana-malinouska/. Дата доступу: 05.07.2021; І. Трусаў, Ю. Гардзееў, *На рэстаўрацыйных аб'ектах няма таблічак з яе прозвішчам. Пра Таццяну Маліноўскую ўзгадваюць гісторыкі*. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://hrodna.life/2020/11/06/taccjana-malino-skaja/. Дата доступу: 05.07.2021; *Памярла Таццяна Маліноўская*. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://harodniaspring.org/be/news/17135. Дата доступу: 05.07.2021.

магчымасці перадаць галоўнае, а менавіта сказаць, кім была і якую спадчыну яна пакінула.

У 1978–1988 гг. Таццяна Маліноўская займала пасаду загадчыцы фондаў у Гродзенскім абласным гісторыка-археалагічным музеі. У 1983–1986 гг. падрыхтавала дысертацыю па тэме «Народнае ткацтва Гродзеншчыны XX ст.» Яе навуковым кіраўніком быў загадчык кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута Міхась Раманюк. Не выклікае сумнення, што факт працы ў музеі ды кантакты з менскім інтэлектуальным асяродкам аказаў уплыў на фарміраванне яе светапогляду.

Пішучы гэтыя радкі, я мушу вярнуцца ў 80-я гады XX ст., калі павевы перабудовы разняволілі грамадскую думку, ствараючы магчымасці для рэалізацыі творчых ідэй і новых праектаў. Перабудовачны час зазначыўся ўзростам цікавасці да гарадской гісторыі і культуры. Варта прыгадаць археалагічныя раскопкі, што прыадчынілі чарговыя таямніцы Замкавай гары, ці актыўную дзейнасць гарадскіх краязнаўцаў. Памянёны перыяд можна было б акрэсліць як этап абуджэння гістарычнай думкі, у тым ліку зацікаўленасці гарадской мінуўшчынай. Мабыць, не памылюся, сцвярджаючы, што менавіта ў другой палове 1980-х гадоў пачала фармавацца гродзенская гістарычная школа.

Адной з малавядомых старонак гісторыі нашага горада застаецца праблема вывучэння гісторыка-культурнай спадчыны, якой у той час сталі надаваць значна больш увагі. У 1987 г. у Гродне былі заснаваны майстэрні Інстытута «Белспецпраектрэстаўрацыя», якія займаліся падрыхтоўкай праектаў рэгенерацыі забудовы гістарычнага цэнтра горада[1]. Улічваючы кепскі фізічны стан і фактычную занядбанасць гісторыка-культурнага комплексу старой часткі горада, што было наступствам адсутнасці сістэмнай рэстаўрацыі ў пасляваенныя часы, гэта праблема вылучалася надзвычайнай актуальнасцю.

У 1988 г. Таццяна Маліноўская ўзначаліла гісторыка-археалагічны аддзел майстэрняў, да заданняў якога належала правядзенне комплекснага навуковага вывучэння архітэктурных ды іншых помнікаў горада і рэгіёна, на падставе чаго архітэктарамі і інжынерамі рыхтаваўся праект рэстаўрацыі. Археалагічныя справаздачы і гістарычныя даведкі, якія складаліся супрацоўнікамі аддзела, павінны былі знайсці ўвасабленне ў практыцы. Усё ж такі сказанае – гэта фармальны бок справы.

Збор матэрыялаў для даведкі пачынаўся з азнаямлення з нешматлікай як на тыя часы літаратурай па гісторыі аб'екта, а вось выяўленне архіўных крыніц нечым нагадвала працу сапёра. Каб знайсці карысныя звесткі пра помнік і ўстанавіць, калі ён быў узведзены, як перабудоўваўся ды інш., патрэбны былі пошукі ў архівах Гродна, Вільні ці Менска. Карпатлівасць працэсу збору

---

[1] Савіцкі Г., *Асновы кансервацыі і рэстаўрацыі*: *вучэбна-метадычны комплекс*. Віцебск, 2006, с. 22.

матэрыялаў і падрыхтоўкі гістарычнай даведкі можна было б вымераць сотнямі кіламетраў і гадзін, праведзеных у камандзіроўках.

На працягу шасці гадоў існавання калектывам аддзела была складзена некалькі дзясяткаў даведак. У маю памяць урэзаліся сумесныя паездкі ў архівы Вільні, якія дазвалялі супрацоўнікам аддзела адточваць свае навыкі і майстэрства архіўных пошукаў, у якіх Таццяна Рыгораўна ахвотна дапамагала.

Нягледзячы на тое, што з пачатку 1990-х гадоў Таццяна Маліноўская перайшла на працу ў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт і выкладала на кафедры беларускай культуры, яе пасіяй надалей заставалася спадчына горада. Гэта прывяло да супрацоўніцтва з Архітэктурна-рэстаўрацыйным бюро Святаслава Шайко і паспрыяла падрыхтоўцы шматлікіх даведак па гісторыі архітэктурных помнікаў на вуліцах Савецкай, 1, 6, 31; Найдуса, 1; Ажэшкі, 9, 11, 34; Леніна, 22; Кірава, 3.

Падчас супрацы з рэстаўрацыйнымі майстэрнямі Таццяна Маліноўская заглыбілася ў вывучэнне помнікаў горада і рэгіёна. Яна ведала не толькі гісторыю горада і яго архітэктуры, але і гісторыю паасобных дамоў ды іх уладальнікаў. Азнаямленне з архіўнымі дакументамі ўцягвала ў вір мінулага Гродна, яго таямніц. Да ліку гродзенскіх аб’ектаў, якія яна грунтоўна даследавала, належаў комплекс кляштара дамініканцаў[1] і помнікі былога габрэйскага квартала над Гараднічанкай.

Таццяна Маліноўская была вядомая не толькі як навуковец, але і як актыўная грамадская дзеячка, сябар гісторыка-культурнага клуба «Паходня», дзе займалася папулярызацыяй мінуўшчыны[2]. У 1990 г. яна была абрана дэпутатам Гродзенскага гарсавета, сябрам гарадской Тапанімічнай камісіі, узначаліла абласны філіял Фонду імя Льва Сапегі[3].

Хаця не ўсе напрацоўкі Таццяны Маліноўскай былі апублікаваны, паспрабую скласці ўступную бібліяграфію яе публікацый.

## *Спадчына Гродна*

*З гісторыі пабудовы і дзейнасці Гродзенскага кляштара дамініканцаў* // «Гарадзенскія запісы (старонкі гісторыі і культуры)». 1993, вып. 1, с. 11–14.

*Гродзенскі кляштар дамініканцаў* // Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік, Мінск, 1993, с. 178–179.

[1] *Дамініканскі касцёл і кляштар у Гродне*. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://harodnia.com/be/uczora/vkl-recz-paspalitaja/549-daminikanski-kastsjol-i-klyashtar-u-grodne. Дата доступу: 05.07.2021.

[2] *30 гадоў гарадзенскай «Паходні»*. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://www.sutori.com/story/30-ghadou-gharadzienskai-pakhodni--kzwrtoWZySyFckpoxjpLtzi1. Дата доступу: 05.07.2021.

[3] *Маліноўская Таццяна Рыгораўна // Выкладчыкі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы: біябліяграфічны даведнік*, рэд. В. Чарапіца, Гродна 1999, с. 285–286.

*Гродзенскі касцёл і кляштар брыгітак* // Архітэктура Беларусі: энцыклапедычны даведнік. Мінск, 1993, с. 175–176 (разам з С. Багласавым).

*Стваральнік беларускага дамініканскага барока // Этнасацыяльныя і культурныя працэсы ў заходнім рэгіёне Беларусі: гісторыя і сучаснасць. Матэрыялы рэспубліканскай навуковай канферэнцыі 5–6 снежня 1997 г.*, рэд. І. Крэнь. Гродна, 1998, с. 377–380.

*Гродзенскі кляштар дамініканцаў // Памяць. Гродна: гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі.* Мінск, 1999, с. 694–696.

*Архітэктура горада Гродна (з X ст. да 1939 г.). Вучэбны дапаможнік.* Гродна, 2005.

*Гродзенскі брыгіцкі кляштар і назарэтанкі (1790-я – 1930-я гг.)* // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа: зборнік навуковых артыкулаў, ч. 2. Гродна, 2009, с. 316–322 (разам з Н. Маліноўскай-Франке).

*Тэндэнцыі развіцця архітэктуры Гродна напрыканцы XVIII ст. // Ігнат Анацэвіч: жыццёвы шлях, педагагічная і навуковая спадчына: матэрыялы рэгіянальнай і навуковай канферэнцыі (Малая Бераставіца, 21 кастрычніка 2005* г., рэд. С. Габрусевіч. Гродна, 2008, с. 109–120.

*Кутны камень альбо «скок у будучыню»* // «Гарадзенскі гадавік». 2012, № 1, с. 6–7.

## Архітэктура Гродзеншчыны

*Навагрудская ратуша – помнік архітэктуры XVII стагоддзя // Наваградскія чытанні*: матэрыялы канферэнцыі да 480-годдзя атрымання Навагрудкам магдэбургскага права *і* 160-годдзя з *дня нараджэння У. Борзабагатага.* Наваградак, 1993, вып. 1.

*Рысы паладыянства ў архітэктуры Шчорсаўскага палаца // Культура Гродзенскага рэгіёна: праблемы развіцця ва умовах поліэтнічнага сумежжа.* Гродна, 2003, с. 267–270.

*Да гісторыі Вялікабераставіцкага касцёла XVII ст. // Наш Радавод*, кн. 4, ч. 3. Гродна, 1992, с. 543–546.

*Бераставіцкі раён // Падарожжа па Панямонні: гісторыка-архітэктурная спадчына Гродзенскай вобласці = Travels through Niemanland: historical-architectural heritage of Grodno region*, рэдактары-складальнікі А. Драгайцава, В. Царук. Гродна, 2008, с. 151–155 (разам з С. Казулем, В. Царук).

## Мастацтва і народная культура

*Обращение к изучению народнай культуры в первой половине XIX века // Наш Радавод*, кн. 3 ч. 1. Гродно, 1991, с. 18–21.

*Матывы дэкаратыўнага народнага Панямоння* // «Беларусіка» 1994, № 3, с. 220–222.

*Успаміны Я. Булгака і Туганавічы // Ян Булгак і культура заходнебеларускага рэгіену ў канцы XIX ст. і да Другой сусветнай вайны*: зборнік навуковых артыкулаў, рэдкал. С. Габрусевіч, В. Швед. Гродна, 2009, с. 56–62.

*Жанчыны-мастачкі Гродзеншчыны (другая палова XIX – пачатак XX ст.)* // «Беларускі гістарычны часопіс». 2012, № 3, с. 34–40 (разам з Н. Маліноўскай-Франке).

*Паралельны свет: Мастакі і мастацкае жыццё Гродна ў 50-я гг. XX ст.* // «Arche». 2011, № 10 (109), с. 240–264 (разам з Н. Маліноўскай-Франке).

*Усмешка праз* дзесяцігоддзі // «AVE *Maria*». 2010, № 12 (189). [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: https://ave-maria.by/i/37-189/1271-usmeshka-praz-dzesyatsigoddzi. Дата доступу: 06.07.2021.

*У скляпеністых піўніцах – уся палітра: Аб гродзенскай мастацкай галерэі Тызенгаўза* // «Мастацтва». 2006, № 5, с. 18 (разам з Н. Маліноўскай-Франке).

*Дар незвычайнага святла (да 100-х угодкаў назарэтанскага дому ў Гродне)* // «Наша вера». 2008, № 3 (45) (разам з Н. Маліноўскай-Франке). [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://media.catholic.by/nv/n45/art11.htm. Дата доступу: 06.07.2021.

*Успомнім пра забытае* // «Наша вера». 2009, № 1 (47) (разам з Н. Маліноўскай-Франке). [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://media.catholic.by/nv/n47/art11.htm. Дата доступу: 06.07.2021.

### *Тапаніміка горада*

*Да пытання перайменавання назваў вуліц горада* // «Гарадзенскі гадавік». 2013, № 2, с. 97–103.

### *Грамадзянская супольнасць*

*Дэмакратыя і грамадзянская супольнасць* // *Дэмакратыя і грамадства Беларусі – традыцыі і практыка*. Шчэцін, 2002, с. 5–13.

*Традыцыі дэмакратыі на Беларусі* // *Дэмакратыя і грамадства Беларусі – традыцыі і практыка*. Шчэцін, 2002, с. 14–24.

### *Літаратурная творчасць*

*Раёк на Збажовай* // «Новы замак». Літаратурны альманах. 2015, № 3, с. 121–135.

Апошні артыкул, які вылучаецца вытанчаным стылем і тонкім мастацкім светаўспрыманнем, на мой погляд, займае своеасаблівае месца ў творчасці Таццяны Маліноўскай. Напісаны ў форме ўспамінаў, ён фактычна з'яўляецца мікрагістарычным даследаваннем жыцця адной вуліцы горада на працягу трыццаці пасляваенных гадоў.

Вывучэнне спадчыны ці гісторыі нашага горада нельга акрэсліць жыццёвай прыгодай Таццяны Маліноўскай. Яно вынікала з глыбокага ўсведамлення праблем аховы помнікаў даўніны, іх захавання ды ўваскрашэння з небыцця. Стары горад у яе бачанні не выступаў наборам ці сумай архітэктурных аб'ектаў, але быў той каштоўнасцю, якая яднае гараджан і «стварае супольнасць памяці»[1].

У задушлівай атмасферы безнадзейнай рэчаіснасці думкі Таццяны Рыгораўны пакідалі нам надзею, надаючы сэнс будучыні. У адной з апошніх тэлефонных размоў яна з аптымізмам і перакананнем сказала мне: «Прыйдзе час – і мы вернемся да нашай справы».

[1] Маліноўская Т., *Кутны камень альбо «скок у будучыню»* // «Гарадзенскі гадавік». 2012, № 1, с. 7.

ISSN 2424-5216

# ПАМЯЦІ НАСТАЎНІКА
# ФЕЛІКС НАЛІВАЙКА (1938–2016)



Першая мая сустрэча з Феліксам Уладзіміравічам Налівайкам адбылася ўвосень 1978 г. Тады пачынаўся трэці год майго навучання на гістарычным факультэце Гарадзенскага педагагічнага інстытута, які ў тым самым годзе быў пераўтвораны ў Гарадзенскі ўніверсітэт (рэктар прафесар Аляксандр Бадакоў). Папярэднія два гады навучання былі напоўнены расчараваннем у прафесійнасці многіх выкладчыкаў і ў самой праграме навучання, дзе вялізнае месца займалі розныя ідэалагічныя дысцыпліны позняй брэжнеўскай эпохі.

Адміністрацыя факультэта (дэканы Міхаіл Жарскі і Валерый Чарапіца), як і ўсяго «ўніверстытуту», найбольш клапацілася пра «камуністычнае выхаванне» студэнтаў, якое зводзілася да сервілізму і дэманстрацыі лаяльнасці ці адабрэння ўсіх рашэнняў як партыйных органаў, так і факультэцкіх начальнікаў. Спробы некаторых студэнтаў праявіць самастойнасць мыслення і разумець гісторыю як навуку і як праблему ўспрымаліся большасцю выкладчыкаў з насмешкай і абарочваліся непрыемнасцямі падчас сесіі. Выкладчыкі, здольныя абудзіць думку, даць грунтоўныя веды і сфармаваць пэўную грамадзянскую пазіцыю студэнтаў, выглядалі на гэтым факультэце як «чужыя». Іх цярпелі, але старанна абмяжоўвалі магчымасці ўплываць на студэнтаў.

Трэба прызнаць, што апошняе стала нядобрай традыцыяй гістарычнага факультэта, якую паспяхова працягвала

наступная і працягвае сучасная факультэцкая і ўніверсітэцкая адміністрацыя (рэктары прафесар Андрэй Кароль, дацэнт Ірына Кітурка).

Тут варта прыгадаць папулярны ў Менску тэзіс пра «гарадзенскую гістарычную школу», да якой адносяць шэраг выпускнікоў гарадзенскага гістфака, вядомых даследчыкаў гісторыі Беларусі, большасць з якіх у розныя перыяды была выгнаная з універсітэта. Для мяне тэрмін «гарадзенская гістарычная школа» мае зусім іншае напаўненне. Тэрмін выклікае думкі пра сумныя традыцыі мясцовага гістфака па выкараненні самастойнасці мыслення, пра адсутнасць павагі да студэнта як асобы, пра пераслед студэнтаў і выкладчыкаў за прыхільнасць да беларускай нацыянальнай ідэі, пра спробы асобных выкладчыкаў пашыраць сярод студэнтаў ідэі «заходнерусізму», вялікарускага шавінізму і неасталінізму.

Гэтая «школа» павінна насіць імёны прафесароў і дэканаў гістфака Івана Крэня, Валерыя Чарапіцы і Аляксандра Нечухрына, якія прыклалі вялікія намаганні, каб свабода мыслення і навуковага пошуку не ўкаранілася на гістарычным факультэце. Ён і сёння выглядае пераважна як гняздо *Homo Sovieticus*, гаспадары якога ў крэслах адміністрацыі робяць усё магчымае, каб ізаляваць студэнтаў і выкладчыкаў ад навукі і грамадзянскага стаўлення да палітычных і нацыянальна-культурных праблем краіны.

А ў тым далёкім 1978 г. сустрэча з Феліксам Налівайкам была глытком свежага паветра ў задушнай атмасферы. Ён выкладаў курс гісторыі Новага часу (другая частка), і амаль упершыню за гады навучання мы сустрэліся з выкладчыкам, які быў навукоўцам і выдатна ведаў гістарыяграфію прадмета. Ужо пазней я даведаўся, што яго кандыдацкая дысертацыя, абароненая ў 1965 г., была прысвечана англійскай дыпламатыі канца XIX – пачатку XX ст. і першаму Мараканскаму крызісу 1905–1906 гг. Рыхтавалася дысертацыя з выкарыстаннем гістарычных дакументаў, а таксама прац брытанскіх, французскіх і нямецкіх даследчыкаў.

Варта адзначыць, што большасць тагачасных выкладчыкаў гістфака былі спецыялістамі або па дзейнасці прафсаюзаў у гады г. зв. «сямігодкі» або па метадах камуністычнай прапаганды ў пасляваеннай беларускай вёсцы і г. д. Лепшыя з іх на лекцыях пераказвалі падручнікі, дапаўняючы іх фрагментамі з прачытанай белетрыстыкі. Сёння, маючы даволі вялікі вопыт выкладання між іншым у Еўрапейскім гуманітарным універсітэце і ў Варшаўскім універсітэце, магу заявіць, што тое «навучанне» было насамрэч парушэннем права чалавека на адукацыю. Сказанае ў вялікай ступені адносіцца да ўсёй савецкай сістэмы адукацыі ў галіне сацыяльных і гуманірных дысцыплін.

Навуковым кіраўніком аспіранта Ф. Налівайкі быў прафесар кафедры Новай і найноўшай гісторыі БДУ Мікалай Паўлавіч Палетыка (1896–1988), адзін з найбольш вядомых у СССР даследчыкаў міжнародных адносін напярэдадні Першай сусветнай вайны. Гэты інтэлектуал і прадстаўнік «старой» даса-

вецкай гістарычнай школы ведаў некалькі замежных моў, а ў 1920-я гг. быў «сваім» у асяродку таленавітых ленінградскіх літаратараў. Апрача дзвюх дысертацый па гісторыі М. П. Палетыка абараніў кандыдацкую па эканамічных навуках (1936). Да пачатку кампаніі барацьбы з «касмапалітызмам» (1948) працаваў у Ленінградскім універсітэце. Потым была праца ў Ташкенце, а пасля смерці Сталіна ён пераехаў у Менск і працаваў у БДУ (1953–1971). Вядома, што М. Палетыка ніколі не належаў да камуністычнай партыі, а пасля выхаду на пенсію выехаў у Ізраіль (1973). Магчыма, гэта неяк адмоўна адбілася на перспектывах працы яго вучня.

Фелікс Налівайка не карыстаўся ні канспектам, ні тэкстамі лекцый. Ён свабодна валодаў матэрыялам, ажыўляючы падзеі яркімі вобразамі гістарычных персанажаў. Гісторыя нібыта ажывала ў яго выкладанні і прамаўляла словамі еўрапейскіх палітыкаў і дыпламатаў. Казалі, што раней ён выкладаў спецкурс па гісторыі дыпламатыі, але мы яго ўжо не пачулі. Затое мелі магчымасць праслухаць спецкурс гісторыі Вялікай Французскай рэвалюцыі, які пакінуў уражанне аднаго з найбольш цікавых і важных за ўсе гады навучання.

Выкладчык меў праблемы са зрокам, якія былі вынікам спадчыннай хваробы. Ён чытаў толькі з дапамогай вялізнай лупы або прасіў, каб нехта з сямейнікаў або студэнтаў чытаў яму тэксты. Пры гэтым у студэнтаў ніколі не ўзнікала сумненняў у энцыклапедычнасці яго ведаў, датычных гісторыі Еўропы Новага і Найноўшага часу. Аднак найбольш прыцягальным у постаці Фелікса Уладзіміравіча была смеласць суджэнняў і вастрыня мыслення. На занятках вітала атмасфера інтэлектуальнага напружання, якая, праўда, цікавіла толькі невялічкую частку курса. Большасць выкарыстоўвала сітуацыю, каб займацца нейкімі асабістымі справамі або ціхенька гаманіць пра нешта сваё. Затое пэўная група студэнтаў, да якой і я належаў, на яго занятках дэманстратыўна сядала за першыя парты і пагружалася ў атмасферу мінулай гістарычнай эпохі.

Фелікс Налівайка быў адкрытым і шчырым чалавекам, ахвотна ішоў на кантакты са студэнтамі. Пры гэтым не саромеўся крытычна выказвацца пра ўзровень Гарадзенскага «ўніверстытута» (ягоны тэрмін!) і накіроўваць студэнтаў на шляхі самадукацыі не толькі ў галіне гістарычнай навукі.

Згадваючы тыя гады, хочацца таксама назваць імёны Ігара Разэнфельда, Барыса Клейна, Міхася Ткачова, Васіля Бандарэнкі, Івана Коўкеля, Мікалая Бяспамятных і Веры Барэйкінай. Дзякуючы гэтым выкладчыкам мы не толькі здабывалі веды, але вучыліся думаць і пратэставаць супраць хлусні і сервілізму. Фелікс Налівайка быў адным з першых у гэтым пераліку.

Нашы кантакты не спыніліся пасля майго заканчэння ўніверсітэта. Даволі часта я наведваў яго сціплую кватэру на вул. Паповіча, дзе ён жыў разам з жонкай Даняй Давыдаўнай. Размаўлялі пра сітуацыю ў краіне, пра гісторыкаў і іх гісторыі. Яго цікавілі перамены ў беларускай гістарыяграфіі і лёс тых навукоўцаў, якіх ён лічыў сваімі калегамі, вучнямі і сябрамі. Шкадую, што не запі-

саў яго ўспаміны пра жыццё ў навуцы. Гаворка пра гэта заходзіла, але Фелікс Уладзіміравіч так і не даў згоды.

З часоў майго студэнцкага навучання мінула шмат гадоў, былі іншыя запамінальныя і знакавыя сустрэчы з навукоўцамі, адбыліся важныя падзеі, як у жыцці краіны, так і ў асабістым жыцці, але Фелікс Налівайка па-ранейшаму застаецца пэўным узорам Настаўніка і Гісторыка, які сумленна выконваў свой прафесійны абавязак, не цярпеў хлусні і подласці, не чакаў адабрэння начальства і імкнуўся жыць паводле норм прыстойнасці і годнасці. На жаль, апошняе і сёння ўспрымаецца ў нашай краіне як выклік уладам усіх узроўняў.

*д-р гіст. навук Аляксандр Смалянчук*
(выпуск 1981 г.)

***

У 2016 г. пайшоў з жыцця Фелікс Уладзіміравіч Налівайка, наш выкладчык і гісторык ад Бога. Студэнтам гістфака выпуску 1993 г. пашчасціла вучыцца ў многіх цікавых педагогаў і навукоўцаў, але Фелікс Уладзіміравіч быў адметнаю зоркай сярод гэтай плеяды.

Вядома, што навуковая глыбіня выкладчыка вышэйшай школы наўпрост звязана з ягонымі асабістымі даследчыцкімі інтарэсамі. І калі такія інтарэсы ўвасабляюцца, то студэнты адчуваюць гэта ў словах, думках і пытаннях выкладчыка. Лекцыі і семінары дацэнта Налівайкі былі сведчаннем яго маштабнага і глыбокага інтарэсу да гісторыі дыпламатыі Новага часу, эпохі «жалезных канцлераў», да часоў прадвесця Першай сусветнай вайны. Ягоныя веды былі надзвычай глыбокімі, а здольнасць звязваць і праводзіць паралелі паміж эпохамі, падзеямі і гістарычнымі з'явамі не пакідала абыякавым нікога, хто сапраўды імкнуўся разабрацца ў складанай гістарычнай матэрыі. Складвалася ўражанне, быццам выкладчык толькі што вярнуўся з той эпохі, пра якую распавядае на лекцыі, эмацыйна прыхапіўшы тагачасныя лозунгі, заклікі, крылатыя словы, ацэначныя меркаванні і вобразы грамадскіх, культурных і палітычных дзеячаў. Усё гэта прапаноўвалася нам, студэнтам, для разважання, параўнання і асэнсавання.

А параўноўваць і разважаць было пра што, бо за вокнамі быў пачатак 1990-х гг., калі змянялася і пераглядалася ўсё і паўсюль. І словы Фелікса Уладзіміравіча былі моцнаю дапамогаю ў нашым тагачасным штохвілінным выбары, ацэнках і меркаваннях. Гэта тычылася ўсяго: ад палітычных заклікаў актывістаў да навінак літаратуры.

– Фелікс Уладзіміравіч, як вы ставіцеся да апошняга рамана Валянціна Пікуля «Ступай і не грашы»? Бульварны раман?

– У Пікуля ўсе раманы бульварныя, – адрэзаў Налівайка, не прымаючы антысемітызму пісьменніка.

Нашаму пакаленню студэнтаў пашчасціла сустрэць Фелікса Налівайку ў сценах гістарычнага факультэта. Можна было заўсёды звярнуцца да яго

з пытаннем і атрымаць мудры адказ, да якога потым не раз будзеш вяртацца ў думках. Пашчасціла тым, у каго Фелікс Уладзіміравіч быў кіраўніком педагагічнай практыкі, бо яго патрабавальнасць і ўвага да ўсіх практычных абавязкаў прымушала рабіць усё бездакорна. Пашчасціла чуць ягоныя адказы і рэплікі на самыя розныя пытанні падчас знакамітых «Сустрэч пытанняў і адказаў», што практыкаваліся ў часы галоснасці на гістарычным факультэце.

Фелікс Налівайка быў цудоўным навукоўцам. На жаль, лёс не быў спагадлівым і хвароба зроку не дазволіла яму пакінуць пасля сабе тамы цікавых гістарычных даследаванняў. Але дух навукі адчуваўся ва ўсіх яго лекцыях і семінарах. Фелікс Уладзіміравіч цераз падзеі стагадовай мінуўшчыны вучыў нас разумець сябе і наш час. Кантакты з ім для многіх былі пэўнай навукай пра жыццё. Хвораму на зрок выкладчыку было няпроста арыентавацца ў памяшканні і на вуліцы, і суправадзіць яго мы, студэнты, лічылі за гонар. Двойчы пашчасціла гэта рабіць і мне.

Ужо пазней ад свайго настаўніка ў педагагагічнай працы метадыста першай гродзенскай гімназіі Валянціны Іосіфаўны Івановай я даведаўся пра Фелікса Налівайку як пра яркага аспіранта, бліскучага знаўца французскай мовы, аўтара дысертацыі па гісторыі англа-французскіх адносін пачатку XX ст.

Фелікс Уладзіміравіч быў адкрытым чалавекам з арыгінальнай і смелай думкай. Ён тонка адчуваў гумар і падкрэслена не прымаў хлусню, быў увасабленнем чалавека гонару і годнасці, што выклікала непрыхаваныя сімпатыі і павагу з боку нас, тагачасных студэнтаў.

*канд. гіст. навук Віталь Карнялюк (Гродна)*
(выпуск 1994 г.)

***

З інтэрв'ю выпускніка гістфака (1995) журналіста Вітаўта Рудніка[1]:

– *Калі нядаўна звальнялі выкладчыкаў на гістфаку, у «Нашай Ніве» назвалі гарадзенскі гістфак «бунтарскім факультэтам». Ты згодны з такім азначэннем?*

– Ды не. Гэта штамп, кімсьці няўдала прыдуманы. Калі мы прыйшлі на першы курс, здаецца, тагачасны дэкан Чарапіца сказаў: «Гэта не проста факультэт, гэта факультэт ідэалагічны. Вы тут не проста навуку засвойваеце, але і асновы ідэалагічный работы». Гістфак заўсёды быў вельмі рэакцыйным. Нават у часы перабудовы выкладчыкі, надзвычай скептычна настроеныя да той жа перабудовы і да нацыянальнага руху, былі менавіта на гістфаку і займалі там ключавыя пасады. Іншая справа, што сярод шараговых выкладчыкаў была N-ная колькасць аўтарытэтных вальнадумцаў. Той жа Барыс Клейн, Фелікс Налівайка. Да іх студэнты хадзілі па веды ды адкрыцці.

1 В. Руднік: «У краіне няма нацыянальнай школы падрыхтоўкі журналістаў». Электронны рэсурс. Рэжым доступу: https://baj.by/be/analytics/vitaut-rudnik-bajnaja-persona. Дата доступу: 30.10.2021.

# ЗВЕСТКІ ПРА АЎТАРАЎ

**Таццяна Вадалажская** – кандыдат сацыялагічных навук, метадолаг, каардынатар праекта «Лятучы ўніверсітэт», эксперт Агенцтва гуманітарных тэхналогій. Навуковыя інтарэсы: метадалогія гуманітарных навук, сацыяльныя даследаванні, культурная палітыка.

***Асноўныя публікацыі:***

- *Этническая и гражданская принадлежность в восприятии населения современной Беларуси*. Минск, 2006 (суаўтар);
- *Становление и развитие местных сообществ*. Минск, 2007 («Беларусь для начинающих») (суаўтар);
- *Качество и образ жизни в Беларуси: эволюция и возможности трансформации*. Минск, 2008 («Беларусь для начинающих») (суаўтар);
- *Становление нации в Беларуси: от подданства к гражданству*. Минск, 2008 («Беларусь для начинающих») (суаўтар);
- *Інтэлектуальная сітуацыя як сітуацыя мыслення* // Палітычная сфера, 2013, № 21.

**Юры Гардзееў** – доктар габілітаваны, ад'юнкт факультэта міжнародных і палітычных даследаванняў Ягелонскага ўніверсітэта. Сфера навуковых інтарэсаў: лакальная гісторыя ВКЛ, гісторыя гарадской тапанімікі, гістарычная геаграфія, гістарычная палітыка.

***Асноўныя публікацыі:***

- *Socjotopografia Grodna w XVIII w.* Toruń, 2002;
- *Магдэбургская Гародня (сацыяльная тапаграфія і маёмасныя адносіны ў 16–18 ст.)*. Гародня – Wrocław, 2008;
- *Рамантык эпохі Асветніцтва*. Мінск, 2008;
- *Тапанімія старажытнай Гародні (XII–XVIII стст.)*. Гародня, 2013;
- *Цывільна-вайсковыя парадкавыя камісіі ў Вялікім Княстве Літоўскім у часы Чатырохгадовага сойма (1789–1792)*. Смаленск, 2014;
- *Гародня X–XX стст. Каралеўскі горад з правінцыйным лёсам*, пад рэд. А. Смаленчука. Гародня, 2014 (суаўтар).

**Сяргей Грунтоў** – кандыдат гістарычных навук, ст. навуковы супрацоўнік аддзела народазнаўства Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі. Сфера навуковых інтарэсаў: даследаванне мо-

гілак Беларусі і сумежных рэгіёнаў, вывучэнне культуры захавання і трансляцыі памяці ў беларусаў.

***Асноўныя публікацыі:***

- *Мемарыяльныя помнікі* // Нарысы гісторыі культуры Беларусі. У 4-х т. Т. 1. Культура сацыяльнай эліты XIV – пачатку XX ст. Мінск, 2013, с. 557–571;
- *З'яўленне могілак. Рэформа месцаў пахавання на беларускіх землях канца XVIII – пачатку XIX ст. у антрапалагічнай перспектыве* // Homo Historicus. Т. 5, 2016, с. 45–56;
- *Смерць як структурны шок і механізмы яго пераадолення ў традыцыйнай культуры беларускіх сялян XIX – першай паловы XX ст.* // Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні. Зборнік навуковых прац. Выпуск 4. Мінск, 2017, с. 55–67;
- *Символика дерева в христианских и еврейских надгробиях Беларуси XIX–XX веков* // Вещь – символ – знак в славянской и еврейской культурной традиции. Москва, 2019, с. 169–187;
- *Пахавальныя фотаздымкі ў беларускай культуры XX ст.: вытокі традыцыі, тыпалогія, сацыяльны кантэкст* // Беларускі гістарычны часопіс. 2021, № 9, с. 11–19.

**Вольга Іванова** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт кафедры крыніцазнаўства гістарычнага факультэта БДУ. Сфера навуковых зацікаўленасцей: асабістыя архівы, архівазнаўства, вусная гісторыя.

***Асноўныя публікацыі:***

- *Асабістыя архівы Беларусі канца XVIII – пач. XXI ст.* Мінск, 2014;
- *Прамоўленая гісторыя: XX ст. у памяці жыхароў беларускай вёскі.* Мінск, 2018;
- *«За першымі саветамі»: польска-беларускае памежжа 1939–1941 гг. у вусных успамінах жыхароў Беларусі* / уклад. В. Івановай; пад рэд. А. Смаленчука. Мінск, 2019;
- *Ліпляны. Біяграфія і штодзённасць беларускай вёскі.* Мінск, 2019;
- *Выклікі сучаснасці і змена місіі архівіста* // Здабыткі / Нацыянальная бібліятэка Беларусі; Склад. Т. А. Сапега і інш. Вып. 22. 2019, с. 114–129.

**Віталь Карнялюк** – кандыдат гістарычных навук, дацэнт, дацэнт кафедры турызму і культурнай спадчыны ГрДУ імя Янкі Купалы.

***Асноўныя публікацыі:***

- *Крынкі ў 1795–1918 гг. Нарысы гісторыі мястэчка.* Гродна, 2009;
- *Этнакультурныя і прыродныя турыстычныя рэсурсы Гродзеншчыны і Сувальшчыны*: энцыкл. давед. / рэд. В. Р. Карнялюк, І. І. Трацяк. Гродна, 2014;
- *Міграцыя беларускага насельніцтва, выкліканая Першай сусветнай вайной.* Гродна, 2019.

**Андрэй Кіштымаў** – кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Рэспубліканскай лабараторыі гісторыка-культурнай спадчыны Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Сфера навуковых інтарэсаў: захаванне гістарычнай спадчыны, праблемы сацыяльна-эканамічнай гісторыі, гісторыя прадпрымальніцтва ў Беларусі, урбаністыка, канфесійная гісторыя, праблемы гістарыяграфіі і крыніцазнаўства.

Аўтар больш як 330 публікацый у навуковых выданнях Беларусі, Германіі, ЗША, Вялікабрытаніі, Польшчы, Чэхіі, Расіі, Украіны, Літвы, Эстоніі ды інш. Суаўтар *Handbuch der Geschichte Weissrusslands* (Gottingen, 2001); 4-га тома *Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII – пачатак XX ст.)* (Мінск, 2005) у 6-томнай *Гісторыі Беларусі*; энцыклапедыі *Экономическая история России (с древнейших времен до 1917 г.):* в 2-х т. (Москва, 2008–2009); *Вялікага гістарычнага атласа Беларусі*. У 4-х тамах. Т. 3 (Мінск, 2016), *Банкаўская справа Беларусі: Гісторыя* (Мінск, 2017) ды інш.

**Вольга Лабачэўская** – доктар мастацтвазнаўства, дацэнт, прафесар кафедры культуралогіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. Даследуе пытанні тэорыі і гісторыі беларускага народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, промыслаў і рамёстваў; беларускае саломапляценне, традыцыйны касцюм і тэкстыль; праблематыку трансфармацыі народных мастацкіх традыцый; антрапалогію і гендарныя аспекты народнай творчасці, яе сувязь з абрадамі і рытуальнымі практыкамі; пытанні гісторыі нацыянальнай культуры, аховы і захавання нематэрыяльнай культурнай спадчыны; інсітнае мастацтва як від народнай творчасці, гісторыю этнаграфічнай фатаграфіі на Беларусі.

***Асноўныя публікацыі:***
- *Зберагаючы самабытнасць. З гісторыі народнага мастацтва і промыслаў Беларусі*. Мінск, 1998;
- *Захавальнік Палескага музея – Дзмітрый Георгіеўскі*. Мінск, 2011;
- *Белорусский народный текстиль: художественные основы, взаимосвязи, новации*. Минск, 2013;
- *Белорусский народный костюм: крой, вышивка и декоративные швы*. Минск, 2013;
- *Мастацтва дзеля славы Божай: саламяныя іканастасныя вароты і царкоўна-культавыя прадметы*. Мінск, 2018;
- *Вандроўкі па Палессі: фотаздымкі 1923–1939 гадоў са збору Музея Беларускага Палесся ў Пінску*. Склад., аўт. уступ. арт., тэксту і камент. В. А. Лабачэўская. Мінск, 2021;
- *Беларускія посцілкі і дываны. Антрапалогія і мастацтва традыцыйнай рэчы*. Мінск, 2021.

**Аляксандр Ланеўскі** – PhD (доктар гуманітарных навук), ад'юнкт у Інстытуце гісторыі імя Тадэвуша Мантойфеля Польскай акадэміі навук. Сфера навуковых інтарэсаў: гісторыя ўсходнееўрапейскага анархізму XIX–XXI стст., рэвалюцыя 1905–1907 гг., праблематыка памяці, гістарычная палітыка ў Беларусі.

***Асноўныя публікацыі:***

- *Ад пратэсту да супраціву: вакол «справы беларускіх анархістаў»*, «Палітычная сфера» 2013, nr 1 (20), s. 99–122;
- *«Giełdy» robotnicze w Imperium Rosyjskim jako fenomen rewolucji 1905 roku*, «Dzieje Najnowsze» 2019, nr 1, s. 5–25;
- *Bund w guberni Grodzieńskiej podczas rewolucji 1905 roku. Zarys problematyki*, «Studia z Dziejów Rosji i Europy Środkowo-Wschodniej» t. LIV: 2019, z. 2, s. 151–175;
- *The Militia and the Special Services in the Contemporary Politics of History of Belarus*, «Institute of National Remembrance Review» 2019, nr 1, s. 219–263;
- *Juda Grossman-Roszczin (1883–1934). Przyczynek do biografii anarchobolszewika*, «Kwartalnik Historii Żydów» 2020, nr 2 (274), s. 341–377.

**Леанід Лаўрэш** – пісьменнік (сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў) і незалежны даследчык. Сфера навуковых інтарэсаў: гісторыя Лідчыны і гісторыя навукі.

***Асноўныя публікацыі:***

- *«І зорнае неба над галавой... »*: Нарысы з гісторыі астраноміі. Мінск, 2013;
- *Шэпт пажоўклых старонак. Лідчына ў люстэрку прэсы. 1900–1939 гг.* Гродна, 2017;
- *Генерал, які дайшоў да Беларусі. Жыццяпіс Кіпрыяна Кандратовіча*. Гродна, 2018;
- *Шпацыры па старой Лідзе*. Гродна, 2020;
- *Szept pożółkłych stron. Ziemia Lidzka w zwierciadle prasy lat 1922–1939*. Warszawa, 2021.

**Аляксандр Смалянчук** – доктар гістарычных навук, прафесар Інстытута славістыкі ПАН, візіт-прафесар Варшаўскага ўніверсітэта. Галоўны рэдактар гадавіка антрапалагічнай гісторыі *Homo Historicus* (з 2008 г.), Гадавіка Цэнтра беларускіх студыяў (з 2020). Праблематыка даследаванняў датычыць гісторыі нацыянальных рухаў у Беларусі і Літве ў XIX–XX стст., палітычнай гісторыі Беларусі ў XX ст., гістарычнай урбаністыкі, memory studies (вусная гісторыя).

***Асноўныя публікацыі:***

- *Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 – люты 1917*. Выд. 2-е. Спб., 2004;
- *Краёвая ідэя ў беларускай гісторыі*. Мінск, 2017;
- *Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю*. Мінск, 2018;

- *«За першымі саветамі»: польска-беларускае памежжа 1939–1941 гг. у вусных успамінах жыхароў Беларусі* / уклад. В. Івановай; пад рэд. А. Смаленчука. Мінск, 2019;
- *«Вызваленыя» і заняволеныя. Польска-савецкае памежжа ў 1939–1941 гг. у дакументах беларускіх архіваў*. Пад рэд. А. Смаленчука. Мінск, 2021.

**Надія Темірова** – доктор історичних наук, професор, професор кафедри історії України та спеціальних галузей історичної науки Донецького національного університету імені Василя Стуса (Вінниця). Сфера наукових інтересів: соціально-економічна історія України другої половини XIX – початку XX ст.; історія історичної науки.

***Публікації:***
- *Історія дворян: між пам'яттю та безпам'ятством* // Історичні і політологічні дослідження. Спеціальний випуск. Вінниця, 2018, с. 224–230;
- *Метаморфози аграрної еліти українських губерній на зламі XIX–XX стст.* // Історичні і політологічні дослідження. Вінниця, 2018. № 2(63), с. 60–50;
- *Ранньомодерна історія Донеччини у дослідженнях Василя Пірка* // Харківський історіографічний збірник. Харків, 2018. Вип. 17, с. 114–123;
- *Польське землеволодіння у правобережних губерніях України: Радянська візія* // Гілея: науковий вісник. Київ, 2020. Вип. 154 (№ 3), с. 131–135 (співавт.);
- *Дворянское землевладение на юге Украины на рубеже XIX–XX веков* // HALC-2018. Tbilisi, Georgia. International Black Sea University, 2020, с. 147–154.

**Аляксандр Фядута** – доктар габілітаваны, гісторык, літаратуразнаўца, палітолаг.

***Асноўныя публікацыі:***
- *Лукашенко: политическая биография*. Москва, 2005;
- *Письма прошедшего времени: Материалы к истории литературы и литературного быта Российской империи*. Минск, 2009;
- *Мой маленький Париж*. Минск, 2014;
- *«Кто б ни был ты, о мой читатель...» Проблема читателя в литературе пушкинской эпохи*. Минск, 2015;
- *Филомат в Империи: Документальная повесть о Францишке Малевском*. Минск, 2019.

**Андрэй Чарнякевіч** – кандыдат гістарычных навук, супрацоўнік Цэнтра беларускіх студыяў Варшаўскага ўніверсітэта. Займаецца даследаваннем беларускага нацыянальнага руху, беларуска-польскіх адносін, гісторыяй БНР.

***Асноўныя публікацыі:***
- *Постаці беларускага нацыянальнага руху ў Гродне 1909–1939*: біяграфічны даведнік. Пад рэд. І. Коўкеля. Мінск, 2003;
- *Нараджэнне беларускай Гародні. З гісторыі нацыянальнага руху 1909–1939 гг.* Мінск, 2015;

- *Памяць пра Гродна. Матэрыялы да біяграфічнага слоўніка міжваенага горада 1919–1939*. Гродна, 2015;
- *Чужы сярод чужых: Павел Аляксюк і беларускія «паланафілы»*. Мінск, 2017;
- *БНР: триумф побежденных*. Минск, 2018.

**Захар Шыбека** – доктар гістарычных навук, прафесар, прафесар-эмерытус Тэль-Авіўскага ўніверсітэта. У кола навуковых інтарэсаў уваходзіць урбаністыка, іўдаіка, гісторыя гандлю.

***Важнейшыя аўтарскія кнігі:***
- *Минск в конце XIX – начале XX в. Очерк социально-экономического развития*. Мінск, 1985;
- *Гарады Беларусі (60-я гады XIX – пачатак XX ст.)*. Мінск, 1997;
- *Нарыс гісторыі Беларусі. 1795–2002*. Мінск, 2003.
- *Мінск сто гадоў таму*. Мінск, 2007;
- *Гарадская цывілізацыя: Беларусь і свет*. Курс лекцый. Вільня, 2009.

**Валянціна Яноўская** – кандыдат гістарычных наук, дацэнт. Кола навуковых інтарэсаў: канфесійная і сацыяльная гісторыя Беларусі XIX – пачатку XX ст.; праблемы адукацыі і навукі Беларусі першай паловы XX ст.; праблемы гістарыяграфіі гісторыі Беларусі.

***Апошнія публікацыі:***
- *Написание учебника истории Беларуси в условиях «борьбы на историческом фронте» (1930–40-е гг.)* // Часопіс Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Гісторыя. 2017, № 1, с. 32–40 (суаўтар);
- *Постижение отечественной истории (размышления и историографические факты по поводу научной эффективности альтернативных концепций российско-белорусской истории)* // Труды исторического факультета МГУ. 2018, вып. 126, сер. II: Исторические исследования, с. 37–52 (суаўтар);
- *«Польскі фактар» у развіцці інтэлектуальнай сферы Беларусі (1920–1930-х гг.)* // Białoruskie zeszyty historyczne – Беларускі гістарычны зборнік. № 53. 2020, с. 129–152 (суаўтар);
- *Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі (канец XVIII – пачатак XX ст.)* / В. В. Яноўская [і інш.]. Мінск, 2020;
- *Неизвестный В. И. Пичета* / сост.: М. Ф. Шумейко, В. В. Яновская, О. А. Яновский; редкол.: А. Д. Король [и др.]. Минск, 2021.

**Алег Яноўскі** – кандыдат гістарычных наук, прафесар, загадчык кафедры Расіі гістарычнага факультэта БДУ. Кола навуковых інтарэсаў: знешняя палітыка ў кантэксце фарміравання ўсходнееўрапейскіх дзяржаў; інтэлектуальная гісторыя; гісторыя вышэйшай адукацыі і навукі Беларусі.

***Апошнія публікацыі:***
- *Как шли белорусы к своему университету* // Интеллигенция и мир. Российский междисциплинарный журнал социально-гуманитарных наук. 2018, № 3, с. 46–65;

- *Прасапаграфічны метад даследавання пры асэнсаванні «інтэлектуальнай гісторыі» Беларусі* // Метадалогія даследавання гісторыі Беларусі: праблемы, дасягненні, перспектывы: зб. навук. арт. Мінск, 2018, с. 181–191.
- *Арсений Алексеевич Михайловский. Основоположник изучения и преподавания в Беларуси астрономии* // Интеллектуальная элита Беларуси. Основоположники белорусской науки и высшего образования (1919–1961); под общ. ред. А. Д. Короля, науч. ред. О. А. Яновский. Минск, 2019, с. 62–74.
- *Савочкин Петр Захарович. Историк-россиевед, белорусист и славист, организатор исторического образования и разноплановых научных исследований* // Интеллектуальная элита Беларуси. Основоположники белорусской науки и высшего образования (1919–1981). Минск, 2020, с. 179–195;
- *Государство и университет Беларуси: неразрывность истории и предназначения* // Мультикультурные исследования. 2021. № 2 (7), с. 98–111.

*Навуковае выданне*

# HOMO HISTORICUS 2022
## Гадавік антрапалагічнай гісторыі

Рэдактар *Аляксандр Смалянчук*
Карэктар *Аксана Данілевіч*
Адказны за выпуск *Зміцер Колас*

+16

Падпісана ў друк 12.01.2022. Фармат 70×100 1/16.
Папера афсетная. Друк лічбавы.
Ул.-выд. арк. 17,34. Ум. друк. арк. 26,33.
Наклад 99 асобнікаў. Замова №.

Выдавец і паліграфічнае выкананне
індывідуальны прадпрымальнік Зміцер Колас.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы, распаўсюдніка
друкаваных выданняў № 1/291 ад 17.04.2014.
Пр. Незалежнасці, 105-14, 220114, Мінск.